Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Алены Бараноўскай:
на 1-й стар.: «Зімовая алея», 2009;
на 4-й стар.: «Швейцарскі матыў», 2009.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by, dzieja@list.ru
www.dziejaslou.by
Тэл. 200-80-91.

Здадзена ў набор 30.11.2011 г. Падпісана да друку 25.01.2012 г.
Фармат 70х108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛВ № 02330/0548592 ад 09.07.2009.
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№1(56)
/ студзень-люты / 2012

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Рыгор Барадулін



...У няўмольным жыцці
Жыць і не наракаць.
Не шукаць, каб знайсці,
А знайсці, каб шукаць...

# Карані цішыні...

## *ЯШЧЭ...*

Дзень кожны на зямлі
Як свята.
Размеркавана ўсё ў жыцці –
Вадзе цячы,
Траве расці
І валунам маўчаць зацята.

А мы,
Яшчэ жывыя цені,
Наіўныя ў сваім трымценні...

## *ДАЛЯГЛЯД*

Далей глядзіць электарат,
Калі – вісіць на ліхтарах...

### *НА ВУЛІЦЫ*

– Як вам рэжым?
– Дрыжым...

* * *

Сорам –
Агонь з бязлітаснымі вачыма.
Пазбегнуць ягоны пагляд
Немагчыма...

* * *

Пакуль
У вырай сноў не адляцела,
Пакутуе душа
Ў цямніцы цела...

* * *

Смакуючы зорны акраец,
Ноч
Не баіцца нікога
Апроч
Раніцы...

* * *

Прасвечваецца наскрозь.
Вісіць уніз галавой.
І плача слязьмі сцюдзёнымі
Свечка ледзяша...

* * *

*Хвораму на геніяльнасць сп. Генадзю Мацуру*

І не пазайздросціць каралю,
Як мастак на геніяльнасць хворы.
Паяднапі неба і зямлю
Мацураўскай думкі рукатворы...

### *ПА ЧАСЕ*

Знікаюць дні,
Як беглыя вязні.

Цішэе тлум
На людскім кірмашы.
Па часе
Пачынае выразней
Акрэсліваацца
Профіль душы...

### *ДВАЯКАСЦЬ*

На спачын не просіцца ўспамін.
Ахінуць абсяг змагла імгла.
Тоіць след пакут забыты кут.
Адсырэў у хмарах цень крыла арла.
Шэпту раіць ціш шукаць спарыш.
Ашукаць свой сон скала дазвол дала...

* * *

*...кормлю с ладони воробья*
Марына Наталіч.

Вераб'я карміць з далані –
Лёсу дзякаваць,
Што дазволіў
Дакрануцца да вышыні,
Сум даверыць
Крылатаму болю.

Вераб'я карміць з далані –
Па-зямному нябесны занятак.
Вераб'ямі злятаюцца дні.
Як спытаць,
Дзе канец, дзе пачатак?

У чаканні зашмат радні.
У спаткання адно найменне.
Мы жывем,
Пакуль ёсць памкненне
Вераб'я карміць з далані...

* * *

Рака, што пада мной смяялася,
Сплыла.
Разбілася люстэрка.
І толькі смех
Яшчэ гучыць
У берагах нястойкіх памяці...

* * *

Вякі вядуць
За сабой скразнякі.
А пыл ад славы
Такі цяжкі...

* * *

У лістападзе
Журба ў паглядзе
У пані Восені...

* * *

У няўмольным жыцці
Жыць і не наракаць.
Не шукаць, каб знайсці,
А знайсці, каб шукаць...

* * *

Жыццё па-свойму
Доўжаць праз вякі
Руплівасць цеслі
І лянота ка́та...

* * *

Не зважае на ветравы кпіны
Згарбелы курган.
Даткнуўшыся да сцягна вярбіны,
Збянтэжыўся
Маладзюткі туман...

* * *

І цені –
Жывыя істоты.
І козытна рэху ў бары.
Зялёную мову лістоты
Смялей разумеюць вятры...

* * *

Ашчадна восень лічыць дні,
Акрыўшыся пажарам.

Хапае ветру цішыні
А бездажджоўя – хмарам...

* * *

Дзе абначаваць ласуну Лесуну?
Спаконны зялёны спакой разварушаны.
Балюча нагадвае пра вясну
Графіка засохлай ігрушыны...

* * *

Даўгацыбы дзівак
Мае клопат вялікі –
Босы дождж
Не можа ніяк
Па назе падабраць чаравікі...

### ПЫТАННЕ

Несупыннасць трываліць рух.
А калі адпачывае слова?

* * *

Шлях жыццёвы
Не такі даўгі,
Каб паспець
Аддаць усім даўгі.
Толькі й спадзяюся,
Што аддам
Там...

* * *

Кароцячы адлегласць
Дзень пры дні,
Мазгі цяжкія,
Як старыя жорны,
Дамолваюць
Абмецце мітусні...

* * *

Народзіны.
Народзе, на

Яшчэ адну
Труну.
Яшчэ аднога
Нікога,

Госпадзе,
Малю тваю
Стому,
Не аддавай нікому
Назусім,
Ні вёсен, ні зім
Нікому...

### *НЕ...*

Не верыць водгулле долу.
Не умее маўчаць крыніца.
Не надакучыць колу
Наўкола сябе круціцца.

Не змусіць нікога знямога
З'iначыць сябе самога...

* * *

Звык цярпець
І сябе й свой кон,
Думкі тоячы пад замком,
Беларусь –
Як пакрыўджаны звон
З вырваным языком...

### *НЕДАТЫКАЛЬНЫ*

Мой недатыкальны запас
Пад прыглядам роднага краю –
Маміны яблыні,
Бацькаў вяз
І пугурак,
Дзе мама чакае...

*(лякарня)*

* * *

Конь смутку
Мурог неспакою скубе.
Спякота ўсхліпвае

Смягларэка.
Шукае ў вандроўных думках
Сябе
Беспрытульнае рэха...

* * *

Тут нашчыўся
Слязой начлежны дым.
Тут лашчыўся
Да ўзгадкі сум птушыны.
На хацішчы,
На хутары былым
Няўпэўнена
Цвіце яшчэ шыпшына...

* * *

Радзіма пад небам тым,
Дзе сонна ў далонях жару,
Дзе марыць з коміна дым
Саграць азяблую хмару.

Радзіма пад зоркай той,
Якая вядзе дадому.
Радзіма за той вярстой,
Якая не верыць нікому...

* * *

За хвілінку,
Як за кволую галінку,
Я хапаюся,
Каб затрымацца тут.
Толькі час
Не прызнае супынку.
Кожны кут
Прыдатны для пакут.

Час імчыць,
Як жарабец падкуты,
Іскры высякае з цішыні.

І лагода
Мае нораў люты.
І ў вятроў
У небе карані...

* * *

І ў пакутаў абутых,
І ў кпінаў босых
Цвярозы бярозавы посах...

* * *

Запытацца хоча агмень,
Хто з вас жывы,
Я
Ці мой пакрыўджаны цень?...

* * *

Кляновага ліста даланю
Восень да ілба прыкладае,
Каб узгадаць,
Калі яна маладая
Паспрыяла
Сарамяжліваму агню
Узгарэцца ў зялёных шатах.
І ўся ў залатых дукатах
Сумна слухае цішыню.

Кожны раз
Упершыню...

## ЗАЎСЯГДЫ

Вецер спрабуе голас.
Думкай цяжэе колас.
Ціха шалее асцё.
Смела хмялее жыццё...

* * *

Сон дасынае курган.
Снедае змрокам груган.
Ловіць туман трапяткі
Раніца ў дзве ракі...

* * *

Вадзе не цёмна нідзе.
Вадзе не страшна нідзе.
Вадзе не цесна нідзе.

Вада сябе
Ў напамін вядзе...

### *У РЭАНІМАЦЫІ*

І страх не адкажа,
Чым пахне смерць...

* * *

І крыж, і меч –
Стрыечныя браты
Спагадліва заўважаныя існасцю.
Крыж
Са сцюдзёнай вечнасцю на ты.
Меч
Прысягае волі непахіснасцю.

Крыж
Сустракае вырай туманоў.
Меч
І са смерцю, і з жыццём рукаецца.
І, цвелячы ўначэлых груганоў,
Смялее аблачынка-белачаіца...

### *НАСТРАЁВАЕ...*

Пазірае з двара
Ноч
Яшчэ не старая.
Ценькі цень камара
На сцяне
Дакарае
За санлівасць мяне,
У лямпы настольнай
Павекі
Зліпліся.
У разгоністым табуне
Сноў
Самыя сціплыя
Мае.
Ім рашучасці
Не стае.
Як і мне...

* * *

У лесе,
У зялёнай імжы
Затуленыя вякамі
Каменныя стогнуць крыжы
З адсечанымі рукамі.

Калі багоў даўніны
Хрысцілі –
Адцялі рукі.
І сталі крыжамі яны,
Сакральныя помнячы рухі.

Тут часу зацішна яшчэ.
Збягаюцца здані з адхонаў.
І камень сцюдзёна пячэ
Сузор'е паганскіх пісьмёнаў...

## *І ЗНОЎ...*

Расстанняў і нечаканак
Быццам і не было.
Засумавалы ганак.
Крыўдлівых вокан святло.

Недаядае скруха.
Вестку прынёс павук.
Смачна ные ля вуха
Шчамель,
Як калматы гук...

## *КАЛЯХАТНЯЕ*

Дарозе бегчы хочацца з канца.
Маною
Любіць суцяшаць сябе абраза.
Дол грэюць папялінкі дзьмухаўца.
А нада мной
Зялёны космас
Бацькавага вяза.

## *НА ВУШАЧЧЫНЕ*

Не ставяць на стол
Памінальныя клёцкі.
Не тоіць усмешку

Возера Шо.
Бо як зазначыў Алесь Камоцкі,

Яшчэ не ўжо...

* * *

*Вушацкаму адвячорку*

Старэе восень.
Дзень ідзе на схон.
Сырэе дзьмухаўцовая завея.
Прымоўк агонь
І сніць гарачы сон.
Ссівелы сам
Гляджу, як жар сівее...

## ПРЫХОДЗІМ...

*Раману Скачку*

Прыходзім,
Каб знайсці сябе ў жыцці,
А не згубіцца
І не разгубіцца.
Дапытлівасці смелая крыніца
У скроні лёсу б’ецца ў забыцці.

Завершанасць
Спрыяць жадае тым,
Хто самахоць
Да ўпартасці прыкуты.
У недасяжнасці свае маршруты.
Ад вогнішча надзей салодкі дым.

Чужое рэха
Гнёзды ўе ў лісці.
Перапляліся карані з вякамі.
Вясёла
Маладосць сталець звыкае.
Прыходзім
У жыцці сябе знайсці...

## КАРАНІ ЦІШЫНІ

Смех
Змоўк.
Бег

Воўк.
Луг
Глух.
Звяў
Звон.
Спаў
Сон...

### МЛЯВАЕ

Як век,
Плыве паром.
А берагам крутым
Брыдзе ахрыплы гром,
І ўслед
Маўклівы дым.

Спакой гаспадаром.
І волі ўволю
Ўсім...

### * * *

Здымаю ў Бога кут.
Пакуль магу,
Шчырую.
Хачу,
Пакуль я тут,
Не думаць пра сырую.

Тут
Непадкупны мой
Сум сам сабе дарадца.
Тут
З босаю душой
Яшчэ хачу здарацца...

### АКРАВЯСНОВІЦА

Галінка гняздзечка калыша.
Аблокі віншуюць вясну.
Лагодная хваля з зацішша
Імкнецца ўзгадацца чаўну.
Наўкола раздолле такое
Ажно рупіць расці валуну.

Шалёна не спіцца спакою.
Ачухацца час Перуну.
Былосці з сабою няўтульна.
Лянотна віруецца дну.
І ўлескам і пасечнай вульна
Не ў смак ветравей палыну.
Сарока траскоча навіны,
Кудысьці нясе пер'іну.
А лівень прымлела нахлынны
Яшчэ не выпростваў спіну...

* * *

Балючае маё надвор'е,
Дзе
То крыўда
Ранішні настрой астарыць,
То першых дзён блакіт
Журбой захмарыць,
То сцежка згоды
Ў ростань павядзе,
То наплыве дакор,
Як дым начлежны...

...я метэазалежны...

* * *

Не шукай сваіх сярод чужых.
А яно па часе
Ўсе чужыя.
Нават успаміны бычаць шыі.
Лепей не чапаць
Сярдзітых іх.

Кожны ў свеце
Сам сабе чужы.
Так ужо спрадвеку павялося.
Кожнаму
Ў сваім няўтульна лёсе,
Што стаіць, як хутар
На мяжы
Крыўды і спагады,
І штоміг
Зрынуты быць можа
Землятрусам.

Ні па шчырасці,
Ні пад прымусам
Не шукай сваіх сярод чужых!..

* * *

*Дзе пачынаецца неба?*
Дзюна Такамі.

А яно пачынаецца там
Там,
Дзе рака
Давярае вірам.
Дзе ў дарогу
Збіраецца час.
Пачынаецца неба
Ў нас...

* * *

Душа прымярае
Жыццё чарговае,
Нібы тую
Новую апранаху
Набытую
На кірмашы,
Дзе выбар багаты.

І прыгадваецца,
Як жадалі,
Калі маломy
Дарылі абнову:
– Хай носіцца, дзярэцца,
На новае бярэцца!

Даношваецца, дзярэцца
Маё жыццё.
А душа,
Як модніца тая,
Новае выбірае...

Леанід Дранько-Майсюк



...паэты ніколі не крыўдзяць просьбітаў – асабліва дзяцей!..

# Штабс-фельдфебель Брукман

***Апавяданне***

**1**

Штабс-фельдфебель вермахта Брукман апынуўся ў Давыд-Гарадку ў ліпені 1941-га, маючы маленькі чын унтэр-афіцэра.

Роўна тры гады Брукман праслужыў у гэтым палескім гарынскім мястэчку: тут ён стаў унтэр-фельдфебелем, фельдфебелем, оберст-фельдфебелем, гаўптфельдфебелем і нарэшце – штабс-фельдфебелем.

Нейкі час быў кандыдатам на афіцэрскую пасаду, але ніяк не мог атрымаць павышэння па службе, бо якраз лішняй афіцэрскай пасады (тлумачылі ў штабе!) у іхнім палку бракавала.

Чуллівы Брукман да лейтэнанта так і не дарос, бо паходзіў з простай сялянскай сям'і.

Бацькі ягоныя, шчырыя баварскія каталікі, жылі з малітвы і з таго, што давала зямля, а яшчэ яны шанавалі паэзію і лічылі паэтаў божымі дзецьмі.

Па просьбе ж бацькоў Брукман, паслухмяны сын, трохі паспеў павучыцца – не, не на паэта, на арнітолага (бацькі ж яшчэ любілі й птушак, асабліва галубоў), а пад чарамі будучай сваёй жонкі, якая штудзіравала славянскія мовы, недзе з год слухаў універсітэцкія лекцыі па расійскай і польскай мовах.

Аднак жа пачалася вайна, і вучобу давялося закінуць...

Брукман быў з ліку тых сціплых юнакоў, заўсёды крыху няўдачнікаў, у якіх бліскучая кар'ера не вельмі складвалася.

Словам, такім, як ён, цяжка было даслужыцца да афіцэра...

І яшчэ адна мара не спраўдзілася – юнак хацеў служыць у 18-й арміі, якой камандаваў генерал артылерыі, а пазней фельдмаршал, Георг фон Кюхлер.

Чаму хацеў?

Ды таму, што 14 чэрвеня 1940-га 218-я пяхотная дывізія гэтай арміі першая ўвайшла ў Парыж!

Аднак жа ваенны лёс замест Парыжа паслаў Давыд-Гарадок, і от жа ў ліпені 1944-га трэ было пакідаць і Давыд-Гарадок, бо наступалі рускія...

Брукман склаў свае пажыткі, уважліва перагледзеў усё: ад газавай маскі да спальнага мяшка, ад аптэчкі да плашч-палаткі, ад шчоткі для абутку да зялёнай каскі – дапільнаваў, каб кожная рэч была на месцы, бо калі што пры адступленні прападзе, няхай сабе тая ж каска, якую ён так на галаву і не ўсцягнуў, бо за тры гады ні разу на агнявыя пазіцыі не выходзіў (хоць у гэтым пашанцавала!), нават ні разу не станавіўся на варту; дык вось, калі што знікне – будзе бяда!

Наладзіўшы праверку, палявыя жандары ўчэпяцца, як сабакі – за згублены вайсковы рыштунак могуць панізіць у званні, і тады на пагонах з трох зорачак застанецца дзве, а з пяці нарукаўных нашывак – чатыры...

Так, Брукман аніводнага дня не быў на фронце і не сядзеў у засадах; ён меў цёплае месца ў дробным падраздзяленні галубінай пошты.

Ягоныя галубы лёталі ў Мярлінскія непраходныя балоты, у партызанскую зону; навучаныя, ведалі, дзе апусціцца ў рукі сваёй агентуры, таму заўсёды прыносілі неабходныя звесткі.

Камендант гарнізона быў задаволены работай Брукмана, бо добра знаў, чым дыхалі партызаны.

Начальніцкая ласка цешыла нашага галубятніка, праз яе (адразу трапіўшы на службу "ў Расію"!) ён тры гады й праседзеў у глыбокім тыле.

Само па сабе, тыл даваў неблагую магчымасць выжыць, а Брукман, як і кожны разумны, не хацеў паміраць, не жадаў, каб яго старэнькім бацькам, маладой жонцы і маленькаму сыну Фрыдрыху ў далёкую Баварыю пафасна паведамілі: ваш сын, муж і бацька загінуў смерцю героя за фатэрлянд і за вялікага правадыра-фюрэра...

Збіраючыся ў дарогу, Брукман разважаў: "Ажно тры гады ў гэтым балотным краі я карміў, даглядаў і дрэсіраваў паштовых галубоў! Здабываў пра ворага карысную інфармацыю! Так выконваў свой салдацкі абавязак... Але ж балоты надакучылі – гэта не родныя Альпы!.."

Камендант гарнізона даводзіў Брукману: савецкая Расія збіралася напасці на любы сэрцу фатэрлянд, і немцы сваім нечаканым ударам у чэрвені 1941-га адвялі іхні напад...

Камендант гаварыў: мы не проста прыйшлі ў Расію па новыя землі і

хлеб; мы прыйшлі вызваліць тутэйшых сялян і рабочых ад жыдоў і крывавых камуністаў; прыйшлі даць тубыльцам еўрапейскую культуру.

Даць культуру!

Брукман хітравата ўхмыльнуўся: не ва ўсім, але ў адным ужо ж пэўна немцы настоялі на сваім, – адвучылі рускіх бегаць за адрыну; пад страхам смерці прымусілі кожнага паставіць паблізу сваёй хаты прыбіральню...

А яшчэ камендант палохаў: расійскі бальшавізм – першая пагроза фатэрлянду і ўсяму свету...

Брукман згаджаўся: так, бальшавізм – гэта вядома што, і людзі ў Давыд-Гарадку не вераць бальшавікам і не любяць іх, баяцца, – і вось гэтых людзей трэба пакідаць, каб іх зноў забралі яны, бальшавікі...

## 2

У казарме кожны салдат сядзеў пры сваім паходным мяшку, усе былі гатовыя ў дарогу.

Здаецца, сабраўся і ён; клетка з галубамі была ўжо пагружана ў машыну, паёк на пяць дзён атрыманы, засталося толькі прышпіліць кацялок да пояса...

А яшчэ засталося...

Спакаваўшы ранец, успомніў, што не разлічыўся з Мікалаем за боты...

За гэтыя доўгія тры гады давыд-гарадоцкі шавец Мікалай зрабіўся Брукману крыху прыяцелем, крыху кампаньёнам.

Пакуль рамантавалася мураваная казарма (нядаўнія польскія кашары), падпаленая чырвонаармейцамі пры адступленні, немцы жылі па хатах.

Так Брукман і апынуўся ў Мікалая на пастоі, і паміж палешуком і баварцам узнікла нешта блізкае да сяброўства...

Не было таго тыдня, каб ён, жывучы ўжо ў казарме, не заходзіў да шаўца – то купляў корм галубам, то на кравецкія іголкі вымяньваў сала (адсылаў у Баварыю: сям’я ж галадала!), то за дзясятак яек здымаў на картачку Мікалаеву радзіну, то прасіў Мікалаіху (не за так, за бохан хлеба, спечанага ў мясцовай пякарні) папраць яго нацельную бялізну.

А бывала й такое: садзіў у грузавую падводу іхняга трынаццацігадовага хлопчыка Васіля і, па-тутэйшаму нокаючы на каня, ехаў па мястэчку шукаць сваім галубам спажыву ў іншых гаспадароў.

І тады ўжо гладзіў малога па белай галоўцы і, глытаючы слёзы, нашэптваў: “...Фрыдрых, Фрыдрых...”

Любіў так ездзіць, бо нагадваў чужы Васіль роднага Фрыдрыха, а да ўсяго яшчэ й разлік меў бессаромны: спадзяваўся, асабліва на выездзе з местачковага бруку на вясковую пясчаную дарогу, што ніякі дурань не стрэльне ў яго з кустоў – усё ж такі дзіця ў возе!..

За тыдзень да адыходу немцаў Мікалай пашыў Брукману (з яго хрому) хвацкія чобаты з бліскучымі халявамі, на высокіх бярозавых абцасах.

Праўда, хром быў усё ж такі не Брукманаў, Мікалай гэта змеціў адразу; хром быў суседа Мендэля – Мікалаева пасрэдніка.

Пры Польшчы Мікалай шыў, а Мендэль прывозіў яму з Вільні ці Львова скруткі якаснай скуры і на сподзе свайго тавару, дзе-небудзь у куточку, заўсёды ставіў знак – ледзьве бачныя пяць рысак рознай даўжыні.

Гэта адмеціна й прымусіла Мікалая ўспомніць, як у жніўні 1941-га Мен-

дэля застрэлілі на сваім ганку, а яго бяздзетную Сорку ў доўгай чарадзе няшчасных пагналі ў столінскае гета (Мікалай тады яшчэ падумаў: “Дзякуй Богу, што ў іх няма дзяцей...”); з іхняй жа хаты выцяглі ўсё дабро.

Вось так, відаць, праз трэція рукі скрутак хрому й трапіў галубятніку...

З тыдзень таму, прымаючы работу, Брукман абуўся, прыстукнуў адным ботам, другім, з рыпам прайшоўся па Мікалаевай святліцы, ля іконы крутнуўся па-жаніхоўску, абцягнуў на жываце кіцель, і не мог нахваліцца такім спраўным абуткам – і ў пад’ёме, і ў лытках нічога не муліла і не ціснула!

І раменная пiняга ў задніках прыпіняжана была як мае быць!

Задаволены Брукман палез было ў кішэню, каб расплаціцца, але тут пачаўся авіяналёт, зусім блізка (ажно вушы залажыла) гахнулі бомбы, а з гарынскага моста, ставячы агнявую заслону, лупянулі па самалётах нямецкія зеніткі.

Высадзіліся шыбы, і трэснула печ – ламаная шчыліна (кулак пралезе!) прайшла ад коміна да прыпечка, а сцены, ссыпаючы на ток гліняны тынк, здавалася нахіліліся...

Схапіўшы скінутыя перад прымеркай свае старыя боты, збялелы Брукман у новых хромавіках, як з воза, выкуліўся з хаты.

А Мікалай сціснуў рукамі скроні, аднак паранены не быў; у вочы нібыта сыроваткі наплыло – не мог іх заплюшчыць!

Мікалай забедаваў (Мікалаіха таксама!), але не таму, што печ амаль развалілася, і немец уцёк, не заплаціўшы за работу.

Немец добры, ён вернецца.

Умлелі ад большага страху – іхні Васіль-Базылёк якраз панёс у млечарню здаваць малако, а млечарня на тым боццы, і, пэўна ж, налёт заспеў дзіця на гарынскім мосце...

Так яно й было.

Несучы ў торбе халодны збан, хлопчык прамінуў правабярэжных зенітчыкаў і ўжо ступіў на мост, як нізка загулі тры самалёты.

Немцы крыкам загадалі яму ўпасці на прамазучаныя дошкі насцілу, імгненна развярнулі насустрач штурмавікам свой даўгашыі фляк і, не марудзячы, павялі хуткі прыцэльны агонь.

Раз-пораз на зенітцы падскоквала маскіравальная сетка.

І з левага берага, зноў жа часта падкідваючы над сабой камуфляж, пачала біць такая ж 88-міліметровая гармата.

Атака доўжылася – як самалётам над мостам праляцець!

Кароткую хвіліну!

Адразу ж выявіўшы небяспечную для сябе шчыльнасць зенітнага прыкрыцця, штурмавікі на другі заход не пайшлі; іхнія дзве бомбы ўпалі ў Гарынь, наглушыўшы багата рыбы, а трэцяя разарвалася перад Мікалаевай хатай.

Слава Богу, нікога не забіла, не пакалечыла...

Ужо дома Васіль хваліўся: так, ён паслухаўся немцаў – упаў, але бомбаў не баяўся, малако не разліў, данёс і здаў, і атрымаў квітанцыю, а на хвасце апошняга самалёта бачыў чырвоную зорку і нават паспеў згледзець двух лётчыкаў...

## 3

Па гарынскім беразе Брукман ішоў да Мікалая; прыстоіўшы за частай лазой, каб паглядзець на вісусаў, якія брышкавалі-купаліся ў рацэ, раптам падумаў: а маглі б купацца і тады, калі наляцелі штурмавікі!

Што было б?!

Яго скаланула, як толькі ўявіў у чырвонай вадзе забітых дзяцей сярод аглушанай рыбы...

Вунь той светлы і ёсцека Мікалаеў сынок – з яго зараз чамусьці строілі кепікі.

Стоячы па пояс у вадзе і расцягваючы гармонікам свае жабіныя раты, з шаўчонка раз-пораз параготвалі зласлівыя сябрукі.

Мо, таму рабілі гэтак, што ён быў меншы за астатніх...

– Ты ў вадзе? – пыталіся.

– У вадзе! – Васіль паслухмяна адгукаўся.

– У вадзе! У вадзе! У цябе чорт на барадзе! – галёкала плойма падшыванцаў...

Напалоханы купальшчык вылецеў на бераг, абмацаў бараду, але, вядома ж, ніякага чорта там не было.

Цвялільшчыкі ажно зараўлі ад рогату, а тады зноў спыталіся:

– Ты на сусі?

Што значыла: ты на сушы?

Брукман за тры гады навучыўся разбіраць мясцовую гаворку, таму збольшага цяміў хлапецкую чаўпату.

– На сусі! – зноў жа даверліва згадзіўся Васіль.

– На сусі! На сусі! У цябе чорт на вусі!

Яшчэ больш напалохаўшыся, малы кінуўся церці то адно, то другое вуха, і такая ягоная бездапаможная даверлівасць давяла злых падхамутнікаў ажно да свінячага віскату.

– Раз так, то я з вамі купацца не буду! – нарэшце паказаў зубы Мікалаеў спадчыннік і тут жа заключыў зусім па-даросламу:

– Каб на вас усіх прах найшоў!

Хуценька нацягнуўшы кашульку і штаны, пашытыя Мікалаіхай з нямецкага мяшка – акурат на срачку прыпаў знак арла са свастыкай – і не згледзеўшы за кустамі Брукмана, падаўся ў свой двор, які быў непадалёку...

## 4

А Мікалай з жонкай якраз рабіў на вуліцы сыроўку – неабпаленую цэглу.

У яме, залітай вадой, Мікалаіха мясіла босымі нагамі гліну, а шавец, арудуючы шуфлем, напаўняў рошчынай драўляную форму, якая была на дзве цагліны, туга збіваў і далікатна выкладваў на роўны дол брусок за бруском.

На адной сыроўчыне цямнеў свежы слядок ад птушынай лапкі, а на плоце вісеў брызент – раптам накінецца дождж, тады будзе чым адразу ж накрыць падсохлую ўжо сыроўку...

Убачыўшы Брукмана, Мікалай адставіў шуфель убок, прыхіліў дзержаком да плота, шмаргануў правай далонню па злубянелай калошы і

паздароўкаўся з немцам за руку, а Мікалаіха па-лісінаму ўсміхнулася, выбавілася з ямы і, свецячы ўгліненымі лыткамі, знікла ў двары.

Брукман дастаў грошы – не, не ровенскія карбованцы.

Што іх даставаць?!

Заўтра-паслязаўтра ад карбованцаў гэтых ужо ніякага толку не будзе!

Выняў пяць залатых рублёў, вылітых у царскай манетні ў 1900 годзе.

Падаючы Мікалаю цэлую пяцёрку, штабс-фельдфебель раптам адчуў сябе шчаслівым, ажно прытупнуў ботамі, якія глядзеліся ну проста як афіцэрскія!

За добрую работу – добрая плата!

Гэта ж так па-нямецку...

Трэба сказаць: людзі плацілі Мікалаю і золатам, і паперкамі, а часцей натурай, якую адмервалі гэтак – сыпалі з верхам у толькі што сшытыя боты зерне, у адну халяву, скажам, жыта, а ў другую – проса, ці абодва чобаты напаўнялі пшаніцай – што ў каго было...

Разгаварыліся больш: Брукман спытаў, ці добра месіцца гліна, і Мікалай, рады царскай пяцёрцы, пахваліўся: а як жа, добра, бо яшчэ з восені накапаў яе, зіму і вясну гліна праляжала на вуліцы пад плотам, таму вылежалася і такая, вылежалая, месіцца лёгка...

У гародчыку, перад Мікалаевай хатай, ружавелі флёксы, цвіла фіялетавая вербена, і ад яркіх колераў у Брукмана злёгку закруцілася ў галаве.

– Заўтра мы адступаем! – гола с ягоны пацвярдзеў. – І я толькі што падумаў... Слухай... Паехалі ў Германію! У маёй машыне знойдзецца месца для ўсёй тваёй сям'і! Я давязу вас да Лахвы і пасаджу на цягнік! Я напішу бацькам, жонцы, і яны прымуць усіх вас...

Уражаны Мікалай не ведаў, што й сказаць – адно сціскаў у чорным кулаку залатую манету.

– Ты – сапраўдны майстар. У нас ты зарабляў бы вялікія грошы, жыў бы ў вялікім доме... Згаджайся, у каменданта я выпрашу дазвол на праезд!

Такога ад немца Мікалай не спадзяваўся пачуць, таму нязвыклая гарачыня апаліла ўсе ягоныя жылы.

– Не разумею, як вы тут жывяце?! І хіба так можна жыць, як вы?! Вы ж проста прападаеце! Шмат робіце, а толку ніякага... У вас многа вады, лесу, але зноў жа ўсё без толку... А прыйдуць бальшавікі, будзе яшчэ горш! Ну, чаму ты маўчыш?

– Не магу...

– Не можаш пакінуць сваю ўбогую хаціну?! – здагадліва здзівіўся Брукман.

І тут Мікалай нібыта ажыў:

– Учора я зашкліў пабітыя вокны, а сёння стаў рабіць сыроўку, каб паправіць печ. Дык што, усё кінуць-рынуць?! Пан афіцэр праўду сказаў: не магу пакінуць хату...

“Такога не ўгаворыш!” – махнуў рукой Брукман і нават павесялеў, бо яму спадабалася: шавец усё-ткі назваў яго афіцэрам...

Мікалаіха вынесла штабс-фельдфебелю кварту малака; выбег з хаты і Васіль – пахваліўся, што яго з другога класа перавялі ў трэці, і паказаў “Свідоцтво про успішність та поведінку”.

Брукман разгарнуў ружовага колеру празрыстую паперку: пад пастановай педагагічнай рады ўбачыў знаёмыя подпісы класнай кіраўнічкі Бразоўскай і дырэктара школы Паўлава.

І ў гэтых людзей купляў ён корм, таму й запомніў, як яны распісваюцца...

Восенню 1941-га столінскі акруговы камісар загадаў школьнай радзе адчыніць у Давыд-Гарадку ўкраінскую народную школу.

Гэта добра было, але Брукману не падабалася, што на тэрыторыі рэйхскамісарыята "Украіна" дазволілі толькі чатырохкласную адукацыю, і – выхаванец сваіх чалавекалюбных бацькоў – Брукман аспрэчваў (моўчкі, вядома) такое абмежаванне: "Што, гэтыя дзеці нізкай крыві?! Што, доўга вучыць іх не трэба?! Што, яны мусяць у сваім жыцці толькі слухацца, выконваць каманды і не больш..."

Пад ухвальнымі позіркамі бацькоў Васіль тым часам паясняў, што ў яго выдатныя адзнакі за паводзіны, спевы і руханку.

– А за арыфметыку што? – падчапіў Брукман.

– У чацвёртай чвэрці чатыры!

– А раней было тры тройкі, таму й за год паставілі тры! – зірнуўшы ў "Свідоцтво", ухмыльнуўся немец.

– Ну, так... Тры... – Васіль апусціў галаву.

– І ўрокаў ты прапусціў таксама тры?

– Прапусціў...

– Чаму?

– Ездзіў з бацькам па дровы на Прыпяць...

– Нам вучаных не трэба, нам трэба работнікі! – уставіў сваё Мікалай.

– Аге ж... – патрапіла ў тон чалавеку Мікалаіха і спрытна паправіла на галаве хустку.

"Ну, добра, гадуйце сабе работнікаў, а не вучаных і будзеце тады век свой і далей гарбець на чужых!.." – такая думка бліснула ў нямецкай галаве.

Забраўшы "Свідоцтво", маленькі шкаляр хацеў даказаць сваё:

– Але затое ў мяне і пісьмова, і вусна ўсе чацвёркі па ўкраінскай мове і па мове беларускай!

– Па-беларускай?! – адразу ж зацікавіўся недавучаны славяналюб. – Што гэта за мова такая?

Хлопчык не адказаў, бо не ведаў, "што гэта за мова"; ён проста прачытаў вершык:

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць, і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім,
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Чараты, асака,
Падыходзіць мурог
Да яго...

Гучанне слоў спадабалася Брукману, і ён папрасіў хлопчыка яшчэ раз

прачытаць верш і яшчэ, і нават сам услед за малым спрабаваў дэкламаваць: “Між алешын, кустоў, дзе пяе салавей...”

**5**

І ўсё-ткі Брукману пашанцавала – ён стаў афіцэрам, узвядзенне ў чын лейтэнанта адбылося ў канцы ліпеня 1944-га пад Гродна; праўда, ягоны полк тады знаходзіўся ў поўным акружэнні.

Прыйшла радыёграма, згодна якой штабс-фельдфебель мог аздобіць свае плечы лейтэнанцкімі пагонамі.

Мог, але не паспеў – полк недзе праз гадзіну капітуляваў!

І ў салдацкую кніжку таксама ж не паспелі ўпісаць, змацаваўшы запаветны запіс адпаведнай пячаткай, што ён, Брукман – лейтэнант!

На сарціроўцы палонных у Лідзе Брукману не паверылі, што ён афіцэр і пакінулі сярод обер-яфрэйтараў ды іншых фельдфебеляў – не знайшлося нікога, хто пацвердзіў бы яго лейтэнанцтва.

Вельмі прыкра было...

Гэта прыкрасць душыла і ў Менску, дзе валачыўся з такімі ж, як і сам, абарванымі гаротнікамі паміж камяніц-развалін, адбудоўваючы беларускую сталіцу.

Аднак жа боль ад няўдалага афіцэрства забываўся, калі мучыў голад!

А голад мучыў усё часцей і часцей...

Па-воўчаму захацелася есці ўжо на трэці дзень акружэння, калі разбамбілі іхнюю палявую кухню, а паёк, атрыманы яшчэ ў Давыд-Гарадку, увесь выйшаў.

Тады ж Брукмана й абакралі – ноччу з машыны, да якой ён быў прыпісаны, яго няшчасныя аднаслужыўцы нішкам выцяглі клетку з галубамі, зварылі іх у катле і да раніцы з’елі.

А ён жа быў адказчыкам за сваіх разумных птушак, і, вядома ж, палявая жандармерыя не ўпусціла б сваё, спытала б: “Дзе клетка з паштавікамі?” – бо дрэсіраваныя галубы, гэта не нейкая там згубленая металічная каска ці падсумак з біклагай!

Але ад жандараў абакрадзенага галубятніка выратаваў палон...

У Менску, каб хоць як падмацаваць сябе, давялося рабіць тое, што рабілі іншыя палонныя будаўнікі – мяняць салдацкае барахло на харчы.

На сарціроўцы ж не ўсё забралі – пакінулі коўдру, яна была ў галубіным памёце, шарсцяныя шкарпэткі – яны смярдзелі так, што рускі правяральшчык ажно вылаўся; пакінулі таксама плашч-палатку, пару дзіравых рукавіц і старыя зношаныя боты...

Дзіўна, але не сцягнулі з ног і хромавыя чобаты!

Мусіць жа таму, што не разгледзелі іх як след – ад халяў да абцасаў хромавікі былі густа запэцканы беларускім балотам...

Нейкага вечара, пасля душнай работы, змардаваны Брукман пераабуўся ў старыя боты – і на будоўлю хадзіў у хромавых, баяўся пакідаць іх у бараку, бо маглі свіснуць.

Пераабуўшыся, уздыхнуў – і коўдра, і шкарпэткі, і цыліндрычная пушка ад газавай маскі, а таксама ж іншая драбяза, якую меў – усё пайшло ў ход.

На менавы гандаль засталіся толькі чобаты на бярозавых абцасах –

шкада іх, але што зробіш, ён жа не Ян Хрысціцель, каб і далей карміцца акрыдамі!

А за Мікалаеву работу можна папрасіць нават мяшок бульбы!

Будзе тады яды ўсім – і аднанарнікам, і сабе, і нават наглядчыкам, каб крыху ласкавейшымі былі...

Вымытыя хромавікі закруціў у кавалак радна, атрымаў дазвол на выхад у горад і, у парозе барака пачухаўшы аб вушак спіну, звыкла пхнуўся ў разбураны Менск.

Аднак жа гэтым разам з менай нічога не выйшла, бо здарыўся выпадак, ад якога шчасліва загаварыла сэрца.

У цэнтры места, якое ўжо было добра такі адбудавана, Брукман наткнуўся на бялявага хлопчыка, які настырна распытваў у губатага міліцыянта – дзе жыве паэт Якуб Колас.

А хлопчык гэты ж – рыхтык Мікалаеў Васіль і ягоны Фрыдрых!

Ляніва адставіўшы нагу і нават не зірнуўшы на знябытага Брукмана, які ўкамянеў за нейкія чатыры крокі ад яго, міліцыянт насмешліва працадзіў:

– Братка, а навошта табе паэт Якуб Колас?

– Хлопцы казалі, што ён можа накарміць і даць цукеркаў, калі на памяць прачытаць яго верш!

– Вунь як! – міліцыянт прыцмокнуў языком.

– І я вывучыў адзін верш! – дзёўб сваё ўпарты малы.

– Вывучыў?! – нібыта не паверыў губаты паставы. – Тады раскажы мне!

Хлопчык не ўпіраўся, як гэта часам бывае з раздуранымі дзецьмі, бо хлопчык не быў раздураны, таму адразу і на ўвесь голас, нібыта хацеў, каб яго пачуў цэлы Менск, пачаў дэкламаваць:

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць, і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім,
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім...

“Дык гэта ж той самы верш! І зноў жа – хлопчык амаль такі ж!” – сагнутага ў крук Брукмана агарнула электрычнае ўзрушэнне, ён нават заліўся потам.

– Малайчына! – смаркануўшыся, міліцыянт пахваліў дэкламатара.

– Дык дзе жыве Якуб Колас? – не адступаў расчырванелы малы.

– А табе што, хлопцы не сказалі?!

– Сказалі... Ды я трохі прыблудзіў...

– Няма нічога дзіўнага, што прыблудзіў! Тут новыя два дамы паставілі, таму вуліца крыху змянілася!

– Дык жа куды йсці мне?

– А тупай за гэтыя новыя дамы, вунь па той дарожцы! – міліцыянт рыпнуў усімі сваімі рамянямі. – А там, дзе піва прадаюць, павернеш за рог, пройдзеш да газетнага кіёска і за белым плотам убачыш дом Якуба Коласа!

Задаволены пачутым, хлопчык пайшоў подбегам.

– А ты чаго прыкіпеў?! – тут ужо губаты павярнуўся да пазелянелага Брукмана. – Валі адсюль са сваім мяшком!

Утуліўшы галаву ў плечы, нягеглы палонны абмінуў паставога і патрусіў услед за хлопчыкам, не спускаючы з яго вачэй; дыбаў збітымі абцасамі і дакараў сябе: "Дурань! Як ап'янеў! Стаў і вырачыўся на рускага паліцыянта! Так і да бяды блізка..."

Ясна, што не "паліцыянт" прывязаў яго да сябе, а бялявае дзіця, аднак жа, калі хто глядзеў збоку, то, вядома ж, думаў: немец вылупіўся на міліцыянера...

Да белага плота прыйшлі хутка.

Заняты сваім клопатам, юны чытальнік і не змеціў, што за ім навадам (як на прывязі) ідзе ваеннапалонны; бразнуўшы клямкай, чытальнік адчыніў фортку і рашуча ступіў у патрэбны двор, а Брукман, прыціскаючы да грудзей радно з чобатамі, зашыўся ў кусты якраз насупраць двара.

Ён ведаў, нібыта валодаў яснабачаннем, што доўга чакаць не будзе; праз хвілін пяць-дзесяць, адчытаўшы сваё і займеўшы хлеб і цукеркі (паэты ніколі не крыўдзяць просьбітаў – асабліва дзяцей!) – шчаслівы хлопчык выйдзе на вуліцу...

Так яно й сталася.

Трымаючы белую торбачку з ядой, радасны малы выбег з двара і некуды, не разбіраючы дарогі, паляцеў – пэўна ж, хваліцца здабытым...

І тады Брукман пастанавіў: іду!

Ад нервовага напружання пот зноў пацёк рагамі, і балюча захацелася есці, і пачалі даймаць вошы.

І недзе яшчэ з добрую хвіліну Брукман не вылазіў з кустоў; заціснуўшы між каленяў радно і расшпіліўшы дзіравы шэра-зялёны кіцель, – чухаўся, шкроб да чырвані сваё худое, бруднае, як ануча, цела...

– Што вам трэба, камрад?

У двары да Брукмана падступіў саракагадовы мужчына ў элегантным касцюме.

Мажны, круглатвары, з моцнай шыяй, лагоднымі вачыма і ўжо добра бачнымі залысінамі – неяк па-свойску выглядаў гэты чалавек, такім заўсёды хочацца верыць...

Блытаючы словы, "камрад" сказаў "што яму трэба".

Мужчына дабрадушна ўсміхнуўся і азірнуўся на веранду:

– Бацька, зноў да цябе прыйшлі чытачы!

– Хто? – стомлена пачулася з глыбіні веранды.

– Немец!

У Брукмана падагнуліся ногі, калі да яго выйшаў у чорным шыракаполым капелюшы, падобны на баварскага караля, паэт:

– Што табе, салдацік?

Сілы пакінулі Брукмана, гаварыць ён не мог – мог толькі чытаць...

І ён прачытаў:

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць, і грыміць
Срэбразвонны ручэй...

*13 студзеня 2012 г., пятніца, 19 г. 39 хв.; Менск.*

Васіль Зуёнак



...Жыву ці памру – з народам сваім, –
Не быць паасобку ніколі нам...

# Дзякуй, слова, табе...

### *ВЯСНОВЫ ТОСТ*

Звініць нябёсаў келіх жаўруковы, –
Як абярог, як з вечнасцю зліццё...
Хто там у дзверы грукае сурова?
Хай пачакае! – вып’ем за жыццё!..

### *ПЕРМАНЕНТНАЕ “НЕ ЗНАЮ”*

Знаю, што прыйдзе вясна,
Нікуды яна не дзенецца.
Травінка ў зімовых снах
Чакае вясну – абнядзеліцца.

Чакаю вясну і я,
Бо знаю: вясна не знікае.
Ды толькі нядзеля мая
Маўчыць, як магільны камень.

Надзеі ў нядзелі няма,
Што вечнай яна застанецца.
Знаю: вясну не стрымаць.
Не знаю: мне з ёй ці сустрэцца?..

## СНЕЖНЫ КОЛЕР САКАВІКА...

Зіму зграбаюць дворнікі лапатамі,
А сакавік – як лютага дублёр –
На неба ўзлез, ці не да самых зор,
І вытрасае з хмар снягі бухматыя.

Няўжо ён зблытаў вехі каляндарныя?
Ці ў найміты падаўся да зімы?
А там ужо й да здрады шлях прамы, –
І зноў да лета халады ўладарныя?..

Ды кропляў звон – цэзураю Гамераўскай,
Дзе ледзяшоў красуецца дэкор,
І снежным колерам – касуецца дакор, –
Лілова-сінім, як пралескі з верасам...

* * *

Зацятае стыне маўчанне,
Але – не лічы да трох.
І што гэта ўсё азначае,
Напэўна, не скажа й сам Бог.

Ты ёсць і няма. А будзеш –
І я зласкавею стакроць.
Не лёдам, як кажуць людзі,
А ладам у сэрца заходзь.

Адсутнасць пакінь на парозе
І гнеў за парогам разуй...
За слова? за ўсмешку? за позірк?..–
Не знаю за што – а даруй.

* * *

Усё, што любіў у жыцці я,
Што ў сэрцы і ў мроях насіў, –
Няўжо, зарасце павуціннем,
Калі адыду назусім?

Калі ўжо ніхто і не ўспомніць:
Ты быў ці не быў, – няўжо,
Мая не адклікнецца споведзь
Між сумных зямных крыжоў?

Не будзе мяне...– і ніколі
Мой цень, па расе, басанож,
У сон ваш світальны – ні болем,
Ні ўцехай – не прыйдзе, – і ўсё ж...

І ўсё ж – якія б арбіты
Не раз'ядналі з зямлёй, –
На ўсім застанецца адбітак
Пакутнай любові маёй.

* * *

З лесу рэчка Селязнея,
Як з бяссоннай ночы ў дзень,
Выцякае. І слязнее
Дуб над ёю – жалудзень.

Слёзы ядрана ўрадзілі –
Сойкі лічаць ураджай:
Жалуды – усім на дзіва,
Кожны – сонцава скрыжаль.

Прамяні занатавалі
Ў кожным гены на вякі,
Перуны загартавалі, –
Вырастайце, дубнякі!..

Дуб слязнее, ды не плача.
Селязнея ўдаль сплыла.
Селязенька – ён жа качар –
Мне ўзмахнуў слязой з крыла.

### *АНІ...*

Ані слова не сказала –
Толькі думала ў журбе:
"Не было б тады вакзала,
Не пакінула б цябе.
Не паехала б – і кропка.
Хоць гані і хоць кляні.
Бо каханне – не падробка.
Ты не цар над ім – ані!.."

## *ПРЫЛЁТНЫ ЗНАК*

Яшчэ зіма пытлюе снег
І дні вясновыя не лічыць,
Ды ўжо разведчыкам прабег
Усцяж палёў прамень грамнічны.

З узгоркаў талая вада
Таемна сочыцца ў нізіны,
Там-сям з-пад снегу ўжо відаць
Прымяты, жоўклы клін азімы.

Яшчэ ён зябка спіць, аднак
Вось-вось засвеціцца зялёна –
Як жаўрукам прылётны знак, –
Сам гнездаваннем акрылёны.

* * *

Глядзеў, як сонейка весніцца,
Як сэрцы ў людзей адтайваюць, –
І словы на радасць песеньцы
Ляцелі, як птушкі світальныя...

Гляджу: грыбнікамі па сметніцах
Людзі штораніцы шастаюць –
І ные душа-беспрасветніца...
Якая ўжо тут паэзія!..

* * *

Паказваў дальнязоркі аб’ектыў
(Ці нейкі там прыбор яшчэ мудрэйшы),
Які драпежны нораў і круты
Пануе ў зорных галактычных дрэйфах.

Галактыку суседнюю калапс –
Такія называюць “чорнай дзіркай”:
Ні пашчы не відно, ні хіжых лап, –
Засмоктвае і робіць невідзімкай...

Гляджу на зоры ў незямной тузе:
Ці гэта лад, ці хітрая падробка,
Што скібу галактычную грызе
І па кавалках калапсуе ў кропку.

І што за ёю: небыццё? хаос? –
Не дакучай пытаннем недарэчным,

Не наракай на немінучы лёс, –
Адно разваж: і Млечны Шлях – не вечны...

## *ХРОСНАЯ*

Дзядзька Ціт жонку ўзяў аж з-пад Лукам'я –
Як бліжэй і дзяўчат не было! –
Колькі вёрстаў ногі адгрукалі,
Колькі хваляў пад чоўнам сплыло!..

Прыляцела яна аблачынкаю –
Гэта ж трэба так сігануць! –
Як з-за свету, у нас лічылася:
Трэба пяць азёр абмінуць,

Ды яшчэ два балоты, ды пушчу,
Ды і іншых завадаў стае...
Гэта ж трэба быць гэткім відушчым
Дзядзьку Ціту – угледзець яе!..

Прыляцела яна пярчынкаю
Для дзяўчат узборскіх і баб,
І асцінкаю воку мужчынскаму,
І гарчынкаю: "каб ды каб..."

Пэўна, з гэтай прычыны і з'ехалі
Шчасця-долі ў свеце шукаць,
Каб спакой пад узборскімі стрэхамі
І сямейны лад захаваць...

Адплыла аблачынка хмаркай,
Толькі цень з-пад свайго крыла
Мне пакінула: дзядзіна Варка
Маці хроснаю мне была.

На вялікдзень усе да матусяў
Беглі з весткай: "Хрыстос уваскрос!"
І дарунак – так звычай мусіў –
Кожны яйка чырвонае нёс.

Весяліліся дзеці ўсе чысценька,
А ў мяне як паўсвята хто ўкраў:
Не было маёй паручыцелькі
Перад Богам, – так Бог мне даў...

Хоць было адчаго маркоціцца,
Ды застаўся мне з Вербніцы дар –

Успамін пра вярбовыя коцікі
І матусін усмешлівы твар:

– Наравы, наравы!
Ідзіце на равы,
На лясныя паляны,
Каб быў хрэснік слухмяны!..–

Тое лёгкае вербнае шлёганне
З прыгаворкаю маці хроснае,
Нібы сон, – за шляхамі-дарогамі,
За смугою на часу ростанях.

Ні аблічча матусі не помню я,
Ні абрысаў стану жывога...
А ўваччу – толькі ўсмешка поўняю:
Як успышка, – і больш нічога...

### *УЛАДКАВАННЕ*

Станеш абсалютнай цішынёй,
І з жытлом усё даволі проста:
Вышыню заменяць даўжынёй,
Статус-кво ацэняць глыбінёй –
Вечнаю прапіскаю пагостаў...

### *ПРЫХАДЖАНЕ*

Ні шчырасці, ні святасці
Не ўважыў лёс-ліхвяр:
З нажом на брата брат ісці
Гатовы за даляр.

Ды ў ноч перад Вялікаднем
Ідуць абодва ў храм
З таемнымі адлікамі
Грахоў – чужым багам.

Ідуць – свайго не маючы:
Прададзены даўно, –
Скарб барышоў хаваючы
На саменькае дно.

Каб адстаяць іх, збочваюць
Сюды: “Пабачце нас!” –
На споведзь усяночную
Ідуць, як на папас.

Са свечкай камуфляжнаю
У кіпцюрах даўгіх
Паклонамі адважваюць –
Як сплачваюць – даўгі.

Хоць сёння з той эстрадаю –
Жывых! – у рай вазьмі...
І кроплі воску падаюць
Застылымі слязьмі...

## ***КОЛЕРЫ***

Таемныя службы заўсёды любілі
Крылаты колер нябесных вышынь,
І выгляд носячы галубіны,
Тварылі груганныя справы ў цішы.

Адно – не заўсёды маглі красавацца,
Парадныя мусілі строі хаваць
За фарбы абманлівых дэкарацый:
Ці ён сувязіст, ці пілот – не пазнаць!..

Часцей жа цывільны гальштук пры чыне,
І знаюць адзінкі – не болей за трох, –
Якое ў гэтым мундзіры начынне,
Якое дно і якое нутро.

З мундзірамі разам даносы шылі:
Сабе – мундзір, а на сябра – данос.
Вышыні службы віселі на шыі
Пятлёю, каму яны спраўдзілі лёс...

Заўсёды ў страі – да молі, да дзірак.
І нават па смерці ў запас не ідуць.
Якія кашмары вам сняцца, мундзіры, –
У ложку і там, куды ў трунах нясуць?..

Усё ў наяўнасці і па форме –
Плывуць на падушачках арданы, –
І хто старонку іх тайны адгорне:
Якога кшталту яны і цаны?..

Маўчыць магіла – апошні начальнік –
З апошнім загадам на вечны спачын.
Маўчаць даносы архіўным маўчаннем:
Ніхто не турбуе, ніхто не крычыць...

Але – як бы ў Бога вы ні прасілі –
Не дапамогуць ні меч, ні шчыт
Пагон з прасветам злавесна-сінім
Перафарбаваць у нябесны блакіт...

### САЛЮТ

Фініш свята – начны феерверк
У хаўрусе з салютам грымотным, –
І да ўлады любоў уверх
Па тарыфе ўзлятае ільготным.

І няма захапленню мяжы,
І няма ніжэй пакалення, –
Знак для ўлады, што будзе жыць
Рабскі дух і ў дзясятым калене.

### * * *

Вы чуеце толькі сабачы брэх.
А вы бачылі – слёзы сабачыя?
Брэх – калі ўводзяць сабаку ў грэх.
А ўсё зразумеўшы – сабака плача.

Яны – не зоркамі, як паэт засведчыў, –
Слёзы зоркамі – дужа прыгожа.
Слёзы – калі сабака плача па-чалавечы,
А чалавек па-сабачы не можа...

### СЛІМАК

Збіўся з дарогі слімак.
Колькі прайшоў
І як
Прайсці астатак дарогі,
Не знае, –
Стапталіся ногі.
А таму не ідзе, а паўзе
На пузе – паўзучай назе.

Суседзі спагадна яму
Падказваюць, дзе і чаму
Ён збіўся з людскага тропу,
А ён на лісціну-еўропу –
Рожкі тырчком – пазірае,
Цвярдзіць, што прастуе да раю,

Што шлях ягоны такі
І ўсе так ідуць слімакі...

Хто як слімаку памагаюць:
Кавёлы шашаль стругае,
Кірунак нашэптвае вецер,
Святляк ліхтарыкам свеціць,
І прыляцеў матылёк –
Бяскрыламу выправіць клёк...–

Клопату ўсе набылі:
На беларускай зямлі –
Між несусвеціц многіх –
Збіўся слімак з дарогі...

## *ЗМАГАНЕЦ*

Дах мой – доля бадзяжая,
Сцены – дошкі ў труне...
Ды не ў час вы наважылі
Смерцю ўстрашыць мяне.

Час, калі абылганыя
Мой народ і мой Бог,
Мне й жыццё будзе ранаю
І зямны мой парог.

І ўявіць вы не можаце,
Як і вашы штыкі:
Смерцю не пераможаце –
Вольны я праз вякі.

Бо душа – як прарочыца –
Небу прагне служыць:
Мне памерці так хочацца,
Як вам хочацца жыць.

* * *

Зямля мая, ці нам упершыню,
Радзіма, – ці нам гэта ў дзень астатні:
Выходзіць са злашчаснага агню,
Дзе ўсё згарае пад наглядам братнім.

Такую спадчыну нам лёс наканаваў:
Ніяк не можам разабрацца, хто мы,

Бо з царскім ачмурэннем галава
Ў братоў. А брат – у нас заўжды, як дома.

І, лічыць, быццам нас як бы й няма,
І рэй ля вогнішча вядзе па-гаспадарску,
Крычыць: згарае царская турма,
А сам – насустрач: у кароне царскай.

Згараюць душы, і зямля гарыць,
Каб на шляхах вякоў зноў уваскрэснуць.
Браты мае, ну колькі ж гаварыць,
Што ні ўтаіць нас нельга, ні закрэсліць.

Вам фенікс трэба? Вось ён: беларус! –
З крыла агонь змахне – і акрыяе.
Хоць мае ад любові братняй гуз,
А прывітаць гатовы з караваем...

## ЗБУДЗІШЧА

“Збудзецца-не-збудзецца...” – цыганкаю
Ноч на небе карты адкрывае,
Аж пакуль апошняю цыгаркаю
Ранішняя зорка не згасае.

А якое выйдзе тое “збудзішча” –
Збудзецца праз год альбо праз месяц?
Будзе святкаваць са мной, ці буднічаць,
Ці тугу сусветную замесіць?..

Знаю толькі: стрэчы не адбудзецца
Ў збудзішча з мінулым: незваротнае
Паімкненне часу, – тым і судзіцца
Іх яднанне сувяззю смяротнаю.

Збудзішча мінулым не стрымаецца:
Рассячэ, не развязаць вузлы дзе.
Збудзішча мінулым здабываецца,
Калі ты ў мінулым быў не злыдзень.

* * *

*Мне бить китов*
*У кромки льдов,*
*Рыбьим жиром детей обеспечивать...*
Старая песенька-шлягер

Адышла ў забыццё арава
Кітабойнай флатыліі “Слава”,

Што знясла́ўлена смерцю кітоў,
Нашых велічна-меншых братоў.

І ўжо песенька забываецца,
Як кітовы тлушч здабываецца.
Толькі помніць сівы акіян
Бітвы той генеральны план...

Не звініць на тросе гарпун,
Ды шукае вокам тайфун:
Дзе кіты, дзе кітайчыкі іхнія,
У якіх глыбінях прыціхлі?..

І чаму – нярэдка здараецца:
Паміраць на бераг кідаюцца?
Каб вось так: на людскія вочы, –
Што яны сказаць гэтым хочуць?

Можа, гэта людзям пасланне?
І якое наканаванне
Зняць праклён акіянскі магло б?
Можа, новы сусветны патоп?..
.

* * *

Дзякуй, слова, табе,
Што аднойчы прыйшло ты – і ў сэрца,
Як у шыбу начную, пагрукала мне.
Без цябе і дагэтуль я
Марнаваў бы жыццё ў паняверцы,
І трывожны агеньчык
У маім не ўзгарэўся б акне...

І які б у душы – як бяздонне –
Правал заставаўся:
І глухі, і нямы –
Ні вузельчыка з рэхам звязаць.
Даў жа Бог: хоць і позна – з табою спаткаўся,
І што мусіў сказаць – меў высокае шчасце
сказаць.

Гэта ж трэба:
Такое ты мне нашаптала,
Пра якое й не марыў я
З беднай жменькай зярнят на сяўбе.
Хоць не ўсё я спасціг,
Што ты з кнігі нябеснай чытала, –
Дзякуй, слова, табе...

* * *

*Віктару Казько*

Аб тым, што было, мы пакутна знаем,
Што будзе – аб гэтым не дадзена знаць.
І ты паміж імі. І памяць зямная
Штодзённа й штоночна ідзе спавядаць.

Гады за гадамі злятаюць, як знічкі,
А маці з пяшчотай у мёртвай руцэ
Стаіць уваччу, – і ў маленькай сястрычкі
Ільдзінка слязы на замёрзлай шчацэ.

І сам ты маленькі, і таеш сняжынкай,
З натоўпам брыдзеш да нязнаных пакут –
Застацца ў жывых – сам сабе на памінкі:
“Чаму ж я не вывеў яе за руку?..”

Ці схілішся перад святым аналоем,
Ці схіліць анёл над табою крыло,
А ты ўсё ў вяртанні даўгоў за былое,
Што там не замёрз, каб яго не было...

* * *

Вы з якіх такіх асноў, –
Іпуць, Убарць з Начаю?..
Колькі ёсць на свеце моў –
А якая страчана!..

Ды гавораць між сабой
Словы тымі словамі, –
Хоць няўцям для нас з табой
Мова адмысловая.

Толькі гук, як хвалі ўсплёск,
Як чароту шастанне, –
І гарыць у зрэнках воск
У савы вушастае.

Навайстрыла птушка слых:
“Іпуць!..– Убарць!..” – чуецца, –
Разумее Нача іх
Недзе ля Мачулішча...

* * *

Вам, музыкі, і вам, мастакі,
Зайздрошчу: сусвету дарадчыкі –
Вы ў душы заходзіце напрасткі –
Без талмачоў-перакладчыкаў.

Вам, музыкі, і вам, мастакі,
Спачуваю, што вы бясслоўныя,
Што вы надзелены лёсам такім:
Прыродзе – не Богу роўныя.

І корань трывалы, і стрыжань не ўсох,
І крона дыхае лісцямі:
Народ – ад Бога, а слова ёсць Бог, –
Не намі сцверджана ісціна.

У тым і сутнасць, і шчасце ў тым,
Што словам гэтым зняволены,
Жыву ці памру – з народам сваім, –
Не быць паасобку ніколі нам.

* * *

Ганг ударыў у вечнасці гонг –
Чалавецтва на веча склікае:
“Што ж, па-вашаму, Бог – эпігон:
З п’есай даўняю “Авель і Каін”?

Паўтарацца тварэц не прывык –
Гэта мы паўтараем сюжэты...”–
Ганг!.. – як стогн, першародства крык,
Як уздых праз тоўшчу планеты, –

Я пачуў тваю думку, Ганг,
Я адчуў цябе, Ганг, імгненна:
Нас раскідаў вякоў ураган,
Ды нятленныя памяці гены.

Мы пайшлі з тваіх берагоў –
Дзесьці ў Індыі наша калыска...
Бог стварыў нас, а мы багоў
Натварылі з мясцовай прапіскай.

І паўсталі на брата брат –
Хто з драўлянай даўбнёй, хто з нейтроннай –
Сцвердзіць бога свайго загад:
Скінуць бога чужога з трона...

Ганг, ці знаў ты, што ў свет выпраўляў
Нас за рабскія далягляды
І што станецца пеклам зямля
З абяцанага райскага сада?..

Кожны братняму рады ярму,
Кожны богам сваім блаславёны:
Даспадобы, кажуць, яму
На ахвярным агмені мільёны...

Ды вяртаецца бумеранг...
То склікай жа зямное веча,
Уратуй чалавецтва, Ганг,
Ад натуры бесчалавечнай!..

* * *

З нябёсаў
Упала дзіця...

Казка зямная...

Хаця...

Барыс Пятровіч



...паміж мужчынам і жанчынай
не можа быць сяброўства,
можа быць толькі...

# Каханне ў краіне, дзе не было сэксу

***Апавяданне***

Некалькі разоў за жыццё я чытаў чужыя лісты. І ўсе яны былі "пра каханне".

Распавяду толькі пра першы і апошні выпадак. Не таму, што яны самыя запамінальныя. Астатнія былі таксама па-свойму цікавыя. Але я і пра першы згадаў толькі ў сувязі з апошнім.

Чытаць чужыя лісты занятак, вядома ж, ганебны. Каюся. Аднак бываюць моманты, калі цікаўнасць перамагае сумненні. Так бы мовіць, сумненні сумлення. Асабліва, калі сам таго не жадаючы, зачэпішся вокам за колькі словаў, і чужое жыццё цябе ўжо не адпусціць...

Першы ліст патрапіўся мне, калі я жыў у Гомелі. З малым сынам – ён толькі навучыўся хадзіць і ў садок мы яго яшчэ не аддавалі – я гуляў у двары. Быў канец жніўня, але сонца яшчэ прыпякала нястомна. Я зайшоў у альтанку, у цянёк, а сын гуляў паблізу ў пясочніцы пад гарадской густавалосай вярбой. Кніжкі ці часопіса, нават газеты, я з сабою не браў – чытаць нешта было немагчыма:

за сынам трэба яшчэ вока ды вока – сама той узрост, калі можа падхапіцца і выбегчы на вуліцу побач, дзе адна за адной лятуць машыны.

Чаму я гэта пра гэта кажу? На лаве ў альтанцы якраз і ляжала нейкая кніга. Патрапаная, калі не сказаць зачытаная, а таму, відаць, пакінутая кімсьці з-за непатрэбнасці. Ляжала яна тварам да лаўкі, і павернутая да мяне вокладка была шэра-карычневай ад старасці, сонца, пылу... і без ніякіх пазнакаў.

Мне стала цікава, я пацягнуўся і ўзяў кнігу. Гэта быў падручнік па гісторыі для дзявятага класа. То былі яшчэ часы, калі падручнікі набываліся ў кнігарнях вучнямі, а не выдаваліся ў бібліятэках. Таму нейкага надпісу – чыя гэта кніга, хто ёй карыстаўся, як робіцца цяпер, на ўклейцы не мелася. Кніга была сапраўды старая, да таго ж, праляжаўшы тут немалы час, запылілася. Трымаць яе ў руках было брыдкавата і я пашкадаваў, што падняў яе. "Забыўся нейкі гора-вучань, – падумаў я, – калі ўспомніць, вернецца ды забярэ", – і кінуў падручнік на лаўку, дзе ён і ляжаў. У палёце з кнігі выляцела некалькі складзеных напалам спісаных аркушыкаў, вырваных са школьнага сшытка ў клетачку. Яны разгарнуліся і плаўна апусціліся мне пад ногі.

Я падняў. Почырк вучнёўскі, дзявочы. Ліст да сяброўкі. "Прывітанне, Галька!" – кінуліся словы на самым версе. Сын гуляў у пясочніцы, насыпаў савочкам у вядзерца зямлю, з вядзерца – у кузаў машыны, а насыпаўшы поўны – адвозіў паўметра і выгружаў... Занятак самы хлапечы і бясконцы. І я пачаў чытаць ліст. Пісала дзяўчына з вёскі гарадской аднакласніцы, з якой яны разам адпачывалі на канікулах у сваіх бабуляў. Сяброўка з'ехала ў Гомель раней, а яна яшчэ засталася. Ліст быў густа перасыпаны расейскімі матамі і пачынаўся якраз з ушчування: маўляў, як ты магла, такая-сякая, з'ехаць і пакінуць мяне адну на расцярзанне мясцовым (калгасным) бугаям...

Напачатку я сказаў, што ліст быў пра каханне. Гэта не зусім так. Ліст быў пра тое, што сёння ёміста называецца траханнем. З падрабязнасцямі аж да фізіялогіі, з апісаннем хлапечых магчымасцяў аж да сантыметраў. Вясковыя падлеткі, пасля танцаў (а то і да танцаў, падчас фільма ў кінабудцы), дабіваюцца "любові" ў гарадской дзявулі, якая паспрабавала, што гэта такое, і ёй спадабалася. Сораму яна не мае, бо лічыць "мясцовых" ніжэйшымі за сябе, якіх не варта і саромецца, бо як прыехала яна сюды, так і з'едзе, імгненна забыўшы пра ўсё і ўсіх... Але, апісваючы свае прыгоды, увесь час папракае сяброўку, што кінула яе, хоць відавочна гэта не галоўнае, а галоўнае тое, што "ходзіць" яна цяпер менавіта з "пацаном" гэтай самай Галькі. А кляўся ж у вернасці... І гэта апісваецца з найбольшай асалодай, каб зачапіць сяброўку...

Не зачапіла. Бо не было на лісце размытых кроплямі слёз літараў, і не быў ён скамечаны, парваны і выкінуты. Якая там рэўнасць? Пагулялі і добра. На наступнае лета прыгоды пачнуцца па-новаму... Ліст быў акуратна складзены і схаваны між старонак кнігі. Думаю, не дзеля таго, каб перачытваць потым. Проста складзены і забыты...

Шкада, што пасланне тое я не захаваў. А то можна было б працытаваць з яго колькі смачных сказаў. Бо цяпер так лістоў не пішуць. Усе маюць электронную пошту. Хоць яна і нематэрыяльная, як папяровая, але ёй баяцца давяраць самыя шчырыя думкі. Так, перакінуцца некалькімі словамі, маўляў, усё добра. Альбо "паразмаўляюць" у скайпе без захавання запісаў

– і разбягуцца... Завядуць “жж”, фэйсбук ці твітэр і там, амаль цнатліва, напішуць, што сёння здарылася ці падумалася, і прачытаюць тое ж пра іншых, часам, і не сяброў, а абсалютна чужых, ніколі не бачаных людзей. Эпоха лістоў сышла, як сышлі незаўважна ў мінулае некалі незаменныя друкарскія машынкі... Але само жыццё працягваецца, і ніколькі яно не змянілася з часоў гамеравых ды шэкспіравых – тыя ж страсці, тыя ж жарсці і тая ж корць любові ды кахання, а прасцей кажучы – сэксу... Тут у людзях усё ж пераважае жывёльны пачатак, даруйце мне за такое параўнанне, бо яно не ў крыўду сказана (ні людзям, ні жывёлам...). Мусіць, самае нязменнае ў чалавеку менавіта тое, што не паддалося эвалюцыі, а засталося ў яго з часоў, калі ён яшчэ начаваў на дрэвах ці ў пячорах, і гэта тычыцца іншых самых лепшых і самых горшых пачуццяў ды інстынктаў... Але чаму гэта мяне панесла ў такія развагі – не ведаю...

Вернемся да лістоў. Папяровых пасланняў сябрам цяпер увогуле не пішуць... У гэтым я быў абсалютна перакананы да апошняга часу. Пакуль са мною не здарылася гісторыя, пра якую і хачу расказаць. У мінскай букіністычнай кнігарні “Вянок”, што на Траецкім прадмесці, дзе я люблю бываць, бо там можна знайсці і нядорага набыць добрае старое выданне, я ўзяў пагартаць адну кнігу, аўтара якой любіў і кніг ягоных у маёй хатняй бібліятэцы было некалькі – прычым дзве ці тры з адным і тым жа зместам, але розных выдавецтваў. І вось яшчэ адна – сярэдзіны мінулага стагоддзя... Я разгарнуў кнігу і... так-так: з яе нешта выпала мне пад ногі. Упала цяжка, пляснула нават аб падлогу: стосік папер быў немалы. Я падняў туга складзеныя напалам аркушыкі, густа спісаныя дробненькім почыркам. “Нейкі рукапіс ці канспект, – падумаў, – а мо і студэнцкая шпаргалка...” Міжволі прабег некалькі сказаў і зразумеў, што гэта хутчэй за ўсё ліст. Праўда, ніякой пазнакі да каго звяртаецца ягоны аўтар не было. Ліст даволі аб’ёмны і я не разумею, чаму яго не заўважылі раней іншыя (хіба ніхто да мяне не браў гэтую кнігу ў рукі), альбо чаму аўтар пакінуў яго (ці не наўмысна?). Змест ліста ад першых радкоў падаўся мне цікавым і вартым больш уважлівага і спакойнага прачытання. Паколькі быў ён нічыім, я паклаў яго назад у кнігу і пайшоў з ёю да прадавачкі...

Перш чым працягваць гісторыю далей, хацеў бы, каб і вы прачыталі той ліст, своеасаблівае пасланне з мінулага стагоддзя, з часоў, калі ў той нашай краіне было каханне, але не было сэксу... Падобна, што аўтар яго – чалавек творчы, бо, рыхтуючы да друку, я зрабіў у лісце ўсяго некалькі дробных стылёвых правак.

“Ты спытала ў мяне: ці можа быць дружба паміж мужчынам і жанчынай?

Не, адказаў я. Рашуча і пераканаўча. Паміж мужчынам і жанчынай не можа быць сяброўства, можа быць толькі…

Я задумаўся: толькі што?

Што можа быць?

Мне не хацелася, чамусьці не хацелася нават самому сабе казаць тое, што першым прыходзіць у галаву... Мне хацелася хоць бы перад самім сабою быць вышэйшым, што павінна азначаць цнатлівейшым, бо так мяне выхавалі, бо ў нас заўсёды саромеліся прызнавацца ў гэтым, хоць падсвядома разумелі, што ўрэшце рэшт дабіваюцца ад упадабанае асобы толькі…

толькі аднаго – сэксу… У нас раней нават слова такога ў слоўніках не было, каб змякчыць стаўленне да самое з’явы. Падзел быў кантрасны і рэзкі – на справы сардэчныя і тыя, што ніжэй поясу…

Тое, што ніжэй, сарамліва замоўчвалася, нібыта і не было яго ў жыцці. У кнігах цэнзары пакідалі шматкроп’е, у замежных фільмах гэтыя сцэны выразаліся і, як той казаў, бэбі з’яўляліся адразу пасля пацалунку... Але гэта не азначае, што сэксу тут і сапраўды не было – іначай, не было б нас саміх…

І вось думаю я, калі б адразу так і адказаў табе: “толькі сэкс…” – ці было б гэта праўдай? Мажліва, не абсалютнай і не на ўсе жыццёвыя выпадкі, але – праўдай было б. Толькі ці было б гэта ісцінай?..

Не ведаю, аднак не сумняваюся, што калі я зрабіў паўзу пасля словаў “можа быць толькі…”, большасць у гэты момант падумала б адразу: “…сэкс”… Так, паміж жанчынай і мужчынам можа быць толькі сэкс, але не дружба. Калі не ў першы ж дзень, то праз нейкі час: праз тыдзень, месяц, год… але тое, што называецца сяброўствам альбо каханнем абавязкова перарасце ў… сэкс. Бо чым больш ты любіш чалавека, тым мацней табе ўрэшце рэшт хочацца падзяліцца з ім тым адзіным, той радасцю, якой надзяліў цябе Бог, каб ашчаслівіць каханага і, магчыма, затрымаць яго пры сабе…

Таму Бог і стварыў нас такімі рознымі, каб мы шукалі адно аднога дзеля таго, каб гэтыя рознасці спалучыць…

Напісаў “падзяліцца” і спыніўся: ці дакладна гэта? Бо так у нас гістарычна склалася, што “дае” жанчына, а мужчына – “бярэ”. І адсюль нібыта вынікае прыніжаны стан жанчыны адносна мужчыны. Хоць па вялікім рахунку менавіта ў гэтым яе перавага. Бо “даваць” заўсёды мае станоўчы сэнс, а “браць” – не (тым болей, калі сілай…). Аднак пішучы “падзяліцца”, я, мажліва, сам таго не жадаючы, падкрэсліў узаемнасць, якая бывае менавіта пры тым каханні, пра якое я і хацеў бы гаварыць, але якое так рэдка здараецца ў прыродзе. Бо для сэксу ўзаемнасці не трэба, трэба толькі жаданне (не хачу казаць жывёльнае) задаволіць сваю патрэбу ў партнёры, бо многім дзеля задавальнення (асабліва цяпер) і партнёр не трэба…

Так, гэтая самая “дружба” павінна скончыцца сэксам, пасля якога альбо будзе новы сэкс, альбо – нічога… Але тое “нічога”, што застанецца пасля сэксу, пасля растання, таксама ўжо ніяк нельга будзе назваць сяброўствам. А таму прапанова жанчыны мужчыну ці мужчыны жанчыне: “Давай будзем сябраваць!”, з’яўляецца завуаляванай прапановай заняцца сэксам, альбо адразу, альбо трохі пазней… Альбо, што бывае мо і часцей, проста развітацца без надзеі на нейкі працяг адносінаў. Тут ужо залежыць ад інтанацыі, з якой гэта было сказана, і якую “прачытаць” можа толькі закаханы…

Здаецца, усё лагічна. Але – я задумаўся. Мая катэгарычнасць дала трэшчыну.

Мяне спыніла якраз тваё пытанне. Не выпадкова ж ты задала яго… Так, бо як тады назваць тое, што было між намі напрацягу больш за… больш за дваццаць гадоў, ад таго часу, як я ўпершыню ўбачыў цябе, і да сёння – да гэтага пытання? Як, калі не было ні ўзаемнага кахання ні сэксу, але былі ўзаемаадносіны напрацягу стольківх гадоў?.. Як назваць іх? Дружбай? Пачакай… З майго боку нібыта ўсё паддаецца папярэдняй логіцы і фізіялагічнаму тлумачэнню, хоць мне не хочацца згаджацца з тым – жаданне сэксу з табой (кахання) трымала мяне і не адпускала, прымушала згадваць пра цябе і не разрываць стасункаў, а чаму ж тады ты мяне не адпрэчыла адразу груба і

жорстка, а нібыта пакідала мне надзею на ўзаемнасць? Навошта ты працягвала гуляцца са мной, як котка з мышкай? І чаму я больш за дваццаць гадоў паддаваўся гэтай гульні, забываючы пра… мужчынскія гонар і годнасць?

І я мусіў вярнуцца ў пачатак.

Што ўвогуле можа быць паміж мужчынам і жанчынай? Што ўзнікае з першага позірку, з першага імгнення, як апынуліся яны ў прасторы і часе побач і хтосьці заўважыў кагосьці? Заўважыў і замёр, застыг, анямеў… Што яго (яе) прымусіла зрабіць гэта? Пэўна тое, што называецца прыцягненнем, калі проста, альбо каханнем, якое нараджаецца менавіта ў гэты момант. Так, каханнем, якое некаторыя потым спрабуюць зняважыць, спляжыць, знішчыць, называючы юрам, жарсцю, альбо звычайным жаданнем сэксу. Хацеў бы, каб ты пагадзілася з гэтым, бо лічу менавіта вось гэтае першаснае, нехта сказаў бы падсвядомае, "жаданне сэксу" і ёсць каханнем… Прычынай гэтага "заўважання" можа быць не толькі прыгожы тварык ці стан – іначай дзевяноста адсоткаў "непрыгожых" так ніколі і не зведалі б кахання – а нейкі няўлоўны рух, міміка, жэст, позірк… Словам, цябе заўважылі, упадабалі – "захацелі"…

Такім чынам, пагодзімся, паміж мужчынам і жанчынай напачатку ўзнікае каханне… Якое не ёсць юрам ці жарсцю, а ёсць прыцягненнем адно да аднога, яшчэ не аформленным у прагу сэксу жаданнем проста быць побач… Аднойчы ў глыбокім юнацтве я глядзеў фільм, у якім сівы мужчына гадоў шасцідзесяці без штаноў бегаў за жанчынай такога ж узросту, тоўстай і брыдкай, як мне падалося тады, каб заваліць яе на канапу ці хоць на падлогу ды паймець, і пры гэтым крычаў: "Я цябе кахаю…" Мне сцэна тая падалася як мінімум няшчырай: хіба гэта каханне? Гэта і ёсць элементарнае жаданне сэксу. Каханне – зусім іншае, падумаў тады я. Вядома, мажліва, яно не ўздыханне пад зоркамі да раніцы і не трапятанне ад блізкасці жаданага цела, да якога баішся дакрануцца і апякаешся дакранаючыся… Мажліва. Але ж гэта нешта светлае і прыгожае. Маладое. Невядомае. Паміж тымі, хто яшчэ не спазнаў напоўніцу, не наталіўся блізкасцю з тым, хто табе падабаецца… Не проста цяга да супрацьлеглага полу ўвогуле, а жаданне абняць, прытуліцца, пацалаваць… кагосьці канкрэтнага, з-за якога іншыя не заўважаюцца і ты жывеш нібыта ў тумане. Нешта тое, што адбываецца да першага спазнання адно аднаго. Менавіта да першага… Бо пасля пачынаецца іншае… Бо жаданне сэксу, і ў юначыя гады, і тым болей у шэсцьдзесят (дзякуй Богу, што яно захавалася), мне думалася – грэх называць каханнем… Кажыце праўду: "Хачу цябе…" ці "Хачу з табой…", ці "Дай…", ці, урэшце, "Давай…" і дадавайце любое слова з таго вялікага арсеналу сінонімаў пэўнага дзеяння, працэсу… Але ж не грашыце словам "кахаю"… Бо каханне – гэта нешта іншае, ін-шае, і-н-ш-а-е…

Я цябе не заблытаў?

Вернемся да твайго пытання. Мне падаецца ў нас было падобна. Дакладней, у мяне. Але каханне маё, гэта значыць жаданне сэксу з табой, не рэалізавалася. Што азначае – яно засталося тым юначым… Не рэалізавалася ні адразу, у той жа вечар, калі ўпершыню ўбачыў цябе, як часам бывае, ні потым – праз тры, пяць сустрэчаў… і праз гады. І вінаватай у тым… Не, не хачу ўжываць гэтае слова, прычым тут віна і вінаватасць… Прычынай гэтага стала ты. Бо таго, што адбылося са мною, у той першы момант, калі я ўбачыў цябе, калі мяне, без перабольшання, як пішуць пісьменнікі, пранізала

маланка, калі ўсё ўва мне страпянулася і напялася, задрыжэла і затрымцела, ты не адчула… Мажліва, ты мяне ў той момант нават і не заўважыла. Вакол было шмат іншых аб'ектаў для тваёй увагі, мажліва, сярод іх быў і той, ад погляду на якога (і ад погляду якога) трымцела ўсё ў табе… Дык што тут заўважаць іншых. Хоць, кажуць, што жанчыны адразу адчуваюць, хто побач іх жадае… Можа быць, але ўбачыла мяне ты толькі потым, калі я сам падыйшоў да цябе. Тваёй памылкай было, што ты не адштурхнула мяне ад сябе адразу, а пакінула мне шанец. Чаму ты гэта зрабіла? Няўжо ты бачыла тады так далёка – аж да сёння? Няўжо адчула, што маё імкненне да цябе не проста жаданне разавага сэксу, а, як кажуць, сур'ёзнае пачуццё… Няўжо тыя токі, што йшлі ад мяне, тыя каханне і прага, усё ж зачапілі цябе? І ты не здалела адпіхнуць мяне жорстка і безнадзейна. Ты загаварыла са мной. Прынамсі, не адвярнулася з пагардай, а адказала. Дакладней, адмовіла, сказаўшы звычайныя ў такім выпадку словы: “Я не танцую…”. Проста адмовіла, так падумаў я, гатовы да ўсяго ўсялякага. А значыць… Значыць – ёсць надзея… Застаецца…

Так, я не адчуў тады тваю абыякавасць да мяне. Бо ўбачыў нібыта цікавасць, прынамсі, погляд твой ацэньваў мяне: так на руцэ пагойдваюць каменьчык, прыкідваючы колькі ў ім вагі… Я памыляўся, то не было цікаўнасцю з твайго боку. Ты для сябе адразу ўсё вырашыла. Імгненна ўзважыла і адкінула той каменьчык. Але – недалёка. Нават не так: не выкінула, а паклала ў кішэню. Бо іначай я сёння не пісаў бы гэты ліст. Зрэшты, ты зрабіла ўсё правільна, не магла ж ты ні з таго ні з сяго сказаць незнаёмаму чалавеку: пайшоў ты… і каб я побач з сабою цябе больш не бачыла… Ты была інтэлігентнаю дзяўчынаю, і таму я вырашыў тое, што хацеў: ты пакінула мне надзею. Бо я, убачыўшы цябе тады, адразу падумаў: “Мая…” Менавіта так, адразу і беззваротна, адразу і назаўсёды: такое бывае толькі раз у жыцці і словы гэтыя прамаўляе ў табе Бог… А потым, адыйшоўшы з адмоваю, вырашыў: “Ты будзеш маёй… не ведаю калі, але – будзеш!”

Колькі людзей сутыкаліся з тым, што калі нехта падабаецца табе, то найчасцей ты не падабаешся ёй (яму), і наадварот: калі ты падабаешся камусьці, то яна (ён) не падабаецца табе. Пра гэта пісаў некалі мудры Талстой: у каханні заўсёды так – калі адзін цалуе, другі (відаць, усё ж Талстой хацеў сказаць “другая”, прынамсі ў маім выпадку так, не ведаю, як у ягоным…) падстаўляе шчаку... Так, не вусны, а шчаку. Ты ж мне не падставіла нават шчаку. Зрэшты, мне і не хацелася тады тваіх вуснаў, мне хацелася проста прытуліцца да цябе, быць побач, і калі цалаваць дык тое пяшчотнае месцейка за вушкам, за тваім маленькім, абсыпаным дробным рабаціннем, вушкам, ад паху і водару, ад пяшчотнасці якога захлынаешся, і жыццё спыняецца… цалаваць тваю шыю, тваю тонкую, мілую шыю…

Не, думаць пра гэта немагчыма і цяпер… А тады…

Тады мне захацелася, каб ты пакахала мяне. Такога, які ёсць. Ці лепшага, чым ёсць (прыдуманага сабе), ці горшага, але – пакахала. Простай блізкасці з табою (сэксу) мне было мала, ды ты і не дазволіла б яго, а браць цябе сілай, скарыстаўшыся нейкай тваёй часовай слабасцю, я не хацеў, хоць і мог зарганізаваць такую сітуацыю. І тады, і пазней не раз. Аднак не адважваўся і не адважыўся. Бо адразу вырашыў: гвалт і ты – рэчы несумяшчальныя, каханне, толькі каханне. Узаемнае каханне.

Тут зноў памыліўся я. Бо думаў, што ў мяне наперадзе мора часу, што

ты нікуды не падзенешся, і я вазьму гэтую непрыступную крэпасць, гэтую цытадэль, гэтую цвержу – цярпеннем, чаканнем, увагай і… адданым каханнем… Хоць, паўтару, можна ж было прыспешыць той момант "кахання": не важна хацела ты яго ці не, не важна кахала ты мяне ці не, галоўнае, што я цябе кахаў, бо колькі ж людзей сустракаюцца і ствараюць сем'і, не кахаючы адно аднога… І жывуць, часам, нават у шчасці, не разводзяцца, і кажуць нават, што такія сем'і самыя трывалыя.

Дык вось, я не стаў шукаць мажлівасці зрабіць цябе сваёй, хацеў, каб ты сама зразумела, што лепей жыць з тым, хто кахае цябе, чым з тым, каго кахаеш ты, але ён цябе не кахае…

Я памыліўся.

Ты ад той першай сустрэчы ведала пра маю, ну, скажам так, неабыякавасць да цябе. І, мажліва, пакідала мяне сабе "на крайні выпадак". І жыла сваім жыццём, не зважаючы на маё каханне. Шукала сабе "больш дастойнага партнёра". Ха-ха… Я не вінавачу цябе: як і большасць дзяўчатак у тваім узросце ты шукала таго, хто спадабаецца табе і амаль не зважала на тых, каму падабаешся ты. А падабаюцца ў тым узросце эфектныя прыгажунчыкі, балбатлівыя і ў цэлым пуставатыя хлопцы, якія карыстаюцца тым, нібыта разумеючы, што потым усе гэтыя пекныя дзяўчаткі пяройдуць да разумных і багатых, але не самых прыгожых мужчынаў – такі рух кахання ў прыродзе – а яны ў свае трыццаць-сорак застануцца ні з чым, альбо з тоўстай непрыгожай жонкай, якой ім давядзецца толькі здраджваць з іншымі такімі ж непрыгожымі і тоўстымі…

Так і было: тыя, хто тады падабаўся табе, не мелі наконт цябе ніякіх перспектываў апроч адной – скарыстацца тваёй цягай да іх, пераспаць, затуманіць мазгі і жывіцца з тваёй спагады, пакуль ты не працверазееш альбо не запатрабуеш да сябе ўвагі большай, чым проста сустрэчы ў ложку… Тады імгненны разрыў, і зноў ты адна… Падманутая, спустошаная, але не расчараваная ў сваім пошуку смазлівага пустабрэха.

Я назіраў за гэтым збоку. Я нічога не мог зрабіць. Я ніякім чынам не мог паўплываць на цябе. Так, тут вінаваты я: за сваё каханне трэба было змагацца. Трэба… Але як? Мячык быў у тваіх руках. Ты ўсё ведала, бачыла, разумела. Аднак "пас аддавала" іншым. І любы мой крок на мяжы фолу мог скончыцца толькі тым, што я страціў бы цябе назаўсёды, стаў бы не проста незаўважальным, а ненавісным… Так думаў я, не забываючы пра цябе ні на хвілю і трымаючы ў полі зроку… І калі на трэцім курсе ты зацяжарыла ад свайго чарговага "захаплення", ці проста ад "прахадзімца", які ўскружыў табе галаву і скарыстаўся тваёй наіўнасцю, я, пэўна, перажываў ад таго больш, чым ты. Бо ён, зразумела, адразу ж кінуў цябе сам-насам з "тваёй" праблемай і табе нічога не заставалася, як зрабіць спарон…

Тыдзень ты адсутнічала, не хадзіла на заняткі. Усяго тыдзень. Але як сцягнуўся ён мне. Я нічога, нічога не мог зрабіць, нічым дапамагчы. Нічым… тым болей, пайсці да цябе ў бальніцу… Ты вярнулася ў інтэрнат са слядамі хваробы на твары і патлумачыла іх прастудай. Але прастуда не суправаджаецца нязвыклай бледнатою твару ад стратаў крыві… Зрэшты, здаецца, нікога асабліва твае праблемы не цікавілі і адны паверылі табе, а іншыя зрабілі выгляд, што паверылі, і на тым твая прыгода скончылася.

Ты стала больш асцярожнай. Ты, нарэшце, заўважыла мяне. Але… Па сабе ведаю: у чалавечай прыродзе ад пачатку закладзеная несправядлівасць, неадпаведнасць – як я ўжо казаў: ты звычайна кахаеш не таго, хто кахае

цябе, ты прапануеш вусны, а табе падстаўляюць… добра, калі шчаку… Так, ведаю тое і па сабе, бо не быў манахам і жыў у грамадстве ад якога, як сцвярджаў і падкрэсліваў адзін палітычны дзеяч – вольным быць нельга, немажліва… Ты мяне не заўважала, але заўважалі іншыя дзяўчаты, якія прапаноўвалі мне адкрыта і часам нават навязліва сваё каханне. Як ты іншым – тым, хто падабаўся табе. Я спачатку адпрэчваў памкненні тых дзяўчат, захоўваючы нібыта вернасць табе. І, каюся, некаторых пакрыўдзіў сваёю няўвагай. Мне і сёння сорамна перад імі за тое. А можа, то і не сорам нават, а проста позірк з узроставай вышыні назад і шкадаванне сябе дурнога ды неразумнага…

Асабліва няёмка перад тваёю ці не найбліжэйшаю сяброўкаю. Якая, відаць, проста пашкадавала мяне. Альбо была больш прагматычнаю, чым ты, і бачыла ўва мне перспектыву… Калі аднойчы мы з ёю засталіся адныя ў пакоі, для мяне – выпадкова, а яна, пэўна, і падрыхтавала гэты момант… і калі твая сяброўка, лежачы на ложку на спіне, стала цалаваць мяне і цягнуць на сябе, я адпіхнуў яе і сказаў, што ў мяне ёсць каханая і я не хачу ёй здраджваць… Хто гэта, перапытала яна: каму здраджваць? Ёй? Назвала тваё імя і засмяялася, за-ра-га-та-ла: ды ці ведаеш ты, што яна…

Мне зрабілася брыдка, аж да ванітаў, я не стаў яе слухаць далей, падхапіўся і выйшаў з пакою. І тым самым, разумею цяпер, нажыў сабе найстрашнейшага ворага, паўтаруся: ворага, у выглядзе тваёй найбліжэйшай сяброўкі. Жанчына, якую мужчына не ўзяў, якой нібыта пагрэбаваў, ніколі не даруе гэта і не забудзе сваю хвілінную ганьбу. Яна мне адпомсціла тым, што нашэптвала табе пра мяне розныя брыдкасці, што не дапусціла цябе да мяне... І яна адна з прычынаў таго, што мы ўрэшце не разам? Ці не так? Адбылося гэта яшчэ да твайго спарону, але, вядома ж, я і без яе падказкі разумеў, што са сваімі кавалерамі ты не толькі танцуеш на дыскатэках, што застаюцца яны ў цябе на ноч…

Не, не буду пра гэта. Бо размова тут не пра цябе. Як, зрэшты, і не пра мяне. Размова пра нас. І, хацелася б думаць, на нашым прыкладзе – пра стасункі між людзьмі, між жанчынай і мужчынам увогуле. Бо жыццё такая рэч, якая любіць паўтарацца аж да падрабязнасцяў. Бо ўвогуле варыянтаў кахання не так ужо і шмат, і ўсе іх можна пералічыць і класіфікаваць. Праўда, калі зыходзіць з аднога пасылу, што ўсё гэта робіцца з мэтай стварыць сям'ю, нарадзіць і выгадаваць дзяцей, а не проста дзеля любоўных прыгодаў, дзеля часовага задавальнення сваіх жаданняў, амбіцый, прыхамацяў, юру... А я ад пачатку, ад першых хвілінаў, думаў пра цябе выключна як пра маю будучую жонку, маці маіх дзяцей… Яшчэ і ў гэтым, відаць, была мая памылка… А таму іншыя варыянты "кахання" і адносінаў між мужчынам і жанчынай я цяпер аналізаваць і нават называць не буду, бо яны наўпрост выходзяць за межы таго пытання, якое задала мне ты – ці можа быць паміж мужчынам і жанчынай (хлопцам і дзяўчынай) простая дружба…

Я тады ўжо трохі цікавіўся будызмам і перада мною адразу паўстаў вобраз: дружба паміж мужчынам і жанчынай – гэта воплеск адною даланёю… Ты перапытала: што такое воплеск адною даланёю, ці можа такое быць? "Вось ты і адказала на сваё пытанне" – падумаў я, а табе сказаў: "Так, гэта тое, чаго не можа быць у прыродзе, але гэта ёсць: гэта каханне без узаемнасці, калі проста…" Але мне зноў захацелася пакінуць надзею. Не сабе – іншым… Воплеск адною даланёю – гэта ўсплеск рыбіны ў рацэ, гэта падзенне ліста на зямлю… Гэта настолькі ж рэальнасць наколькі абсурд… "Ты бачыла,

як падаюць лісты і як цесна прыціскаюцца яны сваімі далонямі да твару зямлі?” – спытаў я. Бачыла, але… ці ёсць гэта воплеск, а не філасофская аблуда, банальны, бо прыгожы, паэтызм?

Так, але… Гэтае заўсёднае але… Каханне з аднаго боку без узаемнасці, з другога – ты гэта хочаш назваць сяброўствам? Проста захаванне адносінаў, не ігнараванне табой мяне і ёсць сяброўства? Можа быць, аднак… Я ўсё роўна мяркую, што любая такая “простая дружба” паміж мужчынам і жанчынай павінна ўрэшце рэшт скончыцца ложкам (сэксам), альбо проста скончыцца… Так я лічыў тады, пры такой думцы застаюся і сёння, хоць пры ўсёй сваёй любові да цябе, я так і не скарыстаўся шанцам зацягнуць цябе ў ложак. Дзіўна, праўда. А ці можа такое быць? Мажліва, праблема ўва мне, мажліва, я не такі, як усе, ненармальны, ці, проста, быў выхаваны аж занадта правільна ў сваім далёкім ад сталіцы райцэнтрыку і дужа правільнай бацькоўскай настаўніцкай сям’і… Мажліва, чалавечае ўва мне перамагала жывёльнае… не ведаю, не ведаю… Але тое, што магло стацца, не сталася яшчэ і таму, што я заняў пазіцыю чакання, а не дзеяння. Так, чакання, а не дзеяння – і разумею гэта толькі цяпер. І звяртаюся да іншых закаханых – не рабіце маю памылку… Не чакайце, а дабівайцеся свайго. Дзейнічайце! Толькі… толькі зноў сумненні: як знайсці, як адчуць тую мяжу, за якой вашая напорыстасць пераходзіць у нахабства, у гвалт, я не ведаю – тут кожны павінен зразумець сам і не перайсці яе, гэтую мяжу, бо іначай – канец, разрыў, вынік якога непрадказальны і можа скончыцца… можа скончыцца нават… баюся казаць – самагубствам…

А тады, калі ўсім, і табе, стала зразумела, што я цябе кахаю, калі не заўважаць гэтае каханне стала немажліва, аднойчы, ці не па настойлівай прапанове сваіх сяброўак звярнуць, нарэшце, увагу на мяне, ты пагадзілася пайсці са мною ў кіно. Пайшла не дзеля цікавасці нават, а нібыта пад прымусам, пайшла дзеля адное мэты: нейкім чынам ахаладзіць мяне, даць зразумець, што ніякой надзеі ў мяне нават і не павінна быць… Але, усё ж, відаць, шкадуючы мяне, ці проста… не ведаю, дзеля інтарэсу… Калі мы ішлі дамоў, ты сказала мне: “Давай застанемся сябрамі…” Сказала сама, без нейкага зруху з майго боку. Бо я ішоў побач моўчкі. Я так і не прамовіў табе сваё “кахаю” і “не магу жыць без цябе”, не ўпаў на калені… Гэта ўсё нібыта падразумевалася, гэта ўсё і без падання на калені і прызнанняў было навідавоку. Невыпадкова ж ты загаварыла першаю. І менавіта вось так, без тлумачэнняў: давай застанемся сябрамі. Добрымі сябрамі, дадала ты. Нібыта можна быць кепскімі.

Пэўна, можна, але лепш тады ніякімі не быць…

Ці памятаеш ты гэты момант і гэтыя словы? Думаю, што памятаеш. І, думаю, і сёння, праз гады, не шкадуеш, што тады так сказала. Хіба што шкадуеш выключна з вышыні пражытых гадоў. Ды і не шкадуеш, можа, таго, што ў нас не атрымалася, а шкадуеш сябе самую, бо жыццё пайшло не так, як ты ўяўляла, як хацела, а са мною магло скласціся інакш… Магло? Зрэшты, ніхто не ведае, як яно склалася б са мною. Гэта праз дваццаць гадоў твайго жыцця без мяне і майго без цябе мы маем тое, што маем. І тут, відаць, не варта шкадаваць мне. Бо нічога добрага для мяне асабіста з нашага мажлівага сумеснага жыцця не выйшла б… Цяпер я магу ўявіць сабе, як магло б пайсці нашае сямейнае існаванне. Так-так, існаванне. Сімбіёзу не атрымалася б. Бо табе ўвесь час хацелася б іншага. Чагосьці таго, чаго я ніколі б не змог

даць табе, бо колькі б ні даваў – было б мала. А чаго не хапала б, чаго яшчэ табе хочацца, ты, мажліва, і сама не разумела б. Адсюль незадаволенасць – сабою, сваім жыццём, а значыць, мною. Сумняваюся, што было б у нас простае сямейнае шчасце. Якога так хацелася мне. Бо для мяне, не смейся толькі, шлюб – гэта яшчэ і элементарнае самазаспакаенне, надзейны тыл і ўпэўненая будучыня. Гэта стабільнасць. Гэта веданне таго, што я іду дамоў, дзе мяне чакаюць і будуць радыя мне. Сям'я, дом і шчасце ў гэтым выпадку для мяне сінонімы. Як і, зноў жа, упэўненасць у тым, што ў мяне ёсць пад нагамі аснова, грунт, глеба…

Ці было б у нас з табою ўсё гэта? І калі б было, то на чым бы яно трымалася, трывала? Няўжо выключна на маім каханні да цябе? І ці магло б яно, гэтае маё каханне, прайсці праверку часам і тваёй абыякавасцю да мяне? Тым, што нельга схаваць, што нельга іграць усё жыццё… І калі ў чарговы раз ты адвярнулася б ад мяне да сцяны і заплакала над сваёю "горкай доляй", што б заставалася рабіць мне? Напіцца?.. Гэта ў лепшым выпадку, у горшым – ты, сама не заўважаючы таго, пайшла б, мякка кажучы, па руках…

Можна падумаць, што, як казалі раней, сцярпелася б – злюбілася. Ты прывыкла б да мяне і прывычка гэтая перарасла б у простае шкадаванне мяне, перажыванне за мяне, клопат… Нездарма недзе глыбока ў Расіі, дзе былі распаўсюджаныя "сватаўство" і шлюб па прымусу бацькоў ці родных, што згаварыліся між сабою, як водгук простага продажу нявест у Сярэдняй Азіі ці мангола-татараў, дзе маладая, часам, упершыню бачыла свайго "абранага" толькі ў шлюбным ложку, казалі замест "кахаю цябе" – "шкадую цябе". Мажліва, і ты, назіраючы, як я стараюся жыць дзеля цябе і дзяцей, таксама з гадамі пачала б шкадаваць мяне. Але кахаць – ніколі… Калі ты думаеш, што я не адчуваў бы гэтага, то ты памыляешся. Яшчэ як адчуваў бы. І ў што гэта ўрэшце рэшт магло выліцца? Ва ўзаемныя папрокі ні за што, у раздражненне з нічога… І нарэшце, у жаданне пазбыцца ўсяго гэтага, забыцца на гэта, а значыць – у п'янку з майго боку. А дзе п'янка, там недалёка і да рукапрыкладства… Не са злосці, не з гора, а з тога адчування беспакаранасці і ўсёдазволенасці, што дае гарэлка: б'е, значыць любіць…

Ну як табе намаляваная карцінка нашага сумеснага жыцця?

Гісторыя не мае ўмоўнага ладу – бясспрэчная банальнасць… І ёсць тое, што ёсць, маем тое, што маем…

Так – ты не прыняла тыя мае заляцанні, спачатку рабіла выгляд, што не заўважаеш іх, а потым, калі не заўважаць стала немажліва, прапанавала застацца сябрамі. Што азначала для мяне – ад варот паварот… Гэтым разам канкрэтны і канчатковы, бо ў хуткім часе ты выйшла замуж ледзь не за першага сустрэчнага. То быў цяжкі для цябе час: скажам так, чалавек, на якога ты ўскладвала надзеі, якога кахала – шчыра і сур'ёзна, які падабаўся табе як мужчына, жорстка кінуў цябе. Ты засталася адна (тое, што недзе побач быў я, зусім і не згадвалася нават). І калі на дні нараджэння сяброўкі падвярнуўся не кепскі, здавалася б, хлопец, які адпавядаў тваім крытэрам "мужа" найперш знешне, а не па розуму, характары, адукацыі, выхаванні і г. д., бо гэта спазнаецца потым, які прычапіўся да цябе адразу ж, што і не дзіўна, бо на тле сваіх сяброўак ты выглядала проста шыкоўна (чаму ж цябе вылучыў і я некалі для сябе, варта сказаць…), ты выпіла – трошкі-трошкі, зусім нічога, але гэтага хапіла для смеласці падумаць сабе: а гары яно ўсё гарам! І кінуцца ў новае каханне з галавой, ды так, што вынырнуць з яго давялося ўжо цяжарнай… І праз некалькі месяцаў пасля "знаёмства" ты пайшла за зусім

чужога чалавека, але – за каханага, лічыла ты, і каханаю, спадзявалася ты… Наіўная…. Смешная… Дурное дзяўчо… Не з тваім шчасцем… Адрынуўшы мяне, ты была проста асуджаная на… тое ж самае: ты кахаеш таго, хто не кахае цябе… Таму што Бог не роўна дзеліць. І ў тым найвялікшая справядлівасць гэтага свету і рухальная сіла прагрэсу, цывілізацыі. Во як…

Але пакінем развагі, якія ўсплываюць тут, на потым.

Падумаем пра іншае: што заставалася рабіць мне, калі я атрымаў вестку пра тое, што ты ўжо “чужая жонка”?

Не, вядома, думак пра тое, што жыццё на гэтым скончылася, не было і блізка. Тым болей – пра самагубства. Але было такое адчуванне пустэчы і адзіноты… што, скажу тут, хай абсурдна і супярэчліва тое гучыць – жыць не хацелася. І яшчэ падагравала гэта пачуццё, што мяне падманулі. Так, падманулі, хоць ты мне ніколі нічога не абяцала. Пэўна, тую надзею я сам сабе ўнушыў, прыдумаў. Сам сябе абнадзеіў, таму і жыў чаканнем.

Так і было. Бо, я прызнаваўся ўжо: я спадзяваўся – нікуды ты ад мяне не падзенешся. Проста пройдзе час, і ты таксама адчуеш бязмежную адзіноту і згадаеш пра маё плячо… І я прыму цябе, нават здагадваючыся, нават ведаючы, што, мажліва, ты мяне не кахаеш, а выбіраеш паміж мною і самотай… Прыму з надзеяй, што сваім каханнем, пяшчотай і ўвагай растаплю той лёд, які існуе між намі.

Час прайшоў. Так – але мой час. Ну не склалася… І Бог з табою. Не я першы, не я апошні. Не склалася ў Анегіна з Тацянай, у Васіля з Ганнай і яшчэ ў сотняў, тысячаў літаратурных герояў і ў мільёнаў звычайных людзей… Такое дзіва. Але ў кожнага не складваецца па-свойму і кожны сам прымае рашэнне, шукаючы адказ на пытанне: як цяпер жыць далей?

Што мне заставалася рабіць? Я ўжо недзе прачытаў тады чыесьці словы: калі ты сапраўды кахаеш чалавека, то лепшае, што ты можаш для яго зрабіць – адпусціць на волю… У тым артыкуле не называлася, чые гэта словы, але яны запалі мне ў душу. І яшчэ: так супала, што якраз тады з’явіўся на экранах фільм з Еўсцігнеевым у галоўнай ролі, у якім ягоны герой, закаханы ў жанчыну, што выйшла замуж за іншага, больш практычнага, стаў “сябрам сям’і” сваёй каханай, а сам так і не ажаніўся. Добры фільм, “жызненны”, як казаў мой бацька, і, гледзячы яго ды разам з усёй залай шкадуючы проста цудоўнага чалавека, якога класна іграў Еўсцігнееў, я сказаў сабе: ты што, хочаш быць такім, як ён? Ты хочаш пражыць у адзіноце побач з каханай дзеля каханай, як заўсёдны дакор ёй (сабе!) і быць пасмешышчам для ўсіх знаёмых і найперш для ейнага мужа? Не! Выкідвай з галавы думкі пра яе. Пастарайся забыцца. Знайдзі сабе іншую жанчыну…

Лёгка сказаць: забудзься. Я, можа б, і забыўся, але што рабіць са снамі? А ў снах ты прыходзіла да мяне. Мы размаўлялі, мы… там была мая сапраўдная сям’я, там мы жылі сям’ёй… і як цяжка было ранкам прачынацца і не бачыць цябе побач. Ты не ўяўляеш, ты нават уявіць сабе не можаш, як гэта невыносна… Бо я не камандзір сваім снам… Я не магу загадаць чаму сніцца, а чаму не. Яны прыходзяць да мяне самі і яны добрыя, пакуль я ў іх уладзе. Але я прачынаюся, і ў ложку побач са мною пуста. Вось толькі ты была тут і – няма… Ці можаш ты ўявіць сабе, як гэта цяжка, невыносна цяжка, і як хочацца зрабіць нешта, каб гэта скончылася. І паколькі зрабіць з табою нічога немажліва цяпер, ужо нават пераступіўшы праз сябе, праз свае дурныя прынцыпы, то трэба рабіць з сабою…

Але – ёсць Бог на свеце. Прынамсі, для мяне – ёсць. Прабач за нясціпласць, ён убачыў мае пакуты, маю шчырасць і ён – дапамог мне. Прайшло ўсяго некалькі месяцаў пасля твайго вяселля, як я сустрэў дзяўчыну, ва ўсім падобную да цябе. У першы раз ува мне нават нешта скаланулася: не можа быць? Падабенства было знешнім – само сабой – але самае важнае, што ад яе зыходзіла энергетыка падобная да тваёй. Можна было заплюшчыць вочы побач з ёю, і не трэба было нават прымушаць сябе думаць, што я з табой… Ці трэба казаць, што ў хуткім часе мы пабраліся. І я, здавалася, забыўся пра цябе, купаючыся ў сваім шчасці. Мажліва, і праўда, забыў бы надоўга, мажліва, і назаўсёды…

Гэта я супакойваю сябе – не, не забыўся б, вядома. Трэба прызнацца сабе – такое не забываецца. Забываецца, калі ты кагосьці кідаеш, а тое, што кінулі цябе – не забываецца, яно стрэмкай сядзіць праз усё жыццё. І паколвае час ад часу нават тады, калі ты і не падазраеш пра яго існаванне. Так, але ў мяне быў іншы выпадак: у нашым калектыве працавала жанчына, цётка тваёй маці, якая даведалася нейкім чынам, што мы з табой былі знаёмыя. Больш за тое – што я безнадзейна кахаў цябе. Ці ад маці, ці ад цябе, але даведалася, бо пачала пры сустрэчах казаць пра тваё замуства. Няўдалае ад пачатку. Мала таго, што муж твой вельмі хутка здаволіўся тваім каханнем, дык яшчэ і жыць давялося ў адной кватэры са свякрухай, якая бачыла нявесткай іншую, і была ад пачатку супраць таго, каб сын браў цябе. Ужыцца нявестцы са свякрухай (як і зяцю з цешчай, між іншым) пад адным дахам, заўсёды цяжка. Але ў тваёй сітуацыі іншага выбару не было. Уяўляю, што гэта такое, жыць побач з чалавекам, які ненавідзіць цябе і лічыць вінаватай ва ўсім. Ды каб жа гэтая нянавісць была бяздзейнай – колькі подласцяў давялося перажыць табе ад свякрухі, колькі прыдзірак на пустым месцы, якія асабліва крыўдныя, калі ні за што… не тое купіла, не так згатавала, не туды паставіла… не так паглядзела, не туды села, не там стаіш…

Божа мой, як часам здзекуецца з нас лёс… Хочацца, як лепей, а атрымліваецца… як заўсёды – легендарная формула, што праходзіць праз усё нашае жыццё. Ніхто з нас не жадае сабе кепскага і стараецца выбіраць, калі ёсць выбар, тое, што, як яму падаецца, не проста больш падыходзіць, а за чым будучыня, светлая будучыня. Прычым найчасцей робіцца гэта інтуітыўна, бо галава да таго часу перастае ўжо працаваць. Зрэшты, відаць, мы ў гэты момант ужо не робім выбар, а проста аддаемся на волю плыні, якая нясе нас наперад у абдымкі таго, ад каго (да каго) сыходзіць найбольшае прыцягненне. Да таго, без каго, як нам здаецца, мы жыць далей не зможам… Найчаста мы ў гэты момант памыляемся, але не заўважаем гэтага. Як і не заўважаем шчасця свайго, што знаходзіцца побач… Кідаемся ў жорсткія абдымкі лёсу, каб потым, праз год, праз два, праз дзесяць наракаць на яго, але не мець сілаў нешта змяніць, бо на руках дзіцё, бо няма кватэры, бо з грашыма праблема…

Карацей, канчаткова страчваем тое, што было для нас воляй, свабодай, і трапляем у прыгон не да абставінаў, не, гэта пераадольна пры жаданні, а да саміх сябе і сваіх “каханых”…

Тут мне падумалася раптам: я заўсёды быў супраць гэтак званых “грамадзянскіх шлюбаў”, папулярных не адзін дзясятак гадоў на Захадзе і мода на якія цяпер прыйшла да нас. Шлюб гэты, зноў жа, падманнае слоўка, бо ніякі гэта не шлюб, гэта проста сумеснае жыццё хлопца і дзяўчыны (дакладней ужо – мужчыны і жанчыны) з усімі выцякальнымі з яго падрабязнасцямі, але з мажлівасцю ў любы момант разысціся без аніякіх абавязкаў, калі нешта не

атрымалася ў іх сумесным жыцці, не прыцерлася, не прыцярпелася… Вядома, некаторыя карыстаюцца гэтым, каб проста мець стабільны сэкс, ні чым не рызыкуючы. Асабліва хлопцы – хацелася сказаць мне, бо так ужо ў нас павялося, нібыта недаацэньваць пры гэтым жанчыну, прымаючы яе за аб'ект і зусім не ўлічваючы, як казаў Карамзін, што і "сялянкі кахаць умеюць", што і жанчыны (дзяўчаты) таксама хочуць сэксу не менш за мужчынаў і на тым трымаецца прырода і працяг роду… Тут ужо вінаватае нашае савецка-постсавецкае выхаванне і… класічная расейска-савецкая літаратура, супраць якой паўстаў неяк Віктар Ерафееў, сказаўшы, што і Наташа Растова (Таццяна Ларына) трахацца хацела(і) не менш за Андрэя Балконскага (Яўгена Анегіна), але Талстой (ды Пушкін), сам(і) далёка не анёл(ы), зрабіў(лі) з яе(іх) лялечны(х) персанаж(аў)… То бок, "грамадзянскі шлюб" – гэта такая знаходка сучаснага грамадства, якая задавальняе абодва бакі, робіць сэкс даступным, бяспечным і нібыта "законным". Мне падаецца, што гэта вынік эмансіпацыі і змагання жанчын за гендэрнае раўнапраўе, што гэта прыдумка жанчын, бо служыць яна найперш ім, бо ў ранейшых, патрыярхальных (слова якое, га!) грамадствах такое сумеснае жыццё зганьбіла б дзяўчыну назаўсёды… А мужчынам гэтакі свабодны ад абавязкаў сэкс спадабаўся адразу і яны не супраціўляліся ні хвіліны…

Чаму я быў супраць? Ды таму, што на Захадзе, захапіўшыся гэтым, мужчыны і жанчыны пачалі мяняць па некалькі партнёраў аднаго за адным, зусім забыўшыся пра тое, што ў нармальнай сям'і павінны быць дзеці, бо менавіта сумесныя дзеці маглі стаць тым, што скоўвала іх свабоду і ад чаго яны найперш адмовіліся. А калі апамяталіся, то ім ужо за сорак… І позна дзяцей заводзіць, трэба цяпер дажываць жыццё ў адзіноце. Дэмаграфічныя праблемы, змяншэнне насельніцтва, перавага колькасці пенсіянераў над колькасцю дзяцей, якія мае сёння "белае" заходняе грамадства, вынік якраз захаплення тымі самымі "грамадзянскімі шлюбамі".

Чаму я цяпер "за"? Ды таму, што "грамадзянскі шлюб" дае магчымасць выправіць памылку. Памылку маладосці, нявопытнасці альбо памылку першапачатковага асляплення каханнем, ці, як мы дамовіліся казаць у такім выпадку, жарсцю. Сумеснае жыццё ацвяражае. І даволі хутка. Калі вас не звязвае нішто: ні шумнае вяселле, на якое бацькі патрацілі вялізныя грошы, ні сорам перад сваякамі, якія так шчасліва вас віншавалі, ні штампік у пашпарце, ні, тым болей, дзеці, кватэра etc…, то вам нішто не перашкодзіць сабраць свае рэчы і разбегчыся, няважна – праз дзень, праз месяц, праз год "сумеснага" жыцця. І працягнуць пошук годнага партнёра альбо звярнуць увагу на таго, хто даўно чакае вашага прыязнага позірку ў адказ…

Як я пісаў вышэй, я ведаю, што табе хапіла некалькіх месяцаў, каб зразумець, што ты памылілася, што тваім абраннікам на ўсё астатняе жыццё (жах!) стаў чалавек, з якім у вас, мякка кажучы, няма нічога агульнага, апроч... дачкі, якая вось-вось павінна нарадзіцца і з якой табе няма куды падзецца ў гэтым горадзе, бо кватэра чужая… Ты схапілася за саломінку, якую працягнула табе маці: маўляў, так заўсёды бывае напачатку, усё ж сыходзяцца абсалютна чужыя людзі, з рознымі звычкамі, але пройдзе час і вы прытрэцеся адно да аднаго, прывыкнеце, навучыцеся разумець адно аднаго, саступаць адно аднаму. "Ну куды ж табе дзявацца, дачушка, пацярпі…" І ты стала цярпець і чакаць разумення ды спагады ў адказ. Бо ты ж яго, гэтага чалавека, ка-хала. І ён, здаецца, выбраў цябе сярод іншых не вы-пад-ко-ва, а пра нешта думаючы. Значыць, ёсць надзея…

Была. Цяпер ужо можна сказаць так. Бо далейшае жыццё вас раз’яднала яшчэ больш…

Ты хацела затрымаць яго, вярнуць і праз колькі гадоў нарадзіла яму яшчэ адну дачку, ужо ведаючы, што ён мае каханку.

Ты кінулася з галавой у працу, як у выратаванне.

Ты працягваеш з ім жыць... Ведаючы, што ён адкрыта здраджвае табе, што здзекуецца з цябе: якая ты не гордая, маўляў… Вяртаючыся ранкам ад чарговай каханкі, ён смяецца з тваіх слёз і кажа: ну і ты завядзі сабе хахаля – дазваляю… Раўнаваць не буду.

Я ведаю гэта, зрэшты, тут дакладней будзе – ведаў гэта. Ад той самай цёткі. Але як ты думаеш я тое ўспрымаў? Прызнаюся шчыра – недзе там, глыбока ўва мне жыла… радасць… маўляў, так табе і трэба… Гэта табе за тое, што ты не прыняла мяне… Але я гэтую радасць у сабе ненавідзеў і ўсяляк душыў, высяляў, вытручваў з сябе, не выпускаў на паверхню, бо іншае пачуццё – шкадавання цябе было мацнейшым… Бо ведаў я і разумеў: дзверы ў каханне вузкія-вузенькія, цяжка ў іх праціснуцца, у адрозненне ад дзвярэй у сэкс, якія шырокія-найшырокія – бокам каціся… Калі кахаеш, бачанне тваё сціскаецца да аднаго чалавека, а для сэксу – прастора пашыраецца на ўсіх… Асабліва цяпер, калі можна ўсё… Калі мужчына з мужчынам, а жанчына з жанчынай адкрыта ствараюць сем’і… Шчаслівыя сем’і, бо яны маюць тое, чаго хацелі. І чаго не маеш ты… А таму, паўтаруся, я, ведаючы твае жыццёвыя праблемы, шкадаваў цябе і спачуваў таму, што быццё тваё не склалася, бо няма для жанчыны большага гора на зямлі, чым бясконца трываць і жыць з тым, хто цябе не проста не кахае, а ігнаруе, пагарджае табой і нахабна здраджвае табе...

Між тым, маё асабістае жыццё цякло шчасліва. Жонка нарадзіла мне файных дзяцей – дачку і сына. Урэшце, мяне перавялі на працу з райцэнтра ў сталіцу, у той горад, у якім жыла ты, і дзе марыў жыць я – некалі разам з табою, а цяпер – хай і без цябе…

Так, зноў мы пабачыліся, калі я вярнуўся ў той горад, дзе мы вучыліся і дзе жыла ты. Я цябе не шукаў, хоць і ведаў, што ты тут, недзе зусім блізка. Я пераязджаў сюды не дзеля цябе, як магло быць раней. Я супакоіўся, змірыўся з тым, што страціў цябе назаўсёды. Хоць, прызнаюся шчыра, як пра чужую я пра цябе ніколі не думаў – пасяліўшыся ў маім сэрцы аднойчы, ты засталася ў ім назаўсёды і не-не ды і ўспаміналася міжволі... Ёсць раны, якія не загойваюцца і час не лечыць, павер мне, калі сама такога не перажыла.

Ты даведалася, што я вярнуўся ў горад сваёй мары і, нібыта выпадкова, разам з сяброўкай – нашай аднакурсніцай, якая “ледзь не сілай зацягнула” цябе – зайшла да мяне на працу. Прайшло на той час крыху менш за дзесяць гадоў, як мы рассталіся і раз’ехаліся ў розныя гарады. Ты яшчэ амаль не змянілася, заставалася той жа маладой і прыгожай. Вабнай. І, зразумела, ты разбудзіла ўва мне тыя пачуцці, якія я так гнаў з сябе, пра якія хацеў забыцца… але якія жылі ўва мне (прызнаюся, жывуць па-сёння і не памруць ніколі), паралельна нічым пра сябе не нагадваючы… Я зноў гатовы быў кінуцца ў апраметную кахання з галавой, забыўшыся на ўсё…

Але ты спыніла мяне сваёй… халоднасцю і… абыякавасцю… Паказнымі, а не ўнутранымі. Не адмаўляйся, ты ж не выпадкова прыйшла да мяне, і менавіта ты падбіла сяброўку прыйсці, і ішла з пэўнаю мэтаю, а, прыйшоўшы, зноў паддалася жаданню пагуляць са мною, як гуляецца, прабач за тое ж

параўнанне, котка з мышкаю, ведаючы, што тая нікуды ад яе не падзенецца. І адкуль гэта бярэцца ў чалавеку? Няўжо тады яшчэ такімі блізкімі былі студэнцкія ўспаміны?.. Але ты не ўлічыла, што я ўжо быў іншым. Што і ўва мне прачнулася, не – вырвалася на волю, годнасць, якую я душыў у сабе ў ранейшыя гады, прыдумаўшы сабе выйсце, што я падбяру цябе любую і буду кахаць… Заўважыўшы тваю паказную абыякавасць (і чаму так бывае заўсёды, чаму людзі наблізіўшыся да таго, чаго жадалі, раптам робяць не тое, што трэба было б рабіць у гэты момант – я і пра цябе, і пра сябе кажу – а пачынаюць выпендрывацца…), я замест таго, каб зразумець часовасць і дурноту яе, гэтай абыякавасці, раптам сам упёрся, маўляў, падумаеш: абыходзіўся без цябе і абыйдуся… А тады, цяпер думаю, яшчэ не позна было нам паспрабаваць… скажу так – выправіць памылку маладосці.

Тут напрошваецца яшчэ адное адступленне: чаму мы з табою такія нешчаслівыя? Ёсць жа на свеце людзі, якім шанцуе адразу і назаўсёды сустрэць сваю палову (менавіта палову: не проста ж так Бог спачатку падзяліў нас, каб потым спалучаць) і пражыць з ёю ў згодзе ўсё астатняе жыццё. Я ведаю дзясяткі такіх выпадкаў сярод маіх знаёмых, для якіх першае каханне стала ўзаемным і якія, не перажыўшы ніякіх пакутаў і згрызотаў, ніякіх сумненняў і расчараванняў, не падазраючы нават, што гэта можа быць, пабраліся ледзь не адразу пасля сканчэння школы і жывуць у сваім шчасці па сёння. Ад чаго гэта залежала? Чаму яны не заўважаюць, што вакол іх дзясяткі, сотні, тысячы лепшых і прыгажэйшых за іхніх адзіных абраннікаў? Яны што – разумнейшыя за нас ці хітрэйшыя? Ці ім сапраўды проста пашанцавала знайсці адно аднаго…

Зрэшты, што мне скардзіцца, мне ж таксама ўрэшце рэшт пашэнціла… І я абсалютна не адчуваю сябе ў нечым абдзеленым.

Ці не азначае гэта, што па вялікім рахунку ўсё ў гэтым жыцці залежыць выключна ад нас саміх, што Бог (лёс) дае нам права выбару і важна толькі дакладна ацаніць сітуацыю, узважыць і абраць адзіна правільны шлях. Падобна, што так. Але намі самімі найчасцей кіруе не розум (Бог), а пачуцці (Д’ябал), і мы, разумеючы, што памыляемся, робім крок не да таго, што варта і трэба, а да таго, чаго нібыта хочацца… Згадваецца адзін мой знаёмы студэнт па прозвішчы Студэнт, якому прысьпічыла пабрацца з дзяўчынай, пра якую ведалі ўсе, што яна прасталытка і спіць з замежнікамі-мурынамі. Сябры казалі яму пра тое, а ён адказваў: ды ведаю я пра гэта, але – кахаю яе і жыць без яе не магу… (Чаму выходзіла замуж яна і на што спадзявалася для ўсіх так і засталося цемрай). Як ты думаеш, ці быў доўгім і шчаслівым іхні шлюб? Так, не прайшло і месяца, як ён не дачакаўшыся яе дома, знайшоўшы ў тым самым інтэрнаце, у тых самых мурынаў, сышоў… Добра, што хоць хапіла мужнасці не засіліцца і не скочыць з дзясятага паверху інтэрната нумар сем БДУ, што на вуліцы Кастрычніцкай.

Кажу – мне пашанцавала, але колькі ў тым шанцы было ўласна шанцу і колькі разліку (альбо розуму) з майго боку і з боку маёй будучай жонкі?

Дык што, і сапраўды – самыя шчаслівыя шлюбы на свеце тыя, што не па каханні, а па разліку?

Але я зноў адышоўся далёка ўбок. Вяртаюся не ў пачатак, а ў сярэдзіну гэтага ліста, хоць варта было б ужо нейкім чынам яго заканчваць, каб не заблытацца зусім, не кінуць пісаць яго і не заплакаць “скупой мужчынскай слязою” над лёсам сваім і жыццём, якое, удаўшыся ў цэлым, сталася не

такім, пра якое марылася… Справа ў тым, што думаючы пра цябе на доўгіх калідорах інтэрната, у стадолах аўдыторыяў, у бяссонным ложку – я пачаў пісаць вершы. Гэта не дзіва. Звычайная справа. Да пэўнага часу я іх нікому не паказваў. Ніхто нават і не здагадваўся пра тое. Ніхто, відаць, і падумаць не мог, што на мяне найшло такое ачмурэнне. Вершы былі, зразумела ж, пра… каханне. Пра безнадзейнае і безвыходнае, але ўсё ж часцей – нібыта ні пра што, бо я такім чынам хацеў закумуфляваць, "засакрэціць" яго. Я не збіраўся тыя вершы камусьці паказваць, тым болей недзе друкаваць, але аднойчы выкладчыка літаратуры на "пары" невядома што пацягнула за язык сказаць, што "ў вашым узросце ўсе пішуць вершы". І калі ў адказ прагучала гучнае "не-е!", ён паабяцаў усім, хто на іспыт прынясе свае вершы, паставіць пяцёрку "аўтаматам". У той год я быў камандзірам факультэцкага будатрада, рыхтаваў "байцоў" да ад'езду ў Сібір і перад самай сесіяй паехаў ажно за Краснаярск, каб заключыць дамову з "прымаючай арганізацыяй". Па дарозе назад затрымаўся ў Свярдлоўску, бо білетаў да Мінску (да Масквы нават…) не было, і таму вярнуўся дамоў толькі ў дзень іспыту. Мне нічога не заставалася, як панесці выкладчыку свае вершы, каб атрымаць абяцаны "аўтамат". Ён абыякава прыняў іх, стаў чытаць… Потым гэтаксама абыякава ўзяў залікоўку і паставіў "пяцёрку". Не сказаў нічога, але вершы пакінуў сабе. Я не адважыўся запатрабаваць іх назад, маўляў, бяры, я сабе яшчэ напішу… А ён аддаў іх у "Маладосць". І праз паўгода вершы надрукавалі. Ты памятаеш, гэта сталася самай абмяркоўваемай падзеяй на нашым курсе.

Але, ты не паверыш, пасля развітання з табой я не напісаў ніводнага верша. Так і застаўся дэбютантам, які прашумеў па вершалінах задзірыстым ветрыкам і знік. Відаць, не маё гэта было… Кінуў паэзію, а мог бы стаць адзіным паэтам на зямлі, які так і не пераспаў са сваёю музай… Пэўна, таму і кінуў, што не… Сталася так, што лёс павярнуўся да мяне іншым бокам, зусім не творчым, і я зміры̆ўся з тым.

Такім чынам, у цэлым, жыццё маё наладзілася і без цябе. І ўсё было б добра, калі б не адно: чым болей праходзіць часу, чым бліжэй старасць, тым ясней і яскравей я адчуваю, як мне цябе не хапае… Што побач са мною – не мая палова, што мая палова – гэта ты… І праклінаю сябе, што не здолеў некалі дабіцца шчасця існавання хоць бы для аднаго чалавека з нашай троіцы: цябе, мяне і маёй жонкі – для сябе самога… не ведаю, ці пачувае сябе шчаслівай мая жонка, ці мае яна побач з сабою тое, чаго хацела. Сумняваюся, бо не можа яна не адчуваць той холад, які часам ідзе ад мяне. Мажліва, я яе зрабіў не шчаслівай, а наадварот – няшчаснай. Мажліва… Але я тут супярэчу сам сабе: для майго шчасця мне няважна было, кахаеш ты мяне ці не, галоўнае, што я цябе кахаў і ты была побач. Хочацца верыць, што для маёй жонкі ёсць нешта падобнае (яна кахае мяне незалежна ад таго, кахаю я яе ці не і тым шчаслівая), бо не магу браць на душу грэх за сапсаванае ейнае жыццё, якое магло б быць шчаслівым з абсалютна іншым чалавекам… Зразумела, калі б яна знайшла менавіта яго, а не кагосьці іншага яшчэ горшага, чым ёсць я… Пра тое, што думаеш ты, я магу толькі здагадвацца, бо ніколі мы не размаўлялі на гэтую тэму, а я, каюся, хацеў бы адкруціць гады назад, вярнуцца ў тое студэнцкае юнацтва і… Цяпер я ведаю, што і як трэба было рабіць, але, на жаль, дарогі ў мінулае яшчэ ніхто не знайшоў, а "машыну часу", калі і прыдумаюць, дык толькі пасля нашай смерці, і не для такіх, як мы, смяротных…

Ты памятаеш нашае апошняе развітанне? Тады, адразу па сканчэнні інстытута? Я цябе праводзіў у твой родны гарадок. Гэта было больш за дваццаць гадоў таму – тады, калі мне яшчэ верылася, што пройдзе пару тыдняў, і ты будзеш маёй. Я быў сляпым кацянём і ні пра што не здагадваўся. Ты ўжо ведала аб тым, пра што я і падумаць не мог. Ты ведала, што выходзіш замуж, але не за мяне, бо той няшчасны дзень народзінаў сяброўкі ўжо адбыўся. Ты мне сказала: "Прабач..." – і хуценька пабегла да аўтобуса. Я стаяў разгублены, я не разумеў, за што ты ў мяне папрасіла прабачэння. Чаму раптам ты сказала "Прабач...", і чаму мы не дамовіліся пра новую сустрэчу...

Пазней я зразумеў – тады нашыя шляхі разышліся назаўсёды. І як бы мы сёння ні стараліся зблізіцца, нам не ўдасца гэта зрабіць. Бо мы цяпер зусім не тыя, што былі два дзясяткі гадоў таму. Ад тых нас нічога не засталося нават у нас саміх. І снег падае цяпер не такі белы, і дождж ідзе не такі шчаслівы. Дрэвы нам радуюцца, але новай радасцю – сонца свеціць, але і яно не засталося тым самым, і поўня на небе іншая... Нават сонца і поўня пастарэлі разам з намі. Няма ўжо побач бацькоў нашых. І нас саміх жыццё пакрэмзала і сапсавала непапраўна...

Затое ёсць дзеці – твае і мае, але не нашыя... Некалі, студэнтам, нібыта прадбачачы сітуацыю, я напісаў вершык, у якім сустракаюцца нашыя дзеці – твая дачка і мой сын. Сустрэліся і – ён закахаўся ў яе, а яна ў яго... Цяпер мы можам сказаць, што такое абсалютна можа быць: у цябе ёсць дачка, у мяне ёсць сын...

І я жадаў бы ім шчасця.

Навошта я ўсё гэта пішу? Мне няма ў чым апраўдвацца перад табою, а табе – перада мною. Мы, як ты і хацела, засталіся сябрамі. Толькі сябрамі... Дык ці трэба вярэдзіць старыя раны? Можа, у тым, што мы не разам і ёсць найвышэйшая справядлівасць лёсу, а можа – пакаранне за нашыя грахі, пра якія мы не ведаем і не здагадваемся...

Заканчваю. Бо адказаць на тваё пытанне можна было б літаральна некалькімі словамі:

Ты пытаеш, ці можа быць дружба паміж мужчынам і жанчынай?.. Застаюся пры сваёй думцы: не, не можа... Можа быць толькі тое, чаго ніколі не было і не будзе паміж мною і табою, паміж намі – сэкс...

Я прачытаў ліст і заплюшчыў вочы. Сядзеў склаўшы рукі і лавіў сябе на думцы, што мне хочацца, нясцерпна хочацца знайсці аўтара яго ці хоць бы таго (тую!), каму ён прызначаўся. Мне падалося гэта важным. Мне чамусьці здавалася, што не можа такі ліст быць проста выкінутым. Магчыма, спрацоўваў сорам за ранейшыя грашкі – што чытаў я некалі чужыя лісты і насміхаўся, кпіў з іхніх аўтараў ды герояў... А магчыма, мяне проста зачапіла адкрытасць аўтара ліста: падумалася, ёсць жа яшчэ ў нас такія чыстыя і шчырыя людзі. Сентыментальныя і сціплыя... Рамантыкі... Якія праносяць сваё пачуццё праз усё жыццё і жадаюць толькі аднаго: не запляміць яго, захаваць цнатлівае цнатлівым.

Ну а калі гэта не ліст, а апавяданне ці пераклад чыйгосьці твора, дык тым болей трэба знайсці аўтара, бо такой чужой працы шкада не менш за сваю.

І ўсё ж я вырашыў лічыць, што гэта ліст. Мне прыемней было так думаць. І гэта прымушала дзейнічаць: шукаць таго, хто яго напісаў, каму ён належыць. Але як знайсці яго ў двухмільённым горадзе – канверта ж з адрасам не было. У лісце таксама няма ніякіх згадак, а тым болей – імёнаў і прозвішчаў. Ды і сітуацыя самая распаўсюджаная: няспраўджанае студэнцкае каханне... Я яшчэ раз перагледзеў ліст, ці не захавалася на ім якіх-небудзь пазнак. Няма. Пагартаў кнігу і на вокладцы ўбачыў амаль сцертыя лічбы. Спачатку я падумаў, што гэта нейкае абазначэнне, зробленае ў кнігарні, нейкі код. Але, прыгледзеўшыся, каб займець хоць нейкую надзею, прымусіў сябе думаць, што гэта нумар тэлефона. Надта ж неахайна, паспешліва быў зроблены надпіс. Сапраўды, яго можна было палічыць за тэлефонны нумар, тым болей, што лічбаў было адзінаццаць і пачатковыя якраз і акурат – 8029...

Я доўга сумняваўся, перш чым набраць нумар і патурбаваць невядомага мне чалавека. Што сказаць? З чаго пачаць размову? Калі, у які момант згадаць пра ліст? І, галоўнае, ці варта ўвогуле распачынаць пошукі? Ліст выкінуты, як непатрэбны... І добра, калі гэта ліст. А можа, гэта – пераклад апавядання нейкага замежнага аўтара, якое я не чытаў, хоць яно даўно надрукавана ў адным з часопісаў ці кнізе... Аднак змест закрануў мяне за жывое і не адпускаў: а раптам і сапраўды такія людзі ёсць і тэкст быў выпадкова згублены. Усё ж падаўся ён мне неардынарным, прытым напісаным, безумоўна, чалавекам творчым і цікавым. Ну а калі гэта не нумар тэлефона, дык Бог з ім, як кажуць у народзе: за папытанне не даюць ні ў каршэнь, ні снядання... Ну памыліўся чалавек, бывае. Ну і хай сабе... А таму прыйшоў момант, калі я здаўся і набраў знойдзеныя лічбы – ні на што не спадзеючыся: хто ж будзе запісваць свой нумар тэлефона на кнізе. “Свой, вядома – не, але кагосьці знаёмага, можа...”, – думаў я, пакуль ішлі гудкі.

На тым баку азвалася жанчына, ці – дакладней – дзяўчына, вельмі ж маладым падаўся мне голас, бо чакаў я іншага: мяркуючы па лісце, ягоным героям павінна быць, як мінімум, пад пяцьдзясят...

– Даруйце, што патурбаваў вас, – пачаў я з моцнымі выбачальнымі інтанацыямі, каб не адпалохаць невядомую, – але прашу выслухаць мяне. Ваш нумар я знайшоў на вокладцы кнігі (казаць, дык праўду, думаў я, што ўжо тут выкручвацца), якую купіў у букіністычнай кнігарні і, разгарнуўшы, знайшоў у ёй, як мне падаецца, важны ліст...

– Я ніякіх кніг ніколі ў букініст не здавала...

– Разумею, але... Можа, гэта зрабіў нехта з вашых знаёмых? З тых, каму вы давалі свой тэлефонны нумар і ён, не маючы пад рукамі паперы, запісаў яго на кнігу... Не памятаеце такога выпадку? Мо недзе ў метро. Ці ў тралейбусе... Нумар жа ваш...

– Не, нічога такога не памятаю... Здаецца, ніколі такога не было.

– Асмелюся коратка пераказаць вам змест ліста. Магчыма, вы пазнаеце жыццёвыя факты каго са знаёмых.

– А што за кніга? Як хоць яна называецца?

Так, падумаў я – я ж так ні разэчку і не згадаў, што гэта за кніга. А сапраўды, кніга ж адметная – не кожны яе будзе купляць, чытаць, а тым болей, потым здаваць... Гэта ж не Акунін ці Марыніна, і не школьная праграма... Мяркуючы па ўсім, кніга належала... нейкаму філолагу... (Так-так, у лісце ж і гаворыцца пра філфак БДУ...) І яна сапраўды магла даць

след. Кніга была не навуковай, што шкада, але спецыфічнай – Віктар Шклоўскі, “Повести о прозе”.

– Прабачце, але вось так адразу сказаць у каго я бачыла такую кнігу – не магу. Але дакладна – гэта не мая, я такое не чытаю... І сябры мае таксама...

– Яшчэ раз даруйце, што патурбаваў... Вось змест ліста, магчыма, ён што-небудзь праясніць і патлумачыць...

І я пераказаў, пераскокваючы з пачатку ў канец і з канца ў пачатак, біяграфічныя звесткі герояў ліста.

Дзяўчына, зразумела, нікога са сваіх знаёмых не пазнала. На тым мы і развіталіся.

Больш зачэпак у мяне не было, і я прымусіў сябе забыцца на ліст. Але праз некалькі дзён мне патэлефанавала тая самая дзяўчына.

– Ваш званок быў вельмі незвычайным, – сказала яна, – і я распавяла пра яго маме. І, ведаеце, яна пазнала мужчыну, які пісаў гэты ліст. Магчыма, пазнала. Гэта не дакладна, але... Падобная сітуацыя была ў яе студэнцкія гады. Адзін аднакурснік кахаў яе сяброўку, а яна яго не. Звычайная рэч, звычайны трохкутнік і такое могуць згадаць ці не ўсе студэнты. Але... Яна кажа, што сустрэла гэтага чалавека месяц таму ў метро, спяшалася да выхаду і – так бывае – на развітанне не магла ўспомніць свой нумар тэлефона і назвала мой, які ён запісаў на вокладку кнігі...

– Цікава, цікава... А можа, і ён назваў ёй свой?..

– Не, якраз не. Яна не паспела б запісаць: выходзіла ўжо... Але яна памятае, як яго завуць – хлопцы ў адрозненне ад дзяўчат прозвішчы не мяняюць – і вы зможаце лёгка яго знайсці пры жаданні...

“Слаўная дзяўчынка! – падумаў я. – Разумніца!”

– ...А раптам гэта той, каго вы шукаеце, – працягвала яна. – Я паспрабавала ў кампутарным тэлефонным даведніку і ён выдаў мне трох чалавек у Мінску з такімі ініцыяламі. Мама сказала, што яго завуць Андрэйчык Віктар Сямёнавіч. Так, Анд-рэй-чык Вік-тар Ся-мё-на-віч. І яшчэ, каб спрасціць, – ён па адукацыі філолаг. Мая мама закончыла філфак разам з ім, а значыць ён працуе недзе ў школе, можа, настаўнікам, а можа... мама сумнявалася, выкладчыкам у ВНУ ці – журналістам.

– Дзякуй, вы мне вельмі дапамаглі. Здавалася б, дробязь, а мяне нешта зачапіў гэты ліст, і я вельмі ўдзячны вам за дапамогу...

Знайшоўшы ў пошукавіку тыя самыя тры нумары Андрэйчыкаў В. С., я першым жа тэлефанаваннем патрапіў на таго, хто мне быў трэба.

– Так, я здаваў у “Вянок” кнігу Шклоўскага, – сказаў Віктар Сямёнавіч, – а што вас зацікавіла?

Я абрадаваўся неспадзяванай удачы, але пабаяўся адразу назваць прычыну: а раптам адмовіцца ад ліста, не захоча пабачыцца...

– Ці не маглі б мы з вамі сустрэцца? І пры сустрэчы я ўсё раскажу...

Дзіўна, але ён адразу пагадзіўся, больш ні пра што не распытваючы:

– Што ж, я не супраць. Але сёння я заняты.

– Размова не ідзе пра сёння, гэта зусім не тэрмінова. Можна на выходныя. Тым болей, жывем мы ў адным раёне...

Я таму і выбраў першым гэты нумар аднаго з Андрэйчыкаў, што дамы нашыя былі на паралельных вуліцах.

– Добра. Нічога не маю супраць. Калі і дзе?

– У суботу. Лепей а дванаццатай. У кавярні “Лета”.

– Ведаю. Прыйду. Сяду за трэці ад уваходу столік.

Мне спадабалася ягоная канкрэтнасць – амаль вайсковая – якая зусім не вынікала з ліста, дзе ён у большасці момантаў выглядаў хутчэй размазнёй, ныцікам, хлюпікам, чым чалавекам дзейным: чым мужчынам, даруйце...

Я больш нічога не перапытваў. За трэці. Дамовіліся. Спадзяюся, гэты столік не будзе заняты маладымі закаханымі і мы не размінемся...

Віктар Сямёнавіч, убачыўшы свой ліст, пасміхнуўся:

– А я прыкідваў, што за неабходнасць такая сустрэцца... І здагадацца нават не мог. Кнігалюб нейкі, думаю... Дык вы ліст у кнізе знайшлі? А я, калі згубіў яго, перакапаў усё ў пакоі. Шкадаваў потым, што не зрабіў копію... А пра кнігу, у якую паклаў, зусім забыўся.

Я ўсцешыўся: значыць, не дарэмна шукаў аўтара ліста.

Віктар Сямёнавіч быў такім, якім я яго і ўяўляў: мужчынам за пяцьдзясят, але выглядаў маладзей за свае гады. Кароткая стрыжка пацягнутая сівізной на скронях, прамы ўмеру доўгі нос, глыбокія цёмныя вочы, пучок тонкіх зморшчынак каля іх і высокі чысты лоб – падобна, што жыццё ягонае было спакойнае, без лішніх нерваў. Адчувалася і выпраўка – унутраная і знешняя: нейкая вайсковая падцягнутасць і стрыманасць, якія я, паводле ліста, ніяк не думаў пабачыць. Карацей, быў ён не зусім такім, як у лісце, але цалкам адпавядаў свайму голасу. Я разглядваў яго, а ён працягваў:

– ...Я напісаў яго некалькі гадоў таму, але тады так і не адважыўся паслаць ёй...

Ага, цудоўна, значыць, гэта не “мастацкі твор” – у ліста ёсць яшчэ і адрасат, як я і здагадваўся, і можа быць працяг.

– ...А потым падумаў: ну і добра, што ён прапаў: з мінулым трэба развітвацца без жалю, каб пачаць новае жыццё... І ліст гэты быў своеасаблівым падрахункаваннем...

– Што вы маеце на ўвазе?

– Ну, па-першае, усё, што вы прачыталі ў гэтым лісце, а я ўпэўнены, што вы яго прачыталі, іначай не шукалі б мяне, праўда: простае апісанне майго ранейшага жыцця і маіх тагачасных думак. Не ведаю хіба – наколькі дакладнае і стылёва, літаратурна, прыгожае... Я спрабаваў пісаць раней прозу, пару апавяданняў і вершы некалі ў маладосці нават былі надрукаваныя ў адным часопісе... Ну, вы ж чыталі... (Я кіўнуў). І пазней, нягледзячы на не зусім творчую працу, пісаў патроху – праз усё жыццё пісаў.

– Ну, гэта адчуваецца. У вас ёсць талент. І я, чытаючы, думаў месцамі, што гэта зусім не інтымны ліст, а апавяданне... Апавяданне ў выглядзе споведзі...

– Дзякуй. Але, паверце, даўся ён мне цяжка. Гэта не першы варыянт. Я перапісваў яго некалькі разоў, знішчаючы чарнавікі і пачынаючы панавому... І лічу, што так і не скончыў яго, проста абарваў у пэўны момант і паспрабаваў звесці ледзь не да апавядання. Бо сам не бачу, як працягваць далей, бо адчуваю, што пачнецца няшчырасць, бо пакуль я ў лісце, я той, які быў ў тым часе, а калі адрываюся ад яго, хочацца быць сённяшнім... Вы ж разумееце, што з гадамі людзі змяняюцца.

Ён памаўчаў трохі.

– Тады я не змог яго паслаць. А цяпер прайшоў час, і ўсё ўспрымаецца па-іншаму... Я вось што падумаў раптам. Я ўсё ж пісаў яго не для сябе... Хоць і для сябе таксама... Але, калі ён ужо знайшоўся, то ці не лёс гэта? Словам, я хацеў бы, каб вы перадалі яго той, каму я пісаў. Мне хочацца, каб яна даведалася пра ўсе мае перажыванні, каб яна ведала, што я і насамрэч той, хто і павінен быў быць побач з ёю... І добра было б, каб яна прачытала гэты ліст пры вас.

Я не чакаў, зусім не чакаў такога рэзкага павароту: такой хуткай і такой раптоўнай прапановы – адразу і ў лоб. Я яшчэ заставаўся ў палоне ліста-споведзі, таму ідучы на сустрэчу думаў, што аўтар яго замнецца, засаромеецца, пачне апраўдвацца... А тут адразу і амаль катэгарычна: хай яна пачытае... у прысутнасці... Бо яму хочацца быць у яе вачах лепшым... Не, тут нешта іншае. Няўжо хоча пацешыць сваё графаманскае самалюбства? Знаёмая рэч, дык... ці варта мне яму падыгрываць?

Але, прызнацца, мне самому хацелася пабачыць тую жанчыну, да якой ён пісаў ліст, і таму я не адмовіўся.

– Не ўяўляю, як гэта можа адбыцца... Аднак – магу паспрабаваць перадаць, калі вы так хочаце. Толькі, даруйце, у мяне ёсць некалькі пытанняў да вас... Можна?

Віктар Сямёнавіч хітнуў галавой: пытайце.

– Вы з гэтай жанчынай сустракаецеся цяпер?

– Так.

– І калі была апошняя сустрэча?

– Месяц... трохі болей, як месяц таму.

– І як прайшла тая сустрэча?

– Як звычайна – пасядзелі ў кавярні і я правёў яе да тралейбуса.

– І гэтак кожны раз?

– Так.

– Як часта вы сустракаецеся?

– Разы тры-чатыры на год.

– Дзеля чаго? Што вам ад яе трэба?

– Нічога...

– А ёй ад вас? Чаму яна прыходзіць на сустрэчы?

– Не ведаю... Думаю, ёй трэба... сэкс... пераспаць...

Зноў я не паверыў сваім вушам – гэтыя словы ад яго ну ніяк не чакаў пачуць. Рамантык, які ўсяляк абыходзіць у лісце такія словы, цнатлівец, і раптам...

– Прабачце, і ў вас... быў з ёю... сэкс?

– Не, не было.

– Ніколі?

– Ніколі. Паўтараю: усё, што я пішу праўда. Якая, разумею, проста ўпэўнены, не спадабаецца ёй. Але я хачу, каб яна ведала.

– Чаму ж тады вы не йдзеце насустрач ёй. У сэнсе сэксу. Вы ж самі гэтага хацелі. Столькі гадоў толькі таго і чакалі... І вось яна стала... даступнай. Ці, яшчэ раз даруйце, мо гады ўжо не тыя і вы не можаце ў поўнай меры адказаць на ўзаемнасць?

Ён не пакрыўдзіўся. Нават нібыта і не звярнуў увагі на мае грубаватыя словы:

– Чаму ж... Магу. Яшчэ як магу, – сказаў ён нібыта сур’ёзна, але ледзь заўважна пасміхнуўся сам сабе. (Гледзячы на яго, і я не сумняваўся ў тым,

але ў каторы раз падзівіўся: як ён мог захаваць такую чысціню ў лісце... Аднак я бачыў і іншае: ён і са мною, чужым і малазнаёмым чалавекам, і цяпер быў... гранічна шчырым.) А ён працягваў: – Проста не хачу. Гэта не нейкая помста ёй, не падумайце. Гэта выпрабаванне сябе.

– Я не разумею – якое выпрабаванне.

– Ну, па-першае, вы, бачу не дзіцё, і павінны разумець, дакладней павінны былі сутыкнуцца з тым, што з гадамі, з вашым сталеннем, жанчыны ўвогуле становяцца больш даступнымі... Спачатку старэйшыя за вас, а потым – маладзейшыя. Тое, што з такой цяжкасцю давалася вам у юнацтве, цяпер само ў рукі ідзе. Я ў такім узросце, што мне ўжо больш цікавыя маладзенькія дзяўчаткі і ў мяне няма праблемы – ні фінансавай, ні маральнай – знайсці іх і пакарыстацца іх увагай пры патрэбе. Дык навошта мне старая, пакамечаная жыццём кабета, якая ў маёй памяці засталася зусім іншай, навошта мне ламаць створаны ў сабе гадамі яе вобраз... Пражыўшы з тым бабнікам і здрайцам – вы чыталі ліст – столькі гадоў, яна не можа заставацца той мілай дзяўчынкай, якую я памятаю...

Што гэта, па вялікім рахунку, праўда, я не сумняваўся. Але я бачыў ягоныя вочы і не верыў яму: ён кажа дакладныя рэчы ўвогуле, але ці тое гэта, што яго асабіста спыняе? “Зноў пайшла літаратуршчына, – падумаў я. – У ім жыве два чалавекі: жорсткі і самаўпэўнены, нахабны пафігіст у звычайным жыцці і рамантык глыбока ў душы – той хлопчык-студэнцік ад імя якога ён і пісаў ліст”. Прынамсі, мне яшчэ хацелася верыць у гэта. Але, па ўсім ужо было відаць, што і сапраўды гэты Віктар Сямёнавіч зусім не такі цямця-лямця, як вынікала з ліста: пэўна, за гады, што прайшлі са студэнцтва, ён моцна змяніўся, альбо ў тым лісце-апавяданні ён сам сябе “прыхарошвае”...

– ...Да таго ж у мяне ёсць сям’я, ёсць жонка, якой я не хачу здраджваць...

– Пачакайце, а з маладзенькімі дзяўчатамі вы жонцы не здраджваеце?

– Не, абсалютна, не. Гэта іншае. Зусім іншае... Спадзяюся вы разумееце: я ў душу сваю іх не пускаю...

– Даруйце, усё роўна не зразумеў: а ў чым тады выпрабаванне для вас?

Ён апусціў галаву. Не, ён не задумаўся. Адказ у яго быў. Ён, відавочна, разважаў: казаць, не казаць... Потым прамовіў ціха, нібыта стомлена:

– Шчыра прызнаюся – баюся... баюся, што калі буду з ёй у ложку, калі заплюшчу вочы і ўбачу яе тую, студэнтачку-аднакурсніцу... дык не змагу потым стрымацца... І ўсё, усё паляціць у тар-тарары – сям’я, кар’ера... усё... увогуле гэтае цяпер нібыта такое стабільнае маё жыццё...

Тут я яму паверыў – стабільнасць, пра якую ён гаворыць, для яго цяперашняга, вядома ж, даражэй за любое... за нейкае там юначае каханне.

Усё менш і менш у мяне заставалася сімпатыі да гэтага мужчыны, што ўзнікла некалі пры чытанні ліста. Відавочна, перада мной сядзеў зусім іншы чалавек, не той, які жыў у лісце... Зусім іншы... Прытым – натура цэльная і далёка не мяккая... Адкуль такія змены? І няўжо людзі могуць гэтак моцна змяняцца напрацягу такога кароткага чалавечага жыцця?.. Мне падаецца, што я асабіста абсалютна не змяніўся, застаўся тым са-

мым, якім быў у дваццаць гадоў. Болей за тое – адчуваю сябе ранейшым, дваццацігадовым...

– ...Тым больш – яна цяпер вольная, – працягваў ён. – Муж яе кінуў і нішто яе не трымае, у адрозненне ад мяне. Ёй нехта трэба, і я не веру, што менавіта я. Як не веру і ў тое, што яна ўвогуле здольная кахаць. Разумееце, пра што кажу? Калі і трэба я ёй цяпер, дык як крыніца магчлівага дабрабыту і спакойнай старасці... Гэткая жаночая хітрасць. І толькі. А каханне... Яна мяне ніколі не кахала... Горка сабе прызнавацца ў гэтым, але што ёсць, тое ёсць.

А я думаў, што ён рамантык... Рамантык? А ты згадай, як хутка ён ажаніўся, калі даведаўся, што яна выйшла замуж... Так, у цвярозым розуме і разліку яму не адмовіш. Відаць, так і ёсць: самыя прагматычныя людзі ў свеце атрымліваюцца якраз з рамантыкаў – з "паэтаў"...

– Але ж, мяркуючы па лісце, вы збіраліся кахаць яе ў любым, даруйце, выглядзе, а значыць, і ўзросце, стане. Для вас жа галоўнае было, што вы кахаеце, а не вас...

– Ай, не дурыце галавы...

Ён сказаў так шчыра, што я міжволі ўсміхнуўся:

– Дык што такое каханне? І што такое дружба між мужчынам і жанчынай?

– Перачытайце яшчэ раз мой ліст, я, здаецца, там усё сказаў.

– І вы застаецеся пры тых думках, вы падзяляеце іх?

Тут ён адкінуўся ў крэсле, задумаўся. Відаць, прыгадваў напісанае.

– Калі я пісаў, дык на час нібыта стаў тым хлопцам, тым закаханым... Вярнуўся ў тыя пачуцці і, мажліва, паддаўся ім. Ведаеце, так бывае... у тых, хто піша. Сёння ж я на многае гляджу па-іншаму. І я цяперашні, мажліва, пісаў бы інакш... Абсалютна іначай... Але, тым не менш, не адмаўляюся: высновы і думкі, выказаныя ў лісце – таксама мае. Тагачасныя ці цяперашнія неістотна, без розніцы. І там, і тут я... Бачыце, нашае жыццё, мая праца, навучылі мяне быць прагматычным і нават жорсткім... Не толькі да іншых... Але ў душы, хачу верыць, я застаўся тым жа хлапчуком-студэнтам... Хачу верыць...

Ён замоўк. Відаць, і сапраўды гэтая размова зачапіла ў ім нейкія балючыя стрункі. Я не стаў больш нічога пытацца ў яго. Хоць пытанне: "Чаму, навошта ён так чапляецца цяпер за тую сваю "хлапчуковасць" і што паўплывала на змены ў ягоным характары?" – павісла ў паветры...

– Дык вы пойдзеце да яе? – раптам рэзка, ва ўпор спытаў ён, відаць, каб скончыць на гэтым шчымлівую для яго гутарку.

Я хацеў перапытаць: "А навошта вам гэта пасля ўсяго сказанага?", – але падумаў, што раззлую яго канчаткова. Тым болей, што мне вельмі карцела схадзіць да той жанчыны, пабачыць яе і паспрабаваць пагаварыць з ёй.

– Пайду.

Дзверы кватэры па названым мне Віктарам Сямёнавічам адрасе адчыніла жанчына са слядамі прыгажосці на твары, даволі стройная, нягледзячы на гады – было відаць, што яна сочыць за сабой нават дома. Тэлефанаваць ёй я не стаў, баючыся, што яна адмовіцца ад сустрэчы, хоць першым жа поглядам пераканаўся, што хваляваўся дарэмна: яна была б не супраць спаткання хай сабе і з незнаёмым мужчынам. Не думаю, што яна сяд-

зіць у інтэрнэце на сайтах знаёмстваў, аднак... Менавіта такім было маё першае ўражанне пад яе відавочна ацэньваючым позіркам. І тое, што я быў маладзей за яе гадоў на дзесяць-пятнаццаць, яе не спыніла б, а якраз наадварот...

– Вольга Сяргееўна? – спытаў я. Яна моўчкі хітнула галавой, разглядваючы мяне з бачнай цікаўнасцю. – Можна зайсці? У мяне для вас ліст ад вашага знаёмага.

– Мама, хто там? Гэта не Толік? – з суседняга пакою выбегла прыгожанькая дзяўчына гадоў васямнаццаці – відаць, копія маці ў маладосці, на хаду папраўляючы адной рукою прычоску, а другой зашпільваючы гузікі халаціка на грудзях.

– Не, Саша, гэта не Толік...

– Ой, прабачце... – піскнула дзяўчо і вярнулася ў пакой.

– Праходзьце, – сказала Вольга Сяргееўна. – Яны з Толікам на канцэрт збіраюцца... Турбуецца вось.

Мы прайшлі на варыўню.

– Каву будзеце ці гарбату? – спытала жанчына. Не груба, але і не ветліва.

– Каву.

Яна паставіла турку з вадой на пліту.

– І што за справа ў вас да мяне.

– Адзін ваш даўні знаёмы папрасіў перадаць ліст. Вось ён.

Яна ўзяла ліст, які я паклаў у незаклееены чысты канверт, і, не расчыняючы, яго лёгкім рухам кінула на стол. Я прасачыў позіркам, як ліст праехаўся па незасланай абрусам слізкай стольніцы і ўткнуўся ў сцяну.

– І ўсё? – спытала.

– Так.

Узнікла паўза, якая зацягвалася. Як сказаць ёй, што я хачу, каб яна пачытала ліст пры мне... Пачуўся званок у дзверы. “Мама, я пайшла!” – крыкнула дачка. Дзверы рыпнулі і з грукатам зачыніліся.

Ад толькі прыгатаванай кавы ішла пара.

– Я не люблю моцна гарачую... – прамовіў я і дадаў: – Аўтар прасіў, каб вы прачыталі ліст пры мне.

– Аўтар... – яе зацікавіла гэтае слова: – Хто такі?

– Паглядзіце.

Яна пазнала яго па почырку ці па першым жа сказе:

– Віцька... – сказала ціхенька і села на зэдлік.

Прачытала некалькі старонак запар вельмі хутка – адчувалася філалагічная адукацыя і настаўніцкае ўменне разбіраць чужы почырк. Расчулілася, а дайшоўшы да асабістага, апусціла старонкі, правяла рукой пад вачыма, нібыта выцерла нябачныя слёзы, і сказала:

– Прабачце, але я так не магу... Нельга гэта чытаць у чужой прысутнасці. Давайце я вам уключу тут тэлевізар. А сама выйду ў іншы пакой.

Яшчэ ці не гадзіну я ганяў каналы туды-сюды, бо глядзець не было чаго. Хіба хакей, які я не люблю, хоць за шайбай некалі з сябрамі ў дваровай “каробцы” бегаў з задавальненнем.

Яна прыйшла заплаканая і рашучая. Нават трошкі злая.

– І што ён ад мяне хоча? Вы чыталі гэта?

– Чытаў... – вымушаны быў прызнацца я.

– Тут палова няпраўды. Толькі асобныя падзеі. А ўсе ягоныя меркаван-

ні пра мяне, пра мужа – чыстая... выдумка... хлусня. Навошта гэта яму? Дзеля чаго ён пісаў? Я думала пра яго лепш. Навошта, навошта ўвогуле гэта ўсё апісваць. Дадумваць... І тым больш камусьці паказваць... Вы ж, я так разумею, прачыталі ўважліва...

– Ён казаў, што пісьменнік, што друкаваў некалі свае апавяданні...

– Ну хай бы і пісаў апавяданні.

– Дык можа гэта і ёсць апавяданне – ён жа не называе тут ніякіх імёнаў, ніякіх прозвішчаў. І нават калі ёсць падабенства – ніхто нікога не пазнае. Тыповая студэнцкая гісторыя: любоўны трохкутнік. Што з таго, што вы некалі разам вучыліся.

– Так, вучыліся. Але ён мне ніколі не падабаўся і ніколі я яго не кахала. Ён проста быў побач... як і іншыя... А згадзілася некалі схадзіць з ім у кіно, як ён тут піша, толькі таму, што сяброўкі ўгаварылі: кажуць, паглядзі, як ён сохне па табе, кахае так, што пазайздросціць можна... Пашкадуй хлопца... Ну я і пайшла. Астудзіць хацела, а, аказваецца, яшчэ больш запаліла. Я яму так і сказала тады, каб не пакідаць надзеі: “Давай застанемся сябрамі”.

– Ну а цяпер – вы ж з ім сустракаецеся час ад часу.

– Сустракаемся... Так, у кавярні пасядзець... А чаму б і не. Я чалавек вольны. Нічога мне ад яго не трэба... Нічога... Што б ён ні выдумляў... Але, заўважаю – змяніўся ён моцна з таго часу, як мы з ім раней бачыліся. Відаць, служба паўплывала...

“Во блін, падумаў я, служба, кажа, а я так і не рашыўся спытаць у Віктара Сямёнавіча, дзе ён працуе... Хоць і карцела... Падумаў – настаўнікам, раз філолаг па адукацыі і прозу піша. І строгасць ягоную, стрыманасць палічыў школьнай, набытай за гады настаўніцкай ці, можа, нават дырэктарскай працы...”

– Вы кажаце “служба”, а дзе ён працуе?

Яна зірнула на мяне падазрона:

– А вы не ведаеце?

– Не, мы з ім амаль незнаёмыя – толькі адзін раз і бачыліся.

– І дзе ж вы бачыліся?

Тут я вымушаны быў схлусіць, прыдумаць нешта падобнае да праўды.

– Ён прынёс сваё апавяданне ў наш часопіс і паказаў таксама гэты ліст.

– Во як... Пі-са-цель, значыць. Мы і сапраўды вучыліся з ім разам на філфаку педуніверсітэта імя Горкага, хоць ён тут і піша бэдэу... – Паўтарыла: – На філфаку педуніверсітэта, – і спытала: – ведаеце такі?

Я кіўнуў.

– Але адразу пасля вучобы ён пайшоў працаваць не ў школу, а ў міліцыю. Ніхто і падумаць не мог пра такое, гледзячы на яго. Даслужыўся да падпалкоўніка. Трымаецца там пакуль, баіцца, што на пенсію выпруць...

Гэта нешта вытлумачвала і праясняла.

– На мітынгі не ходзіце? – спытала Вольга Сяргееўна. – Не? А то маглі б яго там пабачыць. Сашка мая з Толікам кажуць, што не раз сустракалі яго. У міліцэйскім ачапленні. З дубінкай.

– Падпалкоўнік і з дубінкай?

– А што тут дзіўнага – выслужвацца ж трэба... Ды вось нядаўна па тэлевізары фільм пра плошчу паказвалі, дык я яго там пазнала. Быў.

Як жа. У цывільным. Не ў шэрагах, а расхаджваў між іншых. А пад заканчэнне, калі ўжо людзей мала засталося, дык і цягнуў за каршэнь аднаго чалавека ў машыну, а другога насцакамі гнаў, пакуль не паваліў у снег...

– Што вы кажаце? Ніколі не падумаў бы. Такі мілы чалавек. А ў лісце гэтым, у апавяданні, прабачце, дык і ўвогуле мяккі – хоць да раны прыкладзі... Рамантычная натура...

Мне яшчэ не верылася. Можна было падумаць, што яна на яго нагаворвае. Са злосці. Але навошта?

– Я радая, што не памылілася ў ім, што інтуіцыя мяне некалі не падвяла. Ну як адчувала: не мой ён, чужы... Чужы нейкі... Не ведаю, як бы склалася нашае сумеснае жыццё – ён тут прыдумляе нешта, – страсянула яна лістом, – але шчаслівыя мы не былі б... – задумалася, – зрэшты, што цяпер казаць. Можа, і праўда, калі б мы пажаніліся, жыццё нашае па-іншаму пайшло б. І ён быў бы іншым чалавекам, у міліцыю не пайшоў бы, вершы пісаў бы, прозу... У яго і сапраўды атрымлівалася. Талент быў...

– Відавочна.

Ліст стаяў у мяне перад вачыма. Няўжо аўтар яго і той падпалкоўнік на плошчы, якога і я бачыў у фільме – адзін і той жа чалавек? Я й падумаць раней не мог, што тая раззлаваная ўшчэнт шэрая фігура, што ў паўцемры збівала хлопца, і ёсць Віктар Сямёнавіч.

– Я стала заўважаць, як ён змяняецца гадоў пятнаццаць таму, пасля першых выбараў. Па тым часе дык ён і саромеўся нават сваёй службы, але з гадамі вочы яго сталі рабіцца ўсё больш суровымі, твар пачаў ператварацца ў маску, за словамі сваімі стаў сачыць, каб лішняга чаго пра работу не сказаць... не дзіўна – сабачая служба. І сам не заўважыш, як падвываць пачнеш... Я яго не асуджаю. Аднак з часам з'явілася ў ім нешта стрыманае такое, звярынае. Воўчае... Ваўчынае. Гляджу на яго, згадваю таго хлапчука-студэнціка і дзіўлюся: якое жорсткае ўсё ж такі з намі жыццё... Моцна ён змяніўся за апошнія гады. Непазнавальна. З ім цяперашнім – я не жыла б і дня. З тым, што ў лісце – можа быць. А з гэтым гарылам... Нельга, нельга так. Я ўсё жыццё дзяцей вучыла дабрыні і справядлівасці... Спагадзе і гуманнасці... Не... Я і сустракацца з ім больш не буду, пасля таго, як пабачыла той фільм па тэлевізары. Брыдка... Гэта ж так ён можа і дачку маю нагамі збіваць...

– Ды ўжо ж... Там не глядзяць хто пад руку ці пад нагу трапляе.

Я падумаў, што таксама заўважаў, як змяніліся за апошнія дзесяцьпятнаццаць гадоў людзі, што заставаліся на дзяржаўнай службе. Самі яны гэтага не адчувалі, варыліся ў сваім катле. А збоку, асабліва калі размова заходзіла пра "палітыку", было адразу бачна, як змяняліся яны з твару, як баяліся ляпнуць нешта "лішняе" і ці не правакацыя гэта... А потым, каб засведчыць сваю лаяльнасць, пачыналі лепятаць нешта кшталту: "Я вельмі люблю пэжэ...", як у тым фільме пра іншапланетнага дыктатара.

Прынамсі, калі не змяняліся, дык прыстасоўваліся, хоць не думаю, што гэта лепш... І то інтэлігенцыя – настаўнікі, выкладчыкі, журналісты з дзяржаўных газет. А што ўжо казаць пра міліцыянтаў... Іх за гэтыя гады нацягалі так, што калі і засталося ў каго сумленне, дык ён схаваў яго так глыбока, што днём з агнём не адшукаць... Узяўся за гуж – служы, і будзь суперадданым, інакш – размова кароткая: кар'ера кату пад хвост і добры заробак толькі ва ўспамінах...

“З гадамі людзі змяняюцца...” – успомніліся словы Віктара Сямёнавіча. Так, але каб настолькі... Героі ліста былі студэнтамі прыблізна падчас перабудовы. Тады столькі негатыўнай інфармацыі ішло пра служак рэжыму. Сталінскага. Камуністычнага. Няўжо ў іх не выпрацаваўся імунітэт супраць несправядлівасці, ці хоць бы разуменне таго, што любая дыктатура часовая? Зразумела, з гадамі пачуцці прыціраюцца, знаходзяцца апраўданні самому сабе, сэрца цешыцца надзеяй, што “ад мяне нічога не залежыць...” і “я ж працую, як усе...”, аднак... Сумленне можна прыглушыць на людзях, а сам-насам, на адзіноце, бяссонай ноччу, яно ачуецца і возьме сваё... Так думаў я. А што думала наконт гэтага Вольга Сяргееўна? Яна загаварыла сама:

– Ліст гэты, я думаю, ён даўно напісаў, – прамовіла яна. – Цяпер ужо не змог бы так. Я бачу гэта і па нашых размовах пры сустрэчы... Гнюснасць ягоная прарвалася б, хай і між словаў, пошласць цяперашняя прабілася б... Дабро і зло, як і пушкінскае: геній і зладзей – рэчы несумяшчальныя, і ў адным чалавеку яны не ўжываюцца. Абавязкова нешта возьме верх... – памаўчала і паўтарыла: – Нешта возьме верх... – а потым рашуча загадала: – Забярыце гэты ліст – мне ён не трэба...

Што тут было казаць. Я, яшчэ агаломшаны, узяў ліст, развітаўся і ціха выйшаў...

Калі вы чакаеце напрыканцы нейкую мараль, нейкую выснову, дык іх не будзе. Ні з Віктарам, ні з Вольгай я больш не бачыўся. Думаю, вы разумееце мяне. Ці варта было ісці да Віктара, каб пераказаць сустрэчу з Вольгай... Ды ён і не прасіў мяне пра гэта...

Спадзяюся аднак, яны памірыліся і працягваюць сустракацца. Мне чамусьці верыцца, што не ўсё яшчэ страчана, што чалавечае пераможа – возьме верх – як толькі зменіцца сітуацыя: вось выйдзе Віктар на пенсію, пазбавіцца путаў ды шораў і...

Зрэшты, не варта фантазіраваць: жыццё спрадвеку цікавей і разнастайней за нашыя мроі...

Але, прынамсі, мне хочацца аднаго: каб іхнія дзеці – сын і дачка – сустрэліся і пазнаёміліся...

Мінск, вядома, вялікі горад, але плошчаў у ім няшмат.

*7-11 студзеня 2011 г.*



Алесь Камоцкі



...нам за далёкім
не бачыцца блізкага...

# Навошта было мінулае

## *КРАЙ МОЙ*

Спяць дубы векавечныя
Над замшэлым каменнем,
Побач дні чалавечыя
Нібы тыя імгненні.
Век агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
Але робіць часоваю
Чалавечую памяць.

Край мой бачыць азёрамі,
Край мой чуе лясамі,
Край мой літары зорныя
Ў небе ночы чытае.
Як калісь пачыналася,
Як фінал усвядоміць,
Ўсё, на што забываемся,
Край працягвае помніць.

Камянямі замшэлымі,
Векавымі дубамі
Нам легенды адмервае
Запаветная памяць.
Час агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
А хвіліна чарговая
Нас цярпліва чакае.

** * **

Ліпеньскай ночы на сон не ставала,
Сонца з усходу праменіла вецер.
Побач хвіліны ішлі непрыкметна.
І іх было мала, іх было мала.

Нашай сустрэчы як не існававала,
Не паспявалі ні думкі, ні словы,
Каб патлумачыць, што гэта часова.
Толькі адно удавалася – марыць.

Мала было нам наступных гадоў,
Што непрыкметна з дарогі знікалі.
Неяк не надта хацелася ўдалеч,
Але па іншаму час не ішоў.

Новай сустрэчай канчаецца дзень,
Сподзевам цешыць нязбыўная мара.
Ну, няўжо немагчыма каб зараз
Моўчкі збылася старая надзея.

## ***ВОСЕНЬ***

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы.
І так хочацца не верыць,
Што нічога не змяніць...
Мы ў ліпені, і ў жніўні,
А ў верасні не мы.

Ліпень меў што хаваць,
Ліпень ноч гадаваў
Сноў, даўжэйшых за ноч,
Адбылося багата.
І працята было
Каляровым святлом
Ад цямна да цямна
Невядомае свята.

Жнівень меў кожны дзень
Шмат наіўных надзей,
Не хацеў разумець,
Што і ён не бясконцы,
Але час не пытаў
Як яму пралятаць,
Бо трымаў у руках
Захварэлае сонца.

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы,
Лістапад адлістападзіць
І нагоніць халадоў.
Дзе той ліпень, дзе той жнівень
Колькі ім цяпер гадоў?

## НАВОШТА БЫЛО МІНУЛАЕ

Узрост нам гады прыспешвае —
Пачатак усё далей,
Збянтэжваюць змены знешнія
І сум у вачах, але...
З таго, што не трэба памятаць
Не робім праблем ужо,
І што не паразгублялася
Запознена беражом.

Калі пажаданым атулішся,
Натолішся, аж цераз край —
Навошта было мінулае?
У будучыні не пытай.

* * *

Праходзіць час, мільгае днямі,
Ператвараецца ў мінулае,
І толькі дзякуючы маме
Мы марым, дыхаем і думаем.

Мы бачым, снім і трызнім лепшым,
Чакаем, верым, спадзяёмся,
Для мамы ж мы, у рэшце рэштаў,
Заўсёды дзецьмі застаёмся.

Мільгаюць дні, і час праходзіць,
І разумеем мы з гадамі—
Жыццё — суцэльная нагода
Нам за яго аддзячыць маме.

*   *   *

Я прысніў каралеву,
сумяшчальную толькі з сабой,
І на самым пачатку яна мне сказала на вуха,
Што жыве літаральна ў кроку, але за мяжой,
І чакае, што я забягу яе казкі паслухаць.

Быццам бы паразуменне
дзень наступны нясе,
Але ж ты каралева,
ты не можаш быць як усе.

Я не надта і верыў ва ўласныя думкі вясной,
І ў словы звычайныя веры не меў адпачатку,
Проста ты каралева, сумяшчальная толькі з сабой,
Ты кахаеш мяне, але неяк жа ж не па парадку.

## *ШУКАЙ МЯНЕ*

Шукай мяне не толькі там, дзе хочаш бачыць,
Шукай мяне і там, дзе я звычайна ёсць.
Мы так аднолькава ўмеем не спаткацца,
Хоць кожны з нас пры гэтым марыць пра сваё.

Знайдзі мяне цяпер, калі я побач,
Сярод нябачных думак пра цябе,
Дзе асцярожна восень надыходзіць
Імгненнем, поўным здзіўленых надзей.

Знайдзі мяне хутчэй, каб болей не спяшацца
У непазбежнасць надыходзячага дня,
У даўняй мары апынуцца па-за часам
Ёсць безліч месца, бо пакуль там толькі я.

Знайдзі мяне па-за будзённым тлумам –
Я там жыву натомленай душой.
Хай будзе ўсё не так, як я прыдумаў
Знайдзі мяне, як я цябе знайшоў.

*   *   *

Халодны цень не бачыць сонца,
Вятры шукаюць дзе заснуць.
У межах дня туман бясконцы
Хавае новую вясну.
А мы не гэтага чакалі
І не да гэтага ішлі.

Мы не хацелі як звычайна
І, як звычайна, не змаглі.

### *VU IZ DOS GESELE*

*(народная)*

Шарык блакітны ў небе лунаў,
Хлопец дзяўчыну па свеце шукаў,
Шарык блакітны за плот паляцеў,
Хлопец дзяўчыну ўкрасці схацеў.

Дзе тая вуліца, дзе яе дом,
Сэрца трымціць і палае вагнём,
Вось тая вуліца, вось яе дом,
Вось і сама яна перад вакном.

Смела бліжэй да яе падыду,
Слова скажу, абдыму і скраду.
Крылы каханне нам дасць, каб ляцець,
Зоркамі яснымі з неба зіхцець.

Шарык блакітны ляжыць пад кустом,
Для закаханых у небе ёсць дом.
Шарык блакітны адлётаў сваё,
Хлопец з дзяўчынай навекі ўдваёх.

### * * *

Часам нам даецца выбар
І ў тым, чаго няма
Часта мы шукаем хібаў
І не бачым... а дарма.

Потым зноў даецца выбар
І ў тым, чаго няма
Мы зусім не бачым хібаў
І шукаем... а дарма.

### *НЕ ЛЮБІЎ Я НІКОЛІ ДАРОГУ*

Дзень пражыты у памяці спынены
Не псуе успамінамі існага,
Адчуванне чарговай магчымасці
Як падручнік жыццё *пералістввае.*
Тут я ёсць да канца не растрачаны,
Там я быў непачаты, учорашні.

Параўнае зямля крокі нашыя,
І не факт, што цяпер яны большыя.

І пакуль мы стамляцца навучымся
Ад карыснага і непазбежнага,
Дні пражытыя памяць пракручвае,
Праглядае і перамешвае.
Патрабуе, каб азірнуліся
Ды нарэшце сябе супакоілі.
Ну, не бывае дарогі з мінулага
Без слядоў ад грахоў незамоленых.

Быццам я пераблытаў пачуцці,
Не сваё карыстаю цяпло,
Падарыце мне шлях і забудзьце,
Што калісьці яго не было.

* * *

*Паводле Гены Шангіна-Беразоўскага*

Ты стаіш ля вакна –
Цераз вуліцу ад неба, –
Непраглядны свой сум
Не ўмееш разагнаць...
Ты кахаеш таго,
З кім усё не так, як трэба.
Ты ізноў без яго
Ля вакна стаіш адна.

Ну чаму толькі ён,
Ёсць жа іншыя навокал.
Можа, проста табе
Няўтульна быць адной.
У абшарах зімы
Не знаходзіцца палёгка,
Але верыцца, што
Нешта зменіцца вясной.

Пройдзе час, пройдзе час,
І прыпомніш ты з усмешкай
Гэты вечар, як сон,
Ранкам новага жыцця.
А пакуль, а пакуль
Светлым сумам непазбежным,
Развітанне з дзяцінствам
У мокрых вачах.

## *ДЗЯВОЧАЯ ПЕСЕНЬКА*

*Паводле Renaty Przemyk*

Досыць мне плэйбояў, задаўбаў гламур,
Збрыдзела ілжывая прыстойнасць слоў,
Хопіць мне ўздыхаў, светлых мар і зор...
Пакахай мяне
Як ашалелы тхор.

Выбі дзверы ў хату, ад жадання злы,
Абярні канапу і знайдзі мяне.
Дакажы, што тут ты нездарма узнік –
Авалодай мной
Як апантаны бык.

Потым, сярод ночы, крыкам абудзі
І, парваўшы коўдру на мільён шматкоў,
Забяры мяне ў свой вар'яцкі сон.
Будзь са мной пяшчотны
Як здзічэлы слон.

А пасля світанне прыйдзе праз вакно,
І маю удзячнасць будзе не стрымаць...
Калі ты дахаты не збярэшся сам,
Добрым санітарам
Я цябе аддам.

* * *

Цішыня без адпачынку,
Поўны вечар цішыні,
Млява мроіцца айчына
Па-за межамі вайны,
Па-за межамі прыгодаў,
Па-за межамі вякоў,
З пэўнай колькасцю народу,
І амаль без дуракоў.

## *СНЕГ*

Снег асцярожна складае
Неба на горад настылы.
Гэта зіма маладая
Дзеліць сваю чысціню.
Быць адмыслова шляхетным
Снежань яна папрасіла.

Снежань дамовіўся з ветрам
Вецер пакуль што заснуў.

Шэптам здараюцца словы,
Сэнсу нарэшце няма.
Бачыш як свет паступова
Атуляе зіма.

Заўтра штодня карацее
Роўна на тыя хвіліны,
Што бесклапотна ляцелі,
Склаўшы пацiху гады.
Часу няма адпачынку
Па невядомай прычыне,
Ён з існага самы няспынны,
Ён толькі ідзе не туды.

Час адбываўся бязважка,
Беглі гадзіны дарма.
Гэта чарговую казку
Пачынала зіма.

## *МОЙ ШЛЯХ*

Стамляе дзень і не хочацца вечара,
І забывае душу галава,
А сны упарта начуюць у вечнасці,
Там, як ні дзіўна, роспачы няма.

Вабіць услед за нязбыўнай надзеяй
Шлях пакручасты, ушчэнт замроены.
Нам у жыцці падабаецца ўдзельнічаць,
Нават калі няма настрою.

Як часта мы не зважаем на існае
І спажываем прыдуманы свет.
Нам за далёкім не бачыцца блізкага,
Што валадарыць жыццём неўпрыкмет.

Бывае снім як ўсё атрымаецца,
І расцягнуць намагаемся сон,
Замест таго, каб чарговаю раніцай
Бачыць тое, што дзень надышоў.

Стамляе дзень і не хочацца вечара,
І забаўляе душу галава...

## НАВАКОЛЬНЫЯ ЛЮДЦЫ

Па усім белым свеце не палічыш дакладна,
Незнаёмых надоўга і нядоўга знаёмых,
Што губляюцца ў справах, дасягаюць і ладзяць
Між сабой адпаведна, між сабой паўсядзённа.

І настолькі грунтоўна паглядаюць уперад,
Накірунак аспрэчыш, дык сабе не паверыш.
Быццам твары як твары, быццам людзі як людзі,
Толькі што за манеры — хаваюць намеры.

Выпадковыя ветры надзімаюць ім грудзі,
Выпадкова сустрэўшы выпадковы пачатак.
Завядзёнка такая — выпадковыя людзі
Набіваюцца ў чэргі, каб пабачыць, як будзе.

Пачуваюцца добра,
Выглядаюць цывільна —
Як арабы ў Ягіпце,
Як жамойты ў Вільні.

## ВЕРАШЧАКА

Каб зрабіць верашчаку з блінамі
Шклянку піва і трошкі вады
Наліваем у посуд бляшаны
І каўбасы кідаем туды.

Хай кіпіць гэта ўсё, а тым часам,
Слёзы з твару абцершы рукой,
Мы паціху цыбульку падсмажым
І пасыпем пшанічнай мукой.

І патэльню з духмянаю масай
Патрывожыўшы моцным агнём,
Заліваем булёнам каўбасным
Воцат, цукар і соль дадаём.

Дробна кроім каўбасы у соус,
Трошкі перчым і тушым далей.
Вось і ўсё. Хутка будзе гатова.
Смаж бліны і глядзі весялей.

Вось і ўсё. Верашчака гатова.
Налівай і глядзі весялей.



Лявон Валасюк



...дома і хлеб смачнейшы...

# Сяржант

***Апавяданне***

З самай раніцы пачало моцна прыпякаць сонца. Тым не менш вучэбны ўзвод яфрэйтара Курты пабег чарговую пяцікіламетроўку. Яўгену Лышчыку, высакарасламу хлопцу з вялікімі, напрацаванымі кулакамі баксёра, падумалася, што гэта лішняе: можна было правесці ранішнюю зарадку на стадыёне побач з казармаю. Але Курта вырашыў прабегчыся са сваімі салдатамі, бо за дзень за пісьмовым сталом у штабе ён стамляўся без фізічнай нагрузкі. А гэтая прабежка для яго была асалодаю: атрымліваў зарад бадзёрасці на цэлы дзень.

На пастраенні перад казармаю пасля прабежкі яфрэйтар Курта пачаў выказваць сваю незадаволенасць падначаленымі. На яго худым, злосным, пярэстым ад рабаціння твары дзікавата зыркалі чорныя вочы ды тырчэла дзюба крывога носа, пад якім расло нешта падобнае на вусы. Яфрэйтар хадзіў уздоўж шарэнгі і выгаворваў па чарзе кожнаму свае заўвагі. Калі Курта апынуўся каля Яўгена-

вага земляка з-пад Баранавічаў Косці Бычыка, дык адразу прычапіўся да таго. Не спадабаўся мо не зусім акуратна паголены твар, а хутчэй за ўсё сам Касцік з яго незалежным характарам.

“Зноў пачне здзеквацца з хлопца”, – падумаў Яўген, у якога з самага пачатку службы свярбелі рукі на Курту.

Касцік, рыжаваты хлопец, быў незласлівым, спакойным, крыху самаўпэўненым. Вось і цяпер ён спакойна глядзеў на яфрэйтара Курту. Толькі расчырванелы пасля забегу твар пакрыўся кропелькамі поту, кароткія рыжавата-чырвоныя валасы на галаве зіхацелі пад сонцам.

– Два нарады па-за чаргою! – гучна крыкнуў Курта, стоячы перад “Чырвонцам” – такую мянушку паспелі ўжо даць хлопцы Касціку.

– За што? – недаўменна запытаў Касцік, гледзячы насмешліва на яфрэйтара. Той раптам размахнуўся і ўдарыў хлопца даланёй па твары так, што Касцік пахіснуўся і адступіў адною нагою назад, але ўстояў. Курта моўчкі пайшоў далей уздоўж шарэнгі. Калі ён апынуўся насупраць Яўгена, збялелы твар яфрэйтара ад злосці пачынаў чырванець. Яўген таксама спытаў яго:

– За што?

Курта вылаяўся, аднак не паспеў нават заікнуцца пра пакаранне, як атрымаў нечаканы ўдар злева ў сківіцу і, непрытомны, упаў на дарожку. Узвод разгублена маўчаў, пакуль Курта паціху вяртаўся да жыцця.

– Што гэта было? – хрыпла запытаў ён, падымаючыся з дарожкі.

– Сонечны ўдар, – адказаў нехта з шарэнгі, і ўзвод дружна зарагатаў, быццам нехта толькі што расказаў смешны анекдот.

...Праз два месяцы бездакорнай службы Яўген Лышчык быў ужо яфрэйтарам, а перад Новым годам прысвоілі яму званне малодшага сяржанта і прызначылі намеснікам камандзіра ўзвода. З таго часу для салдат ён стаў проста Сяржантам...

***

Была цёплая вясна, пачатак мая, калі Вадзім закончыў вайсковую службу за мяжой. Дамоў вяртаўся аж на двух самалётах, праз Кіеў. І калі перад абедам апынуўся ў родным горадзе, то на таксоўку якраз застаўся адзін металічны савецкі рубель, якога акурат хапіла, каб разлічыцца з кіроўцам.

Дома былі толькі маці і жонка старэйшага брата Яўгена – Алена, але і яны збіраліся пасля абеду на працу. Бацька з братам павінны былі прыйсці пазней. У гэты ж дзень Вадзім адразу займеў і новую хатнюю пасаду – выхавальніка маленькага пляменніка на летні час, бо ўвосень старэйшы брат павінен быў атрымаць з жонкаю новую кватэру.

...Бацька, Іван Піліпавіч, ад нечаканасці нават на нейкі час страціў мову, пакуль не абняў сына, не расцалаваў.

– Ну, сыну, віншую з вяртаннем дадому! Віншую!.. – вымавіў ён, задаволены тым, што і малодшы сын вярнуўся без прыгодаў са службы ў войску. – Дачакаліся нарэшце і цябе. То і добра. Дома і хлеб смачнейшы...

Сам бацька ў свой час ваяваў, дайшоў да Берліна, меў баявыя ўзнагароды. Яму была зразумелай радасць малодшага сына вярнуцца дамоў здалёку, з-за мяжы, куды нават “пасылку” немагчыма было адправіць.

Селі вячэраць, калі ўжо вярнуўся Яўген: бацька з задавальненнем і гонарам сеў за стол з сынамі. Выпілі па шклянцы віна, закусілі... І пачалася гаворка: Вадзім расказваў пра сваё вяртанне, бацька ўспамінаў свае франтавыя прыгоды. Іван Піліпавіч быў добрым апавядальнікам, дасціпным жартаўніком, таму сыны смяяліся да болю ў жываце. Ім, маладым, заўжды было цікава слухаць пра франтавое жыццё бацькі, а ў таго з кожнай чаркай усё цікавейшымі і больш закручанымі былі франтавыя гісторыі...

Хутка праляцела гадзіна-другая. Выйшлі ў двор на свежае паветра.

– Малы, а што, мо давай прагуляемся ў горад, – прапанаваў Яўген. Надвор'е цудоўнае. На танцы заглянеш у парк, сустрэнеш каго там са сваіх знаёмых. Самы час. А я цябе правяду да вакзала, бо і цыгарэт трэба купіць, і піва халоднага яшчэ з бацькам папілі б...

Вадзім пагадзіўся, пераапрануўся ў новыя, прывезеныя з-за мяжы фірмовыя джынсы і блакітную кашулю з металічнымі гузікамі.

– Во, зараз ты ўжо не падобны на вайскоўца, хаця яшчэ тыдзень будзеш ускокваць у шэсць гадзінаў раніцы пад гімн, – пажартаваў Яўген.

Ля вакзала зайшлі ў краму. Яўген на правах старэйшага брата разлічыўся за цыгарэты і тры бутэлькі партвейну.

– Заглянем у буфет. Па шклянцы вып'ем, крыху пагаворым, бо на танцы яшчэ ранавата. Пакуль не пачне змяркацца, моладзі мала будзе.

Вадзім і сам добра ведаў, што танцы пачынаюцца толькі на змярканні.

Па дарозе да вакзала трапілі на вайскоўца – вартавога за металічнай агароджаю ля цаглянага старога будынка, што значна адрозніваўся сваёй дагледжанасцю.

– Ну што, зямляк, як служба?! – бадзёра запытаў Вадзім. – А я вось толькі сёння прыехаў пасля войска дамоў... Колькі табе засталося?

– Мне яшчэ паўгода хадзіць з аўтаматам. Да восені даслужу і ўсё – у свой Барысаў паеду.

– А я з Барысава пачынаў службу, – абрадаваўся Вадзім.

– Слухай, зямляк, віна з намі вып'еш? – запытаў Яўген, пабачыўшы, што знаёмства адбылося.

– Не, цяпер на пасту, не магу, бо пабачыць яшчэ хто. А пасля – не супраць. Калі не шкада, дык наліце ў біклажку. – Вартавы зняў з папругі біклагу, выліў на зямлю ваду і падаў праз шчыліну Яўгену.

– Выпі за маё вяртанне! – сказаў Вадзім, – табе ўжо самому мала засталося, таму мы вып'ем і за твой дэмбель. Я ў вашых барысаўскіх Печах два тыдні прывыкаў да ботаў ды гімнасцёркі, пакуль не трапіў за мяжу...

Перакінуўшыся яшчэ некалькімі словамі, браты выправіліся да буфета.

Апаражніўшы адну бутэльку віна, Яўген выйшаў перакурыць на прывакзальную плошчу. Вадзім застаўся стаяць ля стойкі, няспешна закусваючы выпітае віно і назіраючы праз шкло дзвярэй за Яўгенам, да якога праз якую хвіліну-другую падышоў цёмнавалосы, на падпітку, мужчына. Незнаёмец энергічна размахваў рукамі – нешта даказваў ці на нешта абураўся. Вадзім спакойна назіраў, не зусім верачы ў тое, што ён ужо дома, у родным горадзе, у цывільным адзенні, што вайсковая служба засталася ззаду. Праўда, дзве амаль бяссонныя ночы напаміналі пра сябе: у целе адчувалася нейкая нязвыклая стома, хаця

хлопец і прызвычаіўся за два гады службы да бяссонных начэй. Між тым выпітае віно прыемна разлілося па целе. Вадзіму здалося, што такі настрой цяпер будзе з ім усё астатняе жыццё, бо ён аддаў два гады свайго маладога жыцця на карысць Радзіме. Вось і ў старэйшага брата з жонкаю, і ў бацькоў вылічвалі грошы з заробкаў на тое, каб трымаць шматмільённую армію не толькі на тэрыторыі адной шостай часткі сушы, але яшчэ і за мяжою...

Думкі Вадзіма перапыніла вяртанне Яўгена з чарнявым мужчынам. Старэйшы брат наліў яшчэ шклянку віна Вадзіму, сабе, а рэшткі ў бутэльцы аддаў незнаёмцу, які мармытаў нешта незразумелае без перапынку.

– Бяры, дапівай хутчэй віно і валі адсюль, бо мы занятыя вельмі! – Яўген зласліва глянуў на “халяўшчыка”, выпіў віно і пачаў закусваць цукеркаю.

Незнаёмец патрымаў бутэльку з рэшткамі віна ў руцэ, паглядзеў на яе, а потым павольна пачаў перакульваць сабе ў горла. Віно забулькала і панеслася нібыта ў бездань. Але не паспеў незнаёмец дапіць партвейн, як аднекуль раптам з’явіўся міліцыянер – старшы сяржант, які пагрозліва глянуў на ўсіх траіх, моўчкі схапіў незнаёмца за руку.

– Грамадзянін, выйдзем на вуліцу, і вы таксама з намі! – міліцыянт пацягнуў за сабой незнаёмца, а Яўген пайшоў следам, сказаўшы Вадзіму заставацца за стойкаю.

Вадзіму добра было відаць, як міліцыянер нешта даказвае на пероне незнаёмцу і Яўгену. Размовы той не было чуваць, таму Вадзім выйшаў з залы і прыпыніўся ля акна звонку, абаперся на нізкі падаконнік.

У гэты час Яўген нечакана ірвануў у напрамку Вадзіма, пранёсся побач і кінуўся ў бок аўтобуснага прыпынку, далей ад будынка вакзала. Следам за ім рэзка ірвануў сяржант міліцыі. Усё адбылося так хутка, што Вадзім не паспеў нічога зразумець, толькі інстынктыўна выставіў левую нагу, а правай рукой нанёс міліцыянеру раптоўны ўдар у сківіцу. Той паляцеў на асфальт, распластаўся, як бярэмя саломы. Фуражка пакацілася ўбок. Але сяржант хутка ўскочыў і пабег далей, дастаючы пісталет з кабуры, што боўталася на баку.

– Стой, страляцяць буду! – крычаў ён што сілы.

Вадзім здрыгануўся і пабег следам. Міліцыянер бег, выкрыкваючы мацюкі, пакуль Яўген нечакана не прыпыніўся.

Вадзім крыху воддаль назіраў за далейшымі падзеямі. Яўген са служкам парадку, нібыта нічога не здарылася, вярнуўся на перон. Сяржант падняў па дарозе сваю фуражку, якую нехта шпурнуў да сцяны будынка.

Вадзім пайшоў следам.

***

Аддзел міліцыі знаходзіўся на трэцім паверсе вакзала, у стромкай вежы. У памяшканні дзяжурнага знаходзілася некалькі затрыманых, якія седзячы на лаве, чакалі прысуду. Яўген неспакойным позіркам сустрэў прыход Вадзіма, махнуў рукою на дзверы.

– Пачакай мяне там, я хутка выйду! – ледзь чутна прамовіў брат, седзячы збоку ад дзяжурнага афіцэра, які нешта пісаў.

Вадзім паслухаў, не разумеючы ўсяго, што адбываецца, бо злева паспеў заўважыць і “знаёмага” сяржанта. Але міліцыянер толькі коса глянуў у

бок Вадзіма і зноў павярнуўся да чарнявага мужчыны, праз якога, відаць, і заварылася гэтая каша.

Было ўжо цёмна, калі нарэшце Яўген выйшаў з міліцыі.

– Дарма ты, Вадзім, пасунуўся следам. Калі б сяржант пазнаў цябе, былі б праблемы. А так я адбрахаўся: сяржант меў нешта да таго мужыка, што ў буфеце...

Браты адышлі ўжо далёка ад вакзала. Майская ноч апусцілася на горад, але жыццё працягвалася: праязджалі машыны, апошнія аўтобусы.

– Вось зараз было б добра пасядзець на верандзе за сталом з бацькамі, а не ў міліцыі. Але ж і нашы ўжо зачакаліся нас. Хвалююцца, пэўна. А цікава: хто лупануў мянта на вакзале? Бо так ужо ён злаваўся, што не прыкмеціў таго, хто паспеў яго садануць. – Яўген на хвіліну заціх, прыкурваючы цыгарэту.

– Гэта я яму заваліў па барадзе, калі ён пагнаўся за табою, – прызнаўся Вадзім.

– Смела... Але дарма, бо гэта крымінал... А калі б сяржант пазнаў цябе? Сядзелі б мы ў клетцы і чакалі прысуду. А так маёр павыпускаў усіх затрыманых, сказаў, што па амністыі, бо праз дзень свята – Дзень Перамогі. Але што там гаварыць... Я і сам лапухнуўся, бо дарма пабег ад міліцыянера з перона, справакаваўшы яго на пераслед. Але хацеў адцягнуць увагу ад цябе. Прыносіць з сабой у буфет і распіваць віно забараняецца. А ты толькі што вярнуўся з войска і табе зусім непатрэбны пратакол у першы дзень прыезду.

***

– Не шанцуе мне на гэтую міліцыю. Ніколі не паважаў яе, бо мала бачыў сярод іх нармальных мужыкоў! Адзін толькі дзядзька мой у Маскве – генерал міліцыі – нармальны. Калі служыў тэрміновую, то бываў у яго два разы ў гасцях, пераканаўся. Ды яшчэ дзед Іван па бацьку некалі расказваў, што бываў у гасцях у Пецярбурзе ў свайго земляка, які служыў паліцыянтам. Дзед часта прыпамінаў таго зямляка як нармальнага чалавека, нягледзячы на прыналежнасць яго да вядомай установы. – Яўген дзяліўся думкамі з лепшым сябрам Анатолем Гароніным пры сустрэчы, паціраючы злосліва агромністыя кулакі, напрацаваныя з юнацкіх гадоў.

– Яўген, не звязвайся больш ніколі з мянтамі: не той ужо ўзрост, каб бегаць ад іх ці за імі. А твой меншы малайчына, што не разгубіўся і садануў мянта, калі той пагнаўся за табою. Спраўны ў цябе брат! Ганарыся... Ды толькі не дазваляй яму больш жыць на грані выдалення, як кажуць спартсмены... – Анатоль пасміхнуўся і дадаў: – Глядзі пільна за братам, каб вельмі не разгуляўся пасля службы ў войску: трэба жыццё будаваць, нечаму вучыцца...

***

...Яўген Іванавіч пад вечар пайшоў у цэнтр горада на сустрэчу з сябрам, таксама пенсіянерам Анатолем Гароніным, з якім у школьныя гады займаўся боксам у вядомага мясцовага трэнера Фралова. Яўгену Іванавічу хацелася ўладкавацца вартаўніком на працу да Анатоля.

Мужчына прысеў на лаўку ля Цэнтральнай плошчы бліжэй да сямі гадзін вечара: у сем павінен быў падысці пасля працы Анатоль. Яўген

Іванавіч няспешна курыў і назіраў за птушкамі, якіх было даволі многа на плошчы. Але паціху пачала збірацца моладзь, пачуўся смех, музыка... Птушкі паляцелі ў іншае месца.

"Нейкае мерапрыемства павінна адбыцца ці што?" – падумаў пенсіянер, выглядаючы сябра. Але праз лічаныя хвіліны плошчу з усіх бакоў абступілі міліцыянты, спецназаўцы ў чорным непрыемным адзенні... Пачаліся затрыманні. Асабліва абурылі Яўгена Іванавіча паводзіны спартыўнага выгляду маладых людзей, каторыя па два-тры чалавекі падскоквалі да хлопцаў, дзяўчат і хапалі іх раптам за рукі, плечы і валаклі ў двары да прыхаваных там брудна-зялёнага колеру аўтазакаў.

Яўген Іванавіч прыўзняўся з лаўкі, расправіў плечы і хацеў нешта сказаць услых, абураны паводзінамі людзей у цывільным, як у гэты момант ззаду яго самога схапілі за рукі, заламалі і пачалі нагінаць тварам да новай пліткі, што была не так даўно пакладзена на плошчы. Не паспеў Яўген Іванавіч як след ачомацца, як адзін са стрыжаных качкоў адляцеў убок, за ім адразу другі.

– Валім хутчэй адсюль, пакуль не скруцілі!.. – зычны голас сябра вярнуў Яўгена Іванавіча да рэальнага жыцця. Навокал тварылася нешта падобнае на бойку, маладых хлопцаў і дзяўчат цягнулі ў спецмашыны. Мужчыны заскочылі ў памяшканне пошты за блакітнымі елкамі, што месцілася побач.

– Выходзім праз службовыя дзверы, бо нас будуць шукаць! – Анатоль падштурхоўваў Яўгена. – Пятнаццаць сутак гарантавана, а мо і болей...

– А што адбываецца, не зусім разумею? – Яўген Іванавіч апынуўся з Анатолем у двары, дзе не было ні міліцыянтаў, ні людзей у чорнай вопратцы.

– Даўно я не трапляў у такі экстрым. Не паспеў нават і рукой махнуць!

– Добра што і не паспеў, бо зараз былі б ужо ў спецмашыне, а так пойдзем піць піва і прыкусваць салёнымі арэшкамі, пакуль нам самім не дасталося "на арэхі". Але ж не паспеў я падысці, як, бачу, нейкія смаркачы падскочылі да цябе і пачалі круціць рукі. Добра яшчэ, што ты нікога з іх не матануў, бо пачалася б бойка з крывёю...

– Мяне, сяржанта Савецкай Арміі, гэтыя смаркачы ў спецмашыну не завалаклі б! Не тое бачыў! Ды толькі як не сорамна таму, хто гэтых дзяцей пасылае на сваіх бацькоў? – Яўген Іванавіч абурана асушыў куфаль піва, гледзячы на сябра, і нібыта нешта прыпамінаючы, стукнуў кулаком па стольніцы: – Дажыліся!!! Дачакаліся!!!

*2011 г.*



Юрка Голуб



...Уласнага ценю не бойся.
Падробцы ці дасца дукат...

# След у след

### *НА ГАЛЬШАНСКІМ КОТЛІШЧЫ*

На пераклічцы злых дарог
Былі паўстанак і прыстанак.
І нават песня – будзь здароў! –
Гучаць тады не перастала.

Насустрач перла напралом
Вятроў разгневаная зграя:
Траплялі ўсе ў яе палон –
І хто маўчыць, і хто іграе.

Касынку вішні знёс віхор.
Ляцела ясеня чупрына.
Той след таемны з даўніх пор
Сваё разгадвае начынне.

Дзе ён жыты баранаваў,
Віры закручваў адваротна.

Вось так пускаюць барана
Якраз пад новыя вароты.

Гальшаны. Збэшчаны палац.
Дакладней, крэўныя руіны.
Іх хоча неба пільнаваць.
Зямля жадае кінуць-рынуць...

## МАЛАДЗІК

Уласнага ценю не бойся.
Падробцы ці дасца дукат?
А месяц са стромых нябёсаў
Адсочвае свой дублікат.
Уга!
У крыніцы адбітак.
Як промыслаў Боскіх працяг.
Радовішча.
Рэха.
Забыта.
...Вытокі жыцця.

## УРОСКІД

Зноў гады ступаюць след у след.
Роспач лапай покуль не кранае.
Дуб трымае долю каранямі,
Крона робіць хмарам перакслед.

* * *

Хто раскошу мэтаю назваў
І, пракуднік, паляваў на перлы,
Як ні дзіўна, выслізнуў наперад,
Хоць за хлясцік валаклі назад.

За наступствы! – хлышча экстрэмал,
А губу зануда не замочыць.
Каб правы спрадвечныя замоўчваць,
Не праблема – права атрымаць.

Зааганжаваны паліглот
(У актыве – райская і майя),
Шкадаваў, што доступу не мае –
Абвясціць радзіннай закалот.

Заклікаў паслушнікаў Хама:
Юшка з носа! Ты – прыгод наступнік!
Калі пуста без вадзіцы ў ступе,
Дык усмак таўчы – чаго няма.

У катле пякельным смягне вар.
Прайдзісветы згрэбліся на сходку.
Рвуцца глоткі не ў святыя ўгодкі,
Бо навошта ім нябесны дар.

Ці на змогу духу нестае:
Праз руіны згадка не сягае?
Скрыжаваны небам, з пісягамі,
Дуб з травы да хмары дастае.

## *ТРЫПЦІХ МАШЫНЫ ЧАСУ*

***1***

Машына часу. Пылу шлейф.
Каго насустрач Бог пашле?
Назад вяртанне, як абрад.
Вандроўку прытуляе бард.
Таполі ў неба. Дзень у дзень.
А вілы пішуць па вадзе.
А дзесь грымотны каляндар
Лісткі шпурляе свету ў твар.
У храпы свішчуць караблі.
Ліхвяр адсочвае рублі.
У крамах лахманы аб’яў.
Вунь малалетку хрыч абняў.
Анёлы мацаюць пляцак.
Вакзал чыгунку заляйцаў.
Музей разбураны нашчэнт.
Мярзотнік. Марнатраўца. Мент.
Ахвярам помнік. Надпіс знік.
Вяшчун надточвае язык.
І бруд, як верхавода – спрэс.
У гвалту псеўданім – праграэс.
У мазгаўні кагал гудзе.
Нягода. Згода. І гэ дэ.

***2***

Машына часу. Запавет.
Юнак шапкуе і пяе.
Паводкай зносіць кодлу крыг
Пад пераможны крэкт і крык.
Світае ранішні вітраж.

На пчольніку кішыць кірмаш.
У бронзе гронаў вінаград.
Любові салавейка рад.
Маланак скрыжаваны свіст.
Аркестр. Аракул. Альтруіст.
У слоўніку згубіўся “скон”.
У канюшыне дзёрзкі конь.
Між шыбаў таньчыць матылёк.
Вар’ят! Знайшоў у фэсце клёк?
Ага! Збывае сны нябыт,
Няўжо каб нанава набыць?
Аднак, вітае свет юнак.
Аднак...

*3*
Машына часу. Гэй! Дамоў!
І капялюх ляціць далоў.
У водсветах бяроз і рос
Шляхі кладуцца навырост.
Заціснуты паміж эпох,
Палае свету зорны стог.
Як злодзей сквапны: бач, пірог –
Крадзецца старасць на парог.
Няўжо адхіліцца мілосць?
Няўжо ёй здрадзіў ягамосць?
Ды не! Туды, дзе дол сухі,
Вясёлка лье дажджы ўнахіл.
Балюча месца абмінаць,
Дзе мае метрыку мана.
Дзе шкода. Звады. І праклён.
А здрада квапіцца на клон.
Ды па выбоінах аблок
Валоку хто з нас не валок?
Не ў нашым воку бервяно.
Краса. Абрысы. Дар. Віно.
Глядзі, зямляча! Наўздагон
Выходзіць сэрца з берагоў.
*P.S.*
Машына часу. Вобзем бразь!
Барозны. Беразняк. Абраз.

## *КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ*

Сэрца ўласнага акрамя
Трымаю рукамі,
Хаця і нязручна трымаць,
За пазухай камень.

Ён валіць да долу мяне:
Жадае пазбыцца?
Пажадны нахабнай мане
З абоймы амбіцый.

І нельга параіцца з ім:
Злавесны дарадца
Штурхне нечакана зусім –
На пекла нарвацца.

Ён помсту таемна прыпас,
І з ёю – нядрэмны,
Каб раптам пры выпадку плясь! –
Хавацца дарэмна.

Вось так і нашу на шашу,
Што сплішчыла кальвы,
Навошта балесны нашу
За пазухай камень?

### *СОК*

Ірваў грудзіну ледалом.
Завесы возера гайдалі.
І зорка, зрынута далоў,
Для рэха след не пакідала.

Лабаты ўзгорак глуха соп:
Падперла дыхавіца горла.
І выціраў вандроўнік лоб
На паваротцы ў вёску Горна.

Адлегу вецер хваляваў,
А наст унікнуў асцярогі.
І беразняк адкаркаваў
Біклагу вобак ад дарогі.

З цыгаркі хлопец жарсць атрос,
Ды кроў адчайна не змаўкала.
Адна – бліжэйшая – з бяроз
На смагу ўлетку намякала.

### *УНАЧЫ*

Светлякоў не ўшчаміў папар:
Выпаўзлі з куфра змроку.
І драпежнікі рух ахвяр
Трымаюць у полі зроку.

### *БЕЗ НАЗВЫ*

І стаўся магам сам сабе:
Душа зыходзіць на іспыты.
А час дарогу перабег,
Каб паскародзіць скроні пытлем.

Ад вежы цень зваліўся ніц.
На груд караскаецца верас.
А хто дастанецца крыніц,
У подзвіг доўга не паверыць.

На шыбе выстылы прамень
Алмазам гострым цемру рэжа.
А ты, прыцьмелы, каб прымеў,
Дык прашаптаў бы:
...Вось... Нарэшце...

### *ПАЭТ*

Каб прышчапіць сябе, як след,
У садзе Слова – не спакусы,
Дык ён караскаўся ў сусвет
Уласным цешыцца прымусам.

Жадаў наперадзе спазнаць
Захмар'я зябкую валоку.
Ахвярна. Строга. Дапазна
Стаяла зорка перад вокам.

Ён пазбягаў з гайнёй сустрэч
І прызначаў з гаямі стрэчы.
Бо ведаў: дурню не пярэч.
Разумным можаш запярэчыць.

Са старадрэвіны вякоў
Лістота глуха адпадала.
Ён знаў: падобна навакол
Было,
      калі звялі шану на гала.

Не чуў апошняе трубы,
Што абвясціла позні почат.
Старонкі жарсці і журбы
Над ім, як воблакі, шапочуць.

Сяргей Вераціла



...Запар мне, калі ласка, чаю з мятай.

Яна пахне сонцам...

# Чай з мятай, цыгарэта з ментолам

***Апавяданне***

А раптам возьмуць і вернуцца халады. Вось так з ніадкуль і з нічога. І мы зноў зашыемся па цёплых кватэрах, будзем шукаць утульных куткоў пад коўдрай, будзем разганяць запаволеную кроў у настыглых целах. Запар мне, калі ласка, чаю з мятай. Яна пахне сонцам. Так мне здаецца, і гэта ёсць праўдай, як праўда і тое, што я навучу цябе запарваць чай з мятай. Спачатку насып у шклянку лыжачку мяты, потым лыжачку зялёнага чаю, потым лыжачку цукру, залі ўсё гэта кіпнем, дай крыху пастаяць, потым разбоўтай і пачакай пакуль канчаткова набрыняюць і ўлягуцца на дно чайныя і мятныя лісцікі. А цяпер давай мне шклянку і слухай. Я раскажу табе не пра мятны чай, а пра тое, якой бяды нарабіла ўсяго адна цыгарэта з ментолам, хоць Бог даў, і ўсё абышлося на добрае.

Звалі яго Васіль. Праўда, у першы раз ён назваўся мне “Васіліем”, а потым нат прасіў, каб я называў яго Васілём.

Я не супраць. Але ў гэтым дуалізме імёнаў мне падалася няўпэўненасць і заўсёдная гатовасць да кампрамісу. Але я і сам мусіць такі. А вось формы "Базыль" ён не прызнаваў, не хацеў, паводле ягоных словаў, адчуваць сябе катом. І сапраўды было ў ім нешта каралеўскае, часам я зазначаў гэта ці то ў якім жэсце, ці ў павароце галавы, ці то ў тым, як да яго цягнуліся людзі. Прыгожым яго назваць было нельга, хоць я ў гэтым мала разбіраўся. Але ягоная ўсмешка, у якой было столькі годнасці і дзіцячага даверу, і ягоныя вочы, тужлівыя і глыбокія, былі сапраўднай дзявочай палонкай. І не адна з іх патаемна па ім уздыхала і рабіла яго героем сваіх самых салодкіх мрояў. Але ён ці то быў аднагалюбам, ці то шукаў, як гэта зараз называюць, свайго ідэалу. І гэта, мусіць, адпавядала мяккасці ягонае натуры, ягонай гатовасці саступіць, але толькі да нейкай вядомай толькі яму аднаму рысы.

Я не ведаю, дзе ён яе толькі знайшоў. І гэта ж трэба прыдумаць такое. Ці то яна глухая на сэрца была, ці то выраблялася, ці то мела нейкія планы на іншую партыю. Я б не сказаў, што яна такая ўжо непадступная была ці такая ўжо ганарыстая. А можа, я памыляюся? А можа, яна за ім такою зрабілася, з-за ягонай празмернай у нашыя часы, а таму, відавочна, смешнай адданасці. І многія смяяліся, а яму беднаму не да смеху было.

Хадзіў за ёю два з паловай гады запар, як навязаны. А яна не давала яму, хоць ты плач, а й плакаў, але хадзіў. Яна яго хвосцікам называла. А яму што? – Ён хацеў яе так, што ажно млосна рабілася. Яго некаторыя ейным ценем называлі і смяяліся, але так без злосці і ў асноўным за вочы. А некаторыя зайздросцілі. Адна была яму так і сказала, каб ты за мною хоць на чвэрць так бегаў, то я табе ўжо на трэці вечар дала б. А ён? А яму што? – А ён толькі яе хацеў, яе, недасяжную. А яна? – А яна смяялася, кпіны строіла, але далёка ад сябе не адпускала, ёй, безумоўна, падабалася мець свайго раба і рыцара ў адной асобе, а ён і на такое быў згодны, толькі б не праганяла.

Ён ёй і кветкі дарыў, і цукеркі насіў, і якіх толькі дзвярэй перад ёй не адчыніў, на ўсё дзеля яе гатовы быў, але толкам ні разу не папрасіў яе, не прызнаўся, не паставіў яе перад фактам, не прыпёр да сценкі. Але ўсё зазіраў у вочы, мо сама здагадаецца. А яна нават вокам не павяла, ніяк у ягоны бок не варушылася. А ён як яе за руку патрымае, ці калі насмеліцца і наўмысна – выпадкова дакранецца дзе да цыцкі ці клуба, то ўжо ноч цэлую не спіць, усё мроіць, як гэта яму падладзіцца, як яму ямчэй будзе, і, нічога не прыдумаўшы, ужо пад самы ранак наракаў на свой нешчаслівы лёс, уздыхаў, узнімаўся і апасля няхітрага сняданку пёрся на працу, а там была яна: такая прыгожая, такая жаданая і такая недаступная. І нехта ж узяў і выдумаў яе яму на пакуты!

А яна? – Яна прывыкла. Ёй з ім зручна было. А ён? – А яму балела і балела, ён увесь спераджываўся, схуднеў, еў мала, спаў мо яшчэ меней, але што мог прыдумаць? Яму, праўда, раілі і тое, і гэта, ён уважліва слухаў, згаджаўся, хітаў галавой, і ... нічога не мянялася. І ў вось ужо ці не ўсім стала здавацца, што так яно і належна, як за ноччу – ранак, як за летам – восень, як за марозам – адліга...

...Хто зразумее мужчынскую душу – таму гонар і слава, хто зразумее жаночую душу, той – мудрэц найвялікшы, хто зразумее чужую душу, то ў таго ў руках незгасальная паходня, а хто сябе зразумее, то ўжо лічы, што спазнаў найвышэйшае. Але як разабрацца ў паваротах лёсу, у выпад-

ковых учынках, ува ўсім тым, што складае пакручаста-простае жыццё, і часам бывае смешна там, дзе плакаць належыць, і сухі горыч застаецца ад невыплаканых слёз, і вось застаецца толькі развесці рукі, бо ўсё ўжо так позна, што нібыта і не пачыналася...

А здарылася ўсё нечакана для ўсіх, хоць такі развой падзеяў быў цалкам прадказальны. Але звыклая хада падзеяў не дазволіла ўбачыць тое, што было так відавочна і ляжала на самай паверхні.

Я ведаю, што гэта здарылася якраз у тое лета, я мяркую, ты здагадалася пра якое лета я гавару.

Васіль ехаў цягніком з гасцей, на радзіме хрысцілі чарговага пляменніка. Спачатку ён не хацеў туды ехаць, бо ведаў, што ўсе абавязкова пачнуць чапляцца з пытаннямі пра тое, калі ён ужо ажэніцца. Ён, праўда, ужо навучыўся адказваць на пытанні сваякоў жартамі. Цяжэй было з маці, яна ўсё расказвала яму пра Таццяну, якая жыве сваёй кватэрай у іхнім абласным цэнтры, і яшчэ не замужам, і што яна ўвесь час цікавіцца ягоным жыццём. Аднойчы Васіль не вытрымаў і так вызверыўся на маці. Казаць пра Таццяну маці перастала, але пазірала на сына так журботна, што лепш бы ўжо казала, што хоча, абы так не глядзела. Але ў гэты прыезд усё прайшло гладка, што Васіль ажно пачаў трымцець, як заўсёды, калі адчуваў, што вось-вось павінна здарыцца нейкая непрыемнасць. Але ён адагнаў ад сябе гэтае адчуванне. І нат дазволіў адвезці сябе на станцыю, і з вакна паблажліва назіраў, як брат запрагаў Мальчыка ў брычку, і міласціва дазволіў маці скласці сумку, а потым на станцыі ён скарміў жарабцу колькі кубікаў рафінаду. Конь імгненна схрумкаў пачастунак і ажно задрыжэў ад задавальнення. Васіль дружалюбна пагладзіў Мальчыка па пысе і пайшоў у касу.

Людзей у пачакальні ўжо не было, усе ўжо выйшлі на перон. Гэта яго чамусьці ўзрадавала.

– Мне плацкарту.

– Плацкарты няма! – весела абвесціла зусім юная касірка ў форменным пінжаку, уся абвешаная, бы навагодняя ёлка, залатымі ўпрыгожаннямі, бляск якіх ніяк не пасаваў да формы.

– Тады купэ, – абыякава заўважыў Васіль.

– О, гэтага колькі заўгодна! – дзяўчына яшчэ больш ажывілася, і ейныя вочы заблішчэлі куды мацней за важкое золата ейных пярсцёнкаў, колцаў, завушніцаў, крыжыка на ланцужку і гадзінніка з бранзалетам.

Васіль быў рады, што не прыйшлося чакаць цягніка. Ён на скорую руку развітаўся з братам, лёгка падхапіў валізы і ўскочыў у вагон. У купэ быў яшчэ адзін пасажыр, а дакладней, пасажырка. Васіль нягучна павітаўся і мімаходзь адзначыў, што дзяўчыне было крыху за дваццаць, ну хіба самае большае дваццаць пяць. Васіль закінуў наверх адну з валізаў. Тут суседка папрасіла паставіць наверх і яе чамадан. Ейны голас грудны, крыху ахрыплы адразу рэзнуў нейкім шчымлівым пачуццём ажно пад самае сэрца. Нічога не кажучы ў адказ, і намагаючыся лішні раз не зірнуць на дзяўчыну, Васіль ускінуў чамадан, заўважыўшы па ягонай вазе, што гаспадыня па ўсім выправілася ў няблізкі свет. Васіль спінай адчуў, што суседка надзвычай бесцырымонна яго разглядае. Ці то ад ейнага позірку, ці то ад фізічных высілкаў ён спатнеў. Васіль дастаў з кішэні насоўку і выцер лоб, твар і шыю, і незадаволена адзначыў чорныя пісягі на лапіку белага батысту.

Тое лета цяжка было назваць цёплым, яно хутчэй было халодным, але выпала некалькі сапраўды гарачых дзён, калі нават і ўначы слупок тэрмометра не падаў ніжэй за плюс дваццаць восем. І якраз на гэтыя дні і прыпала Васілёва паездка на радзіму. Васіль канчаткова сумеўся, нахіліўся да сумкі і засунуў пакамечаную насоўку ў бакавую кішэню, там ягоныя пальцы натыкнуліся на паўтарачку мінералкі. Ад гэтага чамусьці стала лягчэй, ён дастаў яе і яшчэ пластмасавы раскладны ў дарогу стаканчык. Наліў і выпіў за тры вялікія глыткі. І тут суседка зноў загаварыла да яго:

– У вас там што, мінералка?

І хоць Васіль быў невялікі аматар выпадковых, а тым больш цягніковых знаёмстваў, ён быў змушаны хоць неяк падтрымаць размову. Але словы яму ніяк не даваліся, а таму замест адказу ён працягнуў ёй паўтарачку.

– А вы б налілі.

Ён так і не зразумеў, яна ці то папрасіла яго, ці то загадала, але з гатоўнасцю наліў у падстаўленую шклянку. І нечакана для сябе самога прамовіў:

– Горача..., – гэта прагучала амаль як апраўданне.

Яна адпіла некалькі глыточкаў і паставіла на стол шклянку, задаволена прычмокнуўшы:

– Дзякуй. Прахалодная. У самы раз.

Ён не стрымаўся і пахваліўся:

– Я ў маразілцы яе трымаў. Дастаў перад самым ад'ездам.

– А я думала вы яе з вагона-рэстрана прынеслі, – у ейным голасе гучала непрыхаванае расчараванне.

Ён паспяшаўся апраўдацца:

– У іх тут ніколі лядоўня не працуе. Я ўжо колькі год гэты цягнік ведаю.

Слова "цягнік" ён сказаў па-беларуску.

– Вы правільна назвалі яго цягнікам. Такі ўжо марудлівы.

Ён раптам падумаў, што вось яна даравала яму за лядоўню, а ён ужо і рады, нібы дзіця малое з бліскучае цацкі. А яна яму – аніхто, чуж-чужаніца, і мовы, можа быць, ягонай на дух не выносіць. Але ён не стаў яе выпраўляць, а толькі згодліва гмыкнуў. І тут жа яму сталася неяк не па сабе, ён раптам пачаў збірацца: адшукаў у сумцы сандалеты, паправіў рукой валасы і паляпаў сябе па кішэнях, правяраючы наяўнасць запалак і цыгарэтаў.

– Вы пакурыць? – запытала яна і, не чакаючы адказу, папрасілася, – а можна я з вамі?

Ён толькі здолеў паціснуць у адказ плячыма, і яна гэта ацаніла, як згоду. Яны выйшлі ў вузкі калідор і сталі насупраць свайго купэ. Некалькі шыбаў былі прыўзнятыя да палавіны, ля іх стаялі курцы і ласаваліся улюбёным дымам і свежым паветрам. Пакуль ён узнімаў шыбу, яна шамацела цыгарэтамі. Ён паспешліва чыркнуў запалкай і адразу адчуў пах ментолу. І можа быць гэты пах змусіў яго нарэшце зірнуць на спадарожніцу. Дзіўна, але спачатку яна падалася яму высокай, і толькі зараз ён убачыў, што гэта не так і тут жа падумаў, што ёсць такі тып целаскладу, які ставарае падманлівае ўражанне. Ён курыў і працягваў вельмі асцярожліва разглядаць дзяўчыну: так, сапраўды, ёй самае большае дваццаць пяць гадоў, можа крыху даўгаватыя рукі, можа крыху залішне шырокія плечы і вузкаватыя сцёгны, яшчэ яго ўразіла тонкая, нібы ў захоп далоняў, талія і высокія,

ажно да нерэальнасці, грудзі. Разглядаць твар ён чамусьці пасаромеўся. І тут маўчанне пачало непакоіць яго, ён занерваваўся і пастараўся як мага хутчэй дапаліць цыгарэту. Але з-за гэтай амаль невытлумачальнае нярвовасці дапаліць цыгарэту не ўдалося: яна пераламілася ля самага фільтра. Ён яшчэ паспрабаваў зацягнуцца дымам, прыціскаючы цыгарэту да фільтра, але з-за паспешлівасці цыгарэта ўпала на падлогу, і ў пальцах застаўся толькі фільтр. Ён нагнуўся па цыгарэту, хутка падхапіў яе і кінуў за вакно. І ў гэты ж момант з пальцаўываліўся фільтр. Васіль не стаў паднімаць фільтр, а толькі безнадзейна махнуў рукою і раптам падумаў, што вось зараз яна засмяецца, і яму стане крыўдна ажно да невыноснасці, крыўдна за сваю нязграбнасць, сарамлівасць і дзіцячасць. “Так і не вырас”, заўважыла неяк мама, і гэта ніякім чынам не тычылася росту, з ростам у яго як раз усё было ў парадку.

Але дзяўчына не засмяялася, зусім наадварот, яна з паспешліваю гатовасцю працягнула яму расчынены пачак:

– Частуйцеся.

– Дзякуй, я з ментолам не палю, але ўсё роўна дзякуй.

Гэты ейны жэст, звычайны чалавечы, прымусіў яго адразу забыцца на ўласную няўклюднасць, і яму раптам стала цёпла пад сэрцам, нейкая прыемная млявасць разлілася па целе, а гэтая незнаёмая малодка сталася чамусьці блізкай-блізкай, амаль сваёй. І раптам яму захацелася загаварыць да яе, распавесці пра самае патаемнае. Мала таго, яму падалося, што і ў яе такое ж самае жаданне. Ён усяго толькі на імгненне крануўся ейных пальцаў і адразу ж прыбраў руку, але за гэта імгненне зусім мізэрная знічка чалавечай цеплыні пранікла ў яго, дапоўненая звычайнай ветлівасцю жэста і інтанацыяй глыбокага крыху хрыплаватага голасу. І тут жа ён адчуў, што ў дадзены момант маўчанне будзе значна больш адпаведным сітуацыі. Ён дастаў з кішэні свой “Бонд-лайтс”.

– А цяпер дазвольце я вам паслугую, – яна пстрыкнула запальнічкай.

А цяпер яму зноў падалося, што яна пасміхаецца з яго, ён пераадолеў сваю баязлівасць і наблізіў цыгарэту да агню, міжволі зірнуўшы ёй у вочы, і задаволена адзначыў, што ў іхнім шэра-сінім няяркім святле не было і ценю насмешкі. І пыхнуўшы дымам, ён замест падзякі брэмкнуў:

– Васіль, – і працягнуў руку.

– Анжэла, – яна мякка паціснула ягоную далонь.

І гэты слабы поціск апёк яму руку, і прадчуванне салодкім болем гукнулася ў сэрцы. І тут жа Васіль падумаў, што гэта імя ёй не падыходзіць. І тут жа сказаў ёй пра гэта.

– А якое імя мне падыходзіць?

Васіль зірнуў на яе, потым на якую хвіліну заплюшчыў вочы, і ў галаве мільганула: “Марына”.

– Вам пасуе імя Марына.

– Вы так лічыце?

– Мне так здаецца, – ягоны голас ужо не быў такім упэўненым.

– І ўсё такі мяне завуць Анжэла.

Яму падалося, што яна злёгку пачырванела. Ён тут жа прыпісаў гэта раздражненню. Ён змоўк, адвярнуўся да вакна і ўзяўся засяроджана пыхкаць цыгарэтай.

– Вы не крыўдуйце. Са мною такое бывае. Часам на мяне находзіць.

Ейны голас быў поўны прабачэння. Больш за тое, яна пагладзіла яго па плячы. І гэтыя словы, і гэта зусім нечаканая пяшчота цалкам расчулілі яго.

– Не, не, нічога, – і тут ягоны голас здрадніцкі ўздрыгануў, і на вочы самі сабой навярнуліся слёзы.

– Вы плачаце? – яна была здзіўленай, а голас ейны стаў яшчэ глыбейшым.

І Васіль адчуў, як ягонае сэрца пагружаецца ў салодкую млосць; вочы імгненна высахлі, і ён павярнуўся да яе.

– Я, вы, – ён яшчэ нешта гаварыў, але словы зблыталіся, думкі перамяшаліся і зніклі, спалоханыя гарачымі хвалямі пачуццяў.

– Нічога не кажыце, – сказала яна, альбо яму падалося, што яна гэта сказала, бо ейны твар апынуўся так блізка, што гарачы подых ажно апаліў яму грудзі, і падлога адразу паехала ў яго з-пад ног разам з цягніком, а ён нібыта застаўся ў нейкай падпрасторы і міжчассі.

І ён ужо потым нізавошта не здолеў бы патлумачыць якім чынам яны апынуліся ў купэ, як у розныя бакі ляцела вопратка. Гэта было нечакана, імклівa і бурна, яны нават забыліся зачыніць дзверы. Ужо потым ён кінуўся збіраць з падлогі вопратку.

– Ты баішся, што нехта зойдзе? – у ейным голасе былі патрабавальнасць і нецярплівасць.

– Я нічога не баюся, мне ўжо набрыдла баяцца, я хачу быць з табой, – у ягоным голасе былі спакой і рашучасць, і яшчэ ён дадаў, – калі ты не супраць.

Яна засмяялася, і смех ейны быў больш зваблівы чым голас:

– Я не супраць, бо тое было так хутка.

Ён пацалаваў яе ў вусны і адчуў прысмак ментолу.

У іхняе купэ так ніхто і не падсеў. І ўжо наранку, дапамагаючы ёй апрануцца, ён заўважыў, што зусім не адводзіць позірку. Яму было лёгка і свабодна, і ён не адчуваў за сабою ніякае віны:

– Быў без віны вінаваты, стаў без віны п’яны.

– Ты нешта сказаў? – спытала яна.

Гэтае “ты” прагучала для яго зусім па-сваяцку, па-сямейнаму. Ён усміхнуўся адкрыта, шчасліва, не саромеючыся, можа, упершыню за ўсё сваё “дарослае” жыццё:

– Ты заедзеш да мяне, – і гэта было як прапанова і як загад.

– Я заеду да цябе, – адразу пагадзілася яна, – толькі спачатку здам рэчы ў камеру захоўвання, – яна зірнула на свой чамадан.

Лёгкае расчараванне кранула ягоную душу і адразу ж знікла, так знікае лёгкае воблачка, якое выпадкова забегла на нябёсную сінечу ў недаступнай ніякаму позірку далячыні.

– Я што-небудзь паела б, – адразу абвесціла яна. Як толькі яны пераступілі парог кватэры.

А ён падумаў, што вельмі дарэчы прыбраўся ў кватэры перад ад’ездам на хрэсьбіны. І ён задаволена павёў яе на кухню, падхапіўшы лепшую са сваіх валізак, ён ведаў – там засмажаны певень. Куры маці шкадавала, а вось пеўням літасці не было, яна пакідала толькі аднаго і то толькі да тае пары, пакуль яшчэ быў здольны таптаць куры.

– Ёсць смажаны певень.

– А не дзёўбне?

– Не, – ён ужо смяяўся.

– Насамрэч я гатова камяні грызці.

– Грэць будзем? – спытаў ён, ужо запіхваючы тпушку ў СВЧ.

– Ты яго ўжо грэеш, – смяялася яна.

Яму таксама хацелася смяяцца, але ён ужо ўключыўся ў гульню, а таму зноў спытаўся:

– Будзем тут альбо пойдзем у залу?

– А што там у залі: пакой Сіняй Барады, так?

– Ну, там паглядзіш, як я жыву, там музыка, тэлек...

– І канапа, – яна сур'езна прамовіла гэтае слова, але вочы ейныя ўсміхаліся, і ён не ўтрымаўся ад жадання прачытаць у гэтых усмешлівых вачах шчасце, а таму адразу ж з гатовасцю паўтарыў за ёй:

– І канапа.

Яны засталіся на кухні. Ён амаль не еў, а толькі назіраў за тым, як есць яна. Яму адразу спадабалася, як яна акуратна падчышчае мяса ад костачак, ён здзіўляўся якім чынам ей удавалася не запэцкаць пальцаў, у яго гэтак не атрымлівалася, і ён адчуў як знутры прама ў сэрца пранік непрыемны халадок, такое з ім здаралася, калі Васіль лічыў, што яму паказваюць на непаўнавартасць, але гэта адчуванне тут жа знікла здзьмутае паветраным пацалункам, так знікае адзінокі камар пад павевам свежага ветру.

Чай пілі ў пакоі, што служыў яму і кабінетам, і спальняй, і гасцёўняй – звычайная сітуацыя для аднапакаёвай кватэры. Яна падышла да паліцаў з кнігамі, правяла пальцамі па паліраванай паверхні дошак, зірнула на яго і здзьмухнула неіснуючы пыл:

– Любіш чытаць? – на гэты раз вочы ейныя былі сур'езныя.

– Люблю, – неахвотна прызнаўся ён, і ў ягоным голасе была чутна няўпэўненасць, нібыта ў гэтай любові хавалася нейкая непапраўная загана, – можа тэлевізар уключым?

Яна яшчэ раз зірнула на яго сур'ёзнымі вачыма, мяккімі амаль кацячымі крокамі падышла да канапы і ў адзін рух скінула з сябе футболку:

– Спаць хачу.

Васіль у імгненне вока раскінуў канапу, увабраў яе і, кінуўшы некалькі падушак, запрасіў.

– А ты?

– І я таксама.

Упрошваць яго не прыйшлося. Але, натуральна, што заснуць адразу ім не давялося. Потым ён нахіліўся над ёй так нізка, што іхнія вочы амаль зліліся ў адно: шэрае перайшло ў сіняе, сіняе перайшло ў шэрае – і сталі як звычайнае неба над гэтаю зямлёю.

– Ты застанешся?

– Я гэтак хачу, – ён адчуў, як хваля пяшчоты і даверу залівае яго.

– Спі, – яна абняла яго за шыю абедзьвюмя рукамі і прыцягнула яго яшчэ бліжэй.

Нечакана для сябе Васіль заснуў, як праваліўся, адразу і да самага дна. Сноў не бачыў, але спаў трывожліва і неспакойна: падушка ляжала на падлозе, а скамечаныя прасціны тулiлiся ў нагах. Сонца ўжо перайшло на заходнюю палову і неміласэрна пякло ў вакно. Прамяні, праходзячы праз нядбайна ссунутыя шторы, падалі на канапу, дзе раскінуўшыся, спаў змоклы ад спёкі Васіль.

Сонца і прымусіла яго прачнуцца. Яшчэ зусім ачмурэлы Васіль не адразу дайшоў да сябе і хвілінаў пяць бессэнсоўна тыцкаўся позіркам у вакно, потым адчайна цер лоб далонню, нібы намагаючыся ўзгадаць штосці вельмі важнае. І тут яго, як прабіла, ён рэзка ўзняўся, зірнуў на канапу і ціха паклікаў: "Анжэла". Голас не даваўся яму.

– Марына, – гэтым разам выйшла гучней.

Трэцім разам "Марына" выдыхнулася нагэтулькі гучна, што нагадвала роспач.

Ён разгублена зірнуў на падлогу, дзе была раскідана ягоная вопратка, ейнае там не было. Васіль кінуўся на кухню, але Марыны не было і там. Ён вярнуўся ў пакой і зазірнуў на балкон. І тут яго пачала апаноўваць нейкая невытлумачальная туга, вусны ўмомант перасохлі, і ў горле засеў гостры, непраглынальны шэпт, нячутны нат самому Васілю. Ён сеў на канапу, панурыў галаву, дастаў цыгарэту, закурыў, выпусціў першы дым, зноў зірнуў на сваю вопратку і злосна адсунуў яе нагой. І тут ён пачуў, як у ванне шуміць вада, і раптам ягоны твар прасвятлеў, непатушаная цыгарэта ўпала ў попельніцу. Ён сходу ўлез у джынсы, рынуўся да ванны, не пастукаўшыся таргануў ручку. Дзверы лёгка адчыніліся. У ванне нікога не было, і расчараванне гарачай хваляй пракацілася па целе ад пятаў да патыліцы і ад патыліцы да пятаў. І тут яму зрабілася млосна, і каб не ўпасці, ён прытуліўся да сцяны, а потым сеў на край ванны, і тут ягоны позірк натыкнуўся на люстэрка. Там чырвонаю памадай было намалявана нейкае дзіўнае сэрца, перасякнутае стралой, пад ім тры старанна закрэсленыя літары Анж, потым Марына і адбітак вуснаў, а яшчэ ніжэй, кароткае і трапнае, як стрэл: даруй. У галаве адразу зазвінела, а пад сэрцам утварылася пустэча. Васіль намачыў руку, правёў па валасах, прыгладжваючы іх, бязглузда пасміхнуўся адлюстраванню, закруціў кран і пайшоў у пакой.

Цыгарэта ў попельніцы дагарэла, Васіль дастаў другую, але не стаў яе падпальваць, пакруціў у пальцах, зламаў, кінуў у попельніцу і кінуўся на канапу тварам уніз. Прасціна здрадніцкі захоўвала Марыніны пахі. Пачуцці напоўнілі яго, змяшаліся між сабой, і Васіль заплакаў. Лягчэй яму не зрабілася. Васіль узняўся, выцер вочы рукой, яго нат не здзівіла, што яны былі сухімі. І каб зняць з душы трывогу і крыўдлівы боль, ён заняўся прыборкай. Аходзіўшыся ў пакоі, ён перайшоў у кухню, пасля хвіліннага вагання зайшоў у ванну і рашуча працёр люстэрка, а потым доўга мыўся сам, змываючы пот, успаміны, дарогу, крыўду, радасць і здавалася саму надзею на лепшае. Потым ужо на кухні ён павольна парадкаваў свае дарожныя валізы, падсвядома не жадаючы лішні раз заходзіць у пакой, дзе захоўваўся балючым і зусім свежым напамінам, легкі і, здавалася, невыводны пах ментолу.

Я не ведаю, ці патрэбна дадаваць пра тое, што з кватэры нічога не прапала. А Васіль назаўтра пайшоў на працу, а там была Жана. Нібыта нічога не памянялася, але інтуіцыя падказала ёй, што кубак ужо перапоўнены і зараз пачне пераліваацца праз берагі. Можа быць, Жана здолела ўгледзець незаўважную для іншых ягоную лёгкую адасобленасць, а можа не такім як зазвычай быў ягоны позірк. Наогул гэта магло быць нешта вядомае толькі ёй адной, як сакральная таямніца, што спасцігаецца толькі паводле знаку з нябёсаў, але ў той вечар яна прыйшла да Васіля, засталася на ноч. А назаўтра яна перавезла да яго свае рэчы, зразумела, што не ўсе, а як бы сказаць, самы неабходны мінімум. Падзеі разгортваліся з хуткасцю

дваццаць чатыры кадры ў секунду, як у кіно. Жана зусім не хавала сваіх з Васілём дачыненняў, і ўсе іхнія знаёмцы толькі войкалі і разводзілі рукі. І ўсе ўжо зусім абалдзелі, калі даведаліся, што Жана і Васіль занеслі заяву ў ЗАГС. І вяселле было не за гарамі, бо начальніцай у ЗАГСе працавала Жаніна цётка. Яны ліхаманкава рыхтаваліся да ўрачыстасцяў, робячы неабходныя пакупкі, замовы, удакладнялі спісы запрошаных і пасылалі гасцям запрашэнні, а гасцей мелася быць недзе пад дзве сотні.

І ўсе гэтыя падзеі, клопаты як вычысцілі з Васілёвай галавы нават цень узгадкі пра тую паездку. А потым грымнула катастрофа.

Бяда прыйшла зусім нечакана і праявілася ў выглядзе непрыстойнай хваробы. Хвароба выявілася ў іх абодвух на адной і той жа стадыі. Жана адразу, і што цалкам для нас зразумела, звінавваціла ва ўсім Васіля. Забрала з ЗАГСа заяву, пераехала зноў да бацькоў і вырашыла памяняць месца працы. Васіль жа не ўяўляў, што яму і думаць, але раптам да яго дайшоў сэнс малюнка памадай на люстэрку: перагорнутае сэрца працятае стралой. І ніякае гэта не сэрца, а... Васіль нікога, як звычайна, не вінаваціў, не праклінаў, але таксама падумаў, а ці не памяняць яму месца працы.

Медыцына цудаў не рабіла, медыцына рабіла сваю справу, а да таго хвароба не была запушчанаю, і таму ўсё даволі хутка загаілася. А месяцы праз чатыры Жана зноў прыйшла да яго. Я ўжо і не ведаю, што за разборкі і якія размовы паміж імі адбыліся, але Жана засталася на ноч, засталася і на наступную. А потым яны зноў занеслі ў ЗАГС заяву, а потым згулялі вяселле, ціхае, усяго на дзясяткі паўтары гасцей, ды і тыя былі з ліку самых найбліжэйшых сваякоў. А потым яны купілі сабе трохпакаёўку і там пачалі будаваць сумеснае жыццё.

Я ўжо было зусім страціў Васіля з поля зроку і не ведаю, як там у іх ішло надалей, але аднойчы я перастрэў яго на вуліцы Леніна. Мы ўзялі па піву, прайшлі ў скверык, уселіся на лаве, закурылі. Дзень быў надзвычай цёплы, а таму піва было дарэчы. І тут раптам нашая гамана разладзілася. Побач прысела даўганогая ў кароткай спадніцы дзяўчына. Яна неяк імкліва-нярвова раскрыла свой заплечнік, дастала адтуль цыгарэту, пстрыкнула запальнічкай і прагна два разы запар зацягнулася, і адразу ж на нас патыхнула ментолам, ветрык быў якраз у наш бок, і тут я заўважыў, як скрывіўся Васілёў твар.

– Ненавіджу ментол, – патлумачыў ён.

– Алергія, – пагадзіўся я.

– Добра, дзядзька, я пайду.

– Сямейны чалавек – сямейныя клопаты.

Я паціснуў ягоную далонь і заўважыў у ягоных вачах ці то боль, ці то тугу, ці то яшчэ нешта, пра што не ведаю і ніколі не даведаюся. Я паглядзеў яму ўслед і падумаў...

...Я падумаў, што вось зараз возьмуць і вернуцца халады: з ніадкуль і з нічога. І я тады навучу цябе рабіць чай з мяты. Гэта так не складана: насып у шклянку адну лыжачку мяты, потым адну лыжачку зялёнага чаю, потым адну лыжачку цукру, залі ўсё гэта кіпнем, разбоўтай і назірай, як чайныя і мятныя лісцікі брыняюць вадой і ўлягаюцца на дне. Смак нагадае табе пра сонца.



Алесь Гібок-Гібкоўскі



...узняцца да небасхілу
я толькі з табой змагу...

# Дакрануцца да неба

## *БЕЛАРУСКАМУ ВАЯРУ*

*Л. Прышчэпу*

Быў некалі цар у спартанцаў адзін, –
даводзіць гісторык Тацыт, –
бруіла жыццё яго ў плыні хвілін
і звалі яго Леанід.

Ды неяк знянацку, ударам пад дых –
кастроў непрыяцельскіх дым!
І цар трыста写 вояў сабраў сваіх
і стаў перад ворагам тым.

Меў цар Леанід непраўзыйдзены дар –
мячом валодаў як бог,
прыняў ён той люты варожы ўдар –
тым волю Спарты збярог.

І нашай зямлі змагары-ваяры
мелі характар граніт,
ў часы трывожнай для краю пары
ўздымалі, як цар Леанід

свой меч баявы і стаялі сцяной,
смяротны прымаючы бой,
і, бы ў ланцугу залатое звяно,
сцінàлі дзяржаву сабой.

Не мелі сабе яны іншых уцех –
адно ў полі бітвы двубой,
і не даравалі адзін толькі грэх –
здрады Радзіме сваёй!

І сёння ваяр наш цвёрдай рукой
продкаў трымае сцяг,
яму, як заўжды, толькі сніцца спакой
на жыццёвых шляхах.

Ні грошай, ні іншых сабе даброт
не прагне ён адшукаць.
Адзін яго клопат – за годам год
Радзімы спакой зберагаць!

Ды і калі ён пойдзе ў запас
і здыме даспехі свае,
ва ўсякі трывожны Радзімы час
зноў стане пад сцягі яе!

І, як калісь, Леанід – смелы цар –
зноў спаліць сэрца датла,
першым прыняўшы варожы удар,
каб наша воля жыла!

*14.08.2006*

## ***ЗАВЕЯ***

*"Мяло, мяло па ўсёй зямлі..."*
Б.Пастарнак.

*Н.М.*

Дзесь на небе мая зорка пахіснулася,
а завея зноў наўсцяж зямлі мяла...
Толькі бы ты здалёк ізноў вярнулася,
толькі б ты – хоць не са мной – але была!

Хай у свеце зімным мітусяцца людзі,
хай завеі куламесіцца імгла,

хай мяне ты больш на ранку не разбудзіш,
толькі б ты ў імя усіх святых была!

Птушкай раненай зноў адляціш на ранні,
лёгкі след твой заіскрыцца між нябёс,
будзеш там хавацца ад свайго кахання,
не здалеўшы паміж намі рушыць мост.

Я адзін стаю на ім ў завеі белай,
спаланёны шчыльным покрывам імжы,
раствarыўшыся няўзнак душой і целам
ў завірусе, у якой няма мяжы.

*11.2007*

## *ГРЭШНІЦА*

"*Грашыць – і ў граху свяцішча...*"
В.Розанаў.

*В. П.*

Мне зноў Ваша зорка здалёк мігаціць
ў гучанні дзівоснай песні,
і немагчыма не аценіць
яе прыгажосць нябесную.

Ніколі на небе яна не згасне,
хоць лёс наш – кароткі ўздых!
Дай Бог Вам цаніць і зямное шчасце —
што адно на дваіх!

Адчуць густы яго грэшны смак,
паспець ім як след наталіцца...
Бо і такі, кажуць, ёсць Божы Знак –
"Грашыць – і ў граху свяціцца!"

*11.07.2008*

## *ВЫ МЯНЕ ЎЖО НЕ ПАЛЮБІЦЕ!*

Растваряюся зноў у шумнай вуліцы...
Каб не стрэць Вас -- Бога малю!
Вы мяне ўжо не палюбіце,
ды і я Вас не палюблю!

Ў нас нічога болей не зладзіцца,
і жыццё праляціць наўзбоч,
не асвеціцца больш Вамі раніца,
не сагрэецца Вамі ноч.

Больш ніколі ка мне не прытуліцца
Ваша цела з душой збалелай,
мая даўняя мара не збудзецца --
дакрануцца з Вамі да неба.

Не дала нам доля-разумніца
станчыць нат развітальны блюз,
Вы мяне ўжо не палюбіце
Ды і я Вас не палюблю!

*06.09.2011*

## ЛІСТАПАД

*Т. Д.*

У лістапада сумны твар,
дрымотны стан спавіў прасторы,
і рэшткі смелых летніх мар
злятаюць у асенні морак.

Зноў жоўтая лістота дрэў
з вятрамі ў неба дружна рвецца.
І светлы восеньскі напеў
зноў напаўняе нашы сэрцы.

Дзядоў на гэтых днях святых
мы згадваем ад першаздання,
і з комінаў вясковых дым
ў нябёсы рвецца зноўку з рання.

Іначай бачым дні свае –
свет бы наўкол без берагоў!..
Як часта потым не стае
нам так угледзець зноў яго!

## БЫЛІНКА

*С.*

Хвіліны жыцця гонкія
знікаюць за часу сцяной...
Былінка мая тонкая,
адно толькі ты са мной.

Разгублена склаўшы крылы,
ты шчэмішся ў горкі мой рай...
Не ведаеш, як астыла
там сэрца, адчуўшы край.

Там свет мой амаль апусцелы,
бо ў ім я столькі грашыў,
што там толькі месца целу,
і недзе дзецца душы.

І ўсё ж, адчуваючы згубу я,
праз розных спакусаў зман
іду да цябе толькі, любая –
ў таемных вачэй дурман.

Зноў дзень, быццам цень пахілы,
хаваецца за небакрай.
Былінка мая мілая,
толькі ты не знікай!

Бо праз самоту пастылую
і незямную тугу
узняцца да небасхілу
я толькі з табой змагу.

*10. 2009*

## МУЗА

Зноў жыццё маё непагодзіцца,
але ўперад ісці даводзіцца...
І няпроста на крохкай мяжы
навучыцца нанова жыць.

Прызвычаіцца, што неба ў хмарах,
што бракуе Боскага Дару,
што самота за горла сціскае,
і жыцця хвіліны сцякаюць,

як капеж веснавы імклівa,
з успамінамі, як быў шчаслівы,
і як крылы трымцелі ў нябёсах
у высокім палёце лёсу...

Зразумець, што ўжо мары не збудуцца,
што калісь пра цябе забудуцца,
як амаль пра ўсіх забывалі,
хто да берага Музы прычаліў.

Хто адносіны з ёй заводзіў,
і з другімі рахункі зводзіў,
каб пабыць аднаму з ёй побач,
даказаць, што і ты – Асоба!

Што і ты з ёй сябрук закляты,
і закоўваў сэрца ў латы,
каб было да яго не прабіцца
каб ні з кім больш ім не дзяліцца.

Усё ты Музе нёс апантана,
а яна, як каханка сляпая,
тваё сэрца дашчэнту спаліла
у сваім шалёным гарніле...

І як тое дасюль бывала,
у той жа міг пра цябе забывала.
І ты мусіў плыць зноў у нікуды,
абяцаючы, што не будзеш

больш да Музы ты заляцацца,
каб праз дзень-другі зноў дамагацца
з ёй сустрэчы хоць на імгненне,
каб упасці зноў ва ўтрапенне!..

Бо Яна ў сваёй каведнай сіле
ўвесь свет даўно пакарыла...
Не апошні ты і не першы,
хто й душу закладваў за вершы!

Ты не ведаў тады – ўсё мінае,
і твая кумірка былая
стане смешнай і недарэчнай...
А жыццё ў яе тле – небяспечным...

*09.2011*

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць шаноўнага **Алеся Гібок-Гібкоўскага** - паэта, публіцыста, перакладчыка, барда, нашага даўняга сябра і сталага аўтара - з 60-годдзем і зычаць яму здароўя, жыццёвай трываласці і далейшай плённай працы!



Алесь Усеня



...пісьменіка, ягоны розум
"працуюць" штохвілінна, нават у сне.
І шкада, што найчасцей - ухаластую...

# Мой лістапад...

## Кіно

Летам уся дзіцячая гайня — ад падшыванца да бэйбуса — таўчэцца каля калгаснага клуба. Большыя садзяцца ў кола пад грушынаю і пляскаюць картамі. Звычайна гуляюць у "дурня", а бывае, падахвочваюцца на "ачко". Пасярэдзіне жывога кола ўзвышаецца кучка капеек, якую раз-пораз нехта падграбае да сябе.

Меншыя ганяюцца адзін за адным, бораюцца, страляюць з рагатак.

Аднак не гэта прыцягвае сюды дзятву з усіх ваколіцаў вялікае вёскі. У клубе "круцяць" кіно. Днём — для дзяцей, вечарам — для дарослых.

Металічныя кантэйнеры з кінастужкамі ўнутры прывозіць са Старых Дарогаў рэйсавы аўтобус. Ягоны кіроўца выкідвае іх проста на прыпынку, адначасна забіраючы ўчарашнія, прагледжаныя. Часам гэтыя кантэйнеры паўдня валяюцца на прыпынку без аніякага нагляду, і ніхто на іх не пасягне, хоць злодзеяў і проста прыдуркаў у вёсцы ўдосталь. І паспрабаваў бы хто-не-

*Працяг. Пачатак у №№5-6 (54-55) за 2011 г.*

будзь пасягнуць! Абавязкова знайшлі б усім кагалам і павырывалі б рукі. Бо кіно для ўсіх — гэта святое (тэлевізараў яшчэ ні ў кога няма).

Напачатку ў прылепленай да клуба кінабудцы трэба пераматаць, а дзе-нідзе і падклеіць стужкі, што месцяцца ў касетах. Такую адказную справу кінамеханік давярае толькі "абраным" падлеткам, за што яны маюць магчымасць паглядзець кіно бясплатна.

Бясплатна можа трапіць у клуб і той, хто прынясе з дому посцілку. Штораў на клубных вокнах няма, і трэба хоць чым-небудзь захінуцца ад дзённага святла. Дык вось посцілка — адзіны мой шанец, каб разам з усімі палюбавацца на экран. Дзіцячы білет каштуе 5 капеек, і такія грошы для мяне — як багацце Крэза. Балазе, нашая хата ад клуба недалёка, бегаю я хутчэй за ўсіх, таму посцілку заўсёды прыношу першым...

Неўзабаве дзённае кіно для дзяцей скасоўваюць. Тады я ўпершыню чую гэтае мудрагелістае слова — "нерэнтабельна". Цяперака і для дарослых, і для дзяцей кіно круціцца адначасна, увечары, і каштуе такая радасць ажно 20 капеек.

Майму сябру Віцю Канарэйку — анігадкі. Кінамеханік Валодзя па мянушцы Гурбель даводзіцца яму нейкай раднёй, таму Віця заўсёды глядзіць кіно "без білета". Нам жа, некалькім "галадранцам", ад роспачы хоць сцяну грызі.

Урэшце мы знаходзім выйсце. Клуб пабудаваны немаведама калі, і бетоннага падмурка, як у цяперашніх будынках, пад ім няма. Нехта яшчэ задоўга да нас зрабіў падкоп пад тыльнаю сцяною. Усунуцца ў гэтую дзірку нам, хударэбрым жэўжыкам, — як яшчарцы шмыгнуць пад камень. Пад падлогаю трэба прапаўзці тры-чатыры метры і патрапіш у катух каля грубкі. Зімою сюды складваюць дровы, а летам у ім пуста. Счакаўшы хвіліну-другую і скмеціўшы, што Гурбель не пазірае ў гэты бок, мы па чарзе "робім кідкі" ў залу, дзе растваraемся ў гурме.

Гурбель пра дзірку ведае. Калі-нікалі ён у цемры праціскаецца паміж крэсламі, зазірае ў твар кожнаму гледачу. Тых, каго ён абілеціў, Гурбель добра памятае. І калі чарга даходзіць да мяне ці да такога ж "галадранца", кожны з нас атрымлівае насаком пад с... і, як корак, вылятае на клубны ганак.

Валаводзіцца з намі Гурбелю ўрэшце надакучвае. Тым болей што, каб паглядзець кіно на халяву, у дзірку пачынаюць сігаць нават тыя, для каго 20 капеек зусім не ў цяжар. А гэта значыць, не выконваецца план. Наш патаемны лаз Гурбель закалочвае дошкамі.

Аднак жа праз дзірку можна трапіць не толькі ў катух. Калі узяць трохі лявей, можна запаўзці пад сцэну. Яна на паўметра ўзвышаецца над падлогаю, і тут ужо можна сесці на кукішкі. За сцэнаю — экран. Паміж ссохлымі дошкамі ёсць шчыліны — акурат у велічыню зрэнкі. І мы, прымасціўшыся кожны да сваёй шчыліны, задраўшы галовы, пазіраем угару. Бачна толькі вузенькая палоска экрана, затое гук чуваць адмыслова.

Да гэта часу я добра памятаю сюжэты і назвы фільмаў, прагледжаных праз тую шчыліну: "Дзе генерал?", "Два мушкецёры", "Пагоня за ботам", "Фантамас", "Музыкі аднаго аркестра"... І гэта таму, што ўвайшлі яны ў маю існасць разам з падпамаснічным пылам і насакамі пад с...

А калі з'еду ў Мінск і мецьму магчымасць хадзіць у дыхтоўныя кінатэатры хоць штодня, за ўсё жыццё наведаю іх усяго разоў пяць — не болей...

## Лепш перапіць, чым недапіць

Новы год мы сустракаем у самым вялікім пакоі на паверсе інтэрната, разлічаным на шэсць чалавек. Жывуць у ім старшакурснікі. Не дзіва, што свята зацягваецца на некалькі дзён — у пакоі пабывалі амаль усе насельнікі паверха.

Калі нашыя сілы, падарваныя зусім не нарзанам, вычэрпваюцца, мы, нарэшце, завальваемся на ложкі.

На гэты час я "маю адносіны" з вельмі прыгожай дзяўчынай усходняй знешнасці (дарэчы, беларускай). Калі я "адключаюся", яна застаецца сядзець побач на краёчку ложка, можна сказаць, ахоўвае мой сон. Натуральна, што было далей, я не магу прыгадаць, таму пераказваю падзеі паводле слоў дзяўчыны.

У пакой заходзіць рэктарская камісія — з праверкай. Узначальвае яе прарэктар універсітэта. Лёгка ўявіць, які малюнак адкрываецца гэтай камісіі...

— Што гэта? — ледзь не страціўшы прытомнасць, ускліквае прарэктар. І тут адзін з "ложкаў" мармыча:

— Ды пайшоў бы ты на...!

Што тут усчынаецца!

Усіх студэнтаў, якія "адпачывалі", падымаюць на ногі, перапісваюць прозвішчы. Не чапаюць толькі мяне — з-за таго, што на маім ложку сядзіць "усходняя жанчына". Камісія лічыць, што яна іншаземка. Варта адзначыць, што пасля такога бурнага свята і мае вочы нагадваюць вузкія шчыліны-амбразуры дотаў, таму і мяне можна прыняць за якога-небудзь мангола. Адным словам, "міжнародны канфлікт" камісіі не патрэбен, і маё прозвішча не запісваюць.

А потым — "разбор палётаў". Некага адлічваюць з універсітэта, камусьці перападае строгая вымова. Натуральна, у спісе "асуджаных" майго прозвішча няма.

Самае цікавае, што студэнтаў абвінавачваюць (у тым ліку) і ў спойванні іншаземцаў, гэта значыць, мяне і маёй дзяўчыны.

Выходзіць, што часам і сапраўды лепш перапіць, чым недапіць...

## Злодзей

"Пералапачваючы" паэтычныя зборнікі, якія ёсць у вясковай бібліятэцы, натыкаюся на тоненькую кніжачку "Такія сэрцы ў нас". Аўтар — Кастусь Цвірка. Пазначана, што гэта ягоны першы паэтычны зборнік. Чытаю анатацыю і не веру сваім вачам: Кастусь Цвірка нарадзіўся ў вёсцы Зялёная Дуброва, што на Старадарожчыне. Мой зямляк. Я проста агаломшаны. Дасюль мне здавалася, што паэты могуць нарадзіцца дзе заўгодна (на Случчыне, у сталіцы, у нябёсах), але не на нашай зямлі. І вось на табе — Старадарожчына таксама мае свайго паэта!

Мяне гэта так усцешвае, што я вырашаю: гэтая кніжачка павінна быць са мною ўвесь час. Як талісман, як надзея на тое, што і ў мяне можа нешта атрымацца.

Калі ўзяць кніжачку афіцыйна, запісаць яе ў сваю картку, дык усё адно некалі давядзецца вярнуць. І я адважваюся на ўчынак, падобнага якому ў сваім жыцці (ні раней, ні потым) не вытвараў. Кніжачку я краду. Зрабіць

гэта нескладана, бо яна тоненькая, маленькага фармату і зручна месціцца ў кішэні...

Колькі тыдняў нашу кніжачку пры сабе, хоць усе вершы ўжо вывучыў на памяць. Паступова ў душу закрадваюцца згрызоты. Па-першае, як ні круці — злодзей. Па-другое, цяпер кніжачка толькі ў мяне, і ўжо ніхто не зможа яе пачытаць, і гэта, бадай, яшчэ болей жахліва. У рэшце рэшт такім жа таемным чынам праношу зборнічак у бібліятэку і непрыкметна стаўлю яго на кніжную паліцу.

Пры кожнай наступнай ходцы ў бібліятэку першым чынам кіруюся да гэтае паліцы з надпісам "Паэзія". Усё, што тут ёсць, я ўжо даўно перачытаў, аднак мне карціць даведацца, ці стаіць на месцы кніжачка "Такія сэрцы ў нас". Стаіць, як стаяла. Гэтак жа, як і ўсе астатнія паэтычныя зборнікі. Бібліятэкарка сказала, што з усяе вёскі да гэтае паліцы падыходжу толькі я...

Сорак год мінула з тае пары. Бывае, мне зноў хочацца наведацца ў вясковую бібліятэку, каб падысці да роднае паэтычнае паліцы і пераканацца, што тае кніжачкі Кастуся Цвіркі там няма: ці хто-небудзь узяў пачытаць, ці... скраў. Аднак у бібліятэку я не завітваю, каб не згубілася апошняя надзея. Хоць падсвядома адчуваю: тую кніжачку болей ніхто не краў і не ўкрадзе. На жаль...

## Выпрабаванне, якога не было

Любошчы са згаданай раней "маладой настаўніцай" захапляюць мяне цалкам. Анягож: я, можна сказаць, зусім яшчэ смаркач, а яна — спрактыкаваная, загартаваная і разбэшчаная нядаўнім студэнцкім жыццём маладзіца. У вёсцы для яе няма шака дастойных кавалераў, і, мусіць, толькі з-за таго Аня кінула на мяне вока. Дамоў я ўжо наведваюся амаль кожную суботу, каб "задушыць у абдымках" па-даросламу сапраўднае, як мне здаецца, каханне.

Доўжыцца ўсё гэта не меней, як паўтара года. Пэўна, там, у закінутай глушы, далёкай ад "цывілізацыі", для Ані мае візіты, як "светлы прамень у цёмным царстве". У мяне ж, зацягнутага ў бурлівы вір студэнцкага жыцця, усё радзей узнікае прага да ейнае пяшчоты... Паступова, спакваля, без аніякай істэрыкі і ўзаемных папрокаў, нашыя адносіны сыходзяць на нішто.

Праз нейкі час даходзяць чуткі, што Аніным кавалерам стаў мой аднагодак Борыкаў Грыша, аднак іхняя сувязь чамусьці не надта працяглая.

А затым прыходзіць і зусім жахлівая вестка. Ні з таго, ні з сяго Аню паралізавала на адзін бок, яна змушаная пакінуць школу і цяпер недзе жыве разам з маці, якая даглядае дачку-калеку...

А што было б, калі б гэтае няшчасце здарылася ў разгар нашага кахання? Задумваючыся над гэтым, я цешыў сябе ўласнай "высакароднасцю": маўляў, ніколі не пакінуў бы ў бядзе сваю каханку, магчыма, нават з ёю пабраўся б. Аднак, на ганьбу і сорам, недзе ў глыбіні душы, можа, нават падсвядома дзякаваў Богу за тое, што ён не паслаў мне такое выпрабаванне...

## Пляма

Напрыканцы першага курса "паэтычная тройка" — Леанід Пранчак, Тадэвуш Чарнавус і я — раз-пораз пачынаем наведвацца на філфак, каб

паўдзельнічаць у "пасядзелках" літаб'яднання "Узлёт". Кіруе ім прафесар і знакаміты паэт Алег Антонавіч Лойка.

На чарговым пасяджэнні Алег Антонавіч паведамляе, што мяркуецца выдаць зборнік вершаў сяброў літаб'яднання, і няхай кожны з нас паспрабуе прыдумаць ягоную назву. У адным з маіх вершаў ёсць радкі: "Трапяткія, як рэкі, рукі, агнявыя вусны, як вёсны". Усе мы маладыя, большасцю закаханыя, вось я і прапаную для зборніка назву — "Вусны і вёсны". Назва бракуецца, вырашана пакінуць толькі адно слова — "Вёсны". (Цікава, што праз дзясятак гадоў наступны зборнік літаб'яднання "Узлёт" будзе мець назву "Вусны").

Пачынаецца адбор і абмеркаванне лепшых вершаў для зборніка. Калі чарга даходзіць да твораў Віктара Стрыжака, у аўдыторыі нараджаецца лёгкі ўздым.

У студэнцкім асяродку асоба Віктара Стрыжака дужа адметная. Пра ягоныя амурныя подзвігі ходзяць легенды. Дзеўкі ад яго млеюць (а на філфаку іх — як курэй на седале).

Аднак зусім не з-за гэтага равеснікі-паэты ставяцца да яго з асаблівым піетэтам. Віктар піша цудоўныя вершы. Мускулістыя, вобразныя, амаль афарыстычныя радкі адразу запамінаюцца і гучаць на вечарынах з розных вуснаў: "А грудзі пахнуць грушамі і завяззю грахоў...", "Твае саромеюцца грудзі у вочы мне глядзець..." А вось гэтыя словы з верша "На магіле бацькі" заўсёды згадваюцца мне і цяпер, калі наведваю родныя могілкі: "І чамусьці так хочацца ціўкнуць птушанём, што не ўмее лятаць..."

Лірычны герой Віктара Стрыжака ніяк не стасуецца з ягонай існасцю ў будзённым жыцці. Безапеляцыйны, напорысты, а часам нават і грубы. Кажуць, што і Рыгора Барадуліна, нашмат старэйшага за сябе, ён называе проста Рыгорам ці Грышам і звяртаецца да яго "на ты". З Віктарам вельмі цяжка зносіцца, падтрымліваць размову. Магчыма, таму мы так і не зблізіаемся, хоць Стрыжак часцяком заходзіць у наш пакой, да Міколы Курганскага, з якім сябруе.

Пазней Віктара Стрыжака мне нагадае Анатоль Сыс.

Падчас таго абмеркавання твораў для калектыўнага зборніка Алег Лойка, вельмі інтэлігентны, мяккі, тактоўны чалавек, робіць нейкія заўвагі па адным з вершаў Віктара Стрыжака. Увогуле верш неблагі, нават адмысловы. Мне і цяпер згадваюцца такія радкі (у зборнік верш не ўвайшоў, таму цытую па памяці): "...Крамсаю не са зла жывот зялёны возера сцізорыкам вясла". Мусіць жа, заўвагі Алега Антонавіча слушныя, дый дробязныя, можна ўсё лёгка паправіць, аднак Стрыжак нечакана ўзрываецца і кідае ў бок Лойкі крыўдныя, зневажальныя словы:

— Некаторыя выдалі па пятнаццаць кніг, а пісаць так і не навучыліся. Цяпер, во, іншых вучаць...

Усе гэта чуюць, усім няёмка, і ўсе замаўкаюць. Нічога не кажа ў адказ і Алег Антонавіч, хоць яго, вядомага і таленавітага паэта, па ўсім бачна, гэтыя словы глыбока раняць. Лойка тактоўна робіць выгляд, што нічога не здарылася, і пераводзіць размову ў іншае рэчышча...

## Знойдзеш адно — страціш другое

Перад тым, як разысціся, кожны з нас чытае свой самы адметны (як ён лічыць) ці проста апошні твор. Я акурат учора напісаў верш "Ікона". Мне

самому ён вельмі падабаецца, зроблены бездакорна, да таго ж — “ідэалагічна вывераны”. Апошняе, мне здаецца, асабліва “ляжа на душу” Алегу Лойку, бо ён, як-ніяк, савецкі прафесар, праваднік адпаведнай ідэалогіі. Выхожду наперад і чытаю:

Ну што з малога?
Я ведаў цвёрда:
Любога бога
Пашлю да чорта.

І з грэхам-смехам —
Маной не купіш! —
Паказваў смела
Іконе кукіш.

І плач па хаце
Пускаў гарэза —
Злавала маці,
Рука гарэла...

Багі аднойчы
Не сцярпелі:
Над хатай ноччу —
Чырвоны певень...

Яна ўцалела,
Ікона тая.
Шаптаў нясмела
Дзядок:
— Святая...

А мне хоць кайся...
Ды я, гарэза:
— Згарыць! Чакай жа!
Яна з жалеза...

Прачытаўшы, я з нецярплівасцю чакаю пахвалы ад Алега Антонавіча, але ён чамусьці злёгку крывіць твар і нічога не кажа. Мне зразумела, што верш яму не спадабаўся. І я ніяк не магу ўцяміць — чаму.

Нешта падобнае адбываецца нашмат пазней, калі я працавацьму адказным сакратаром у старадарожскай райгазеце “Поступ Кастрычніка” і мяне запросяць у Каралішчавічы — на семінар для маладых творцаў. Рыгор Барадулін таксама прапануе кожнаму з паэтаў пачытаць адзін твор, напісаны апошнім часам. У мяне акурат ёсць кароценькі верш “Сюжэт”, зноў жа “ідэалагічна вывераны”:

Дзіва ці не дзіва?
На грудзях медаль,
А рука адзіная
Просіць:
— Дай!

Вочы па-сабачы
Моляць:
— Кінь!

На руцэ як бачыш —
Медзякі.

На далоні важка,
Палічыў.
— Нашкрабецца пляшка,
Закусіць бы чым...

Твар ссінела-цёмны,
На грудзях —
Ці медаль пацёрты,
Ці мядзяк...

На маё здзіўленне, Рыгор Іванавіч зганьбіць гэты верш, нават нічога не патлумачыўшы...

Калі я ўжо пасталею, дык пагаджуся і з Алегам Лойкам, і з Рыгорам Барадуліным.

У маладосці ёсць жаданне, ёсць імпэт, каб пісаць вершы, але не стае мудрасці. На схіле жыцця прыходзіць мудрасць, але знікае запал, прападае ўзнёсласць... Вершаў я болей не пішу.

## Залік

Для большасці студэнтаў-журфакаўцаў вучоба ў тым сэнсе, як на астатніх факультэтах, проста не існуе. Не, мы ходзім на лекцыі, бо стараста пазначае ў журнале, нешта канспектуем, удзельнічаем у семінарах, пішам курсавыя. Аднак усё гэта робіцца без асаблівай напругі, лёгка, як пры нейкай гульні ці забаве. Хтосьці ўжо абівае парогі газет ці часопісаў, нехта мэтанакіравана рыхтуе сябе да навуковай працы, а хто-кольвеч па-простаму жлукціць “чарніла” ці кідаецца ў блуд. Прыкладам, я ўжо на чацвёртым курсе ўладкоўваюся на працу ў шматтыражную газету “Інтэграл”, хоць на завочнае аддзяленне не пераводжуся.

Вучоба нагадвае пра сябе толькі падчас сесіі: хочаш-не хочаш, а экзамены і залікі трэба здаваць. На злом галавы рыхтуюцца “шпоры”, “бомбы”, канспекты руплівых дзяўчат-аднакурсніц пераходзяць з рук у рукі.

Мне на экзаменах шанцуе. І я ўжо настолькі звыкся з гэтым, што проста лянуюся валэндацца з “бомбамі”. Заўсёды трапляецца білет з пытаннямі, адказы на якія я ведаю. Нават на дзяржаўным экзамене па марксісцка-ленінскай філасофіі, якая для мяне “ні ў зуб нагою”, удаецца выцягнуць адзіны зразумелы мне білет і атрымаць пяцёрку. Між тым, экзамен прымае выкладчыца з іншага факультэта і “рэжа” нават самых заўзятых зубрылак.

На сваю шчаслівую зорку я разлічваю і тады, калі іду здаваць залік па гісторыі рускай журналістыкі. Тым болей, што прымае яго куратарка нашае групы Ніна Аляксандраўна Сніцарава, вельмі інтэлігентная, нават арыстакратычная жанчына ўжо сталага веку.

Цягну білет, знаёмлюся з пытаннямі і з жахам усведамляю, што на гэты раз удача мяне пакінула. Усе тэмы — як цёмны лес. Гісторыю журналістыкі, як і ўвогуле гісторыю, засвойваць цяжка: трэба проста зазубрыць шмат назваў і датаў. А рабіць мне гэтага не хочацца, бо не разумею, якая карысць з таго, што буду ведаць, калі і кім у пазамінулым стагоддзі выдаваўся, скажам, часопіс “Свісток”.

Агаломшаны і разгублены, я сяджу за перадапошнім сталом, а перада мною — чысты аркуш: у галаве не варушацца ні лічбы, ні даты, ні імёны...

Нехта з суседзяў, заўважыўшы маю катастрофу, цішком суе мне ў рукі падручнік.

Спісваць я не умею, бо не набыў навыку, да таго ж падслепаваты. Разгорнуты падручнік ляжыць на каленях, мне даводзіцца падцягваць іх ледзь не да грудзей, каб прачытаць дробны тэкст. Успацелы ад напружання і захоплены цяжкімі высілкамі, я не заўважаю, як да стала падыходзіць Ніна Аляксандраўна і бярэ з маіх каленяў падручнік. Моўчкі яна вяртаецца да свайго месца і дакорліва пазірае на мяне. Затым ціха кажа:

— Калі Вы паступалі, я знаёмілася з агульным сшыткам, у які Вы наклеілі свае апублікаваныя вершы. Мяне тады ўразіла, што туды Вы змясцілі і крытычную пра сябе рэцэнзію. Падумалася: які наіўны, які светлы юнак!

Больш Ніна Аляксандраўна не кажа нічога. І “залік” яна мне ставіць.

Божа мой, як жа мне робіцца сорамна! Як пагана на душы! Лепей бы Ніна Аляксандраўна мяне аблаяла, вытурыла на пераздачу!

Цягам некалькіх наступных дзён я карпею над падручнікам па гісторыі рускай журналістыкі, ледзь не завучваю яго на памяць, хоць ні залікаў, ні экзаменаў па гэтым прадмеце болей не прадугледжана...

## Белы верш

Цяпер я нават і не памятаю прозвішча гэтага выкладчыка, не ўзгадваецца дакладна, на якія тэмы чытаў ён нам свае лекцыі. Мусіць, нешта накшталт тэорыі літаратуры. Хударлявы, высокі, з пасярэбранымі, коратка стрыжанымі валасамі, ён быў для нас прышлым, чужым, пэўна, з філфакаўскай кафедры.

Будучых журналістаў не дужа цікавіць тэорыя літаратуры. Многія рыхтуюць сябе да працы ў раёнцы, дзе давядзецца “пералапачваць гной” заштампаваных радкоў пра надоі і ўраджаі, некаму вялікаможныя бацькі ўжо прыгледзелі цёпленькае месца ў сталіцы. Я таксама лічу, што гэтыя лекцыі не надта мне патрэбныя, бо “пра харэі і ямбы” збольшага ўжо ведаю.

Такога вэрхалу на занятках яшчэ ніколі не было. Хто чытае кнігу, хто дзеліцца з сяброўкамі сваімі сакрэтамі, хто нахабна спіць, уторкнуўшыся галавою ва ўласныя рукі на стале. У аўдыторыі стаіць бесперапынны гул.

Выкладчык усяго гэтага нібы не заўважае. Ён тупае туды-сюды каля дошкі, пра нешта апавядае, хоць ягонага голасу ў глыбіні аўдыторыі амаль не чуваць. Такое ўражанне, што выкладчык размаўляе сам з сабою.

Неўзабаве наспявае сесія. Па тэорыі літаратуры трэба здаваць не залік, а цэлы экзамен. Высвятляецца, што на ўсім курсе канспектаў гэтак “шмат”, што хопіць пальцаў аднае рукі, каб іх пералічыць. Зрэшты, ніхто дужа не маркоціцца: калі выкладчыку было ўсё роўна, як яго слухаюць, дык, мусіць жа, і на экзамене ён будзе ставіцца да студэнтаў паблажліва, абы з рук.

Заспакоеныя такой надзеяй, мы, тузін трэцякурснікаў, нават не зазіраем у падручнік, цэлую ноч рэжамся ў карты, у “храпа”, прычым на грошы. Мне ўдаецца выйграць у Барыса Пракопчыка ажно 120 рублёў — тры стыпендыі. Ад Барыса я нічога не атрымаю, бо такіх грошай у яго проста няма. А вось выйграў бы які рубель, дык акурат змог бы пасля экзамену зазірнуць у піўбар...

Раніцай з заплюшчанымі вачыма і задурманенымі галовамі кіруемся на экзамен. І тут нас чакае неспадзяванка.

Амаль усе, хто заходзіць у аўдыторыю, вылятаюць адтуль, як коркі. Гэта значыць, вырас “хвост”: трэба рыхтавацца да пераздачы.

Чарвяк сумневу закрадваецца ў маю душу... І нездарма. З трох пытанняў білета я маю веды толькі па адным. Эх, была — не была...

Сядаю перад выкладчыкам:

— Можна, я пачну адказ з трэцяга пытання?

— Ну, як сабе хочаце...

Мне трэба распавесці пра белы верш. Звычайна я ўсё зарыфмоўваю, аднак жа і два-тры верлібры ў загашніку маюцца. І я пачынаю:

— У якасці прыкладу белага верша хачу прачытаць уласны, напісаны ў восьмым класе:

Слалі нам рабочыя Берліна  
Прывітанне шчырае з экрана.  
Раптам у здзіўленні голас маці:  
— Немцы? Ну якія ж гэта немцы?  
Гэта ж людзі. Глянь, яны ў цывільным.  
Немцаў бы адразу я пазнала...

Наўмысна раблю невялікую паўзу. І якраз дарэчы. Выкладчык пільна пазірае на мяне і пытаецца:

— Гэты верш сапраўды напісалі Вы?

— Так, я.

— Давайце сваю залікоўку.

У калідоры я разглядаю ў залікоўцы пяцёрку. Для ўсяго курса вышэйшая адзнака была ў той дзень вялікаю рэдкасцю.

А ўсё ж шкада, што я не памятаю прозвішча таго выкладчыка і прапусціў міма вушэй ягоныя лекцыі...

## Нашы і не нашы

Не кожны выпускнік журфака можа стаць журналістам. Калі няма “божае іскрынкі”, навучыць студэнта пісаць немагчыма, хоць ён і засвоіць, чым адрозніваецца нарыс ад замалёўкі. Навошта ж тады гэты журфак увогуле? Чаму кожнаму з тых, хто яго скончыў, факультэт узгадваецца з такой цеплынёй? Падчас вучобы студэнты набываюць практыку чалавечых узаемаадносінаў, яны дыхаюць атмасферай разняволенасці і творчасці. І ствараюць гэтую атмасферу найперш выкладчыкі.

...Футбольная каманда нашага факультэта па запрашэнні журфакаўцаў МДУ прыехала ў Маскву. Некалькі дзён мы жывём у іхнім інтэрнаце, наведваем вучэбны будынак, які месціцца амаль што на Краснай плошчы. І вось што ўражвае: паміж студэнтамі і выкладчыкамі няма еднасці, пры сустрэчы на калідоры яны нават не заўсёды здароўкаюцца.

Зусім іншае на нашым, родным журфаку (зрэшты, не ведаю, як цяпер). На лекцыях ці экзаменах выкладчыкі, як і належыць, строгія, патрабавальныя, затое ў перапынках ці пасля заняткаў да кожнага з іх можна без боязі падысці, пагутарыць аб будзённым, жыццёвым, параіцца, нават згуляць партыю ў шахматы. Вядома ж, гэта тычыцца толькі выкладчыкаў з журфакаўскіх кафедраў.

Мы ведаем пра іх амаль усё, пераказваем адзін аднаму былі і небыліцы з іхняга жыцця, не мінаючы ні сур'ёзнага, ні смешнага.

Усім, напрыклад, вядома, што дэкан Рыгор Васільевіч Булацкі падчас Вялікай Айчыннай на свае сродкі купіў самалёт і на ім ваяваў.

А Вадзім Іванавіч Дубовік (дарэчы, мой зямляк) — заўсёдны аб'ект для гумару. Ён выкладае партыйную журналістыку і яшчэ на першай сваёй лекцыі нам паведамляе:

— Я цяжарны Марксам, Энгельсам і ўсімі тамамі Леніна!

У свой час Вадзім Іванавіч напісаў кандыдацкую дысертацыю пра Сталіна. Толькі сабраўся яе бараніць — Сталін памёр. Новая кандыдацкая была прысвечана Хрушчову. І зноў жа перад самай абаронай Мікіту Сяргеевіча турнулі з пасады. Тады і вырашыў Вадзім Іванавіч: "Колькі іх яшчэ будзе, нашых правадыроў. І немаведама, які лёс іх чакае. Лепей напішу я дысертацыю пра публіцыстычную спадчыну Уладзіміра Ільіча, бо "Ленін жыў, Ленін жыве, Ленін будзе жыць". Тут Дубовік сапраўды не прагадаў. Дысертацыя пра Леніна забяспечыла яго кавалкам хлеба надоўга, на ўсё астатняе жыццё.

Нашыя выкладчыкі добра ведаюць, што студэнты складаюць пра іх анекдоты, адрасуюць кепікі, але на гэта не крыўдуюць.

Таму не дзіўна, што ў час медыуму нашага курса, калі ззаду роўна палова вучобы, я адважваюся напісаць на ўсіх выкладчыкаў эпіграмы і змясціць іх у насценнай газеце. Большасць тэкстаў ужо сцерлася з памяці, дый не ўсіхнія імёны па бацьку магу прыгадаць праз трыццаць год, аднак што-кольвечы нагадаю, каб аддаць належнае сваім настаўнікам.

Словы "журфак" і "Булацкі" наеад'емныя для многіх пакаленняў сучасных журналістаў. Здавалася, ён працуе дэканам вечна... На першы погляд, суровы, трохі мужыкаваты, Булацкі на самой справе зычыць студэнтам толькі дабра, абараняючы іх перад вышэйшым начальствам, калі навісае пагроза адлічэння.

Тут не во власти наконец,
Тут дело вот в чем:
Я для студентов как отец,
Но не как отчим.

Найбольшай павагай сярод студэнтаў карыстаецца загадчык кафедры тэорыі і практыкі савецкай журналістыкі Барыс Васільевіч Стральцоў. Найперш яго цэняць як прафесіянала (працаваў у "Чырвонай змене", "Звяздзе"). Таму мяне дужа ўражвае і натхняе, калі Барыс Васільевіч цэлую двухгадзінную лекцыю прысвячае разбору маёй практыкі ў раённай газеце пасля першага курса. Ёсць у Стральцова адметная звычка. Калі ён хоча давесці студэнту нейкі навык, дык тыцкае ўказальным пальцам у паветра і прыгаворвае:

— Глядзі, во ў чым характар героя, во!

Не ўсё так, дружа, лёгка-лоўка,
Тут трэба думаць галавой.
Во гэта, глянь жа, замалёўка,
А гэта — нарыс. Во ён, во!

Іван Іванавіч Сачанка — гэткі дабрадушны, добразычлівы чалавек, якога

свет не бачыў. Можа, таму, што ў маленстве трапіў у фашысцкі канцлагер і сам зведаў нямала пакут. Калі Івана Іванавіча прызначаюць намеснікам дэкана, студэнты проста млеюць ад шчасця. Цяпер можна смела прасіць у намесніка дэкана даведку на вызваленне ад заняткаў на пэўны тэрмін, каб з'ездзіць у камандзіроўку ці да бацькоў, і ён ніколі не адмовіць.

И если я деканом стану,
Не загоржусь я важным видом.
Вали за справками к декану!
Я всем без очереди выдам.

Праўда, мне потым перакажуць, што, прачытаўшы гэтую эпіграму ў насценгазеце, Сачанка мовіў без аніякае злосці:

— Ну во, цяпер хто-небудзь занясе гэта рэктару...

Не меней добразычлівы і прафесар Аркадзь Іосіфавіч Наркевіч. З ягонага твару, здаецца, ніколі не сыходзіць хітраватая ўсмешка. Студэнты ставяцца да яго з гумарам, даўшы мянушку "Вялікі юс". Аркадзь Іосіфавіч выдатны знаўца мовы, аўтар шматлікіх падручнікаў, і на экзаменах добра-такі дапякае, калі ты не ведаеш, што ж гэта за "юс" і якія адметнасці мёртвай палабскай мовы.

Хай вечна ходзяць у атаку
На мой малы й вялікі юс,
Я цвёрда веру: на журфаку
Заўсёды я казырны туз!

Абсалютная супрацьлегласць Наркевічу — выкладчыца рускай мовы Ангеліна Аляксандраўна Рудэнка. Яна і знешне заўсёды строгая, непадступная, і навуку ўбівае ў нашыя галовы без аніякай літасці. Прыкладам, для першага дыктанта Рудэнка падбірае такі складаны тэкст, што некаторыя з нас дапускаюць больш за сотню памылак. Асабіста я раблю трыццаць шэсць.

Тым не менш, калі мне давядзецца пабываць на Кіпры, гід-кіпрыётка, якая (во неспадзеўка!) вучылася на нашым журфаку, з асаблівай цеплынёй згадвацьме менавіта Ангеліну Аляксандраўну. Ды і сам я пры пазнейшых сустрэчах з гэтай выкладчыцай заўважу, якая цудоўная, шчырая ейная ўсмешка.

Ледзь не кожную сваю фразу Рудэнка перамяжоўвае словазлучэннем-паразітам "так сказать". Прычым "глытае" яго, прагаворвае хутка, таму ў выніку атрымліваецца "та-а-скаць".

Кто-то строгой может назвать,
Кто-то скажет, что злая даже.
Я уверена, та-а-скать,
Что потом мне спасибо скажут.

Слова-"паразіт" ёсць і ў прафесара Сцяпана Грабчыкава (вось той выпадак, калі імя па бацьку выскачыла з галавы), аўтара шматлікіх руска-беларускіх слоўнікаў. Ледзь не кожны сказ ён пачынае словам "собственно": "Собственно, суть в том...", "собственно, мы знаем..." і г. д.

Собственно, что говорить?
Собственно, я такой:

Собственные словари —
Собственною рукой...

Загадчык каферды стылістыкі прафесар Яўген Міхайлавіч Цікоцкі, высокі, сівагаловы чалавек сталага веку — таксама аўтар шматлікіх кніг. Ён заўсёды ходзіць з высока ўзнятай галавой, позірк узнёслы, а часам адрачона-адчужаны, быццам Яўген Міхайлавіч увесь час думае пра нешта важнае.

Думкі спрэчныя круцяцца вірам,
Б'юся я над праблемай нязвычнай.
Двойчы два, безумоўна, чатыры.
А ці правільна стылістычна?..

На гэтай жа кафедры працуе Мікола Рыгоравіч Каваленка. Ягонае асабістае жыццё не склалася, дагэтуль халасцякуе, таму і жыве сярод студэнтаў — мае ў інтэрнаце свой пакой. Вось ужо з кім можна напоўніцу адвесці душу, пагаманіць пра жыццё-быццё, абмеркаваць сучасную беларускую літаратуру, якую ён выдатна ведае.

А яшчэ Мікола Рыгоравіч любіць песні. Ён нават спявае ў знакамітым універсітэцкім хоры, і асабліва яму даспадобы песня "Не ўсе лугі пакошаны, не ўсе сенажаці..."

А рукі так і просяцца
Рабіць якую справу...
Усе лугі пакосяцца,
Пайду касіць атаву.

На жаль, пазней я даведаюся, што Міколу Рыгоравіча нейкі рабаўнік заб'е каля самага пад'езда...

Вусаты прыгажун Алег Слука — дэкан падрыхтоўчага аддзялення, таму на факультэце даводзіцца бачыць яго досыць рэдка. Затое паважае яго палова хлопцаў нашага курса, бо, адслужыўшы ў арміі, яны акурат і прайшлі горан падрыхтоўчага аддзялення.

Не скажу я ничего,
Но замечу это:
Быть ПО как ПВО
Университета.

Таццяна Дзмітраўна Арлова, жвавая, імпэтная, імклівая, як маланка, жанчына спрабуе захапіць студэнтаў любоўю да тэатра. Яна нават падключае свайго мужа, вядомага драматурга Яўгена Шабана, да кансультацый-рэпетыцый журфакаўскага тэатра мініяцюр, у якім некаторы час туляюся і я.

Не увиливай, Усеня,
У меня сачкуют редко:
Ты напишешь, без сомненья,
О театре хоть заметку.

Мусіць, самая аўтарытэтная ў рэспубліцы знаўца кіно прафесар Ефрасіння Бондарава не аднаго студэнта змусіла наведаць ейны залік двойчы-тройчы...

Оставлю на тысячи лет
Эти слова, как наследие:
«Искусство требует жертв».
И первая жертва — стипендия...

Папрасі любога выпускніка журфака наўскід прыгадаць некалькіх выкладчыкаў, дык ён, бадай, найперш назаве прозвішча Балаш. Мусіць, таму, што сваю дысцыпліну — "Тэхніка афармлення газетнай паласы" — Анатоль Вікенцьевіч выкладае першакурснікам, а першыя ўражанні — самыя незабыўныя.

Засмечваць мазгі рознымі кеглямі, гарнітурамі і лінейкамі мне не даспадобы. Даведаўшыся, што Балаш дужа вялікі аматар шахмат, і ў вольныя хвіліны яны зачыняюцца ў кабінеце разам з выкладчыкам фотасправы Бегуном, каб аб'явіць адзін аднаму мат, я ўціраюся ў іхнюю суполку. Бегуна дык я найчасцей перамагаю, а вось з Балашам добра, калі ўдаецца згуляць унічыю. Агульнае захапленне дае мне пэўныя прэферэнцыі пры здачы заліку. На той час я наведваю секцыю самба, там мне выкручваюць правую руку, і я не маю магчымасці намаляваць газетныя макеты. Іншы, мусіць, прычапіў бы мне "хвост" да наступнай сесіі, а Анатоль Вікенцьевіч ставіць мне "залік", і там жа, у залікоўцы, у дужках дадае: "зламаная рука". Арыгінал, нічога не скажаш...

Давайте знакомиться: Балаш.
Всегда для студентов бог я сам.
Охотно ставлю два балла
Боргесом.

І толькі аднаму выкладчыку не падабаецца эпіграма, напісаная на яго. Павел Іванавіч Бондар — з маладых, ды ранніх. Скончыўшы аспірантуру і абараніўшы дысертацыю, ён выкладае ў нас гісторыю КПСС. Заўсёды апрануты "з іголачкі", франтаваты, ён, здаецца, любуецца самім сабою, як Нарцыс. На семінарах ніхто не можа яму дагадзіць, ніхто не разумее, якога адказу ён чакае, хоць усе імкнуцца адказваць па падручніку, а гісторыя — навука дакладная. Асабліва Бондар дапякае дзяўчатак-прыгажунь...

И если в тяжелый час
Жена уходит от вас
Красивая и неверная,
Берите Ленина том,
Ответ найдете вы в нём.
Страница сто первая.

Расказвалі, прачытаўшы эпіграму, Павел Іванавіч крычыць на ўвесь калідор:

— Дайце мне гэтага Усеню! Ад мяне ніколі не сыходзіла жонка! Гэта ўсё мана...

Дзякуй богу, на той час экзамен па гісторыі КПСС я ўжо здаў...

Чаму ж Бондару не падабаецца эпіграма? Ды таму, што ён не журфакаўскі, не наш, працуе на кафедру гістарычнага факультэта...

## Апошняя сустрэча

Забягаючы крыху наперад, распавяду пра сустрэчу, на якой я ў апошні раз пабачыў сваіх любімых настаўнікаў усіх разам.

1999 год. Факультэт журналістыкі святкуе пяцьдзесят пятую гадавіну. Свята мяркуецца адзначыць урачыста і шыкоўна, на вечар рыхтуецца адмысловы банкет у найлепшым рэстаране, на які запрошаны сотні гасцей. Увесь гэты “шык і бляск” прыдумвае зусім нядаўна прызначаны дэкан Васіль Вараб’ёў, хоць дата не круглая, а эканоміку толькі што ўзараў дэфолт. Васілю трэба заявіць пра сябе... Магчымасць такая ёсць. Многія выпускнікі журфака трывала стаяць на нагах, некаторыя ўзначальваюць прыватныя газеты і выдавецтвы. Чаму ж іх трохі не “падаіць”, каб наладзіць свята з размахам?..

Мне ўжо не ўпершыню дапамагаць роднаму факультэту, таму пасля звыклага візіта Івана Іванавіча Сачанкі і Аляксандра Канстанцінавіча Свораба пералічваю на ўказаны рахунак... ну вельмі значную суму. Аднак жа разумею: усе гэтыя грошы прап’юцца, прагуляюцца, разбазарацца — не застанецца ад іх і следу. А тыя, хто сапраўды маюць дачыненне да юбілею, па-ранейшаму жыцьмуць у нішчымніцы, перабіваючыся з капейкі на капейку да сціплай выкладчыцкай зарплаты.

Кажу Васілю Вараб’ёву, што гатовы даць гэткую ж суму, але ўжо наяўнымі грашыма, каб хоць трохі падтрымаць выкладчыкаў. Не ўсіх, вядома ж, а толькі старэйшых, тых, хто назаўжды пакінуў след у маім жыцці. Васіль, безумоўна, пагаджаецца і прапануе:

— А ты сам прыязджай на факультэт. Я збяру іх у дэканаце ўсіх разам, вось там і ўручыш свае канверты.

Перад сустрэчай вельмі хвалююся: ці прыйдуць, ці не зваліць кагонебудзь хвароба ў такія немаладыя гады? І — чаканая палёгка, радасць: прыйшлі ўсе, каго я так хацеў пабачыць. Няма толькі Рыгора Васільевіча Булацкага, які адышоў у нябыт. Праўда, мне ўсё ж удалося яму аддзячыць, хоць і пасля смерці. У помніку, што стаіць на ягонай магіле, ёсць і мой унёсак...

Уволю наабдымаўшыся, мы сядаем за доўгі стол, Васіль прамаўляе некалькі слоў, пасля чаго я раздаю свае канверты. Можна разыходзіцца, але ўсе мы разумеем, што будзе неяк не па-людску, калі ўсё на гэтым і завершыцца. І тут я згадваю, што ў маім “дыпламаце” месцяцца дзве пляшкі добрага каньяку, якія вязу на іншую, дзелавую сустрэчу. А яшчэ там ёсць невялікі бутэрброд з каўбасой і два салёныя агуркі, запакаваныя для мяне жонкай на “перакус” у полудзень.

Высунуўшы з “дыпламата” горлычка пляшкі, з асцярогай і маўклівым пытаннем паказваю яе Вараб’ёву, які сядзіць побач, у галаве стала. Васіль трохі разважае і, нарэшце, адчайна махае рукой:

— Давай!

Каньяк, выстаўлены на стол, выклікае ў выкладчыкаў энтузіязм. Васіль дастае з шафы чаракі (з якой нагоды іх там столькі многа?). А калі я выцягваю з “дыпламата” агуркі, яны, мокрыя, выслізваюць з маіх нязграбных рук на падлогу. Са свайго месца падхопліваецца Таццяна Дзмітраўна Арлова, падбірае іх і бяжыць да водаправоднага крана, які ёсць тут жа, у кабінеце, каля супрацьлеглай сцяны. Перамываючы агуркі, Таццяна Дзмітраўна ці то з іроніяй, ці то з захапленнем ускліквае:

— Каньяк і салёныя агуркі — гэта ж здорава!

Яна ўвогуле бярэ ініцыятыву ў свае рукі. Бутэрброд, хай сабе і досыць вялікі, Арлова акуратна разразае на дванаццаць (ці на чатырнаццаць?) роўных кавалачкаў і раздае кожнаму.

Пасля першай чарачкі выкладчыкі пачынаюць “пець дыфірамбы” на мой адрас. І пра тое, што яны памятаюць мяне як вельмі таленавітага, і пра тое, што я быў заўсёдным рэдактарам журфакаўскіх газет, а Арлова нагадвае ўсім, што “Усеня ж з’яўляецца аўтарам журфакаўскага гімна!” Мне вельмі няёмка ўсё гэта слухаць — хоць скрозь зямлю праваліся, я перабіваю іх, прашу пагаманіць пра што-небудзь іншае, а яны не супыняюцца і не супыняюцца... Я разумею, што словы іхнія шчырыя, што імі яны хочуць выказаць сваю ўдзячнасць за тыя канверты, але ўсё адно захлынаюся ў сораме — ажно да тае пары, пакуль не ўдаецца перавесці размову ў іншае рэчышча. Ім жа, апроч мяне, ёсць пра каго і пра што пагаварыць: на факультэце яны ўжо бываюць зрэдчас, бачацца гады ў рады, бо паступова-пакрыёма іх выцясняюць маладзейшыя выкладчыкі...

Сустрэча доўжыцца амаль дзве гадзіны. Развітваемся з абдымкамі і пацалункамі. Выказваем спадзяванне, што ў наступны юбілей абавязкова сустрэнемся ў гэткім складзе...

Калі я праводжу іх да дзвярэй вачыма, сэрца сціскаецца ад роспачы і болю, бо ўсведамляю: не, ніколі мы ўжо не сустрэнемся ў гэткім складзе. Хтосьці з іх, на жаль, пакіне гэты свет, кагосьці прыкуе да ложка цяжкая хвароба.

Разам з імі, маімі любімымі настаўнікамі, сыходзіла з таго кабінета цэлая эпоха ў беларускай журналістыцы...

## Сэксуальны іспыт

З вывіхам звязана і яшчэ адна мая прыгода.

8 мая, напярэдадні свята Перамогі, мы гуляем у футбол, і мая правая рука робіць чарговы “выбрык”. “Хуткая” забірае мяне са стадыёна ў чым стаяў — у трыко і кедах. Не памятаю ўжо, у якую паліклініку вязуць, бо я, першакурснік, горад пакуль што ведаю дрэнна. Здаецца, некуды ў Серабранку.

Ці таму, што ўжо звечарэла, ці з-за таго, што заўтра свята, калідоры ў паліклініцы пустыя, нямашака нават заўсёдных пенсіянераў.

Пад наркозам, як зазвычай, мне ўстаўляюць на месца руку, застаецца толькі накласці павязку “дзізо”. Высокая, мажная, паўнагрудая медсястра вядзе мяне ў асобны кабінет. Я сяджу ў крэсле, а яна, абмотваючы бінтамі, схіляецца да мяне і туліцца так шчыльна, што ейныя голыя цыцкі-кумпякі не даюць дыхаць. Праўда, мне ўсё ж удаецца ўнюхаць каньячны водар. Прыгадваю, што і два маладыя доктары, якія надзвычай хутка выправілі маю руку, былі задужа вясёлымі.

Медсястра сапе, быццам круціць бінты — задужа цяжкая праца, і нечакана выдыхае:

— Ты сёння сэксуальна не заклапочаны?

Думкі мае скіраваны на што заўгодна, толькі не на сэкс. Яшчэ не адышоў ад наркозу, успацелы, брудны... А галоўнае — раптам яскрава ўяўляю, як я, хударлявы шпінгалет, ды яшчэ з забінтаванаю да грудзей рукою, буду “ўвіхацца” каля гэтай магутнай кабеціны, на дзве галавы за мяне

вышэйшай і, мусіць жа, спрактыкаванай у гэтай справе, бо на выгляд ёй недзе за трыццаць...

У думках ліхаманкава шукаю зачэпку, каб пазбегнуць над сабою гвалту.

— Ведаеце, я вельмі галодны...

Медсястра заспакойвае:

— Дык у нас жа тут і каўбаса ёсць, і што-кольвеч выпіць знойдзецца...

Гэтае “ў нас” яшчэ болей наганяе на мяне страху. У хваравітых мазгах нараджаецца фантастычнае мроіва. Тут што, цэлы бардэль? Медыкі падчас начнога дзяжурства забаўляюцца “групавухай”? І мне прапануецца ў ёй паўдзельнічаць? А я ж не маю ў гэтым ніякага досведу...

— Я ж пасля футбола ўвесь у гразі... — знаходжу новы аргумент.

— Нічога страшнага. Душ у паліклініцы таксама ёсць, — непарушна адказвае медсястра, а ейная рука слізгае ў мае штаны...

У гэтую хвіліну медсястру кліча мужчынскі голас з калідора. Яна з выяўнай незадаволенасцю крывіць твар, аднак жа адгукаецца на покліч: мусіць, гэта ейны начальнік.

— Не хвалюйся, я хутка, — кідае медсястра, перш чым зачыніць за сабою дзверы.

Агаломшаны, я сяджу да тае пары, пакуль чуваць “цок-цок”, што на калідоры выбівае сваімі вострымі абцасікамі медсястра. Затым падхопліваюся з крэсла і куляй вылятаю з кабінета. Бягу не да ліфта (там жа яшчэ трэба чакаць!), а адразу да лесвіцы. За мною шлейфам цягнецца стужка бінту ад няскончанай павязкі “дзізо”...

...Эх, быў бы я тады хаця б трэцякурснікам!

## Забег

На агульнаўніверсітэцкіх спаборніцтвах мне, першакурсніку, даручана “абараняць гонар журфака” — бегчы стомятроўку. Усяго спрынтараў дванаццаць, па аднаму з кожнага факультэта, таму ладзяцца два забегі. У першы трапляюць мацнейшыя, амаль прафесіяналы. Ні ў кога няма сумневу, што пераможа Лунёў (во, і цяпер памятаю прозвішча), бо ён майстар спорту, выступае нават на ўсесаюзных чэмпіянатах.

У другі забег ставяць “ашмёткі”, нікому не вядомых бегуноў, якія дагэтуль нічым сябе не праявілі. Зразумела, што ў гэтую кагорту трапляю і я.

Ашмёткі не ашмёткі, але ўсе мае супернікі апранутыя ў належную амуніцыю: майкі, трусы, красоўкі. Перад стартам яны размінаюцца, цярэбяць свае сцёгны, дрыгаюць нагамі, круцяць шыямі.

Я стаю збоку, не выраблючы нічога падобнага, і толькі кавалак сукна з нумарам на грудзях выдае мяне, як удзельніка забегу. Мне проста вельмі сорамна дачасна паказвацца на людзі. Ні майкі, ні трусоў, ні красовак на мне нямашака. Я апрануты ў зліняла трыко, якое бацькі купілі яшчэ ў дзявятым класе, а на нагах — кеды. Раз-пораз лаўлю на сабе насмешлівыя, пагардлівыя позіркі супернікаў...

Як і варта было чакаць, мяне ставяць на крайнюю, самую нязручную дарожку. І вось старт...

Да фінішу прыбягаю першым. Вынік — адзінаццаць з паловай секунд, што для мяне — асабісты рэкорд. Дый увогуле вельмі прыстойны час, ён нават лепшы, чым у некаторых з першага забегу...

Як жа мне ўдалося ўсіх апярэдзіць? Што ж гэтак гнала да фінішу? У

мяне тады было адчуванне, што бягу я не за факультэт, не за сябе, а за ўсю вось гэткую ж вясковую галоту, за ўсіх хлапцоў-“калгаснікаў”, якіх прырода надзяліла здольнасцямі і талентамі, а лёс не даў магчымасці іх рэалізаваць.

## Сіла і дух

На другой “бульбе” ў вёсцы Гняздзілава Докшыцкага раёна знаёмлюся з прыгожай дзяўчынкай, якой не ўдалося паступіць на геаграфічны факультэт, і яна працуе загадчыцай мясцовага клуба. Пачуццё да яе настолькі моцнае, што ўжо і пасля “бульбы”, зноў апынуўшыся ў Мінску, у выхадныя ці святочныя дні найчасцей выбіраюся не да бацькоў, а туды, у Гняздзілава, каб пабачыцца-памілавацца са сваёю каханкаю...

Адным вечарам, калі мы прагульваемся па гравійцы за вёскаю, па-заліхвацку падрульвае “козлік”. З яго выходзяць два гонкія, шыракаплечыя хлопцы і кіруюцца ў наш бок. Дзяўчына паспявае шапнуць мне на вуха: адзін з іх — ейны нядаўні кавалер Віктар, а другі — ягоны брат, які возіць калгаснае начальства.

“Кавалер” бярэ мяне за грудзі і пагрозліва кажа:

— Каб з гэтаю дзяўчынаю я цябе болей не бачыў. Усёк?

Я разумею, што бойкі не мінаваць. У такім разе заўсёды трэба пачынаць першым, тым болей, калі адзін супраць двух: мецьмеш дадатковы шанец. Перахопліваю ягонае запясце, паварочваюся бокам і падстаўляю бядро, каб перакінуць непрыяцеля цераз сябе (нейкія навыкі секцыя самба ўсё ж дала). І тут здараецца жахлівая неспадзяванка. Правая рука, якою ўсцягваю “кавалера” на бядро, раптам па-здрадніцку храбушчыць у плячы. Зноў вывіх...

У запасе няма ніводнага імгнення, бо, відавочна, у наступны момант атрымаю зубатычыну. Раблю два крокі назад і кулём ныраю ў кювет. У паветры перакульваюся (гэтаму таксама вучылі на секцыі) і ў палёце паспяваю леваю рукою тузануць за правую. І — о дзіва! — ключыца, я гэта адчуваю, стала на сваё месца. Упершыню мне ўдаецца зрабіць гэта самастойна, без дапамогі медыкаў.

Раззлаваны, раз’юшаны, моўчкі выбіраюся з кювета на гравійку і гатовы біцца з імі да астачы сіл, хоць бы грызці зубамі. Мусіць, яны заўважаюць у маім позірку гэтую азвярэласць і павольна, павольна адступаюць назад, затым залазяць у машыну.

— Мы з табой хутка яшчэ сустрэнемся! — кідае мне “кавалер”, і “козлік” торгаецца з месца.

Зрэшты, ні “хутка” ні праз год браты так і не паспрабуюць да мяне падступіцца, хоць я па-ранейшаму наведвацьму Гняздзілава і хадзіцьму ў мясцовы клуб на танцы.

А тая дзяўчына неўзабаве стане маёю жонкаю, з якой мы жывём у злагадзе ўжо болей за трыццаць гадоў...

Вы бачылі, як вялізны сабака раптам кідаецца наўцёкі ад раз’ятраннага, натапыранага ката, які прыціснуты да плоту і якому ўжо няма куды падзецца? Вы заўважалі, з якой безразважнай рашучасцю кура-квактуха кідаецца на любога, хто (так яна думае) можа ўяўляць пагрозу для ейных куранятак?

Хоць і гучыць банальна, але перамагае не сіла. Перамагае дух.

## “Генералы лесу”

На чацвёртым курсе сапяваю, каб пабрацца з Нінай — той самай гняздзілаўскай дзяўчынай. Ні ейныя, ні мае бацькі лішніх грошай не маюць, таму на агульнай нарадзе вырашана зладзіць вяселле ў адным месцы — у Гняздзілаве. Унёсак маіх бацькоў — самагон, ейных — закусь.

Каб заказаць аўтобус і даставіць сваю радню з аднаго канца Беларусі ў другі, сродкаў у мяне, вядома ж, не стае. Сваякам даводзіцца дабірацца “на перакладных” — на рэйсавых аўтобусах: з Пасекі — у Старыя Дарогі, адтуль — да Мінска, са сталіцы — у Докшыцы, з райцэнтра — да месца прызначэння. Гэткім жа будзе і зваротны шлях.

Шлюб рэгіструецца ў Ленінскім ЗАГСе Мінска, бо я прапісаны ў студэнцкім інтэрнаце, таму маёй “дэлегацыі” даводзіцца на нейкі час затрымацца ў сталіцы, каб папрысутнічаць на “ўрачыстай цырымоніі”. Вось тут гняздзілаўцы, а таксама шматлікія прахожыя і звяртаюць увагу на двух самавітых мужыкоў, якія ў чаканні туляюцца перад дзвярыма ЗАГСа. Гэта мае бацька і дзядзька. Апрануты яны ў цёмна-сінія мундзіры, на галовах — фуражкі з аколышам і казырком. Нехта паважліва шэпча:

— Мусіць, лётчыкі.

Хтосьці абвяргае:

— Не, чыгуначнікі.

Сыходзяцца ў адным: усё роўна падобныя на генералаў. І толькі мая будучая цешча з усмешкай падказвае:

— Ды гэта ж леснікі, “генералы лесу”!

“Генераламі лесу” іх і будуць з іроніяй абзываць на працягу ўсяго вяселля...

Чаму ж ён, мой бацька, тады паехаў на вяселле сына ў службовай форме? Проста іншага, цывільнага касцюма ў яго зроду не было. Не хапала грошай на такую раскошу. Ён і захаваўся ў маёй памяці ў шапцы-аблавушцы, кухвайцы, ватных штанах і валёнках ці кірзавых ботах.

А ў тым лесніковўскім касцюме бацьку і пахавалі. І ён сапраўды выглядаў, як генерал.

## Ад любові да нянавісці

Да нас, найперш да будучых журналістаў, гісторыкаў, філосафаў, юрыстаў, адным словам, “ідэалагічны рэзерв партыі”, у інтэрнацкія пакоі падсяляюць студэнтаў-іншаземцаў. Мяркуецца, што нашыя душы пранікнуцца інтэрнацыяналізмам, а замежнікі напоўніцу атрымаюць ад нас порцыю камуністычных ідэй.

На справе ж атрымліваецца зусім наадварот. З замежнікамі мы звычайна варагуем, а той, хто не варагуе, прыходзіць да высновы, што ў Афрыцы ці на Блізкім Усходзе людзі жывуць нашмат лепей, чым у нашай краіне.

Паблажліва ставімся хіба што да в’етнамцаў. Ціхмяныя, амаль незаўважныя, як здані, яны трымаюцца адной суполкай і нікому не дакучаюць. Адна толькі й няўдоба, што на калідоры вечна стаіць гаркава-непрыемны пах, бо на агульнай кухні в’етнамцы звычайна смажаць селядцы.

Над імі, даверлівымі і паслухмянымі, хто-ніхто нават ладзіць кепікі. Прыгадваецца выпадак. У пакой да маіх аднакурснікаў падсяляюць двух в’етнамцаў. Ці то з пахмяла, ці то проста будучы пры добрым настроі,

хлопцы вырашаюць над в'етнамцамі пажартаваць. У першую ж раніцу, у шэсць гадзін, яны падымаюцца з ложкаў, на ўсю моц уключаюць радыёпрыёмнік, з якога грыміць гімн Савецкага Саюза, і будзяць сваіх суседзяў. Тлумачаць ім, што ў нашай краіне кожны абавязаны сустракаць новы дзень пад гімн і па стойцы "смірна". І яны ўчацвярых выцягваюцца ў струнку, пакуль не змаўкаюць апошнія акорды.

Пра свой жарт хлопцы, натуральна, забываюцца і наступным ранкам храпуць так, што не разбудзіш, хоць страляй з гармат. А бедныя в'етнамцы, прывучаныя да дысцыпліны, падхопліваюцца ў шэсць гадзін, уключаюць гімн і на пяць хвілін застываюць, як скамянелыя статуі.

Будзіць беларускіх сяброў яны не асмельваюцца. І так — некалькі дзён, пакуль в'етнамцы не пацікавяцца ў землякоў, ці не цяжка ім падымацца ў гэткую рань.

Дзіўна, але на жарт сваіх беларускіх аднапакаёўцаў в'етнамцы зусім не крыўдуюць...

Іншая справа — арабы і афрыканцы. Яны паводзяць сябе нахабна, на нашыя заўвагі не рэагуюць і ўвогуле быццам бы даюць пазнаку, што не яны ў гасцях, а мы. Мой сябар неяк кажа:

— Пажыўшы з арабамі, я пачаў любіць яўрэяў.

Прычына варажбы паміж намі — не расавая. Яна замешана на іншых "дражджах". Скаламбурыўшы, можна сказаць: усе замежныя — заможныя. Тут няма ніводнага выхадца з тамтэйшага простага люду. Нездарма мой сусед Марсель з Эфіопіі без аніякага прытвортсва наракае на лёс:

— Нашая сям'я — бедная. Бацька мае ўсяго тры магазіны.

Яны апрануты ў дыхтоўныя заморскія "шмоткі", слухаюць музыку з магнітафонаў, зрэдчас харчуюцца ў рэстаранах. Большасць з нас, натуральна, пра гэта і не марыць.

Што яшчэ дапякае — да іншаземцаў з іх раскошай горнуцца самыя прыгожыя дзеўкі. Без аніякага сораму перад намі і днём, і ноччу коўзаюцца ў ложках сваіх смуглявых і цёмнаскурых спонсараў. Такіх дзевак мы лічым здрадніцамі і ставімся да іх з пагардай.

Зрэшты, непрыязь паміж намі і іншаземцамі звычайна выплёхваецца толькі ў слоўныя перабранкі, бо за сур'ёзны канфлікт "нашага" без разваг і разборак вытураць з універсітэта. Затое перападае цёмнаскурым і смуглявым за межамі інтэрната. Па вечарах у нашыя расчыненыя вокны разпораз далятаюць бразганне ланцугоў, трэск паламаных калоў і адчайны енк замежных "сяброў". Не, на іх палююць уздоўж Свіслачы не пакрыўджаныя ці абражаныя студэнты. Гэта робяць сваю "чорную" справу мясцовыя... ну, цяпер іх называюць скінхедамі.

Колісь нашая ўлада, запрашаючы на вучобу чужынцаў, спадзявалася не толькі атрымаць за гэта дадатковыя грошы, але і праз пэўны час мець за мяжою адданых сяброў савецкае дзяржавы. А ў рэшце рэшт атрымала ворагаў.

Дый уласныя студэнты не сталі інтэрнацыяналістамі, бо з сілком навязанай "любові" звычайна прарастае нянавісць...

## "Дзяды"

Пасля таго, як студэнцкае жыццё застаецца за даляглядам, нам належыць прайсці трохмесячныя вайсковыя зборы ў Слоніме, каб атрымаць

званні лейтэнантаў запасу. Мне яны бачацца нечым накшталт будатраду ці "бульбы", калі ёсць магчымасць пажыць з аднакурснікамі адным кагалам, пасёрбаць з агульнага катла. Аднак жа сурова памыляюся...

За пяць гадоў вучобы між намі не было і згадак, служыў ты ў войску ці не. Усе — сябры, прыяцелі, аднакашнікі. А тут раптам адбываецца жорсткі падзел на "дзядоў" і тых, хто не служыў. Прынамсі, гэтага дамагаюцца менавіта "служывыя", у некаторых з іх ёсць нават сяржанцкія ці яфрэйтарскія лычкі.

Вядома ж, з нас, маладзейшых, "дзяды", як бывае ў войску, не здзекуюцца. Але драіць падлогу ў казарме, заступаць на пост днявальнага ці адбываць нарады на кухні — гэта толькі наш абавязак. Праўда, некаторыя з тых, што адслужылі, "дзядамі" сябе не лічаць, таму і днявяляць добраахвотна, і на кухні ўвіхаюцца нароўні з маладзейшымі.

Такі падзел мяне абурае, і зрэдчас адбываюцца сутычкі з "дзядамі". Мне, вядома, няцяжка лішні раз пастаяць каля тумбачкі ці на кухні да бляску адшараваць зашмальцаваны тлушчам кацёл. На кухню я нават хаджу з ахвотай, бо там на асобнай патэльні можна падсмажыць бульбяныя крышэнікі ці адборныя кавалкі мяса і ўсім нарадам парадаваць свае жываты.

Зневажае тое, што толькі-толькі ты быў з усімі на роўных і раптам стаў паслугачом у свайго аднакурсніка, і ён ужо нібы пан, а ты — парабак. А яшчэ ж зусім нядаўна ён браў у цябе шпаргалкі, пазычаў грошы да чарговай стыпендыі, прасіў напісаць за яго нататку ў газету, каб залічылася вытворчая практыка...

Дарэчы, найбольш жорсткія "дзяды" акурат самыя невукі, самыя бяздарныя. Адслужыўшы ў арміі, яны агаралі падрыхтоўчае аддзяленне, з ільготамі паступілі і вучыліся так-сяк, цераз пень-калоду. Прынамсі, не параўнаць жа іхнія паўзабытыя веды з навыкамі ўчарашніх школьнікаў...

Магчыма, таму на зборах, назваўшыся "дзядамі", яны спрабуюць хоць у нечым на кароткі час паказаць перад намі сваю перавагу, хоць трохі зарэтушаваць сваю інтэлектуальную і творчую хібнасць...

У знакамітым тэлесерыяле "Сямнаццаць імгненняў вясны" шэф гестапа Мюллер даводзіць Штырліцу:

— І ведайце: з усяе размовы найбольш запамінаецца апошняя фраза.

"Апошняй фразай" за пяць журфакаўскіх гадоў былі для мяне тыя вайсковыя зборы. І ў мяне на ўсё жыццё засталося ўражанне, што з некаторымі сваімі аднакурснікамі я не вучыўся разам увесь гэты час, а служыў з імі ў войску...

## Пад танкам

На зборах мы страляем з аўтамата, гойсаем на "бэтээры", шпурляем баявыя гранаты. Наступнае выпрабаванне – легчы пад танк. Дыспазіцыя такая: ты з галёканнем бяжыш насустрач танку, плюхаешся перад ім на зямлю, чакаеш, пакуль над табою праляскаюць гусеніцы, затым падхопліваешся і шпурляеш услед яму гранату-муляж.

Гэтае выпрабаванне ўсе мы праходзім дастойна, хоць Т-72 знешне выглядае пагрозна, а зямля на палігоне не зусім падсохлая. Праўда, Віця Чарнушэнка скажа потым, што я задужа раскінуў рукі ўшыркі і маё запясце ледзь не зажавала гусеніца.

Разам з намі, журфакаўцамі, на зборах тусуюцца і будучыя юрысты, бо

падчас вайны ім таксама давядзецца весці ў атаку мотастралковыя ўзводы. Жывём мы ў адной казарме, і вучэнні ў нас — сумесныя.

Адзін з патэнцыйных афіцэраў, які ўжо засвоіў розныя кодэксы і законы, бяжыць насустрач танку і замест таго, каб прытуліцца да глебы, раптам спыняецца і... кідаецца наўцёкі. Танкіст, відаць, напачатку губляецца, на якое імгненне ягоная грозная машына таксама прыпыняе ход, а затым выплёўвае ззаду густы шэра-блакітны шлейф дыму і рэзка зрываецца з месца. Танк гоніцца за ўцекачом.

Юрыст віхляе па палігоне, як заяц, робіць скачкі то ўбок, то наперад, але танк, як прывязаны, уздзіраючы гусеніцамі зямлю, паўзе за ім след у след. Не адну хвіліну працягваецца пагоня, а мы, назіраючы за гэтым відовішчам, хапаемся ад смеху за жываты.

Пад танк той юрыст так і не лёг.

Цікава: кім ён цяпер працуе? Пракурорам, які рашуча змагаецца са зламыснікамі і бандзюгамі? Суддзёй, што без разваг выносіць прысуд? Зрэшты, гэта не так важна. Галоўнае — ён, мусіць жа, вельмі паважаны чалавек, да яго прыслухоўваюцца, шануюць, узнагароджваюць. Узнікае думка: а кім бы ён быў падчас вайны? Ці меў бы гэтую пашану і даброты, калі б давялося паставіць на кон уласнае жыццё?

Мінулая вайна стала лакмусавай паперкай для кожнага тагачаснага чалавека. Хтосьці праявіў мужнасць і стаў героем, нехта змаладушнічаў і стаў здраднікам-паліцаем. А каб не было тае вайны, яны, і героі, і здраднікі, пражылі б да скону амаль аднолькава, магчыма, нават памяняліся б ролямі: патэнцыйныя героі нічым адметным не вызначыліся б, а няспраўджаныя здраднікі атрымлівалі б высокія ўзнагароды. Выходзіць, ім, тагачасным баязліўцам, запраданцам і іншай набрыдзі, якую вышturхнула на паверхню жыцця вайна, проста не пашанцавала з часам, у якім давялося жыць.

На шчасце, маё пакаленне вайны не зведала. Шкада толькі, што сёння немагчыма адрозніць Рыбака ад Сотнікава...

## Нічыя

У шматтыражцы "Інтэграл" я вяду шахматную рубрыку і неяк аб'яўляю на старонках газеты конкурс рашэння задач і эцюдаў. Удзельнікаў набіраецца вельмі шмат, што не дзіва для прадпрыемства, дзе інтэлектуалаў — аж зашкальвае.

Акурат у гэты час у Мінску праходзіць шахматны турнір, на якім галоўнаю "зоркаю" лічыцца малады гросмайстар Чэхаў — вельмі перспектыўны, бо ўжо мае званне чэмпіёна свету сярод юнакоў. У маёй галаве нараджаецца блюзнерская ідэя: а што калі папрасіць гэтага Чэхава, каб ён даў сеанс адначасовай гульні для лепшых удзельнікаў конкурсу? Для іх жа гэта будзе найлепшай узнагародай.

Арганізатары турніра даюць мне хатні нумар тэлефона Чэхава, і я выказваю яму сваю просьбу. Гросмайстар, што для мяне, прызнацца, нечакана, дае згоду. І гэта пры тым, што партыі ў турніры гуляюцца штодня, а значыць, сеанс можна правесці толькі ўвечары.

У сённяшні камерцыйны век безразважны і бескарыслівы ўчынак Чэхава выглядаў бы бязглузда: на той дзень ён лідыраваў у турніры, так што для агульнай перамогі не варта было залішне тлуміць мазгі нейкім

сеансам адначасовай гульні, за які, у дадатак да ўсяго, табе не абяцаюць ні капейкі.

“Інтэграл” нават не спадабляецца на аўтамабіль, каб прывезці гросмайстра на прадпрыемства. Сустрэўшыся ў вестыбюлі гатэля “Мінск”, да Курасоўшчыны мы дабіраемся на тралейбусе, адно што талончык для Чэхава я купляю за свой кошт...

У зале, дзе мяркуецца правесці сеанс, ад людзей не праткнуцца, і ўсе трымаюць пад пахамі шахматныя дошкі. Напачатку планавалася, што з гросмайстрам мецьмуць магчымасць згуляць толькі ўдзельнікі конкурсу, а тут — такая процьма народу. У рэшце рэшт вырашаем, што падужацца з гросмайстрам змогуць толькі трыццаць шчасліўчыкаў. Тым лікам, натуральна, і я.

На восьмым ходзе стаўлю сваю пешку на поле с6 і разлічваю, што гросмайстар трапіць у няхітрую пастку. Наіўны чалавек! Пасля сеанса я спытаюся ў Чэхава, ці разгадаў ён маю “каварную” задумку, і ён адкажа-запытаецца:

— Гэта пасля хода с6? Ну вядома ж, разгадаў.

Але ўразіць не гэта. Аказваецца, ён памятае ўсе хады ва ўсіх трыццаці партыях!

А тады, у час сеансу, менавіта пасля майго восьмага хода Чэхаў нечакана прапаноўвае мне... нічыю. Вядома ж, робіць ён гэта дзеля пачцівасці, каб выказаць павагу да мяне як да арганізатара мерапрыемства.

Што рабіць? З аднаго боку, калі яшчэ выпадзе пазмагацца з гросмайстрам і даведацца, чаго я варты ў параўнанні з ім. А з другога — нічыя з гросмайстрам! Гэтым жа можна будзе пахваляцца ўсё жыццё!

І я пагаджаюся на нічыю...

У тым сеансе такога ж поспеху даб’юцца яшчэ пяць чалавек, астатнія свае партыі прагуляюць.

Аднак жа пазней у мяне чамусьці ніколі не ўзнікне жаданне перад кім-небудзь пахваліцца, што ўдалося згуляць унічыю з самім гросмайстрам...

## Сам — гам, а іншаму не дам

Пасля журфаку мне можна застацца ў сталіцы, тым болей што пры размеркаванні некаторыя рэдакцыі гатовыя даць на мяне “выклік”. Але я цвёрда намерваюся падацца на сваю родную Старадарожчыну. Адно што блізка да бацькоў, да родных краявідаў. А другое — у сям’і ўжо нарадзілася дачушка, і туляцца па здымных кватэрах не надта зручна дый, як кажуць, не па кішэні. А рэдактар старадарожскай раёнкі якраз і абяцае даць двухпакаёўку.

У раёнцы адразу ж засноўваю сатырычную старонку — “Лазню”. Цягу да іроніі і гратэску маю яшчэ з дзіцячых гадоў. Тэмы для фельетонаў знаходжу ў розных рэйдах па раёне. Нашая суполка заўсёдная і трывалая: апроч мяне, оперупаўнаважаны АБКСУ Леанід Варанкоў, на пульхным чэраве якога ледзь зашпільваюцца гузікі міліцэйскага мундзіра, супрацоўнік камітэта народнага кантролю Васіль Пучкоўскі, трыццацігадовы мужчына са злёгку пачырванелым тварам, і эканаміст мясцовага банка Таня Кажамякіна, вельмі пекная маладзіца майго ўзросту, на якую я спадцішка кідаю панадныя позіркі. Ейнае дзявочае прозвішча Дубік, і Таня жартам называе сябе Кажадубікам. Зрэдчас у кагорту спрычыняецца трапіць і хто-кольвеч яшчэ.

Найбольш нам даспадобы рабіць наскокі на крамы, і гэтаму ёсць належны вытлумак. Заляжалыя і таму сапсаваныя тавары, якія, насуперак інструкцыям, выстаўляюцца ў продаж, нас цікавяць мала. Першым чынам зазіраем пад прылаўкі, шастаем у бакоўках, абшукваем склады. Адтуль заўсёды можна выцягнуць "на свет божы" прыхаваныя дэфіцытныя тавары. Складаецца адпаведны акт, і ўсё гэтае дабро адразу ж выстаўляецца на паліцы.

Вестка пра тое, што "камісія з раёна" трасе мясцовую краму, разлятаецца па кожнай вёсцы імгненна. Каля пакуль што зачыненых дзвярэй збіраецца натоўп. Усе чакаюць, што вось-вось гэтыя дзверы расчыняцца, і, напэўна, удасца купіць знойдзеныя камісіяй палку каўбасы, кіло замарожанай рыбы ці кавалак прыстойнага сукна. Аднак часцей за ўсё іхнія спадзяванні не спраўджваюцца.

Наш улоў звычайна небагаты. Прадаўцы прыхоўваюць тавары ці для сябе асабіста, ці для радні, ці для добрых знаёмцаў. А гэта няшмат. І калі згаладалы натоўп нарэшце ўрываецца ў краму, каля прылаўка ўжо ёсць невялікая чарга. Яна складаецца з удзельнікаў рэйдавай брыгады. Усе мы прадбачліва прыхапілі з сабой грошы, якія былі ў наяўнасці, і цяпер скупляем амаль увесь дэфіцыт, намі ж самімі і знойдзены. Мясцовыя жыхары толькі "глытаюць сліну", а мы выходзім з крамы з пакункамі ды сумкамі. Апрача таго, у чарговай "Лазні" з'яўляецца сумесна падпісаны фельетон, у якім высмейваюцца прадаўцы-штрафнікі, а ў сваіх дзеяннях мы не бачым нічога ганебнага ці амаральнага...

Зрэшты, якім было тагачаснае жыццё, такая існавала і мараль. Так званы блат лічыўся не заганным, а вартым зайздрасці, прынцып "ты — мне, я — табе" быў у грамадстве асноўным. Пры агульнай нішчымніцы ўмовы дыктуе не галава, а страўнік. І ён не разумее, што такое справядлівасць, духоўнасць і іншыя "інтэлігенцкія штучкі"...

## "Сабачая" прафесія

З фельетонамі гэтак распярэзваюся, што не ведаю меры. Падабаецца, што хтосьці паважліва са мною вітаецца, нехта пры размове трымаецца з асцярогаю.

У рукі трапляе даведка нейкай камісіі аб "фінансавых злоўжываннях" дырэктара раённага дома культуры Уладзіміра Пракопавіча Зыка. Факты дробненькія, не вартыя ўвагі, бо ніякіх "злоўжыванняў" па сутнасці і няма. Тым не менш рэдактар Зуйкевіч загадвае абавязкова пра гэта напісаць, і я выплёхваю на старонкі газеты разгромны фельетон. Яшчэ і ганаруся: зачапіў гэткую значную па раённых мерках "шышку"!

А між тым калісь Уладзімір Пракопавіч вёў у маёй школе ўрокі фізкультуры. Вёў выдатна, захапляюча. Менш як за год з ліку маіх аднакласнікаў ён падрыхтаваў лепшую ў раёне валейбольную каманду, а мяне самога часам "праштурхоўваў" на розныя абласныя спаборніцтвы.

І вось як я "аддзячыў" настаўніку: настругаў пра яго незаслужаны фельетон, каб выканаць заданне рэдактара, пацешыць уласнае самалюбства.

Старыя Дарогі — гарадок невялікі, і пасля публікацыі даводзіцца сустракацца з Зыкам ледзь не штодня, хоць гэтых сустрэч я імкнуся пазбягаць. Вярэдзіцца душа, позірк скіроўваецца долу, а Уладзімір Пракопавіч, тактоўны, інтэлігентны чалавек, пра фельетон нават не згадвае, ні ў чым мяне не папракае, і толькі ў глыбіні вачэй бачыцца прыхаваная туга.

І так будзе да самай ягонай заўчаснай і раптоўнай смерці...

На чарговай планёрцы рэдактар Зуйкевіч, пераказваючы падначаленым размову з нейкім старшынём калгаса, нечакана прамаўляе:

— Я яму і кажу: вось нацкую Усеню, дык ён цябе ў сваім фельетоне на шматкі разарве...

І тут Зуйкевіч абсякаецца, уцяміўшы, што неабачліва ляпнуў лішняе, непрыемнае для мяне. Супрацоўнікі рэдакцыі таксама гэта разумеюць, але не падаюць выгляду, хоць хто-ніхто з пагардай кідае ў мой бок зласлівы позірк...

Словы Зуйкевіча мяне зневажаюць і абражаюць. А зрэшты... Я іх заслужыў. У фельетонах сапраўды кідаюся на людзей, як раз'юшаны сабака, нацкаваны гаспадаром.

Пасля тае планёркі сатырычны імпэт суцішваю, і "Лазня" з'яўляецца на старонках газеты ўсё радзей.

За безаглядную гатоўнасць апантана выконваць загады кіраўніцтва я заслугоўваю ганьбы, і ў першую чаргу ад самога сябе. Прынамсі, хіба не вылузваўся са скуры ледзь не кожны тагачасны журналіст, каб выканаць гэткі ж загад, без разваг скіроўваць свае сілы і майстэрства туды, куды патрабуе ўсемагутная і мудрая камуністычная партыя? Хто рабіў гэта свядома, па ідэйных матывах, а хто — дзеля ўласнага дабрабыту.

А цяпер, пры сённяшняй уладзе, "сабачая" сутнасць журналістаў дзяржаўных выданняў акрэслілася яшчэ выразней.

## Не тое золата, што блішчыць

У кожным райцэнтры знойдзецца дзясятак-другі графаманаў, якія спрабуюць нешта зарыфмоўваць і закідваюць рэдакцыі сваімі "творамі". І ў тым няма ніякае бяды: калі з гэткага "творцы" не атрымаецца прафесійны літаратар, дык заўзятым чытачом ён будзе абавязкова.

Пры ўсіх раённых газетах існуюць літаратурныя аб'яднанні, у якіх і гуртуюцца вось такія пачаткоўцы. А ў Старых Дарогах на той час літаб'яднання няма. Ліквідоўваю гэты прабел.

Адзін раз на месяц, вечарам, у маім кабінеце мясцовыя класікі чытаюць свае творы. Гэты чалавек сярэдняга ўзросту ў зашмальцаваным, пацёртым паліто, зношаных чаравіках і выцвілай кепцы на галаве звычайна спазняецца. Ён асцярожна, нібы баючыся, адчыняе дзверы і, не праходзячы далей, моўчкі прытульваецца да вушака. Разам з ім у кабінеце з'яўляецца смярдзючы пах цвілі, гнілі і ўвогуле ўсяго таго, што аздабляе жыццё адзінокага, занядбанага, недагледжанага халасцяка. Калі ўсё ўжо прачытана-абмеркавана, чалавек дастае з-за пазухі скрутак паперы і, не чакаючы ніякага дазволу, пачынае чытаць свае вершы на рускай мове. Чытае доўга, без перапынку. Дзіўна, але ў мяне зусім не ўзнікае жаданне яго абсекчы, спыніць. Наадварот, я слухаю вельмі ўважліва, бо тое, што ён чытае, мне падабаецца. Ва ўсякім разе ягоныя вершы не раўня нязграбна зарыфмаваным радкам іншых пачаткоўцаў.

Гэтага чалавека ўсе завуць проста Феліксам. Ён трохі "скалечаны на галаву" і, кажуць, мае адпаведную даведку. Аднак жа не буйны, бяскрыўдны, няшкодны. Загадчыца аддзела пісьмаў Тамара Сцяпанаўна Рэўтовіч, якая жыве ў Старых Дарогах спакон веку, раскажа мне:

— Некалі Фелікс быў самым разумным, самым здольным вучнем у

школе. Скончыў яе з залатым медалём. Феліксу прарочылі вялікую будучыню, ён пісаў цудоўныя вершы. І нечакана нешта перакленіла ў галаве... Бацькі неўзабаве памерлі, і цяпер няма каму яго даглядаць...

Феліксу вельмі хочацца, каб ягоныя вершы былі надрукаваны ў газеце, і ён заўсёды пакідае рукапісы, ад якіх патыхае той жа затхласцю. І вершы сапраўды вартыя, яны зачароўваюць парадаксальнасцю і містыцызмам. Але ніводнага з іх я так і не дам у друк. У гарадку кожны адзін аднаго ведае, і што ж тады падумаюць чытачы пра газету, калі яна публікуе творы ціхага вар'ята?..

...Знаёмая дзеліцца ўражаннямі ад паездкі ў трамваі:

— Уяўляеш, заходзіць нейкі малады бомж, п'яны ў дрызіну. Ад яго нясе такім смуродам, што людзі адступаюцца як мага далей. А ён крыўдзіцца і крычыць на ўвесь трамвай: "Я — беларускі паэт Анатоль Сыс!" Усе толькі рагочуць, бо не вераць, дый ніхто не чуў такога прозвішча. Дарэчы, а ці сапраўды ёсць такі паэт?

— Ёсць, — адказваю. — І ён вельмі таленавіты. Хочаш, дам пачытаць ягоную кніжачку?

— Не-е-е! — махае рукамі знаёмая. — Які ён сам, такія, мусіць, і ягоныя вершы!

...Сярод удзельнікаў літаб'яднання "Узлёт" гэты студэнт філфака дужа адметны. Ён высокі, светлавалосы, прыгожы. А апрануты дык проста з іголачкі: належна адпрасаваны касцюм, белая сарочка, кідкі гальштук. Дый вершы ягоныя гэткія ж прыгладжаныя, правільныя, з рытмам і рыфмай. Але яны чамусьці нікому з нас не падабаюцца. Нейкія нежывыя, штучныя, можна сказаць, не напісаныя, а зробленыя.

Трэба прызнаць, што з часам гэты паэт добра-такі "наблатыкаецца" ў вершаскладанні, і ягоныя творы раз-пораз з'яўляцьмуцца ў друку. Хоць яны будуць па-ранейшаму халоднымі і не выклічуць у мяне ніякіх пачуццяў.

Калі-нікалі мне яшчэ давядзецца пабачыць таго паэта, і ён заўсёды выглядацьме як маладзён на ўласным вяселлі — у касцюме і пры гальштуку. Паэт паведаміць, што, як і раней, яму добра пішуцца вершы. А для сябе я адзначу, што ягонае прозвішча даўно ўжо не на слыху, вершаў у друку чамусьці ўвогуле не відно...

Нездарма кажуць: не тое золата, што блішчыць.

## Ку, Чарненка!

Кіраўнікі дзяржавы падаюць з дрэва жыцця, як пераспелыя жалуды з дуба: Суслаў, Брэжнеў, Андропаў... Наспявае чарга "ўзяцца за лейцы" зусім нямогламу Чарненку.

З гэтае нагоды затрымліваецца друкаванне раёнкі. Да самае начы рэдактар Зуйкевіч і я, адказны сакратар, чакаем афіцыйнага паведамлення пра новага генеральнага сакратара. Нарэшце БелТА па радыё надыктоўвае тэкст (тады ні факсаў, ні тым больш электроннай пошты не было, таму ўсе афіцыйныя матэрыялы для раёнак перадаваліся менавіта па агульным радыё). Паведамленне атрымліваецца крыху большым, чым тое месца, якое мы загадзя і наўскідку пакінулі для яго на першай паласе. Што рабіць? Пераверстваць паласу — гэта ж колькі часу яшчэ спатрэбіцца. І тады Зуйкевіч вырашае:

— Замест "Канстанцін Усцінавіч" паставім толькі ініцыялы — "К.У."

Заметка якраз становіцца на адведзенае месца, лінатыпістка і вярстальшчыца сыходзяць дахаты, друкар запускае станок...

Бяру аддрукаваны асобнік, кідаю позірк на першую паласу, і адразу рэжа вочы гэтае "К.У." Справа ў тым, што па тэлебачанні днямі паказалі камедыю "Кін-дза-дза". Вельмі смешную і павучальную. "Ку", — так вітаюцца адзін з адным галоўныя героі. Камедыя народу настолькі спадабалася, што некаторыя насельнікі гарадка пры сустрэчы кажуць гэтае "ку" заместа "добры дзень". І, безумоўна, іранічны чытач, пабачыўшы загаловак, адразу пасмяецца. А рэдактару, мусіць, давядзецца плакаць ці ўвогуле страціць пасаду. Бо можна падумаць, што газета вітае прыход новага генеральнага сакратара, як у той камедыі:

— КУ, Чарненка.

Пры той паспешлівасці, з якой сыходзяць у іншы свет правадыры, гэта прагучыць як насмешка ці здзек. Выказваю свой занепакой Зуйкевічу. Той хапаецца за галаву і бяжыць спыняць друкарскі станок...

Лінатыпістка ўжо немаведама дзе, і мы ўдвох, як калісь наборшчыкі ленінскую "Іскру", уручную складваем з літарак "Канстанцін Усцінавіч".

На дробны шрыфт у загалоўку начальства назаўтра ўвагі не звяртае...

Пры Сталіне за двухсэнсоўную памылку ў газеце маглі саслаць на Калыму ці ўвогуле расстраляць. Я нарадзіўся пазней. Але ж гэты страх, гэтая перасцярога, мусіць, перадаліся генетычна...

### Блакноцік у кішэні

З ўсяе Беларусі на семінар у Каралішчавічы запрашаюцца маладыя творцы. Мне таксама выпадае гэткае шчасце.

Увесь тыдзень напоўнены цікавымі сустрэчамі, бурнымі спрэчкамі, вечаровымі пасядзелкамі...

Кіруе семінарам Рыгор Барадулін. На творчых занятках яму падсабляюць Сцяпан Гаўрусёў і Сяргей Панізнік. Усе арганізацыйныя пытанні вырашае Мікола Гамолка. Яму даводзіцца круціцца, як шчупаку на патэльні. Ягоныя постаць мільгае і там, і тут. Нас жа трэба і размясціць, і накарміць, і наладзіць з кімсьці сустрэчу...

Ягоную руплівасць і заўсёдную мітусню ўсе мы заўважаем. Тым лікам і Рыгор Барадулін. На адным з заняткаў ён няўзнак, мімаходам прамаўляе:

— Наш Боегамолка...

Семінарысты заходзяцца ад рогату. Справа ў тым, што з тэлеэкранаў і радыё на той час толькі і чуваць: "раззбраенне", "боегалоўка"... І вось жа як дасціпна і дарэчы прагучала гэтае "Боегамолка"!

Тое, што Рыгор Барадулін непераўзыдзены майстар слова і словатворчасці, — ні для кога не сакрэт. Але гэта не толькі прыродны дар. За гэтым стаіць штохвілінная праца, пільная ўвага да пачутага.

Адзін з семінарыстаў кідае выраз: "масцісты паэт". Вядома ж, ён проста не ведае, што правільна трэба казаць "масціты". Аднак Рыгор Барадулін адразу падхопліваецца:

— Як ты сказаў? Масцісты? Выдатна!

З нагруднай кішэні Рыгор Іванавіч дастае блакноцік і робіць нататку. Не ведаю, ці скарыстаў ён гэтае слова напотым, але мяне тады

ўразіць і такое абвостранае чуццё на словатворчасць, і гэты невялічкі блакноцік...

З падобным сутыкнуся толькі аднойчы, трохі раней, калі пасля першага курса прыеду на практыку ў тую ж старадарожскую раёнку. Шэфства нада мною адразу ж бярэ Уладзіслаў Рубанаў. Ён не нашмат старэйшы за мяне, пасля вучобы толькі першы год працуе адказным сакратаром, і між намі завязваецца шчырае сяброўства. Яднае яшчэ і агульная цяга да творчасці. Уладзіслаў дае пачытаць свае першыя апавяданні. Мне яны дужа падабаюцца. І як жа мы ўдвох радуемся, калі адно з іх друкуе “ЛіМ”!

Адказнаму сакратару боўтацца па раёне даводзіцца няшмат. Вось і Рубанаў выбіраецца ў камандзіроўку гады ў рады. Але калі вяртаецца, ягоны нагрудны блакноцік спісаны пачутымі ад людзей сакавітымі слоўцамі і выразамі. Іх я потым знайду ў ягоных апавяданнях і аповесцях.

Колькі я ні спрабаваў напотым прывіць сабе гэткую ж звычку — трымаць пад рукой блакноцік, — так і не ўдалося. І столькі з-за гэтага страчана!..

Пісьменнік творыць не толькі за сталом, ягоныя душа, ягоны розум “працуюць” штохвілінна, нават у сне. І шкада, што найчасцей — ухаластую...

## Сюжэт

Аднакурснік Саша Германовіч, ведаючы, што апошнім часам мяне пацягнула на баладныя вершы (я дык папросту называю іх сюжэтнымі), прапануе:

— Калі праставіш пляшку “чарніла”, падару табе выдатнейшы сюжэт. Прычым не выдуманы, не высмактаны з пальца. Відавочцам быў мой добры сябра.

Я недаверліва пазіраю на яго:

— А калі гэты сюжэт мне не спадабаецца? Тады, выходзіць, тую пляшку ты выжлукціш на халяву?

— Даю гарантыю, што спадабаецца. Так што бяжы ў краму.

Прынамсі, рызыка не надта вялікая. Пляшка “Лучыстага” каштуе ўсяго 97 капеек. Крама суседзіцца з нашым інтэрнатам № 2. Так што адна нага там, другая — тут.

Услодыч падлячыўшыся “пасля ўчарашняга”, Германовіч распавядае свой сюжэт. Ён становіцца вершам “Балада пра ногі”:

Горнай дарогі крук.
Выгнуты хвост калоны.
Выпусціш руль
З рук —
І шлях бяздонны...

Раптам кінула ўбок.
Неба... Клінок дарогі...
Неба... Зямля... Боль.
Прыціснула ногі.

Гуртам стаяць сябры.
Выцягнуць немагчыма:
І чалавек гарыць,
І машына...

Дапамагчы!
А чым?
Дзе адзінае выйсце?
— Там... у кабіне... сячы...
Ногі... сячыце!

Зараз усё рване!
— Хлопцы... тапор... ударце!
— Не!
— Не магу я!
— Не!
— Не пакідайце...

Выбух агнём пакрыў
Выгнуты крук дарогі.
Горнага рэха крык:
— Ногі сячыце!
Но-о-огі!..

Неўзабаве гэты верш будзе надрукаваны ў альманаху “Дзень паэзіі”. І я атрымаю ганарар, за які можна будзе купіць не толькі пляшку “Лучыстага”...

Як тут не прыгадаць знакамітыя радкі: “Когда б вы знали, из какого сора растут стихи...”

## Дзяўчынка з “хвосцікам”

Наша артэкаўская змена хоць і лічыцца юнкораўскай, але ў ёй шмат паэтаў-пачаткоўцаў. Зрэдчас мы збіраемся ў ленінскім пакоі і чытаем адзін аднаму свае нясмелыя спробы.

Сярод паэтак ёсць дзяўчынка з суседняга атрада, якая мне дужа падабаецца. У яе раскосыя вочы, чамусьці бледны твар, злёгку выцягнуты, і каштанавыя валасы, заплеценыя ў хвосіцк. А станік ейны тоненькі-тоненькі — як сцяблінка ільну. Я не столькі слухаю нечыя вершы, колькі спадцішка любуюся сваёй абранніцай.

Нарэшце і яна чытае свой верш — пра вясну. Дзяўчынку ўсе вельмі хваляць. У мяне з’яўляецца магчымасць уставіць “тры капейкі” і звярнуць на сябе ейную ўвагу. Справа ў тым, што гэты верш акурат перад ад’ездам у Артэк я прачытаў у адрыўным календары, перш чым бацька выкінуў скамечаны лісток у печ. Каб дагадзіць дзяўчынцы, пацвердзіць, што верш сапраўды варты, я і распавядаю пра гэта ўсім:

— У календары абы-што не надрукуюць! — падсумоўваю шматзначна і чакаю ўдзячнага позірку дзяўчынкі.

А яна чамусьці ўскоквае з месца і вісклява крычыць:

— Няпраўда! Гэта я сама напісала!

А затым, прыкрыўшы твар далонямі, пачынае галасна плакаць — ажно паміж пальцамі цякуць слёзы.

Усе кідаюцца яе супакойваць, суцішаць:

— Ды ён, мусіць жа, памыліўся!

— Ну вядома ж, ты сама напісала!

І толькі я сяджу, як аслупянелы. Памыліцца я не мог — гэта дакладна. І тут даходзіць да клёку, што дзяўчынка сапраўды прысвоіла чужы твор,

інакш не рэагавала б так бурна, не маскіравала б "шчырымі слязьмі" свой плагіят.

Я моўчкі пакідаю ленінскі пакой і адчуваю, як колюць спіну ганебныя позіркі.

А дзяўчынка мне ўсё адно даспадобы. Я па-ранейшаму стараюся як мага часцей патрапіцца ёй на вочы, звярнуць на сябе ўвагу. Аднак яна напамысна верне ўбок свой збялелы тварык, а калі і кідае пагляд, дык варожы, ненавісны.

Так і засталося маё нясмелае пачуццё без узаемнасці...

Потым не раз сутыкнуся з такой сітуацыяй: не падумаўшы, хочаш некаму дагадзіць, а нажываеш ворага.

## Адшчапенец

Уладкоўваюся на працу ў "Гомельскую праўду". Пакуль сям'я застаецца ў Старых Дарогах, рэдакцыя забяспечвае мяне малюпасенькім пакойчыкам у інтэрнаце нейкага тэхнікума. Месца ў ім — толькі для ложка і стала.

Камендант інтэрната — габрэй сталага ўзросту. Ніколі не бачу яго цвярозым. Неадпрасаваны, заляпаны чорны касцюмчык, сарочка наросхрыст, разбэрсаныя валасы на галаве... Пабачыш такога каля крамы, дык падумаеш, што бадзяга ці бомж. Пару разоў набулькваю каменданту шклянку гарэлкі, і ён ужо лічыць мяне лепшым сябрам.

Намеснік каменданта па выхаваўчай рабоце — таксама габрэй. Ён — поўны антыпод свайму супляменніку. Заўсёды гладка паголены, ад яго патыхае парфумай. Ссівелыя валасы роўненька зачасаны ў прабор. Злёгку зацемненыя акуляры. Светла-шэры касцюм, гальштук, карычневыя і добра наваксаваныя чаравікі. Па знешнім выглядзе — сама меней міністр.

Намеснік каменданта заходзіць у мой пакойчык ледзь не штодзень. Яму набулькваць не трэба, бо ён, здаецца, увогуле не п'е. Намесніку проста прыемна пазносіцца з "прадстаўніком прэсы". Зрэшты, нашыя размовы зазвычай зводзяцца да ягонага маналога пра тое, як цяжка жывецца ў краіне габрэям, колькі добрага яны зрабілі для людзей усяго свету і г. д. А ў фінале заўсёды гучаць адны і тыя ж словы:

— Вы на каменданта не зважайце... Такі апоек... Усю нашую нацыю ганьбіць... Але ён выправіцца... Я за гэта вазьмуся... Дзе ж вы бачылі, каб габрэй — ды гэтак піў...

Выслухоўваючы ў чарговы раз прабачэнне за "адшчапенца нацыі", я не злую на намесніка каменданта. Я нават яго паважаю. Бо міжволі ўзнікае пытанне: а ці дбаем вось гэтак пра годнасць і гонар сваёй нацыі мы, беларусы, ці хвалюе нас лёс свайго супляменніка? Мусіць жа, не. Будзе ён ляжаць, п'яны, на абочыне шашы, дык адпіхнём яго нагою ў канаву...

## Абвяржэнне

Хачу напісаць артыкул пра тое, як забяспечаныя, рэспектабельныя дзеці, каб пазбегнуць лішняга клопату, здаюць сваіх бацькоў у дамы састарэлых. Адзін з такіх дамоў — у прыгарадзе Гомеля. Кіруюся туды, каб узбагаціцца фактурай.

Кіраўніцтва дома састарэлых падбірае для мяне "патрэбных" дзядулек і бабулек, гутару з імі, запісваю з дзясятак слёзных гісторый. Напрыканцы

мяне вядуць папалуднаваць. Праўда, чамусьці не ў агульную сталоўку, а ў бакоўку, аддзеленую дзвярыма з дэрмацінавай абіўкай. Боршч наварысты, шчодра аздоблены смятанай, катлеты сакавітыя, са свежага мяса — як у рэстаране...

Неўзабаве ў газеце з'яўляецца артыкул "Старасць — не радасць..."

Праз тры дні рэдакцыйную цішыню ўскалыхвае абураны старэчы голас. Прыстойна апрануты дзядок у акулярах шукае "таго карэспандэнта, які напісаў гэткую ману". Яго, як дэлегата, насельнікі дома састарэлых выправілі ў рэдакцыю, каб перадаў скаргу-абвяржэнне з дзясяткамі подпісаў.

— У чым жа мана? — пытаюся ў дзядка. — Хіба ж гэтыя гісторыі я выдумаў? Хіба ж няпраўда, што некаторыя дзеці "спіхваюць" у дом састарэлых сваіх бацькоў?

— Хай сабе і праўда, — пагаджаецца дзядок. — Але ж такія выпадкі — адзінкавыя. А ў нашым доме састарэлых гаруюць усе пагалоўна. Нас не кормяць як след. Прадукты, гэта відавочна, раскрадаюцца персаналам. Бялізна не мяняецца месяцамі. Ці верыце, старых ужо заелі вошы! За слова ўпоперак можна атрымаць па карку... Чаму вы пра гэта не напісалі?

І сапраўды прыгадваецца, як вусцішна было ў калідорах інтэрната (мусіць, старых разагналі па пакоях, каб не назалялі карэспандэнту), як адна бабулька "вынырнула" з-за вугла і паспрабавала схапіць мяне за крысо, каб нешта паведаць, але на яе цыкнула медсястра і прагнала прэч...

І ўсё ж я няўцямна паціскаю плячамі:

— Разумееце, у мяне была зусім іншая тэма...

— Тэма? — ускоквае з месца дзядок. — Тэма адна: чэрствасць, абыякавасць, непаважлівыя адносіны да старасці.

Дзядок яшчэ паходзіць-пакрычыць на калідоры, затым яго выслухае намеснік рэдактара, аднак ніякага плёну гэта яму не прынясе.

На добры толк мне варта было б яшчэ раз наведаць той дом састарэлых, напісаць крытычны артыкул ці, можа, нават фельетон. Але ж я не паехаў. Ні журналісты, ні газета не любяць друкаваць абвяржэнні, прызнаваць свае памылкі... Дый увогуле: нам, пісакам, лягчэй глыбакадумна разважаць над агульнай праблемай, чым дапамагчы канкрэтнаму чалавеку ў канкрэтным выпадку.

## Дзядзька-цэнзар

На літаратурнай старонцы "Гомельскай праўды" завярстаны мой верш "Курганы". Нічога адметнага, звычайны, радавы верш:

Адбалявалі груганы,
Вякам —
Адлік зязюль-варожак...
Нібы нарывы,
Курганы
Апошнім ложам
Зграй варожых.

Мячом гацілі кожны крок,
Славянкі галасілі нема.
(Яшчэ ўва мне пылае гневам
Маіх дзядоў
Крутая кроў...)

Я веру, што зямля праўве
Крывавых ран сваіх нарывы.
І косці белыя ў траве
Галлём бяроз да сонца рынуць.

І час вякоў сівых міне,
І не заслоніць неба чэрань.
...Глядзіць з ухмылкай на мяне
І зубы шчэрыць
Шэры чэрап...

Як зменны сакратар, я павінен прысутнічаць на фабрыцы “Палесдрук” да таго моманту, пакуль нумар не будзе падпісаны ў свет. Трэба прасачыць, каб не “выпала” якая-небудзь лінейка, не было стракатасці ў загаловачным шрыфце, каб здымак не стаяў дагары нагамі.

За змест, за памылкі ў тэкстах адказваюць карэктар і дзяжурны па нумары (звычайна гэта загадчык аддзела ці намеснік рэдактара), якія месцяцца ў цесным пакойчыку прылеглага будынка. А насупраць гэтага пакойчыка — яшчэ адзін. Там сядзіць усемагутны цэнзар.

Дзябёлы маладжавы мужчына са злёгку пасярэбранымі скронямі трымаецца самавіта і незалежна. Праўда, прагульваючыся ў вольную хвіліну па дворыку фабрыкі, з ахвотаю ўступае з намі ў размовы на жыццёвыя тэмы і нават можа распавесці анекдот. Ягоны твар чамусьці заўсёды насмешлівы (магчыма, мне гэта толькі здаецца) і таямніча-загадкавы.

Намеснік рэдактара Леанід Карачун, які дзяжурыць па нумары, адклікае мяне ўбок і кажа:

— Цэнзар чамусьці моршчыцца на твой верш... Нешта яму не падабаецца...

— Дык няхай падыдзе і скажа мне, аўтару.

— Ну, ён жа толькі моршчыцца. А зняць з паласы не патрабуе.

Зрабіўшы сваю справу, зыходжу з друкарні трохі раней. Назаўтра разгортваю газету, бачу свой верш, але без апошніх радкоў — пра “ўхмылку шэрага чэрапа”. Аказваецца, як толькі я сышоў, у апошні момант перад падпісаннем нумара ў свет, цэнзар запатрабаваў “выкрасліць гэтую крамолу”. У чым крамола — патлумачыць так і не змог. Толькі і сказаў:

— Нутром адчуваю: пра зубы, пра шэры чэрап — нешта тут не нашае, не савецкае... Так што на ўсялякі выпадак выкрэслівайце!

Бач ты, а мне ў вочы сказаць не адважыўся ці пасаромеўся. Дык учыніў расправу над вершам спадцішка...

Упершыню з цэнзурай я сутыкнуся, працуючы ў шматтыражцы “Інтэграл”. Без візы “першага аддзела” не тое што газету падпісаць у свет — рукапіс немагчыма было здаць у набор. Ну дык гэта зразумела — аб’ект, як кажуць, рэжымны, засакрэчаны. (Нават генсек Брэжнеў, вітаючы і віншуючы ў друку “Інтэграл” з чарговым поспехам, не назаве, у якім горадзе знаходзіцца прадпрыемства).

Затым у старадарожскую райгазету штогод наязджацьме загадкавы дзядзька са сталіцы і на планёрцы бітыя дзве гадзіны нудна будзе тлумачыць, што нельга пісаць, колькі кароваў здохла ў цэлым па раёне і які ўраджай бабовых чакаецца восенню. Ваенная тайна! Па гэтых звестках вораг можа зрабіць высновы пра нашую боегатоўнасць і эканамічную бяспеку!

Дый што казаць: нават падчас працы ў “Звяздзе”, калі ў краіне будзе

шугаць гарбачоўская перабудова, давядзецца прысутнічаць на падобнай планёрцы з дзядзькам-цэнзарам.

Па сутнасці ён, цэнзар, і быў тады сапраўдным галоўным рэдактарам любога выдання.

## Загаловак

Напісаў артыкул пра забойства. Плануецца паставіць яго ў чарговы нумар. Чамусьці выклікае рэдактар Уладзімір Лазько.

Лазько — чалавек вельмі эмацыйны. Калі ў гуморы, можа абнадзеіць, падбадзёрыць, па-сяброўску паляпаць па плячы. Калі ж не ў настроі, за аніщто можа аблаяць (праўда, без мацюкоў), пырскаючы слінай, прынізіць і зганьбіць.

Сакратарка Тамара Высоцкая падказвае, што сёння рэдактар такі злы — свет не бачыў. Толькі расчыняю дзверы ў ягоны кабінет, як чую раздражнёнае:

— У тваім артыкуле мне не падабаецца загаловак. Прыдумай іншы!

Сяджу, думаю. Праз дзесяць хвілінаў зноў іду да рэдактара.

— Што за ахінея? Ідзі думай яшчэ!

Напружваю мазгі, нясу Лазько новы варыянт.

— Не пойдзе! Думай, думай!

І так — дзесяць разоў, цягам паўдня. Адчуваю: вось-вось Лазько "выбухне". На аркушы пішу адразу трыццаць загалоўкаў і без аніякай надзеі падаю яго рэдактару. Ажно і праўда: Лазько, прабегшы вачыма па спісе, пагардліва кідае мой аркуш на стол.

— Бязглуздзіца! Ніякай фантазіі!

На секунду-другую задумваецца і выдае:

— Вось табе загаловак: "Забойства пачыналася са ста грамаў". Ну як, здорава?

— Проста геніяльна! — пагаджаюся нават без іроніі, бо ўжо настолькі даканала валтузня з гэтымі загалоўкамі, што гатовы ўвогуле адмовіцца ад артыкула.

— То-та ж! — задаволена кажа Лазько. — Вучыся, пакуль я жывы!

А чаму тут вучыцца? І так ужо даўно ўсім вядома: калі ты не начальнік — значыць, дурань...

## Непахісны

Высокі прыгожы хлопец з удумлівымі, нават, як напачатку здалося, сумнымі вачыма з'яўляецца ў сакратарыяце неўзабаве пасля мяне. Менавіта з такой знешнасцю я ўяўляў лермантаўскага Пячорына. Хлопцу вызначаюць стол побач з маім, і пасада ў яго такая ж — зменны сакратар. Нязмушана працягнуў руку:

— Сяргей Дубавец.

Пазней даведаюся, што яго па сутнасці саслалі ў Гомель за "нацдэмаўшчыну". Але саслалі, мусіць, на сваю галаву... Гэтую "нацдэмаўшчыну" Сяргей Дубавец пасеяў у "Гомельскай праўдзе".

Газета хоць і выдаецца на беларускай мове, але ў рэдакцыі ўсе размаўляюць выключна па-руску. А тут нейкі маладзён парушае звыклую завядзёнку — нахабна зносіцца на роднай мове і тым самым нібы кідае

выклік усяму калектыву. Асабліва гэта абурае намесніцу рэдактара Тамару Харытонаву, жанчыну перадпенсійнага ўзросту. З Дубаўцом у яе раз-пораз узнікаюць слоўныя сутычкі.

— Почему вы разговариваете со мною по-белорусски? — настойліва пытаецца яна.

— А чаму вы размаўляеце са мною па-руску? — у сваю чаргу пытаецца Дубавец.

Закавыка яшчэ і ў тым, што прачытаныя і папраўленыя матэрыялы Харытонава здае ў сакратарыят. Перш чым намаляваць макет паласы, зменны сакратар таксама павінен іх прачытаць і, калі дужа хочацца, ён можа ўнесці сваю праўку. У матэрыялах шмат калькаваных з рускай мовы слоў, і Дубавец замяняе іх натуральна-беларускімі. Харытонава з гэтым не пагаджаецца і тыцкае пальцам у двухтомавы “Белорусско-русский словарь” пад рэдактарствам Кандрата Крапівы, у якім тая калька зацверджана афіцыйна. Гэты слоўнік Дубавец проста ненавідзіць. Праўда, аднаго разу “тыцнуць пальцам” у той слоўнік даводзіцца і яму самому. Са спартыўнай паласы не сыходзіць слова “ігрок”. Дубавец упарта правіць яго на “гулец”. Харытонава абураецца:

— Што яшчэ за “гулец” такі?

А ў слоўніку акурат гэтае слова і ёсць...

Паступова намесніца рэдактара пачынае ставіцца да Дубаўца з прыхільнасцю — мусіць, запаважала ягоную непахіснасць. А потым дык і ўвогуле звяртаецца да яго ледзь не ласкава — “Серёжа”.

Прынамсі, паважаюць Дубаўца ўсе, хоць ён і самы малады ў калектыве. І пры гутарцы з ім кожны стараецца размаўляць па-беларуску...

Спакваля ў рэдакцыі складваецца невялікая беларускамоўная суполка: Дубавец, я і Барыс Сачанка, які працуе ў сельгасаддзеле (цяпер ён Барыс Пятровіч, але для мяне Барыс назаўсёды застанецца Сачанкам). Разам мы ходзім палуднаваць у рэстаран “Беларусь”, прылеплены да знакамітага гомельскага парку, затым, блукаючы па алеях, гутарым пра жыццё, пра літаратуру. Для мяне гэта — свята душы. А галоўнае — я магу ўволю, нікога не саромеючыся, гаварыць па-беларуску!

Тыя два гады дзякуючы Сяргею Дубаўцу стануць вызначальнымі ў маёй нацыянальнай самасвядомасці. Я зразумею: у любым асяродку, у любых абставінах можна захаваць нацыянальную годнасць, застацца самім сабою. І калі пазней адпачывацьму ў розных санаторыях, ніхто не будзе пазіраць з пагардаю і кпіць з маёй беларускай мовы, наадварот, усе будуць падладкоўвацца пад мяне, старацца хоць два-тры словы ўставіць па-беларуску, нібы адчуваючы віну за тое, што самі забылі, занядбалі мову сваіх продкаў.

Вось і выходзіць: каб вярнуць мову ў народ, той, хто яе ведае, для пачатку павінен проста гаварыць на ёй у паўсядзённым жыцці.

*Працяг будзе.*

Юля Бо



...я цябе

беспардонна праспала ...

# Гэта не пра любоў...

* * *

Памятаеш, як разам мы вудзілі сонную рыбу
Сонца? Як убіралі мае валасы ў косы?
Як нашыя рукі-крукі збіваліся аб каленкі,
І дождж у жніўні,
і крыкі да маці: “Не мокнем”?

Бегма, ножку ўбок павярнуць, паплакаць,
Назаўтра можна не йсці ў школу, кульгаеш.
Раніцою ўбачыцца цвёрда, калі ўсе на рабоце,
І хавацца доўга ў шафе ад неспадзяванак.

Поўзаць па дахах, падаць у метро па п’яні,
Баяцца блізкай смерці
і нікога больш не баяцца...

Цяпер мы: адною нагой у моры зялёнай твані,
Другой – падсыпаем пясок у манную кашу.

Нам болей не ўспомніць свае нецяжкія імёны.
Ды што імёны, мы ў люстры сябе не пазнаем,
Я бачу цябе на вуліцы голага і не зважаю:
Адно палічу да двух і ўсё пастунова знікне.

Ты хочаш мяне паклікаць і не наважаешся –
Упарта ідзеш па справах з раўнюткаю спінай.
Мы ўсё разумеем. Кінься, я не абражаюся.
У адно імгненне дарослымі самі сталі мы.

Калі:
Я зноў дзяўчынка з бялюткімі валасамі,
А ты пераскокваеш смела праз пяць прыступак,
Тады:
Мне не кінуць цябе паміраць ад хранічнае стомы,
Божачка, ты больш ніколі тут не памрэш, павер мне.

* * *

сокал агу цяпер за плячыма ў мяне
змяшчаецца ўсё самае сэрцу блізкае
не стае ў рукзаку шкарпэтак толькі
і кніжкі

доўга нудзілася але смех па рацэ
пасыпаўся і ў нас канфрантацыя
супраць тых хто не хоча купацца
голенькімі

тут гавораць восень тут гавораць
людзі шлэндаюцца і сабак купаюць
рака вабіць як у піражку начынка
з вішанькай

ногі мокрыя рукам холадна ізноўку
выць прыходзіцца за хлеб без масла
збягаеш з матросам а праз дзень ён
ужо капітанішча

калі падпіў заганы вылазяць самі
і без дубцоў мне задача запомніць
ці запісаць цяпер правядзі moralit?
ампутацыю

прачнуцца ў ложку прынцэсай апранутай
адзін бок белы другі чырвоны падпёк як
курачку злобны дзень спаць да дзявятай
няма чаго

ачмурэла ці што але нам у люстэрку
відаць паўсвету нашто дарога круціць
адну пласцінку? і тут не орбіт ды
не эдзіт піяф

гетман кіруе правільна і шмат чаго
разумее атрымай цукерку гаворыць
дэбілы не значыць што там усё-усё
безнадзейнае

ясна адно толькі можа і не яно зусім
усе мае дваццаць (пакуль што) улазяць
лёгка ў сорак другі памер шортаў (яшчэ
не такія бываюць)

гады носяць з сабой з крапівы заплечнік
у ім сядзіць ўсё што прыжылося хоць злёгку
шчотка і майка на змену ўсё жыццё і так
перапоўнена

сокал а мы ўжо і вярнуліся але я цябе
беспардонна праспала з вазком на руках
як мадонна без перспектыў на далейшае
ўваскрашэнне

* * *

светлы дзень – цёмная ноч
цяпер моўчкі, нібы ніколі тут не было мяне
жоўтым пагрукаў дождж
холадна, можа ўзапраўду ніхто не чакаў,
што пацякуць кроплі па галаве
учора смага, сёння – насыць
сапраўды не было. было? не зусім было
дождж, дождж, дай вады
паліць на рукі, на галаву
не давай, не мне, не зрывайся з работы,
я прыпыню цябе літасцю
ты пасмяешся, схопіш маю руку
сваім мокрым долам, сухім нібыта,
вочы не зводзіш, вусны ссохліся
будзеш доўга да самага дому спяваць

свае ціхія песні пра мора і акіян
птушкі пападаюць ад захаплення,
слупы пакуляюцца ў вокны,
а я не растану замілаваная,
ну куды мне больш

* * *

мне трэба зважаць на кожнае слова і крок,
каб не вярзці лухты, зямлю каб не праламіць,
але, калі сонца з'ядае вочы, то можна ў радок
не ўзірацца і некага іншага словамі патапіць

тады гаварыць пра неба і пра зямлю,
пра рэкі, прароцтвы, сумневы і быць у сумленні
хаваць свае твары ў руках, дзівіцца на дэжа вю,
хадзіць праваруч па чарзе і дэманстраваць уменні

усё так проста, як чысціць зубы, піць чай
як засынаць у стоме і як ускочыць у поезд
і я прысыпаю пясочкам чужы адчай
і я зноў страляю ў галовы сваіх нямоглых

брызент майго мяккага сэрца нарэшце распаўся
і ток пераменны я адчуваю рукамі
ніколі ніхто ні з чым ад мяне не вяртаўся
ніколі ніхто ні за што навек пакараны

* * *

надараецца снам уварвацца ў жыццё знянацку
прапаўзці пад брамай, сабе неба за варту паставіць
і сядзець і чакаць салёных навінаў з мора
пільнаваць пахвілінна цябе, каб хутчэй ускочыць

а табе ўсё адно прыходзіцца доўга ад іх адбівацца
стомы цяжкая п*а*ра зглынае ўсе цвёрдыя рухі
цэдзіш кроплямі горкімі кожны свой крок у тумане
каб не згінуць у моры – адно паглядай на рукі

будуць бойкі і войны сусвету табе папярок законаў
раскіданыя целы ў кожным квадраце свяцілішч
і ні ўправа ні ўлева няможна зірнуць навокал
ты – галоўны, трывай, нашто сабе шыю мыліш?

у гэтым сне не прачнешся; ну колькі ж можна маліцца?
не крычаць, не біцца ў разлітых мяккіх пярынах

назірай і слухай – вось што ў паветры падвісла
назірай і слухай – вось дзе мазгі бяссільныя

* * *

адзін душыць лістамі
другі проста нясмеласцю
а я – састарэлы цукіні
я забіваю спеласцю

у мяне спелыя думкі
у мяне спелыя ногі
у мяне спелае сэрца
пакаштуй і выплюнь

ураджай мяне не збіраюць
без гною сумуюць градкі
я ляжу за высокім плотам
а вакол агарод кахання

а вакол капуста і морква
буракі і голыя бабы
і яны нікога не любяць
яны папросту не ў стане

усе тупа ляжаць і чакаюць ночы
калі можна беспантовых п...здзіць
калі можна крышыць бялюткія зубы
і абмывацца сырою курынай крывёю

і гэта не пра любоў
і не пра яе адсутнасць
а пра страшнае сухое
слова “безвыходна”

а я са сваім маленькім кабачковым сэрцам
са сваёй цёмнай-цёмнай душой
са сваімі абпечанымі сонцам бакамі
ляжу і плачу ад адзіноты і тонкіх нерваў

Андрэй Дзічэнка



...увесь свет –
боль...

# Розум калектыўнае свядомасці

***Апавед***

Вучаніца старэйшых класаў Антаніна Кіршман адным красавіцкім днём раптам адчула сябе прастуджанай. Гэта было звычайнай справай – як ні дзіўна, сярэдзіна красавіка выдалася непрыемна халоднай і непрыгожа дажджлівай, таму большая частка Мінска хадзіла саплівая, чыхала і злавалася.

Глытаючы ртом паветра, Тоня зайшла ў сваю кватэру і адразу ж уладкавалася на канапе. На сценах пакою месціліся каляровыя постэры і часопісныя калажы. Хацелася ляжаць з заплюшчанымі вачыма і марыць аб тым дні, калі з-за свінцовых аблокаў выгляне сонца і сваімі промнямі выцясніць хваробу з яе цела.

Недзе на стале стаяла бутэлечка са спрэем для носу. Тоня любіла адчуваць, як прадукт-выратаванне айчыннай фармацэўтыкі хваляй праходзіць па ноздрах і дае некалькі выратавальных гадзінаў свабоднага дыхання.

Не расплюшчваючы вачэй, Тоня пачала навобмацак шукаць выратавальны цюбік, які стаяў на стале.

Балела галава.

*[Дотык (кінестэтыка, тактыльнае пачуццё) — адзін з відаў пачуццяў, на якія здольны чалавек. Заключаецца ў здольнасці адчуваць дотык, успрымаць штонебудзь рэцэптарамі, размешчанымі ў скуры, мышцах, слізістых абалонках.]*

Знайшоўшы пластмасавы цюбік, Тоня сунула яго ў нос і націснула. Аднак замест гаркаватага "Нафцізіну" там аказалася іншая вадкасць. Крыху збянтэжаная, Тоня расплюшчыла вочы і ўбачыла белы цюбік клею ПВА, што незразумела як апынуўся на стале замест лекаў. Можа, малодшы брат нешта клеіў і паставіў маленькую белую тубу побач?

*[Пластыкавыя тубы вырабляюць з поліэтылена розных тыпаў экструзійным працэсам. Такія тубы могуць быць аднапластавыя і мнагапластавыя (каэкструзійныя тубы)]*

Тоні раптам зрабілася агідна. Ёй падалося, што ўся насавая слізь маланкава ператварылася ў кіпячую лаву, гатовую выплюхнуцца на яеваспаваты твар. Але замест таго, каб інстынктыўна высмаркацца, яна чамусьці ўцягнула сумесь глыбей, і ў яе галаве пачалі мільгаць каляровыя малюнкі.

*[Дысперсія полівінілацетата ў вадзе, з пластыфікатарам і спецыяльнымі дабаўкамі. Прымяняюць для склейвання разнастайных матэрыялаў.]*

*"Дарагая Тоня! Я звяртаюся да цябе з іншага свету! Толькі што ты з'яднала матэрыю гэтага свету з матэрыяй свайго мозгу, які належыць агрэсіўнаму свету людзей. Прымі ж гэты светлы дар вялікага праваднікa ПВА" – прамовіў механічны голас у яе галаве. Тоня села і абхапіла галаву рукамі. Але, як ні дзіўна, болю не было – толькі незразумелае адчуванне хаосу, гатовага вызваліцца, разарваўшы на шматкі чарапную каробку.*

– Хто тут? – вымавіла ў адчаі дзяўчына. Пасля таго, як яна сказала гэта ўслых, адчуванне хаосу некуды знікла. Насмарк прайшоў, а на змену галаўному болю прыйшла незразумелая лёгкасць. Але за першым пытаннем адразу ж прыйшло другое:

– Што са мною адбываецца?

Адказу не было. Таямнічы голас, які ўзнік аднойчы, болей не з'яўляўся ў галаве школьніцы, таму мог падацца галюцынацыяй, выкліканай, магчыма, высокай тэмпературай. Але Тоня не адчувала павышанай тэмпературы. Каб упэўніцца, яна ўзяла з кніжнай паліцы градуснік, дзяўчынка прысела на канапу і, здзіўленая адсутнасцю прастуды, пачакала крыху болей за хвіліну. *36.6*

– Значыць, я абсалютна здаровая? – спытала Тоня саму сябе і накіравалася на кухню – падагрэць абед. Паеўшы, Тоня збіралася ўжо сесці за ўрокі, як раптам адчула вяртанне агіднага прастуднага стану. Яна вярнулася ў пакой і быццам зачараваная глядзела на пластыкавы цюбік з цудадзейным клеем ПВА. Нядоўга думаючы, яна зноў уцягнула ў нос цягучую белую вадкасць.

На гэты раз яна адчула ўнутры – недзе вельмі далёка – дзіўны цёплы шар агню, які не падпарадкоўваўся законам трохмернага свету і выпраменьваў выключна дабро. Ён быццам быў вандроўнікам, які перабіраўся паэтапна з аднаго свету ў іншы.

*«Прывітанне, Тоня! Мы працягваем перамяшчэнне матэрый, пра якое так доўга марыла калектыўная свядомасць чалавецтва. Будзь асцярожная, цёмныя*

*сілы могуць імгненна авалодаць табою. Асцерагайся іх, жоўта-чорных вершнікаў “Моманту”, чый розум даўно ўжо паглынулі дэструктыўныя думкі.”*

На гэты раз Тоня выслухала іншародны ўнутраны голас і ўпэўнілася, што ўсё гэта далёка не трызненне. Яна паклала дзіўны цюбік у кішэню і вырашыла прайсціся пад пахмурным мінскім небам. Калі яна абувалася, у кватэру зайшла маці.

– Ты куды, Тонечка? – спытала яна. – Ты ж прастуджаная, дачушка...

– Я ўжо здаровая, матуля! – бадзёра адказала Тоня. У адказ мама прыклала далонь да ілба дзяўчынкі і, упэўніўшыся, што тэмпературы сапраўды няма, вымавіла:

– Ну, ты ж толькі не гуляй доўга!

Тоня кіўнула галавою і, зачыніўшы за сабою дзверы, пабегла ўніз па лесвіцы. Каля ўваходу стаяла некалькі хлапчукоў з суседняга пад’езда. Яны нібы чакалі Тоню. Дзяўчынка, заўважыўшы некалькі злосных твараў, не адразу зразумела, што можа адбыцца. Яна вырашыла прайсці міма, але адзін з хлопчыкаў цвёрдым голасам сказаў: “Стой”. Тоня падпарадкавалася. Нягледзячы на тое, што яна часта бачыла гэтую шпану ў сваім двары і яны здаваліся звычайнымі бяскрыўднымі школьнікамі, пачуццё страху абвастрылася.

Чацвёра хлопцаў сталі ў кола і паклалі рукі адзін аднаму на плечы, быццам збіраліся танцаваць грэчаскі танец “сіртакі”.

І тут яны ў адзін момант расплюшчылі вочы і хорам прамовілі: “Яна!” Адзін з іх абедзвюма рукамі схапіў Тоню і пацягнуў у падвал. Астатнія суправаджалі палонную. Тоня ж проста адчувала, што цяпер ёй не вызваліцца – думаць пра ўцёкі трэба было раней. У апошнія секунды яна вырашыла скарыцца свайму лёсу. У падвале хлопчыкі паклалі яе на брудную падлогу, засыпаную пабітым шклом і іншым смеццем. Адзін з хлопцаў агаліў Тонін локаць.

– А мне не будзе балюча? – спытала дзяўчынка.

– Болю не існуе! – адказаў ёй хлопец, які нёс яе. – Альбо ўвесь свет – боль.

*[Боль — непрыемнае сэнсарнае і/ці эмацыйнае перажыванне, звязанае з існуючым або патэнцыяльным пашкоджаннем тканак]*

Астатнія хлопцы дасталі жоўта-чорны цюбік клею “Момент” і шпрыц. Выцягнуўшы поршань, яны выціснулі ў шпрыц клей. Пасля поршань быў уладкаваны на ранейшае месца і падвальны медбрат прысеў побач з Тоняй.

– Проста яно нам загадала, – сказаў хлопчык і ўсадзіў іголку пад тонкую скуру дзяўчынкі. Тоня заплюшчыла вочы і адчула, як унутраны шар дабрыні раптам пачырванеў і пачаў выпраменьваць боль. Але прыкметаў фізічнага болю не было, таму боль зрабіўся яе часткай, элементам антыматэрыі, у якой спрацоўваюць супрацьлеглыя законы матэрыі.

...Калі мясцовы бомж па мянушцы Сіплы зайшоў у падвал, ён адчуў смурод (нягледзячы на тое, што сам смярдзеў горш за любы смеццевоз). Паставіўшы бутэльку таннай гарэлкі на зямлю, ён падпаліў запалку і ўбачыў лужыну зялёнай слізі, якая сваімі абрысамі нагадвала чалавека. Адчуўшы нядобрае, Сіплы падняў бутэльку і жвава пакрочыў у іншы пад’езд.

## Петэр Хухель



...не для таго народжаны,
каб жыць пад крыламі гвалтоўнай улады,
я ўзяў на сябе нявіннасць віноўнага...

# Шэпча прах

### *АНЁЛЫ*

Дым,
падымаецца цень,
ідзе па хаце,
дзе старая,
з гусіным крылом
у слабой руцэ,
з печы змятае попел.
Гарыць агонь.
Памятай пра мяне,
шэпча пыл.

Лістападаўская смуга,
дождж, дождж і кашэчы сон.
Неба чорнае
і слотнае над ракой.

*Пераклад з нямецкай – Яраславы АНАНКА і Генрыха КІРШБАУМА.*

Час цячэ з разяўленай пустэчы,
цячэ па жабрах
і плаўніках рыб,
па ледзяных вачох анёлаў,
што сходзяць
у тонкіх прыцемках
узмахамі сажы
да Каінавых дачок.

Дым,
падымаецца цень,
ідзе па хаце.
Гарыць агонь.
Памятай пра мяне,
шэпча прах.

### ГАДЗІНА ДЗЯВЯТАЯ

Спёка выколвае на каменні
слова прарока.
Нехта насілу
падымаецца ўгору,
у яго пастуховай торбе
дзявятая гадзіна,
молат і цвік.

Сухое ззянне казінага статка
раздзіраецца ў паветры
і валіцца за гарызонт.

* * *

Бузіннік адкрывае поўні,
усё пераходзіць у маўчанне,
цякучыя блікі ручая,
прапушчаны праз ваду
планетарый Архімеда,
зоркавыя знакі,
вавілонскія спачатку.

Сыне,
сынку Энкіду,
пакінуў ты сваю маці-газэль,
свайго бацьку-кулана,
сышоў за курвай ва Ўрук.
Козы-карміцелькі разбегліся.
Высах стэп.

За гарадской брамай
за сямю замкамі
павучаў цябе Гільгамеш,
памежны вандроўнік між небам і зямлёй,
як перагрызці ліну смерці.

Цёмна палаў поўдзень на цаглянай сцяне,
цёмна залегла золата ў царскай казне.
Вяртайся, Энкіду.
Чым цябе абдарыў Гільгамеш?
Панікла чало газэлі.
Пыл забіўся ў твае косткі.

### АМАНІЦЯНІН

Стаміўшыся ад абрыдлых багоў і іх агнёў,
я жыў без закону
у лагчыне даліны Гіном.

Мяне пакінулі старыя спадарожнікі,
раўнавага між зямлёй і небам,
і авен, адзіны,
па зорках кульгаючы згнілым капытом,
аддадзены быў мне.

Пад яго рагамі каменнымі,
што гарэлі бяздымна,
я спаў па начах,
днём абпальваў урны,
а ўвечары, перад сонцам,
біў іх аб скалу.

Не бачыў я
ні кацiных прыцемак сярод кедраў,
ні ўзлятаючых птушак,
ні хараства вады,
што цякла па маіх руках,
калі мясіў я гліну.
Пах смерці зрабіў мяне сляпым.

### ГАДЗЮКА

Прыгажуня-гадзюка,
праляцела сарокай скрозь твой сон
і скрала золата з куткоў вачэй.

Галавой нерухомай на шурпатым чэрапе,
дзе гарыць, гніючы,

Алегаў конь,
ты чакала ночы.

Яна прыйдзе з беразняку,
бурштынавокая,
сябра кажаноў,
і залье горкім малаком
сцябло дзьмухаўца.

### СУД

Не для таго народжаны,
каб жыць пад крыламі гвалтоўнай улады,
я ўзяў на сябе нявіннасць віноўнага.

Па праву сілы
суддзя сядзеў за сталом
і нахабна гартаў маю справу.

Не жадаючы
прасіць літасці,
я стаяў перад судом
у масцы ветаха.

Утаропіўшыся ў сцяну,
я бачыў вершніка,
цёмны вецер перавязаў яму вочы,
бразгаталі шпоры чартапалоха.
Ён мчаў праз алешнік уверх па рацэ.

Не кожны праходзіць годна
скрозь брод часоў.
У многіх вада выдзірае
з-пад ног камяні.

Утаропіўшыся ў сцяну,
няздольны
крывавае марыва
яшчэ называць золкам,
я слухаў суддзю,
што выносіў вырак,
паламаныя сказы з пажаўцелых папераў.
Ён закрыў тэчку.

Непасціжны быў
рух яго твару.
Я паглядзеў на суддзю
і ўбачыў яго бяссілле.
Холад разануў мяне па зубах.

## У ГАРАХ КУНЬЛУНЯ

Не падымайся
у горы Куньлуня,
дзе на перавалах
трэба плаціць даніну духам.

Снежныя масы зацямняюць неба.
Над ясенямі
з крыкам лунае
сокал на бурным ветры.
Ён замірае і падае ніцма ў цемру,
туды, дзе бязгучна, у снезе
тоне трэснутая сасна.

Чатыры дні ўверх па стромай сцяжыне,
між уцёсаў і ссохлых тамарыскаў.

Снежныя цыпкі на скалах,
пісьмёны, якія не разгадаць.

І ўвесь час
прарэджаны заледзянелы ляск,
які змрокам займае вуха.

І нідзе на шляху
нават самай убогай хаціны
з волкіх яловых ствалоў,
дзе на голай саломе
можна прыткнуць галаву.

Я блукаў у снежна-зыркай начы
і заснуў каля прорвы
ў шэрым шчэбні.

Халодным ранкам,
скрозь святлівае снежнае паветра
я спусціўся ў даліну
і пайшоў па следзе лісы.

Ён прывёў да старой шаўкоўніцы
з тонкім прарэзам у кары.

Я адкрыў дзверы кары
і ўвайшоў у дрэва.
З шолахам зачыніліся дзверы.

Нерухомы сядзеў я ў дупле.
Духі з тканіны завейнага снегу
наведвалі мяне па начах
пад гуд гонга і бразгаты барабанаў.

Я глытаў вецер, глытаў расу
і баяўся дыхнуць.

Ці яны мармыталі свае заклёны,
датыкаліся да мяне,
я адчуваў іх, мы сядзелі калена ў калена.
Я жыў у цёмнай невядомасці.

Часам па начах мне вярзлося,
быццам зграя істот збірае снег.
Я хапаўся за паветра, але лавіў толькі холад.

Тут, у пустым целе дрэва
я пражыў учэпісты,
зацягнуты холад вясны,

слухаў ноччу слабы галас духаў,
а ранкам знаходзіў запас
з цвёрдых костачак сціснутага жыцця.

Я заплюшчваў вочы, медытаваў,
глядзеў скрозь кару на свет
і адчуваў сябе вінаватым.

Я заплюшчваў вочы
і бачыў светлых валоў,
запрэжаных у плуг,
што ішлі па веснавых палях.

Я чуў глухі рык
і вытрасаў з валасоў
мокрую гліну.

Я заплюшчваў вочы і бачыў
як дачка гандляра соллю
срэбным сярпом
зразала лісце шаўкоўніцы.

Яна выносіла ў камору
кошык з кормам
для вусняў шаўкапрада.

Я заплюшчыў вочы.
Прыйшлі двое парабкаў,
прыставілі да дрэва пілу
і забілі мяне.

# Пра Петэра Хухеля

Петэр Хухель нарадзіўся ў 1903 годзе ў Берліне, вучыўся ва ўніверсітэтах Берліна, Фрайбурга і Вены, у 1920-я гг. шмат вандраваў па Францыі, Венгрыі, Румыніі, Турцыі. З 1930 па 1933 г.г. працаваў у рэдакцыі часопіса «Die literarische Welt» («Літаратурны свет»), да 1940 г. – на радыё, з 1941 па 1945 служыў у вермахце. У красавіку 1945 г. Хухель трапіў у савецкі палон, пасля вызвалення застаўся ва Усходняй Германіі і ўзначаліў літаратурны аддзел берлінскага радыё. У 1950 г., калі паэту было ўжо 47 год, выйшаў яго першы зборнік вершаў. З 1948 па 1962 гг. Хухель – галоўны рэдактар літаратурна-публіцыстычнага часопіса «Sinn und Form» («Сэнс і форма»), які быў, разам з «Берлінскім ансамблем» Б.Брэхта, культурнай візітнай карткай ГДР для Захада. На хвалі хрушчоўскай адлігі, што дайшла і да ГДР, Хухель публікаваў у часопісе актуальную сучасную прозу, паэзію, эсэістыку ад Ж.П.Сартра, Б.Брэхта і П.Цалана да К.Паустоўскага і К.Федзіна, а таксама шматлікія рэцэнзіі і гісторыка-літаратурныя матэрыялы. Хухель двойчы наведваў Савецкі Саюз: быў у Маскве, сустракаўся ў Яснай Паляне з апошнім сакратаром Талстога – В.Булгакавым, падарожнічаў па Арменіі. У 1962 г. Хухеля знялі з пасады галоўнага рэдактара часопіса «Сэнс і форма» і змясцілі пад хатні арышт. Дзевяць гадоў ён жыў у сваім доме недалёка ад Берліна і быў фактычна адрэзаны ад астатняга свету. На Захадзе за гэтыя гады выйшла дзве кнігі яго вершаў. У 1971 г. пад націскам ПЭН-клуба Хухелю было дазволена пакінуць ГДР. Паэт памёр у 1981 г. у Шварцвальдзе (ФРГ).

Хухель з'яўляецца аўтарам чатырох паэтычных зборнікаў і некалькіх радыёп'ес. Гэтая публікацыя – першая падборка твораў Хухеля на беларускай мове і першая буйная публікацыя перакладаў позняга Хухеля на славянскія мовы (асобныя раннія вершы перакладаліся на польскую, чэшскую, балгарскую, а таксама эпізадычна выходзілі ў савецкіх анталогіях 1960-70-х гг.). Невядомасць Хухеля за межамі Германіі ўвогуле і ва ўсходнееўрапейскім культурным свеце ў прыватнасці тым больш дзіўная, што яго шанаваў і прапагандаваў І.Бродскі, які назваў Хухеля, нароўні з Р.М.Рыльке, Г.Траклем і Г.Бэнам, адным з чатырох лепшых паэтаў Германіі XX стагоддзя і прысвяціў яму асобнае эсэ.

У гэтую падборку ўключаныя вершы з двух апошніх зборнікаў Хухеля: «Лічаныя дні» («Gezaehlte Tage», назва змяшчае алюзію да радка з Эклезіаста) і «Гадзіна дзявятая» («Die neunte Stunde», назва кнігі і аднайменнага верша адсылае да апошніх імгненняў Хрыстова жыцця – хвіліне перадсмяротнай сумневы і роспачы на крыжы). У адрозненне ад ранняй пейзажнай лірыкі, у позніх вершах паэта ландшафт міфалагізуецца, пры гэтым Хухель спыняе свой выбар на перыферыйных, маргіналізаваных персанажах старажытных легенд і паданняў. Так, у аснове верша «Бузіннік адкрывае поўні...» (першапачатковая назва «Энкіду») ляжыць месапатамская гісторыя аб Гільгамешы. У еўрапейскім успрыманні гэтага сюжэта цэнтральнае месца займае напалову Гамлет, напалову Дон-Кіхот – Гільгамеш. Хухель зрушвае перспектыву: лірычнае апавяданне вядзецца ад асобы тужлівых бацькоў Энкіду – спадарожніка, «Санчо Пансы» Гільгамеша, які ўскосна стаў ахвярай метафізічных і этычных пошукаў і блуканняў Гільгамеша. Падобнае зрушэнне перспектывы можна прасачыць у вершы «Гадзюка», дзе па-новаму асвятляецца (а дакладней, зацямняецца) апавяданне пра Вешчага Алега (сюжэт у Германіі практычна невядомы). Пейзажыст Хухель дэталёва апісвае ноч перад пагібельным прыходам Алега да магілы свайго каня і саму змяю – прыладу немінучага лёсу. Герой верша

«Аманіцянін» – прадстаўнік семіцкага племя аманіцян, варожы да іудзеяў (тут нельга забываць, што гаворыць паэт-немец, удзельнік вайны). Далёкі ад якога б то ні было сучаснага стаіцызму і «сізіфавага» экзістэнцыялізму, ён жыве ў адзіноце апошняй роспачы ў даліне Гіном, ці у Геене (адсюль «геена агнявая»). У вершы «Аманіцянін», як і ў «Анёлах», паэт зноў выбірае маргіналізаваныя блізкаўсходнія сюжэты і алюзіі.

У сваіх чэрствых вершах Хухель стварае адчуванне страты і безвыходнага жаху, яго трэн, жалобны плач са старазапаветнай сілай скрухі і памяці ператвараецца ў псалм. У перакладах мы спрабавалі перадаць асаблівасці метрыка-фанетычнай арганізацыі верша ў позняга Хухеля, які абапіраецца як на традыцыі старазапаветнай і нямецкай тонікі (з яе параўнальна шчыльнай алітэрацыяй), так і на мадэрновы вопыт верлібра. Пры гэтым у сваіх сучасных і разам з тым архаічных рытмах паэт не перадае душэўныя станы і стогны чалавека, а выпісвае сухі «нацюрморт ландшафта» – у прамым сэнсе слова «нацюрморт» – мёртвай і бесчалавечнай прыроды. Лясныя і азёрныя пейзажы ранняй лірыкі (*гл.* яе рудымент у вершы «Гадзюка») у позняга Хухеля зменьваюцца «праўдай» голай зямлі: на месца дрэваў і траваў прыходзяць камяні, няўцешныя ў сваім маўклівым лямансе. Тэму тленнасці існага Хухель пераплятае з матывамі віны і нявіннасці, а таксама караючай сілы і гвалту (гл. «Суд»). Аўтабіяграфічнай падкладкай верша з'яўляецца вышэйзгаданая няміласць і арышт паэта з боку ўладаў.

Петэр Хухель – не толькі прадаўжальнік Іова і Эклезіаста, але і паэт Перадвелікоднай Пятніцы. «Любімы» час позняга Хухеля – злавесны поўдзень, калі пякучае сонца ў зенітным зацьменні слепіць і выпальвае ўсё навокал. У вершах нямецкага паэта пануе альбо пекла пустыні альбо нясцерпны холад гор («У гарах Куньлуня»). Ключавымі метафарамі і метаніміямі смяротнасці як галоўнага стану чалавека ў свеце, «перад сонцам» («Аманіцянін»), аказваецца пыл, попел, цэра, шчэбень, адным словам, прах жывых і нежывых істотаў. У перакладах нам хацелася данесці да чытача складанасць гэтага вобразна-семантычнага поля: так у вершы "Анёлы" нямецкае слова "Staub" перакладзена і як "пыл", і як "прах" (*гл.* таксама матыў «пылу» ў вершы "Бузіннік адкрывае поўні..."). У хвіліну маўчання чалавека па самім сабе чуецца толькі шэпт усюдыіснага праху: «Памятай пра мяне».

**Генрых Кіршбаум,**
**Яраслава Ананка.**

# Прыцемкі над гарой Тайшань

## “Імя твайго не назаву”

*Уступнае слова да перакладаў сучаснай кітайскай паэзіі*

Што значыць быць паэтам у краіне, гісторыя якой налічвае 5000 год? Гэта і адказна, і складана, і проста. Шмат даводзілася чуць, што, маўляў, сучасная кітайская літаратура не мае чаго прапанаваць і мала чым можа пахваліцца. Неяк інтуітыўна не хацелася ў гэта верыць, і тады пачаўся пошук...

Шлях тых, хто вырашыў азнаёміцца з сучаснай кітайскай паэзіяй можа быць досыць цярністым. На паліцах кнігарняў хутчэй за ўсё вы знойдзеце кнігі па фэн-шуі, кітайскай кухні, пару кніжак па граматыцы і іерагліфіцы, адаптаваныя казкі і показкі, і, вядома ж, зборнікі класічнай паэзіі дынастыі Мін, дынастыі Сун і іншых вялікіх дынастый. Паспрабуйце адшукаць што-небудзь больш сучаснае, і перад вамі расчыняцца дзверы, за якімі вы пабачыце самотныя пяскі пустэльні, развейваемыя такім жа самотным ветрам.

Кнігі, прысвечаныя сучаснай паэзіі, можна пералічыць па пальцах. Гэта факт. Аднак цікавасць да кітайскай мовы расце, і хочацца спадзявацца, што хоць адзін з тых, хто вывучае яе сёння, заўтра звернецца да перакладаў менавіта сучаснай паэзіі. Што можна ў ёй знайсці? Пачатак XX стагоддзя, сярэдзіна і ягонае заканчэнне, пачатак XXI ст., мужчыны і жанчыны, шчаслівыя і няшчасныя, памерлыя і жывыя – сучасная кітайская паэзія ўніверсальная і ўнікальная адначасова, якой і мусіць быць сапраўдная паэзія.

У адной з публікацыяў, прысвечаных Рабіндранату Таго-

*Пераклад з кітайскай – Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

ру, давялося прачытаць наступныя словы: “На жаль, большая частка англійскіх перакладаў паэзіі Тагора далёкая ад арыгіналу, яна перадае толькі форму, а сутнасць і прыгажосць ягоных радкоў застаецца недаступнай для еўрапейскіх чытачоў, яе можа ўсвядоміць толькі той, хто з дзяцінства ўбіраў у сябе загадкавы дух Усходу”. З аднаго боку, ёсць пэўная слушнасць у гэтым фрагменце, бо, як вядома, вершы (асабліва!) лепш чытаць у арыгінале. З іншага боку – такая катэгарычнасць абурае і ставіць пад сумнеў любыя спробы перакладаць вершаваныя творы.

Адметнасць успрыняцця кітайскіх вершаваных тэкстаў хаваецца ў самой мове, паняцці і словы якой можна інтэрпрэтаваць бясконца. Быццам атрымліваеш нераспісаную вазу, і якім будзе ўзор залежыць ад цябе, але ваза застанецца вазай. Працэс перакладу ўскладняецца яшчэ і тым, што ёсць узровень прачытання іерогліфаў як сама-знакаў, піктаграмаў, візуальны вобраз, якіх пры адным толькі поглядзе на іх спрацоўвае як трыгер для эмоцыі. Самым простым прыкладам будзе слова *лес*. Параўнаем гэтае *лес* у кірылічным выкананні з кітайскім, дзе іерогліф 森林 (senlin) складаецца з пяці дрэваў. Ды і сам ключ[1] дрэва (木) нагадвае па абліччы свой рэферэнт.

Праца перакладчыка – няўдзячная праца, і цяпер па правілах кітайскага этыкету я мушу напісаць наступнае: “найшаноўнейшыя чытачы, дазвольце прадставіць вашай увазе ўласныя нікчэмныя пераклады, якія ніяк не заслугоўваюць вашай пачэснай увагі, і з майго боку было б нахабствам спадзявацца, што вы прысвяціце некалькі хвілінаў вашага найкаштоўнейшага часу для азнаямлення з марнымі спробамі маёй працы”[2].

**Вольга ГАПЕЕВА.**

## Дай Ўаншу - 戴望舒 (кіт.) - Dai Wangshu (англ.) (1905-1950)

Належыць да шанхайскай школы мадэрністаў. Навучаўся ў Францыі, актыўна займаўся перакладамі (сярод іншага перакладаў Бадлера і Гарсію Лорку). Працаваў у Ганконгу рэдактарам газеты. Падчас японскай акупацыі быў арыштаваны. Пасля японa-кітайскай вайны вярнуўся ў Шанхай, а потым у Пекін. Памёр ад перадазіроўкі эфедрыну, якім лекаваў прыступы астмы.

* * *

Неспакой
Скажу, гэта ціхі восеньскі сум,
скажу, гэта самота далёкага мора.
Імя твайго не назаву,
калі нехта спытае пра маё гора.

Калі нехта спытае пра маё гора,
імя твайго не назаву.
Скажу, гэта самота далёкага мора,
скажу, гэта ціхі восеньскі сум.

---

[1] Іерагліфічны ключ – графічны элемент ці просты іерогліф кітайскага пісьма, з якіх утвараюцца складаныя іерогліфы. Выступае ў якасці фанетычнага ці сэнсавага паказчыка.

[2] Згодна з правіламі кітайскага этыкету самапрыніжэнне выступае як камунікатыўная стратэгія. Пры размове важна прытрымлівацца двух момантаў: першае, ветліва звяртацца да суразмоўцы, другое, ганьбіць сябе і ўсё, што звязана з вашай асобай.

* * *

Паміж мной і сусветам – сцяна,

між сцяною і мной – лямпа,

паміж лямпай і мной – кніга,

паміж кнігай і мной – заслона!

### БЕЛЫ МАТЫЛЬ

Якую мудрасць нясеш мне,
маленькі белы матыль,
распраўленыя – чыстыя аркушы
складзеныя – чыстыя аркушы?

Разгорнутыя старонкі:
самота;
самкнёныя старонкі:
самота.

### ЭКСПРОМТ

Калі б зноў пачалася вясна ў жыцці,
растапіла б камлыгі намерзлага льду,
змог бы зноўку на тварах усмешкі знайсці,
і пачуць ясны заклік –
такога далёкага сну.

Тое добрае, што існуе, не сыдзе ў змрок,
лёс ягоны застацца ў вечнасці пад крылом,
у дабра моц трывання быццам бы лёд,
але дотык пяшчотны
як кветкі бутон...

## Лінь Хуэйінь - 林徽因 (кіт.) - Lin Huiyin (англ.) (1904-1955)

Нарадзілася ў заможнай сям'і, навучалася ў Еўропе і ЗША. Пісала вершы, прозу і драму, займалася перакладамі з англійскай. Вядомая таксама як архітэктарка. Памёрла ад сухотаў.

### ДЗЕНЬ ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Я люблю гэты дзень пасля дажджу,
гэта мора травы на полі!
Маё сэрца
няспынна нясецца за подыхам ветру,

подых ветру –
далёка адносіць пах зёлак, лістапад,
далёка адносіць аблокі, быццам дым
– быццам дым.

### *АДСТАРОНЕНАСЦЬ*

Зіма прыносіць з сабою зіму
Мароз падобны да кветак –
У кветак ёсць водар, у зімы –
жменькі ўспамінаў.

Цень ад галіны сухой, танклявае марыва,
перад акном апоўдні
крэсліць малюнак у адзін росчырк;

На марозе святло робіцца цьмяным і
павольна знікае...
і ўсё так
быццам, чакаючы словаў ад госця,
я сяджу ў цішыні і маўкліва п’ю чай.

### *ПРЫЦЕМКІ НАД ГАРОЙ ТАЙШАНЬ*

Памятаю той дзень,
думкі цягнуцца доўгай ракой,
і з надыходам прыцемак,
душа запаўняецца месяцовым ззяннем.
Быццам гара колеру індыга
сёння
сэрца здаецца аднабокай ганарлівай заслонай;
стракатай,
аднак яно не забывае на захад сонца,
зяленіва і блакіт,
унізе ўздымецца вецер
ноч прыйшла

*19.07.1936*

## Сю Чжымо - 徐志摩 (кіт.) - Xu Zhimo (англ.) (1897-1931)

Адзін з самых вядомых кітайскіх паэтаў пачатку XX ст. Навучаўся ў ЗША і Вялікабрытаніі. Па вяртанні на радзіму стаў лідарам сучаснай кітайскай паэзіі, заснаваў Таварыства Месяца. Загінуў у авіякатастрофе.

### *НЕ ВЕДАЮ КУДЫ Ў ЯКІМ КІРУНКУ ВЕЦЕР ДЗЬМЕ*

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –

кружляе сон,
мяне на лёгкіх хвалях ў тумане.

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –
кружляе сон,
яе ў пяшчоту ў п'яны вір – мяне.

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –
кружляе сон,
нідзе так не салодка як у сне.

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –
кружляе сон,
яе – у здраду, ў сум – мяне.

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –
кружляе сон,
мяне з разбітым сэрцам у журбе!

не ведаю куды
ў якім кірунку вецер дзьме –
кружляе сон,
у сне пануе змрок на дне.

### *СНЕЖНАЯ РАДАСЦЬ*

Я хацеў бы лёгкай белай сняжынкаю быць,
кружляць у паветры, на хвалях ветру плыць,
каб шлях свой спазнаць –
лунаць, лунаць і лунаць –
на покрыве гэтым шлях свой спазнаць.

Мяне не заманіць халоднай лагчыны спакой,
не спыніць падножжа гары маркотай сваёй,
І на пустэльных вулках мне не сумаваць –
лунаць, лунаць і лунаць –
я ведаю, як шлях свой спазнаць!

У карагодзе чароўным
сплятаецца снежны вянок,
нарэшце, спазнаўшы ўтульны зацішны куток,
у садзе пад слівай яе стану чакаць –
лунаць, лунаць і лунаць –
кветкавы пах ейнага цела ўдыхаць!

Вёрткімі рухамі перашкоды аблятаю вакол,
каб апусціцца на ейнай сукенкі падол,
танклявыя лініі любага цела кранаць –
знікаць, знікаць і знікаць –
на хвалях ейнага цела, як успаміны растаць.

### *ВЫПАДКОВАСЦЬ*

Я воблакам белым у небе плыву,
І зрэдчас адкідваю цень на цябе –
што тут здзіўляцца,
дый радавацца не варта –
хвіліна і знікну бяследна ў імгле.

Сустрэліся цёмнай ноччу ля мора,
у кожнага з нас – свая дарога;
узгадаеш – што ж будзе прыемна,
лепш аднак забудзься імгненна,
як падчас тых спатканняў ззяла святло чароўна!

## **Бэй Дао - 北島 (кіт.) - Bei Dao (англ.)**

Нарадзіўся ў 1949 г. Сапраўднае імя – Чжао Чжэнькай. Удзельнік дэманстрацыі 1976 г. на плошчы Цяньаньмэнь. Падчас дэманстрацыі 1989 г. знаходзіўся ў Берліне, вярнуўся на радзіму ў 2006 г. Жыў у ЗША і розных краінах Еўропы. Неаднаразова вылучаўся на Нобелеўскую прэмію. Прадстаўнік групы “цьмяных паэтаў”, якія выступалі супраць культурнай рэвалюцыі ў Кітаі. Выдаваў часопіс “Сёння” (《今天》- Jintian), які ў 1980 г. быў забаронены ўладамі.

### *АДКАЗ*

Подласць – гэта пропуск для свалаты,
Велікадушнасць – эпітафія для сумленных,
Глядзі, у небе залочаным,
Адбіваюцца звілістыя абрысы памерлых.

Час ледарікоў даўно мінуў,
Чаму ж ўсё па-ранейшаму агорнута лёдам?
Мыс Добрай Надзеі даўно быў адкрыты,
Чаму ж у Мёртвым моры ваююць караблі?

Я прыйшоў у гэты свет,
Маючы аркуш паперы, вяроўку і цень,
Каб абвесціць перад судом
Рашучым голасам свой прысуд:

Я звяртаюся да цябе, Свет
Я – НЕ – ВЕРУ!

І няхай тысячы ўжо спрабавалі гэта сказаць,
Я стану тысяча першым.

Я не веру ў вечна блакітнае неба,
Я не веру ў рэха грымотаў,
Я не веру, што сны не могуць стаць праўдай,
Я не веру, што пасля смерці няма расплаты.

Калі здарыцца так,
    што мора перацячэ ў рыштці,
Няхай уся гаркота з іх заліе маё сэрца.
Калі здарыцца так, што зямля ўздымецца,
Няхай чалавецтва
    зноў адшукае гару для існавання.

Новыя шляхі і зіхоткія зоркі
Упрыгожваюць бясхмарнае неба.
Яны – іерогліфы якім 5000 год,
Яны – пільныя погляды будучых пакаленняў.

### ЗАБЛУКАЛЫ

следам галубінага вуркатання
я шукаю цябе
высокі лес захіляе неба
пад нагамі віецца вузкая сцежка
маленькі заблукалы дзьмухавец
вядзе мяне да шэра-блакітных азёраў
дзе ў ледзь дрыготкім адлюстраванні
бяздонных вачэй
знайду цябе

### УСЁ

Усё – лёс
Усё – дым аблокаў
Усё – бясконцы пачатак
Усё – хуткаплынны пошук
Усялякае шчасце не доўжыцца вечна
Усялякія слёзы высыхаюць на твары няшчасных
Усе прамовы – толькі паўторы
Усялякае знаёмства
    пачынаецца з першай сустрэчы
Усялякае каханне – унутры сэрца
Усё прамінулае – застаецца ў снах
Усялякая надзея нясе сумневы
Усялякае перакананне нясе пакуты

Усялякі выбух прарочыць спакой
Усялякая смерць паўторыцца рэхам

## **Тан Даньхон - 唐丹鸿 (кіт.) - Tang Danhong (англ.)**

Нарадзілася ў 1965 г. Паэтка, рэжысёрка-дакументалістка. З 1990 г. зняла некалькі фільмаў пра Тыбет. З 2005 г. жыве ў Ізраілі. Выкладае кітайскую мову ва ўніверсітэце Тэль-Авіву.

### *ПАД ВЫБУХОВЫМ ЗОРНЫМ НЕБАМ*

Пад выбуховым зорным небам кахаюцца двое людзей
адзін – мой бацька
другая – мая маці
пад выбуховым зорным небам я не прамоўлю ні гуку
не панепакою, вытрываю ўсё, мушу вытрываць
таму што я вялікая чырвоная зорка
тая што падае долу

## **Лань Лань - 藍藍 (кіт.) - Lan Lan (англ.)**

Нар. у 1967 г. Піша паэзію, прозу, творы для дзяцей. Працуе ў Літаратурнай Акадэміі правінцыі Хэнань.

### *ДЗІКІ СЛАНЕЧНІК*

Прыйдзе восень і ім
адсякуць галовы.
Той хто прайшоў міма яе вернецца
нечакана. Неба пакрылі прыцемкі,
сонца сядае, пакрываючы ейны твар
залатым пылам,
разам з бясконцым летам.

Хто пройдзе? Пройдзе небасхіл з кветак грэчкі?
Мінулае агорнута ў жалобу, за каго
мне зноў давядзецца памерці?

Хлуслівы дзікі сланечнік. Хлуслівыя
спевы.
Джала восеньскага ветру працінае мне грудзі.

Васіль Быкаў



...на мацюгах, як на біцюгах,
хочаце да Берліна даехаць?..

# Атака

## *Аповесць*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

Аповесць «Атака», хоць і напісаная Васілём Быкавым недзе на самым пачатку 1960-х гг., ніколі раней не друкавалася — упершыню яна прадстаўлены на старонках кнігі В.Быкава «Гарадзенскі архіў: невядомыя творы (1957-1972); незавершанае; нататнікі», якая выходзіць у выдавецтве «Гарадзенская бібліятэка». Гэты твор — з гарадзенскага архіва пісьменніка, які захоўваецца ў яго малодшага сына Васіля Васільевіча Быкава.

Аповесць «Атака» — машынапіс памерам у 64 аркушы са значнымі праўкамі сінім чарнілам двух адценняў, а таксама простым, карычневым і чырвоным алоўкамі. На першым аркушы ўверсе рукой Быкава пазначана назва — «Атака», ніжэй заўвага да назвы: «або якое сімвалічнае з канцоўкі» (такім чынам, можна меркаваць, што аўтар не выключаў змены назвы).

Аповесць можа быць напісана ў 1961—1962 гг., ва ўсялякім выпадку, не раней 1961-га — на гэта ўказваюць некалькі афіцыйных бланкаў газеты «Гродненская правда», якія былі выпушчаны 4 лютага 1960 г. і на адвароце якіх надрукаваны

асобныя старонкі аповесці. Да таго ж, на адвароце аднаго з аркушаў з заўвагамі да аповесці — машынапісная копія старонкі з аповесці «Трэцяя ракета», створанай, як вядома, у 1961 г. На карысць жа таго, што твор мог быць напісаны не пазней 1963 г., сведчаць ужо наступныя акалічнасці. Па-першае, размова ідзе, безумоўна, пра самую раннюю рэдакцыю аповесці «Праклятая вышыня», якая карэнным чынам адрозніваецца ад дасюль вядомай рэдакцыі, — па сутнасці, з «Праклятай вышынёй» «Атаку» аб’ядноўвае адна толькі літаратурная ідэя. У сваю чаргу «Праклятая вышыня» датуецца лістападам 1967 г. Аднак «Атака» стваралася ўсё ж значна раней — нават яшчэ да 1964 г., калі Быкавым была распачата праца над аповесцю «Мёртвым не баліць». Да такой лагічнай высновы можна прыйсці хоць бы таму, што ў «Атацы» дзейнічаюць персанажы з прозвішчамі Васілевіч і Сахно. Больш за тое, як і ў «Мёртвым не баліць», Васілевіч і Сахно з’яўляюцца антыподамі: калі Васілевіча непакоіць захаванне жыцця падначаленых — у «Атацы» ён выступае супраць непадрыхтаванага наступлення, дык Сахно, які спачатку таксама не падтрымліваў думку пра чарговую атаку (ён кажа ў адрас камандзіра палка: «Чорт бы іх там саміх пабраў. Самі б сунуліся»), пасля нечаканага прызначэння на пасаду камандзіра батальёна кардынальна мяняе сваю пазіцыю: «Што ж, падумаеш, калі загадана. Трэба атакаваць. Вайна — не фунт ізюму». Больш за тое, у яго шмат агульнага з цёзкам по прозвішчу з «Мёртвым не баліць», да прыкладу, ён кажа: «Атака не захлібнецца. Накручу хваста ротным — будуць старацца. А то ліберальнічалі з імі». І пазней гаворыць Васілевічу: «...Вы ўсё імкнецеся па-добраму, усё каб лады. А гэтыя лады да ладу не прывядуць» (невыпадкова радыстка Люся робіць заўвагу Сахно: «А што ж, так як вы, з усімі мацюгом ды мацюгом! На мацюгах, як на біцюгах, — хочаце да Берліна даехаць?») Па сутнасці, тое ж самае кажа і своеасаблівы двайнік Сахно з «Мёртвым не баліць» — былы старшыня Ваеннага трыбунала Гарбацюк: «Ну, на вайне бязлітаснасць — не грэх... [...] На вайне — там быў парадак, дзе салдаты баяліся камандзіра болей, чым немца... [...] У такога камандзіра ўсё: і задача выканана, і грудзі ў ордэнах» . Такім чынам, відавочна, што камандзір батальёна Сахно з «Атакі» з’яўляецца своеасаблівым прататыпам асабіста Сахно ў «Мёртвым не баліць» з той толькі розніцай, што ў другой аповесці гэтаму персанажу аўтар надае больш увагі і тут яго характар больш распрацаваны (у «Атацы» Сахно з’яўляецца ўсё-ткі эпізадычным персанажам — ён дзейнічае толькі ў адным раздзеле, у «Мёртвым не баліць» лінія Сахно праведзена пісьменнікам праз увесь твор). Дый сам Быкаў, распавядаючы пра гісторыю стварэння «Мёртвым не баліць», сведчыў: «“Мертвым не больно” была задумана автором в начале 60-х годов, однако ее осуществление отодвинулось на несколько лет ради других, как казалось, более привлекательных сюжетов. К тому же казалось, что время, вполне благоприятствующее для ее появления, всё не наступало, мера правда жизни, позволительная для литературы, была всё же не адекватной масштабу замысла». Па-другое, менавіта такім сінім чарнілам (калі дакладней, дык пяром, а не шарыкавай асадкай), якім зроблены праўкі ў машынапісе «Атакі», Быкаў карыстаўся толькі на самым пачатку 1960-х гг. З прычыны ўсіх названых акалічнасцей для нас з’яўляецца ўсё-такі відавочным, што «Атака» была створана недзе ў гэты час — 1961—1962 гг.

Застаецца дадаць, што сам Быкаў ніколі публічна не прыгадваў той факт, што некалі напісаў «Атаку». Гэтая аповесць, як і практычна ўсе творы, якія цяпер сабраны пад вокладкай «Гарадзенскага архіва», па сутнасці ёсць адкрыццё невядомага Васіля Быкава, які менавіта падчас жыцця ў Гродне і рабіў першыя крокі ў літаратуры. І хоць «Атаку» да бездакорных твораў пісьменніка ўсё ж не аднясеш (невыпадкова ў ёй яшчэ даволі прыкметаў не

белавой — чарнавой працы), але калі паглядзець на шлях Васіля Быкава з вышыні сённяшняга часу, дык здзіўляе ў першую чаргу тое, як шпарка ішоў ён у вялікую літаратуру: здаецца, вось толькі-толькі шукаў свае тэмы і свой уласны стыль, і раптам на працягу ўсяго аднаго дзесяцігоддзя, у Гародні, ім былі створаны аповесці «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост», «Сотнікаў» нарэшце — творы, якія і прынеслі Васілю Быкаву сусветную вядомасць. Сам ён прыгадваў на схіле гадоў: «Пазьней, калі ўжо стаў аўтарам кніжак, у мяне пыталіся: як і чаму сталася тое? Што хацеў сказаць чалавецтву, якой ісьціне яго навучыць? Мабыць — ніякіх ісьцін; адразу адчуў, што па натуры я не прапаведнік. Тады для мяне важна было намацаць свой шлях у жыцьці, неяк вызначыцца. Мне ішоў 32-гі год, а ў галоўных адносінах — пошуках свайго месца сярод людзей — я быў пачаткоўцам» . І вось «Атака» і з'яўляецца, на нашу думку, адной з тых самых спроб намацаць свой шлях у літаратуры. Можа быць, паўторымся, не самай удалай спробай, але без яе не магло быць далейшага руху наперад. «Атака» — гэта таксама літаратурны шлях Васіля Быкава.

**Сяргей ШАПРАН.**

# Атака

*Былым франтавікам — байцам і камандзірам стралковых батальёнаў, чые звычайныя чалавечыя плечы, хістаючыся, гнучыся і выпрамляючыся, вынеслі на сабе найбольшы цяжар вялікай вайны.*

**1.**

Атака не ўдалася.

Зблытаўшы парадзелы ротны ланцуг і парушыўшы ўсякі вайсковы парадак, пакідаючы забітых і параненых, яны беглі, падалі, уставалі і зноў беглі, стараючыся як найхутчэй пераадолець пякельную хмызняковую балацявіну, дзе лютавала смерць. У спіны ім з-пад хат маленькай лесавой вёсачкі разгоністымі гарачымі чэргамі білі нямецкія кулямёты; угары, у звечарэлым небе, скуголіла, гуло і выло ад цяжкіх фугасных мін, якія, абрыньваючы на балацявіну лютасць выбухаў, шалёна карчавалі чорнае куп'ё хмызняку, выварочвалі са дна гразкія, з травой глыбы падталага сакавіцкага лёду, ушчэнт секлі і размяталі ўбакі голае яшчэ суччa вольх і лазы.

Сяржант Жаркоў шыбаваў ззаду за ўсімі.

Прыпаўшы ад натугі ледзь не да самага шурпатага рудога лёду, які, не перастаючы, гуў, дрыжэў і дзівоснымі пісягамі трэскаўся ва ўсіх кірунках, Жаркоў з усяе сілы валок за сабой танкастволы станкач «гарунова». З самага пачатку гэтага адступлення сяржант прамарудзіў крыху і цяпер адстаў ад усіх, ледзьве паспяваючы ўхіляцца ад шалёных чэрг, што несліся паўз яго галаву. А тут яшчэ ўтрая пацяжэлы кулямёт, як на зло ў такія хвіліны, раз-пораз чапляўся за ўмерзлыя ў балота патарчакі, хамлакі ссохлай леташняй травы, цяжка перавальваўся цераз кавалкі параскіданага лёду і грукаў коламі.

Сяржант ужо добра зашыўся ў хмызняк, як раптам пакаўзнуўся і, не ўстояўшы, ніцма распластаўся ў доле. Гэта незнарок уратавала хлопца, бо ў той жа момант з варожага боку імгненна пырснула да яго трасіруючая

чарга — відаць, немец заклаў новую, нарыхтаваную на ноч стужку. «Чап-чап-чап», — белыя плямы-шчарбінкі сыпанулі на лёд між кустоў. Жаркоў спазнела тузануў пад сябе выцягненыя ногі, чарга матлянулася далей і вышэй у хмызняк, туды, дзе са скрынкамі ў абедзвюх руках, азіраючыся, бег яго памагаты Тарасікаў. Жаркоў схамянуўся і крыкнуў, каб ўратаваць непрактыкаванага яшчэ салдата:

— Лажысь!!!

Распластаны ля кулямёта, ён на некалькі секунд змярцвеў, гледзячы, як Тарасікаў спалохана і няспрытна пляцнуўся за камляватай альхою. Адна яго скрынка са стужкамі, круцячыся па лёдзе, паляцела ўбок. Адразу ж там сцебанула чарга, але хлопец, відаць, уцалеў, — трапятнуўшыся з-пад куль, ён ухапіў сваю ношу. Жаркоў з палёгкай ускочыў і, учапіўшыся ў яшчэ болей пацежалелы за якую хвіліну хобат, паглядзеў назад.

Вячэрнія прыцемкі абкладвалі дол. Ускраіна той невялічкай вёсачкі, якую яны няўдала атакавалі паўгадзіны назад, грымела, бліскала і зіхацела агнём стрэлаў і зыркіх разнаколерных трас. «Ках!.. Ках!.. Ках!..» — коратка і паспешна білі аднекуль нямецкія мінамёты, і паднябессе не сціхала ад скыгатаў мін. «Піў... Піў... Піў-у-у-у-у... — Трах! Трах! Трах!» — візжэла ўгары і ірвалі балацявіну выбухі недзе блізка каля таго месца, дзе бег Тарасікаў, пырснула ў неба фантанам чорнае гразі, патокі каламутнай вады пляснулі на кустоўе, сыпанула асколкамі і ледзяным градам. Не паспела яшчэ ўсё гэта з працяглым шорхатам абрынуцца долу, як у паветры, хутка нарастаючы, завізжэла зноў.

— Тр-рах! Тр-рах! Тр-рах!

Жаркоў зноў упаў, ледзь не адначасна ў яго твар ударыла тугой гарачаю хваляй і ледзяным крошывам, кавалкі лёду імпэтна ляснулі па кулямётным шчыце, пад ногі пляснула лужынай мутнай вады. «Падаб'юць усю роту!» — ударыла ў голаў жахлівая думка. Не выціраючы мокрага твару, Жаркоў кінуўся ўбок, каб не трапіць у калдобіну; непадалёк у лазовым хмызняку нехта голасна лаяўся — здалося, іх салдат Няроўны — наперадзе з купістага долу вытыркалася згорбленая, у шынялі спіна, яна няспрытна неяк памкнулася ўзняцца, але раптам бяссільна асела і знікла.

— Не спыняйсь! Бягом! Бягом! — пракрычаў Жаркоў, кідаючыся праз хмызняк. Зноў у гэтае месца скіравалі ззаду два ці тры мільготкіх трасіруючых струмені, і ў хмызняковым галлі замільгалі-запляскалі сінія агеньчыкі. «Разрыўнымі б'юць, гады!» — падумаў Жаркоў, азірнуўся і ўпаў ля кулямёта. Прывычнымі бяздумнымі рухамі сяржант хуценька адкінуў з-за шчыта канец недастрэленай стужкі, прадзетай у прыёмнік, шчоўкнуў прыцэлам і хапіўся за рукаяткі.

Праз хмызняковае голле ён хуценька азірнуў усе бліскаўкі ў вёсцы і, здаецца, вызначыў пэўнае месца. Трасіруючыя разрыўныя чэргі несліся з-пад крайняй прынізістай будыніны, здаецца, той пунькі, ад якой гэтак знянацку ўдарыў ва ўпор па іх ланцугу нямецкі кулямёт. Тады ўзмежак ўратаваў Жаркова ад пагібелі, але ён жа і не даў яму расправіцца з кулямётчыкам. Цяпер хлопец поціскам вялікіх пальцаў з помслівай злосцю адмераў дзве кароткія па пяць куль чаргі. «На! На! Ага, падавіўся!» Невядома, надоўга ці не, але кулямёт сціх, а сяржант, ухапіўшы хобат, кінуўся за сваімі.

Яны ўжо дабраліся да сярэдзіны балацявіны. Вячэрнія прыцемкі і хмызнякі як-колечы прыкрылі іх ад прыцэльнага агню, і тады між грукатаў і візгу імкліва вынырнула з вёскі ракета. «Лажысь!» — усім, хто мог чуць яго, крыкнуў Жаркоў і сам стуліўся пад лазовым кустом. Ракета, дымна-агністым следам прарэзаўшы яшчэ святлявае неба, абліла балацявіну яркім дрыготкім святлом, шыпучы і траскочучы, апісала дугу і скіравала ў хмызняк. Стала вельмі відна, на разбітым мінамі доле закруцілася, замільгала дзівосная блытаніна стракатых ценяў. Жаркоў крутнуўся, агледзеўся — у яе пранізлівым святле зводдаль не бачна было нічога, толькі побач, на другі бок куста, невядома адкуль узяўшыся, ляжала нечая постаць у перакручанай на галаве вушанцы. Не паспеўшы патухнуць у паветры, ракета ўдарылася аб лёд, падскочыла і, пырскаючы, хутка згарэла. Рэшткі яе святла крывавай чырванню адбіліся ў раскрытых вачах байца, распластанага на лёдзе, Жаркоў пазнаў яго і махнуў:

— Давай сюды!

Пасля ракеты стала зусім цёмна. Трасіруючыя чэргі адвярнулі ўбок, баец ускочыў і, прыгінаючыся, сігануў да сяржанта. Гэта быў Рыбчонак.

— Ротнага забіла! — сказаў ён нейкім незнаёмым Жаркову натужным крыклівым голасам. — Лейтэнанта забіла!..

— Так. Ціха, маўчы! — загадаў сяржант, адчуўшы, што ў гэтай іх бядзе вось сталася і горшае. — Памажы вось!

— Забіла! Як ударыла і ўсё! — голасна гаманіў салдат, азіраючыся наўкола. Сяржант падазрона паглядзеў на яго.

— Ты што, кантужаны?

Рыбчонак няўцямна цепнуў вачыма і махнуў на хмызняк.

— Лейтэнант? Там ляжыць.

Усё азіраючыся некуды ў хмызняк, баец ухапіў леваю рукой хобат, і яны ўдвох скоранька пабеглі, гулка загрукаўшы коламі.

Хмызняк усё паласавалі чэргі, яшчэ ўспыхнула і згарэла ў небе ракета, за ёй узляцела другая, асвяціўшы ўгары дымную вяроўку — след першай. «Трах! Трах!» — грымелі ў балацявіне выбухі, але, здаецца, байцы ўжо адарваліся ад ворага і выходзілі з-пад яго агню. Ззаду пад звечарэлым небам тулілася ў змроку вёска, захінутая дубцаватым вяршаллем хмызняку.

Жаркоў з Рыбчонкам падкацілі кулямёт да грудка, які невысокай узаранай з восені выспай перамежваў гэтую балацявіну. Ля іх і ззаду ўжо нікога не чутна было, мабыць, яны засталіся апошнія. Лёд тут канчаўся, няроўнай паскай ля берагу датайвалі на сакавіцкім сонцы рэшткі бруднага снегу. Надвячоркам яго падкаляніў мароз, і цяпер ён суха хрумсцеў пад нагамі і пад кулямётнымі коламі, якія прарэзалі ўпоперак яго дзве вузкія каляіны.

— Ты што, бачыў тое? — крыкнуў Жаркоў у самае вуха салдата.

— Ну, — сказаў Рыбчонак, зірнуўшы ў абсіверчаны, яшчэ малады, але ўжо з адзнакамі нялёгка пражытага сяржантаў твар. — Асколкам. Як дало — і мазгі вон.

Яны перавалаклі кулямёт цераз снег, далей было ворыва, дзе-нідзе ў барознах цьмяна бялелі няроўныя плямы снегу. Кулямёты ў вёсцы змаўкалі, толькі раз за разам там узляталі ракеты. Шыпучы па-вужачаму, яны згаралі над хмызняком, і па падсветленаму схілу пагорка невядома ад чаго кідаліся ўбакі даўжэзныя мітуслівыя цені.

## 2.

Вывалакшы кулямёт на самы грудок, туды, адкуль яны пачыналі гэтую няўдалую атаку, і дзе ўжо можна было схавацца ад варожага агню, Жаркоў апусціў на дол хобат і хрыпата крыкнуў:

— Шостая рота, сюды!

Было ўжо цёмна. На захадзе, убаку ад балацявіны, ярка блішчэла на небе адзінокая зорка, ніжэй ад яе і збоч ціхенька запальвалася на ноч другая. Высокае пагоднае неба яшчэ свіцілася рэшткамі дзённага святла, а хмызняковая балацявіна ўжо зусім стулілася ў змроку. Заліты вадою і гразёй лёд страціў сваю цукрыстую, у рудых разводах белізну і ледзьве шарэў праз хмызняк.

Рыбчонак адразу выцягся ў доле і маўчаў, адсопваючыся, а Жаркоў нейкі час у знямозе сядзеў на грудку, чакаў сваіх і думаў.

Было відавочна, што рота разбіта дашчэнту. Ад тых дзевяноста чалавек, якія тыдзень назад пачыналі наступленне, уранку сёння заставалася дваццаць тры, а цяпер вось хоць бы сабраць палавіну іх. Пэўна, што наступленне выдыхалася, нямецкія сілы пабольшалі, артылерыя паадставала, у мінамётчыкаў не хапала мін. З наскоку цяпер не дужа што возьмеш, тое даказвала апошняя гэта атака. А тут яшчэ пагінулі камандзіры, напаткала вось смерць і лейтэнанта і, відаць, прыйдзецца пакуль камандаваць яму — апошняму сяржанту ў роце.

Першы з недалёкага хмызняку на грудок вылез Тарасікаў. Жаркоў здалёк яшчэ пазнаў свайго памагатага па кашлі, які не пакідаў байца з самай зімы. Кавылястай хадой слабасільнага падлетка ён прышкандыбаў да камандзіра, усё кашляючы, паставіў ля кулямёта скрынкі з патроннымі стужкамі і пачаў знімаць з-за спіны вінтоўку. Полы яго шыняля, грудзі і рукавы, як і ва ўсіх, былі чорныя ад вады і гразі.

Прыпаўшы да падмерзлай раллі, нейкі час усе трое цяжка натужна дыхалі і маўчалі, не ў стане пераадолець знямогі і роспачы. З вёскі зноў успырхнулі ў неба дзве ракеты запар — агністыя вужакі іх святла адбіліся ў хмызняку на лёдзе. Хлопцы прыгнуліся, прыпалі да самай раллі — у маладых, шырока расплюшчаных вачах Тарасікава ўзгарэўся і прапаў затоены пакутны страх.

— Ну, нічога, — сказаў Жаркоў, каб як-небудзь прыбадзёрыць людзей. Але падбадзёрыць, абнадзеіць не было чым: дужа ўжо мала засталося іх, а баявая задача так і не была выканана.

Знізу на пагорак шкандыбаў яшчэ нехта, адчувалася ў цемры, што ён паранены, і відаць было, як кульгаў, абапіраючыся на вінтоўку. Калі ён падышоў бліжай, Жаркоў пазнаў салдата з трэцяга батальёна, што ўчора прыбіўся да іх. Цяпер ён моўчкі прыплёўся да хлопцаў, з роспачнай самотай вылаяўся і лёг побач на дол, выставіўшы ў неба абматаную бінтамі босую нагу. Неўзабаве аднекуль збоку прыплёўся Гушчын, стары рыжавусы салдат з зямлістым тварам і вельмі невыразным глухім голасам. За гэты голас яго некалі на фарміроўцы празвалі Магілай. Таго, хто даў яму гэта недарэчнае прозвішча, даўно ўжо не было на свеце, а Гушчын усё быў жывы і не дужа, здаецца, і крыўдаваў, калі яго так клікалі. Ён нетаропка прывалюхаў да сяржанта, абаперся на вінтоўку і цяжка апусціўся на дол.

— Ну от даканалі... Ах ты гора горкае!.. Без артылерыі яно вядома — пяхота-матухна...

Ніхто нічога не сказаў яму, не запярэчыў і не пагадзіўся — усе былі падкошаны стомай, няўдачай і маўчалі. Жаркоў яшчэ пачакаў, паўзіраўся ў змрок. «Няўжо ўсе?» — з болем падумаў сяржант і ўсё ж не пераставаў чакаць. І праўда, хутка цераз снегавую паску ўнізе мільганула адзінокая постаць і неяк знедужэла пачала лезці ўгору.

— Сюды, давай! Сюды!

Чалавек збочыў на голас і неўзабаве падышоў да байцоў. Гэта быў вялізны мядзведзяваты Няроўны, ён некага валок на сабе. Калі ён наблізіўся, Тарасікаў узняўся яму насустрач і рупна падхапіў яго ношу. Удвох яны паклалі чалавека на падмерзлыя глыжы ў баразне.

— Вось, прынёс, — зморана сказаў Няроўны. — Пахаваць трэба...

Гэта быў лейтэнант Патапенка — камандзір іх роты. Раскінуўшы полы паўшубка, гэты некалі крыклівы нахрапісты афіцэр, цяпер абыякавы да ўсяго, ціха ляжаў у разоры. Усе, хто тут быў, прыўсталі з долу, паглядзелі на непрывычна сцішанага камандзіра, уздыхнулі, але ніхто не сказаў нічога. Адзін толькі Гушчын прастадушна закрэхтаў і, месцячыся за сяржантавай спіной, пачаў ладзіць закурку. Ён згарнуў цыгарку, дастаў з-за пазухі красала, трут і заляскаў у цемры. Некалькі слабых сініх іскрынак-зорачак зляцела з яго пальцаў. Яны, вядома, былі вельмі слабыя, каб іх убачылі ворагі, але раздражнёных панылых байцоў палохала і тое.

— Кінь іскрыць, Магіла дурная! — надтрэснутым голасам закрычаў Рыбчонак. — Усадзяць міну, тады накурышся!

— Пацярпець нельга ці што! Курэц! — азваўся паранены ў нагу.

— Ого закрычалі! — глуха здзівіўся Гушчын. — На галасы немец яшчэ лепей пацэліць. Чакай.

Жаркоў сцішана прыкрыкнуў на ўсіх:

— Ціха! Годзе вам! Давай акапвацца! Стой, здаецца, яшчэ нехта ідзе.

З тылу і трохі збоку, тупаючы па цвёрдай раллі, ішоў да іх чалавек. Неўзабаве ён наблізіўся, угледзеўся і гукнуў:

— Якая рота?

— А табе якую трэба? — запытаў Жаркоў.

— Шостая.

— Папаў, — сказаў і закашляўся Гушчын. У яго рукаве ўсё ж тлела цыгарка.

— Камандзіра к камбату, — загадаў баец.

— Ге, спазніўся, браток, — уставіў з долу Гушчын. — У балацявінку б прыбег.

Пасыльны няўцямна змоўк, падышоў бліжай, але, убачыўшы ў доле знаёмы сілуэт афіцэра ў паўшубку, зразумеў і на момант спыніўся, як укопаны.

— Ладна, — сказаў Жаркоў. — Я пайду. А вы тут акопвацца. І не лаяцца: немцы пад носам.

Яны ўдвох пайшлі ў той бок, адкуль з'явіўся пасыльны. Пасыльны (то быў ардынарац замкамбата Сахно) сігаў хутка і маўкліва, нічога не казаў і не пытаўся ў сяржанта — як і належала салдату, які прывык быць ля начальства і думаць, што ўсё цікавае і значнае адбываецца толькі там.

Ён вёў доўга. Праз якіх дзвесце метраў ад раллі, сярод рэдкіх маладых елачак на імшарыне пачуліся галасы. Неўзабаве абодва яны прыпыніліся каля вялізнай, пэўна, ад бомбы, варонкі, на дне якой матава паблісквала льдзіна, на ёй, прысеўшы ля свайго начыння, настройвала рацыю Люся. (Мала хто ў батальёне ведаў прозвішча гэтай дзяўчыны, якая дагэтуль служыла ў роце сувязі, а месяц назад, перад лютаўскім наступленнем была пераведзена з рацыяй у гэты батальён.) Камандзір батальёна капітан Васілевіч і яго намеснік па страявой капітан Сахно сядзелі вышэй, паставіўшы ногі ў варонку, і чакалі, калі будзе наладжана сувязь.

Рацыя папісквала ўжо і міргала вочкам індыкатара, а Люся, пакручваючы рэгулятар настройкі, прывычнай скарагаворкай сыпала:

— Мята, Мята, я Ландыш. Як чутна? Даю настройку, даю настройку: адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць. Дзесяць, дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін. Як чутна, я Ландыш, прыём.

— Таварыш капітан, прывёў, — ціха, каб не перашкодзіць радыстцы, сказаў пасыльны. Камбат павярнуўся на голас, тугія рамяні на яго паўшубку ціха рыпнулі і, пад ногі Жаркову слабаю плямкай бліснуў ліхтарык.

— Хто гэта?

— Сяржант Жаркоў, таварыш капітан, — сказаў Жаркоў. — Лейтэнант Патапенка забіты.

Настала кароткая паўза, камбат выключыў ліхтарык, капітан Сахно вылаяўся, не зважаючы на радыстку, і сігануў да рацыі. За грудком над вёскай зноў запалілася ракета, і на небасхіле задрыжэлі хвалі святла. На кароткі час яе мільготкае далёкае святло паблукала на заклапочаных тварах людзей, цьмяным блікам адбілася ў новай блішчастай касцы Сахно і знікла за пагоркам.

— Так, Жаркоў, — памаўчаўшы, сказаў Васілевіч. — Колькі ў вас асталося?

— Шэсць чалавек, таварыш капітан. Адзін паранены. У нагу. Адпраўляць трэба. І кулямёт адзін толькі. Другі яшчэ ўранку бомбай разбіла.

— Так... — няпэўна прамовіў камбат, услухоўваючыся таксама і ў Люсін голас ля рацыі.

— Я Ландыш, я Ландыш, — хуценька гаварыла ў трубку Люся. — Будзе гаварыць дваццаць другі, паклічце дваццатага, паклічце дваццатага. Я Ландыш, прыём.

Камбат, пакінуўшы Жаркова, торапка ссунуўся на дно варонкі, паспешна пераняў з Люсіных рук трубку і пачакаў. Жаркоў прысеў побач з салдатам і глядзеў на начальства, адчуваючы, што неўзабаве будзе штосьці важнае.

— Таварыш дваццаты, таварыш дваццаты... Дакладвае дваццаць другі Ландыша. Спроба не ўдалася. У Патапенкі вялікія страты. Сам Патапенка забіты. Лукін і Шчасны адышлі. Сустрэў арганізаванае супраціўленне. Прашу сродкаў узмацнення. Сам падавіць не магу. Як зразумелі? Прыём.

Трубка шчоўкнула, камбат слухаў, усе ў яміне застылі ў змроку і не адрывалі поглядаў ад святлявага акенца ў рацыі. У цьмяных водбліскаў гэтага святла было відаць, як зацяўся, нахмурыўся паголены камбатаў твар, цвёрды яго падбародак туга ўпёрся ў касматы каўнер паўшубка. Трубка

шархацела далёкім голасам камандзіра палка, і на ёй нервова пацёпваў мезены палец камбата.

— Таварыш дваццаты, я не магу... Не маю чым. У Патапенкі пяцёра... У астатніх таксама. На ўскраіне аб’екта буйнакаліберны кулямёт, пяхота. За вёскай мінамётная батарэя. У мяне па дзесяць агуркоў на ствол. Прашу дапамогі, прашу дапамогі. Прыём.

У варонцы насцярожыліся. І Люся, і Сахно, і салдат з Жарковым здагадаліся, што становішча батальёна не аблегчыцца. Відаць, камандзір палка меў нейкае сваё меркаванне, упарціўся і не хацеў зважаць на довады камандзіра батальёна.

Урэшце капітан Васілевіч адарваў трубку ад вуха, чамусьці паглядзеў на яе, яшчэ торкнуў да скроні і размашыста ляпнуў аб скрынку рацыі.

— Што ён сказаў? — запытаў Сахно, шорхаючы сваёй плашч-палаткай, накінутай на шынель. Камбат узняў заклапочаны твар.

— Загадаў паўтарыць атаку і ўзяць Ручайкі.

Стала вельмі ціха, Сахно, быццам не верачы, цяжка і нерухома паўзіраўся ў камбата, пасля ўстаў і заварушыўся пад плашч-палаткай.

— Чорт бы іх там саміх пабраў, — выпаліў ён і вылаяўся. — Самі б сунуліся.

Камбат з хвіліну нешта абдумваў, укленчыўшы на адно калена ля рацыі. Люся падкручвала рэгулятар настройкі і трымала рацыю на прыёме. У начной цемрадзі за ельнікам пыхнула раз і другі мільготкае палахлівае зарыва. «Ках, ках», — даляцелі стрэлы і ўгары цераз балацявіну зноў завізжэлі міны. «Трах! Трах!» — ірванула неўзабаве ў хмызняковай цемры, але ў варонцы адзін толькі ардынарац азірнуўся на выбухі.

— Пяць чалавек, кажаш, Жаркоў? — перапытаў капітан і паглядзеў знізу ўгару на сяржанта.

— Ну, — ваўкавата выдавіў з сябе Жаркоў.

— Ну вось... Каго імі атакуеш, пяццю чалавекамі? — невядома ў каго запытаўся камбат. — Вось што... — надумаў ён урэшце нейкае рашэнне. — Дам вам чалавек дзесяць сувязістаў, абознікаў — што ёсць. Акапацца на вышыні і чакаць. Глядзі, каб у фланг не зайшлі, бо тады ўсяму батальёну ліха будзе.

— Зразумела, — адказаў Жаркоў і ўстаў. У гэты час Люся загаманіла ў трубку і перадала яе капітану.

— Слухае дваццаць другі... Дваццаць другі слухае, прыём, — сказаў Васілевіч і шчоўкнуў пераключальнікам прыёму. З паўхвіліны ён слухаў, а пасля запальчыва і крыўдліва загаманіў:

— Таварыш дваццаты! Не магу! Чым жа я выканаю задачу? Без падрыхтоўкі не магу! Дайце час! Прыём.

Ён трохі паслухаў, а пасля з нейкай зацятай рашучасцю выпаліў у трубку:

— Зразумеў, зразумеў вас: адхілены ад камандавання. Перадаю трубку дваццаць трэцяму.

Сахно буркнуў нешта ад здзіўлення, скрывіў вусны, але хуценька перахапіў трубку і далажыў, што слухае. У варонцы замерлі, насцярожыліся. Люся прыўстала на каленях і, ссунуўшы пад самую шапку тоненькія светлыя броўкі, упілася позіркам у квадратны твар намесніка камандзіра

батальёна. Сахно тым часам дастаў з палявой сумкі карту, аднае рукой няспрытна разгарнуў яе і паўзіраўся ў аднае месца, трымаючы яе пад цьмяным святлом рацыі. Камбат устаў у рост і, відавочна нервуючыся, палез у кішэню за куравам.

Размова ў Сахно неўзабаве скончылася. Замкамбат далажыў, што зразумеў, кінуў: «Ёсць! Ёсць, таварыш дваццаты, ёсць» — і таксама ўстаў у варонцы, шоргаючы плашч-палаткай.

— Дакамандаваліся, — плюнуў убок камбат. — А ты што думаеш?

— Што ж падумаеш, калі загадана. Трэба атакаваць, — змрочна сказаў Сахно, зашпільваючы пад палаткай сумку. — Вайна не фунт ізюму.

— Цябе прызначыў?

— Так, — ваўкавата, без ранейшай шчырасці адказаў Сахно і гучным, сваім заўсягдашнім камандзірскім тонам аб'явіў у цемру:

— Падрыхтавацца да атакі. Ты, сяржант з шостай роты... як тваё прозвішча?

— Сяржант Жаркоў, — падказаў кулямётчык.

— Жаркоў? Камандую батальёнам я. Слухай задачу. Атрымаеш сувязістаў, яшчэ сапёраў дам, колькі будзе, ездавых, і атакуеш гэтыя праклятыя Ручайкі. Цераз балота. Чацвёртая і пятая роты — ад лесу. Сігнал атакі — чырвоная ракета. Гатоўнасць праз гадзіну. Зразумеў?

— Зразумеў, таварыш капітан.

— Шагам марш, — уладарна распарадзіўся новы камбат. — Цярэшкін, камандзіраў чацвёртай і пятай рот ка мне. Мінамётчыка таксама. Жыва!

## 3.

Застаўшыся ў варонцы ўтраіх, яны нейкі час нялёгка і насцярожана маўчалі. Люся выключыла рацыю і развінчвала антэну, Сахно моўчкі і зацята стаяў у дне на льдзіне, Васілевіч адышоўся ўбок і сеў на краі варонкі.

Наўкола ляжаў чорны начны абшар. У небе высыпалі зоркі, з-за зубчатых верхавін хвойнікаў вылезла на небасхіл сцёртая палавінка месяца. Падмарожвала. Над хмызняком за пагоркам, недзе далёка на фланзе, міргалі, затухалі і зноў міргалі нябачныя адсюль ракеты, і шырокія размашыстыя водсветы гулялі ў небе. З вёскі — тых самых злашчасных Ручайкоў, якія не мог узяць батальён, — выпырхнула ў неба чарада трасіруючых куль, данеслася прыглушанае «тр-р-р-р-р-р-р-р».

Капітаны, заціяўшыся адзін на аднаго, маўчалі. Нешта раптоўна і нечакана здарылася між імі — нядаўнім камбатам і ягоным намеснікам, — яно нябачнаю сілай адразу раз'яднала гэтых нядаўна яшчэ, здавалася, блізкіх людзей. Недамоўленае і, можа, недадуманае тое адчувалі абое, але яны па-рознаму адносіліся да яго і таму маўчалі. Капітан Васілевіч, трохі пакрыўджаны і збянтэжаны тым, што адбылося, не ведаў, як лепей паставіцца да Сахно, каб выклікаць яго шчырасць, без якой яны ніколі б не маглі дамовіцца.

— Слухай, ты не спяшайся, — знарок супакоена сказаў Васілевіч. — Пад ранак, можа, артылерыя падыдзе, тады лягчэй будзе.

— А загад? — зашархатаў палаткай Сахно. — Загадана ж да ранка ўзяць.

— І думаеш возьмеш?

Сахно незадаволена патупаў на месцы, паварушыўся і, не адказаўшы, сеў на схіле варонкі па другі бок ад Васілевіча. Былы камбат з нейкім здзіўленнем паглядзеў у змроку на яго. Здалося капітану, што ягоны нядаўні намеснік неяк наўмысна адасобліваўся ад яго, замыкаўся і нешта таіў у сабе ад усіх. Такая няшчырасць не сказаць, каб была нечаканай у гэтым чалавеку (Васілевіч і раней прыкмячаў нешта затоена-уласнае ў Сахно, у стаўленні яго да іншых людзей — і падначаленых, і начальнікаў), але пакуль Васілевіч быў камандзірам батальёна, а ён — ягоным падначаленым, здавалася, усё між імі было добра. Праўда, цяпер вось становішча змянілася, мусіць, з ім змяніліся і іх узаемаадносіны. «Ось ты які!» — падумаў пры сабе капітан. Але тая новая рыса ў характары Сахно болей здзіўляла, чым непакоіла Васілевіча. Куды болей важна было, як дамагчыся, каб не трапіць з батальёнам у яшчэ горшую бяду з гэтай скараспешнай атакай.

— Слухай, звяжыся яшчэ раз і растлумач яму, — настойваў Васілевіч, маючы на ўвазе камандзіра палка. — Інакш загубіце батальён.

Люся, учуўшы гэта, перастала збіраць сваё начынне і запытальна зірнула на Васілевіча.

— Дык што, выклікаць?

— Няма чаго выклікаць! — з прыкрасцю азваўся Сахно, даючы тым зразумець радыстцы, што гаспадар рацыі ўжо ён, а не Васілевіч. — Прасіць яшчэ, угаворваць... Не дзеўкі! Загадана — атакуем.

Ён нервова ўскочыў і зноў затупаў ботамі ў дне варонкі. Люся ж яшчэ перапытала Васілевіча:

— Уключыць, таварыш камбат?

— Я ўжо не камбат, — сумна ўсміхнуўся ў цемры капітан. — Пытайце вун капітана Сахно.

— Згортвайце рацыю, малодшы сяржант! — афіцыйна загадаў Сахно. Люся без асаблівай увагі на яго словы, сваім чынам, не спяшаючыся, пачала збіраць антэну, шнуры, упакавала скрынку і паставіла яе на край ільдзіны, а сама скорчылася побач, наставіўшы каўнер кажушка і зябка захінуўшы калені.

Капітан Васілевіч кусаў у цемрадзі вусны і думаў, што калі ён не прадпрыме нечага найважнейшага, то быць заўтра самаму благому, што можа здарыцца на вайне — іх напаткае разгром. Немцы паспелі ўжо арганізаваць супраціўленне, батальён выдыхся за тыдзень наступлення па гразі і балотах, тылы адсталі, артылерыя таксама, — вядома, што сходу арганізаванай абароны ім не прабіць, тым больш, што і прабіваць ужо няма чым. Ён думаў, што калі б спакойна давесці ўсё гэта да камандзіра палка і прымусіць яго ўнікнуць у становішча батальёна, ён бы зразумеў і да часу адмяніў бы атаку. Камандзір палка быў упарты і наравісты чалавек, ззаду яму ўсё здавалася, што батальёнам не хапае ініцыятывы, што камандзіраў трэба прымушаць, прыкрыкваць на іх і што, калі добра паднаціснуць, дык можна дабіцца ўсяго, што трэба. Тое, што ён адхіліў Васілевіча ад камандавання, не вельмі турбавала камбата, ён ведаў, што камандзір дывізіі не пагодзіцца на тое, ды і сам камандзір палка адумаецца і праз які дзень-другі зноў верне да яго ўладу. Так ужо было не адзін раз і не толькі з ім.

Капітан Васілевіч другі год ваяваў у гэтым палку і перажыў чатырох, розных па характары, яго камандзіраў. Некалі з паўгода ён быў камандзірам шостае роты, той самай роты, рэшткамі якой камандуе цяпер сяржант Жаркоў, пасля стаў камандзірам батальёна. Ён ведаў тут характары ўсіх афіцэраў і ўсіх старых салдат і сяржантаў, якіх, як умеў, вучыў і выхоўваў, і якіх хутка і няўхільна менела за час наступлення. Батальён быў нядрэнны, ротныя падабраліся ўсе смелыя дзелавітыя хлопцы, Васілевіч хоць і не на шмат апярэдзіў іх па гадах, але быў ім за старэйшага ў добрым сэнсе, яго паважалі і яму верылі, а ён давяраў. І цяпер вось камбат вельмі непакоіўся, што ад былога складу і ад былых добрых традыцый, аснаваных на ўзаемаразуменні і вайсковым узаемападначаленні, хутка нічога не застанецца. Сённяшняя атака пераканала яго, што няўдалае яе паўтарэнне прывядзе да пагібелі ўсяго батальёна. Вядома, нумар застанецца, прыйдуць і людзі — і камандзіры, і салдаты, батальён адновіцца, але калі ён, капітан Васілевіч уцалее, дык гэта ўжо будзе чужы, не яго, а іншы батальён. Таго ж, які ён скалочваў, як кажуць у войску, і палюбіў за стойкасць пад Ржэвам і ўпарты гераізм пад Дзямянскам, — таго ўжо не будзе ніколі.

Яшчэ Васілевіч быў упэўнены, што калі б Сахно дзейнічаў, як і ён, і праявіў бы настойлівасць у адносінах да камандзіра палка, дык той бы ўрэшце ўступіў. Але Сахно неяк дзіўна і раптоўна перамяніўся, заўпарціўся, відаць, нейкія іншыя, не зразумелыя Васілевічу намеры з'явіліся ў галаве яго былога намесніка.

Над хмызняком зноў пыхнуў шырокі водсвет, раздалася «ках-ках» і адначасна завізжэла ўгары. Васілевіч толькo паспеў прыжмурыць вочы, як непадалёк грымнула раз і другі. Цвёрдая змёрзлая зямля здрыганулася, і пагадзя некалькі асколкаў пляцнуліся ў траву непадалёк ад варонкі. Тым часам у небе зноў пыхнула і зноў завірашчэла ўгары. Васілевіч стрывожана паглядзеў у бок вёскі, Сахно неахвотна прысеў у варонцы. Адна Люся не кранулася з месца.

У гэты раз выбухі ірванулі ў тым месцы, дзе збіралася шостая рота.

— Каб не накрылі хоць, — заклапочана сказаў Васілевіч, услухоўваючыся ў ноч. — Заўважылі, мабыць. Яно і канешне: без камандзіра...

Але некалькі хвілін было ціха, пэўна, немцы проста трывожылі агнём. Тады Васілевіч, ачнуўшыся ад сваіх думак-клопатаў, устаў, ускочыў у варонку і стаў побач з Сахно.

— Слухай, Сахно! Ты разумееш, што будзе заўтра, калі атака зноў праваліцца? Батальён прабегае ноч і, вядома, не акапаецца? А калі заўтра контратака?

Аднак на Сахно і гэта не падзейнічала, ён бокам павярнуўся да свайго былога начальніка і з хвіліну маўчаў.

— Атака не захлібнецца, — пасля не дужа ўпэўнена аб'явіў ён. — Накручу хваста ротным — будуць старацца. А то ліберальнічалі з імі.

— Хто гэта ліберальнічаў?

— Дык было, — ухіліўся ад адказу капітан. Васілевіч нахмурыўся і засунуў рукі ў кішэні.

— Ты што маеш на ўвазе?

— А тое, што вы ўсё імкнецеся па-добраму, усё каб лады. А гэтыя лады да ладу не прывядуць. Ось што!

Люся, якая, здавалася, драмала дагэтуль, абыякавая да ўсяго, раптам ускочыла ад свае рацыі.

— А што ж, так як вы з усімі мацюгом ды мацюгом! На мацюгах, як на біцюгах, хочаце да Берліна даехаць?

Сахно павярнуўся і здзіўлена паглядзеў на яе.

— А ў вас хто пытае, малодшы сяржант?

— Камбат мае рацыю, — кінула Люся. — А вы не дужа зарывайцеся, хоць і да батальёна дарваліся.

— Маўчаць! — прыкрыкнуў Сахно. — Я вас умомант выганю адсюль. Ураз у штаб палка пойдзеце!

— Хоць зараз! — выпаліла Люся.

— Люся, маўчыце, — строга сказаў Васілевіч і пасля паўзы холадна вытлумачыў Сахно:

— Вось што, капітан Сахно! Майце на ўвазе, калі вы загубіце батальён, ні намеснікам, ні камбатам вам болей не быць. Камандзір палка вас сам пад трыбунал аддасць.

Сахно крутнуўся да Васілевіча, але не паспеў адказаць — зусім побач пачуліся крокі і ў цемры паказаліся чорныя постаці камандзіраў рот. Звяртаючыся да Васілевіча, яны паціху далажылі аб прыходзе, але былы камбат ад узрушання і нечаканае злосці на ўпартую дурасць Сахно не слухаў таго. Толькі зразумеўшы, што афіцэры звяртаюцца да яго, ён раптам упалым голасам кінуў:

— Дакладвайце капітану Сахно. Ён камандуе батальёнам.

Пасля Васілевіч вылез з варонкі, адышоўся на тры крокі, каб не замінаць людзям, якім ён быў ужо не патрэбны, і апусціўся на калючую ад марозу леташнюю свінуху.

## 4.

Жаркоў бег у сваю роту.

Сяржант раз-пораз чапляўся за хмыззё ў доле, спатыкаўся — ён вельмі спяшаўся, бо спраў было шмат, а часу да новай атакі заставалася не так ужо і многа. Спачатку ўсё тое, што ён пачуў на КП, непрыемна ўразіла яго. Наступленне, яно само сабою, але вось зняцце камбата і заступленне на яго месца Сахно не падабалася Жаркову. Сахно лічылі ў батальёне крыкуном, гарлахватам, не дужа смелым і не дужа справядлівым камандзірам. Капітан жа Васілевіч здаваўся разумным і разважлівым, а галоўнае — справядлівым чалавекам, што болей за ўсё іншае паважаюць у камандзіры салдаты. Як там яно было на самай справе, сяржант пэўна не ведаў, але цяпер, пасля ўсіх гэтых навін, адчуваў, што наперадзе чакае яго дужа нялёгкае. Праўда, за многія месяцы вайны ён ужо прывык да самага благога, прызвычаіўся да дробных і вялікіх нягод і ведаў, што на фронце чаго добрага чакаць не выпадала.

Перш за ўсё яго запалоніў клопат, як усё тое наладзіць, як найлепш арганізаваць атаку, каб ашукаць немцаў, — цяпер жа пра гэта, апроч яго, у роце ўжо не было каму дбаць.

Неба хутка цямнела, усё болей высыпала зорак. Месяц, быццам спяшаючыся куды, імчаўся над лесам у адным кірунку з Жарковым; за

балацявінай скакалі па небе водсветы далёкіх і блізкіх ракет. Найгоршае ліха ў начной атацы, ведаў сяржант, былі тыя ракеты, ад іх не знайсці ніякага сховішча, яны ўсюды свяцілі сваім прарэзлівым хімічным агнём, слепячы байцоў у кароткіх прамежках цемры. Але трэба было нешта прыдумаць, і Жаркоў, не разбіраючы пад сабой дарогі, сігаў упоперак баразён і думаў.

Да камандзірскіх клопатаў хлопец прывык даўно. Невядома ад каго, напэўна, ад маці ён з маленства пераняў у спадчыну неспакойны, клапатлівы, трывожна-турботны характар. Да ўсяго ён меў справу, аб усім непакоіўся, не зважаючы на тое, адказваў перад старэйшымі за гэтую справу ці не. Яшчэ бывала ў маленстве (ён быў родам з Сібіры) бацька з маці часта ўлетку выпраўляліся на некалькі дзён у тайгу, дзе пад хмарамі гнусу аралі, сеялі і збіралі свой ураджай за шмат вёрст ад вёскі, а на яго догляд аставалася ўся гаспадарка — і свінні, і каровы, і куры. Ён цэлыя тыдні і карміў іх, і даіў сам карову, і няньчыў малую Волечку. Часам даводзілася яму чуць, як хто-небудзь з суседзяў казаў бацьку: «Ну і дзяцюк у цябе, Трахім, — гаспадар! Не глядзі што малы — галавасты!» Бацька на тое няпэўна чмыхаў у бараду, аднак ніколі за жыццё не пахваліў сына. Ён быў суровы і марудлівы, як бярложны мядзведзь, і раскрываў рот толькі тады, калі трэба было каго ўшчуць. Але Колька Жаркоў любіў і такога бацьку і ніколі ў жыцці на яго не пакрыўдзіўся.

Тыя, прывітыя ў маленстве, гаспадарлівасць і дбайнасць засталіся ў яго назаўжды. Падросшы, ён скончыў сямігодку і паехаў у Ачынск у школу ФЗН вучыцца на цесляра. І там сярод гаманкой хлапечай грамады ён стаў самы адметны, самы турботны і дбайны, працаваў увішна, і яго паставілі старастам групы. Заўжды ён хадзіў членам усякіх камітэтаў, камісій, выпускаў сценгазеты, наладжваў работу ў гуртках самадзейнасці. Сябрамі яго былі ўсе хлопцы, ён не дзяліў іх на лепшых і горшых, адносіўся да ўсіх аднолькава, кожнаму гатовы быў памагчы і, калі трэба было, ад кожнага спадзяваўся атрымаць дапамогу.

Восенню сорак першага ён пайшоў у армію. У запасным тылавым палку, куды ён трапіў спачатку, хлопцу здалося, што ён не стрымае — так было трудна і складана. Вучыліся па дзесяць гадзін штодня, недасыпалі, галадалі, дапякалі нарады, начныя работы, але і тут Жаркоў быў лепшы за іншых, і праз некалькі месяцаў яму прысвоілі званне яфрэйтара. На фронт ён прыехаў ужо малодшым сяржантам, камандзірам кулямётнага аддзялення і ў першым жа баі замяніў забітага камандзіра ўзвода. Так узводным ён хадзіў доўга, аж пакуль не параніла, пад Дзямянскам атрымаў ордэн, перажыў два свае кулямёты, разбітыя мінамі. Цяпер вось давялося стаць ротным. Ён быў назіральны, удумлівы, нагледзеўся ўжо ў баях рознага і ведаў, што адною храбрасцю не шмат чаго адваюеш. Трэба было дбаць, абдумваць, у чымсьці ствараць перавагу над недурным, хітрым і лютым ворагам і выкарыстоўваць яе ў поўную меру.

Ён ужо падбягаў па раллі да свае роты, як у кустоўі наперадзе ўдарылі выбухі. У зямных нетрах крэкнула, бы рашчапілася вялізная рэпа, і ўгары пачулася знаёмае «фыр-фыр-фыр» — бы зляцела аднекуль чародка нябачных птушак. То падалі асколкі. Жаркоў занепакоіўся, як бы без яго не

сталася што кепскае з тымі рэшткамі, што асталіся ад роты, бо тады ўжо зусім не будзе з кім нават і распачаць атакі. Але выбухаў болей не было, і сяржант пакрысе супакоіўся.

Увесь час яго турбавала адчуванне няпэўнасці ад таго, як паставяцца яго змораныя байцы да новае весткі, што нёс ім сяржант ад камандзіра батальёна. Вядома, нікому яна, гэтая навіна, не здасца прыемнай, але калі ўзяць, напрыклад, яго, сяржанта Жаркова, дык ён нейкім чынам усё ж камандзір, разумее магутную сілу вайсковага «трэба» і падпарадкуецца ёй, а вось што скажуць салдаты? Тарасікаў, вядома, нічога не скажа, ён толькі апанурыцца, як заўжды перад боем; напэўна, уздыхне ды якою прымаўкаю памяне салдацкую долю стараваты Гушчын, а вось Рыбчонак, напэўна, не змоўчыць. І яшчэ немаведама, як паставіцца да новай атакі маўчун гэты — Няроўны? Ён нядаўна ў роце, характара нейкага дужа ўжо труднага, цвярдога, як умерзлая зямля, маўчыць, зрэдку толькі вылаецца — слова па шчырасці ад яго не дабіцца ніколі. Раней дык хоць упраўляўся з усім лейтэнант, ведама ж, афіцэр, а ці таксама паслухаюцца яго, сяржанта, як слухаліся раней ротнага-афіцэра? Тым больш, што гэткая цяжкая і небяспечная справа выпадала ўсім ім у гэтую ноч.

Здалося Жаркову, што рота павінна быць недзе тут блізка. Сяржант прыпыніўся на момант, услухаўся ў цемрадзь і недзе збоку пачуў рэдкія прыглушаныя галасы і тупанне рыдлёвак у зямлі. «Акопваюцца», — падумаў ён і збочыў у тое месца, дзе былі людзі.

Нешырока разышоўшыся па пагорку, яны дзяўблі кожны сабе маленькі акопчык крокаў праз пятнаццаць адзін ад аднаго. Бліжэйшым да сяржанта аказаўся Няроўны — вялікая, каржакаватая ў ватоўцы постаць таго няпэўна шавялілася сярод чорнае плямы накапанай зямлі. Пачуўшы Жаркова, ён на момант выпрастаўся, угледзеўся ў сяржанта, пазнаў і зноў сагнуўся ў яміну.

— Адставіць капаць! — сказаў у цемру Жаркоў. — Давай усе сюды.

Няроўны выпрастаўся ў неглыбокай, да калень, яміне, няўцямна пагледзеў на камандзіра, адклаў лапату і моўчкі вылез наверх. Пагадзя з цемры, валюхаючы, выйшаў Гушчын, за ім пачуўся кашаль Тарасікава, ён бег да камандзіра. Не было толькі Рыбчонка.

— Схадзі таго глушца артмайстра пакліч, — прасіпеў Гушчын Тарасікаву. — Не чуе ж.

Тарасікаў паслухмяна вярнуўся ў цемру, а Гушчын зняў з галавы каску, сеў на яе ля сяржантавых ног і пачаў аддзіраць паперку.

— Закапалі лейтэнанта, вечная яму памяць, — паведаміў ён, відаць, адчуваючы сябе тут быццам намеснікам камандзіра-сяржанта. — А той з нагой пайшоў у санчасць. Яшчэ двое — Бляк і Сухавееў — таксама выйшлі. Тожа параненыя, у Сухавеева рука разбіта. Пайшлі ў тыл.

Жаркоў ціхенька падавіў уздых і моўчкі пачакаў, пакуль у цемрадзі не завалюхалі дзве постаці.

— Ты чаго не паклікаў, Магіла? — без усякай асцярогі гучна загаманіў Рыбчонак. Жаркоў шыкнуў на яго.

— Не чуў я! — апраўдваючыся, зноў гэтак жа голасна і не ў лад сказаў Рыбчонак. — Аглушыла ў балоце.

— А ты і раней «дай» не дачуваў, толькі «на», — глуха зазначыў Гушчын.

Рыбчонак насцярожыўся, пэўна, нешта крыўднае пачулася яму, і хлопец зазлаваўся:

— Ты, Магіла, маўчы! Скажаш лепш, як цябе жонка бэхала, — баец развязна засмяяўся. — Пашкадаваў бабу, з дзецьмі ўзяў, а яна без жаласці. — І да Гушчына: — Эх, і даставалася табе, праўда? Добра, вайна пачалася, а то ўходала б!

Гушчын засоп і памарудзіў з адказам. Стары салдат, відаць, нахмурыўся за тое і рашыў за лепшае змоўчаць. Жаркоў адчуў, што размова пераступіла мяжу жартоўнага і сказаў:

— Кінь, Рыбчонак!

— Га?

— Хопіць, кажу, прытварацца. Слухайце задачу.

— Што я выдумляю?! — здзівіўся Рыбчонак. — Ягоны ж зямляк Вырчанка з пятай роты сам казаў. Чацвёра чужых дзяцей гадуе, а баба б'ецца, як тыгра!

— Загадана зноў атакаваць, — сцішана і сур'ёзна паведаміў Жаркоў. — Праз гадзіну. Даюць нам сувязістаў і яшчэ некага. Чацвёртая і пятая роты ад лесу, а мы адсюль.

Стала ціха, адчувалася ў цемры, як байцы апанурыліся і сядзелі не кратаючыся. Адзін Рыбчонак, недачуўшы, перапытаў:

— Куды? Га?

— Да кудыкі, — прасіпеў яму ў вуха Гушчын. — Усё туды ж. А артылерыя як, ці падсобіць? — запытаўся ён у сяржанта.

— Артылерыі пакуль няма. Прыйдзецца нам знянацку як. Інакш нічога не выйдзе. Я думаю так... — Сяржант прысеў у доле і паказаў на балацявіну. — Паціху падпаўзем па балоце да ўзмежка... Толькі б не заўважылі. А з-за ўзмежка, як дадуць ракету, усе ўраз на кулямёты надавім, не можа быць, каб не заўважылі. Толькі смялей трэба. Усім разам. Гранаты ёсць?

— У мяне дзве толькі, — слабым ад кашлю голасам сказаў з цемры Тарасікаў.

— У мяне гранат гэтых са тры ёсць, ага, — прасіпеў Гушчын.

— Што? Атака? — толькі цяпер зразумеў гаворку Рыбчонак. — Якая ўчорта атака?! Пяць чалавек! — ён узрушана ўскочыў з долу. — Здурнелі яны там ці што!

— Ціш ты, Рыбчонак! — са злосцю прыкрыкнуў на яго Жаркоў. — Ад таго, што пакрычыш, загад не адменіцца.

— Не, ужо годзе! — крыкнуў Рыбчонак. — Я кантужаны. Пайду ў санчасць.

— Нікуды не пойдзеш! — ціха, але цвёрда сказаў сяржант. — І давай рыхтавацца. Каб нічога ні ў каго не брэнькала, паўзці будзем. Зразумела? Разыдзіся!

Шэрыя постаці ў чорным доле заварушыліся, Рыбчонак, лаючыся, пайшоў на сваё месца. Няроўны моўчкі пачаў нацягваць на ватоўку шынель. Гушчын затрымаўся і, слінячы цыгарку, разважаў:

— Каб от «кацюша» сыграла разок, для духу хоць бы. А то што пяхота без аруддзяў — мухі!

«Здаецца, не заўпарцяцца, — з палёгкай падумаў сяржант. — Разумеюць хлопцы, паслухаюцца. Ось толькі Рыбчонак!..»

— Нічога, Гушчын, — сказаў ён услых. — Можа, як-небудзь управімся. Патроны ёсць?

— Ды патронаў хопіць. О, паўторбы, — салдат варухнуў плячамі, і ў рэчмяшку коратка і важка лязгнула. — Я не дужа таго... бэхаю. Ашчаджаю.

— Ну добра. Тарасікаў, давай хутчэй, браце, набіваць стужкі. Колькі ў нас, тры пустых?

— Тры, — ціха пацвердзіў Тарасікаў і закашляўся сухім адрывістым, бясконцым кашлем. Сяржант і салдат заклапочана паглядзелі на яго.

— Прыкіпеў ты недзе, хлопча, — заўважыў Гушчын. — Як тая нямецкая зянітка: цяў ды цяў.

Жаркоў занепакоіўся:

— Як жа ты гэта з такім кашлем да атакі дацерпіш? Ты ж нас дэмаскіруеш. Га? Можа, цябе ў санчасць адправіць?

— Не ведаю, — перацяўшы кашаль, сказаў Тарасікаў. — Можа, патрываю як-небудзь.

— Ну глядзі.

Яны падышлі да «гарунова», які, прыладжаны ўжо да агню, стаяў на раллі. За ім чарнеў неглыбокі яшчэ акопчык для дваіх. Тарасікаў узяў з долу рэчмяшок з патронамі і пачаў паціху лязгаць скрынкамі, вымаючы пустыя стужкі. Жаркоў прысеў побач.

— Ну як ты, пасмялеў хоць трохі? — запытаўся ён у свайго памагатага.

— Дзе там! — адказаў Тарасікаў. — Аж дагэтуль дрыготка. Хоць ты што...

— Нічога, пройдзе, вядома, спярша.

— Не праходзіць нешта, — журботна азваўся Тарасікаў і ўздыхнуў. Ён пачаў напіхваць у брызентавую стужку патроны, і было відаць, як дробненька дрыжэлі ў змроку яго белыя пальцы.

Толькі тыдзень назад, перад самым наступленнем Тарасікаў са шпіталю прыйшоў у гэтую роту. Здарылася так, што яшчэ не даехаўшы з тылу да фронту, ён трапіў дзесь пад бамбёжку, быў паранены, а галоўнае, напалоханы і цяпер баяўся кожнага стрэлу і кожнага выбуху. Па натуры ж ён быў хлопец шчыры і не таіў сваёй страхавітасці. Гэта спадабалася Жаркову, і сяржант займеў у сабе ўпэўненасць, што страх урэшце мінецца, а шчырасць і добрасумленнасць, з якою той ставіўся да свайго франтавога абавязку, калі-нікалі зробяць Тарасікава добрым байцом. Таму ён і ўзяў хлопца да сябе другім нумарам пасля таго, як ранейшы пайшоў у шпіталь.

Жаркоў напіхваў патронамі канец стужкі, а сам увесь час азіраўся і прыслухоўваўся. «Калі ж тыя сувязісты прыйдуць!» — думаў ён і ўсё згадваў, як найлепш і цішэй падабрацца да немцаў. Самае галоўнае — не выявіць бы сябе раней часу, падкрасціся б да ўзмежка і не трапіць пад міны... Хлопец сам таго не разумеў, якая непамерна цяжкая была тая задача, што ўзвалілі на яго плечы, толькі ён з усяе сілы імкнуўся выканаць яе як найлепш. Пра сябе ён ужо не думаў, не было калі, адно толькі квёлая нотка адчування сваёй слабасці і звычайнай чалавечай уязвімасці ціхенька трымцела недзе на сподзе душы, нібы якая былінка на ветры. Удумацца, аднак, у яе, адчуць не давала мноства іншага клопату.

— Нічога, возьмем як-небудзь, — сказаў ён ні то Тарасікаву, які торапка з страхам у шырокіх вачах варушыўся побач, ні то самому сабе.

— Але дзе ж тое падмацаванне? Можа, зблудзілі? Ты паглядзі тут, а я пабягу. Спаткаю, можа.

## 5.

Сувязісты прыйшлі. Жаркоў сустрэў іх на раллі, пачуўшы здаля, прысеў, пачакаў — на зорным небе маўкліва сунулася шэсць постацей. У некага раз-пораз брэнькала, пэўна, лапатка на дзязе.

— Стой! — сказаў з цемры сяржант. — У каго там што барабаніць? Захіні. І за мной шагам марш.

На хаду ён растлумачыў задачу, сувязісты маўчалі, не адчуваючы нічога добрага наперадзе, і сцішана ішлі за сяржантам. Збоч вёскі за хмызняком узляцела ўгору ракета, яе святло цьмяна паматлялася па абшары, і сувязісты ўраз кінуліся на зямлю.

— Не бойцеся: далёка. Чаго вы? — здзівіўся Жаркоў. Калі зноў сцямнела, хлопцы паўставалі і, недаверліва пазіраючы на камандзіра і спатыкаючыся, яшчэ з меншай ахвотай пайшлі далей. Жаркоў вывеў іх на бугор і паклаў на фланзе за сваімі стралкамі.

— Пакуль чакаць. Хутка пойдзем. Толькі каб ціха, як цені! — сказаў ён і пабег па ланцугу на правы фланг, дзе быў яго кулямёт.

Жаркоў вельмі спяшаўся, каб не спазніцца. Гадзінніка ў яго не было, але сяржант адчуваў, што трэба ўжо рушыць. Зноў жа, папаўненне было дужа невялікае, абознікі, даць якіх абяцаў капітан Сахно, нешта не ішлі, і ў роце пакуль што набралося ўсяго адзінаццаць чалавек.

— Ну як, управіўся? — запытаў ён у Тарасікава, які ціхенька ляжаў на баку за кулямётам і насцярожана ўзіраўся ў балота, пэўна, адчуваючы там сваё новае гора і сваю вялікую бяду.

— Ага, — коратка адказаў ён. Жаркоў падбег да суседняга Гушчына і гукнуў:

— Перадай па ланцугу: упярод!

Затым ён з хвіліну пачакаў, каб каманда дайшла да сувязістаў, і ўзяўся за хобат «гарунова». Тарасікаў падабраў з долу чатыры скрынкі — па дзве на руку, побач заварушыўся ў змроку Гушчын, і яны пацiху пайшлі па раллі туды, адкуль з такім страхам вырваліся гадзіны са дзве назад.

У вёсцы пакуль было ціха; бойка і ноч, відаць, замарылі і немцаў, і яны, пэўна, павячэраўшы кавай і выставіўшы вартавых, драмалі цяпер на саломе ў сваіх бліндажах. Але Жаркоў адчуваў, што кожную хвіліну можа ўспырхнуць у неба ракета, асвяціць іх, — і хлопец, не адрываючы позірку ад варожага паднябесся і прыгнуўшыся, шпарка сігаў усё далей і далей уніз, пад ахоў хмызняку. Аднойчы ён зірнуў убок — у цемры чутны былі крокі Гушчына, які, таксама схіліўшы вялікую ў касцы галаў, тупаў уніз; далей у чорным на раллі змроку адчувалася прысутнасць людзей — іх рухі і ціхі тупат; убачыць жа нельга было нікога.

Так яны дайшлі да самага нізу з паскаю снегу па-над балотам. Сяржант прыпыніўся, апусціў хобат, побач чуйна прысеў Тарасікаў. Жаркоў пагледзеў уздоўж свайго ланцуга — зводдаль цераз снег мільганула некалькі

цьмяных постацей, снег зарыпеў пад нагамі, і ў сяржанта здрыганулася сэрца: цішэй! Хоць бы на лёдзе не грукалі, хоць бы ціха як-небудзь! Яму хацелася скамандаваць, прыкрыкнуць на неасцярожных, але абстаноўка не давала таго зрабіць, заставалася адно толькі трываць і чакаць. Затым ён сам, шорхаючы ботамі, перайшоў умерзлы калючы снег і ступіў на лёд між кустоў. Тарасікаў, схіліўшыся, тупаў следам.

Жаркоў стараўся ступаць як мага цішэй, падмерзлы шурпаты лёд быў уначы слізкі, як шкло, і гумовыя падэшвы бясшумна слізгалі па ім. Адны толькі кулямётныя колы ніяк не хацелі суцішыцца, глуха, настойліва стукалі на кожнай самай маленькай няроўнасці, і сяржант ад напружання моцна сціскаў сківіцы. У кустах адразу стала цямней, усякая сувязь з яго ланцугом абарвалася; аднойчы пачулася толькі, як шаснула непадалёк дрэўца, пэўна, Гушчын неасцярожна закрануў яго. І ўсё сціхла, прапала, да часу стаілася. «Толькі б ціха... толькі б ціха», — бязгучна шапталі ў цемры сяржантавы вусны, і ён крадком, як начны злодзей, не адрываючы ад лёду падэшваў, сунуўся ў змрок, абмінаючы кусты, купіны, хамлакі скрапанай леташняй травы.

Але зусім ціха перайсці балацявіну ім не ўдалося. Раптоўна і таму жахліва пачулася ў цішыні, як непадалёк затрашчэў, зашастаў лёд, пляснула вада, — відаць, нехта сунуўся ў ледзьве падмерзлую палонку, прабітую мінай. Жаркоў прысеў ад нечаканасці, страхавіта стаіўся побач Тарасікаў. Сяржант вылаяў у думках неасцярожнага байца, але неўзабаве зноў маўклівая цемра запанавала над балацявінай, і ён рушыў далей.

Праз якую хвіліну ён вылаяўся ў другі раз ужо сам на сябе — пад нагамі раптоўна і, як здалося яму, страшэнна гучна затрашчэў, зашастаў, увагнуўся лёд, сяржант кінуўся ўбок, толькі намачыўшы падэшвы. Разам з Тарасікавым яны збоч абышлі гэтае разбітае мінамі месца, прыгнуўшыся, прадраліся праз лазовы гушчар, які сцябаў па тварах намерзлымі розгамі і чапляўся за кулямёт, выглянулі на невялічкую прагаліну. Тут яны насцярожана і страхавіта на момант прыселі. На прагаліне ля купіны, прыпаўшы шчакой да лёду і выкінуўшы наперад руку, ляжаў забіты. Здавалася, ён лёг толькі нядаўна, нібы прыслухаўся да чагосьці пад лёдам. Жаркоў перавярнуў яго нягнуткае, ужо скалянелае цела — то быў маладзенькі, як і Тарасікаў, баец па прозвішчы Верацённы, які прыйшоў у іх роту з апошнім папаўненнем. Жаркоў прыпамятаў, як калісь за дзень да наступлення ў горача натопленай камандзірскай зямлянцы гэты Верацённы дапамагаў парторгу выпусціць «баявы лісток» і хімічным алоўкам, бы на якім экзамене, старанна выводзіў: «Уваб'ём асінавы кол у магілу фашысцкіх захопнікаў!» «Невядома, ці ўдалося хлопцу забіць хоць аднаго фашыста, а сам ужо... гатоў», — падумаў Жаркоў і, спахапіўшыся, рушыў далей.

Яшчэ праз хвіліну нейкая розга гучна лязгнула па Тарасікавай скрынцы, Жаркоў прыпыніўся, каб сказаць: «Цішай!» — і ў гэты момант цемра над балотам раптам прарвалася, ноч знікла, здалося, загарэлася неба, незразумела і суладна ў светавым жаху крутнуўся і шаснуў убок хмызняк; доўгая цень Тарасікава матлянулася між кустоў і смыкнула да хлопца. Імгненна адчуўшы бяду, Жаркоў распластаўся на лёдзе і закінуў угору галаў — у небе, губляючы вогненныя кроплі, імчала на іх ракета. Наўздагон ёй данёсся глухаваты кароткі стрэл.

Жаркоў сцяўся ад неспадзяванасці, прыціснуўся к долу, адчуўшы, як нешта абарвалася ў яго грудзях. Пакуль яшчэ ракета імчала ў небе, хлопец зірнуў убок, але ў кустоўі адно толькі ззялі на лёдзе агністыя плямы-водбліскі, перарэзаныя чорнаю блытанінай ценяў. Нікога з яго байцоў нідзе не было відаць.

Ракета патухла, сяржант пачакаў крыху, аслеплены цемрай, і толькі памкнуўся ўстаць, як у неба ад вёскі скокнулі адразу дзве новых, недзе збоч і зводдаль яшчэ адна, і адразу ж захлібнуўся, загрукацеў, разбурыў цішыню кулямёт. Як і надвячоркам, мільготкія апантаныя пісягі-трасы пранізалі хмызняк.

«Заўважылі... заўважылі... заўважылі... — стукала ў грудзях сэрца. — Эх ты!.. Эх!..»

— Бягом! — гукнуў Жаркоў на Тарасікава, які знік недзе побач, і раптам выразна адчуў, што ўсё задуманае, спадзяванае паляцела ў нябыт. Іх убачылі, асвяцілі, асляпілі, далей не было ўжо чаго таіцца, трэба было як мага хутчэй прарвацца з балота пад укрыццё маленькага ўзмежка пад плотам на краі гародаў.

— Наперад бягом! — другі раз праз грукат чэрг крыкнуў ён у кусты. Ракеты пагаслі ў паветры над лазняком, адно толькі секлі, снавалі, сыхозіліся і разміналіся імклівыя струмені трас. Балацявіна загрукала рэхам ад стрэлаў, трасы стрыглі, секлі хмызнякі і ганялі ў лёдзе агніста-мільготкія водсветы.

Спатыкаючыся і абдзіраючы твары, яны праскочылі праз апошні на краі балота лазняк і выбеглі на зіхатлівы ад трасоў прастор. Трасы імпэтна мільгалі на вышыні чалавечага росту і па-над самай зямлёй, але ўсё ж узмежак ля гародаў затуляў невялікі, метраў у дваццаць, беражок балота. Жаркоў упаў і, штурхаючы перад сабой кулямёт, папоўз па лёдзе туды, на рубеж атакі.

«Скарэй!.. Толькі скарэй!.. Ну скарэй жа! Скарэй», — роспачным унутраным крыкам-воклічам падганяў ён самога сябе, стараючыся як мага хутчэй дапаўзці да ўзмежка, дзе можна было затуліцца ад кулямётаў. Некалькі куль дзёўбнуліся каля яго, у хлопцаў твар пырснула крошкамі лёду, але ён не спыніўся, не захінуўся за кулямётны шчыт — ён толькі азірнуўся. Тарасікаў, лязгаючы скрынкамі, поўз следам. Вялізная зялёная каска напаўзла хлопцу на самыя вочы, і ён, відаць, не мог яе паправіць. Гушчына нешта не відаць было, але воддаль пад узмежак поўз яшчэ нехта. І раптам сяржант убачыў, што нехта ўжо апярэдзіў усіх і ўжо туліцца, варушыцца пад самым плотам, нібы прыладжваецца, каб распачаць страляць. «Малайчына! — падумаў Жаркоў. — Хто ж гэта?» Той чалавек сваім прыкладам умомант надаў сілы і рухавасці, Жаркоў, напяўшыся, штурхнуў наперад сцежалелы кулямёт, потым яшчэ і яшчэ. Трасы штораз усё вышэй адрываліся ад зямлі, ужо можна было прыўзняцца на лакцях, і неўзабаве сяржант, абліваючыся потам, спыніўся перад узмежкам.

Ракеты адна за адной палілі начное неба, шыпелі, падалі, гарэлі ў марозным паветры, і камандзіру не трэба было дужа ўглядацца, каб убачыць усё, што рабілася ў яго ланцугу. Пад узмежак прыпоўз Тарасікаў, зводдаль пад плотам ляжалі яшчэ тры невядома чые постаці, двое распласталіся ззаду на лёдзе — мажа, паўзлі, а мажа, былі ўжо забітыя. Астатніх пакуль

не было нідзе. Кулямёты ўсё білі цераз іх галовы, начны прастор гудзеў і калаціўся ад дзесятка грукатлівых чэрг.

## 6.

«Але дзе ж той сігнал?» — трывожна схамянуўся Жаркоў, лежачы пад узмежкам. Хлопцу здалося, што ён завельмі прамарудзіў у балоце, што сігнал ужо быў, а ён не згледзеў яго, што рота спазнілася выйсці на рубеж атакі. Яшчэ ён не мог даўмецца, чаму немцы адбівалі атаку аднымі кулямётамі, а мінамёты іх, прыстрэленыя па балацявіне, чамусьці маўчалі.

Горача часта дыхаючы і шчыльна прыціснуўшыся да калючага ад марозу долу, Жаркоў прыслухаўся, стараючыся вызначыць што-небудзь у стагалосым грымоцці бою. І тады ён учуў, што мінамёты білі. Калі заціць дыханне, дык выразна чутна было іх таропкае, глухаватае ў далечы «ках-ках... ках... ках...». Крыху збоч за вёскай ірваліся іх міны, — здаецца, немцы білі па суседніх чацвёртай і пятай ротах. Дык вось чаму нейкім чынам хоць трошкі пашанцавала гэтай іх маленькай жменьцы людзей, якая называлася шостай ротай. Жаркоў яшчэ ўслухаўся — начная далеча за ўзгоркам збоч вёскі таксама гула і стагнала ад кулямётнага стукату і грукату мін.

У небе над самай галавой засвяцілі ракеты, адна, апісаўшы крутую высачэзную дугу, рэзкім белым святлом заліла шырокі прасцяг ваколіцы і шпарка падала, якраз над Жарковым. «Згарыць», — падумаў абыякавы да таго сяржант і зірнуў убок — байцоў пад узмежкам, здаецца, прыбавілася, на лёдзе ззаду ляжаў толькі адзін, другога ўжо не было. «Калі ж атака? — дапякала-трывожыла думка. — Дзе ж ракета, няўжо была?.. Няўжо ён не ўбачыў яе?..»

Немцы, відаць, згледзелі, што атакуючыя сабраліся пад плотам, і па два ці тры іх кулямёты пачалі біць па ўзмежку. Некалькі разрыўных куль ляснулі па жэрдцы над кулямётчыкамі, жэрдка здрыганулася і разламілася, сыпнуўшы на галовы хлопцаў струхлелым друзам. На двух пахілых калках таксама гучна лопнуў разрыў і з маленькага сiняватага агеньчыка вострa зыўкнулі ў бок асколкі. Тарасікаў прыцяўся ўсім целам пад самы ўзмежак і ціхенька трэсся, утоўпіўшы ў дзірван кароценькі казырок каскі.

«Што ж ляжаць! — зноў штурхнула сяржанта трывожная думка. — Агню, агню трэба! Трэба падавіць, прыціснуць, увагнаць у зямлю ворагаў і рынуцца на іх. Іншага адсюль ходу няма, назад ім ужо не адысці». І Жаркоў, увабраўшы ў грудзі як мага болей паветра, крыкнуў у мігатлівую цемру:

— Агонь! Агонь! Давайце агонь!

Пакуль над галавой дагарала чарговая ракета, ён убачыў, што яго байцы ў рэдкім ланцужку нерухома ляжалі, утоўпіўшы галовы ва ўзмежак. І толькі адзін баец, відаць, той, што раней за іншых дапоўз да ўзмежка, — раз-пораз бліскаў з-пад плоту стрэлам.

— Агонь! — зноў закрычаў сяржант. — Па кулямётах агонь!

У яго не было каскі, сяржанту вельмі нязручна стала вытыркацца пад кулі з-за ўзмежка, галава здавалася зусім не прыкрытай, безабароннаголай, здавалася, кожным валаском адчувала яна злое, імклівае і вельмі

блізкае фырканне куль. Але трэба было варушыцца, нарыхтаваць кулямёт і спрабаваць падавіць варожыя агнявыя крокі. І сяржант трохі прыўстаў, пакуль было цёмна, ухапіўся за кола кулямёта, натужыўшыся, узапхнуў яго на невысокі ўзмежак. Кулямёт аднабока перакасіўся, і тут узляцелі ў неба ракеты. Жаркоў схіліўся і, пакуль яны яшчэ не набралі вышыні і святла, выпхнуў уперад і другое кола. Але, мусіць, ён занадта вытыркся, прамарудзіў, толькі адчуў гэта позна, і тут здарылася няшчасце, паправіць якое было ўжо нельга.

Спачатку ён нават не зразумеў — здалося, бы нехта ззаду ляснуў яго якім дубцом па плячы, шынель каратка лопнуў, але затым нейкі мускул у перадплеччы балюча і раптоўна заныў. Жаркоў прытупіў за кулямётам галаў і зразумеў, што паранены. У рукаве да лакця хуценька збег цёплы струменьчык, рука налілася цяжарам і ўвачавідкі дранцвела. Пальцы разняліся на коле, і, раптоўна аслабшы, хлопец тыцнуўся плячом пад узмежак.

Ракета разгарэлася, і ў яе святле ён перш за ўсё іншае ўбачыў побач вялікія, поўныя агністага жаху вочы Тарасікава пад яго збітай набок каскай. У гэты раз баязлівасць байца ўпершыню за ўвесь час іх суседства злосцю ўзарвала Жаркова, і, забываючыся аб сваім болі, ён, як ніколі раней, апантана крыкнуў у самыя тыя нечалавечыя ад жудасці вочы:

— Стужку! Якога чорта? Стужку!

Тарасікаў дрыготкімі пальцамі паспешна абмацаў ля сябе дол, натрапіў на скрынку. Тут зноў засвяціла ракета, але хлопец круціў усё ў руках каробку, мацаў і сяк, і так і не мог ніяк яе адчыніць, каб падаць камандзіру стужку. А Жаркоў, кожнаю часцінкай напружанага да немагчымага цела адчуваючы, як марнее, губляецца дарагі ў такі момант час, не мог ужо саўладаць з сабою, стрымаць свае нервовае лютасці:

— Ты!.. Эх!.. Чортавай матары!.. — недарэчна закрычаў ён на Тарасікава і хуценька выхапіў у яго каробку. Крутнуўшы зашчэпку, сяржант вырваў канец бразготкае стужкі і, слаба дапамагаючы абяссіленай левай рукой, зарадзіў кулямёт.

Ракета пагасла, а ён ухапіў ротам паветра і на кароткі час сцішыўся за шчытком кулямёта. Праз вузкую прорызь прыцэла відаць было ў цемры, як зусім блізка пульсавала, мігала, затухала і зноў часта-часта пыхкала сінявата-чырвоная плямка полымя. Побач, трошкі ўбаку ад шчыта, гэтак жа мільгала яшчэ адна плямка, але кулямётчык, ужо безуважны да яе, навёў кулямёт на ранейшую і вялікімі пальцамі ўтапіў у затыльнік спуск, затым яшчэ і яшчэ — аж покуль не відно стала, куды страляць. Пасля ён давярнуў кулямёт да наступнай, аднак левая рука мярцвела, локаць целюпнуў у крыві, што налілася ў рукаў, у плячы забалела, востра і пякуча...

І ў той час наперадзе ў варожым стане, перад цёмнымі стрэхамі будынін і між іх ірванулі выбухі, затым яшчэ. Жаркоў прыгнуў галаў — угары завірашчэла знаёмым візгатам, і яшчэ некалькі выбухаў грукнулі на гародзе і ў вёсцы. На момант цьмяна асвяцілася неба між хатамі і скочыў да балацявіны вялізны даўжэзны цень бліжняй адзінокай будыніны з прадранай, рабрыстай ад лат страхой. Кулямёты, здалося, ураз змоўклі, Жаркоў на нейкае імгненне сумеўся і, адпусціўшы спуск, зразумеў, што гэта азваліся перад атакай іх батальённыя мінамёты.

— Ракета! Ракета там, глядзіце! — першы раз за ўвесь час бойкі неяк ажывеў Тарасікаў. Жаркоў азірнуўся — ззаду над балацявінай на тоненькай дымнай сцяблінцы хутка зніжалася ў небе чырвоная кветка сігнальнай ракеты.

Яна яшчэ не патухла, як Жаркоў адчуў, што нейкае гарачае полымя апаліла яго нутро, бы маланка асвяціла ў хлопцавай галаве думку, што самы рашучы момант настаў.

Адштурхнуўшыся ад долу здаровай рукой, ён ускочыў у рост, выхапіў з кірзавае кабуры свой наводчыцкі наган і закрычаў лютым і вельмі натужным голасам:

— Уста-а-а-аць! Усе-е-е! У ата-а-аку-у-у-у!

Ён прыгнуўся, напружыўся, як спружына, скочыў на ўзмежак, сігануў цераз канец перабітай жардзіны, стрэліў у гулкую ад выбухаў цемру. І ў той жа момант над гародамі і ўзмежкам павіслі ў небе адразу аж тры ракеты. Ён болей адчуў, чым убачыў, як матлянуліся ля яго гарачыя трасы — ля галавы, пад рукамі, паўз ногі, — хлопец на секунду разгублена спатыкнуўся і зірнуў на свой фланг. Толькі адзін чалавек там няспрытна пералазіў цераз плот, астатнія ж, пэўна, ляжалі, бо болей ва ўсім працягу ля балацявіны нідзе нікога не было відаць.

Невядома чаму — ці можа ад той мільготкай кулявой небяспекі, што стрэла яго, ці ад думкі, што каманда не дайшла да ўсіх і атака сарвалася, — ён упаў на мулкія глыжы леташняга бульбянішча, і панылае, гаротнае і вельмі крыўднае пачуццё ўсё болей і болей, бы вада за колам каляіну, пачала заліваць яго.

«От усё!.. Накамандаваў!»

Некалькі часу ён нерухома ляжаў пад нязносным святлом ракет, адчуваючы, як халадзее, дубее ад крывавай макрэдзі яго рука, калі ж глухая, чорная, як каламазь, цемра ўпала вакол, вобмацкам ссунуўся назад за ўзмежак і крыкнуў Тарасікаву:

— Тарасікаў, агонь! Агонь... такую тваю!..

Затым, лаючыся і некалькі разоў стрэліўшы ў паветра і ўжо зусім не прыгінаючыся, ён кінуўся па-над плотам і закрычаў што было сіл усім, хто мог чуць яго ў гэтай счарнелай глухой цемрадзі:

— Упярод!!! Упярод!!! — і агідна, невядома як лаяўся.

Вакол джгалі трасы — збоку, зверху, пад ногі, — але Жаркоў не зважаў на іх, яго аглушыла, апаліла адно толькі адчуванне таго, што калі ён не ўзніме ўсіх на кароткі рывок, то здарыцца вялікая, непапраўна-жахлівая бяда. Ён у той час не ведаў, якая яна і ў чым менавіта была тая бяда, але ўсім сваім адчуваннем згадваў, што паратунак ад яе ў рашучым скачку наперад, у ноч, на кулямёты. Аб сабе ён не думаў. Сваё маленькае нязначнае жыццё было дужа нязначным, квёлым і слабым у параўнанні з тае блізкай і страшнай пагрозай бяды.

У ап'янелым сваім парыве ён то бег, то падаў і нават не заўважыў, як дол ажно асвяціўся ад згусцелых, мнагаярусных трас, як па ўзмежку люта сыпанулі сіняватыя клубкі маленькіх злых трэскавак — разрыўных чэрг. І раптам, калі ён упаў і зноў паімкнуўся ўскочыць, нехта дужа тузануў яго за палу шыняля, хлопец прысеў, азірнуўся і ўпершыню зразумеў, што пазбег блізкай і пэўнай пагібелі. Ратуючыся ад траскоцця разрыўных, ён

прыціснуўся да сцюдзёнай, макраватай ад марозу імшарыны, чарга прамільгнула пад самым тварам, і тады побач пачуўся знаёмы сіпаты голас:

— От галава! Ці ж так можна!..

Голас быў вельмі знаёмы, але ў гарачцы не так проста было прыпамятаць чый. «Гэ, ды то ж Гушчын», — спакваля дайшло да свядомасці, як дайшло да яе і тое, што ён усё болей і болей губляў крыві і слабеў. У левай руцэ быццам забегалі мурашкі, яна дзіўна здранцвела, пальцы страцілі сілу і млелі ад кожнага руху імі. Гушчын, пэўна, заўважыў, што камандзір паранены і, лежачы на сцюдзёнай імшарыне, запытаўся:

— Што, трапіла? Ага?

— Сарвалася атака! Ты разумееш: сарвалася! Не ўсталі! Не ўсталі нягоднікі, сувязісты гэтыя!..

— Ціха ты!.. Не ўсталі — устануць. Было б каму... Куды цябе?..

— Ды ў руку вось...

Жаркоў шалёна аддыхваўся, мінныя выбухі ўжо сціхлі, высока ўгары яшчэ вірашчэла, але рвалася далёка, па той бок вёскі, відаць, мінамётчыкі перанеслі агонь у дапамогу тым ротам.

І ў гэты час між скуголення мін і кулямётнага посвісту выразна пачуўся размераны, такі супакоена дзелавы голас іх «гарунова». Бы добрая швейная машына, вёў і вёў ён на ўзмежку сваё «тах-тах-тах-тах...» Жаркоў усхапіўся, вельмі ўзрадаваны, і крыкнуў Гушчыну:

— Страляе, глядзі!

Блізка ля яго лежачы, Гушчын не зразумеў, ён паглядзеў не ў той бок, а ў другі, адкуль несліся да іх зыркія трасы, і пачаў прыладжваць ля пляча вінтоўку, каб стрэліць. А Жаркоў, прыслухоўваючыся да знаёмых гукаў «гарунова», адчуваў, як нешта цёплае, добрае і трошкі крыўднае на сябе — напэўна, за нядаўнюю крыклівасць — шавяльнулася ўнутры, але, не адчутае да канца, так і знікла. Вельмі нізкая чарга, пырснуўшы аднекуль збоку, прыціснула абодвух да самага долу.

— От лупіць паганец! — прасіпеў Гушчын, выплёўваючы з роту зямлю. Прыладзіўшыся, ён стрэліў некалькі разоў на блізкі і яркі агеньчык, але кулямёт не змаўкаў. Тады Жаркоў падумаў, што пакуль не сціхне гэты кулямёт, ім не ўдасца вылезці з-за ўзмежка. І ў яго імгненна з'явіўся намер, хлопец не думаў, правільна тое ці не, ён адчуў толькі галоўную перашкоду і зразумеў, як можна знішчыць яе. Сяржант сунуў за пазуху наган і выцягнуў з кішэні лімонку.

— Чакай, не страляй, — гукнуў ён у вуха Гушчыну, а сам, упіраючыся нагамі і правым локцем, няспрытна папоўз.

— Пастой, ты куды? — здзівіўся Гушчын. — На каску хоць...

Жаркоў прыпыніўся, Гушчын падпоўз да яго на крок і, здзёршы з свае галавы каску, падаў яе хлопцу. Той, не азіраючыся назад, зняў шапку, насунуў каску і, не расшпільваючы падбароднага раменьчыка, хутка папоўз у цемру.

Каска з непрывычкі цяжка асвервала голаў, раменьчык трапляў у рот і замінаў дыхаць, але Жаркоў назіраў толькі за трасамі, якія джгалі сюды-туды ад агеньчыка-плямкі, і поўз. Нейкае калючча ў доле, здаецца, да крыві абадрала руку з гранатай, аднойчы наскі ботаў разграблі на зямлі нешта мяккае, затым дол павёў яго некуды ўніз, у якуюсь рытвіну, там

Жаркоў слізгануўся локцем па льдзіне замерзлай уначы лужыны. Тут ён перадыхнуў трошкі і затым, ускочыўшы, некалькі крокаў прабег тое месца, дзе было глыбей. Затым зноў папоўз па схіле ўгору і ўрэшце выпаўз на роўнае.

Яшчэ ў раўку ён адчуў, што кулямёт вельмі блізка: трасеры ягоных куль загараліся толькі над раўком і далей ззаду за ім, некалькі метраў ад ствала яны, як заўжды, ляцелі нябачныя. Жаркоў вельмі прыстаў, замінала каска, вельмі балела плячо і ўся рука да лакця. У гэты час ён убачыў агеньчыкі, яны пыхкалі зусім побач, мільготка асвечваючы глыжы накапанай зямлі на брустверы, нейкую пакамячаную паперу між іх і запэцканы глінай гронак, відаць, забытай рыдлёўкі. Павінны былі ўжо пырхнуць ракеты, і Жаркоў паляжаў нейкі час у разоры, адольваючы хваляванне і стому.

Ракета ўзгарэлася ззаду, там, адкуль кароткімі чэргамі біў «гаруноў». Некалькі невыразных далёкіх ценяў даўжэзнымі хвастамі матлянуліся па гародзе, пераламіліся ў раўку і зніклі — скрозь замільгала яркае, рухавае і зыркае святло ракеты. Жаркоў, як толькі мог, уціснуўся ў зямлю, падставіўшы кулямёту галаву ў касцы, па брустверы мільгануў і ссунуўся ўбок згорблены паламаны цень кулямётчыка. Самога ж немца Жаркоў чамусьці не ўбачыў.

Як толькі ракета патухла, Жаркоў ускочыў, па касцы збоку моцна і гучна лязгнула — хлопец хіснуўся, прысеў, але болю нідзе не пачуў і кароценькаю думкай-намёкам удзячна памянуў Гушчына. На каленях ён прапоўз некалькі крокаў і спыніўся: рука тыцнулася ў падаткую з марознай скарынкай мякаць бруствера. Сяржант зморана дыхнуў разы два, вырваў зубамі чаку і  размахнуўся.

Здаецца, у акоп ён не трапіў — граната ірванула на тыльным бруствэры. Яго аглушыла. Плечы, вушы і каску абсыпала пяском і пылам, але кулямёт змоўк. Стала дужа ціха, і ў гэтай цішыні недзе ўнізе ў акопе пачуўся трывожны ўскрык:

— Отто! Отто!! Вас іст дас?!

Ззаду на ўзлёце бліснула ракета, кудысьці трэба было ратавацца, і Жаркоў, не згледзеўшы іншага выйсця, сунуўся цераз бруствер у акоп. Зрушыўшы за сабой пясок і глыжы, ён адразу прысеў у дне, бруствер ярка заззяў ад высокага святла ракеты, гэтае святло патокам рынула ў акоп на яго галаву, зноў ратуючыся ад яго, сяржант сігануў за паваротку траншэі і там раптоўна спаткаўся з немцам. У расшпіленым шынялі, з узнятым каўняром, той неразараджаў, відаць, кулямёт ды раптам згледзеў яго і няўцямна, разявіўшы рот, скамянеў на секунду. Жаркоў сам жахнуўся і заўважыў толькі, як дрыгнуў белы, кастлявы твар немца, і як хіснуўся ён да сцяны акопа, і сяржант ускінуў наган. Апошні стрэл грукнуў ужо ў цемры, абмяклае цела ворага глуха ўдарылася аб сцяну кулямётнай ячэйкі і рухнула на дно. Сяржант адскочыў трошкі назад, прысеў і, напагатове прыўзняўшы наган, чакаў, калі яшчэ паявяцца немцы.

Але немцаў болей не было, кулямёт маўчаў, а яшчэ праз трохі часу цераз бруствер, зморана сапучы, няўклюдна пераваліласе ў траншэю камлюкаватая постаць Гушчына.

— Сюды, сюды! — ускочыўшы, паклікаў яго Жаркоў і адчуў, як нешта

цяжкое і пакутнае раптам адвалілася ад яго душы. — Сядзі тут і бі, калі палезуць. Я пабягу.

Гушчын нясмела азірнуўся і хацеў нешта сказаць, але сяржант скочыў жыватом на бруствер, пераваліўся цераз яго і скаціўся ў цемру.

## 7.

Пасля таго, як Жаркоў, апантана крычучы, пабег па ланцугу, Тарасікаў адчуў, як непадуладная яму, жахлівая немач апанавала яго зморанае цела. Здалося хлопцу, што пагібель, як тая спілаваная хвоя, ужо нахілілася над яго галавой і вось-вось абрынецца і жахліва прыкончыць яго такое кароценькае і недарэчнае жыццё. Сапраўды, ці доўга тут можна было пражыць, калі ўсе трасы з-за ўзмежка кіравалі якраз на яго, усе ракеты ўзляталі над самай яго галавой — пэўна, немцы ўбачылі кулямёт і з усіх сіл узяліся расстрэльваць яго. Думалася хлопцу: варта было з-за ўзмежка высунуць нават палец, як яго адразу б зрэзалі кулі. Праўда, Тарасікаў нікуды не высоўваўся, ён нават не паварочваў галавы, але ўсю тую жудасць угары ён адчуваў кожнай самай маленькай часцінкай свайго цела, якое, здавалася, стала цяпер спляценнем адных толькі балючых, напухлых нерваў.

І ў той жа час у ягоных вушах трывожным крыкам гучаў усё загад сяржанта Жаркова адкрываць агонь, і пякла душу нядаўняя злосная азвярэласць на яго — разгубленага, збянтэжанага, прыдушанага страхам няўмеку. Тарасікаў невыразна адчуваў, што ў яго ўпёрлася нешта вельмі важнае, што ён замінае чамусьці ў баі, нешта стрымлівае, але страх і ўладарная вяласць не давалі нічога зрабіць. Адно толькі карцела сціснуцца ў камячок і праваліцца ў зямныя нетры, дзе не было гэтага грукату, трас, трэскату разрыўных і распранаючага да нутра ззяння варожых ракет.

«Трэба страляць... трэба страляць, — казаў ён сам сабе. — Трэба страляць...» І тут жа праз бязвольную нерашучасць спрабаваў некага заспакоіць у сабе, угаварыць, задобрыць, каб зменшыць пакуты і адсунуць надалей самы жахлівы час: «Зараз... Зараз... Яшчэ трошкі... Яшчэ паўхвілінкі... Зараз...»

Немцы білі па ўзмежку. Збітая разрыўною чаргой, пераламілася і ўпала з плоту яшчэ адна жэрдка, пыхкалі і затухалі ракеты, раптоўна азаралася і раптоўна чарнела наваколле — хаты, гароды, узмежак і ўскраек балацявіны, — а Тарасікаў усё ляжаў, упёршы голаў ва ўзмежак. Ён і сам ужо адчуваў, што не спраўдзіў свае абяцанкі, свайго пакутнага намеру, разумеў, што ён проста баіцца — не за сваё жыццё, не таму, што ён вельмі хацеў жыць, — проста так баіцца, бо не мае сілы пераадолець у сабе нейкай слабасці перад гэтай апантанай раз'юшанай сілай, што бушуе, мільгоча і грукаціць па зямлі і ў небе. Яна, гэтая лютая сіла, паралізавала, задушыла ўсе яго чалавечыя здольнасці, ён адчуваў сябе не болей чым якою кузуркай, якой нават смешна супраціўляцца гэтай смертаноснай раз'юшанай стыхіі вайны.

Але не меней уладарна і сурова дапякала яго і сіла загаду, за які — адчуваў ён — яму перападзе ад сяржанта і нямала. І тады ён скрывіў губы ад крыўды, бо раптам і вельмі выразна зразумеў, што ўсе тыя страхі ягоныя — не што іншае, як самая паганая чалавечая трусасць. За тое ён апаліўся

крыўдаю на самога сябе, у ім з'явілася нянавісць да некага агідна слабага ў сабе, які столькі часу ашукваў яго, угаворваў, заспакойваў, і хлопец у парыве зларадная помслівасці аб'явіў сабе, як прысуд:

— Баішся, паганы трус! Баішся! А ну, устаць!.. Устаць!!! — ледзьве не крыкнуў Тарасікаў.

І ён заварушыўся, прыўзняў галаў — цераз узмежак агнявымі пчоламі імчалі ў хмызняк раі куль, наперадзе, з-пад цёмнай гарбіны будыніны, пыхкаў і пыхкаў агеньчык, і вылятал тыя бліскаўкі-трасы.

«Баішся! Калоцішся! — з помслівай асалодаю здзекваўся з сябе Тарасікаў. — А ну, уставай! Агонь!!!»

— Тарасікаў, агонь! Агонь! Такую тваю... — гучэла ў вушах суровая каманда Жаркова.

І хлопец устаў, нясмела прыўзняў галаў, падсунуўся да кулямёта, каб захінуцца яго сталёвым шчытком, і паглядзеў наперад. Каля самага вуха люта фыркнула некалькі нябачных куль, узляцела ракета, хлопец зноў тыцнуўся тварам у зямлю, а калі зноў счарнела ўваччу, торапка, каб не даць узгарэцца ў сабе спалоху, ухапіў ручкі кулямёта і націснуў спуск.

Чарга аглушыла яго, збянтэжыла, але ён не адпусціў пальцаў і яшчэ праз некалькі секунд здзіўлена сцяміў, што жывы і што трасы нейкім незразумелым чынам міналі яго, рассейваючыся скрозь у чарнаце ночы. І тады ён на момант прыпыніўся і зірнуў у прыцэл. У вузенькай рамцы відаць быў кароценькі мігатлівы бляск пад чорным узгоркам будыніны, і хлопец, давярнуўшы кулямёт, зноў націснуў на спуск.

Ён ціснуў яго, аж покуль хапіла духу ў грудзях, а калі задыхнуўся ад напружання, адняў пальцы. У вачах усё бліскалі аранжавыя пыхаўкі ад кулямёта. Сэрца яго шалёна стукацела, было дужа страшна — хлопец рассунуў локці і зноў прыпаў да зямлі. І, відаць, зрабіў гэта ў час, бо зараз жа з варожага боку сыпануў сюды рой куль. Некалькі іх мільганула ўгары паверх кулямёта, а некалькі гучна ляснулі ў шчыт і агністымі мухамі зыўкнулі ўгору і ўбакі; Тарасікаў аж здрыгануўся, абмёр, але спакваля сцяміў, што жывы і нават не ранены. Ён асцярожна прыўзняў галаў у касцы і зірнуў з-за кола — там, наперадзе, на рагу чорнай пахілай будыніны па-ранейшаму кораценька і часта папыхквала полымя.

Было цёмна і ў гэтае цемры Тарасікаў адчуў сябе трошачкі схоўней. Ракеты, мабыць, болей за іншае прыгняталі яго (можа быць, яшчэ ад тае ночы, калі іх бамбілі на вялікай станцыі — тады ўсё ў доле было заліта святлом мноства страшэнна яркіх ракет-ліхтароў, што віселі ў небе). У цемры ж адчуваць сябе куды лепей, калі б толькі даўжэй была тая жыццеахоўная цемра.

Трошкі аддыхаўшыся і асмялеўшы, Тарасікаў яшчэ раз зірнуў наперад — кулямёт з-за будыніны папыхкваў кудысь, але трасы ішлі ўбок, і Тарасікаў, хуценька прыўзняўшыся, навёў кулямёт і замацаваў яго. Калі ён зноў узяўся за ручкі і прыўзняў ахоўнік, хваляванне і нерашучасць зноў ахапілі хлопца, і ён паляжаў яшчэ, не адважваючыся ўтапіць спуск. Але ўрэшце з ярасцю і злосцю на сябе зрабіў гэта, кулямёт затрэсся і хлопец, здаецца, ад страху ажно прыплюшчыў вочы. Ён разумеў, што цяпер нямецкі кулямётчык прыкмеціць яго і ў самыя бліжэйшыя секунды будзе вырашана, хто каго.

Кулямёт пратарахцеў доўгую чаргу і змоўк, Тарасікаў здзівіўся, не адразу здагадаўшыся, што скончылася стужка. У той час загарэлася ўгары ракета, і ён раптам убачыў, як наперадзе, да тае пунькі, дзе страляў яго вораг, бяжыць нейкі салдат. Трапіўшы пад ракету, ён пляцнуўся на гарод, умомант раскінуў ногі і пусціў з аўтамата чаргу. «Заб'юць! Заб'юць! — стукнула ў голаў думка. — Там жа кулямёт!» І Тарасікаў, спалохаўшыся за таго смельчака, не стаў ужо хавацца ад ракеты, а ўхапіў зводдаль новую каробку і стаў зараджаць «гарунова».

Ракета пагасла, а Тарасікаў, сцяўшы белыя броўкі, нейкі час узіраўся ў цемру, каб пабачыць, што сталася з тым байцом. Навёўшы кулямёт, ён пачаў пільнаваць тую плямку, каб адразу, як пыхне яна, пусціць туды струмень сваіх нябачных смяротных куль.

Аднак кулямёт той болей і не стрэліў.

Тым часам страляніна трохі паслабла, Тарасікаў адзначыў гэта і здзівіўся, падумаўшы, што бой быццам сціхае, а ён усё жывы. Хлопец папільнаваў яшчэ, думаючы, што, можа, урэшце бліснe ўсё ж варожы стрэл, але час ішоў, а агеньчыка ўсё не было. Тады раптам Тарасікаў адчуў, што чамусьці аж шкада яму — хлопец толькі што ўбачыў у сабе маленькую яшчэ і такую радасную надзею, што пераможа. Ён пачаў ужо спадзявацца на сябе, бо ведаў, што страляць умеў трапна, вока ў яго было вострае, вось толькі нянавісны неадчэпны страх — з ім хлопец ніяк не мог зладзіць.

Але раптам ён спахапіўся, што нікога не чуваць побач, мабыць, усе ўжо пабеглі далей, можа, нават узялі вёску, а ён застаўся з кулямётам адзін. Адрывацца ж ад усіх, заставацца ззаду Тарасікаў не хацеў, хоць і было вельмі страшна, ён усё ж імкнуўся заўсёды не адстаць, бо адзінота палохала яго не меней, чым нямецкі агонь.

Не ўстаючы з долу, ён заварушыўся, прыгледзеўся, услухаўся і падумаў, што сапраўды трэба падавацца туды, наперад. Праўда, дужа боязна было вылазіць з-пад выратоўчага ўзмежка, падстаўляць усяго сябе ворагу і кожную хвіліну адчуваць, як накіраваны на яго з цемры ствалы нямецкіх кулямётаў. Але ж трэба!

Тады ён прыўзняўся, на каленях дацягнуўся да сваіх скрынак, узяў адну ў руку, другую зашчаміў падпахай, правай павярнуў кулямёт і, прыгінаючыся і дужа баючыся, павалок яго па гародзе. Праўда, доўга яму цягнуць не давялося: неўзабаве зноў засвяціла ракета, хлопец адразу ўпаў на ўмерзлыя глыжы долу. Але ён не хаваў ужо свае галавы, ён агледзеўся навакол і ўбачыў, што ззаду цераз узмежак з-пад паламанага плоту вылазіць яшчэ нехта. Ён ціхенька гукнуў яго і махнуў ля зямлі рукою.

Калі зноў сцямнела, ён пачуў блізкі шорхат і неўзабаве ўбачыў шараватую ў цемры постаць. Баец быў незнаёмы, пэўна, сувязіст, ён падпоўз да Тарасікава і моўчкі запытальна ўставіўся ў яго невыразным у цемнаце тварам. Тарасікаў павярнуўся і паклаў на зямлю абедзве свае скрынкі.

— На, бяры. Паможаш! — зусім ціха, ажно сам здзівіўся (ці не страціў голас), прашаптаў хлопец і адразу закашляўся. Баец зразумеў, падпоўз бліжай, нясмела і няспрытна загрэбаў пальцамі па скрынцы, каб узяць як яе, і тады Тарасікаў, сутаргава, нястрымна кашляючы, убачыў, што ніжняя сківіца ў байца дзіўна неяк адпала і дрыжыць. Спачатку ён

здзівіўся, падумаў, ці не пакалечыла хлопца, а пасля здагадаўся: гэта ж ён напалоханы і баіцца.

— Бяры, бяры хутчэй! — гучней ужо загадаў Тарасікаў і, ускочыўшы, пацягнуў кулямёт.

Калі ён, змораны, упаў праз хвіліну, байца ля яго не было. Тарасікаў пачакаў трохі, угледзеўся ў цемру і паклікаў:

— Гэй, дзе ты? Сюды!

Валюхаючы задам, той неўзабаве прыпоўз, але ўсё стараўся трымацца ззаду, за кулямётам, пэўна, каб прыхавацца за яго. Тарасікаў у гэты раз павярнуўся і лепей разгледзеў твар новага свайго памагатага. Гэта быў малады, як і ён, хлопец, толькі, відаць, доўгі, бо цыбатыя ногі яго шырока раскінуліся ў доле, твар вузкі, востры падбародак усё ціха ляскаў і ледзьве не кранаўся долу.

— Ты што, баішся? — запытаў Тарасікаў. Баец паглядзеў управа, улева і, заікаючыся, вымавіў:

— Пят-т-рова раз-зарвала. Там на уз-змежку.

— Якога Пятрова?

— С-сяржанта, камандзіра л-лінейшчыкаў. Т-там, — паказаў баец цераз плячо, а сам, відаць, быў ні жывы ні мёртвы ад страху.

Тарасікаў адчуў, як нібы сцюдзёнай вадой пляснула па яго спіне, бо яму здалося, што гэта забіла Жаркова. Ён трошкі ўжо асмялеў, адкараскаўся ад баязні і прывык за гэтыя кароткія, але дужа страшныя хвіліны, да таго, што смерць толькі палохае, але абыходзіць іх бокам, а тут аказваецца, што вось быў чалавек і загінуў, да таго ж гэтак блізка ад яго. Хлопец памаўчаў крыху, збянтэжаны, а пасля намогся і саўладаў з сваёй ніякаватасцю. Адчуўшы сябе старэйшым тут і ў нейкай меры начальнікам, ён стрымана сказаў:

— Ну ладна. Давай пайшлі. Не адставай.

## 8.

Ён пабег з кулямётам, за ім са скрынкамі, трошкі адстаўшы, трухаў сувязіст. Аднойчы здалёку ад хат вёскі некуды наўскасяк праз гароды пырснула сінімі пісягамі чарга — кулямётчыкі адразу ўпалі, але Тарасікаў неўзабаве спахапіўся і ўзяў хобат. Сувязіст жа ляжаў ззаду.

— Уставай, не палохайся, — сказаў яму Тарасікаў. — Калі бачыш — ляціць, гэта не трапіць. Той, што ў цябе, — не ўбачыш.

Сувязіст змоўчаў і ўстаў, відаць, ён падумаў, што Тарасікаў болей спрактыкаваны франтавік: усё ж стралок, кожны дзень пад агнём, не тое што штабны сувязіст. Тарасікаў, на сваё здзіўленне, і сам адчуў сябе куды болей вопытным і смялейшым, чым гэты напалоханы хлопец. Гэтая акалічнасць ці, можа, тое, што агонь кулямётаў прымоўк, надало хлопцу рашучасці, і ён ужо падбадзёрыўся крыху.

Так яны дабраліся да пунькі, з-за якой некалькі хвілін назад страляў нямецкі кулямёт. Яна адзінока вынікла з цемры дзіравай сваёю страхой і ціха тулілася тут пасярод агарода, на водшыбе ад вёскі. Нешта пагрозліва таемнае было ў яе змрочнай нахіленай паставе, і Тарасікаў, не дабегшы да будыніны некалькі крокаў, спыніўся. З-пад хат зусім ужо недалёкае

вёскі сям-там патрэсквалі чэргі, часам нізка па-над зямлёю вырываліся трасіруючыя маланкі, значыць, вораг не пакінуў вёску, але, відаць, націск нашых аслаб.

Тарасікаў узвалок кулямёт на нейкі ўзмежак і, зводдаль абыходзячы рог пунькі, нясмела зазірнуў у прыцемках на той яе бок. Пэўна, там нікога не было, тады ён паціху падкаціў кулямёт бліжай і спыніўся непадалёк ад вугла ля нейкага дрэўца, камель якога блішчэў белымі плямамі, пэўна, ад куль. Тут валяліся нейкія камяні, мабыць, ад разбуранай пабудовы, ляжала ўгрузлае ў зямлю тоўстае струхлелае бервяно, і Тарасікаў паставіў ля яго кулямёт. Сувязіст таксама лёг побач, але трошкі ззаду.

— Давай акапвацца. Лапатка ёсць?

— Н-не, няма, — усё заікаючыся, шэптам адказаў хлопец.

— Тады глядзі. Ляжы і глядзі, — загадаў Тарасікаў, а сам хуценька выняў з-за дзягі лапатку і, лежачы на баку, пачаў дзяўбаць цвёрдую, падмерзлую зямлю. Лапатка ўвесь час скрэбла па нейкай жарстве, часам высякаючы сіняватыя іскрынкі... Урэшце атрымалася неглыбокая ямка — адзіночная ячэйка для стральбы. Тарасікаў падпоўз да кулямёта і ўслухаўся.

Наўкола было ціха і нават, здалося б, глуха, калі б сям-там не выніклі з зямлі ціхенькія прытоеныя гукі, што сведчылі аб прысутнасці тут людзей. Над пунькай з'явіўся месяц. Акружаны раямі яркіх, дробненькіх і зусім распыленых зорак-блішчынак, ён, бы прыплюснутае вока, строга і ўважліва пазіраў у чорны змрок зямлі. Коўш Вялікай Мядзведзіцы над балацявінай закінуўся чарпаком угору. Па сцішанасці і суладнай мігатні зор відаць было, што час набліжаўся да поўначы. Бойка, відаць, выбілася з сілы і сціхла, але ад хат яшчэ раз-пораз узляталі ракеты.

Тарасікаў ужо паспакайнеў крыху, бойка прыціхла, і хлопцу хацелася пагаманіць. Праўда, ціхенька ныла, не перастаючы, трывога за Жаркова, нідзе не чутна было яго ўначы, але і сам Тарасікаў ужо прыдбаў нешта дужэйшае ў сабе, што дало яму моцы трываць і як-колечы ўпраўляцца на полі бою.

— Ты адкуль сам будзеш? — запытаўся ён сувязіста.

Той падпоўз бліжэй і трошкі захінуўся разам з ім кулямётным шчытком.

— Я гэта, пярмяцкі...

— Глядзі ты! — шчыра здзівіўся Тарасікаў. — І я ж пярмяцкі.

— Д-дык землякі?

— Землякі, выходзіць. А ты даўно ў гэтым палку? — узрадавана запытаўся Тарасікаў.

Сувязіст падумаў.

— З паўгода, мабыць. Як з Грахавецкіх лагераў прыбылі, дык і сюды. У роце сувязі быў.

Сувязіст перастаў ужо ляскаць сківіцай, а Тарасікаў падумаў, што ён куды болей даўні франтавік за яго, Тарасікава, а глядзі ты, які баязлівы. «Гэта што ж, — занепакоена падумаў хлопец, — няўжо і мне не пабароць свайго страху, так ужо і быць усё жыццё трусам?» Зямляк жа яго тым часам ляжаў ціхенька, але, мабыць, і ён трошкі адышоўся ад спалоху і пачаў азірацца.

— А ц-ці можна г-гэта... з-закурыць? — прашаптаў ззаду сувязіст. — Т-так хочацца...

— Што ты! — здзівіўся Тарасікаў. — Там жа немцы!

Сувязіст пакорліва памаўчаў трохі, а пасля запытаў зноў:

— Гэта ты страляў там ля балота?

— Я, — сціпла сказаў Тарасікаў. — Страляў, толькі ці трапіў у каго ці не...

— Добра з кулямётам! — ужо перастаючы і заікацца, зазначыў сувязіст.

— О, гэта, брат, штука! — згадзіўся Тарасікаў.

— Сп-праўны кулямёт недаступны для пяхоты праціўніка, пакуль у ім ёсць патроны і жывы хоць адзін кулямётчык, — паведаміў хлопец. — Гэта ў настаўленні напісана.

— У мяне, ведаеш, брат — лётчык, пісаў — Героя далі. Другі недзе падводнік, маёр ці, як у іх там, — капітан трэцяга ранга называецца. А мне вось кулямётчыкам выпала. Сам папрасіўся ў запасным...

— А я вось па сувязі, — уздыхнуў баец і, памаўчаўшы, зноў загаварыў пра курава.

— Слухай, можа, я за пуню схаваюся?.. Хоць дзве зацяжкі?

— Не, лепей не трэба. Патрывай як-небудзь.

Сувязіст паслухаўся і застаўся, дзе ляжаў, відаць, ва ўсім падпарадкоўваючыся ўладзе кулямётчыка. Тарасікаў з-за шчыта пільна пазіраў наперад, там, недзе ля хат, раз-пораз ляскалі адзіночныя стрэлы і чыркалі чэргі, пасля пырснула ў поле трасіруючым струменем. Некалькі куль ударыліся ў цемры аб зямлю і агнявымі кроплямі міганулі ў неба.

— Ці мы тут доўга будзем ляжаць? Можа б бліндаж які змайстраваць? — спытаў сувязіст. Відаць, ён ужо асвойтаўся крыху і не хацеў ляжаць так, без справы. Але Тарасікаў баяўся, каб ён не варушыўся, хлопцу хацелася сядзець як мага цішай, здавалася, так было схоўней.

— Хто яе ведае, — сказаў ён. — Можа, зноў у атаку?

У вёсцы тым часам трэснула некалькі стрэлаў запар, пачулася, нібы хтось крыкнуў, і Тарасікаў, насцярожыўшыся, узяўся за ручкі кулямёта.

— Хоць бы яны не палезлі... немцы, — сказаў ён. — А то... Ты стужкі набіваць умееш? — запытаў Тарасікаў, адчуўшы, што нічога яшчэ не мінула — ні бой, ні небяспека, і трэба быць гатовым да ўсяго горшага. Але сувязіст ззаду чамусьці маўчаў.

— Кажу, давай стужкі наб'ём. Дзве ж парожнія ў нас...

Зноў маўчанне ззаду. Тады, учуўшы нядобрае, хлопец крутнуўся да сувязіста, які ціха ляжаў, чамусьці ўткнуўшы галаву ў рукі, і не кратаўся.

— Гэй, ты што?.. Га?.. Чаго?

Рукі яго задрыжэлі, калені ўраз аслабелі, ён ухапіў земляка за плячо, перавярнуў яго падаткае, незразумела абвялае цела на бок, стрыжаная галава без шапкі важка і бяссільна перакацілася ў цвёрдым доле, і ў чорнае неба вытыркласа вострая нерухомая ўжо сківіца.

— Чаго ты?.. Што табе?.. Што?.. — гукаў Тарасікаў, пакуль не згледзеў на сярэдзіне ягонага лба цёмную мокрую плямку.

— Братка, што ж гэта ты?.. Як жа гэта? Хто ж цябе так? — дрыготкім роспачным голасам шаптаў Тарасікаў і думаў: «О, божухна, забіла! Як жа

гэта ў яго трапіла? Чаму ж я яго не пусціў пакурыць!.. Праклятае ліха — ён жа адчуваў, мабыць, сваю пагібель і прасіўся, а я... От горачка!..»

Але перайначыць ужо нічога нельга было. Тарасікаў пасядзеў так, збіты з панталыку недарэчнаю смерцю таварыша, і адпоўз на крок у сваю ячэйку.

Хлопцу зноў стала вельмі ніякавата і вельмі адзінока і боязна. Лежачы ля кулямёта, ураз змаркатнелы, ён раз-пораз пазіраў то наперад, то па баках, то на мёртвага земляка і думаў: «Як жа яго прозвішча? Хоць бы спытаў, як прозвішча! Ах, зямляк, зямляк! Нашто ж ты пайшоў за мной, нашто слухаўся? Прывёў я цябе на пагібель сюды...»

Толькі што пераможанае нешта ў сабе дало яму апору, ужо з'явілася ўпэўненасць ў сабе і знікла адзінота, знайшоўся таварыш у нялёгкае яго справе, і раптам драпежны вайсковы лёс адабраў яго. І зноў рынулі ў хлопцаву душу пакуты.

Але калі пойдзе бяда, адчыняй шырай вароты, кажа народная прымаўка. Не паспеў яшчэ Тарасікаў хоць крыху ачуняць ад гэтай свае бяды, як ззаду, за балацявінай раптам загрукацелі аўтаматы, іржанула граната, а пасля раздаўся здзічэлы ад жаху чалавечы крык. «Немцы! — мільганула ў хлопца здагадка, ад якой пахаладзела ўнутры. — І ў тыле немцы!..»

## 9.

Адзін з двух, каго паўгадзіны таму ўбачыў на лёдзе Жаркоў, быў радавы Рыбчонак.

Ён упаў тут, як толькі першыя кулямётныя трасы пранізалі ноч, — упаў, дзе бег, на лёд ля кустоў, сцяўся ўвесь, задрыжэў ад неспадзёўкі і першаю яго думкай было: «Прапаў!»

Рыбчонак сапраўды быў прыглушаны мінаю і не прыкідваўся, калі перапытваў, бо недачуваў. Каманды Жаркова ён не пачуў зусім, але пад святлом ракет неўзабаве ўбачыў, што байцы перапаўзлі да ўзмежку. Ля яго ўжо не было нікога, адзін толькі паранены незнаёмы сувязіст жахліва стагнаў, бы прыдушаны, — выціскаў з грудзей натужна-недарэчнае «а-а-а-а-а!.. а-а-а-а-а!..» Ён ужо бадай што не кратаўся, не клікаў на дапамогу, і Рыбчонак не дужа і звяртаў на яго ўвагу. Абвостраным чуйным пачуццём баец адразу згадаў, што і другая атака «лопнула», што яны зноўку трапілі ў бяду ды яшчэ горшую, чым першы раз, бо адступаць цяпер, калі ўжо дабраліся сюды, яны не маглі. І ён адчуў блізкую пагібель над сабой. Крыху ажывеўшы праз хвілін пяць, хацеў падацца ў кусты, назад, але там гуляла траскоцце ад разрыўных, а наперадзе праз пяцьдзясят крокаў быў узмежак. І, пакінуўшы на лёдзе нерухомае, ёнклівае цела сувязіста, Рыбчонак у кароткі між дзвюма ракетамі прамежак цемры хуценька падпоўз туды, дзе ляжалі ўсе і, як і ўсе, падбіў галаву пад узмежак.

Так ён ляжаў, мусіць, доўга.

Немцы абрушылі на гэтае невялічкае сховішча пякельны агонь, і ў Рыбчонка расло перакананне, што наперад ім дарогі не будзе. Ён пачаў чакаць таго моманту, калі хто першы кінецца назад, бо, думаў ён, і тут, на ўзмежку, ляжаць нельга — спакваля іх пераб'юць па адным. Ён ужо шка-

даваў вельмі і лаяў сябе за тое, што неastаўся ў кустах, усё ж там было далей ад гэтага пекла і, можа, як-небудзь пашанцавала б уратавацца.

Але назад ніхто не ўцякаў. Аднойчы па ланцугу, лаючыся, прабег апантаны Жаркоў, пасля ён упаў і прапаў недзе, і ў Рыбчонка разам з устрывожанасцю з'явілася і кароценькая помслівая злараднасць — так яму і трэба! (Ён быў злосны на сяржанта, што той не дазволіў яму пайсці ў санчасць.) Хоць бы на адну ноч, на адну толькі жахлівую ноч вырвацца з гэтае роты, у якую яго ледзьве не сілком зацягнуў вайсковы лёс, а там, можа б, як і ўдалося выжыць... Але менавіта вайсковы лёс прыпёр цяпер яго да вялізнай нябачнай сцяны смерці, якая няўхільна паўстала на яго жыццёвым шляху, і Рыбчонка ахапіў жах блізкай пагібелі.

Так, лежачы пад узмежкам, прыдушаны сваімі пакутамі, Рыбчонак раптам заўважыў, што варожы агонь пацішаў, перасталі трэсці зямлю мінныя выбухі, змоўклі бліжнія кулямёты, недзе знікла буйнакаліберная цяжкая тарахцелка, што біла з фланга. У святле чарговай ракеты ён ціхенька прыўзняў голаў і ўбачыў, як нехта сігануў цераз узмежак пад плот, іншыя, відаць, ужо раней паўставалі і падаліся наперад, і цяпер тут паблізу не было нікога.

Значыць, усё ж пайшлі? Пайшлі ў атаку, туды, у новае пекла, бліжэй да ворага. Гэта зноў пасля кароценькай палёгкі засмуціла Рыбчонка. Як добра было цяпер кінуцца ў кусты, назад, далей ад гэтага ліха! Але ўцячы, ведаў ён, было нельга. У тыле для яго, здаровага, месца няма, там начальства, заградатрады, трыбунал і штрафныя роты. Трэба было неяк хітрыць, выкручвацца, быць тут і ў той жа час з усіх сіл ратаваць сябе — ратаваць, каб выжыць, не зважаючы ні на што.

Калі стала цёмна, ён устаў, пралез пад плот, трошкі прабег па гародзе. Нідзе нікога не было чуваць. «Ці, можа, пабіла, ці ўжо так далёка адбегліся?» — падумаў Рыбчонак. Але агонь сапраўды стаў рэдкі, напэўна, перадавое нямецкае ахраненне адышло і дало магчымасць нашым падысці бліжай да вёскі. Рыбчонак, прыгнуўшыся, яшчэ падбег крыху і ўпаў, пільна ўзіраючыся ў цемру і вельмі асцерагаючыся нарвацца дзе на якое ліха.

Так ён перабег вузенькую палоску гарода, пераскочыў яшчэ адзін узмежак, наперадзе на фоне зорнага неба з'явіўся хмызнячок, пэўна, які садок ці вішэннік. Здалося яму, там нехта варухнуўся, адпаўзаючы. «Добра, — падумаў Рыбчонак, — хай ідзе першы, я за ім». Самае непрыемнае ў атацы было ісці наперадзе ўсіх, нават на крок, на паўкрока першым, і чым далей ззаду ад іншых, тым было лепей. Рыбчонак заўжды вельмі дбаў, каб неўпрыцям не апярэдзіць каго, бо першаму — першая куля, першы — гэта пэўны смяротнік.

Паляжаўшы крыху, ён падумаў, што трэба яшчэ трошкі прабегчы, каб лепей бачыць таго, у вішэнніку, і кіраваць за ім. Калі той падасца наперад, тады пабяжыць і ён, калі той будзе ляжаць, не ўстане і Рыбчонак. Той, наперадзе, будзе яго заслонай.

Але раптам сталася штось нечаканае. Варта было яму ледзь варухнуцца, устаючы, як з цемры вішэнніку бліснула, нешта коратка ірванула паветра над яго галавой і адначасна тузанула шынель на спіне. На лапатцы адразу запякло, нейкая мокрая цеплыня заказытала цела пад вопраткай. Рыбчонак спачатку жахнуўся, а пасля ўліп у зямлю, прыціснуўся, стаіўся і, здаецца,

ажно заплюшчыў вочы. Ён яшчэ не зразумеў, як трэба, што сталася, але ў прадчуванні нечага велізарна важнейшага на нейкі час, здаецца, перастаў дыхаць.

«Паранены!» — як выбух, пыхнула ў галаве першая думка, і Рыбчонак з нечалавечым імпэтам крутнуўся на доле. Пакінуўшы, дзе ляжаў, вінтоўку, ён паўзком сунуўся ў цемру. «Паранены! Паранены!» — вялізная шчаслівая ўзнёсласць апанавала ўсю яго істоту. Цяпер канец пеклу, смяротнай пагрозе, страху і пакутам — цяпер ён вольны, няхай нават скалечаны, няхай баліць — усё гэта драбяза перад вялізнай раптоўнай надзеяй — выжыць! На спіне, недзе пад вопраткай распаўзаліся струмені крыві, пякло, ірвала лапатку, але ў сярэдзіне вялікага болю не было, рукі і ногі дзейнічалі, і Рыбчонак ірваўся цераз глыжы, далей ад гэтага жахлівага рубяжа, туды, наперад — назад, у выратоўчую цемру.

Праз колькі хвілін, скульнуўшыся на галаву з узмежка, ён пачуў ззаду стрэлы і азірнуўся — не, гэта не ў яго, гэта той з вішэнніка біў некуды ўбок. У цемры паблізу затупацела нешта, пасля хтось заенчыў, пэўна, падстрэлены. Адсюль, з-за ўзмежка, Рыбчонку можна было б зняць таго немца-аўтаматчыка, але ён аж спалохаўся гэтае думкі — яшчэ самога заб'е! Ён рады быў вялізнай раптоўнай радасцю, што выжыў, што займеў нарэшце пэўнае права на паратунак, што цяпер ён паўнапраўны хадок у тыл, дзе было жыццё, шпіталь, чыстая бялізна, спакой і клопаты аб ім многіх людзей. Да д'ябла гэтае пекла, кроў і смерць, ён адваяваў сваё. Хоць на адну ноч, хоць на гадзіну, толькі б далей адсюль і жыць, жыць...

Той, што заенчыў у цемры, неўзабаве і сціх, і Рыбчонак, прадзіраючы на жываце лейтэнантаў паўшубак, па-пластунску шыбаваў далей. Урэшце ён дапоўз да ўзмежка з плотам, адкуль яны ўставалі ў атаку, пераваліўся цераз яго і тут толькі трошкі адпачыў. Тут ён падумаў, што трэба было б узяць вінтоўку, бо ў тыле могуць спытаць, дзе яго зброя, але пасля рашыў — чорт з ёй! Урэшце, можна знайсці вінтоўку ў балацявіне і далей, скрозь поўна забітых, яшчэ не было чаго — вяртацца ў тую ліхасць! На лапатцы ўжо вельмі пякло і балела, але ўнутранасці, напэўна, уцалелі, і Рыбчонак адчуваў сябе, як заўжды, — спрытным і дужым. Праўда, цякла кроў, ужо прылiпала да цела сарочка, толькі і гэта не дужа непакоіла чалавека. Не бяда, што кроў — можа ж, не выцячэ ўся. Толькі б хутчэй у тыл, у санчасць, медсанбат, там зробяць пераліванне, апярыруюць, усё будзе найлепшым чынам, трэба толькі вынесці адсюль ногі.

Там, ззаду, адкуль ён выпаўз, сям-там тарахцелі і пырскалі агнём чэргі, але ў балацявіне куды як пацішала, і Рыбчонак, прыгнуўшыся, рухава пусціўся да гэтай апошняй небяспечнай мясціны. «Паранены! Паранены! — свідравала яго адчуванне шчаслівая думка. — Паранены ў баях за радзіму, у часе атакі!» Цяпер ён адчуваў, як вырас сам ва ўласных вачах, і зразумеў, што кошт ягонага жыцця патроіўся. Толькі б далей адсюль, толькі б далей!..

Ён перабег падзёўбаны кулямі ўскраек балота і апынуўся ў хмызняку. Тут яго ўжо ніхто не спыніць, не верне, і яму няма чаго хавацца ад каго, ён паранены і законна ідзе ў тыл, у шпіталь. Толькі хутчэй, хутчэй! І ён бег між хмызззя па аплюханым гразёю лёдзе, не дужа ўглядаючыся ў дарогу і адно асцерагаючыся толькі, каб не трапіць у якую калдобіну.

І ўжо так блізка быў паратунак і з ім усё, аб чым марылася, што несла найвялікшае зараз шчасце — жыццё. Ён ужо мінуў балацявіну, выбег з кустоўя, далей пралегла ў цемры чорная ралля касагора, па якой яны тройчы пратупалі туды і назад. Пасля коўзкага лёду на ўскрайку балота гучна зашархацеў пад ботамі снег, і скрозь гэты шорхат Рыбчонак раптам учуў людзей. Ён не паспеў яшчэ ні згледзець іх, ні нават сцяміць, ішлі яны ці сядзелі, як з цемры прыцішана і жахліва гыркнулі варожыя і такія недарэчныя цяпер воклічы:

— Хальт!.. Хальт!..

Рыбчонак ад жаху прысеў, на момант здалося яму, што гэта нечы легкадумны недарэчны жарт, але затым перуном ударыла ў сэрца здагадка: «Немцы!» Яны раптоўна абрынулі на яго пагібель, ушчэнт разбівалі ўсе яго мары і так недарэчна неспадзявана апынуліся тут, што ён раптам, згубіўшы ў сабе чалавека, як падбіты мядзведзь, зароў немым роспачным крыкам, скочыў назад, убок, і з нечалавечаю сілай рвануўся ў хмызняк. Наўздагон адразу ж лапотка ўдарылі чэргі, кулі тузанулі полы шыняля, тупою агнянай пікай ударыў у паясніцу пякельны боль, ён пранізаў усё цела, ад пят да галавы, і Рыбчонак з разбегу пляцнуўся ў куст хмызняку. Спотырча ён праляцеў скрозь яго, выцяўся аб лёд галавой і спіною саўганўўся па лёдзе. Каска, парваўшы падбародны раменьчык, коса пакацілася па лёдзе, жахліва забразгаўшы ў густой ціхай цемрадзі...

## 10.

Ужо не было думкі: «Прапаў» — не было наогул ніякае думкі, адзін толькі боль, вялізны і нясцерпны, упіўся сваімі кіпцюрыстымі лапамі ў скрываўленае Рыбчонкава цела. Ён трохі адпоўз з таго месца, дзе ўпаў, падсунуўся да купіны з паламанай альхою, з усяе сілы зацяў у сабе дыханне, намагаючыся стрымаць, сцішыць тым боль, з якім нельга было жыць.

У кустоўі па лёдзе нехта прабег, гулка лязгаючы абцасамі. «Немцы!» — абыякавы ўжо да ўсяго, адзначыў Рыбчонак. Ад стомы і болю грудзі яго раздзірала неадольная горыч, кожны рух, уздых, нават думка скразным болем аддаваліся ў жываце і ў паясніцы. Не стрымаўшыся ад гэтага болю, Рыбчонак застагнаў — кораценька, ціха і вельмі пакутна.

Толькі цяпер ён зразумеў, што ўсё ўраз перавярнулася ўгору дном, што ззаду і наперадзе немцы, а ў яго рана і боль, якія наўрад ці пакінуць яго ў жыцці. Гэта быў канец, пакутны жахлівы канец яго дарагога, адзінага, самага неабходнага жыцця, якое вось-вось абарвецца і болей ніколі, нідзе, ні ў кога не паўторыцца. Агнянай пякельнасцю ўзнялася ў пачуцці жаласць да сябе, шкадаванне і позняе раскаянне — што даў гэтак неразумна ашукаць сябе, што не знайшоў якога лепшага спосабу ўратавацца. Гіне ён у гэтым балоце, пагінуць і тыя, што яшчэ засталіся ў вёсцы, бо немцы акружылі ўсіх іх, заманілі ў гэтую пастку. Цяпер усё. І хай! Загіне Рыбчонак, і яму не шкада нікога, няхай цяпер увесь свет ляціць у тартарары, цяпер ужо нічога не мела ніякага сэнсу...

«Але як жа гэта?.. Як?.. Чаму?.. — неўзабаве слупам паўстала ў галаве неўразумелае запытанне. — Чаму так недарэчна, так няўдала, так рана і так балюча?..»

Ён хацеў сказаць сабе, чаму так недарэчна ён гіне тут, калі заўсёды так дбаў пра сваё жыццё і больш за каго іншага зрабіў для яго паратунку? Хіба ён не бярог сябе, хіба не туліўся да самай зямлі, хіба не хітрыў, не выкручваўся, як толькі можна было, каб зрабіць як лепей для сябе, для свайго жыцця — ніколі не лез на ражон, а так ціхенька, хітравата, можа, не заўжды сумленна, але затое і без вялікае шкоды для іншых. Шкоды нікому ён не хацеў і нават тады, калі ў чым была маленькая выгода яму, але што ж зробіш, калі ў жыцці ўладкавана так, што добрае сабе можна прыдбаць, вельмі часта падсунуўшы благое іншым...

Недзе бліскалі-гарэлі ракеты, іх белае святло торапка блукала між кустоў па ледзяным доле. Зверху праз суччо хмызняку блішчэла палавінка месяца і гарэлі, споўдалі, іскрыліся па-зімоваму яркія зоркі — яны поўніліся сваім адметным ад зямлі клопатам, у іх была там суладнасць, згода, поўныя вялікага незямнога сэнсу...

Рыбчонак ціха енчыў ад болю, сутаргамі біўся на лёдзе, і ў яго тлумам затуманенай галаве снавалі, жылі і біліся ў роспачнай безадказнай маўклівасці вялікія зараз думкі-пытанні: чаму? і за што?

Чаму гіне іменна ён, малады і здаровы дваццаці шасці год чалавек, які толькі яшчэ пачаў ладзіць сваё жыццё, свой дабрабыт і так многа яшчэ не пазнаў, недалюбіў, недагуляў, недабачыў... Дзе ён зрабіў памылку, на чым пакаўзнуўся, што не выканаў з мудрых бацькавых наказаў, такіх, накшталт: «Заўжды кумекай, як жыць», «Не глядзі, што людзі кажуць, глядзі, што робяць», «Слухай усіх і нікому не вер», «Усё, і благое, і добрае намотвай на вус, тады будзеш як туз».

Такое гэта было тады шчаслівае і далёкае жыццё: бацька яго працаваў на гарбарным заводзе і зарабляў някепска. Але тое, што было атрымана па ведамасці, складала толькі пэўную долю з прыбыткаў іх гаспадаркі, якая складалася з хаты, абшаляванай у елачку, гарода з садком, раўка, на якім яны збіралі капешкі са дзве сена для сваёй каровы. Яшчэ нейкую і немалую долю іхняга бюджэту бацька здабываў таемна. Рыбчонак і дагэтуль не ведаў усяго, але памятаў, што ў бацькі заўжды было некалькі вельмі патрэбных сяброў, якія любілі выпіць, з імі «за кампанію» піў і бацька, гэты скупы скнарлівы чалавек прапіваў часам і свае грошы. Але малады Рыбчонак ведаў, што бацька п'е не так сабе, што ён п'е з людзьмі, якія былі патрэбны яму. Яшчэ дзіцём Рыбчонак даведаўся, што ўсе людзі дзеляцца на патрэбных і нікчэмных. Патрэбных бацька прыводзіў дадому, матка пякла ім яешню, патрэбным ён ірваў у садку кошыкі яблык і сам адносіў у пэўныя адрасы. Непатрэбныя боязна ўваходзілі ў брамку, дзе іх сустракаў звяглівы Валет, бацька, перш чым падысці і абараніць іх ад сабакі, бубніў пры сабе кепскія словы. Непатрэбнымі людзьмі былі шмат якія суседзі, ад якіх яны адгароджваліся высокімі з калючым дротам платамі, некаторыя рабочыя з завода, а таксама матчына цётка Галена і яе дачка Зоя, што некалькі з ім вучылася ў гарадскім тэхнікуме. Спачатку Зоя жыла ў іх, а затым перайшла ў інтэрнат, і калі часам наведвалася да іх, бацька кожнага разу хмурыў бровы і маўчаў. Аднойчы яны прыйшлі ўдзвюх з Галенай (тая была з вёскі), цётка прынесла гасцінцаў — кілбас, сала, сыр, загорнуты ў вільготную анучку, бацька павесялеў трохі, лагодна развітаўся, а пасля, калі праводзіў сваякоў за брамку, заклапочана шкрэб за вухам і пытаўся ў маці:

— Чаго б гэта Галена раздобрылася? Няйначай, прасіць што будзе? Нездарма гэта — ласункі.

Галена аднак болей не прыйшла да іх, паехала некуды на працу і Зоя, а Рыбчонак доўга чакаў, калі ж гэта высветліцца, чаго таемна дабівалася цётка. Але чакаць ім давялося марна.

Жылі яны моўчкі, сквапна да ўсяго, што можна было ператварыць у грошы: маці кожнага ранку выпраўлялася на рынак, прадавала гародніну, малако, кветкі і з-пад палы — хромавыя нарыхтоўкі і падэшвавы тавар на боты. У іх быў лепшы на вуліцы дом, пакрыты цынкаванай бляхай, спакваля яны паспраўлялі хатнюю абставу, купілі патэфон, швейную машыну. У Рыбчонка заўжды былі цэлыя башмакі, паліто, цёплая шапка, сястра Нэля рыхтавалася замуж і накладвала ўсячынай паточаны шашалем бабін куфар.

З самага маленства Рыбчонак засвоіў бацькоўскія ісціны: «не ўкрадзеш — не пражывеш», «з праўды штаноў не пашыеш», «дурняў работа любіць». Скончыўшы шэсць класаў, ён кінуў школу і пайшоў на той жа гарбарны завод, дзе працаваў і бацька. Бацька тады ўжо зусім узяў яго пад сваю апеку — яны па чарзе кралі з красільні скуры і выкідвалі іх уначы за плот. Плот быў дашчаты, стары і паламаны, і ў глухім месцы адзін перакідваў, а другі падбіраў у крапіве. Але прапажу скур на заводзе прыкмецілі, паставілі на ахову яшчэ некалькі вахцёраў, красці стала трудней. Бацька доўга думаў, як быць, бо без «свежай» капейкі жыць стала цяжэй, а галоўнае, нецікава, і ён удумаў. Ён стаў старацца на працы, некалькі месяцаў падрад даў самую высокую на заводзе выпрацоўку, прыдумаў рацыяналізацыю. Усё гэта не засталося непрыкмечаным, яго прэміявалі, залічылі стаханаўцам, аб ім сталі пісаць у газетах, ён заўжды сядзеў у прэзідыумах розных сходаў. Вахцёры ў прахадной, як і ўсе на заводзе, пранікліся павагай да яго і рэдка калі для прыліку мацалі яго кішэні, а часцей прапускалі так — ніхто не наважваўся і падумаць, што такі чалавек можа што ўкрасці. А Рыбчонак стаў выносіць мяккія хромавыя скуркі ў халявах, пад світкай, у штанах. Увечары дома, калі зачыняліся стаўні, ён у спальні вымяраў свае дэцыметры і хітра пасмейваўся:

— Выгода, а што думаеш! І стаханавец — выгода. Хе-хе. Партбілет бы яшчэ агораць...

Не, малады Рыбчонак не адстаў ад бацькі. Праз гады тры ўжо ён, а не бацька, стаў прыносіць асноўны даход у іх абзелянёны, увіты кветкамі дом. Ён дамогся большага, чым тое, што ўмеў бацька, — скааперваўся з хаўруснікамі і скуры хромавыя, шаўровыя і падэшвы вывозілі з завода цераз прахадную, на машынах, у цюках і скрынках, вядома, па фальшывых дакументах. У армію яго не ўзялі, ён ажаніўся, аддзяліўся, жонка не мела клопату аб грошах, ладзіла дома гаспадарку, ён даставаў дэфіцытны шырспажыў (усюды ж былі сябры), грошай хапала, і жыццё здавалася раем.

Гэты рай раптоўна стаў пеклам, калі пачалася вайна і яго прызвалі на службу.

Многія, хто быў побач з ім, апанурыліся, змарнелі, засмуткавалі, а Рыбчонак сказаў сабе: глядзі і думай, тужся, не можа быць, каб і тут не

было прадухі. Старая бацькава ўхватка вельмі спатрэбілася і ў войску, Рыбчонак пакрысе агледзеўся і стаў кеміць.

Аднойчы, яшчэ будучы ў тыле ў ахоўным чыгуначным батальёне, ён заснуў на пасту. Заснуў па-дурному, таму што хацеў спаць: прысеў на канец таўровай бэлькі маста і знямог. Яго разбудзіў начальнік каравула, пасля добрай прапаркі няўдалага вартавога пасадзілі на гаўптвахту. Там ён спярша засмуткаваў, а пасля згледзеў, што сядзець пад арыштам і нічога не рабіць, калі ўсе знясільваюць ад працы, нарадаў, вучобы, — проста самае лепшае з усяго магчымага ў гэтых абставінах. Тое, што гэта было непрыгожа, ганебна, не бралася ім у разлік, думка і адносіны да яго таварышаў не шмат што значылі для яго, — важна было, каб добра жылося самому. І ён пасяброваў з гаўптвахтай, не цураўся яе кожны раз, калі меркавалася нешта горшае — выезд, якая работа або капанне акопаў. Трапіць на яе не было дужа цяжка — у камандзіраў хапала злосці, варта было пасварыцца са старшыной ці  ўзводным.

На фронце стала горш, тут не было гаўптвахты, і трэба было шукаць нешта новае, каб застацца жывым. Сноўдаючы ў траншэях, Рыбчонак многія дні і ночы ламаў над тым сваю галаву, прыглядаўся — людзей у тылавых падраздзяленнях было не менш, чым у ротах на перадавой, але шляхі туды да часу былі невядомы Рыбчонку. Вырвацца з роты было страшэнна цяжка, амаль немагчыма. Спачатку ён спрабаваў, як толькі мог зрабіць гэта, праз санчасць, ды ўсе тыя спробы скончыліся канчаткова і зусім няўдала. Ды і што маглі зрабіць медыкі, калі здароўя ў маладога байца ніколечкі не бракавала. Тады ён сунуўся да тылавікоў — інтэндантаў, абознікаў, тэхнікаў — і там здарылася, што яму ўшанцавала.

Неяк на агнявой пазіцыі сямідзесяцішасціміліметровай батарэі ён убачыў, як двое хлопцаў-артмайстроў рыхтавалі гармату для стральбы. Хлопцы былі з тылавой артмайстэрні, як толькі пачаўся артналёт, яны падхапілі свае скрыначкі і пабеглі хавацца. Рыбчонак падаўся за імі, яны закурылі разам, седзячы ў закінутым бліндажы. І там Рыбчонак даведаўся, што наогул артмайстроў не хапае, што нядаўна адзін з іх наскочыў ля дарогі на міну, а другі захварэў. Рыбчонак імгненна сцяміў, што тут ёсць шанец, назваўся хлопцам артмайстрам і даў зразумець, што быў бы не супраць, каб перайсці да іх у майстэрню. Хлопцы абяцалі далажыць начальніку артузбраення, і праз тыдзень, калі пачаліся баі з танкамі і выйшлі са строю шмат якія гарматы, а працы па іх рамонце пабольшала, яго перавялі ў артмайстэрню.

Ніхто яму не наладжваў экзаменаў, не рабіў допытаў — яго адразу паставілі разабраць накатнік саракапяткі, і ён раскруціў усе яго гайкі. Пасля ён рабіў звычайныя слясарныя работы, выконваў, што загадвалі, асаблівага кантролю за работай не было, давяралі так, а як усё тое напраўду выходзіла ў яго, ведалі толькі агневікі ў батарэях. Але агневікі былі далёка, на перадавой, гарматам, апроч як ад ягоных рук, перападала яшчэ ад мін, танкавых балванак і бомбаў, дабівацца якасці і падазраваць не было калі і не было каму. Рыбчонак ужо акрыяў духам, чаму-колечы і падвучыўся ў майстэрні. Жыццё ў дывізійным тыле пасля ротнага ланцуга было спакойным, сытым і вольным.

Але ўсё добрае рэдка і каротка. Прыйшла бяда — наступленне, і ён

зноў спатрэбіўся тут, у аслабелым, парадзелым авангардным батальёне. Аднойчы начальства ператрэсла тылы, і артмайстар Рыбчонак не паспеў, як кажуць, міргнуць вокам, як зноў апынуўся ў стралковай роце ў самы для яе цяжкі час...

...Ішоў пякельны, поўны нязносных пакутаў час, Рыбчонак слабеў, немцы болей не з'яўляліся тут, распластанае на лёдзе Рыбчонкава цела дрыжэла ад сутаргаў, болю і сцюжы. Смерць была блізка, яна ўсё настойліва падкамячвала пад сябе ягонае цела, нішчыла жыццё болем, ад пякельных кашмараў мутнела свядомасць. Часам ён забываўся, дзе ляжыць і што сталася з ім. Угары гарэла нейкая вельмі яркая зорка, час ад часу яна напамінала пра тое, што ён не пераступіў яшчэ таго апошняга парога, за якім была адвечная пустка. Ён то абуджаўся, то зноў заміраў, у разгарачанай свядомасці таўкліся прывіды, пасля з'яўляліся выразныя думкі і зноў пачыналася немаведама што. Здавалася Рыбчонку, што ён імчыцца некуды ў цемры, што хтосьці крычыць у ім, спрачаецца, скуголіць і гамоніць-скардзіцца ўрыўкамі ягоных фраз-думак.

Але смерць чамусьці не спяшалася так, як спярша здалося яму. Жыццё ўсё яшчэ змагалася з ёю, і часам Рыбчонак думаў, а можа ён выжыве. О калі б выжыць! Хоць бы пажыць яшчэ трошкі, хаця б некалькі тыдняў! Ён ужо згодны быў застацца ў роце, кожнага дня пакутваць пад лютым нямецкім агнём, мерзнуць, не спаць, галадаць, толькі б пажыць яшчэ з год, паўгода, месяц. Навошта ўсе тыя яго хітрасці, усе захады за ўсё жыццё, калі такі заўчасны і такі недарэчны канец? Ад роспачы, крыўды і па-ранейшаму пякельнага болю ён застагнаў глуха, цягуча, хрыпата, яго маглі ўчуць немцы, але цяпер гэта ўжо не мела значэння.

І раптам, здалося яму, сапраўды яго ўчуў нехта, нехта зводдаль ціха знаёма паклікаў:

— Гэй! Хто тут?

Рыбчонку здалося, што яго аж ускінула ад радасці — то былі свае, родныя, дарагія рускія людзі — яны выратуюць, дапамогуць, яны не аддадуць яго смерці. Раптоўна падзесяцярылася ў ім прага да жыцця і надзея, ён зварухнуўся і прастагнаў гучней, чым усе разы, з прыцятым унутраным крыкам:

— О-о-о-ох!

Яго ўчулі, нехта затупаў па лёдзе сюды — усё бліжай і бліжай, Рыбчонак яшчэ застагнаў і знямог — ад радасці, палёгкі і напружанай балючай надзеі...

## 11.

Да часу атакі заставалася яшчэ некалькі хвілін, як на КП пачулі шалёную страляніну ў баку шостай роты. Адчуўшы, што здарылася штось нечаканае, Васілевіч паўслухоўвася з хвіліну, потым устаў з долу і паспакайнелым голасам коратка кінуў Сахно:

— Я — туды! У шостую роту.

Сахно не запярэчыў і не пагадзіўся — ён ваўкавата змоўчаў, седзячы на краі варонкі. Люся варухнулася, паімкнулася наперад, бы хочучы нешта сказаць, але не сказала, толькі ўстала і зноў села ля рацыі.

Васілевіч пайшоў у цемры, натыкаючыся на нябачны ў доле нізкарослы хмызняк і ўглядаючыся ў той бок, дзе ва ўсю моц гулка грахалі чэргі, мігалі, пырскалі агнём ракеты — відаць, там сталася нешта нядобрае, і трэба было спяшацца. Вядома, Жаркоў быў някепскі сяржант, Васілевіч ведаў яго даўно і спадзяваўся, што ён не наробіць якога глупства, але ўсё ж ён быў толькі сяржант, а абстаноўка складвалася без асаблівых надзей на ўдачу.

Ён ішоў адзін. Ардынарца ў яго не было ўжо некалькі дзён (параніла, і ён адправіў яго ў медсанбат), браць якога салдата з роты цяпер, калі так дораг там быў кожны баец, ён не хацеў і таму абыходзіўся адзін з сувязнымі і Люсяй. Цяпер жа, зняты з камандавання, ён страціў і тых і ішоў адзін — пасунуў толькі кабур з «ТТ» бліжэй да спражкі і адклаў каўнер паўшубка, каб лепш было чуваць навакол.

Немцы ажно шалелі — усё кідалі за пагоркам у чорнае неба зіхатлівыя гранкі ракет, ва ўсю трашчэлі кулямётныя чэргі, мільготкія трасы, апярэджваючы прыглушаны зводдаль грукат стрэлаў, сям-там імкліва выскоквалі з-за хмызняку і агністымі пісягамі праразалі зорную цемру ночы.

Хоць капітан і супакойваў сябе, але ўсё ж прыкметна і міжвольна нерваваўся ад усяго, што сталася ў гэтую ноч, і цяпер ішоў, слепа дзёўбаючы ботамі ў хамлакі змёрзлай травы. Ён быў невясёлы і думаў, што людскія хібы — упартасць, самалюбства, пагоня за асабістым, пэўна, яшчэ доўга будуць прыносіць людзям вялікую шкоду. У каторы ўжо раз прыпаміналіся яму мудрыя словы яго старэнькага настаўніка, пасля калегі — Рыгора Іванавіча, чалавека, які нейкім чынам па-свойму аформіў шмат што ў яго, Васілевічавым характары, светапоглядзе, адчуваннях. Ён сказаў некалі: найгоршае хіба нясе чалавек, калі ён дабіваецца ад людзей нечага ў сваю карысць. Гэта злачынства.

То была праўда. І яшчэ казаў некалі Рыгор Іванавіч, што каб зразумець сутнасць сябра, трэ дачакацца, калі стане ён тваім начальнікам. Сёння акурат вось здарылася, што Сахно з сябра стаў нейкім чынам яго камандзірам, і вось цяпер толькі праявіўся ў поўнай меры ўвесь яго чалавечы склад. Васілевіч адчуваў, што для таго, каб утрымацца неяк на той ступеньцы, на якую выпадкова паставіў яго камандзір палка, Сахно не спыніцца ні перад чым, ужо тут ён забудзе, відаць, і на іх сяброўскія адносіны, і на тую цану, якой можа абысціся батальёну гэтае яго павышэнне.

І тым даражэй быў Васілевічу даўні, але незабыўны прыклад Рыгора Іванавіча, які ніколі не рабіў таго, што хоць бы ўскосным чынам несла карысць перш за ўсё яму, або таго, што пярэчыла яго перакананням. Калі ён патрабаваў бездакорнага ведання гісторыі, якую выкладаў, дык вучні разумелі, што гэта патрэбна ім самім, гэта не тое, што Вольга Наумаўна, іх класны кіраўнік, якая крычала калі ў канцы чвэрці: «Вы можаце сабе не цікавіцца, калі такія ёлупы, але вы здайце; мне ацэнкі патрэбны, а то паспяховасць завалілі: найгоршы клас у школе». Тое не дапамагала, як не дапамагалі і ўшчуванні, калектыўныя і індывідуальныя, вучні бачылі, што паспяховасць патрэбна была Вользе Наумаўне болей, чым ім, і не вельмі хацелі вучыцца дзеля такой крыклівай кабеты.

Колька Васілевіч пяць год з хлапчукоўскай улюбёнасцю адносіўся да гэтага старэнькага, трохі нехлямяжага з выгляду чалавека, у пацёртым

пінжачку, які ён бачыў на настаўніку з пятага па дзясяты клас, адзінокага, трошкі разгубленага, трошкі буркатлівага, але па сутнасці вельмі добрага і разумнага глыбокім розумам чалавека, які шмат ведаў, шмат пражыў і шмат перадумаў.

Пасля, калі Васілевіч стаў Мікалаем Пятровічам, маладым выкладчыкам фізікі, ён яшчэ болей прывязаўся да свайго старэйшага калегі, іх нешта блізіла ў двуадзіным імкненні пазнаць і перадаць складаную мудрую сутнасць жыцця. Яны разам сыходзіліся калі ўвечары, Рыгор Іванавіч любіў пачаставаць маладога госця чаркаю нейкай наліўкі, што пахла чамусьці валяр'янавым каранём, і яны гутарылі. Маладыя яго сябры і сяброўкі-настаўніцы, якія болей бавілі час у мястэчковым ДСК або ў сваіх маладзёжных кампаніях, дзіваваліся і насміхаліся з двух кніжнікаў, ды Васілевічу гэта было няважна. Заўжды, праседзеўшы вечар у не дужа прыбраным пакойчыку за абсыпаным попелам сталом, ён выходзіў з цяжкой галавой ад супярэчлівых, складаных і вельмі турботных думак, пытанняў, адказу на якія часта не давалі ні кнігі, ні людзі, ні, здаралася, і сам Рыгор Іванавіч. Адказы на шматлікія пытанні жыцця Васілевіч дадумваў сам у доўгія халасцяцкія ночы. Гэты звычай захаваўся ў яго на ўсё жыццё, і за тое ён навек быў удзячны Рыгору Іванавічу.

У трыццаць сёмым яго не стала. Знік Рыгор Іванавіч у цёмную вераснёўскую ноч, пакінуўшы пасля сябе перавернутую мэблю, параскіданыя паперы і ўзадраную падлогу. Голда Меерсон, даўнішняя яго кватэрная гаспадыня, прыбегла ўранку ў школу і, плачучы, расказала, што адбылося ўночы. Тады ж яна пад вялікім сакрэтам паведаміла збянтэжанаму Васілевічу, што, ідучы ў машыну, Рыгор Іванавіч прасіў перадаць маладому сябру, што ён ні ў чым не вінаваты і хутка вернецца.

Але вярнуцца яму не давялося ні хутка, ні праз доўга, і ніхто не дазнаўся ніколі, што здарылася з ім і ў чым усё ж правінаваціўся ён. Васілевіч некалькі месяцаў пасля таго хадзіў як дурны, галава яго, здавалася, распухла ад думак, ён ніяк не мог сумясціць у сабе два такія несумяшчальныя паняцці, як Рыгор Іванавіч і тыя два недарэчныя словы, што да яго прышпілілі. Але тая акалічнасць, што стары гісторык не вярнуўся, наводзіла яго на сумныя думкі і падрывала доўгую і вельмі трывалую веру ў яго. Меркаваць у гэтае справе чаго іншага Васілевіч не мог і не ўмеў, і спатрэбілася некалькі год, каб малады настаўнік шмат што зразумеў, пераацаніў і стаў такім, якім ён быў у гэты цяжкі час вайны, калі людское жыццё стала такім танным. Васілевіч быў цвёрда перакананы, што, нягледзячы на такое багацце смерцяў, усё ж самым дарагім было людское жыццё і што толькі адзін від смерці мог апраўдаць яе — гэта смерць за жыццё, смерць за людскія жыцці і ў самым неабходным выпадку.

Ззаду ўспыхнула чырвоная ракета — гэта Сахно даў сігнал атакі, і амаль адначасна чыхнулі збоч батальённыя мінамёты. Цераз паднябессе заскуголілі міны; барвовыя водбліскі ракеты цьмяна слізганулі па вяршалінах хмызняку і зніклі, уступіўшы магутнае сіле начной цемры. «Было б болей мін — лягчэй бы дасталася стралкам, — думаў Васілевіч. — Праклятыя Ручайкі: вёсачка дзесяць хат, а колькі клопату. І Патапенку шкада, добры быў ротны...»

Але дзе ж рота? Васілевіч прытупаў па раллі да некалькіх свежых

акопчыкаў на ўзгорку, яны былі пустыя. Нямецкія кулямёты ў вёсцы ўсё білі некуды ў балацявіну ўнізе. «Няўжо Жаркоў атакаваў да часу?» — падумаў капітан, услухоўваючыся ў недалёкую бойку. У яго быў чуйны да align рознагалосіцы бою слых, але цяпер Васілевіч не пачуў там ніводнага стрэлу нашае зброі, чамусьці маўчаў і «гаруноў». І ўсё ж ён падумаў, што рота, відаць, была там.

Насцярожана прыслухоўваючыся да наваколля, ён хуткім крокам пасігаў уніз па адхоне. «Трэ хутчэй дабрацца... Што там нарабіў гэты Жаркоў?» — трывожна думаў камбат. Ён натрапіў на нейкую аўражыну, зарослую хмыззём, у ёй чарнела асабліва густая цемра і недзе на схіле невыразна бялеў лапік снегу. Васілевіч ужо сунуўся туды, ухапіўшыся за падмёрзлае, крохкае суччо, як пачуў непадалёк прыцішаны голас і крокі людзей. Ён прытаіўся і на момант адчуў у сабе прыкрую думку, што, мабыць, Жаркоў не апраўдаў надзеі, пэўна, паразгубляў людзей, розных сувязістаў і абознікаў, і цяпер сарве атаку. Але затым раптам раздалася вельмі ўжо выразнае, такое катэгарычна варожае «Хальт! Хальт!», і ўдарыў аўтамат. Гэта было блізка, праз якіх сто крокаў. Васілевіч выпусціў з рук сцюдзёную галінку, прыгнуўся, нетаропка, стараючыся як мага цішай, дастаў пісталет і стаіўся. Аўтамат з цемры даў некалькі таропкіх чэрг, але куль наўкола не было чуваць (значыць, білі не ў гэты бок), затым зусім нечакана і жахліва ў лапоткім грукаце стрэлаў завыў немы жахлівы крык. «Што? Хто гэта? — сцяміўшы небяспеку, трывожна здзівіўся капітан. — Чаму тут немцы?..»

Чаму яны апынуліся тут, у тыле шостае роты, было невядома, але тое, што гэта стралялі яны, было пэўна. Неўзабаве яны пратупалі па раллі ля аўражка, некуды ўгору — на фоне зорнага неба Васілевіч убачыў некалькі іх насцярожаных постацей з аўтаматамі ў руках. Затым зноў стала ціха.

Здаецца, прыціхла і ў вёсцы. Стрэлы яшчэ бахалі, але кулямёты прымоўклі, і Васілевічу раптам здалося, што Жаркоў з ротай ужо ў вёсцы. І ў той жа час незразумела было, чаму тут апынуўся нехта з яго байцоў, на якога наткнуліся немцы. «Можа, паранены?» — падумаў капітан і, хапаючыся левай рукой за хмызняк, з пісталетам у правай пачаў спускацца ў аўражыну.

Ён скочыў у самае дно і, мінаючы хрупасткія рэшткі снегу, абдзіраючы аб голле твар, пайшоў ля ручая ў той бок, дзе нядаўна закрычаў чалавек. Увесь час капітан адчуваў, што здарылася нешта няпэўнакепскае, і за ім, відаць, здарыцца горшае, што сунутая ў зубы ворага жменька-рота не прынясе батальёну ўдачы. І яму было вельмі-вельмі прыкра ад усяго, што здарылася ў гэтую ноч, і асабліва ад свайго камандзірскага бяссілля.

Па аўражыне ён выйшаў на балацявінку, пасунуўся між кустоў па лёдзе і ўслухаўся. Здаецца, хтось прастагнаў. Ён яшчэ прайшоў трохі і яшчэ ўслухаўся. Над вёскай гарэлі ракеты, але іх дрыготкае святло толькі блытала ў хмызняку цені і не асвятляла долу. Тады ён ціхенька паклікаў, раз і другі, і праз секунду пачуў непадалёк глыбокі нутраны стогн.

Паранены на спіне ляжаў пад купінай на лёдзе і слаба варушыўся, рэагуючы тым на дапамогу. Васілевічу здалося спачатку, што гэта афіцэр у паўшубку, ён нахіліўся да яго — не, то быў незнаёмы баец без пагонаў

і без рамяня. Убачыўшы капітана, ён, відаць, пазнаў яго, ціха застагнаў і прамовіў:

— Ох!.. Таварыш камбат... ратуйце...

— Хто вы? — запытаў капітан.

— Ой, спіна!.. Спіна, ой! — прастагнаў Рыбчонак. — Пабілі ўсіх.

— Каго пабілі? Дзе рота?

— Ох, памажыце... камбат! Баліць!

Васілевіч зразумеў, што чалавек вельмі паранены, у такіх, ведаў ён, не шмат што дазнаешся. Капітан сунуў за пазуху пісталет і ўзяўся расшпільваць паўшубак Рыбчонка. Той ляжаў на акрываўленым лёдзе, рана была недзе пад вопраткай. Калі Васілевіч павярнуў яго на бок, Рыбчонак застагнаў, заенчыў і моцна ўхапіўся сцюдзёнымі пальцамі за кісці капітанавых рук.

— Пацярпі трохі. Баліць, але цярпі.

Капітана вельмі непакоіў лёс роты, вельмі трэба было дабегчы туды, але ён адчуваў, што калі не дапамагчы байцу, дык ён напэўна загіне ад страты крыві.

Ён, відаць, нямала пракорпаўся з ім — пакуль знайшоў рану і, не здымаючы гімнасцёркі, індпакетам туга аперазаў паясніцу. Бінта было мала і кроў яшчэ ішла, яна ўшчэнт скрывяніла капітанавы рукі... Урэшце як-колечы ён паменшыў кровацячэнне і выцер аб штаны далоні.

— Камбат, не кідайце... Не кідайце, прашу — тут немцы...

— Дзе немцы? Якія немцы? — знарок здзівіўся капітан. — Немцы ў вёсцы.

— Тут немцы! — з капрызлівай настойлівасцю даводзіў Рыбчонак. — Прашу вас!..

І сапраўды, бы ў пацвярджэнне яго слоў недзе ззаду, у раёне іх КП, пратрашчэла першая доўгая аўтаматная чарга. «Нарваліся!» — паныла падумаў Васілевіч, адчуўшы цяпер устрывожаны клопат пра Сахно і Люсю.

Сапраўды, параненага трэба было цягнуць да роты, тут не месца яму, і наогул, падумаў ён, трэ батальён збіраць да аднае кучы, бо ў абстаноўцы нешта крута змянілася ў бок кепскага. Уранку, відаць, грымне бяда.

— Ну што ж, баец. Давай будзем ісці, — сказаў ён Рыбчонку і пачаў усцягваць яго на сваю спіну. — Толькі трымайся.

Як-колечы ён узвалок яго на сябе, хістаючыся ўстаў і, падкорчыўшы ношаю галаў, цяжка пайшоў па лёдзе.

*[1961-1962?]*



Ніл Гілевіч



...даведаўся, што Бяляцкі
ўжо не дырэктар Музея Багдановіча.
Яму сказалі: ці палітыка, ці музей...

# Год дзевяноста дзявяты

## *Выбраныя старонкі дзённіка*

*1-га студзеня.* Што ты нясеш нам, новы, 99-ы? Перадапошні год стагоддзя? Як кепска ты пачынаешся! Ворагі Беларусі намераны канчаткова ліквідаваць заваёвы 91-га, дарэшты зруйнаваць свабоду і незалежнасць нашай дзяржавы. Божа! Злітуйся, калі мы такія грэшныя, і дапамажы адолець!

Г. Д. Карпенка настойвае, каб я зрабіў прывітанне Кангрэсу дэмакратычных сіл Беларусі. Не ўпэўнены, што ў мяне хопіць сілы напісаць такое слова, за якое не было б сорамна. Да таго стомленым і маральна змардаваным чуюся!..

*2-га студзеня.* Па даўняй нашай сямейнай просьбе прыйшлі паглядзець-пагаварыць С. І. і Л. Р. Законнікавы. Пагаварылі... Але не зусім так, як мы з Н. І. планавалі.

*4-га студзеня.* За першыя тры дні напісаў чатыры вершы — першыя вершы 1999-га. Можна было б сказаць: дык жа добра пачаў новы год! Але ж тры з чатырох — публіцыстыка, палітыка.

*5-га студзеня.* Былі на развітальнай вячэры ў Маркі Ганчава — чысла 17-га ён ад'язджае канчаткова. Уласна, ён ужо не пасол, прыехаў па рэчы, па сям'ю, якая заставалася тут, без яго. М. хацеў зрабіць гэту развітальную вячэру ў Доме Дружбы, каб сабраць шырэйшае кола інтэлігенцыі, але Ваніцкі не дазволіў. “Нельга! Вы ўжо не той! Вы там нешта не тое сказалі ў Балгарыі пра нашага Усенароднага абранага!..” Былі: Шушкевіч — з палітыкаў, і паэты: Вярцінскі, Зуёнак, Законнікаў, Бураўкін. Усе з жонкамі. Пілі шмат віна і шмат спявалі, асабліва мы з Нінай. Бывае ж такое — пасля доўгіх гадоў антыпесеннага маўчання.

*8-га студзеня.* Ноччу, а першай, званок у дзверы. “Хто?” — “З Калядамі, Ніл Сымонавіч!” Адчыняю: Някляеў і Лучанок. Абодва накалядаваныя. А каб вы былі здаровыя!.. Сядзелі добрую гадзіну, абабралі бутэльку “Крышталю”. Сусед падбіваў на палітычныя тэмы; дарэмна, вядома, я — стары верабей. Слухаў — і не клюнуў. І. М. усё яшчэ абяцае напісаць “У тым сяле, дзе я не быў ніколі” і “Талісман”. Пяць гадоў як абяцае!.. Верыць ужо цяжка. Асабліва шкадую “Талісмана” — так просіцца легчы на мелодыю!..

*12-га студзеня.* У музеі Коласа на сустрэчы, арганізаванай таварыствам беларускіх татар у сувязі з 30 нумарам часопіса “Байрам”, выступіў з прамовай — нечакана разгорнутай (збіраўся толькі прывітаць) і мэтаімкнёнай (усё пра тое ж, усё ў адну кропку). Далікатна, каб не пакрыўдзіць сяброў-татараў, але нагадаў ганебны выпадак, калі на ўрачыстасці ў гонар 600-годдзя пасялення татараў на Беларусі не прагучала ніводнага беларускага слова, а ў прэзідыуме не было ніводнага беларуса. Публіка са шчырым разуменнем успрыняла гэты папрок і вельмі горача — усю прамову. Дзякую, браточкі, дзякую, сястрыцы!..

*14-га студзеня.* Быў на адкрыцці выставы В. Шаранговіча. Народу было процьма, асабліва творцаў, ды ўсё вядомых, знакамітых. Юбіляр, як заўсёды, трымаўся паважна, з годнасцю, сціпла, такім было і яго слова. Выстава — уражвае, графік ён выдатны і папрацаваў шмат. А галоўнае — падкрэслена нацыянальны, і не толькі ў тэматыцы, а і ва ўсім стылі, і ў светаўспрыманні. Радасна ад гэтага.

Была і вялікая, багатая вячэра — чалавек на сто. Там і я сказаў юбіляру некалькі цёплых слоў. Вячэра зацягнулася — не з карысцю для мяне. У застоллі М. Грыб сказаў мне, што рэзка падае рэйтынг Г. Карпенкі ў ягонай жа партыі, якая — не за яго, а за Чыгіра на прэзідэнцкіх выбарах. Здаецца, Грыб гэтаму рады. Вось такое ў нас адзінства дэмакратычных сіл. Дайце, сябры, царом стаць мне. Мне! Няважна, што я не самы разумнейшы, не самы талковы. Гэта нас загубіць і яшчэ раз.

*17-га студзеня.* Хадзіў да М. Ганчава — развітацца. 20-га ў 5.00 ад'язджае. Назусім. Пасядзелі. Пагаварылі. Пагаравалі. Сумна і горка. Асабліва мне, як падумаю пра Балгарыю і маё жыццё, мой лёс.

*19-га студзеня.* Быў на юбілейнай (10 гадоў) вячэры, наладжанай Прыорбанкам. Запрашэнне прынёс Дудараў, несумненна, ён і падказаў Генеральнаму (Касцючэнка) уключыць мяне ў спісак. Там, у зале “Мінск”, пабачыў увесь дзелавы бамонд Мінска, дакладней — Беларусі. Уражанне — ашаламляльнае! Вось гэта сіла! Выглядзела ўсё зусім не горш як дзе ў Еўропе, а яшчэ і багацей — бо з нашай шчодрасцю і з нашым правінцыйным шыкам. Сталы ламіліся ад дарагой закусі. Зрэшты, такога харчу і ў такой колькасці, пражыўшы немалое жыццё, я ніколі не бачыў. А віны, а каньякі, а гарэлка (нават тая, што ў краме па 2 мільёны). Дудараў сказаў, што на кожны нос пайшло 4 млн. А ўсіх насоў — за 300.

У застоллі прыкметна падагрэты Філарэт (тыповы, класічны рускі поп) прыставаў з сяброўствам і абяцаў запрасіць на Сустрэчу. Ён наважыў сабраць і пагаварыць з беларускай творчай інтэлігенцыяй. Ну і ну! Рускі поп (генерал?) хоча быць духоўным пастырам беларускай інтэлігенцыі! Больш абсурднага не прыдумаеш. Аднак жа Сустрэчу збярэ. Халуёў і запраданцаў хопіць.

*21-га студзеня.* Паэтычная вечарына ў Хатцы Багдановіча, наладжаная Э.Акулінам. Вельмі сімпатычны, мілы беларускі хлопец, які робіць як гаспадар Хаткі вялікую справу. Чыталі вершы А. Пашкевіч, А. Бадак і я. Чытаў шмат, і пытанняў было шмат, і аўтографаў шмат паставіў. Акулін, з такой жа мілай, як сам, жоначкай пелі песні. Атмасфера ў зале была надзвычай цёплая. Яшчэ цяплейшая была пасля за столікам у кабінеце Акуліна. Хораша, шчыра пагаварылі. Хаця А. Пашкевіч гаваркім не быў. Ад Акуліна даведаўся, што Бяляцкі ўжо не дырэктар Музея Багдановіча. Яму сказалі: ці палітыка, ці музей. Ён выбраў першае.

*22-га студзеня.* Мой літаратурны вечар ў Доме Купалы. Прэзентацыя трох рукапісных кніг: “Дасеўкі” — лірыка, “Мы з табою дэмакраты” — сатыра і гумар, “На святло праўды” — публіцыстыка. Тры рукапісы. Маглі б ужо даўно быць кнігамі. Баюся, што ў бліжэйшы час не стануць імі — ніякага прасвету, ніякіх надзей! Сярод выдаўцоў Беларусаў з вялікай літары — няма, бо з вялікай літары — гэта тыя, якія гатовы ў імя Беларусі пайсці на подзвіг, ну, не на подзвіг — хоць на больш-менш смелы патрыятычны ўчынак. Бясспрэчна, выдаць сёння кнігу публіцыстыкі Н. Г. — на гэта трэба мець мужнасць. Дык жа былі часы, калі такая мужнасць узнікала! А як — без мужнасці? Без мужнасці — выйсці з няволі, пазбавіцца акупацыі? А Беларусь — акупавана, гэта трэба сёння гаварыць адкрыта. Не ваенным, гвалтоўным спосабам, а спосабам подла-хітрага легальнага перавароту, які адбыўся ў нас на вачах, дзякуючы празмернай нашай даверлівасці. Ну як жа — браты! І свае людзі — у парламенце, ва ўрадзе, у КДБ і міліцыі. Свае? О, sankta simplicimas! Можа, і былі свае — да таго, як прадалі душу д’яблу. Вечарыну мае сябры-купалаўцы арганізавалі кепска — маленькая залка была на трэць пустой. А я баяўся, што будзе стаўпатварэнне. Як калісьці, яшчэ колькі гадоў назад. Пісьменнікаў — Іпатава, Пісьмянкоў, Шніп... І ўсё. З Акадэміі — ні душы. З мастакоў — ні душы. З тэатраў — ні душы. Ні прэсы, ні радыё, ні... ні... ні. Можна было і не рабіць сустрэчы наогул — надта вялікія для мяне фізічныя выдаткі, каб вось так, амаль упустую. Дарэчы, як і ў батанічным садзе АН. Думаю, не цікавасць адпала, мужнасць — нават элементарная — адпала. Зноў пачаў перамагаць Страх, як у 30-я, — як пры Сталіне, пры Ягодзе, пры Яжове, пры Берыі...

*24-га студзеня.* Ціск — 200 на 120. Упершыню ў жыцці. Водзіць у шат. Хаджу, трымаючыся за сцяну. Суседка медсястра зрабіла два ўколы. Баюся, каб не другім наваратам інфаркт.

*26-га студзеня.* Ціск скача. Прыходзілі ўрач і медсястра, зрабілі кардыяграму. Цьфу, цьфу — нібыта пранесла. Лекаў Ніна накупляла на ўсю маю пенсію. Ну вось і я пачынаю пісаць у дзённіку пра хваробы — як гэныя, несмяротныя. Годзе! Кропка.

Сёння павінен быў сустрэцца ў Грудзінскага з настаўнікамі — дырэктарамі школ з Міншчыны. Адклалі да красавіка. А праз тры дні — Кангрэс дэмакратычных сіл, на якім я павінен выступіць з прывітальным словам. Тут ужо не адкладзеш на потым. Праз усе “не магу” — мушу пайсці. Пішу прамову.

*29-га студзеня.* Быў на Кангрэсе. Сказаў сваё — хоць і вітальнае, але зусім

не святочнае — слова. Прынялі — як трэба. Іншага ад мяне і не чакалі. Усе тры даклады — Шарэцкага, Карпенкі і Пастухова — на мой погляд, удалыя. Змястоўныя, глыбока аналітычныя, асабліва два апошнія. Атмасфера ў зале — досыць урачыстая, без шушукання, людзі трымаюцца з годнасцю. Гэта — выдатна.

*30-га студзеня.* Да заканчэння спрэчак быў на Кангрэсе, далей на змог, пачуўся кепска. Добра — востра — выступіў Бураўкін. У абарону Мовы. Усыпаў асабіста гэнаму, **за якога ў 94-м галасаваў**. Публіка рэагавала воплескамі.

*2-га лютага.* Занёс сваё Слова (назваў "Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы!") у "Народную волю". Сярэдзіча не было, вярнуўся з Амерыкі і захварэў, дык пакінуў рукапіс на яго стале. Пачатак і канцоўку прамовы трохі перайначыў — каб выглядзела артыкулам.

*6-га лютага.* Учарашні "ЛіМ" выйшаў сёння. А ў ім — мае вершы, у тым ліку "Балада пра паэтэсу", які чытаў на вечарах у абодвух музеях і пачуў пахвальнае слова ад многіх прысутных. Ды Бог з ёй, з пахвалою, дзякаваць Богу, што яшчэ пішу — пры розуме, пры памяці і жывым сэрцам. Але вечарам пазваніў Арсень Ліс і сказаў: "У цябе няйначай як другое дыханне адкрылася. Выдатныя вершы!" Дзякую, браток, але якое там другое, калі і першае канчаецца, надта кароткім зрабілася.

*9-га лютага.* Праз тры месяцы "Звязда" апублікавала размову, дакладней — адказы мае на пісьмовыя пытанні В. Мядзведзевай. Тры месяцы праляжалі! Учора раніцой пайшоў у рэдакцыю, каб забраць (цярпенне лопнула), а рэдактар, якога сустрэў на калідоры, кажа: у заўтрашнім нумары друкуем. Ніколі раней, нават у даўнія брэжнеўскія часы, такога не было, каб напісанае мной ляжала ў "Звяздзе" тры месяцы. Як правіла, усё ішло з ходу. Максімум — праз тыдзень.

*12-га лютага.* "ЛіМ" апублікаваў водгук Л. Рублеўскай на "Лодачкі". Такі, якога ці якіх я ўсё жыццё чакаў на многія свае творы. Справа зусім не ў тым, што водгук станоўчы і нават вельмі. Справа ў тым, што паэма прачытана душой і сэрцам — не так крытыка, як чалавека, чытача (хаця, бясспрэчна, і крытыка, прафесійнага літаратара!). Прачытана глыбока, вельмі ўважліва да ўсіх нібыта дробязей, дэталей. І яшчэ — прачытана Жанчынай, г. зн. з тонкім адчуваннем таго, што далёка не кожны мужчына здольны адчуць.

У гэтым жа нумары Г. Марчук расказвае пра выдавецкі план на 1999 год. "Падрыхтаваны да выдання чарговыя тамы Купалы, Крапівы, Барадуліна". Гілевіча не ўспамінае ніяк — ні 2-га, які недзе заваліўся і праваліўся, ні тым больш 3-га. А абяцаў да 2000-га выдаць усе 4 — дзеля гэтага і скасціў з шасці тамоў на чатыры. Вось так праясняецца сітуацыя.

*13-га лютага.* Вечар Я. Янішчыц па тэле, запісаны ў Доме літаратара. Гілевіча выразалі двойчы. Не паказалі маё выступленне (хоць я толькі прачытаў прысвечаныя Жэні вершы — нічога амаль іншага не гаварыў) і — уручэнне мне памятнага медаля кіраўнікамі раёна. Вось так выкідваюць з культурнага жыцця Беларусі. Цікава, што — наступнае? Выкінуць са школьных падручнікаў? З праграм для тэхнікумаў і ПТВ выкінулі. Пара! Раз не робіцца пакладзістым, а наадварот, — значыць, пара. Дзейнічайце, таварышочкі!..

*26-га лютага.* Мой "Вечар славянскай паэзіі" ў Доме літаратара. Падрыхтаваўся чытаць пераклады з усіх славянскіх моў, але паспеў толькі з балгарскай,

славенскай і трохі з сербскай. Прынялі выдатна, не горш, чым мае ўласныя вершы. Зрэшты, для мяне мае пераклады (перастварэнні) — таксама ўласныя, бо не ў меншай меры прапушчаны праз душу і сэрца, не менш забіралі сіл і часу (іншы раз нават больш). Людзей было амаль поўная зала — дзеля чаго паклапаціліся з Нінай самі (праз знаёмых у ВНУ). Саюз пусціў усё на самацёк,аднёсся звышабыякава. Ні афішы, ні запрашэння, ні рушніка на столік, ні шклянкі чаю ці хоць бы мінералкі, ні аднаго карэспандэнта з газет ці радыё... Усё, чым мяне забяспечылі, — гэта п'яным правакатарам. І аднак жа вечар удаўся на славу. Выклаўся ўшчэнт, да астатку. Дзве з палавінай гадзіны — на самым высокім дыханні і ўсё з нарастаннем. "Дзе дзелася наша пісьмо" Жупанчыча выклікала доўгія авацыі. У канцы слухачы нагаварылі мне шмат добрых слоў і падарылі кветак (зімой!). А паэтаў было... чатыры чалавекі. Сёй-той быў агаломшаны: не чакаў такога. Думаў: ат, пераклады, праца дзеля грошай... Пасля вечара за кавай спрабавалі — уголас, пры мне — асэнсаваць, зразумець, як жа такое магчыма? Каб публіка "раўла" слухаючы пераклады. Нешта неверагоднае...

Штрышок: падпісваю кнігі на сцэне, падымаецца дырэктарка і выключае святло. Перарвала аўтограф на паўслове... У храме культуры.

*3-га сакавіка.* У заўтрашнім нумары "Народнай волі" маё слова на Кангрэсе дэмакратычных сіл. Праляжала роўна месяц. Раней такога не было. Заўсёды давалі з ходу, ці праз 2-3 дні. Не разумею, што за прычына. Ці не самы моцны артыкул з усіх апошніх — і на табе! Уяўляю, як узвыюць, прачытаўшы, ворагі беларушчыны і ўсе халуі і пачвары.

1-га сакавіка арыштавалі Ганчара і некаторых з яго Камісіі. Кажуць, аб'явіў там сухую галадоўку. Вось гэта дарэмна. Выйдзе пра 10 дзён цяжка хворым, а тут столькі работы, столькі сілы патрэбна!

Вечарам быў на прыёме ў балгар. Былі — Чыгір, Багданкевіч, Шарэцкі, Лябедзька, Грыб... Павіншаваў Чыгіра з вылучэннем кандыдатам у прэзідэнты, пажадаў поспеху. Трохі пагутарылі. Настрой яго мне падабаецца. Як і настрой Лябедзькі. Абодва лічаць: трэба ні ў якім разе не ўпусціць рэальны шанц.

*5-га сакавіка.* "ЛіМ" надрукаваў маю рэпліку Л. Лычу. Не думаю, што ўспрыме спакойна. Але што ж было мне рабіць, калі — відочная няпраўда наконт ролі БНФ у змаганні за Мову "на пераломным этапе"! А мы ўсе — яшчэ да ўтварэння БНФ — не змагаліся? І прыняўшы закон аб мовах — тым самым не перамаглі? Як жа можна так ігнараваць іншых і прыпісваць франтаўцам заслугі іншых?..

Перадаў Шарэцкаму рукапіс публіцыстыкі "Толькі мы самі", аб чым была ў нас размова на балгарскім прыёме. Сказаў, месяцы праз два — да выбараў — можа выйсці кніга. Набор будзе рабіцца тут, а друкавацца — у Маскве. З паўгадзіны хадзілі каля тэатра, гутарылі аб палітычнай сітуацыі. На маё здзіўленне, вельмі нядобра выказаўся пра Карпенку — як пра апартуніста і нават горш. Вось гэта ўжо дрэнна! Вельмі дрэнна! І хочам перамагчы! Пры расхэйдусе ў вярхах — не пераможаш. Адзінства патрэбна, адзінства! Мужы, мужы, што ж вы гэта?!.

Спытаў у Святланы Кліменценкі, хто напісаў да майго артыкула "Ад рэдакцыі". Аказваецца — яна! Вось не чакаў! Змарозіць такую для мяне "пахвалу": "паэт можа ганарыцца, што апынуўся ў адной кампаніі з Алексіевіч..." Па-першае, мы не ў адной кампаніі, С. А. — за дзве мовы і ніколі ні слова за беларускую. Па-другое, я — апынуўся? У кампаніі з Быкавым я ўжо 40 гадоў, Алексіевіч яшчэ хадзіла ў школу, калі пачалося маё змаганне за Беларусь і беларускую мову. Дзіўна, як гэта ў нас усё перакручваецца і спрашчаецца. І ў імя чаго?

*25-га сакавіка.* Ноччу НАТАўцы пачалі бамбіць Югаславію. Ноччу ж пісаў

верш, які прысвяціў Джэркавічу. Лічу гэту акцыю пачаткам вялікай трагедыі. Толькі мірныя перамовы з кіраўніцтвам Югаславіі! Толькі мірныя! Хоць і яшчэ месяц, ці тры, ці паўгода. Гэты напад — справа не чыстая. Баюся, што албанцы тут ні прычым, толькі зачэпка. Каб паказаць сябе і сваю беспакаранасць. Каму? Расіі!..

*27-га сакавіка.* “Звязда” надрукавала верш “Джэркавічу”. Ну, чакайма водгуку. Мяркуючы па тым, колькі ў нас падпявал НАТА, знойдуцца тыя, што мяне аб’явяць прыхільнікам Мілошавіча. А на справе — я прыхільнік мірнага (палітычнага) вырашэння нацыянальна-этнічных канфліктаў, дзе б то ні было. Масавыя бомбава-ракетныя ўдары — гэта разбурэнні, пажары, кроў, калецтвы, смерць. Гэта — вайна. Каму патрэбна вайна? Дзецям і жанчынам Югаславіі? У тым ліку Косава?.. Крывадушнікі!

*30-га сакавіка.* Павінен быў выступаць — цвёрда дамовіліся — у Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у Грудзінскага. За гадзіну да ад’езду пазваніў і даў адбой. Сказаў: няма машыны, каб забраць мяне, ды яшчэ і трубу ў корпусе прарвала. Машына тут ні прычым, ёсць жа таксі. Труба тым больш ні прычым. За-ба-ра-ні-лі! Начальства, як даведалася, што з настаўнікамі будзе сустракацца Н.Г., — адмяніла гэту сустрэчу. Вось і ўсё, і ўся труба. Трубу, вядома, прарвала, але не сёння, а ў ліпені 1994. Прарвала, і з яе ляціць, і спыніць немагчыма.

*5-га красавіка.* Сяджу над рукапісам кнігі замоў, — устаўляю лепшае, выкідваю горшае, дадрукоўваю, перадрукоўваю... А пэўнасці, што кніга выйдзе, няма ніякай. Дарэмна блочу час. Якога мне так не хапае на рэчы больш важныя.

Пачаў пісаць публіцыстычную паэму ў прозе “Нястомныя” — ачышчаную ад метафар гісторыю беларушчыны. Захапіўся, а ці варта аўчынка выдзелкі — не ўпэўнены.

*9-га красавіка.* “Культура” (дакладней, Вярцінскі) змясціла размову студэнта Томкавіча са мной пра санет. Першае — за апошнія пяць гадоў — выступленне ў “Культуры”.

*13-га красавіка.* Выступіў на адкрыцці Выставы маладых графікаў. Роскаш, як то кажуць, недазволеная. Выдатна абышліся б без мяне. Падбіў Савіч, халерачка.

*17-га красавіка.* Прайшоў З’езд ТБМ. Аб адзін дзень. Зусім спакойна, з пэўнай доляй апатыі. Бураўкін вызваліўся ад пасады старшыні, сказаў: выдыхся, пашкадуйце. Пашкадавалі. Выбралі А. Трусава. Добра ведаю па Камісіі ў ВС: энергіі на дзесяцярых. Спадзяюся — плён будзе. Я на з’ездзе ў спрэчках слова не браў.

Па ходу З’езда фіксаваў, хто пра што гаварыў. Вось некаторыя з тых занатовак. Л.Дзіцэвіч: Крытыкуе Міністэрства адукацыі за адносіны да беларускай мовы. У. Навумовіч (БДУ). Гоніць рыторыку пра незапатрабаванасць мовы. Хваліцца святам “Гуканне вясны”, Калядамі. Ну а пра стан роднай мовы ў БДУ — ні слова! Усё добра: святы, канферэнцыі... Але ж і пафас! У зале пачалі шумець. Вось такія пафаснікі і губяць справу. “Давайце! Давайце! Давайце адкрыем Славянскі ўніверсітэт! Давайце адкрыем Літаратурны інстытут, дзе б вучыліся маладыя паэты!” О, Госпадзе Божа! Удумацца толькі: у Беларусі — адмысловы інстытут для гадоўлі паэтаў! В. Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург). Гаворыць пра лінгвацыд у Беларусі. А таксама пра этнацыд, дакладней — пра знішчэнне памяці нацыі. Называе пяць кірункаў знішчэння калектыўнай памяці: 1) асіміляцыя ў вобразах гісторыі (Сувораў і дзясяткі іншых); 2) “дабрачыннасць” аўтарытарнай улады;

3) уздзеянне на грамадскую памяць такіх як Цанава (КДБ); 4) ізаляцыянізм (без Захаду, а толькі з Расіяй); 5) новамова — прычым руская. Крытыкуе найноўшыя падручнікі па гісторыі Беларусі. Прапануе стварыць беларускі Катэхізіс (як зрабілі Украіна, Літва, Латвія). А. Юшкевіч (Гродна): Добра, што тут ёсць прадстаўнікі ўрада, міністры. Пахваліўся, што ён сам зрабіў фільм пра Белакоза (на 38 хвілін). "Нашто казаць, што ў Амерыцы з беларускай мовай лепш, чым тут? Гэта глупства!" В. Стражаў (міністр). Сыпе лічбы са сферы адукацыі, але ні слова аб мове. Гаворыць аб рэформе школы, аб новых падыходах і прынцыпах, але ні слова аб мове. Усе чакалі: што ж ён думае пра лёс нашай мовы, а ён — сыпе лічбамі! І ўсё ж у канцы сказаў і аб мове. Сказаў, што па-беларуску вучыцца каля 30% дзяцей (калі нават і праўда, дык што гэта за лічба? Гэта ганьба!). Сказаў: якасць навучання і якасць падручнікаў паляпшаем. Міністэрства хоча, думае, мяркуе... "Нельга — дзве нацыянальныя плыні ў вышэйшай адукацыі". Усё гадства апраўдвае адным: "аб'ектыўныя ўмовы!" Л. Майсеня. Залежыць і ад кожнага з нас! Я ў тэхнічнай ВНУ чытаю лекцыі, вяду семінарскія заняткі, але! — насуперак другой "плыні"! Трэба сумець і змагчы! Трэба мець мужнасць! Жыве наша мова! Жыве Беларусь! В. Кузьміч. "Грузавік" майго ўнука — гэта не грамадскі транспарт. У царкве на Тройцу сказалі: "Па-беларуску памінаць не будзем". І не памянулі. Вось вам і храм Божы!.. М. Падгайны (міністр). Пра некаторыя беларускія кнігі, часопісы, газеты — усё на добрым настроі, з добразычлівасцю да аўдыторыі, да пісьменнікаў. Болбас (Свіслач). Пра мову беларускага радыё — доказна, фактамі. Мова — на другім-трэцім месцы па ўсіх праграмах. Пра заяву беларускіх пісьменнікаў (у падтрымку саюзнай дзяржавы) сказаў: "Ганьба!". Л.Лыч. Выдатная прамова з канкрэтнымі заўвагамі і прапановамі. (Напрыклад, прапануе — мемарандум усім славянскім народам аб беларускай мове). І. Пашкевіч (адміністрацыя прэзідэнта). Гаворыць як дэмакрат і беларускі патрыёт. "Вывесці моўную праблему з палітыкі!" (Дык жа яна ў нас палітыка, шаноўны!) Гаварыце пра мову "без надрыву"! Пра Саюз пісьменнікаў: вельмі кепска, калі вядомыя вядуць да расколу СП! "Заклікаю: давайце не дапускаць расколу! Хай палітыкі займаюцца палітыкай!" (Сышоў з трыбуны пад крыкі "ганьба"!) Ст. Суднік. Пра "Наша слова": Тыраж расце. Прыходзіць літаральна ва ўсе раёны Беларусі. Пра тарашкевіцу: Калі ласка, прысылайце на афіцыйным правапісе. В. Іпатава. Пра душу народа, пра свой беларускі патрыятызм, пра "аб'ект № 5" (былы Дом літаратара). Просіць І.Пашкевіча падтрымаць супрацоўніцтва беларускіх пісьменнікаў з тэлебачаннем і радыё. Пра Заяву 62-х у падтрымку Саюзнай Дзяржавы: аказваецца, многія падпісвалі не такі тэкст або і зусім не падпісвалі. "Гэта подласць! Подласць!" Прыгваздзіла Дашкевіча. "Не дай Бог, калі А. Р. прышле з турмы такі зварот!" (Зала зараўла і рагатала хвілін пяць.) Л. Акаловіч. Гаварыў аб розных стылях мовы. Уручыў мне Біблію (Новы Запавет). М. Савіцкі (прафесар). Мовы няма! І ў вёсцы. А хто вінаваты?

Выйграла ТБМ ці прайграла, што на VI З'ездзе выступілі міністры і Пашкевіч? ТБМ прайграла, а выйграў Лукашэнка. У краіне ўсталёўваецца **фашызм**, а ён — не толькі сілавы гвалт, а і духоўны, і інтэлектуальны. Падняў пытанне аб нацыянальным універсітэце, якога ў Беларусі няма.

*19-га красавіка.* У "ЛіМе" мне паказалі "Нашу Ніву" — лягнула Н. Гілевіча за верш "Джэркавічу": народны паэт спеўся з народным прэзідэнтам, абразіў НАТА. Вось так! Для іх усё ясна, усё апраўдана, — і знішчэнне Сербіі як дзяржавы, і сербаў як этнасу, як народа.

*23-га красавіка.* Выступаў у тэхналагічным універсітэце, па праграме "Зніч". Прынялі студэнты вельмі добра.

*26-га красавіка.* Зноў — у каторы раз! — званіла дырэктарка з піянерлагера, з Ракава, наконт сустрэчы, якую абяцаў. На жаль, баюся гэтых сустрэч на выездзе. Баюся, баюся...

*27-га красавіка.* Дзягілева зноў просіць аб сустрэчах у школах (№ 50, № 65 — 6.V, 12.V). Ды не магу ж я, не магу! Ніякіх сіл не засталося. Даруйце, людзі мілыя, дарагія!..

*30-га красавіка.* Двойчы званіў Лецка (мяне дома не было). Дабіваецца сустрэчы дзеля размовы, каб падаць яе ў "Голас Радзімы", дзе ён цяпер працуе. Божа прамілы! Хай бы яны пакінулі мяне ў спакоі! Ды навошта мне гэтыя інтэрв'ю!..

*14-га траўня.* Дык дзе ж Захаранка? Дзе гэты слаўны беларускі хлопец? Няўжо прыбралі? Баючыся ягонага Саюза беларускіх афіцэраў? Бо гэты Саюз — нешта зусім канкрэтнае і дзейснае, і маскоўскае начальства нашага правадыра гэта выдатна разумее.

*15-га траўня.* Сарачыны па Карпенку. Мілы, мілы Генадзь Дзмітрыевіч! Ніяк не магу паверыць і змірыцца, што цябе няма. Такія былі на цябе надзеі! У тым ліку — і наконт стану нашай культуры. Быў і на могілках, і на памінках, дзе доўга і не лепшым чынам гаварыў.

*25-га траўня.* Хадзіў на УЗІ сэрца. Усё ў ранейшым стане. Значыць, будзем працаваць! Трэба завяршыць нарэшце "Лігу" — пакуль зусім не астыла Муза.

*28-га траўня.* Сустрэча з Кагутэнкам У. І. Пра ідэю выдання замоў маўчыць. Падобна, што марна я паклаў столькі часу на дапрацоўку рукапісу (больш палавіны — старонак 200 — перадрукаваў нанава).

Сустрэча з Л. Ф. Карпенка. Папрасіла ўвайсці ў Назіральны Савет Фонда імя Г. Карпенкі. Згадзіўся. Чым змагу — памагу. Г. Д. быў да мяне вельмі-вельмі чулы.

*5-га чэрвеня.* Быў на першым пасяджэнні Фонда Г. Карпенкі. Гаварылі, спрачаліся, але... не надта ўпэўнены, што справы пойдуць з імпэтам. Хіба сама Л. Ф., старшыня Фонду, не дасць драмаць.

*7-га чэрвеня.* Званіў В. Санько, дырэктар "Хаты". Падобна на тое, што Дамавік і Раскапэнда будуць аддрукаваны. Праз пяць з гакам гадоў пасля таго, як рукапіс быў падрыхтаваны.

*20-га чэрвеня.* Сенсацыя: Някляеў рашыў не вяртацца ў Беларусь, застацца на Захадзе! Брава! Так служыў-служыў усе апошнія гады, дагаджаў, супрацоўнічаў — і на табе! Кінуў выклік. Дайшло. Зразумеў, куды ўскочыў. Праўда, адразу ж пайшлі "каментары", што зрабіў гэта, ратуючыся ад нараў, — нібыта Кантроль нешта знайшоў у "Крыніцы", і таму — такі раптоўны палітычны ход канём. Каб выглядала прыгожа, высакародна і вельмі выйгрышна; каб з ходу ў нацыянальныя героі выйсці. Не ведаю, як на справе, і што думаць. Пажывем — пабачым. Помню толькі, як ён прыходзіў да мяне з заданнем: угаварыць, каб я згадзіўся на асабістую сустрэчу з начальнікам дзяржавы.

*23-га чэрвеня.* У ДЛ адбыўся вечар Быкава. Юбілейны. Без юбіляра. Мяне ніхто не запрасіў — не толькі выступіць, а нават папрысутнічаць. Ну дык і абышліся

без мяне. Тэлеграму віншавальную — на мінскі адрас — паслаў яму 18-га. Б. і Б. славасловяць да непрыстойнасці, без пачуцця меры. “Твой кожны радок на руках бы насіць!” Нават гэтак! Бедныя Купала, Колас, Багдановіч. Бедныя Талстой і Дастаеўскі. Але ж і правінцыя! Божа праміла, і калі ж мы над ёю падымемся! Калі станем пра літаратуру і яе стваральнікаў гаварыць сур’ёзна, інтэлігентна!

*27-га чэрвеня.* 10 гадоў ТБМ. Юбілейнае пасяджэнне Рады. Юбілейныя ружы першаму старшыні. Пасля — урачысты канцэрт у дольнай зале Чырвонага касцёла і ўрачыстая імша там жа, якую правіў на добрай беларускай мове кс. Ул. Завальнюк. Затым вячэра — там жа, у пробашча. З вінаградным чырвоным віном.

Перад пачаткам канцэрта мне далі слова. А людзей было не багата: нават не поўная зала. Закончыў вершам: “Родная мова! Ты воч не расі! Лёс твой — свабода!”. А Б. чамусьці на юбілей не прыйшоў.

*28-га чэрвеня.* Аддаў В. Куртаніч адказы на пытанні — для газеты “Семь дней”. Відаць, дарэмна згадзіўся. Ці не дадуць зусім, ці пакінуць бяскрыўдныя рожкі ды ножкі.

Паеду ў Наскае-Лупавінава гнаць далей “Лігу” — трэба канчаць, бо надта задума п’есы падпірае. Калі вазьмуся за п’есу — то гэта ўжо будзе надоўга, і “Ліга” скісне.

*1-га ліпеня.* Званіў з філфака Бельскі, каб даў біяграфічныя звесткі пра сябе для нейкага даведніка, што будзе выдавацца ў БДУ. Яшчэ помняць, што я працаваў у альма-матэр. Божа, як усё пачыналася, колькі было энергіі і запалу — у тыя, ужо далёкія 50-я — 60-я!!.

*2-га ліпеня.* Хадзіў у Райвыканкам — як ганаровы пенсіянер! — на маленькую ўрачыстасць з нагоды Дня Вызвалення. Далі па келіху шампанскага, было шмат садавіны і цукерак. І былі ветэраны — у бальшыні пагаслыя, як на карціне “Всё в прошлом”. Зноў, як і мінулыя разы, бралі слова А. І. Клімава — аб жабрацкім становішчы артыстаў. На развітанне мне сказала: “Вы — мужчына майго ідэалу”. Брава, Аляксандра Іванаўна! Разам з тым паскардзілася, як яе з-за няведання беларускай мовы пазбавілі выкладчыцкай працы. Не веру. У нас? З-за мовы?

*7-га ліпеня.* Пазваніла (мяне дома не было) нехта Краснадубская, што В. Рыч перадала для мяне кнігу. Якую кнігу! Тэлефону не дала, як знайсці яе? А кніга можа быць цікавай і патрэбнай.

*12-га ліпеня.* Званілі з газеты “Имя” — наконт бліц-інтэрв’ю. Адмовіўся. Збрыдзела мне ўсё гэта.

Дзень і ноч сяджу над “Лігай” — хачу да жніўня закончыць. Хоць давядзецца яшчэ нямала пашліфаваць.

“Культура” змясціла пяць маіх вершаў розных гадоў пад рубрыкай “Да вашай увагі, сябры кампазітары!”. Не надта спадзяюся, што сябры-кампазітары іх заўважаць. Ці чытаюць яны гэту газету наогул, хоць яна і іхняя. Публікацыя — справа А. Вярцінскага. Дзякуй, дружа!

*16-га ліпеня.* У “ЛіМе” — ладная падборка маіх вершаў, у тым ліку пяць сямірадкоўяў. Гляджу, што гэтых лірычных мініяцюр можа скора набрацца ў мяне на цэлую кнігу (кніжачку!). Форма гэта ўсё яшчэ мяне не адпускае. Нешта, як гэта кажуць, у ёй ёсць.

Выйшла ў “Хаце” кніга “Ачмурэнне” — “Гэй, наперад! Гэй, назад!” пад рэдак-

цыяй Ніла Гілевіча. Атрымаў 50 паасобнікаў. Пачынаю раздаваць сябрам, — хоць і ў якасці “рэдактара”. Цікава, ці будзе хоць які-небудзь рэзананс? Гучаць паэмы вельмі актуальна.

*31-га ліпеня.* “Звязда” апублікавала размову з С. Лаўшуком, дзе ён упэўнена заяўляе: “Для мяне няма ніякага сакрэту, што аўтар “Лысай гары” — Мікола Аўрамчык”. Ах ці мой Божа! Яшчэ адзін праніклівы даследчык аб’явіўся!..

*4-га жніўня.* Былі з Р. Гарэцкім (і з жонкамі) у Брыля, на Нёмане. Дзень правялі сапраўды святочна. Нават з песнямі ў застоллі. І Янка шмат спяваў, асабліва свае польскія (свае — сваёй маладосці). Апрача нас прыехалі Хр. Лялько, М. Скобла, А. Кляшчук... Былі сябра Янкі Я. Крэмка і П. Ламан — абодва з Беражна.

*7-га жніўня.* “НВ” змясціла мае тры вершы. Усё з той жа маёй бясконцай кнігі Змагання і Барацьбы. Усё яшчэ змагаюся, усё яшчэ лезу на ражон. І ці надоўга ж мяне хопіць?

*10-га жніўня.* Учора памёр Яўген Ігн. Крэмка — апошні сябар Янкі Брыля ваеннай пары. Яшчэ 4-га былі разам на дні нараджэння Янкі. І вось — трагічны фінал. Вельмі шкада гэтага слаўнага, сціплага і надзвычай сімпатычнага чалавека. Дарэчы, ён і літаратар быў цікавы. Уяўляю, як перажывае Янка. Апошні сябар з равеснікаў!..

*15-га жніўня.* Паставіў апошнюю кропку на рукапісе “Лігі”. Цікава, што пачаў яе 15. 8. 98 — роўненька год назад. Ну, так, добра, а што далей? Друкаваць? Пачакаць? А чаго чакаць? Чаго вычакаю?

*18-га жніўня.* Заходзіў А. М. Герасіменка, наш пасол у Балгарыі. Сядзелі больш як чатыры гадзіны. Падрабязна абгаварылі ўсе балгарскія навіны. А да таго, як жыву і што раблю я, — не дайшло. Ну і такой бяды! Жыву ж яшчэ неяк! Уразіў перакананым паведамленнем, што Н. Вылчава з Беларусі выгнаў М. Ганчаў. Не ўзлюбіў яго за штосьці. Я гэта і сам заўважаў. Асабліва Ані Ганчава. Помню, як аднойчы ў яе прарвалася гэта непрыязнасць. Ах, сябры-сябры мае дарагія!..

Са спазненнем даведаўся, што 13-га чысла на рэспубліканскім радыё было аўтодафе — палілі Быкава і Гілевіча. Дакладней, аблівалі такім брудам, мазалі такім дзёгцем, што страшней за смерць на вогнішчы. Ва ўчарашнім нумары “НВ” С.Кліменцэнка абараніла нашы імёны ад выпаду заклятых “ворагаў беларушчыны”. Так ідзе працэс, які пачаўся летам 1994-га. А я, наіўны, звяртаюся да Падгайнага, чаму не выходзіць мой збор твораў. А вось таму! Чакаеш другога тома, на штось спадзяешся; а ты чакай, каб не схапілі, як генерала Захаранку.

*1-га верасня.* Проста не верыцца: учора вечарам Наталля Брылёва перадала мне Другі том Збору твораў! Выйшаў-такі! А я ўжо і не пытаўся пра яго, змірыўшыся з доляй “адлучанага”, “адрынутага”. Відаць, рашылі сыграць на факце: а вось, і апазіцыянераў выдаем!.. Тры гады чакаў. Колькі буду чакаць наступнага?.. І ці дачакаюся?..

*2-га верасня.* Быў у Гудзевічах, з мастаком А. Філіповічам, завезлі намаляваны ім партрэт Н. Гілевіча, — для музея. Агледзелі музей, які ўжо філіял дзяржаўнага і займае ўжо будыніну былой школы. Пабагацеў і нават вельмі, ёсць што глядзець, ёсць! І павучыцца ёсць чаму. А Белакоз усё такі ж, як і быў: энергічны, нястомны, гарачы. Сустрэча ў школе прайшла нецікава. Дзеці розных узростаў, і дарослыя, — і

гаварыў і чытаў не лепшым чынам. Цікавая акалічнасць: на сустрэчу з народным паэтам не прыйшлі — дырэктар школы і выкладчыца беларускай літаратуры! “А што ж такое?” — пытаю ў Белакоза. — “Думаю, што проста застрахаваліся ад непрыемнасці. Бо былі тут зранку, і нічога не сказалі...”

*3-га верасня.* Зноў уключыўся ў “Сюжэты” (мае Песні паўднёвых славян). Над некаторымі працую з ахвотай і радасцю, але не над усімі. Баюся, што і чытацца будуць гэтак — неаднолькава.

*11-га верасня.* Пад вялікім націскам А. Філіповіча быў у царкве Адвентаў Сёмага Дня на юбілеі — 90 гадоў гэтай канфесіі ў Беларусі. Было дастаткова ўрачыста, звышдысцыплінавана, вельмі карэктна і ў той жа час — зусім дэмакратычна. Але гэта Царква — не мая. Дух — чужы, і нават песні — чужыя. Ніякага параўнання з песняспевамі праваслаўных, дзе на першым месцы — душа, глыбокая боская мелодыя. А тут мелодыі падабраны ад песень усякіх, яны зусім не арыгінальныя. Іншы раз на самым пачатку здавалася, што зацягнулі “Партия наши народы сплотила, партия наш рулевой”. Ні да якое царквы я ўжо не далучуся, а да гэтае — нямецка-англіканскае — тым больш. Чужая яна мне, чужая. Думаю: чаму рэфармацыя не перамагла ў Беларусі (ВКЛ) яшчэ тады — пры Радзівіле Чорным? Ды, відаць, таму, што ў гэтай канфесіі для беларусаў душы было мала. Песні былі не тыя, не тыя мелодыі.

*12-га верасня.* Юбілей Матукоўскага — 70. Банкет у рэстаране “Лета”. Шыкоўней, чым у былыя часы. Каньяк, балык, ікра чырвоная даадвалу... Ну і Мікола! На вялікі жаль, з пастаўленай задачай (ні келіха!) я не справіўся. З цікавых людзей былі Луцэнка Б., Раеўскі В., Фінберг М., Мдзівані А. І. — ці не ўсё? З пісьменнікаў? Не помню. Драматургаў — ніводнага. Вёў застолле Бураўкін. У сваёй талерцы.

*16-га верасня.* Быў на выставе Друку — па просьбе Законнікава, ад “Полымя”. Выступіў. Сказаў: і раней у многіх раённых бібліятэках не было “Полымя”, “Маладосці”, “ЛіМа” — і цяпер няма. Цяпер яшчэ горш.

*17-га верасня.* Хадзіў на юбілей Карпенкі. Сёння яму было б 50. Усяго 50! Урачыстай часткі не было (сарвала адміністрацыя гатэля), таму ўсе гаварылі пры поўным застоллі. Мне давялося невялікім словам адкрыць. Прагучала трохі афіцыйна.

Пазнаёміўся з паслом Францыі і з паслом ЗША (нават трохі пагутарыў з апошнім). Пан Спекхард даў вельмі высокую ацэнку дзейнасці Карпенкі.

Там, на банкеце, даведаўся, што ўчора вечарам прапаў Ганчар. Пайшоў з сябрам у лазню — і не вярнуўся. Схапілі! Схапілі і Ганчара, нелюдзі! Што ж будзе далей? Хто наступны? І хто спыніць гэту крывавую вакханалію, якую чыняць камандзір Беларусі і яго спадручныя?..

*20-га верасня.* Занёс Сярэдзічу невялікі роздум “Гэта быў самы што ні ёсць генацыд”. Напісаў пад уражаннем кнігі-альбома “Валеры Маракоў”, выдатна складзенай пляменнікам паэта Л. У. Мараковым. Кніга выйшла накладам 100 асобнікаў, адзін з іх аўтар падарыў мне.

*21-га верасня.* Начальнік дзяржавы ўсё больш вылазіць са скуры, усё страшней пагражае ўсю апазіцыю (“их всего сто человек каких-то”) сцерці ў парашок. Назваў “нацменамі” на нарадзе сілавікоў (я глядзеў гэту перадачу). Ці ад злосці

збіўся на слове (“нацдэмамі”), ці ўжо сапраўды лічыць нас за нацыянальную меншасць?..

*22-га верасня.* Напісаў адну забойчую эпіграму — для “прачытай і перадай другому”. Цікава, як будзе ўспрынята хлопцамі?

*30-га верасня.* Дзякуючы “праваквацыі” “Народнай волі” — паведамленні пра мой дзень нараджэння — столькі было званкоў віншавальных — як ніколі нават у круглыя юбілейныя даты. Што значыць СМІ! Лейтматыў усіх пажаданняў: “вы нам патрэбны! Вы вельмі патрэбны Беларусі!..”

*5-га кастрычніка.* Сустрэча ў педуніверсітэце. Як заўсёды ў іх — на высокім эмацыйным уздыме. Больш гадзіны падпісваў Другі том Збору твораў — купілі 90 экз. (па 310 тысяч 1 экземпляр!). Некалькі дзясяткаў запісак з пытаннямі — разумнымі, вострымі, смелымі. Вось і думай: якая ж яна — наша сучасная моладзь? А выдатная! З такой не загінем!..

*12-га кастрычніка.* Юбілейная канферэнцыя на філфаку. Выступіў з прывітальным словам. Быў з Англіі А. Макмілін — трохі пашапталіся (у прэзідыуме), падарыў яму свае кнігі, у т. л. “Любоў прасветлая”. А пасля была дзікая п’янка ў кабінеце дэкана, у якой прыняў удзел, аб чым бясконца шкадую. Усё яшчэ думаю, што ў такіх застоллях можа быць нешта цікавае. Факультэт трапіў у рукі далакопаў беларускай мовы.

*14-га кастрычніка.* Канферэнцыя (чытанні?), прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння А. Бабарэкі. Выказаў свае думкі пра гэтага выдатнага крытыка і я. Акцэнтаваў увагу на трагічнасці яго лёсу — яго і ўсяе беларускай літаратуры. Трэба будзе гэтае маё слова дзе-небудзь апублікаваць. Дзеля вастрыні тэмы. Каб многія яшчэ раз задумаліся, які жахлівы генацыд тварыўся на беларускай зямлі пры бальшавіках.

*29-га кастрычніка.* Святочны юбілейны вечар філфака. Лепш бы мае вочы не бачылі, а вушы не чулі! Каб хоць як-небудзь заявіць пратэст супроць ганебнага балагану — не дачакаўся канца, дэманстратыўна пайшоў з залы. Дамоў. Ай-я-яй! — на якім “інтэлектуальным” узроўні падавалася гісторыя філфака!..

*10-га лістапада.* Доўгі час актывіст ТБМ на аўтазаводзе І. І. Спосабаў агітаваў мяне сустрэцца з навучэнцамі тэхнікума, — іхняга, завадскога. Запэўніваў, што збярэцца ўвесь тэхнікум. Угаварыў. Паехаў — сёння апаўдні. Ужо на месцы “арганізатар” прызнаўся: прыдзе на сустрэчу толькі 15-20 чалавек, адна група падлеткаў, — больш маштабнай сустрэчы з Н. Г. дырэктар не дазволіў. Яшчэ і папярэдзіў: калі паэт хоць слова скажа супроць рэжыму — паляціш з работы. Вярнуўся дадому прыніжаны і абражаны.

*16-га лістапада.* Рада ТБМ. Прынялі пастанову аб удзеле ў стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта. У аргкамітэт увялі і мяне. Прынялі пастанову аб юбілейнай канферэнцыі — 10 гадоў Закону аб мовах (26.1.2000). Дамагаліся, каб я быў дакладчыкам — не згадзіўся. Хоць ведаю, як рыхтаваўся і прымаўся Закон, мабыць, лепш за іншых. І менавіта таму не я павінен гэты даклад рабіць. Зробіць А. Б. і дакажа, што Закон падрыхтаваў і прыняў Чыгрынаў (уся заслуга, што на сесіі, як адчуў, куды хіліцца, сказаў: “да, нада прыняць”).

*18-га лістапада.* Адбылася прэзентацыя майго другога Тома ў кнігарні “Светач” (арганізаваў Г. Чарказян). Хараша сказалі пра маю міласць Вярцінскі, Пісьмянкоў, Мятліцкі. Хараша вёў сустрэчу Левановіч. Быў і дырэктар М., які зрэзаў 6 тамоў на 4. Давялося патлумачыць, чаму гэта зроблена. Каб выдаць не 6, а 15. (Дадаць 3 тамы публіцыстыкі, 3 — паэзіі славянскіх народаў, 1 том для дзяцей, 1 том крытыкі і літаратуразнаўства, 1 том фальклярыстыкі.)

*24-га лістапада.* Юбілей “Бярозкі” ў дзіцячай бібліятэцы на Урыцкага. Выступіў з трактоўкай некаторых праблем літаратуры для дзяцей. Чаму так слаба развіваецца? Прычына — у духоўным (бездухоўным) стане грамадства. Знік культ дзіцяці, павага і любоў да малыша. Грамадства абыдлела.

Пасля абеду быў на пасяджэнні Рады СП, прымалі ў Саюз. У тым ліку Г.Аўласенку, якому я даў рэкамендацыю. Прайшоў аднагалосна.

*25-га лістапада.* На пасяджэнні аргкамітэта канферэнцыі МАТК — на кватэры ў Карпенкаў. Якая малайчына Л. Ф.! Як яна змагаецца за годнае ўшанаванне памяці Г. Д., за яго жыццё пасля смерці!..

*30-га лістапада.* Выступленне ў педкаледжы № 1, былым маім педвучылішчы. Слаўная, слаўная моладзь прыйдзе ў школу! Як радасна бачыць гэта! На кожнай сустрэчы пераконваюся: паэзію, кнігу рана здаваць у архіў.

*7-га снежня.* Глядзеў (нарэшце!) “На чорных лядах” Панамарова па апавяданні Быкава. Вельмі незвычайны фільм. Упершыню ў беларускім кіно — нацыянальная трагедыя Беларусі і беларусаў. Чуў да гэтага непахвальныя водгукі (ад Мат-га, напрыклад), і думаю — несправядлівыя. Трагедыя — відаць; паказана выпукла і ярка; трагедыя гістарычнай асуджанасці. Трагедыя — такая балючая, што як удумаешся — дык сэрца спыняецца ад болю.

*9-га снежня.* Сустрэча з бібліятэкарамі Мінска і Беларусі ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы (вул. Праўды). Найлепшая, наймілейшая мая публіка — настаўнікі і бібліятэкары. Слухаюць і ўспрымаюць паэзію так, як і 30 ці 40 гадоў назад. Толькі пытанні задаюць не такія “дзіцячыя”, як тады — больш праблемныя, больш сур’ёзныя, грамадска актуальныя. На сустрэчы выматаўся так, што ўжо на вечар Багдановіча ў ДЛ пайсці не змог.

*14-га снежня.* Канферэнцыя “Генадзь Карпенка: дарога ў будучыню”. Выступіў — па трэцяй тэме (сацыяльныя праблемы, здароўе, спорт, навука, культура) — са словам на 6-7 хвілін. У палітычным сэнсе — досыць стрымана, хоць і не зусім (пра задушэнне сумленнага слова і сумленных творцаў сказаў). На канферэнцыі быў і двойчы браў слова (у самым пачатку і ў самым канцы) пан Вік. Там я і пазнаёміўся з ім, абмяняўся трыма-чатырма фразамі. Быў і пасол ЗША Спекхард. Трохі пагутарылі. Падкрэсліў яму, наколькі сур’ёзна страшнае для нас тое, што робіць пан Начальнік (Саюз з Расіяй — адна дзяржава!).

*17-га снежня.* Сустрэча са студэнтамі і выкладчыкамі БУКа. Арганізаваў Ан.Ф.Майсеенка (якога, олухі, нядаўна “зарэзалі”, не прынялі ў СП — на Радзе, дакладней — на Камісіі, а ён — прафесійны літаратар: і паэт, і крытык). На сустрэчы была і рэктар Я. Д. Грыгаровіч. Нагадала мне, як я ёй на суразмоўі сказаў, даючы згоду на назначэнне рэктарам: “Толькі не звярніце з дарогі! Толькі вядзіце інстытут шляхам Адраджэння!” А што іншае мог я — і тады, і цяпер — сказаць?

*22-га снежня.* Вечар памяці паэта са Случчыны Міколы Жука ў МГБЛ. Вечар адбыўся ў асноўным клопатамі дачкі паэта Таццяны (былой маёй студэнткі Тані Жук). Цяпер яна — вядомы крытык Тац. Дасаева. Давялося выказаць свае даўнія думкі пра г. зв. правінцыйных паэтаў (як Жук, як у Лагойску Б. Сасноўскі). Былі і выступілі Ул. Паўлаў (складальнік зборніка М. Жука), А. Васілевіч і П.Місько (памагаў, будучы вучнем Жука, гадаваць, няньчыць Таню). Што за хэнць у празаікаў да вершаў? П. М. прачытаў такі рыфмаваны опус, што мне шкада яго было. Ды ты ж бы пра гэта (пра скрыню з кнігамі ў Жука) куды лепш расказаў прозай!

Вярнуўся ў настроі нялепшым.

*23-га снежня.* Апошняя сустрэча па абанементах “Зніча”. У Чырвоным касцёле. З навучэнцамі падрыхтоўчага аддзялення БДУ. Дай Бог ім стаць студэнтамі! Мяркуючы па пытаннях і рэагаванню на мае недыпламатычныя адказы — вельмі сур’ёзныя людзі! І здаецца — кожны другі піша.

З сустрэчы паехаў да сябра Я. С. — на крывянку. І каб перадаць яму сказ пра эпідэмію.

*26-га снежня.* Закончыў — у чарнавым варыянце — драматызаваную паэму “Паланез Агінскага”. Каля трох месяцаў “штурмаваў” амаль не адгінаючыся. Часам — цэлыя ночы напралёт. Адрываўся толькі дзеля сустрэч з чытачамі (4-5 разоў). А цяпер ахапіў страх — такі, што аж баюся перадрукоўваць. 1500 радкоў. Рыфмаваных. І трэба ж было замахнуцца! А задума старая, 1964 года. Але цяпер я саму канцэпцыю перакантаваў зусім па-новаму: вайна — і Беларусь, Беларусь і беларусы пад акупацыяй; трагедыя Беларусі.

Закончыў і артыкул пра Купалу — для “Кнігазбора”. Але ж вымучыў ён мяне! Але ж і выматаў! Праўда, Цвірка пазваніў і сказаў: “У захапленні! Выдатна, бліскуча, нешаблонна, нетрафарэтна” і г. д. Дзякуй, браток! Але пабачым, што скажа чытач.

*31-га снежня.* У апошні дзень года — сенсацыя нечуваная, небывалая: Ельцын пайшоў у адстаўку! Перадаў лейцы — да выбараў у канцы сакавіка — Пуціну. Выконваць абавязкі. Выступіў з развітальным — апошнім навагоднім і апошнім прэзідэнцкім — словам вельмі прачула. Некаторыя мне званілі: аж чуць не плакалі. Усе — у захапленні ад яго мужнага, высакароднага ўчынку. А ёсць і такая думка: ён не сам па сваёй волі зрабіў гэта — яго прымусілі. Мне здаецца, што сам. Пажывем — пабачым. Калі не сам — дык яно ўсплыве. З кім ні гаварыў — усе ў адзін голас: А хай бы і наш за ім следам! А падкажы яму, Божа!..”

архівы

Рыгор Барадулін



...больш страсці,
больш хвалявання...

# Хай сумленне будзе чыстае і душа ясная

***Нарада маладых пісьменнікаў 21 верасня 1955 г. у запісах студэнта II курса БДУ Рыгора Барадуліна***

*Тэксталагічная падрыхтоўка запісу Наталлі ДАВЫДЗЕНКА. Уступнае слова Сяргея ШАПРАНА.*

Гэтыя запісы зробленыя больш паўстагоддзя таму – тады яшчэ студэнтам 2-га курса беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Рыгорам Барадуліным – падчас трохдзённай працы секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў БССР. Барадулін занатоўваў за старэйшымі калегамі крытыку ў адрас такіх жа самых, як ён, маладых паэтаў. Пэўна, гэта былі своеасаблівыя паэтычныя калі не ўніверсітэты, дык курсы, дзе ў якасці настаўнікаў выступалі Мікола Аўрамчык, Барыс Бур'ян, Антон Бялевіч, Васіль Вітка, Анатоль Вялюгін, Сцяпан Гаўрусёў, Аляксей Зарыцкі, Навум Кіслік, Аркадзь Куляшоў, Мікалай Рыленкаў (Расія), Максім Танк. Што ж тычыцца асобных маладых, дык імёны некаторых з іх сёння нічога не скажуць чытачу — яны так і засталіся ў тым часе, у 1950-х гадах. Крытыка ж іншых выклікае цяпер добрую ўсмешку. Вось, напрыклад, што было

сказана на адрас сёння шырока вядомага паэта, даследчыка і выдаўца Кастуся Цвіркі: «Гульня ў вершы, гульня ў каханне, у працу. Усё перапетае». На паэзіі ж слыннага паэта і перакладчыка Валянціна Тараса ўвогуле быў неабачліва пастаўлены крыж: «“Рамесніцкія вершы”, пісаць не трэба». У гэтым сэнсе больш добрых слоў дасталося Уладзіславу Нядзведскаму: «У вершы ёсць паэтычнае зерне». Але найбольшае прызнанне атрымаў Уладзімір Караткевіч (з Кіеўскай вобласці, як пазначыў Барадулін). Газета «Сталинская молодежь» пасля паведамляла: «Говоря о стихах Короткевича, М. Лужанин, В. Витка, Р. Нехай, М. Танк единодушно отметили, что в молодую белорусскую поэзию пришел интересный, самобытный поэт».

Між іншым, цікава цяпер параўноўваць справаздачу «Сталинской молодежи» з барадулінскім запісам. Так, калі пра Караткевіча ў газеце толькі вось гэтыя вышэй цытаваныя агульныя словы, дык у «стихах рабочего тракторного завода» Івана Бурсава (у будучым аднаго з лепшых дзіцячых пісьменнікаў, казачніка і перакладчыка беларускай паэзіі на рускую мову) старэйшыя калегі ўбачылі «душевную теплоту, лирическую проникновенность». Тэксты ж для песняў Авяр’яна Дзеружынскага, кваліфікаваныя як «слабые стихотворнические упражнения», падвергліся «суровой критике», якую той сустрэў у штыкі, — «в его выступлении прозвучало зазнайство, нежелание прислушаться к голосу опытных литераторов».

Дарэчы, у тым артыкуле ў «Сталинской молодежи» выступленне Якуба Коласа нават не прыгадваецца, тады як у запісах Барадуліна прыводзіцца такі вось запавет аўтара «Новай зямлі» маладым літаратарам: «...трэ апраўдаць годнасць інжынераў чалавечых душ. [...] Хай сумленне будзе чыстае і душа ясная». Заўважым таксама, што адзіны фотаздымак, на якім ёсць і Якуб Колас, і зусім яшчэ малады Рыгор Барадулін, быў зроблены якраз тады, падчас гэтай нарады.

Але галоўнае — гэтыя запісы каштоўныя тым, што зроблены 19-гадовым паэтам-пачаткоўцам, будучым народным паэтам Рыгорам Барадуліным, які толькі ўваходзіў у вялікую літаратуру і, шукаючы сваё месца ў ёй, занатоўваў за старэйшымі, якой жа павінна быць яна — сапраўдная беларуская паэзія.

**Сяргей Шапран.**

*Абмеркаванне творчасці У. Нядзведскага:*

*М. Лужанін:* Верш ідзе ў вельмі спакойным рэчышчы. У вершы ёсць паэтычнае зерне. Трэ граніць вершы, даводзіць іх да канца. Па тэматыцы разнастайныя. Лепшыя вершы, якія выходзяць з назірання. «Дома» — літаратуршчына. Лепшыя вершы, дзе ўспаміны.

Трэба пісаць сучаснае. У вершах грамадскага зместу збіваецца на штампы. Гэтыя вершы трэба пісаць страсна, выношваць. «Мара і песня», «Гвардзеец навукі», «Пра настаўніцу» – вершы кароткія. Гэта абавязвае да яснасці і дакладнасці думкі, да глыбіні думкі. «Песня Купалы» – акрэсліць сыноў. Перагружанасць паўторамі. «Калгасны радыст» – канец ёсць. 1[-я] страфа – няма адзінства месца. 2[-я] страфа – чаму, калі пад’елі хлеба, драты працягнуў? «Спадчына» – не выходзіць з рамак сям’і. Трэ ўжыць грамадскія з’явы. «Тэхніка».

Больш за 10 вершаў на адзін памер: «На позицию девушка...» 4 радкі. ВНТ. Трэба даводзіць вершы да канца.

*М. Аўрамчык:* Ёсць зерне. Трэ звярнуць увагу на рыфмы.

*Абмеркаванне творчасці Біруліна (Маладзечна):*

Лірычныя вершы пра Нарач на рускай мове. «Детский лепет».

*Абмеркаванне творчасці Валянціна Тараса:*

*М. Гарулёў (дакладчык):* Адзін з першых вершаў «Наследник». Шмат газетчыны.

*М. Рыленкаў:* Не бачна стымулу, які заставіў бы напісаць вершы. «Рамесніцкія вершы», пісаць не трэба.

*Абмеркаванне творчасці Сімарына (Брэст):*

*Рыгор Няхай:* Работает над тематикой знакомой. Тема дружбы. Мало образного мышления.

*Н. Горулёв:* Очень много переплясов, но переписать Твардовского никто не может. Симарин — лирик.

*С. Гаврусёв:* 1) Надуманность; 2) мало образности.

*Ан. Клышка:* Няма канфлікту.

*Абмеркаванне творчасці Сідаровіча (Гродна, педінстытут):*

*Няхай Р.:* [1 неразб.] пачуцця. Слабізна.

*Абмеркаванне творчасці К. Цвіркі:*

*К. Кірэенка (дакладчык):* Чалавек вопытны ў вершаскладанні. Няма парыву маладосці. Паэт — не пасіўны сузіральнік. Дробныя, нязначныя факты жыцця. «Паэт не творца, а вершаскладальнік», — так думае вершаскладальнік. Гульня ў вершы, гульня ў каханне, у працу. Усё перапетае. Ёсць, праўда, і добрыя.

*Н. Рыленков:* Не все правильно понимают печать времени. Плещеев — почитать. Поэт должен найти свой мир. Полнее раскрывать богатство души сов[етского] человека.

*А. Зарыцкі:* Справа не ў тым, каб напісаць вонкава наш час. Трэба, каб адчув[аўся] [1 неразб.] змесце чуўся дух нашага часу.

*Абмеркаванне творчасці М. Арочкі:*

*А. Вялюгін (дакладчык):* 2 плацдармы: 1) вёска, дзе нарадзіўся, 2) студэнцк[ае] жыццё БДУ. Заўсёды трэба ставіць пытанне: варта пісаць верш або не. «Дзень нараджэння» — манернасць адчуваецца. Няўдалы «Камень».

*А. Куляшоў:* Пісаць тады, калі неабходнасць ёсць. Але можа часам чалавек і добрую думку выкласці блага. Адна думка ў вершах «Вяртанне» і «Канікулы» выкладзена не роўна. Важна, каб унутраны свет чалавека-паэта быў цікавы, багаты.

Вучоба маладога аўтара ў старэйшых паэтаў. «Маладзік» — запазыч[анне] у 3 аўтараў. 5 арыгінальных рэчаў.

*Абмеркаванне творчасці Алеся Ставера:*

*А. Зарыцкі (дакладчык):* Паэма. 13 частак. Пралог, эпізод, уступ апісальны, расцягнуты. Калі назваў героя, трэба яго паказаць. Няма напружання. Апісальна, вяла, безкалярова. Набор стандартных, вядомых слоў. Няма пачуцця. Абсалютная пустэча. Няўдача. Друкаваць нельга. Справіць нельга. Надуманыя героі. Усё робіцца проста прымітыўна.

*А. Бялевіч:* Добра напісана легенда. Няма скразнога дзеяння, якое б цэментавала. Кускі. Задача была, відаць, паказаць людзей вёскі Маргавіцы ў цяперашні час. Можа, з кавалкаў напісаць но[вую] рэч?

*Максім Танк:* Паэма развальваецца. Першы блін комам. Ёсць у паэме, ёсць удачн[ыя] мясціны.

*Ніл Гілевіч:* Збіта з кавалкаў. Лёгкім танцам свет герояў збеднены, спрошчаны.

*Абмеркаванне творчасці Гурбана:*

*М. Аўрамчык (дакладчык):* Няма ніякога росту. Непісьменнасць.

*Абмеркаванне творчасці Паўла Воранава (Віцебск):*

*А. Русецкі (дакладчык):* Вершы-замалёўкі. Адсутнічае думка. Дае факт і не абагульняе яго (няма думкі — няма закончанасці).

*Н. Макаеў:* У Воранава лепш атрымліваюцца лірыч[ныя] вершы.

*М. Танк:* Бедная мова вершаў. Няма жывога вобраза, метафары. Вобраз дае эканомію выяўленчых сродкаў. Усё ў ружовых колерах. Канцоўка — паэт[ычная]. Зерне неспадзяванае і лагічнае завяршэнне. Канчаем там, дзе змарыліся, а не там, дзе трэба.

*І. Калеснік:* Несур'ёзнасць.

*Абмеркаванне творчасці А. Дзеружынскага:*

*Н. Рыленков:* Идет по неправильн[ой] линии, которая не принесёт поэтич[еских] удач («Рыба»).

*В. Вітка:* Вялікую шкоду паэту зрабілі кампазітары. Аказалі мядзведжую паслугу. Спажывецкі падыход да песень. Непрыемна слухаць выступленне. Ён хваліцца, што песні яго нібы пранікл і нават у Польшчу. Некультурнасць нашых кампазітараў, якія не ведаюць нашай паэзіі.

*Абмеркаванне творчасці Клімянкова:*

*М. Барсток (дакладчык):* Вершы няроўныя. Уменне шукаць. Мала вершаў сюжэтных. Няма актыўнага ўмяшання ў жыццё.

*М. Аўрамчык:* Даліся ў знакі. Мала паэзіі. Страшэн[ная] штучнасць. Як закруціць што, дык аж страх. Уплыў іншых аўтараў. Страшэнная надуманасць.

*Абмеркаванне творчасці Ул. Караткевіча (Кіеўская в[обласць]):*

*М. Танк:* Здольны пісьменнік, якому трэба пісаць.

*М. Лужанін:* Вельмі здольны чалавек. Па-сапраўднаму добра.

*Васіль Вітка:* Кожнаму нешта прыемнае сказаць хочацца. Схільнасць да эпіч[най] паэзіі.

*Абмеркаванне творчасці І. Бурсава:*

*А. Бялевіч (дакладчык):* Як дом без людзей, так і верш без думкі, без вобраза. Больш урываецца ў жыццё, але ёсць і шэрыя, слабыя. Паэт са шчырым, уласным голасам.

*Навум Кислик:* Непосредственность чувства, о живых вещах. Но есть, проскакивают литер[атурные] штампы. Умение поэтич[ески] мыслить.

*Абмеркаванне творчасці Е. Гольскага:*

*Б. Бурьян (докладчик):* Доброт[ные], гладкие, сделанные профессиональной опытной рукой. Умело завинчены строки. Стихи есть, но поэзии нет. Влияние других поэтов. И не украдено ничего, и своего нет. Часто выпячивает «я», но человека не чувствуется. Добротность не спасает автора. Поэзию такие стихи не обогащают.

*Рыгор Няхай:* Багатая біяграфія, а вершы бедныя. Збітыя фразы. Больш заняцца вывучэннем жыцця. Чалавек здольны. Вершы аб Малдавіі, Якуціі і Беларусі — роўныя.

*Бойка:* Нет своего собственного поэтич[еского] видения. Однообразие размеров. Ко всему одинаковое отношение. Эпич[еское] спокойствие.

*И. Семижонов:* Лавка ювелирного магазина. Здесь много вещей, но безделу-

шек. Холодные. Печать созерцательн[ости], холодности, внешней красивости. Не вложено сердце, душа. Много от лит[ерату]ры, от внешнего любовательства.

*В. Вітка:* Не разумее сваіх магчымасцей, прыгажосць паэзіі. Паэтам трэба баяцца ўмоўнай прыгажосці. Трэба баяцца позы. Трэба, каб і без слова «прыгожы» адчувалася прыгажосць. Гладкапісь.

*П. Глебка (заключнае слова):*

Было ў рабоце шмат недахопаў: не ўсе паэты прысутнічалі, не ўсе знаёміліся з творамі. Шмат карыснага, хто сумее ўсё ўзважыць, зрабіць вывад, атрымае многае. Гольскага збівае жаданне многа ахапіць. Сухасць вершаў таму, што з пачуццём напісаны толькі апошнія радкі. 1) Жаданне вялікай паэзіі, якая ляжыць на шляху вялікіх праблем, якімі жыве наш народ. (Разумеецца дух верша, не павярхоўны ахоп усяго.) 2) Трэба больш страсці, больш хвалявання. Трэба пазбаўляцца ад агульшчыны. Недахоп майстэрства. Слова часамі валодае паэтам. Трэба працаваць упарта. Працавітасці пажадаць.

*Якуб Колас:*

Мова — падмурак, на якім узводзіць свае творы пісьменнік. Бедная мова ў нас, у маладых пісьменнікаў. Пушкін вучыўся мове ў нянькі. Крылоў хадзіў на кірмаш. Народ — крыніца нашай мовы.

Трэба адабраць матэрыял, каб ён быў народам успрыняты. Тады трэба скласці план. Часцей звязвацца з народам.

Кожная з’ява грамадск[ага] парадку не павінна заставаца без увагі пісьменніка.

Этычныя адносіны да людзей, трэ апраўдаць годнасць інжынераў чалавечых душ. Не трэба пагар[джаць]. Быць прыкладам сав[ецкай] маралі і сумлен[ня]. Хай сумленне будзе чыстае і душа ясная. «На шляхах волі».

Ціхан Чарнякевіч



Дзень добры, Рыгорка!
Вясна за пагоркам
Б'е ўжо крылом…

# "Чулае слова ад цябе было мне асабліва дарагім…"

***Лісты Міхася Стральцова да Рыгора Барадуліна***

Гаварыць пра Міхася Стральцова амаль немагчыма, бо ўсё ён сказаў пра сябе сам і ў найбольш прыдатнай для таго форме. Таму хай лепш прамаўляе ягонае новае слова – тое, што было пачута нямногімі адрасатамі, – лісты.

Сёння – гэта лісты да Рыгора Іванавіча Барадуліна. Шчырая падзяка гісторыку літаратурнага жыцця Беларусі Сяргею Шапрану, праз якога займелася магчымасць убачыць гэтыя памяткі і падрыхтаваць іх да друку. Сам Сяргей Шапран, у сваю чаргу, атрымаў іх з хатняга архіва народнага паэта Беларусі.

Пазнаёміліся Міхась Стральцоў і Рыгор Барадулін яшчэ ў студэнцкія 1950-я, ва ўніверсітэце. "Калі-небудзь хто-небудзь напіша пра пару, калі ў нашым сталічным універсітэце на адным курсе ці на паралельным (філолагі – журналісты) вучыліся Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Таццяна Арлова, Мікола Гіль,

Алесь Станюта", – пісаў Стральцоў у адной з лепшых сваіх крытычных прац – артыкуле пра творчасць Рыгора Барадуліна "Ад маладзіка да поўні". Ці напісаў хто? Патроху спрабавалі многія, а каб цэльнага чаго – дагэтуль няма. Хіба самое гэтае стральцоўскае эсэ, дзе сутнасць беларускага шасцідзясятніцтва раскрыта на прыкладзе Барадуліна ці не напоўніцу. І тут – парадокс, не парадокс, а проста добрая ўласцівасць. Урэшце, усе разышліся па сваіх кутах. Але тое знікненне цэхавасці трэба было яшчэ апраўдаць эстэтыкай.

Двух творцаў аб'ядноўвае многае, але найперш – чуйнае стаўленне да слова, да самога цуду маўлення і, адпаведна, непрыманне штампаў, спрошчанасці, балабольства, якія і ў іх, і ў наш час запаўняюць большую частку інфармацыйнага поля.

Многа ў іх і адрознага. І таксама хрэстаматыйная цытата: "Паэзія — лёс, а лёс бывае розны, і паэт па-рознаму прымае і нясе гэты лёс. Ёсць таленты светлыя, жыццядайныя — яны і змрок пераплаўляюць у святло, але ёсць і другія, тыя, што самі нібы ўвасабленне пакутнага духу, адрынутага паводле нейкай незразумелай прычыны ад самога жыцця і асуджаныя трапятацца ў вечнай празе зліцця з ім. І як дабратворны цуд, як недарэмны абяцанак злагады і суцяшэння — даспадобы нам талент ураўнаважаны і светлы, талент вынаходлівы і дзейсны, што адкрывае нам нанова кожны раз найвышэйшую каштоўнасць жыцця самога па сабе. Інакш кажучы, талент аптымістычны" ("Ад маладзіка да поўні").

Але гэта – пытанні светаадчування. Галоўнае ж – яднала. Калі ўспомніць вядомы тэзіс "паэт – прылада мовы", то і Стральцоў, і Барадулін служылі яму верай і праўдай. Так, як пісалі яны, – паэзію, крытыку, эсэ – пазней сталі пісаць многія: гжэчна, шляхетна, вытанчана. Іх слова стала эталонам.

Яднаў іх і сам час. Нават гэты люты месяц, у які собіла ім абодвум нарадзіцца.

Большасць пасланняў Стральцова напісана ў 1980-ыя. Гэта апошні перыяд яго жыцця. Можа, найскладанейшы для яго. Складанасць часам прарывалася і ў лістах.

Чытач заўважыць, што ў тэксце – па просьбе публікатара – зашыфраваныя (лацінскай літарай N.) прозвішчы пісьменнікаў. Гэта, вядома, не цэнзура Стральцова. Але – неадменная ўмова захавання паразумення.

Зрэшты, хто ведае – той і так ведае: дзе быў Стральцоў на пачатку 1980-х, як ён адгукаўся пра некаторых пісьменнікаў, як ён іх гукаў – а яны стараліся не чуць...

Сёе-тое можна зразумець і з папярэдніх эпісталярных публікацый. У "Дзеяслове" ўжо друкаваліся лісты да Анатоля Сідарэвіча, у "Крыніцы" – да Валянціны Шчадрыной. Лісты да Алы Сямёнавай наогул сталі складовай часткай важкага празаічнага твору – аповесці. Былі і некаторыя іншыя выпадкі. Ёсць спадзяванне, што справа пазнавання Стральцова будзе працягвацца.

Невялікую цаглінку кладзем гэтай публікацыяй і мы.

## Міхась Стральцоў – Рыгору Барадуліну

Дарагі дружа![1]

Чулае слова ад цябе было мне асабліва дарагім, бо нібы другі раз пасля мышанскай эпапеі (памятаеш тое лета вайсковых збораў на Мозыршчыне?)

[1] Друкуецца паводле копіі аўтографу з хатняга архіва Рыгора Барадуліна.

злучыла нас — праз добрае слова і шчырае сяброўскае пачуццё — і вось я прыгадваю і патаемны наш начны паход у паляшуцкую вёску, і начоўку ў палатцы, і начную ці перадранішнюю трывогу з выпадку гэтага, і тваё дзяжурства на «Насцінай кухні»[1], і тое, як чыталі мы з табою Фета, абмяркоўваючы прыроду ягонага вобраза, і, і... як падумаеш, чаго толькі не пракацілася па «палянах» нашых вачэй, одум, як казаў нябожчык Сабаленка[2] (між іншым тутэйшы, Сёмкаў зямляк[3]) часам бярэ – вось табе перыяд, што выйшаў самахоць, – няхаў бы пазайздросціў Адамчыкаў[4] зямляк N.: дальбог, у яго, як ні стараецца, перыяд ну ніяк не выходзіць, хоць і начытаўся змалку Талстога – вось чаму і лаецца коратка і агрызаецца – гыр! гыр! – і на сваіх зласліўцаў, і на сваіх сяброў...

Бяда з гэтымі нядзейсненымі талстоўцамі!

Але, браце Рыгор, і N. мяне здзівіў!

Напісаў яму колькі слоў аб сабе з просьбай праясніць маё цяперашняе становішча – не адказаў. На званок па маёй просьбе рэагаваў, наколькі я ведаю, нецярпліва-абразліва – раўнадушна, спаслаўся на хваробу і... маўляў, пазваніце, як-небудзь... вясной!

А я не да славутасці нейкае N. пароўся, і не да дэпутата народнага, а як сціплы літаратар савецкі – у імя літаратурнага слова, пра якое цяжка меркаваць, як яно, калі і чым нам, грэшным, абзавецца. Нічога не разумею, га? Ці гэта па прымаўцы той: не дай бог свінні рогі?

Брыдка, браце, і шкада! Пасля хочам, каб нас дзе-небудзь паважалі! У нас так: дабярэмся, як парсюкі, да бацвінкі, хламкаем, рохкаем і бэрсаемся лычамі і капытамі.

Але хопіць пра гэта.

Да цябе просьба: памажы давесці да ладу маю кніжку ў вас і, можа, вазьміся, калі захочаш, яе рэдагаваць.Там трэба дадаць друкаваных вершаў (у мяне нічога няма пад рукой): з «ЛіМа», здаецца, можна, можна з апошняй «палымянскай» падборкі, з вершаў, якія я даслаў на перадрук Але Іванаўне[5]. Дома ў мяне недзе ёсць недрукаваныя вершы, але дзе цяпер яны — эх, лепш не гаварыць!

Але зразумей: я хачу, каб быў, аж і на мой ніякі-сякі ўзровень, большменш прыстойны зборнічак — тут ужо табе як рэдактару поўная воля, бо густу твайму я давяраю цалкам. Кажу гэта таму, што мы з табой часта і яшчэ гаварылі пра вершы і адзін другога разумелі. Выбірай на чатыры аркушы (не, 4,4 — для саліднасці): я не Цютчаў, а ты не празаік, як Тургенеў, хоць і ён забаўляўся ў маладосці вершыкамі — можа я і не акалечуся. Праўда. Памажы.

Ага, вось... Можа, пагаварыў бы пра мяне з Шамякіным[6] ці з кім яшчэ. З гэнай новай гілевічаўскай генерацыяй, мусіць, кашы не зварыш. А мо паспрабуй з Гілевічам[7]? Іншы раз бывае сэнс зрабіць таксама і наадварот ад жаданага

[1] Верш Рыгора Барадуліна з кнігі "Маладзік над стэпам".

[2] Раман Сабаленка (1907-1975) – празаік, публіцыст. У 1957-66 працаваў у газеце "ЛіМ" намеснікам галоўнага рэдактара.

[3] І Раман Сабаленка, і беларускі паэт Сымон Блатун (1937-1970), якога і мае на ўвазе Міхась Стральцоў, нарадзіліся на Брагіншчыне (Гомельская вобл.).

[4] Маецца на ўвазе празаік Вячаслаў Адамчык (1933-2001).

[5] Маецца на ўвазе крытык і пісьменніца Ала Сямёнава (н. 1938).

[6] Іван Шамякін (1921-2004) – празаік, адзін з самых уплывовых пісьменнікаўфункцыянераў. На той час – галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

[7] У 1980 г. паэт Ніл Гілевіч (н. 1931) змяніў Івана Шамякіна на пасадзе першага сакратара СП БССР .

і чаканага. Але з Шамякіным пагаварыць трэба было б абавязкова... Вось некалі ваявалі некат[орыя] з Броўкам[1], пасля з Шамякіным, а аказалася... Па касцях, па касцях...

Як наконт дат, – дальбог, не ведаю, што можна зрабіць у маім выпадку. Хіба паставіць прыблізна, арыентуючыся на зборн[ікі] і гады друкавання. А можа і абыйсціся без дат? Не гэта ж, урэшце, галоўнае.

Стары, я тут мацуюся трохі, напачатку было цяжкавата псіхалагічна, цяпер – лепш.

Напішы, калі ласка.

Абдымаю цябе.

*15. 02. 82.* *Твой Міхась.*

Старэча, з днём нараджэння цябе![2]
*М.С.*

*Дарагі Рыгор!*[3]

Я схібіў бы душой, каб сказаў, што не пакрыўдаваў ніколькі, думаючы што пляснуўся ў Лету ліст мой да цябе. Але ты азваўся – варухнуўся перад вачмі і ажыў такі знаёмы, непадробна твой почырк – і я адпусціўся душой, палагоднеў, значыцца, – і зноў адчуў тое даўняе “влеченье, род недуга”[4], якое заўсёды напагатове да цябе і якое завецца, калі хочаш, дружбай. І можа з патрыярхальнай пары Ларчанак[5] і Зарніцкіх слова гэтае і не паабілася вельмі – у век “патрыярхаў моцных” – N. і N. Авохці ім! А слову – хвала!

Адным словам, я рады вестачцы ад цябе. Дзякуй за запэўненні добрыя, за памяць і за ўсё іншае, што так цэніцца на адзіноце. За вершы дзякуй: аддзячу табе калі-небудзь прозай – умацуюся душой і намерам і, можа, нешта даўно задуманае напішу і, балазе ўдасца, імем тваім прыхарашу. А пакуль за мяне літасці ў паляшуцкіх багоў і бажкоў прасі і ўспамінай калішнюю нашу Мышанку. Дарэчы, каларытныя, па-свойму, і назвы тутэйшых, блізкіх ад мяне вёсак – Міхалкі, Міцькі, Барбарова і г. д. Бачыш, людзі як людзі жывуць, а ў N. усё нейкія Сынклеты і Халімоны, і яшчэ бог ведае якія ахламоны. І ўсюды, паводле таго ж N., “куды ні глянь, была вада”. Гэта ён так Палессе дагерадотаўскіх часоў жывапісаў. І мусіць сам, як боскі дух нейкі, над тымі водамі лунаў, калі сёння піша “куды ні глянь” і г. д. Не так і багата тут цяпер той вады – уся расцяклася па лажаках сачанкаўскіх раманаў. А на Палессі “гоман, гоман” адно – ды мусіць не пра N. пакуль. Пакуль яшчэ Шамякіна ўспамінаюць. Дальбог.

Рыгор, дарагі! Ведаеш, як прыемна, што ты зачапіўся за назву, якая і мне найбольш употай карцела! Калі можна, пакінь. Ты мяне гэтым нібы па душы пагладзіў. Праўда.

Ну, развітаюся. Прывітанне Карласу[6] і ўсім добрым хлопцам.

---

[1] Паэт Пятрусь Броўка (1905-1980) быў на пасадзе першага сакратара СП БССР з 1948 па 1967 год. Сыход яго з кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыяй быў няпросты і суправаджаўся дыскусіямі ў літаратурных колах.

[2] 24 лютага 1982 года Рыгору Барадуліну спаўнялася 47 гадоў.

[3] Друкуецца паводле аўтографу з хатняга архіва Рыгора Барадуліна.

[4] Крылаты выраз з камедыі “Гора ад розуму” Аляксандра Грыбаедава: “Пожалуй, смейся надо мною... / А у меня к тебе влеченье, род недуга, / Любовь какая-то и страсть, / Готов я душу прозакласть, / Что в мире не найдешь себе такого друга.”

[5] Міхась Ларчанка (1907-1981) – крытык, літаратуразнаўца, педагог. Рыгор Барадулін і Міхась Стральцоў слухалі яго лекцыі пад час вучобы ў БДУ.

[6] Маецца на ўвазе агульны сябар Міхася Стральцова і Рыгора Барадуліна празаік і перакладчык Карлас Шэрман (1934-2005).

Пішы. Другім разам болей напішу.

*21.VI.82 Твой Міхась*

*P. S.* Вось: папытай у Вял[югіна][1] Што яго бянтэжыць?

*М.С.*



*Міхась Стральцоў і Рыгор Барадулін.*

*30.04.83*[2]

*Дарагі Рыгор!*

Трыма шчырымі воклічамі віншую цябе з трыма майскімі святамі – Першамаем, Днём друку, Днём перамогі. Жадаю зноў жа трох дабротаў: здароўя, асабістага шчасця, творчых поспехаў!

На Вялікдзень прынясу віншаванні асобна і дадаткова.

Вядома, усяго найлепшага жадаю і тваёй сям'і – ад сябе і сямейных сваіх супольнікаў.

*Міхась Стральцоў*

**Рыгору Барадуліну**
**ў дзень нараджэння**[3]

Вол бушуе,
Вясну чуе –
Прэч, халады!
Апоўдні певень
Нап'ецца, пэўна,
Пад стрэшкай вады.
– Дзень добры, Рыгорка!
Вясна за пагоркам
Б'е ўжо крылом.
Пупышак салюты
Сніць месяц Люты –
Спіць крыгалом!
Чалом
Табе, браце,
Чалом!

*24.02.84 М. Стральцоў*

---

[1] Анатоль Вялюгін (1923-1994) – паэт. На працягу доўгіх дзесяцігоддзяў працаваў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Полымя".

[2] Датуецца паводле паштовага штэмпеля на канверце. Друкуецца паводле копіі аўтографу з хатняга архіва Рыгора Барадуліна.

[3] Друкуецца паводле аўтографу з хатняга архіва Рыгора Барадуліна.

*Дарагі Рыгор*[1],

сеў, нарэшце, напісаць два словы табе, а за спіной стаіць Ленка і дыктуе: “Пішы так: “Слова маё (а значыць, і яе) нашаткавана (напоўнена) усходняй сумнай мудрасцю і паўночным смуткам па табе”. Што датычыць паўднёвай мудрасці, дык тут намёк на Назармата (у перакладзе – “Погляд прарока”), які з Ташкента ўгледзеў Ленку, спасціг яе намеры ехаць у Кактэбель і без жонкі прыджгаў сюды, да мора – гнаны ўспамінам аб тым, як вытанцоўваў з ёй на тваім юбілеі[2]. Праўда, яму семдзесят год, але хто іх ведае, азіятаў, да якой пары пішчаць у іх дзеці.

Назармат, здаецца, напісаў табе, ён да цябе, кажучы па-руску, “преисполнен пиетета”, шчырага здзіўлення тваім паэтычным і чалавечым талентам, і ў захапленні расказвае, як надзяваў на цябе халат, як ты па-іхняму складваў перад сабой рукі і пашаноўна гладзіў бародку. Ён жа звёў нас з Боба Хаджы (з Душанбэ) – як я зразумеў, з тваім будучым перакладчыкам, ён хоча бачыць выдадзенай у іх там тваю кніжку. Ты бачыш, ты разумееш, што твая прысутнасць і твая дружба не пакідаюць мяне і тут, а мне прыемна гэта і ад гэтага хораша.

Тут Бубнаў[3] з жонкай і дачкой, купацца не хоча, кпіць з майго захаплення каменьчыкамі (я знаходжу агаты і халцадоны, дальбог!), а потым сам не ўтрымаўся і стаў шукаць, знайшоў нейкі аскабалак горнага, як ён сцвярджае, крышталю і будзе яго трымаць (так кажа) на пісьмовым стале. Я толькі не зразумеў, дзе – у рэдакцыі, ці дома. Ён, між іншым, таксама кланяецца табе, неяк сарамліва, ушчэнт лагаднеючы, як заўсёды, калі заходзіць гаворка пра цябе. І мне зноў гэта прыемна.

Толькі вось дзе ты? Ці знойдзе цябе пісьмо ў Мінску? Хаця – я пра гэта ўведаю неўзабаве і сам.

Абдымаю цябе, дарагі дружа, у спадзяванні, у надзеі неўзабаве абняць цябе.

*Твой Міхась*

*30.06.85*

Прывітанне Валі і Ілонцы ад нас усіх.

*P.S. Паважаны Рыгор Іванавіч, Мішэль, як заўсёды, мае рацыю: і сумуем, і паважаем, і любім, і вядзем пастаянную гаворку пра Вас.*

*Усходнія мудрацы апанавалі Мішу, а ён вельмі задаволены іх павагай да нашай Беларусі і да Вас.*

*...Мішэль скора заспявае арыю “Шукальніка перлаў”, бо збірае ўпарта каменьчыкі.*

*А мы з Алесяй перадаем прывітанне ўсім Вам.*[4]

*P.S.* Дальбог, Лена напісала гэта сама па-беларуску. Спытала толькі ў мяне, як перакласці “жемчуг”. Я пераклаў, а свайго нічога не дакладваў.

*М.*

---

[1] Друкуецца паводле копіі аўтографу з хатняга архіва Рыгора Барадуліна.

[2] У лютым 1985 года Рыгору Барадуліну споўнілася 50 гадоў.

[3] Маецца на ўвазе паэт Генадзь Бубнаў (н. 1948) – на той час намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Нёман”, дзе загадчыкам аддзела крытыкі працаваў тады Міхась Стральцоў.

[4] Тэкст, вылучаны курсівам, напісаны жонкай Міхася Стральцова – Аленай.

Анатоль Кудравец



...мала хто ведае пра страх,
з якім "адрынутыя" вяртаюцца
ў свет "неадрынутых"...

# Як лісцё на голлі аддрыжым

***З нагоды 75-годдзя Міхася СТРАЛЬЦОВА***

"Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч) Стральцоў нарадзіўся 14 лютага 1937 годзе ў вёсцы Сычын Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўніка" – так напісана і надрукавана ў кнізе "Беларускія пісьменнікі", 1994 г., "Мастацкая літаратура", складальнік – А.К. Гардзіцкі, навуковы рэдактар кандыдат філалагічных навук А.Л. Верабей. Пасля ідуць звесткі: скончыў БДУ, працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва", часопісах "Полымя", "Маладосць", "Нёман", член СП СССР. Памёр 23 жніўня1987 года.

Вось і ўсё. Нарадзіўся чалавек, вучыўся чалавек, працаваў і памёр. Як быццам усё ім і пра яго сказана. І ўсё-такі не ўсё і ім, і пра яго.

То быў творца выключнай інтэлектуальнай сілы і выключнага таленту. Таленту, які бачыў сябе і іншых у абсягу бліжэйшага літаратурнага поля, хаця блізкасць гэтая мералася і дзясяткамі гадоў, і сотнямі гадоў. Зноў жа, пра сябе ён як быццам і не пісаў. Сам ён тварыў – дзе празаічным, дзе паэтычным, дзе крытычным словам. І зноў жа, знайсці мяжу паміж гэтымі "словамі" бывае

вельмі цяжка. Што паэзія, што проза, што крытыка – усё гэта гармонія слова і думкі, гармонія пачуцця і настрою, скіраванага ў глыбіню чалавечай істоты, яе гістарычнай асновы і перадасновы.

Вось словы з яго “Загадкі Багдановіча”: “Ды нават і зробленае Купалам і Коласам, як паэтамі, не вызначалася б так сёння ў сваіх контурах і межах, каб побач з імі не было Багдановіча з яго здольнасцю адною рысаю пазначыць і назваць тое, што ў іншых разрасталася ў цыклы і паэмы... Багдановіч, побач з Купалам і Коласам, – тое трэцяе вымярэнне, без якога немагчыма перспектыва. З Багдановічам нам стала далёка відаць ва ўсе канцы свету.” Сказана, здаецца, і проста, але вельмі цвёрда, без непатрэбнага піетэту перад імёнамі і класікамі, аддаючы кожнаму сваё і пакідаючы сваё, Стральцоўскае, сабе. Так любіў гаварыць Багдановіч, так гаворыць Стральцоў.

Яму было б толькі семдзесят пяць...

Паміраў ён цяжка. Хаця яшчэ нядаўна, нейкі месяц назад, да аперацыі, калі мы – Янка Брыль, Вольга Іпатава, Віктар Карамазаў і я – прыехалі да яго ў Бараўляны, здавалася, усё павінна скончыцца добра. Так здавалася, так хацелася нам, так хацелася яму.

Быў прыгожы дзень ранняй восені, свяціла сонца. На прыбальнічных клумбах цвілі астры. Бярозы браліся на жаўцізну, і цёплае святло іх акварэльна накладвалася на гус¬та-зялёную сцяну прыдарожнага ельніку.

Міхась правёў нас за вароты бальнічнага гарадка. Курыў, жартаваў, але сум не раставаў у ягоных вачах. Хаця сум, нібы затоеная думка, быў пастаянным яго спадарожнікам апошнія гады. Быў ён у вачах, быў у голасе – глухаватым, спакойна-напружаным, – можа, і тут ён да нечага прыслухоў¬ваўся, да той жа хваробы і болю, пра што ён ведаў лепш, чым хто. Быў ён і ў паэтычным слове яго – нібыта бу¬дзённа простым, у нечым неканкрэтным, але дакладным, не паношаным, не размытым.

Снег асядае. І заспаны лес
Пахмурны з раніцы, здаецца, пазяхае.
Туман да самых макавак далез.
Унізе мох, ламачча – неахайна!
Унізе сыра – склеп або падвал.
Цень-цень! – і ўсё: маркоціцца сініца.
Зіма – падман. Ды і вясна – падман.
Вось-вось павінна нешта праясніцца.
Павінна нешта праясніцца...

Дактары, да якіх мы звярталіся, а сярод іх былі і аўтары часопісу, —свядома ці не надта свядома мы спрабавалі арганізаваць “блат”, не блат, а павышаную ўвагу ў той цяжкай сітуацыі, дык вось, дактары ў сваіх прагнозах былі строга стрыманымі і стрымлівалі наша жаданне быць большымі аптымістамі, чым магла быць рэальнасць. А рэальнасць магла быць самая жорсткая. Так яно і сталася. Хвароба і смерць блату не прызнаюць.

Пасля аперацыі, калі мы з Віктарам зноў наведалі яго, ён быў цяжкі, але гаварыў, нават усміхаўся, калі я сказаў, што Карамазаў за гэтыя дні стаў дзедам.

Рана не зажывала, зрабілі другую аперацыю. Вынік усё той жа несуцяшальны: страхавод не хацеў зрастацца са страўнікам, пачалося ўнутранае кровацячэнне.

Чалавек паступова згасаў. Не памагалі ні лекі, ні кропельніцы, ні мёд, ні ягады, ні самаахвярная – і днём і ноччу – прысутнасць і ўвага жонкі Лены.

...Абсыпаны шэрай шчаціннай твар, цяжка дыхае раскрытым, як нежывым ротам, у якім відны рэдкія пачарнелыя зубы; вочы падвернутыя ўбок, быццам



*На фота: Анатоль Кудравец, Валянцін Мысліvец, Міхась Стральцоў, Алесь Яскевіч, Барыс Фірштэйн. 1967 г.*

хоча нешта сказаць, а сказаць не можа. Стогне. “Міша, Толя прыйшоў”, – сказала Лена. Ці то кіўнуў галавой, ці не.

Лоб цёплы, рука сухая, халодная.

Такім я ўбачыў яго 21 жніўня. Дактары ўжо нічому не верылі. Загадчыца аддзялення Ірына Андрэеўна Галубовіч сказала: “Пульс ніцявідны. Мы ўжо думалі, што ён не перажыве гэтую ноч. Зайшлі пасля партсходу – не, лягчэй. Здараюцца ўсякія цуды, але... Яго яшчэ сутак на трое, можа, і хопіць”.

Цуд не здарыўся. 23 жніўня ён сутаргава ўздыхнуў апошні раз. Гэта быў 1987 год.

Зіма – падман, вясна – падман. Павінна нешта праясніцца...

Нешта праяснілася канчаткова. Нешта засталося канчаткова непраясненым.

У рэдакцыі “Нёмана” у рабочым стале Міхася Лявонавіча, на якім навалам ляжалі артыкулы і рэцэнзіі, падрыхтаваныя і непадрыхтаваныя да друку, і да якога я толькі праз некалькі дзён пасля пахавання набраўся рашучасці падступіцца, было дзве чырвоныя папкі. У адной – Ганаровая грамата Саюзу пісьменнікаў Беларусі за подпісам яго тагачасных кіраўнікоў – Максіма Танка і Ніла Гілевіча, уручаная паэту з нагоды пяцідзесяцігоддзя. Узяў у рукі Грамату і падумаў: о Божа! Якая гэта скупая ацэнка такога самабытнага, непараўнальна непадобнага ні на каго ў свеце таленту! Але калі глядзець сённяшнімі вачыма, пры сённяшнім часе і сённяшніх рэаліях, то што можа быць вышэй за добразычлівую чэсную ацэнку працы прафесіянала прафесіяналамі, паэта паэтамі?

Быў у той папцы і рабочы сшытак загадчыка аддзелу крытыкі часопісу – тоўсты школьны сшытак у клетачку з узлятаючай ракетай на вокладцы і алгебраічна-фізічнымі формуламі на другім яе баку. У гэты сшытак Міхась Лявонавіч запісваў каму і на які нумар ці да якога юбілею заказана рэцэнзія на артыкул, ці яшчэ што.

Сшытак быў толькі пачаты, і на трэцім лісце яго быў перапісаны чыставы

варыянт вядомага верша “Кіну, рыну – пакіну...”. Гэты верш друкаваўся ў зборніку “Мой свеце ясны”, увайшоў у “Выбранае” (1987), і там і там мае пяць строф. Тут жа, у сшытку, іх чатыры, – і наколькі розняцца гэтыя строфы ад тых ранейшых! Вось дзе ўдзячны матэрыял для параўнальнага аналізу даследчыкаў! Але не толькі для іх я хачу абнародаваць апошні варыянт верша.

Я вазьму і пакіну
Гэты дом на гары.
Горкі дым успаміну
Хай развеюць вятры.

І на рэчаньку Піну
Або на Вілію,
Або на лугавіну
Я слязу пралію, —

Каб зрабілася парай,
Маёй марай над ёй,
Узнялася да хмараў
Над зямлёй, над зямлёй,

І каб чайкі крычалі,
Прадчуваючы гром,
Каб на дальнім прычале
Страсянуўся паром.

Вось яна, сіла слязы паэта: у прадчуванні яе і чайкі крычаць, і на дальнім прычале гатовы страсянуцца паром...

Не надта шмат чаго было ў тых дзвюх чырвоных папках. Але, па ўсім, тым было тое самае-самае, чым Міхась Лявонавіч даражыў і да чаго наўрад ці дапускаў каго блізка.

Вялікае, на старонку, фота Янкі Брыля – ягонага ко¬лішняга літаратурнага настаўніка і старэйшага паплечніка, глыбінна-беларускі талент якога заўсёды прыводзіў Стральцова ў захапленне. На фота Іван Антонавіч сядзіць на цяжкой чыгунна-драўлянай лаўцы, якіх шмат у парку Горкага, на фоне густой летняй зеляніны. Рукі сплеценыя на каленях, позірк задуменна-спакойнага добрага настрою скіраваны ў сябе і ўдалеч. Здаецца, зараз усміхнецца і скажа нешта сваё, брылёўскае, жартаўліва-мудрае, тыпу “...а і мышэй жа ляснула...”. На адвароце фота паметка рукой Стральцова: “Верасень 1982 г.”

Яшчэ некалькі фота, зробленых з тэлекадраў перадачы, падрыхтаванай і паказанай студыяй да пяцідзесяцігоддзя Стральцова: ён каля дрэва, пад парасонам, кругом людзі, ідзе дождж; ён на фоне парка з фантанам, сабраўся нешта сказаць і вось-вось скажа; яны ўдвух з Барадуліным ідуць па набярэжнай Свіслачы, нешта ажыўлена абмяркоўваюць – два Паэты, два майстры – кожны са сваёй моўна-вобразнай краінай, кожны са сваёй чалавеча-адасобленай натурай, настолькі далёкія і розныя і настолькі неабходныя адзін аднаму, як два колы калясніцы, якую нясе па небясі нябачны Пегас. Нябачны для каго, толькі не для іх...

Святлом ад коцікаў вярбы
Мой роздум над радком атулен.
Пісаў калісьці Барадулін
Пра іх – ды мне такой журбы!

Я з камунальнага двара
Сюды прынёс іх неўпрыкметку,
Каб заключыць у верша клетку
Ў надзеі славы і дабра.

І вось надзеяю гарым
Над нашым столікам прытульным,
Што не падасца барадульным
Наш верш, а значыць – і старым.

Гэта чыста стральцоўскі экспромт, празаічна просты і паэтычна бездакорны, ад кожнага слова да Багдановічавай жартаўліва-сур'ёзнай інтанацыі. І наўрад ці каму прыйдзе ў галаву шукаць у ім нешта барадульнае, бо барадульнае – гэта іншае, зусім іншае. Ну, напрыклад, такое:

Прывыкай
На свет глядзець з абрыва,
Думай, пяцьдзесят – яшчэ палова.
Парадзела нашая сябрына,
Як дружына матчынага слова.

Як лісцё на голлі,
Аддрыжым
І сваё з жыццём сваім аддружым.
І чужыя ў гомане чужым,
Па сабе адтужым
Сумам дужым.

Нашых год чупрына
Палысела,
Кожны валасок
Цяпер нам дораг.
Маладыя будуць
Шум зласела
Варушыць
Ды варажыць на зорах.

Смела аддадуць
Лісцё агню
Восенню рудою
Ці вясною,
Дню паверацць,
А не груганню.
Дым растане
Першай сівізною.

Гэты верш упершыню я пачуў на застольнай стральцоўскай сябрыне, у ягонай кватэры па вуліцы Прытыцкага. Прысутнічалі там і Брыль, і Зарыцкі, і Карамазаў, і Ала Сямёнава, і яшчэ некалькі чалавек, – невялікай, па-дамашняму ўтульнай цёплай кампаніяй, і цяпло гэта і святло ішло перш за ўсё ад гаспадара-юбіляра, і відно было, што яму падабаецца гэтая роля – і юбіляра, і гаспадара, але бадай што роля гасціннага законнага гаспадара падабалася яму больш, чым роля юбіляра.

І гэты ж верш, акуратна перапісаны рукой аўтара на белым аркушы паперы, з прыпіскамі ўгары: "Замест тосту на сябрыне Міхася Стральцова" і ўнізе "14.2.87 Мінск 26.2.87 Dubulti" і размашыстым барадулінскім подпісам сустракаю ў той чырвонай папцы – разам з паштовым канвертам, адпраўленым у Менск з Латвіі, з Юрмалы. Відаць, Рыгор Іванавіч "даводзіў" свой застольны экспромт ужо на беразе бурштынавай Балтыкі.

Быў у папцы "ЛіМ" за 13.1.1984 году з артыкулам Стральцова "Ад маладзіка да поўні" – штрыхі да творчага партрэта Барадуліна. Складзеныя-перакладзеныя ў некалькі столак два газетныя аркушыкі, папрацiраныя на рагах складак. Навошта былі патрэбны Стральцову гэтыя шэрыя газетныя аркушыкі, калі той жа артыкул у апошнім аўтарскім прачытанні, з дапаўненнямі і папраўкамі быў надрукаваны ў

салідным томіку “Выбранага” з усёй неабходнай строгасцю выдавецка-тэхнічнай культуры? Навошта былі патрэбны? Відаць, былі патрэбны...

Нашмат часцей пачаў заглядваць у рэдакцыю “Нёмана” Барадулін, калі там у аддзеле крытыкі пачаў працаваць Стральцоў. Думаю, не толькі таму, што крытычна-ацэначнага стральцоўскага слова не маглі дачакацца вельмі многія, хто быў далучаны да капрызнай музы Паэзіі. І, думаю, не толькі таму, што Стральцову вельмі патрэбна была псіхалагічная і маральная падтрымка аднаго з самых аўтарытэтных заканадаўцаў паэтычна-літаратурнага клімату.

Яны цягнуліся адзін да аднаго, але не як розныя полюсы магніта, а як кроны двух побач пасаджаных дрэў: разам і цяплей, і весялей, і смялей. Яны ў нечым дапаўнялі адзін аднаго, і кожны стрымліваў розныя завіхрэнні, якія ўзнікалі пасля чарговай паэтычнай прабежкі паплечніка.

“Музы карануюць адзінкі. А зaverблiваюць легіёны. Муза паэзіі шчодрая на абяцанкі. Але і сама патрабуе невымернай цаны – адной і той жа ад “жалких писак и педантов” і ад найярчэйшага таленту. Паэзія – лёс, а лёс бывае розны, і паэт па-рознаму прымае і нясе гэты лёс. Ёсць таленты светлыя, жыццядайныя – яны і змрок пераплаўляюць у святло, але ёсць і другія, тыя, што самі нібы ўвасабленне пакутнага духу, адрынутага паводле нейкай незразумелай прычыны ад самога жыцця і асуджаныя трапятацца ў вечнай празе зліцця з ім”. Гэта радкі ўсё з таго ж артыкула, з артыкула пра “светлы, жыццядайны” талент Барадуліна. А хто ж гэта тыя, што стаяць за словамі: “увасабленне пакутнага духу, адрынутага паводле нейкай незразумелай прычыны ад самога жыцця і асуджаныя трапятацца ў вечнай празе зліцця з ім”? І ці няма сярод іх аўтара артыкула, самога Міхася Лявонавіча?

Безумоўна, іх шмат – тых, “адрынутых”, і ўчарашніх, і сённяшніх, але сам ён там перш за ўсё.

Складаныя перыпетыі жыцця, а больш за ўсё задуш¬лівая атмасфера яго, якая ад кожнага на кожным кроку патрабавала душэўнага кампрамісу, надламала фізічныя сілы паэта, адрынула ад звыклага жыццёвага распарадку і кінула на свой сметнік, у сумна знакаміты ЛПП.

Многім, нават некаторым імянітым літаратарам, гэты змрочны эпізод у жыцці паэта падаўся вясёлым і нібыта заканамерным. І яны – хто ўголас, а хто цішком, але ўсё з тым жа непрыхаваным падсмейваннем, шамацелі з’едлівымі слоўцамі: “Глядзіце, вось да чаго даводзіць багемная вольніца і бытавая неперaборлівасць. Хіба ж можна так? Вось мы, мы, напрыклад... Мы не такія...”

Неперaборлівасці не было, і вялікай вольніцы таксама. Была творчая натура з усім мякка-чалавечым, далікатным і тонкім, уражлівым і падатлівым, што Бог дазваляе людзям. Не іхняя віна, што яны часам не вытрымліваюць перагрузак. Жалеза і тое крышыцца і плавіцца.

І была праўда: яны былі не такія – і ў творчасці і ў маралі. А ён быў не такі, як яны, не такі ва ўсім, і гэтага яму не маглі дараваць.

Мала хто ведае, што гэта такое: з тлумнага, хай і дурнога, але і нешта абяцаючага сёння-заўтрашняга свету раптам трапіць на глухі жыццёвы сметнік, дзе ты – не ты, дзе ты – ніхто, трапіць, пабыць там, усё вытрываць і не абваляцца ў брудзе, не абчапляцца дзікімі ваўчкамі, не зарасьці каростай і не азлобіцца на сабе падобных і на ўвесь свет. Больш за тое, захаваць душу і свежасць успрымання і гатовасць да ўдзячнай рэакцыі на кожны спагадны позірк, на кожнае шчырае слова.

З пунктуальнай дакладнасцю адазваўся ён на прапанову прыйсці на працу ў “Нёман”. Наколькі гэта было важна для яго, я зразумеў толькі тады, калі ён зайшоў у кабінет, – не як пісьменнік да пісьменніка, не як равеснік да равесніка, урэшце, не як зямляк да земляка, а... як школьнік на экзамен. Тады я не ведаў, што ён пабываў ужо ў некалькіх рэдакцыях і адтуль яго далікатна адправілі.

Мала хто ведае пра страх, з якім “адрынутыя” вяртаюцца ў свет “неадрынутых”.

Быў гэты страх і ў Міхася Стральцова, хоць знешне ён гэтага нічым не выказваў. Быў страх, але была і закваска. Мне здаецца, што іменна там, адкуль ён вярнуўся ў Мінск, ён набраўся духу зазірнуць на ўсю глыбіню ў калодзеж сваёй душы. Зазірнуў – і не спалохаўся таго, што ўбачыў. Бо там ён убачыў той свет, ад якога яго хацелі адлучыць, але адлучыць ад якога яго ніхто не мог. Бо гэта быў ягоны свет. Гэта быў ён сам – мой свеце ясны.

Як промні сонца прасвечваюць тоўшчу вады, ажыўляючы кожны каменьчык, кожную няроўнасць дна, кожнае варушэнне водарослага і зялёнага, так і ягоны талент умеў высвеціць тайнікі душы – не сліпучым рэгістратарскім насцярожаным вокам ваеннага пражэктара, а ўсё тым жа, толькі ачалавечаным, ласкавым, журботна-дабрачым сонечным промнем.

Пад шоргат кропель дажджавых
Ён з тэлефоннай будкі бачыў,
Як па галінках верхавых
Зялёны вецер пругка скача.

Ён наглядаў. Ён не спяшаў.
Нішто пагляд не абражала.
Як бы лячылася душа,
Яе як быццам суцяшала,

Што вецер згоды не пытаў –
Шалеў над горадам – і, ніцы,
Ужо на вулках шкуматаў
Плашчы, кашулі і спадніцы.
І ў гэтай будцы пад дажджом,
У нейкай роспачы вялікай,
Сябе за дальнім рубяжом
Убачыў ён – і не паклікаў.

Не мог. А мо не захацеў.
Не абазваўся нейкім знакам.
А той у дзіўнай віднаце
Ці то ўсміхаўся, ці то плакаў...

І ў гэтым горадзе чужым,
Які ягоным быў калісьці,
Ішлі інакшыя дажджы,
Іначай трапятала лісце.

Некалі, малады, свет Іванавіч, былы донжуан, ён усё мог. Па крайняй меры, так яму здавалася. Але цяпер быў іншы час, і ён быў іншы, і “не мог” – гэта не паэтычны словаслоў, гэта само жыццё ў гэтым горадзе чужым, які ягоным быў калісьці. “А мо не захацеў...” Як яно прывязана да “не мог”... Стары гонар не дазваляе здавацца вось так адразу і назаўсёды.

Паэт не можа не любіць – на тое ён і паэт. Паэта нельга не любіць – бо ён Паэт.

Міхася Стральцова любілі жанчыны. І было за што: і гэты ягоны нявыдуманы то “блакітны”, то “зялёны” вецер, і гэты нязбыўны душэўны сум па зямным і вечным, недасяжным, і гэта спакуслівая тайна, што жыла ў кожным слове ягоным – і празаічным, і паэтычным, і сказаным, і нясказаным, якога калі і няма, то яно прысутнічае, падразумеваецца, і сам ён – малады, прыгожы, далікатны інтэлігент, юнак і ў трыццаць, і ў сорак, і ў пяцьдзесят...

Было ў той сціплай рэдакцыйнай папачцы некалькі канвертаў з лістамі і

паштоўкамі, напісанымі жаночай рукой. Былі сярод іх і вершаваныя... І сёння, на адлегласці гадоў, якія прамінулі, калі самога паэта не стала, тыя паэтычныя вітанні, дасланыя Міхасю Лявонавічу да дня яго народзін, чытаюцца асабліва шчымліва і скрушна, як лішні напамін пра скарацечнасць чалавечага жыцця і віртуальнасць радасці, дарованай ім:

Хоць і груз жыцця налёг на плечы,
Бегла думка лёгкая аб нечым...
Бегла думка прама, наўскасяк...
Аж гляджу: яна ля Міхася.
Аж гляджу: яна ля Міхасёчка...
Ды і ён, здаецца, недалёчка.
Колькі зім і летаў, і гадочкаў,
Як радзіла маці Міхасёчка!..
Ну скажы мне, што рабіць нам з лютым –
Нешта ён закручывае крута?
Толькі думка цёплая аб нечым...
Да сустрэчы, Міша,
да сустрэчы!

Вітанне памечана лютым 1986 году. А вось яшчэ адно вітанне – люты 1987 году – апошні год Міхася Стральцова:

Даражэнькі імяніннік!
Быў першы дзень... Затым гады без ліку.
І залаты гадзіннік нам націкаў...
Няхай пачнецца дзень, як і спярша...
І зноў квітнее добрая душа!
А наваколле?.. Глянь, як плача снег.
Яшчэ – вясна!
І сонейка!
І смех!

Былі пасля таго і вёсны, і сонейка, відаць, быў і смех: жыццё не любіць аднастайнасці. Але ўсё гэта было ўжо без паэта.

Снег плакаў нездарма.

Прайшлі гады, як яго не стала, але не-не ды і ўсплыве ў памяці яго хударлявая постаць ля акна з прачыненай на вуліцу форткай, у якую ён пускаў цыгарэтны дым. Пускаў і сам цягнуўся позіркам туды, дзе неба і прастора. А ў самога былі вочы зацкаванага звера з пастаянным туманам глыбокапатаемнай думкі.

Болей маўчаў, і было зразумела, што ён недзе там, сам з сабой, са сваёй душой. Гаварыў ціхім хрыплаватым голасам – і было ясна, што ён вярнуўся адтуль у зямную рэальнасць – няўтульную, чэрствую, але дарагую да слёз, як пакінутая шмат гадоў назад занядбаная родная хата.

Там, адкуль ён вярнуўся, быў ягоны храм, яго сабор, і туды ён нікога не пускаў. Там усё было саткана з блакітнага і зялёнага, празрыстага і сціхуткага, крышталёвага і крохкага. І там, як гаспадыня, прыжылася і забрала ўсё ў свае рукі самота. Не сум, не адзінота, не адчай, не журба, а самота. Там ён мог быць сам-насам са сваёй душой як часавай, прасторавай і зямной рэальнасцю.

У 1985 годзе я скончыў працу над раманам “Сачыненне на вольную тэму”. Пісаўся твор некалькі гадоў, але адчування, што вось яна, праца, нарэшце скончаная і можна не баяцца выходзіць з ёй у людзі, не было. Наадварот, быў нейкі страх, тачыла няўпэўненасць, як іржа точыць жалеза. Здаецца, і тое не так, і тое, і ўвогуле... хоць вазьмі і выкінь гэты немаленькі стос спісанай і шмат разоў перапісанай паперы. Папрасіў Стральцова прачытаць і сказаць сваё слова. Чытаў ён доўга, ва ўсякім разе, так мне падалося. Праходзіць тыдзень, два, тры, а ён

маўчыць. Хоць ты на працу не хадзі: працуем жа ў адным часопісе. Нарэшце, заходзіць. І зноў прачынена фортка на вуліцу, там гудзе, шуміць, ідзе сваё жыццё, туды ж вылятае дым ад Міхасёвай цыгарэты.

– Ну, стары, віншую! Ад усёй душы віншую, – нарэшце гаворыць ён. Я гатовы быў расцалаваць яго, і не толькі таму, што ён пахваліў раман, хаця і таму, што па¬хваліў, а болей за ўсё таму, што зняў камень з душы.

Міхась памаўчаў і даволі жорстка дадаў:

– Гэта не тыя бясконцыя пугі, што пякуць, як бліны, некаторыя нашыя раманісты. Аказваецца, на невялікай плошчы можна шмат што сказаць.

Міхась Стральцоў быў і заставаўся рашучым прыхіль¬нікам “малога” жанру – апавядання, эсэ, верша, невялікай аповесці. “Адзін лапаць, адзін чунь” па стральцоўскіх мерках – гэта ўжо цэлая эпапея! І я б, можа, не ўспомніў пра гэты эпізод, калі б ён датычыўся толькі мяне. Міхась быў чалавек стрыманы і далікатны, але на літаратурным полі заставаўся бескампрамісным і строгім.

Міхась Лявонавіч вярнуў мне папку з рукапісам.

– Не перажывай, усё добра... Пытальнікі на палях. Падумай толькі над канцом... – сказаў ён.

Дома я перачытаў усё ад пачатку да канца. Пытальнікі былі, але яны датычылі слова, паўслова... А канец... Ён і самому мне не падабаўся.

Трэба было думаць...

Калі б мяне папрасілі адным словам азначыць, хто ён, Міхась Стральцоў, у літаратуры, я сказаў бы, што ён – паэт самоты. Самоты не як мадэрна, не як позы, а як чалавечай сутнасці і як састаўной долі “пакутнага духу”. Гэтае беларускае слова не мае раўнацэнных, адназначных аналагаў у блізкіх мовах. Ціхае і далікатнае, усеабдымнае і глыбока індывідуальнае, якое ўбірае ў сябе ўсяго чалавека, стан ягонай душы, яго самасць – далікатнасць, інтэлігентнасць, крохкасць, прыродную музычнасць і балесную рэакцыю на ўсякі знешні дысананс, – яно больш за ўсё прыдатна было стральцоўскай натуры.

Напэўна гусі на бяду
Крычалі – журавы маўчалі,
Калі ў дарозе чараду
І зім і лет маіх страчалі.
Што я хацеў, што я хацеў,
Што за праява адбылася?
Я сніў, што сам я адляцеў,
Душа ўзяла і засталася.

Колькі б ні стараліся расшыфраваць загадку чалавека, яна заўсёды застанецца загадкай. Яшчэ цяжэй расшыфраваць загадку асобы творчай. Тут можа быць толькі пазнанне яе, спасціжэнне яе. Бо іначай можа стацца, як у нырца на глыбіню: туды занырнеш, а назад не вынырнеш. Пра Багдановіча Стральцоў так і сказаў: “Загадка...”. І пакінуў кожнаму права шукаць адгадку.

Так і сам пра сябе.

Усім, хто яго ведаў, хацелася, каб ён зрабіў больш. Усе ведалі, што гэта будзе адкрыццё, гэта будзе жыццё, гэта будзе паэзія. Як было некалі, калі ён расказваў пра Максіма Багдановіча. Ці калі паведаў пра Вялікага чалавека з Малой Багацькаўкі. Ці калі нечакана, насуперак ліхому пасляваеннаму аптымізму і жорсткай рэалістычнай заземленасці, расказаў пра блакітны вецер, без якога нармальны чалавек – не чалавек. Ці... Шмат што можна было б далучыць у гэты пералік і гэта было б тое самае, што ўзяць творы пісьменніка ад першага да апошняга і перачытваць, і перажываць, і перадумваць.

Дык вось, па сваёй добрай волі, па сваёй зададзенай ахвоце мастак не можа

адмовіцца ад працы. Што роўна – адмовіцца ад сябе. Не піша, значыць, не можа пісаць. І зноў жа гэта не значыць, што ён не працуе. І ці можна знайсці суд больш, чым суд мастака над самім сабой.

Не будзем крыўдаваць на жыццё, не будзем рабіць людзей святымі. Будзем старацца зразумець падатлівасць чалавека і жалезабетоннасць часу, у якім ён жыве. Асабліва калі чалавек гэты – Паэт.

Сэрца паэта сумуе заўсёды. Але асабліва шчымлівы сум перад адыходам чалавека ў дарогу, з якой не вяртаюцца.

Журботна крычаць журавы, адлятаючы ў вырай. У іх ёсць надзея вярнуцца. А ў Паэта?..

Самотна трымціць яго душа, збіраючы зямныя лахманы, каб было чым затуліцца на скразняках вечнасці. Сумныя вочы чапляюцца за ўсё, на што некалі пазіралі мімаходзь, незацікаўлена і разбэрсана, а цяпер яны ва ўсім знаходзяць залацінкі глыбіннага сэнсу і неспазнанай прыгажосці. І хочацца ўсё гэта забраць, утаптаць у сябе, патрымаць, паняньчыцца, як у дзяцінстве з любімай цацкай, а пасля вярнуць назад, але ўжо як сваё, нованароджанае, пакінуць нейкім напамінкам пра сябе, як пра ружовы ўсплёск на вячэрнім небе, перш чым яго затушуе чарната ночы...

Пакінуць... Каму і навошта? Каму? Тым, хто застаецца. Навошта? Навошта... Можа, каб мець прычыну яшчэ раз некалі вярнуцца?.. Каб сказаць: “Я нікуды адсюль не пайшоў, я ніколі з вамі не разлучаўся”...

Вада асенняе крыніцы,
Яе злавесныя агні,
Калі пад вечар неба ніца
Глядзіць з панурай глыбіні, —
Мне нагадалі даўні лес,
Якога памяць ці жывая...
Я схамянуўся і абтрос
Жуду, як дрыжыкі, бывае.
Я павярнуўся і далей
Пайшоў, ды хмары навісалі
І не празрысцей, не святлей
Той на нябёсах лёс пісалі.
І дальні лес, і блізкі луг,
І ў вечаровых барвах поле,
І ўсё наўкола і наўкруг
Жыло тым лёсам мімаволі
Маўчала ўдалечы сяло.
Але чамусьці мне здалося,
Што ўсё тут памяццю жыло
Не аднаго, а мноства лёсаў.
А падалося: гэты дзень,
Святло якога дагарае, —
Не пакідаючы надзей,
Са мною разам памірае.

Услед за Максімам Багдановічам і Максімам Гарэцкім Міхась Стральцоў больш чым хто спасціг драматызм беларускай душы. Драматызм гэты гістарычна абумоўлены. Ён у пастаянным адчуванні сябе выгнаннікам, чалавекам з Радзімай, але без роднай хаты. Чужы на сваёй зямлі, чужы сярод сваіх. Пра гэта цяжка думаць, яшчэ цяжэй пра гэта некаму сказаць.

За ўсякае адкрыццё трэба плаціць. Нават калі гэта адкрыццё самога сябе.

І паэт заплаціў самым дарагім, што меў. Заплаціў самім сабой.

*1997, 2011*

Уладзімір Содаль



…у Вязынцы нарадзіўся Ясь Луцэвіч,

а ў Бараўцах – Янка Купала…

# Звяно творчага ланцужка

***Баравецкая рэчаіснасць і станаўленне Янкі Купалы як беларускага песняра***

Нам вядомыя некалькі паэтычных гнёздаў Янкі Купалы. Гэта найперш Вязынка – радзіма песняра. Затым творча ўзлётныя Акопы. Нарэшце, плённа слынныя савецкія Ляўкі. Але з гэтага паэтычнага Купалавага ланцужка чамусьці нічым не апраўдана выпадае яшчэ адно не менш важнае, чым Акопы і Ляўкі, – Баравецкае Купалава гняздо. Мяркуйце самі: у Бараўцах Купала накрэсліў сваю "Адвечную песню" і шэраг вершаў. Сярод іх "Явар". У баравецкую пару за Ясем Луцэвічам канчаткова замацаваўся ягоны славуты псеўданім Янка Купала. У Бараўцах Янка Купала пераважна вынасіў і сваю першую кніжку "Жалейка". Дык ці гэтага замала, каб такая мясціна неяк была ўшанавана, уганаравана. На вялікі жаль, згаданае Купалава гняздо безыменнае амаль да сённяшняга дня. Нядзіўна, што не гэтак даўно Беларускае тэлебачанне сутыкнулася з дылемай: дык хто жыў у Бараўцах: Якуб Колас ці Янка Купала? І свой тэлевізійны сюжэт інтрыжна назвалі "як Якуб Колас і Янка Купала дзялілі стары баравецкі

дуб...” Калі гэты сюжэт глядзелі людзі дасведчаныя, асабліва тыя, што займаюцца падрыхтоўкай да 130-ай гадавіны з дня паэтавых народзінаў, дык павінны былі задумацца...



У 1995 годзе мне пашчасціла ў выдавецтве “Беларусь” выдаць невялікую, але ёмістую зместам кніжачку “Тут бачу свой край” пра згаданае баравецкае Купалава паэтычнае гняздо. І дагэтуль мне цікава тут усё: і баравецкія краявіды, і баравецкі фальклор, легенды, паданні, якія несумненна жывілі Купалу, Купалаў побыт. І нават баравецкія могілкі. Але пра ўсё па парадку.

## Баравецкі ўніверсітэт

Пяць гадоў Луцэвічы арандавалі баравецкі фальварак пані Стралковай. Пяць гадоў Бараўцы жывілі сваёй рэчаіснасцю творчую фантазію Яна Луцэвіча. Нішто не заставалася ў Бараўцах па-за яго ўвагаю. Пачуе якуюсь байку-казку ці якуюсь песню і песня тая, і казка-байка ўжо яго. Усё глыбока западала ва ўражлівую душу маладога песняра. Гэтак, прыкладам, сталася і з песняй “Былі ў бацькі тры сыны”. Пачуў аднаго разу згаданую песню і тут жа занатаваў яе, але ўжо ў сваёй трактоўцы – “Старая песня на новы лад”

СТАРАЯ ПЕСНЯ НА НОВЫ ЛАД.

Былі ў бацькі тры сыны,
Хух – я!
Ды ўсе ж яны Васілі.
Хух – я!
Адзін служыць у дварэ,
Хух – я!
Поле панскае арэ,
Хух – я!
Другі стражнікам з іх стаў,
Хух – я!
Куляй, шабляй засвістаў.
Хух – я!
Трэці згінуў у баю.
Хух – я!
За свабоду і зямлю.
Хух – я!
Бацька ў вёсцы сваей спіць,
Хух – я!
І дуда пры ём ляжыць;
Хух – я!
Ён часамі дзьме ў яе,
Хух – я!
Песню нудную пяе:

Хух – я!
Ой, ты, дудка, ой дуда!
Хух – я!
Бяда жыці мне, бяда!
Хух – я!
Не вяселіш ты мяне
Хух – я!
Ў маёй беднай старане.
Хух – я!..

Якія ж яшчэ народныя песні бытавалі ў Бараўцах у Купалаву пару? Якія з іх ён мог чуць?

Марыя Баравец, жыхарка Бараўцоў, запісала для мяне з маёй просьбы цэлы сшытак баравецкіх песняў, якім яна навучылася ад людзей старэйшага пакалення, Купалавых сучаснікаў. Сярод іх нямала жартоўных. От, прыкладам, як гэтая – “Бульбу жару, гарох пару”.

Бульбу жару, гарох пару –
Не лезь, Грышка, бо ўдару.
Бедная ж я.
Ой жа ж бедная мая галава.
Як удару і не памалу –
Пакоцішся пад лаву.
А ты, Грышка, не рыдай
І з-пад лавы паглядай...
Каля кузні ішла,
Малаточак знайшла.
А мой Грышка – кавалёчак.
Будзе яму малаточак.

Бульбу жару, гарох пару –
Не лезь, Грышка, бо ўдару.

Гэткая ж дасціпная і песня “Паехаў Ахрэм...”

Паехаў Ахрэм за сем міль па хмель.
Не купіў хмелю, купіў ячменю
За семсот злотых поўную жменю.
Наварыў піва людзям на дзіва.
Піва рагатае ў бочку не лезе.
Цешча багатая ў госці не едзе.

З якой жа нагоды спяваліся згаданыя песні?

– А з самай рознай, – кажа Марыя Баравец. – Даўней жа хоць людзі і працавалі цяжка, але як толькі надаралася якая прадуха, ладзілі розныя ігрышчы. Збярэмся, бывала, на такое баравецкае ігрышча ў каго-небудзь, і пачынаюцца розныя гульні, забавы. Гуляем і спяваем. От, прыкладам, як ладзіліся нашы баравецкія ігрышчы. Выходзіць хлопец на сярэдзіну хаты, а дзяўчаты, усеўшыся на доўгай шырокай лаве пры сцяне, спяваюць:

Весел нам, весел сягонняшні вечар,
Хаджу, выбіраю цесця і цешчу.
А яшчэ выбіраю мілую па сэрцы...
*(Выходзіць дзяўчына з вянком. Спявае:)*

Я хаджу з вянком, хаджу не знаю,
Каму вянок палажыць.
Палажу я вянок на правае плячо.

Палажу і сама к моладцу іду.
Іду, пакланюся і сама прэч пайду.

*(Ходзіць хлопец па хаце.)* Усе спяваюць:
За рэчанькай-ракой моладзец гуляе,
Сваёй правай ручкай дзеву выбірае:
Выйдзі, выйдзі, дзяўчыначка,
Пагуляй са мною,
Бо мне надаела гуляць аднаму.
За любоў соладку пацалую...

На гэтых баравецкіх ігрышчах гучалі самыя розныя народныя песні. “Як хацела бабулечка ды разбагацеці”, “А на двары дождж і бура”, “Гэй, а што гэта да за свет настаў” ды шмат іншых, сугучных Купалу.

А НА ДВАРЭ І ДОЖДЖ, І БУРА

А на дварэ і дождж, і бура,
А мужык жонку б’е, муштруе,
А мужык жонку б’е, навучае,
Каб яна з хлопцамі не гуляла.
– Мой ты міленькі,
А што ж я вінна,
Што за мной хлопцы,
Як за дзяўчынай.
Выйду вадзіцы! Яны міргаюць
І на вячоркі зазываюць.
Я ім казала, што мужа маю.
Я адгуляла, больш не гуляю.
Калі не верыш – купі званочак
І прывяжы на падалочак.
Званок зазвоніць, а ты пачуеш
І прыбяжыш – паратуеш!
Званочак звоніць каля хаты.
Мужык не чуе, спіць п’янаваты.
Мой ты міленькі – будзеш співацца,
Бо будзе табе ўсё здавацца.
І тыя хлопцы, і тыя суседкі:
Не можна піць многа гарэлкі!

СЫН

Гэй, а што гэты ды за свет настаў,
Што сын мамку з хаты прагнаў.
Гэй, пайшла мамка ў лясок,
Села сабе пад кусток, накрылася хварастом.
Назаўтра ранюсенька чуе нехта гукае –
Сынок мамку шукае.
Хадзі, мамка, дамоў,
У мяне дома бяда стала:
Жонка сына прыспала.
На стайні конь прапаў:
Гэта мяне Бог пакараў,
Што я мамку з хаты прагнаў.

То ці мог Янка Купала, жывучы сярод тутэйшага люду, застацца абыякавым да яго духоўнага жыцця? Вядома, не! На яго паэтычны настрой у Бараўцах уплывала ўсё, нават арандарская хатка. У ёй песняра з узнёслай душою ўсё гняло: і нізкая столь, і чорныя непрыхаваныя, на поўны выпуск, бэлькі, і маленькія падслепаватыя вакенцы.

Не лепей ён пачуваў сябе, калі выходзіў за хату:

ЯК ВЫЙДУ ЗА ХАТУ...

Як выйду за хату
На траву-лагі,
А што-ж касіць буду,
Божэ дарагі?
Ой, лю-лі, лю-лі,
Што-ж буду касіць?..
Туды-сюды, сям-там –
Смех казаці людзям:
Сівец, аер, куп'ё, –
Вот і ўсё, вот і ўсё!

***
Як выйду за хату,
Дзе дабро – шнурок,
А што буду жаць я,
Збіраць, весці ў ток?
Ой, лю-лі, лю-лі,
Што-ж буду збіраць:
Туды-сюды, сям-там –
Смех казаці людзям:
Мятлу, гірсу, званец, –
Вот і ўсё, і канец.

***
Як выйду за хату,
Бор шуміць, пяе...
А што-ж буду сеч я,
Дзе хвойкі мае?
Ой, лю-лі, лю-лі,
Дзе дровы бярно?
Туды-сюды, сям-там –
Смех казаці людзям:
Лаза, корчык, гніллё, –
Вот і ўсё, вот і ўсё.

***
Як выйду за хату,
Дарога йдзе...

Але нямала было ў Бараўцах і такіх куточкаў, якія лагодзілі паэтаву душу. Гэта найперш вялікі, перад ганкам, ставок. Бывала, выйдзеш на ганачак, а перад ім воднае люстэрка. А над ім сівы туманок – песняй вясной лебядзінаю. На беражках гэтага стаўка бараўскі люд ладзіў Купаллі. Гэта чароўнае летняе свята, як вядома, канчаткова паўплывала на абранне Ясем Лучэвічам свайго славутага псеўданіма.

## Сёння Купала, заўтра Ян

Канчаткова свой псеўданім Янка Купала асэнсаваў і замацаваў, пэўна ж, у Бараўцах. А перад гэтым была рада і з Уладакам Самойлам. Абодва намеркавалі, што лепшага псеўданіма і не прыдумаеш. Нарадзіўся на Купалле, на Яна, то быць Ясю Лучэвічу Купалам. Сам Бог паслаў яму такі псеўданім. З гэтай нагоды Купала меў вялікую цікавасць да купальскага свята, да купальскіх абрадаў, песняў, рытуалаў. Якія ж Купальскія песні мог чуць Купала ў Бараўцах? Ці памятаюць іх тут?

Некалькі купальскіх песняў згадвае Марыя Баравец. Сярод іх – "Сёння Купала,



*Баравецкі краявід.*

заўтра Ян", "Купалка", "А ў саду зеляненькім". Першую з іх мы ўсе больш-менш ведаем. А вось іншыя варта паслухаць:

Сядзіць Купалка на плоце,
Яе галоўка ў злоце.
А дай жа, Божа, пагоду
Гэтай Купалцы выгоду.

***

Сядзіць Купалка на тыночку,
Яе галоўка ў вяночку.
Прося ў Бога пагоды
На гэтую летнюю ночку.
Будуць музыкі іграці,
Будуць дзевачкі гуляці.

Будуць дзевачкі гуляці,
Купале песні сяваці,
Будуць вяночкі звіваці.

***

А ў саду зеляненькім
Шызы голуб брукуе:
Паніч паненку любуе.
Ён ёй сігнэлік даруе.
А яна яму вяночак:
"Едзь жа, панічок, дадому,
Не заязджай жа к нікому:
Бо мой вяночак утраціш,
Вараным канём не ўплаціш."

Скончыўшы "А ў садзе зеляненькім", спадарыня Марыя праспявала і дзве песні пра саму Купальскую ноч:

Купала –
Пятрова ночка мала.
Купала.

Купала –
усю ноч ня спала.
Ніткі сукала.
Купала.

Купала –
ніткі сукала,
ручнікі ткала.
Купала.

Купала –
ручнікі ткала
Сватоў чакала.

У арэале гэтых і іншых песняў жыў Купала, натхняўся, тварыў свае ўзнёслыя вершы, прасякнутыя народным духам вершы.

## Баравецкае жытло Луцэвічаў

*Паводле згадак Мечыслава Папкоўскага*

Баравецкая хата сваім пасадам, з ганкам пасярод, глядзела на поўдзень. Яна сядзела на фундаменце з вялікіх камянёў, змацаваных вапнай. Дом быў збудаваны з цясаных бярвенняў. Вуглы ашаляваныя. Страха накрыта гонтай, падстрэшша падбіта дошкамі. Дом на дзве палавіны – жылая і гаспадарчая. Ганак быў накрыты двухсхільным дахам, які трымаўся на слупках-круглячках. Па баках на ганку лаўкі з абрашоткамі. З ганка дзверы адчыняліся ў сенцы. Ля гэтых дзвярэй невялікія акенцы. Направа дзверы вялі на гаспадарчую палавіну, налева – у пакой, далей – у кладоўку. Пры кладоўцы стаяла драбіна (лесвіца) з люкам на гарышча. Пакой меў два вакны – адно на поўдзень і адно на захад (яно глядзела ў сад). Вокны не фарбаваныя, без аканіц. Сцены пакоя абклееды шпалерай. Падлога з габляваных, але нефарбаваных дошак, засланых даматканымі палавічкамі. Між паўднёвых вокнаў стаялі ў пакоі два фікусы. На куце бажніца. Справа ад заходняга вакна сервант, ля сцяны вялікі куфар і пара зэдлікаў. Пасяродку паўночнай сцяны пакоя дзверы вялі ў спальню. Спальня мела адно вакно. Глядзела яно на захад. Сцены спальні былі абклееены газетамі. Пры бакавых сценах аднасыпальныя драўляныя ложкі: два з боку пакоя і два каля паўночнай глухой сцяны. З спальні меўся выхад (без дзвярэй) на кухню. На кухні вакно. Адчынялася ў сад. Падлога гліняная, глінабітная. Памятаецца, на кухні стол і лаўкі, у куце – печ. У падпечны зімой трымалі курэй і трусоў. Пры печы падвешаныя палаці. Унізе пад палацямі скрыня з прыпасамі. У спальні, памятаецца, грубка, абмазаная глінай і пабеленая.

З кухні дзверы вялі на гаспадарчую палавіну дома. Яе паўднёвая сцяна мела два вакны і "чорны" ход, прыкрыты сенцамі, на двор.

На гаспадарчай палавіне дома падлога з гліны, стаяла з умазанымі ў яе чугунным катлом, у якім гатавалі корм для жывёлы. На гэтай палавіне дома трымалі свіней, курэй. Гэта быў адгароджаны катух і зроблены насест.

От у такой хаціне і снаваліся Купалавы песні-думы, якія ён неўзабаве збярэ пад вокладкай сваёй славутай "Жалейкі"

*16.01.2007 года.**

* Апісанне баравецкай фальваркоўскай хаціны пададзена паводле расповяду Мечыслава Папкоўскага, якому выпала нарадзіцца і гадавацца ў арэндаванай калісь Луцэвічамі афіцыне.

## Адвечная песня


*Баравецкі дуб.*

З баравецкай рэчаіснасці і Купалава глыбока філасофская паэма "Адвечная песня". Ва ўсякім разе Янка Купала напісаў яе там. Дата яе напісання 22-га жніўня 1908 года. Менавіта так пазначана ў канцы паэмы.

Паэма "Адвечная песня", як вядома, – гэта твор пра адвечную прагу чалавека долі-шчасця, прынамсі, селяніна, ад дня народзінаў, ад калыскі да дамавіны.

Што ж схіліла паэта на напісанне згаданай паэмы менавіта ў гэты час?

Жнівень. Пачатак жніва. Самы адказны момант у жыцці сейбіта. Ад таго, як ён справіцца са жнівом, колькі ён поту пральe, залежыць лёс ягонай сям'і аж да новага жніва. Таму, не шкадуючы сілы, ён дбае пра кожнае зярнятка, пра кожны каласок. А тут поблізу ягонага загончыка ў бярозавым гайку баравецкі могільнік. Ён нагадвае сейбіту пра хуткаплыннасць ягонага зямнога жыцця. От яна яго адвечная песня!

Роздум пра адвечны лёс селяніна-сейбіта, селяніна-аратага нагадваў Купалу і стары каталіцкі могільнічак на арандаваным Луцэвічамі фальварку. Штодзённае суседства з гэтым могільнічкам не адзін раз змушала яго задумвацца пра сэнс чалавечага жыцця ад калыскі да труны. Тут дарэчы згадаць: невялікія Бараўцы ў Купалаву пару былі з двух бакоў абкладзены могілкамі. І гэта, хто хацеў не хацеў, змушала кожнага, хто хоць трошкі здатны да філасофскіх развагаў пра сэнс чалавечага жыцця, думаць пра гэтую адвечную тэму, тым больш такога рамантыка, якім быў Купала.

Падзеі ў паэме разгортваюцца не на фоне старога замшэлага могільніка. У самых розных праявах паўстаюць перад чытачом дзейныя асобы. Тут і розныя прывіды. Тут і цені, совы і крумкачы. Розныя духі. Паэма поўная сімвалаў. Тут і Холад, і Голад, Доля і Бяда, іх маналогі. З баравецкай рэчаіснасці і ўсе, як мне падаецца, рэмаркі. Згадаю некаторыя з іх:

"Цёмная ноч перад узвіжаннем. Могілкі. Лётаюць совы і кажаны. На паваленым крыжы сядзіць цень Мужыка... Злятаюцца тыя ж самыя духі, што пры хрэсьбінах. Верцяцца каля мужыка і папераменна пяюць". Ці яшчэ: "Дворны папар, лагі. Недалёка лес... Песецца скаціна; каля яе снуе маленькі пастушок... Босы. У зазябнутых руках трымае быроставую трубу...".

Акурат усё, як калісь было ў Бараўцах. Вясковыя могілкі, прынамсі і баравецкія, а іх у Бараўцах было аж двое – праваслаўныя і каталіцкія. Каталіцкія амаль побач з арандаваным Луцкевічамі жытлом, заўсёды абуджалі ў Купалавай душы роздум пра сэнс чалавечага жыцця. Пра гэта не адзін Купалаў твор:

СЕЛЬСКІЯ МОГІЛКІ

Люблю я могілкі з каплічкай,
Прыселле насыпаў і пліт,
Дзе крыж і страшыць і галубіць,
Слязой дзе кожан дол абмыт.
Сваё дзе радаўніца свята
Спяшыць у год абходзіць раз, –
Сялян склікаючы сямейку,
Спраўляе з светам тым папас.
Жывыя душ успамінаюць
Сваёй успанае радні,
Над імі жаляцца галінкі,
Нясуць былыя думцы дні...
Агул жыцця ўсяго абыймеш,
Друзы пагод і непагод,
Зямлю і неба ў рукі возьмеш, –
І ў гэты край зляціць паглёд.
І як жа міл дзірванчык цішы,
Спакою дзіўнага узгор,
Дзе не чапіў сялянства пушчы
Навейшай мудрасці тапор!..

## Вершы-пабудкі

У баравецкую пару Янка Купала часта звяртаўся да вершаў-пабудак. Гэта і “Што ты спіш?..”

ШТО ТЫ СПІШ?

Што ты спіш, што ты спіш,
Беларускі мужык?
Глянь! Усталі усе,
Як свет божы вялік!

Толькі ты, брат, адзін,
Як забіты, ляжыш
І на долю сваю
Не ўстаеш, не глядзіш.

Няўжо мала яшчэ
Катавалі цябе?
Няўжо мала яшчэ
Слёз і гора табе?

..................

Дык прачніся хутчэй,
Беларускі мужык!
Глянь! Усталі усе,
Як свет божы вялік!

Пабудковыя матывы гучаць і ў вершах “Там”, “Пойдзем”, ды і шмат у якіх іншых. Адзін з такіх вершаў, сугучны вершу “Што ты спіш?”, памятае і Марыя Баравец: “Я яго навучылася ад таты, – згадвае Марыя. – Бывала, спім яшчэ, а тата тупае па хаце і будзіць:

Устань, прачнісь, мужычок –
Ужо вясна на дварэ.

Сонца свеціць у вакно,
Певень песні пяе.
Уставай, не ляжы!
Пара поле гараць!
Прычакаўшы вясны,
Усе пайшлі працаваць!
Як пайду па лясах –
Многа птушак ёсць там.
Яны ціўкаюць, пяюць,
Гнёзды цёплыя уюць.
Як пайду па лугах –
Матылёчкі ёсць там,
Як прыгожы яны
Ў гэты цёплыя дні.
А заглянь у лясок
Пад малінаў кусток:
Там пчолкі гудуць –
Мядок салодкі бяруць.
Усе пайшлі працаваць,
Усе хваляць вясну,
Бо прачнуліся яны
Ад зімовага сну.
А хто будзе працаваць,
Той не будзе галадаць!
Усе рады вясне
І бягуць, і гудуць,
Каб у вольны часок
Пагуляць, аддыхнуць.

Цікаўлюся, чые гэтыя вершы. Спадарыня Марыя гэтага не ведае. Але па стылістыцы яны вельмі нагадваюць Купалавы вершы-пабудкі. Зазіраю ў Купалаў томік, шукаю пэўнага адпаведніка, але не знаходжу. Сугучча ёсць ды яшчэ якое! Раюся з знаўцамі Купалавай паэзіі. Думка такая: магчыма, гэта якісь Купалаў верш у народнай інтэрпрэтацыі. Марысін татусь – ён з 1881 года – з часу жыцця ў Бараўца ведаў Янку Купалу і, магчыма, тады навучыўся ад некага гэтаму вершу. А можа, і ад самога Янкі Купалы. “Мой татусь, прыгадвае Марыя, – быў вусаты, каларытны, любіў жывое праўдзівае слова...”

Бараўцы, мусіць, гэтак і засталіся б невядомымі і нязнанымі нікому вёсачкай, калі б яны не былі асвечаныя Купалавым імем, не сталі крыніцай яго творчага натхнення.

Паэтычны талент творцы, як вядома, фармуецца шмат якім кампанентам. Не другарадная роля ў гэтым і той мясціны, у якой выспяваў талент. Янка Купала, як вядома, нарадзіўся ў Вязынцы. Але Вязынка – толькі месца народзінаў. Хаця чаго там – талент даецца чалавеку з народзінаў, з народзінамі. Так што адлік Купалавых паэтычных гнёздаў зусім заканамерны з Вязынкі. Толькі адно яшчэ раз засведчу: у Вязынцы нарадзіўся Ясь Луцэвіч, а ў Бараўцах – Янка Купала. З гэтым трэба звыкацца і прынагодна падкрэсліваць.



Славамір Адамовіч



...не надта гэта добра для цябе
мець такога
абсалютна істэрычнага мужчыну...

# Кнут Гамсун – паэт і гаспадар

Кнут Гамсун нарадзіўся 4 жніўня 1859 года ў парафіі Лом, што ў даліне Гудбрандсдален.

Бацька Кнута, Педэр Педэршэн, быў краўцом і мусіў часта ездзіць па краіне, выконваючы заказы. Гэтая навука вандравання з часам перадасца малому Кнуту...

Якраз у пачатку 1860-х гадоў сярод так званага простага люду ўсходняй Нарвегіі, які перажываў не самыя лепшыя часы, пайшла гуляць чутка, што на поўначы краіны можна дастаць лепшага жыцця. Родны брат маткі Кнута Гамсуна, Туры Ханс Ульсэн, быў адным з тых, хто выправіўся ў шлях на поўнач. У хуткім часе ён набыў сядзібу Хамсунд у камуне Хамарой вобласці Нурланд. Летам 1862 года следам за дзядзькам Ульсэнам пераехалі і бацькі Кнута, якому на момант пераезду спаўнялася ўсяго тры гады.

Менавіта тут, у Нурландзе, у прыпалярна-запалярнай Нарвегіі, пройдзе яго не тое каб лёгкае, але багатае на ўражанні й колеры дзяцінства. Тут, у суровай, камяністай глебе Хамаройкамуны, прарастуць карані ягонага таленту...

Праз нейкі час пасля пераезду бацькі аддалі Кнута ў рукі дзядзькі Ульсэна – на выхаванне і пракорм. У нас гэта называлася дзядзькаваннем. Ханс Ульсэн быў чалавекам наравістым, суворым і адначасова заўзятым вернікам. Аднак пляменніку, як і астатнім работнікам сядзібы, паблажкі не даваў. Так што Кнут Педэршэн прайшоў на хутары Хамсунд даволі суровы курс выхавання. Дзядзькава навука была настолькі эфектыўнай, што малады паэт урэшце возьме назву хутара як свой псеўданім, а канцавая "д" з часам адпадзе – паводле закону эканоміі моўных сродкаў і з-за рэдактарскіх недаглядаў. Так замест даволі распаўсюджанага ў Нарвегіі прозвішча "Педэршэн" з'явіцца і будзе рабіцца ўсё больш пазнавальным у свеце слова-прозвішча "Гамсун".

Акрамя дзядзькі Ульсэна вельмі ўплывовымі настаўнікамі былі дзед па кудзелі і другі матчын брат – дзядзька Уля. Дзед любіў распавядаць пра дынастыю нарвежскіх каралёў; пра якога-небудзь Харальда Трэцяга Суворага, які хадзіў у далёкія Міклаград і Гардарыку і ваяваў дацкага караля Свэна...

Дзядзька Уля пра сваіх каралёў, бадай, не ведаў нічога. Затое разбіраўся ў жанчынах і гарэлцы і лічыўся безнадзейным шалапаем і манюкам. Ну што тут зробіш, любіў дзядзька байкі баіць, галоўную ролю ў якіх выконваў ён сам. Байкі гэтыя здзіўлялі і зачароўвалі маладога Кнута.

Гадоў у сямнаццаць паспрабаваў сябе Кнут і як школьны настаўнік – бацькі і дзеці былі задаволеныя ім. Аднак настаўніцкая практыка хутка скончылася. А потым... ён стаў пісарам пры ленсмане[1], вёў прыходна-расходную кнігу. Ленсман паважаў яго за выдатны почырк і дазволіў карыстацца сваёй багатай бібліятэкай. На яе паліцах Кнут знайшоў творы Вельхавена, Вельгеланда, Асб'ёрсэна і Муэ, і, вядома, Б'ёрнсана[2]... Чытаючы апошняга, Кнут аднойчы злавіў сябе на думцы, што і ён так можа пісаць. І хоча быць паэтам!..

Летам 1877 года гораду і свету была рэпрэзентаваная першая навэла Кнута Педэршэна, напісаная, дарэчы, у мястэчку Буда, у якім я цяпер пішу гэтае эсэ. Твор называўся так: "Загадкавы. Любоўная гісторыя з Нурланду". І каштаваў 40 ёрэ[3].

У 1878 г. у запалярнай Будзе 18-гадовы Кнут выдае другую сваю навэлу – "Bjørger". Гэта было ягонае найлепшае юнацкае апавяданне, у якім, як няцяжка здагадацца, вялося пра нешчаслівае каханне і адзінокіх маладых людзей, якія шукаюць падтрымкі і заспакаення сярод прыроды.

Аднак хутка Кнут Педэршэн-Гамсунд разумее, што ні ў камуне Бё[4], ні нават у Будзе і Тромсё[5] славы паэта не здабудзеш. Малады амбіцыйны юнак думае пра Капенгаген...

26 красавіка 1879-га ён піша ліст на імя Эразма Бенедыкта Кершова Зала – багатага ўладальніка гандлёвага дома з паўвыспы Чарынгой[6], у якім просіць грошай на дарогу ў сталіцу дацкага каралеўства. Кнут Педэршэн-Гамсунд атрымлівае грошы ад чарынгойскага багацея, і гэтая грашовая дапамога – 1000 крон – кардынальна паўплывае на далейшы лёс юнака, які пачне з Капенгагена свой нялёгкі шлях да прызнання і славы.

1879-1880 – гады блуканняў і раздарожжаў. Пасля кароткага побыту ў Ка-

---

[1] Lensmann (нарв.) – ленсман; нач. паліцыі ў нарв. правінцыі.

[2] Welhaven, Wergeland, Asbjørnsen og Moe, Bjørnson – нарвежскія пісьменнікі 19 – 20 стст.

[3] Øre *(нарв.)* – нарв. грашовая адзінка; 100 øre = 1 нарв. крона (NOK).

[4] Bø *(нарв.)* – камуна ў вобл. Нурдланд.

[5] Tromsø *(нарв.)* – адміністрацыйны цэнтр вобласці Трумс (Troms) Bodø (нарв.) – адм. цэнтр вобл. Нурдланд (Nordland).

[6] Kjerringøy *(нарв.)* – стары гандлёвы стан, прыкладна 40 км на паўночны ўсход ад Bodø.

пенгагене Кнут вяртаецца ў нарвежскую сталіцу – Крыстыянію і тут праходзіць поўны курс апускання на сацыяльнае дно: жыве ў танных пакойчыках, не можа знайсці ніякай работы, закладвае ў ламбард рызманы з уласнага пляча, галадае... Выдатным падсумаваннем гэтага сталічнага побыту стане раман "Голад"[1], які выйдзе з друку ў 1890-м, у тым самым Капенгагене. Кнут Педэршэн нарэшце зробіцца Кнутам Гамсунам.

У 1883-м Гамсун пры пасрэдніцтве Б. Б'ёрнсана едзе ў ЗША. Вынікам гэтых амерыканскіх вандраванняў стане кніга нарысаў "Духоўнае жыццё Амерыкі", выдадзеная ў 1889-м у Капенгагене. Кніга, поўная з'едлівага сарказму і ў многім справядлівай крытыкі і прарочых высноваў.

1888-1898 – гады інтэнсіўнай пісьменніцкай працы і прызнання. У ліпені 1888-га Кнут Гамсун вяртаецца з Крыстыяніі ў Капенгаген, жыве на паддашку і піша, піша як апантаны пра сваё галадаванне ў сталіцы роднай Нарвегіі. І вось рукапіс гатовы да выдання. Рэдактар часопісу "Новая зямля" ("Ny Jord"). Філіпсэн друкуе "Голад" у лістападаўскім нумары. Тыраж разыходзіцца за тры дні, што азначае безумоўны поспех.

Пасля таго, як Гамсун дапрацоўвае свой раман, 5 чэрвеня 1890-га той жа Філіпсэн выдае рукапіс асобнай кнігай і адпраўляе на паліцы кнігагандлю.

"Голад" – гэта не раман, але кніга, у якой я настырна пераследую адну вельмі чуллівую людскую душу", – напіша потым Гамсун аднаму шведскаму пісьменніку. – Гэта спроба апісаць своеасаблівае жыццё свядомасці, нярвовыя містэрыі ў згаладнелым целе. Яно іграе толькі на адной струне, але я зрабіў спробу атрымаць з яго сотню тонаў".

Перыяд прызнання супаў з неверагодным творчым пад'ёмам. Гамсун смела ўступае ў палеміку, гатовы да спрэчкі, нападае з крытыкай на "чатырох вялікіх" тагачаснай нарвежскай літаратуры: Генрыка Ібсэна, Аляксандра Келанда, Юнаса Лі ды Б'ёрнст'ярна Б'ёрнсана.

Пасля нядоўгіх па часе станоўчых водгукаў на "Голад" самога Гамсуна пачынаюць жорстка крытыкаваць, называючы "дзікім, буйным чалавекам". Але гэтая акалічнасць яго ўжо мала абыходзіць – Кнут адчувае, што можа стаць некаранаваным каралём нарвежскай літаратуры новага часу і новага – 20-га – стагоддзя...

У верасні 1892 г. выходзіць раман "Містэрыі", крыху пазней – "Пан". У абедзвюх кнігах падзеі адбываюцца на фоне паўночнай нарвежскай прыроды.

"Апошнімі днямі я толькі і рабіў, што думаў і думаў пра вечны дзень паўночнага лета", – так пачынаецца "Пан", самы кароткі з раманаў Гамсуна. Але гэта не значыць, што аўтару ён даўся вельмі проста. Наадварот. У адным з лістоў Гамсун піша: "Кожны раздзел – гэта верш. Кожны радок выштукаваны. Я не маню, калі кажу, што кожны раздзел каштаваў мне тыдня работы, хоць і яны кароткія. Паўсюль відмы, авантуры, сімвалы"...

За пяць гадоў (1890-1895) Кнут Гамсун напісаў пяць раманаў і п'есу, і дарэшты стаміўся. Яго больш не натхняе літаратура, ён сыты ёю. Ён хацеў славы, і ён яе атрымаў.

У чэрвені 1895 Кнут Гамсун едзе ў санаторый Бальберг. Тут ён спрабуе адпачыць, фліртуе з дамамі, п'е чырвонае віно з сябрамі, – адным словам, святкуе сваю перамогу, сваю літаратурную славу.

Хутка феерыя змянілася дэпрэсіяй, Гамсун не хавае, што ён незадаволены сваім жыццём. Можа яму варта стаць кавалём? Альбо селянінам? Сябры і знаёмыя не ведаюць, што і думаць?..

[1] "Sult" *(нарв.)* – псіхалагічны раман (навэла) Кнута Гамсуна, завершаны ў 1890 і летам таго ж года выдадзены асобнай кнігай.

У 1896-м Гамсун вяртаецца ў раён прыватных вілаў Ліян, што на поўдні Крыстыяніі. Там пансіянат. Там ён сустракае сваю казачную прынцэсу – Берлію Гуфэрт (Bergliot Goepfert), якая стане ягонай першай жонкай, у 1902-м народзіць яму дачку Вікторыю, а восенню 1899-га праедзе за Гамсунам праз усю Расію ад Гельсініфорсу да Канстантынопалю.

Пасля гэтай вандроўкі Кнут Гамсун напіша кнігу "У казачнай краіне", у якой аддасць належнае спакойнаму стылю жыцця на Ўсходзе ў параўнанні з Захадам.

У 1907 годзе Кнуту Гамсуну спаўняецца 48. За год перад тым ён развёўся са сваёй Берліяй, і цяпер адчувае сябе старым і адзінокім. Ва ўсялякім разе немаладым.

Аднак ужо ў 1908-м ён адчувае сябе поўным энергіі і сілы – ён знаёміцца з 26-гадовай актрысай Марыяй Андэршэн. Знаёмства адбываецца ў Нацыянальным тэатры Крыстыяніі, дзе плануецца прэм'ера ягонай п'есы "Жыццё – гульня" ("Livets spil"). У якасці зводніка выступае дырэктар тэатра Вільгельм Краг, ён знаёміць Гамсуна з Марыяй, і яны ідуць у адну з кавярняў на вуліцы Парламенцкай (Stortingsgate). Яны трымаюць адно аднаго за рукі, і яна нясмела просіць дапамагчы ёй атрымаць галоўную ролю ў ягонай п'есе; ён абяцае, і не абяцае. Яны размаўляюць пра球 рознае, малое і вялікае. Урэшце, ён адводзіць яе назад у тэатр.

На наступны дзень Марыю чакае ваза і 26 ружаў у ёй. Яшчэ праз тры дні Кнут Гамсун заве яе замуж. Праз тыдзень Марыя адказвае згодай. Жыццё – гульня, і гэта яе галоўная роля ў ёй. Марыя пакіне кар'еру актрысы і ўсю сябе ахвяруе мужу – наравістаму, таленавітаму, мужнаму пісьменніку і мужчыну...

Марыя і Кнут возьмуць шлюб акурат на наступны дзень пасля Купалля, 25-га чэрвеня 1909 года. Высокія, ён і яна, былі адно аднаму да пары. Як фізічна, так і духоўна.

У красавіку 1911-га Марыя і Кнут пераязджаюць у Хамарой. Тут яны набываюць сядзібу Скугхейм (Skogheim) з трыма каровамі, закупляюць яшчэ адну, а таксама каня і парася. Абое гарацць жаданнем займацца гаспадаркай. Аднак на справе галоўным чалавекам на хутары будзе яна – гаспадыня Марыя Гамсун, былая актрыса. Гаспадар жа як мінімум тры месяцы ў год будзе вандраваць па Нурландзе, – краі, у якім прайшло яго дзяцінства. Дакладней, гэта будуць не столькі вандроўкі, колькі пераезды: з пансіяната ў гатэль, з гатэля – на пастаялы двор, дзе няма нават сенніка на ложак...І ўсюды Гамсун будзе шукаць ціхага кутка, каб пісаць. І будзе пісаць: свае вершы (рэдка), раманы, п'есы, навэлы, палемічныя артыкулы і – лісты да жонкі Марыі. Не заўсёды ён быў побач з ёю, цяжарнай, нават не ўсе ягоныя дзеці нараджаліся пры ім, але заўсёды ён пісаў ёй лісты, у якіх даваў парады адносна гаспадаркі і выхавання, засцерагаў і супакойваў.

Аднак Марыя цяпер раўнавала Кнута не менш, чым ён яе, калі яна яшчэ заставалася ў тэатры. Цяпер яна была залежнай ад свайго Кнута не толькі духоўна, але і практычна: дзеці, вялікая гаспадарка, дом. І яна пісала яму ўсхваляваныя лісты ў адказ. У адным з іх, напрыклад, яна скардзіцца на сваю хваравітую рэўнасць: "Любы Кнут, дапамажы мне, я такая раўнівая. Ты, наколькі я помню, казаў раней, што мая рэўнасць добраякасная. Цяпер гэта не так. Я цяпер раўнівая надзвычайна, па-шведску[1]! Я спустошаная і раз'ятраная пасля Суртланду[2], і не

[1]Па-шведску – часта нарвежцы з добрым гумарам пераносяць не лепшыя людскія якасці на сваіх суседзяў шведаў. Апошнія адказваюць тым жа.

[2] Sortland *(нарв.)*– камуна ў вобл. Нурдланд, дзе падчас чарговай вандроўкі ў пошуках спакою, жыў і пісаў К. Гамсун.

магу супакоіцца. Я бачыла, як гэты мярзотны бабскі люд ласкава пахаджваў перад табой. І я заўважыла, што ты зусім не перажываў з-за гэтага".

І тым не менш, хоць Гамсун і раз'язджаў увесь час пакуль яны жылі ў Хамароі (1911-1916), тут, на хутары Скугхейм, у іх нарадзілася трое дзяцей: сыны Турэ ў сакавіку 1912-га і Арыльд у маі 1914-га, і дачка Элінура ў кастрычніку 1915-га. Дачка Цэцылія нарадзілася 13 мая 1917-га ў Ларвіку[1], куды сям'я пераехала пасля таго, як быў прададзены хутар у Хамароі.

Жыццё ў Нурландзе прыпала на 20-я гады 20-га ст. Народы Еўропы стаялі на парозе вялікай міжусобнай вайны, якую яны потым хітра назавуць Першай сусветнай, спадзеючыся хоць часткова перакласці віну імперыяў на падуладныя калоніі.

Гамсун, безумоўна, бачыў, якія глабальныя змены нясуць так званая мадэрнізацыя і навуковыя адкрыцці. Ён два разы наведаў ЗША, працаваў на розных работах і на сваёй скуры адчуў той шалёны тэмп жыцця, які абумоўлены адным – пагоняй за грашыма. Цяпер ён бачыў, што гэты стыль пранікае і ў ягоную Нарвегію. Людзі робяцца ўсё больш неспакойнымі і незадаволенымі, моладзь кідае родавыя сядзібы і едзе на поўдзень, у Барген, Крыстыянію, у Амерыку. У рэшце рэшт ягоны новы стыль пісьма, ягоны псіхалагізм, заглыбленне ў акіян чалавечых пачуццяў таксама з'яўляецца прадуктам новага часу. Ён жа сам крытыкаваў папярэднікаў за нудоту апісальніцтва, заклікаў зазірнуць у душу чалавека!

Як бы там ні было, а Кнут Гамсун моцна стаіць на варце старых традыцыяў, нават калі логіка развіцця сюжэтаў у ягоных уласных творах супраціўляецца гэтаму вартаванню.

"Мы маем карэнне ў нашай зямлі, мы не абсякаем іх, і гэта яны – прычына таго, што мы стаім" – пісаў Гамсун у артыкуле "Слова да нас саміх"[2]. І яшчэ, даволі актуальнае для нас, беларусаў: "Мы павінны ізноў дастаць рукі з кішэняў і пачаць працаваць. Толькі так мы перастанем быць народам з гатэльнай абслугі і разносчыкамі. Мы павінны дрэнажыраваць нашы балоты і садзіць нашы лясы... Мы мусім вырабіць нашу нарвежскую краіну". Упершыню напоўніцу такая заява-заклік прагучала ў кнізе "Апошняя радасць" („Den siste glæde", 1912) – найбольш змрочным і несуцешным творы Гамсуна. У ім ён вывернуў сваю пагарду на ўсё тое новае, што не любіў: "вызваленых" жанчын, ангельскіх турыстаў, сялянаў, якія больш не ўрабляюць глебу, недалёкіх чытачоў...

Як строгі прапаведнік, выступае Гамсун і ў сваіх наступных работах, напісаных ім падчас свайго жыцця ў Хамароі – "Дзеці часу" ("Børn av tiden", 1913) і "Гарадок Сегельфос" ("Segelfoss by", 1915). Аўтар па-ранейшаму строга, а то і проста груба, абыходзіцца з героямі сваіх твораў, не шкадуе і чытачоў. І ў той жа час у ягоных вачох мільгаюць вясёлыя бліскаўкі – гумар Гамсуна быў адной з наймацнейшых рысаў. Ён прымушае нас смяяцца з уласнага глупства.

У студзені 1916 г. Гамсуны прадаюць свой хутар, а ў 1918-м набываюць сядзібу Нёрхольм пад Лілесандам[3] і той жа восені перабіраюцца туды. У Нёрхольме Кнут і Марыя пражывуць рэшту свайго багатага на падзеі жыцця.

Раман "Плады зямлі" ("Markens grøde") Кнут Гамсун пачаў яшчэ ў Хамароі, але напісаў там усяго 40 старонак. Дапісваць кнігу прыйшлося ў Ларвіку, паміж клопатамі пра нованароджаную дачку Цэцылію і пошукамі новай сядзібы, у якой бы яны маглі асесці for godt – у рэшце рэшт назаўсёды.

"Плады зямлі" – кніга пра земляроба і ягонае жыццё ў адным з глухіх і

[1] Larvik *(нарв.)* – адмін. цэнтр аднайменнай камуны з вобл. Вестфолд (Vestfold).

[2] Артыкул "Et Ord til os"; упершыню – дацкая газета "Poltiken" 03.07.1910.

[3] Lillesand*(нарв.)* – адмін. цэнтр аднайменнай камуны ў вобл. Ауст-Агдэр (Aust-Agder).

няўробленых месцаў паўночнай Нарвегіі – Нурландзе. Гэта паэма зямлі і ейных пладоў, зямлі, якую Гамсун хацеў зрабіць зноў зваблівай для чалавека, навучыць нарвежцаў вырошчваць свае ўласныя прадукты. Ён нагадваў нарвежскаму селяніну, што той з'яўляецца хрыбтом нарвежскай эканомікі...

Гадоў на 20 пазней на гэтую ж тэму пісаў наш цудоўны празаік Кузьма Чорны. Адзін з яго раманаў фактычна меў тую ж назву – "Сокі зямлі". А "Новая зямля" Якуба Коласа! Пры іншых лепшых абставінах – геапалітычных перш за ўсё – гэтыя нашы пісьменнікі маглі б разлічваць на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Аднак жыццё ідзе, як ідзе, і ў 1920-м за раман "Плады зямлі" Нобелеўскую прэмію атрымлівае Кнут Гамсун...

На гэтым я мушу завяршаць сваё кароткае эсэ пра аднаго з найбольш вартых еўрапейскіх пісьменнікаў 20 стагоддзя. Спадзяюся, нашыя студэнты гуманітарных факультэтаў не спужаюцца такіх тэмаў, як, напрыклад, "Гамсун, Дастаеўскі і Беларусь", "Гамсун і Чорны: сокі зямлі", "Гамсун і "новая зямля" Коласа"...

Вялікія таму і вялікія, што даробак іх невычарпальны. І нам застаецца толькі правільна зразумець і скарыстаць імі зробленае.

*9 чэрвеня 2010 года,*
*Bodø, Nordland.*

## Пяць лістоў да Марыі*

*Чацвер 19-га*

Дарагія мае – Марыя і наш сыночак!

Цяпер я павінен даслаць гэтыя радкі і растлумачыць, што я знаходжуся ў Юнкердале, Сельтдален[1]. Гэта мой адрас. Сельская пошта тут прыходзіць і адбывае 3 разы на тыдзень, гэта 5 міль[2] да паштовай канторы. Тут не вельмі высака над узроўнем мора, усяго некалькі сот метраў. Ты можаш знайсці пра гэта ў Інгвара Ніельсэна (раздзел "Паўночныя Горы") і расказаць мне. Глядзі ў рэгістры слова "Юнкердал". Гэта 4 малыя шэрыя кніжкі І. Н., якія, мне здаецца, павінны стаяць дзесьці каля Бібліі. На ніжняй ці на адной з ніжніх паліцаў стаіць Рыг[3]: "Назвы нарвежскіх сядзібаў", паглядзі, адкуль паходзіць Юнкердал. Гэта такая чорная кніжка з наклееным уздоўж белым загалоўкам. Юнкердал гэта не даліна, а ўсяго толькі сядзіба.

Так, цяпер я тут, на сялянскай сядзібе, пасля 10 міляў язды на безрэсорнай брычцы. Я яшчэ не атрымаў кансервы, але Бог ведае. Да таго ж сапраўды дрэнная ежа, каша кожны дзень, калі не на вячэру, дык на абед. Цяпер усё тое самае, абы толькі я быў здаровы і працаздольны. Пасля прыезду я быў вельмі змучаны марской хваробай, жыватом, слабасцю і дрыжыкамі... не маю пярыны, толькі голыя дошкі, але ў пасцелі не мерзну.

Ага, я ізноў атрымаў кашу і прыступаю да яе з адвагай героя. Халера на ўсё, калі я тут да нечага даб'юся.

---

* Гэтыя лісты Кнут Гамсун пісаў да сваёй другой жонкі – Марыі, калі жыў у запалярнай вобласці Нурланд без малога 100 гадоў таму назад. Пераклад зроблены паводле выдання: "Knut Hamsun. Brev til Marie. Forlagt av H. Aschehoug og Go (W. Nygaard). Oslo. 1979".

[1] Юнкердал, Сальтдал – даліны у нарв. Вобл. Нурланд. Сальтдал ("Салёная Даліна") пачынаецца ў вусці аднайменнага ф'ёрду аднайменнай камуны, з цэнтрам Рогнан ("Rognan"). Праз Сальтдал праходзіць еўратраса "Е-6", на ўсход ад якой ляжыць даліна Юнкердал і адгаліноўваецца шаша "Rv – 77", якая злучае горны адкосак Нарвегіі з раўнінным мацерыком Швецыі.

[2] 1 нарв. міля роўная 10 (10) км.

[3] Улуф Рыг (Oluf Rygh, 1833 – 1899) – нарв. археолаг, гісторык і філолаг, выдаў кнігу "Назвы нарвежскіх сядзібаў" ("Norske Gaardsnavne", 1897).

*Буда, у панядзелак раніцай*
*[27.X.13]*

Толькі адна маленькая пісулька да цябе, мая дарагая Марыя. Перапрашаю, што я зрабіў табе балюча падчас апошняга тэлефоннага званка, калі назваў цябе як нежывой. Не надта гэта добра для цябе мець такога абсалютна істэрычнага мужчыну... Не спаў да 5 раніцы, калі не пазней, але – хай Бог цябе бароніць – я адчуваю сябе героем, бо напісаў учора і сёння ноччу больш, чым за ўсе гэтыя месяцы. Усяго разам адрабіў учора 10 гадзінаў. Сёння я вельмі хвалююся. Набліжаецца завяршэнне кнігі, але столькі людзей, сувязяў, што згарусціць усё да месца запатрабуе больш часу, чым я разлічваў. Толькі гэтыя словы сёння, прыеду так хутка, як будзе магчыма. Дапамагай мне, калі табе з гэтага радасць. Не, я не асмельваюся чуць голас Тура[1], гэта так на мяне дзейнічае, стомленага і істэрычнага; я днём і ноччу думаю пра яго. І, вядома, пра цябе.

*Твой Кнут.*

*Буда, у аўторак вечарам*
*24/2.14*

Дарагая Венса[2],

я не забыўся пра апельсіны, але яны такія кіслыя яшчэ, мы дастаткова далёка ад вас тут, у Будзе...

Да таго ж, я купіў чорны шаўковы адрэз на блузку, пра што я гаварыў і адаслаў усё разам. Насі на здароўе! Я ўзяў 3,5 метры, каб быць пэўным. Але ты можаш не шыць, пакуль не станеш тоненькай ізноў, бедная мая. Далібог, ты ізноў будзеш тоненькай, вось убачыш... Ты не павінна пярэчыць мне, і яшчэ раз мусіш прыехаць сюды да зубнога перад тым, як здарыцца "Вялікая Падзея"[3], – ці ты як думаеш? "Дзіўны" выпадак: ужо паўгода як мяне пляжыць мой прастуджаны нос, здаецца, паспрабаваў усе магчымыя сродкі, а ўжо аднаго дня быў настолькі гранічна стомлены ўсёй гэтай бессэнсоўнай пэцканінай, што перастаў лячыцца. На наступны дзень я быў па-ранейшаму вельмі стомлены, на трэці дзень таксама. Так я 3 дні пазбягаў лячэння і, на сваё здзіўленне, адчуў, што нос мой палепшаў. Ужо тыдзень, як я нічога не змазваю, а мне сапраўды лепшае, толькі крыху як адзервянелы нейкі. У любым выпадку я больш не мажуся. І цяпер гэта пастаноўка ў Берліне. Павінна адбыцца на гэтым тыдні, але ізноў можа аказацца пад пагрозай. Мусяць з'явіцца нейкія грошы, усё астатняе неістотна. Гэтым разам зберажы ліст з Капенгагена, а ў клопатах пра харчаванне для таго малюха, які павінен з'явіцца, ты цяпер не маеш патрэбы. Я спрабую рабіць усё, каб мы былі яшчэ багацейшымі. Вітанні Туру. Цалую цябе і раз, і два, і яшчэ...

*Твой Кнут.*

*Сальтэн, у сераду вечарам на борце. [26.1.15*]

Інструкцыя:

(Дзякуючы добрай волі тутэйшых паштавікоў я адаслаў пакет надзвычай надзейным спосабам, і ўсхваляваны.) [Пакет] павінен хавацца і адкрывацца

---

[1] Турэ ( Tore Hamsun) – старэйшы сын Марыі і Кнута Гамсунаў, пісьменнік і мастак.

[2] Венса, Венс (Vensa, Vens) – так любоўна і пяшчотна называлі адно аднаго Марыя і Кнут. Гэтыя любоўныя мянушкі магчыма таксама перакласці як "сяброўка", "дружок".

[3] "Вялікая Падзея" ("Begivenheten")– нараджэнне другога сына Марыі і Кнута Гамсунаў Арыльда. Здарылася гэта ў маі 1914 года. Прыйшоўшы ў свет разам з Першай сусветнай вайной, падчас Другой сусветнай Арыльд замальдуецца добраахвотнікам у дывізію СС "Wiking", якая ваявала на Усходнім фронце.

тады, калі Тур будзе стомлены і пачне кнэхціцца а 5-й вечара. Тэлеапарат для Арыльда быў не ў стане знайсці для яго нешта іншае, хоць і наведаў большыню гандлёвых дамоў і аптэк у Нарвіку. Усё астатняе, натуральна, для Тура, але і Арыльд, бядага, павінен бачыць, калі рэчы апынуцца на падлозе. Паслаў з Нарвіку многа цудоўных кніг для Тура. Абы толькі ўсё было добра з малымі і з табой, а я на добрым шляху. Да сустрэчы, любая Марыя.

*Твой Кнут*

Замест таго, каб сысці ў Лёдынгіне, я прыплыў у Нарвік і цяпер на зваротным шляху ў Лёдынген, дзе сядаю на паравік[1]. Добрай дарогі і капітана.

*Буда, панядзелак 16 лютага 1916.*

Любая Марыя.

Я адплываю з "Вароем"[2], які прыходзіць сюды толькі пасля абеду і адзін Бог ведае, калі ён адбудзе на Хамарой.

Я набыў розных рэчаў для малых. Дарагая, дай ім спачатку проста паглядзець на іх, і толькі потым распакоўвай. Кожную правераную рэч адкладвай ўбок, перш чым вымаць новую. Напрыканцы яны ізноў захочуць паглядзець на ўсё разам...

Любая, не дай ім паламаць гэтыя дарагія рэчы аб адным разе. Павер майму вопыту, што пад прыглядам яны праіснуюць даўжэй.

Я купіў апельсінаў, вінаграду, яблыкаў etc., салодкага кекса, шакаладу. Акрамя таго, крыху сыру, у любым выпадку, сваю долю павінны атрымаць і дзяўчаткі[3]. Швейцарскага сыру не знайшлося. (Ад тварожнага сыру дзяўчаткі мусяць атрымаць свой кавалачак, каб умурзацца.)

Я зараз выходжу – пагляджу матэрыялу для блузкі і сукна для настольніка...

*Твой Кнут.*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць свайго сталага аўтара
**Славаміра Адамовіча** – з 50-годдзем і зычаць яму творчага плёну,
і далейшай шчырай працы на карысць роднай Беларусі!

---

[1] Пасажырска-таварны параход (так званы "паром"), які курсуе паміж гарадамі Барген на захадзе і Кіркенэс на крайняй поўначы Нарвегіі. Маршрут закладзены ў 1893 г. і займае 11 сутак ходу рэйсам "Барген – Кіркенэс – Барген".

[2] "Варой" ("Værøy") – назва парахода мясцовага злучэння, які курсуе паміж запалярным нарв. гарадком Буда ('Bodø) і выспай "Værøy", адной з шэрагу так званых Лафантэнскіх выспаў.

[3] "Дзяўчаткі" – дочкі Марыі і Кнута Гамсунаў Элінура і Цэцылія.

Ларыса Раманава



... Я ніколі не хацеў быць падобным на ўсіх,
а заўсёды хацеў быць сабой.
Але не ў адзіноце...

# Шчасце быць мастаком на сваёй зямлі

“Вось адзін чалавек сядзіць нерухома ўсё жыццё ў чайхане прыдарожнай, пыльнай і расказвае казкі ў паветра, у вецер нямы, а яго ведае ўвесь свет. А другі падарожнічае прагна па ўсім свеце і таксама вар’яцее, пыльны язык яго б’ецца ў роце, як горная рака ў камянях. І ніхто яго не ведае, акрамя дарожнага пылу, дзе ступалі нікчэмныя ногі яго ці беглі бесслядоўныя колы яго...” – апавядаў калісьці Хаджа Насрэддзін.

Нельга сцвярджаць, што імя Фёдара Рыгоравіча Шклярава “ведае ўвесь свет”, але яго імя, сапраўды, ведаюць многія суайчыннікі і замежнікі. У 1970-80 гады для таго, каб пазнаёміцца з Ф.Р. Шкляравым і ўбачыць яго знакамітую калекцыю, у Ветку прыязджалі людзі з розных рэспублік былога СССР. Гэта былі не толькі творчыя людзі — пісьменнікі, мастакі, народныя майстры, артысты, кінарэжысёры, але і вучоныя, фалькларысты, святары, атэісты, людзі рабочых прафесій, кіраўнікі камуністычнай партыі і камсамола — самых вышэйшых рангаў, вучні сярэдніх школ, настаўнікі.

“Я ніколі не хацеў быць падобным на ўсіх, а заўсёды хацеў быць сабой. Але не ў адзіноце”, — казаў аб сабе Фёдар Рыгоравіч. Гэткімі ж “непадобнымі”, нечаканымі былі многія яго ўчынкі. Так, аднойчы богаслужэбная кніга “Святцы”, падараваная Ф. Р. Шкляраву інакам Георгіем (Саталкіным Рыгорам Іванавічам) з г. Навазыбкава Бранскай вобласці, распачатая і незавершаная, з лёгкай рукі Ф.Р.Шклярава сталася арыгінальнай кнігай водгукаў. Ён сам упрыгожыў яе буквіцамі, змясціў тлумачальныя тэксты, напрыклад: “12 буквіц і 2 разеткі з кнігі “Абедніца” 1889 г. настаяцеля, інака Варчэанофія, Веткаўскага Мікольскага манастыра, перамаляваў у лістападзе месяцы 1976 г. Фёдар Рыгоравіч Шкляраў”. Гэтая кніга — сапраўдны рарытэт, яшчэ й таму, што пад адной вокладкай сабраны водгукі і аўтографы многіх беларускіх творцаў. На адвароце вокладкі — экслібрыс, намаляваны Арленам Кашкурэвічам у 1980 г. Першы запіс у кнізе зрабіў Алесь Шлег 7 верасня 1976 г. У 1970 гадах свае водгукі пакінулі Міхась Скрыпка, Мікола Грынчык, Алег Лойка, Дзмітрый Кавалёў, Міхась Раманюк, Барыс Забораў, Арлен Кашкурэвіч, Сяргей Цуканаў, Мікалай Казакевіч, Станіслаў Дубянецкі, Іван Рэй, Юрый Фатнеў, Іван Сяркоў. Уражанне, якое пакінула сустрэча з Фёдарам Шкляравым, занатаваў Віктар Карамазаў: “Дай бог Вам, Фёдар Рыгоравіч, здароўя, а ўсё астатняе, што трэба чалавеку значнаму, у Вас — ад прыроды: талент, апантанасць даследчыка жыцця, душа патрыёта. Вось гэтак бывае, мо і не густа, — з гадзіну ўсяго пагамоніш, паглядзіш, паслухаеш, а крынічка для душы, светлая і чыстая, на ўсё жыццё (9 траўня 1980 г.)”. У 1980-ыя гады ў Ветку прыязджалі Анатоль Грачанікаў, Сяргей Панізнік, Алесь Цыркуноў, Сяргей Законнікаў, Анатоль Кляшчук, Данута Бічэль-Загнетава, Анатоль Грыцкевіч, Пётр Лысенка, Надзея Высоцкая, Уладзімір Арлоў. “Пазнаёміўшыся з музеем, думаю пра адно: якое шчасце, што ёсць людзі, як Фёдар Рыгоравіч Шкляраў, — людзі, якія думаюць пра сэнс жыцця і назначэнне Чалавека. І не толькі думаюць, але і ахвяруюць сваё жыццё на тое, каб гэта зразумелі Усе. Каб зразумелі, што такое Радзіма,”— водгук Ніла Гілевіча (27 лютага 1987 г.) “Дарагі Фёдар Рыгоравіч! Знаёмячыся з гэтай кнігай, я здзіўляўся колькасці клічнікаў. Пазнаёміўшыся — хоць і трошкі-трошкі з нашымі скарбамі, я разумею тыя клічнікі... Вельмі рад, што сустрэўся з Вамі. З глыбокай павагай — Янка Брыль (9 траўня 1980 г.)”

У кнізе ёсць запіс, зроблены вядомым рускім паэтам Дзмітрыем Кавалёвым, які нарадзіўся ў Ветцы, жыў у Мінску, у Маскве, быў выкладчыкам Літаратурнага інстытута, перакладаў творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову: “Я зведаў радасць, шчасце дакрануцца душой да роднай даўніны, да яе духоўных скарбаў. Жыццё гэтага выдатнага, самаахвярнага чалавека — заўзятага збіральніка рускай і славянскай даўніны, Фёдара Рыгоравіча Шклярава — гэта подзвіг у імя любові да Радзімы, гэта бескарыслівае служэнне рознабакова адоранага чалавека, з сапраўдным, таленавітым дарам збіральніка і майстра... Скарбы, сабраныя ім, не маюць цаны. Буду далучаны цяпер духоўна да яго жыцця і дзякую за гэта лёс. Дзмітрый Кавалёў. 31 жніўня 1974 г.”

“Чалавек — не бурбалка, што з’явілася ў час дажджу і знікла. След на зямлі ён павінен пакінуць,”— прамовіў неяк Фёдар Шкляраў. Аднойчы, як ён сам казаў, вырашыў здзівіць усіх — сабраць усё самае цікавае на веткаўскай зямлі і паказаць іншым. “Шкляраў сябраваў з маім бацькам, які вельмі любіў збіраць кнігі. Аднаго разу бацька прачытаў кнігу “Чорныя дошкі” Уладзіміра Салавухіна. І гэтак быў узрушаны прачытаным, што тут жа аднёс Шкляраву прачытаць запісы пачынаючага калекцыянера. Яны загарэліся гэтай ідэяй і пачалі збіраць іконы, якія ў той час былі ў нашых сваякоў, ды і ў нашых уласных дамах старабрадчага асяродку. Шкляраў аказаўся больш паслядоўным у гэтым захапленні, і яго дамашняя майстэрня паступова ператварылася ў прататып будучага музея”, — успамінае Галіна Рыгораўна Нячаева, дырэктар Веткаўскага музея народнай

творчасці, якая на працягу многіх гадоў працягвае справу Ф.Р. Шклярава. З гэтага пачалося выратаванне “самага цікавага” ад нябыту, знікнення. Цяжка падлічыць, колькі твораў мастацтва — абразоў, кніг, карцін, прадметаў народнага ткацтва, вышыўкі, створаных у Беларусі, страчана назаўсёды — згарэлі ў агні, былі вывезены за межы краіны, выкінуты пад ногі як штосьці непатрэбнае. Да прыкладу: на Веткаўшчыне ў 1930-ыя гады, калі ствараўся вобраз савецкага чалавека, старшыня калгаса “Хваля” забараняў неглюбчанкам ды жанчынам бліжэйшых да в. Неглюбкі пасёлкаў адзяваць свой, вясковы строй, завязваць тканую хустку на галаве своеасаблівым спосабам. Калі патрабаванне не выконвалася, жанчынам не ставілі “працадзень”. І — адвучылі некаторых: адметныя рэчы народнага ткацтва выкідваліся на сметнік у тыя гады і пазней.

На працягу ўсяго свайго жыцця Фёдар Рыгоравіч Шкляраў захапляўся мастацтвам, даследваў мясцовую гісторыю. Нарадзіўся ён у сям’і стараабрадцаў 4 кастрычніка 1925 года. Гэтая дата — афіцыйная, насамрэч ён нарадзіўся вясной таго ж года. Пасля заканчэння сямі класаў Веткаўскай СШ працаваў паштальёнам. Афіцыйную сярэднюю адукацыю атрымаў толькі да 40 гадоў. Перад вайной паступіў у Харкаўскае мастацкае вучылішча. Прыйшоў выклік, але вучыцца не давялося: не было грошай на дарогу. Фёдар Рыгоравіч заўсёды з захапленнем глядзеў на мастакоў, якія набылі спецыяльную прафесійную адукацыю. З 1939 па 1943 гг. ён працаваў цесляром на веткаўскай судаверфі. Двойчы адслужыў у войску — у ваенны і пасляваенны час (Ветка была вызваленая ад нямецкіх захопнікаў у 1943 г.). Пасля службы ў войску скончыў школу працоўнай моладзі, працаваў у мастацкай майстэрні г. Гомеля. Быў мастаком у Гомельскім драмтэатры. У той час на працу ў Гомель даводзілася хадзіць пешкі аж з самой Веткі. Пазней працаваў у Ветцы ў розных установах. Як умеў, вучыў маляваць таленавітых веткаўскіх падлеткаў (пра гэта ўзгадваў Алесь Цыркуноў).

У 1970-ых гадах Ф.Р. Шкляраў працаваў мастаком па тканінах на Веткаўскай ткацкай фабрыцы. Менавіта тады ён адкрыў для ўсяго свету самабытнае неглюбскае ткацтва. У якасці сваіх малюнкаў па тканінах Ф.Р. Шкляраў браў узоры з тых неглюбскіх ручнікоў і посцілак, якія атрымлівалі дыпломы і прызавыя месцы на міжнародных выставах у Маскве, Мінску, Ленінградзе — тым самым імкнуўся ўвесці ў сучасны інтэр’ер старажытныя сімвалы, якія мелі вялікі сэнс для нашых продкаў. Ён прыклаў шмат намаганняў, пераадолеў шматлікія цяжкасці, што ўзнікалі пры стварэнні музея, дзеля таго, каб абразы, кнігі, напісаныя і сабраныя ў Ветцы, засталіся тут і далей. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, калі вяліся размовы пра тое, каб расфармаваць Веткаўскі раён, менавіта наяўнасць на гэтай тэрыторыі музея народнай творчасці стала адным з аргументаў супраць такога рашэння.

Ф. Р. Шкляраў перадаў у музей, заснаваны 30 лістапада 1978 года, 500 экспанатаў з уласнай калекцыі. У 1983 годзе ён падарыў найбольш каштоўную і ўнікальную калекцыю: дванаццаць кніг XVI ст. У яе складзе, напрыклад, “Вучыцельнае Евангелле”, надрукаванае ў Заблудаве Іванам Фёдаравым, Пятром Мсціслаўцам, таксама — адно рукапіснае “Евангелле”.

З 1979 г. з Ф.Р. Шкляравым пачаў працаваць невялікі калектыў: два навуковыя супрацоўнікі — Г. Р. Нячаева, С. І. Лявонцьева, наглядчыца Валянціна Нагашова. Яны многае рабілі разам, сваімі рукамі аздаблялі будучы музей.

Мне давялося бачыць Фёдара Рыгоравіча двойчы. Першы раз — у 1985 годзе, падчас яго паездкі ў в. Покаць Чачэрскага раёна разам з Мікітам Ільічом Талстым, акадэмікам, вядомым этналінгвістам, праўнукам рускага пісьменніка Л.М.Талстога. Усходняе Палессе і ў нашыя дні надзвычай цікавае для мовазнаўцаў, даследчыкаў культуры багаццем старажытных праславянскіх слоў, існаваннем унікальных абрадаў, традыцыйных уяўленняў, якіх больш няма нідзе.

Ф. Р. Шкляраў зайшоў у дом маіх бацькоў, цікавіўся, ці ёсць старыя абразы, кнігі. Заходзіў да стараабрадцаў, якія жылі на Маскалях, — так і зараз вяскоўцы называюць некалькі вуліц, на якіх яшчэ ў 1990-ыя гг. жылі нашчадкі стараабрадцаў. З в. Покаць у калекцыю Ф. Р. Шклярава трапіла рукапіснае “Тэтраевангелле” першай чвэрці XVI ст.

Другая сустрэча з ім была летам 1987 года, за 3-4 месяцы да адкрыцця першай экспазіцыі Веткаўскага музея народнай творчасці. Фёдар Рыгоравіч быў у сваім працоўным кабінеце. Выразаў узоры па дрэве, пры гэтым гучна размаўляў, жартаваў, смяяўся, — здавалася, увесь свет абарочваўся вакол яго.

Была таксама паездка ў музей разам з “талакой” — нефармальным аб’яднаннем моладзі, створаным у Гомелі ў 1987 г. Барысам Сачанкам, Сяргеем Дубаўцом, якія на той час працавалі журналістамі ў “Гомельскай праўдзе”. “Талакоўцы”, акрамя многіх спраў дзеля адраджэння нацыянальнай свядомасці, захоўвалі гістарычную спадчыну. Да прыкладу, фіксавалі стан асобных разбураных гістарычных помнікаў, дапамагалі іх узнаўляць. Памятаю, аднойчы зімой “талакоўцы” выносілі старую разбітую цэглу са Свята-Пятра-Паўлаўскага кафедральнага сабора ў 1989 г. перад яго рамонтам. Сяргей Дубавец, Барыс Сачанка, Тацяна Сапач, Людміла Фомчанка, Алег Чыжоў, іншыя “талакоўцы” на працягу двух гадоў, на кожныя выходныя, прыязджалі ў Ветку да Ф.Р. Шклярава, выконвалі розныя будаўнічыя работы каля будынка будучага музея (перад адкрыццём першай экспазіцыі ў 1987 г.).

Ф.Р. Шкляраў умеў нястомна працаваць, дасягаць жаданага. Як згадвае Г.Р. Нячаева: “Ён быў мастаком, хоць адукацыю яму не ўдалося атрымаць, але ж ён усё жыццё хадзіў на эцюды ў выходныя дні і ў спякоту, і ў сцюжу”. Часта сустракаўся з людзьмі, для якіх праца была не проста жыццёвай неабходнасцю.

Цяжка ўявіць сучаснаму чалавеку колькасць, цяжкасць працы вясковых людзей, якія жылі напачатку мінулага стагоддзя: “У маёй маці маці была багатая. Можа, пяцьсот сарочак (кашуляў — *Л.Р.*) было, панёў — пяцьдзясят. Платкоў дзвесце было”... Такія лічбы, магчыма, крыху перабольшаныя, называла неглюбская ткачыха Валянціна Аляксандраўна Халюкова, якая нарадзілася ў 1931 г. і некалькі гадоў таму сышла ў іншы свет. Кашулі — ільняныя, сшытыя ўручную, з прыгожымі тканымі ды вышытымі ўзорамі, мярэжкамі на рукавах, на падоле. Любая з такіх кашуляў — сапраўдны твор мастацтва.

У Веткаўскім музеі за час яго існавання сабрана больш за тысячу тканых і вышываных ручнікоў. Беларуская тэрміналогія ткацтва – гэта амаль не раскрыты неруш традыцыйных міфалагічных уяўленняў, і, тым самым, некаторай часткі нацыянальнага светапогляду. 648 назваў узораў адных толькі (!) тканых ручнікоў, занатаваных супрацоўнікамі музея ў 1980-2003 гадах у вёсках Веткаўскага, Чачэрскага, Добрушскага, Гомельскага раёнаў, асобных вёсках Бранскай вобласці сведчаць аб адметным мастацка-філасофскім мысленні, глыбокім светапоглядзе стваральніц узорыстых тканін. Нашы продкі адкрывалі першароднасць свету прыкладна так, як гэта рабіў першы чалавек Зямлі, Адам. Да прыкладу, ручнікі з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага раёна (блізка цячэ рака Бесядзь) адметныя “транспартнымі” і “рачнымі” назвамі узораў: “цёмная сцежка”, “лебядзіная дарога”, “лебядзіная сцежка”, “богава дарожка”, “ветрачкі”, “галубіная дарожка”, “жалезныя пуці”, “залато кружжа” (“калёсы”),”чаўнакі”, ”белыя чаўнакі”, “свіная сцежка”, “царская дарожка”, “якарыкі”, “паўякары”, “ракі”, “рачыкі”, “Вогненная вада”, “вольная паласа”, “разбітае сэрца”, “вуллейкі накрытыя” ды інш. — такія назвы давалі ў вёсках Бабічы, Нісімкавічы Чачэрскага раёна.

Тканыя палотны ў прасторы традыцыйнай культуры — гэта, акрамя іншага, зматэрыялізаваныя паэтычныя тэксты. “Саджаць”, – так казалі неглюбскія ткачыхі аб нанясенні ўзораў пры тканні. Чалавек, нібы дрэва, з гадамі “ўрастае” ў сваю зямлю і “ўзрастае” на ёй, яна для яго — самая блізкая і родная. І таму ручнік,

абаронца роду, гэта яшчэ і ўнікальная геаграфічна-ментальная карта, на якой можна распазнаць сваю “Новую зямлю” і самога сябе, напрыклад, у коле-ромбе вертыкальнага ланцужка на тканым ручніку; “Тут мой захад і тут – усход” (Алесь Разанаў). І калі ў Японіі на працягу многіх стагоддзяў развіваўся і ўмацоўваўся ідэал прыгажосці — ствараліся сады і паркі з асаблівым ландшафтам (як ні дзіўна, гэтым займаліся паэты, мастакі, пісьменнікі, філосафы, імператары; мастацтва, паэзія, філасофія пры гэтым спалучаліся ў адно цэлае), то ў Беларусі такім разгорнутым, нібы сад перад Сусветам, ідэалам прыгажосці з’яўляюцца ручнікі, на якіх — “мыслямі ўзоры клаліся” (радок з вясельнай песні, запісанай у XIX ст. Я. Тышкевічам), у якіх адкрываюцца традыцыйныя ўяўленні, мастацкія густы многіх пакаленняў.

Веткаўскі рэгіён адметны некалькімі традыцыямі ткацтва, якія былі “жывымі” не так даўно. На 1960-1980 гг. прыпадае росквіт неглюбскай традыцыі ткацтва. І цяпер ткуць у Неглюбцы, але нямногія. У вёсках Веткаўскага ды суседніх раёнаў гэтая праца забытая. Бывае, не так проста адшукаць жанчын, якія маглі б узгадаць назву ўзора на ручніку, кашулі. Народныя традыцыі ткацтва сыходзяць на нашых вачах, як Атлантыда.

Амаль такія ж, як калекцыі ткацтва, народнага адзення ўнікальныя, каштоўныя іншыя калекцыі, сабраныя ў Веткаўскім музеі народнай творчасці імя Ф.Р. Шклярава.

“Працаваць, жыць і радавацца”, — словы, пачутыя ад мясцовых жыхароў, любіў цытаваць для людзей Ф. Р. Шкляраў. Аднойчы, калі рабіў навуковае апісанне аднаго са сваіх накідаў, са здзіўленнем канстатаваў: “Малюнак вазы ў гомельскім парку, якая стаіць, адлітая з цэменту, за будынкам Палаца піянераў намаляваў, і толькі тады зразумеў, як гэта цяжка, вельмі доўга. Адным словам, праз восем гадзін працы, млеючы ад спёкі, ледзь-ледзь зрабіў тое, што змог, і на колькі хапіла майго цярпення. Відаць жа, у вялікіх і цярпенне, і праца былі вялікімі.”

Аднак, навошта столькі працы абіралі для сябе людзі? Навошта сеялі жыта, цешыліся белай квеценню садоў, грэчкі ( а ўраджай нярэдка збіралі птушкі), ды яшчэ й свядома пакідалі працяг працы на будучыню — апошнія калівы бульбы на агародзе (для св. Іллі), апошнія каласы жыта на полі (завітую “бараду”, “дзеда”, “казла” “для Бога”, “для св. Міколы” і г.д.), апошнія плады на дрэвах (“для птушак,” “для Бога”), палавіну ўзорыстай паласы побач з трыма поўнымі, цэлымі на канцы тканага ручніка, не спявалі апошнія склады некаторых радкоў “шчаслівых” “стрэльных” песень? Не, відаць, не для таго, каб больш было, і не столькі для нашчадкаў. Відаць, для таго, каб весяліць сваё сэрца, каб спраўдзіцца, ствараць штодзень карціну свайго быцця.

У працы і творчасці чалавек паўтарае і будуе сябе — у наступных, новых колах жыцця. Прыгледзься, як дакранаюцца да белага ліста паперы — мадэлі стварэння Сусвету дзеці двух-трох гадоў: як правіла, яны крэсляць нястрымныя, вольныя лініі на ўсю вышыню (!) ліста. Прыгледзься, як сталеюць адпаведна ўзросту аўтараў-дзяўчынак абліччы іх царэўнаў-прыгажуняў. Якім складаным паўстае на карцінах сусвет дарослых!

Адна з адметных калекцый Веткаўскага музея народнай творчасці — калекцыя жывапісу. У яе складзе — творы самадзейных, прафесійных мастакоў г. Веткі, г. Гомеля: А.А. Прылуцкага, С.М. Цуканава, Ф.Р. Шклярава, Г.Р. Нячаевай, Б.І. Тарасенкі, Я.П. Гаробчанкі. Ёсць карціны Р.Я. Ландарскага, А.І. Цыркунова, М.П. Андыка, П. Шалюты, Т.І. Карлова, А.Г. Савянка, М.К. Хадановіча, А.А. Буранкова, С.Г. Наздрын-Платніцкай, Г.С. Тарскіх, Г.П. Спірыдонава, Г. Мялкова, В.Ф. Казачэнкі, А.А. Буранкова, В.С. Пыцеля, С.І. Дрэмука, М.А. Калініна ды іншых. У асноўным гэта пейзажы, і вельмі часта — пейзажы веткаўскіх мясцін.

Або партрэты знаёмых, дарагіх сэрцу людзей. Так некалі стваралася карціна “Веткаўчанін” А.І. Цыркунова — партрэт Ф.Р. Шклярава, якая на працягу многіх гадоў знаходзіцца ў музейнай экспазіцыі.

Знарок не ўдакладняю: хто з вышэйназваных мастакоў — прафесійны, а хто — самадзейны. Хто як можа — жыве, хто як можа — стварае сваё аблічча і аблічча свайго роду, краіны. У Японіі на працягу многіх стагоддзяў захоўваўся звычай: кожны чалавек абавязаны ў жыцці напісаць хоць бы адзін верш. Не абавязкова — шэдэўр. Важна выказацца і быць пачутым. А гэта можна зрабіць рознымі спосабамі.

Чалавек, які піша карціну, працуе з фарбамі, стварае крыштальна чыстыя вобразы. У гэты час ён робіцца іншым. Усведамленне таго, што імгненныя ўражанні можна захаваць такім чынам, дапамагае яму быць па-за часам.

Магія карцін, пазначаных тэрмінамі “самадзейнае”, “прымітыўнае”, “наіўнае” мастацтва”, або insitu, — магутная, здольная ўздзейнічаць гэтак жа, як іншыя віды мастацтва. Наноў вяртаюцца да цябе зіма і лета, восень і вясна — імгненні жыцця, убачаныя вачыма мастакоў. Але ж вяртаюцца ў асноўным такімі, якімі ты іх адчуў упершыню. Першае дакрананне да снегу... Прыход вясны. Паляванне... Дзесьці даўным-даўно ўбачаная, знаёмая ўсмешка веткаўскай гаспадыні. Партрэт дачкі... Праз пражытыя гады ты падсвядома імкнешся да таго, што спазнаў у дзяцінстве і да яго, якімі б не былі ўспаміны — горкімі ці шчаслівымі.

Любоў, красу жыцця — спрадвечныя тэмы мастацтва ўзнаўляў на палотнах Ф.Р. Шкляраў — гэтак, як і многія самадзейныя мастакі. Колеры, напоўненыя чыстым святлом, таксама, як і добрыя словы, цешаць вока і заклікаюць душу рабіць прыгожае. Ва ўсіх пейзажах, большасць якіх — веткаўскія краявіды, бачыцца нястрымнае імкненне знайсці ў прыгажосці родных мясцін апору для чалавечага быцця.

Чалавек заўсёды імкнецца вярнуцца туды (не толькі перад смерцю), дзе закапана яго пупавіна. Хто ці што кліча яго? Мастак у гэтым разе з’яўляецца правадніком ( тым, хто мосціць мост) паміж “незразумелай, дзікай” прыродай і “знаёмым” светам людзей. Многія эцюды, накіды алоўкам Ф.Р. Шкляраў прысвяціў веткаўскім мясцінам — вуліцам Веткі, старому парку (Стаўку), лясным дарогам і сцежкам, азёрам і невялікім рэчкам, лугу, які раней квітнеў каля Сожа. Так, апісваючы адзін свой накід алоўкам, ён канстатуе: “Гэтыя дрэвы выраслі не ў лесе, а ў нашым добрым старым парку, які вось ужо шэсцьдзесят гадоў марудна разбураецца. Гэтай паляны і дрэваў таксама няма.” Эцюды, карціны, створаныя Ф.Р. Шкляравым, вызначаюцца надзвычай радасным успрыняццем Сусвету.

...Пейзаж пачынаецца, напэўна, з прадчування гармоніі, што раптоўна абуджаецца ў мастаку перад тым, як правесці лінію. Усякі з пейзажаў, які знаходзіцца тут, перад тваімі вачыма, гэта ўспамін пра свяшчэнны стан рая — стан спакою і самадастатковасці, стан свята. “Рай”, “У райскім садзе” — такія назвы давала сваім працам Алена Кіш. Пейзажы самадзейных мастакоў нагадваюць пра далёкія архаічныя часы, калі чалавек быў непадзельнай часткай прыроды, разумеў мову раслін і жывёл, калі ўночы, гэтак жа, як удзень па Сонцу, вызначаў час па Валасажырах.

Пасля Чарнобылю многія з пейзажаў, эцюдаў успрымаюцца як дакументы таго часу і стану душы. Многія мясціны, апісаныя мастакамі, сталі бязлюднымі. Прырода затаіла сябе ад чалавека ці не па яго віне. Сапраўды прарочымі аказаліся словы народнага духоўнага верша, які спяваюць у наш час каля іконы-“Свячы”:

А чаго ж ты, душа, міма рая прайшла,
к нам у рай не зайшла?
У нашым раі жыць весела,
жыць весела — толькі
некаму...

Своеасаблівыя дакументы часу — карціны, накіды алоўкам, створаныя самадзейным мастаком, першым дырэктарам Веткаўскага музея народнай творчасці Ф.Р. Шкляравым. Мініяцюры ў прозе, — так можна назваць каментарыі да іх (друкуюцца ніжэй у маім перакладзе з рускай мовы), якія ён пакінуў на навуковых картках фондаў музея, а таксама — надпіс, выразаны ім на прыгожай драўлянай браме каля музея: "Ветка — жыццё, шчасце, радзіма мая!"

Зямное жыццё гэтага выдатнага чалавека спынілася 30 кастрычніка 1988 года.

У пазамінулым годзе (паводле рашэння Гомельскага аблвыканкама ад 22 снежня 2010 г.) Веткаўскаму музею народнай творчасці нададзена імя Ф.Р. Шклярава.

## Фёдар Шкляраў

# "Ветка — жыццё, шчасце, радзіма мая!"

### Накід. Пляменніца. 2.01.1944 г.

У трэцім класе мая пляменніца Караедава Ірына Яўгенаўна вельмі добра малявала кветачкі, і заўсёды ёй ставілася адзнака "добра", мне ж — заўсёды "дрэнна". Для мяне гэта было як знявага: дзяўчынка, і лепш за мяне малюе.

Вырашыў яе перамагчы.

Пачаў маляваць усё, што трапіцца, але не кветачкі, а карабкі ад запалак, дамы, дрэвы (з натуры).

Праз месяцы тры-чатыры па маляванні ў мяне былі толькі выдатныя адзнакі. А так, як яна акрамя кветак, нічога больш не магла, то я яе і перагнаў.

Гэтая пляменніца сталася для мяне штуршком да маёй вялікай любові да мастацтва на ўсё жыццё.

*7 студзеня 1982 г.*

### Накід. Лазні. 2.04.1954 г.

Наша вуліца адбудавана на мяжы агародаў дзвюх вуліц, з левага боку — вуліца Пралетарская, з правага — вуліца Першамайская (па цячэнні ракі). Першая яе назва, у 1950 г. — Нова-Першамайская, затым — Ракасоўскага, Сялянская. У сённяшні час — вуліца імя Дзмітрыя Кавалёва (паэт нарадзіўся ў Ветцы і памёр у 1977 г. у Маскве).

На накідзе намалявана лазня Харланіхі, якая стаіць на агародзе. Маляваў з вакна свайго дома. Лазня дужа старая. Такі ж стары ў яе быў і дом па вуліцы Пралетарскай. Цяпер няма ні дома, ні лазні. Пабудавалі новы каменны дом, калі ёй было каля васьмідзесяці пяці гадоў. Дом яна прадала і паехала з дачкой.

Але галоўнае — у самой гаспадыні. Яе муж быў кавалём. Называлі ўсе: Харлан. Вось і яе звалі яго імем: Харланіхай. Яна была За Ім. Цяпер так нікога не называюць, таму што — раўнапраўе, і ўсе самі па сабе, і ніхто не заняты.

*11 студзеня 1982 г.*

Памятаю, ішоў па завулку. Было холадна, і ў мяне пачалі замярзаць рукі. Па звычцы заклаў іх за спіну і схаваў у рукавы.

Гэтак жа сама ішоў Юра (старэйшы сын Ф.Р. Шклярава — *Л.Р.*) Ён хацеў быць да мяне падобным. Ён мяне капіраваў, ён мяне пераймаў.

Нават суседка заўважыла і кажа: "Глядзі ты, як яны ідуць!" Я — спераду, ён



*Фёдар Рыгоравіч ШКЛЯРАЎ.*

— за мной. Яна прагаварыла, ён азірнуўся і ўсё гэта ўбачыў. Відаць, дзеці бяруць прыклад і хочуць быць падобнымі на бацькоў толькі ў дзяцінстве.

*11 студзеня 1982 г.*

## Накід. Калінкавічы. Дэмабілізаваны. 28.09.1947 г.

Вясной 1947 года быў голад у нашай вобласці, і толькі ў Заходняй Беларусі яго, відаць, не было.

Я з таварышам Караедавым Пятром паехалі абменьваць нешта з адзення на бульбу.

Ехалі туды і назад на таварняках. Не трэба было пытацца ў людзей, на які цягнік садзіцца, таму што ехала надта многа людзей і ўсе — у адным накірунку. Вось на станцыі "Калінкавічы" таварыш лёг прама на зямлю, падклаўшы рэчмяшок пад галаву, а я яго намаляваў.

Падумаць толькі, прайшоў усю вайну, застаўся жывы, і трэба было ехаць у Янова па звычайную бульбу, каб не памерці з голаду. У 1946-47 гадах у Беларусі была засуха.

*7 студзеня 1982 г.*

## Накід. 1944 г. Ветка

Пасля Вялікай Айчыннай вайны (дакладней, пасля вызвалення Савецкай арміяй горада Веткі) на Інтэрнацыянальнай вуліцы засталося ўсяго некалькі дамоў, а астатнія былі разбітыя снарадамі, бомбамі, ці згарэлі. Адна з хат, якая засталася цэлай, і паказана сярод квітнеючай зеляніны вясны.

*4 студзеня 1982 г.*

## Накід. Партрэт Галіны Кузнічэнка. 21.01.1943 г.

У 1941 г. яна скончыла дзесяць класаў Веткаўскай сярэдняй школы. А восенню яе маці і яшчэ трыста чалавек габрэяў немцы расстралялі.

Яе з меншым братам, якому было гады тры, пакінулі ў жывых, таму што бацька іх быў рускі.

Як яны жылі, колькі галадалі і пакутвалі, да таго ж увесь час таксама чакалі, што і іх могуць расстраляць!..

Некаторы час яе брат жыў у нас (каля года), пазней мы яго аддалі ў дзетдом у 1945 годзе.

А яна была вельмі прыгожая...

*7 студзеня 1982 г.*

## Накід. Баржа. 20.02.1941 г.

Гэтая баржа засталася недабудаванай на веткаўскай судаверфі.

Акупаваўшы Ветку, немцы загадалі дабудаваць гэтую баржу. Прымусілі ўсе вёскі звозіць бульбу. Нагрузілі трыста тон і хацелі везці ў Гомель.

Марозы раннія закавалі раку.

Баржа ўмерзла ў затоцы, а мёрзлую бульбу бралі ўсе, хто хацеў.

Усю зіму 1942 года і вясну мы ўсёй сям'ёй елі яе, мёрзлую, і яна ў нас была ў халодным калідоры.

*6 студзеня 1982 г.*

Мне падабаецца маляваць людзей каляровымі алоўкамі. Вось і гэты малюнак дачкі зроблены імі.

У маёй Іры — вялікія шэрыя вочы маці і нос маёй маці, яе бабулі.

Доўгія валасы яна заплятала ў адну касу.

З дзяцінства ёй была дадзена самастойная свабода і асобны пакой у доме.

Мы ніколі не прымушалі яе вучыць урокі, але яна вучылася з чацвёртага да восьмага класа на адны "пяцёркі". У восьмым класе яна паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча і яго скончыла афарміцелем. Цяпер ёй 23 гады.

*25 студзеня 1982 г.*

## Накід. Ваза ў гомельскім парку. 26.06.1945 г.

Аднойчы, калі доўга разглядаў малюнкі Шышкіна, таксама вырашыў паспрабаваць, у той час яшчэ не разумеючы, што алоўкам трэба вадзіць ва ўсе бакі, а не касым штрыхом знізу ўверх.

Малюнак вазы ў гомельскім парку, якая стаіць, адлітая з цэменту, за будынкам Палаца піянераў, намаляваў, і толькі тады зразумеў, як гэта цяжка, надта доўга.

Адным словам, праз восем гадзінаў працы, млеючы ад спёкі, ледзь-ледзь зрабіў тое, што змог і на колькі хапіла майго цярпення. Відаць жа, у вялікіх і цярпенне, і праца былі вялікімі.

*6 студзеня 1982 г.*

## Накід. Партрэт.16.06.1946 г.

У тыя часы гэта была свайго рода славутасць нашай Веткі. Гэты мужчына мог зімой скокнуць у пельку за паўлітра гарэлкі. Боты кірзавыя ніколі не ведалі шкарпэтак ці парцянак, абуваў іх на босыя ногі. Рваная шапка на галаве, на плячах ватоўка або нейкі пінжак, і рэдка калі была пад імі кашуля, ды і тыя ён не зашпільваў. Ён быў мулярам, цесляром, пільшчыкам, грузчыкам. Ён капаў калодзежы, рыў іх і заўсёды сядзеў у яме з вадой, калі іх капаў. Гэта была яго праца. У маладосці насіў адразу на сваіх плячах па пяць мяшкоў мукі.

Бязбожна п'янстваваў. Калі яму было восемдзесят пяць гадоў, не меў ніводнага зуба ў роце, ажаніўся ў шосты-дзясяты раз, і жонцы было трыццаць пяць гадоў.

У сваім жыцці пабудаваў каля шасці дамоў і, крыху пажыўшы, прадаў іх. Вось аднойчы сустрэў яго на беразе ракі, пасадзіў пад дрэва і намаляваў.

*8 студзеня 1982 г.*

## Накід Ландарскага Роберта Яўхімавіча

У той дзень я намаляваў некалькі разоў яго, і ні адзін з накідаў яму не спадабаўся. Праўда, яны ў мяне з'яўляліся з-пад алоўка хвілін праз дзесяць-пятнаццаць...

Але менавіта гэты накід выявіў выразна яго невыразны характар.

*19 красавіка 1982 г.*



*Фёдар Рыгоравіч ШКЛЯРАЎ.*

Горш за ўсё — гэта пісаць пра сябе. Вось аб другіх мы ўсе пішам, што хочам, думаем, што ўсё бачым, ведаем.

А пра сябе — цяжка.

— Які я?

— Але чамусьці думаю, што я ўвесь час той жа і зусім розны.

— Нічога не зразумееш.

Я ніколі не хацеў быць падобным на ўсіх, а заўсёды хацеў быць сабой. Але не ў адзіноце.

Кажуць, што з гадамі мы змяняемся.

Так, змяняешся — знешне, і становішся разумнейшы, мудрэйшы з гадамі, калі ты чалавек.

*8 студзеня 1982 г.*

## Накід дзяўчыны. 26.10.1945 г.

Калі гляджу на гэты накід, успамінаю мінулае. Успамінаю свае і яе маладыя гады. Як гэта добра, калі чалавеку ёсць што ўспомніць і не толькі ўспомніць, а тое мінулае яшчэ і бачыць. У сваёй працы бачыць тое, што было з табой звязана, сваё жыццё. А зрэдку неабходна заглядваць у сваё мінулае і ў сваю будучыню — жыць у часе.

Гэтак жыве і табой створанае, твая праца. І, калі чалавек глядзіць на накід, то, у першую чаргу, ён глядзіць на характар, час і яго паказ, і толькі ў апошнюю чаргу — на подпіс аўтара. І, выходзіць, што справы людзей жывуць ужо асобна, самі.

*6 студзеня 1982 г.*

## Накід. Сяржант. 30.08.1945 г.

30 жніўня 1945 г. я ехаў з Гомеля на параходзе "Пралетарый". На верхняй палубе сустрэў земляка са сваёй вуліцы (Першамайская, ці былая Манастырская). А так, як альбом у мяне заўсёды быў з сабой, то я яго, як бравага курсанта, і намаляваў.

Ён сядзеў насупраць ад мяне і радаваўся, што едзе дахаты, у адпачынак.

Яму на той час было дваццаць пяць гадоў.

Пасля заканчэння вучылішча стаў афіцэрам, служыў на Камчатцы, Сахаліне, дзе год службы прыраўніваўся да двух гадоў. Да сарака гадоў выйшаў на пенсію, прыехаў у Гомель, працаваў там і памёр ад рака крыві гадоў дзесяць назад. Прайшоў усю вайну, узнагароджаны Ордэнам Славы. Выжыў, каб памерці ад белакроўя. (Рукі — не ў малюнку, але падобны, а калі гляджу на малюнак, такім яго і помню).

*4 студзеня 1982 г.*

## Накід. “Статуя ў Гомельскім парку пасля вайны”. 26 чэрвеня 1945 г.

Статуя “Купальшчыца”. Стаяла ў гомельскім парку на беразе ракі Сож.

Так і выстаяла ўсю вайну без галавы.

Да праўды, скульптуры мець галаву і не абавязкова.

*6 студзеня 1982 г.*

## Накід. Партрэт Клімянкова. 1969 г.

Увесь час баяўся, што ён памрэ, і я не паспею яго намаляваць.

Аднойчы зімой прыйшоў да яго, адсядзеў каля дзвюх-трох гадзін, намаляваў. Хацеў яшчэ разок зайсці, не давялося. А пазней нешта перашкодзіла.

Гэты стары — мой першы настаўнік.

У 1939 годзе ўладкаваўся на працу на веткаўскую судаверф, быў вучнем цесляра ў Клімянкова (Ф.Р. Шкляраў — аб сабе; Л.Р.).

У семдзесят гадоў ён аўдавеў, але праз некаторы час зноў ажаніўся. А дачка ягоная стала яму ворагам.

— Але ж чалавек пазбавіўся адзіноты. Хіба гэта дрэнна?

Ён даўно памёр, а я кажу, відаць, як аб жывым.

*25 студзеня 1982 г.*

## Накід. Гомель, плошча, пажарная каланча. 1945 г.

У 1945 годзе на цэнтральнай плошчы ў Гомелі яшчэ стаяў двухпавярховы будынак з высокай каланчой. І каланча, і другія будынкі за ёй былі або ўзарваныя, або спаленыя, а сама плошча зарасла травой.

Каланча надта добра глядзелася на фоне блакітнага неба. Яна мне падабалася, і ўсё хацелася ведаць: а што там відаць, калі б паглядзець з яе верху? Цяпер на гэтым месцы стаіць рускі драматычны тэатр.

Ну, а ў мяне застаўся малюнак — памяць аб былой каланчы.

Вельмі многім падабаецца знішчаць тое, што было зроблена ў мінулым, а шкада.

*6 студзеня 1982 г.*

## Накід жанчыны (маці Н.Л. Сняжковай). 24.08.1945 г.

І малюнак слабы, і намаляваны на адваротнай старане ліста з альбома дзіцячых малюнкаў.

А, галоўнае, намалявана жанчына, якая мяне цярпець не магла (на той час), якая ўсё ж мне пазіравала. Настолькі ў яе была павага да чалавека, які можа намаляваць падобна і пакінуць памяць.

Я часта заўважаў у людзей непавагу да сябе, але захапленне мной, як мастаком. І заўсёды другое перамагала першае.

Вялікае гэта шчасце — быць мастаком на нашай зямлі.

*5 студзеня 1982 г.*

## Накід. Хлопчык. 30.04.1942 г.

Маляваць я пачаў з трэццяга класа, капіраваў вельмі мала, а большую частку маляваў толькі з натуры.

Апошнія два гады, з пятнаццаці да сямнаццаці гадоў, мне падабалася маляваць людзей, а яны ў мяне атрымліваліся непадобныя. Што толькі не рабіў, усё вымалёўваў, усё выпісваў, а людзі — непадобныя.

Гэта настолькі мяне мучыла, што аднойчы кінуў увогуле маляваць таварышаў сваіх, каб яны не смяяліся з мяне. І вось, 30 красавіка, пасля паўгадавога перапынку, я зноў паспрабаваў. І гэты хлопец, з якім мы разам ганялі футбол, Галафаеў Сцяпан Харлампіевіч (мой траюродны брат, 1925 г.н.), на маім малюнку быў падобны. Гэта настолькі абрадавала мяне сваёй нечаканасцю! І толькі тады я зразумеў, што перапынак у паўгода, калі маляваў прыроду, нацюрморты ды іншае, мне вельмі дапамог. Дапамог таму, што там, малюючы, не гнаўся за падабенствам, а набіў руку і вока. Спатрэбілася дзесяць гадоў, каб у мяне, самавучкі, сталі на малюнках людзі падобныя, быў характар.

## Партрэт дзяўчыны ў хустцы. 1945 г.

Партрэт жонкі таварыша майго дзяцінства.

Нас было сем чалавек, і ўсе мы малявалі. Дні праз два збіраліся ў маім доме, дзе кожны паказваў тое, што ён зрабіў. Зрэдку лепшы малюнак быў мой, але пераважна — Віктара... Ён вельмі хораша рабіў малюнкі тушшу, пяром. Як мы яму ўсе зайздрасцілі!..

## Узлесак. Эцюд. 1970 г.

Гэтае месца маляваў і пісаў некалькі разоў, і яно мне заўсёды падабаецца.

Дарога, што вядзе да ўзлеску (непадалёк ад вуліцы імя Луначарскага).

За трыма соснамі справа віднеюцца ў далечыні лугі і лясы. На небасхіле, каля далёкага лесу, вядзе дарога з Веткі ў вёску Бесядзь. Восень, усё супакоілася, і толькі яркая зяляніна ў нізіне луга не хоча згаджацца з пераломам у прыродзе.

*4 студзеня 1982 г.*

## Накід. Хлопчык з вяслом. 8.05.1943 г.

Месца гэта — каля куста, дзе стаіць хлопчык, у нас, у веткаўчан, называецца “Градкі”. На самой справе, гэта востраў. З левага боку абмывае сапраўднае рэчышча ракі Сож, а справа — старое русла., стары фарватар ракі. (Левы і правы бок у ракі вызначаецца па цячэнні). Гэта вельмі прыгожы востраў з абрывістымі берагамі, заліўнымі квітнеючымі лугамі і палянамі, зарослымі чырвонай лазой. Стаіць звычайны хлопчык гадоў васьмі, трымае вясло, якое ён паставіў на пясок на пагорку. На ім — абтрапаны стары вялікі джэмпер, такія ж старыя штаны, а на каленях — вялікі чорны лапік. Гэта памяць, гэта мінулая гісторыя.

Цяпер хлопчыкі яго ўзросту не носяць лапленае зашытае адзенне.

*5 студзеня 1982 г.*

## Накід. 1959 г.

Намалявана дзяўчына, работніца фабрыкі “8 сакавіка”.

З 1956 г. па 1960 г. працаваў маляром у будаўнічай канторы “МСО”. На зіму з’язджаў у Гомель і афармляўся на працу ў які-небудзь кінатэатр. У 1959 г. быў мастаком у кінатэатры “Зорка” (пазней яго пераіменавалі ў кінатэатр імя Ісачанкі) (Ф.Р. Шкляраў — аб сабе; Л.Р.).

На кватэры ў сваёй цёткі жыла і гэтая дзяўчына з вялікімі вачыма, чорнымі валасамі, вельмі чыстым тварам і здаровай маладой стройнай фігурай. Ужо толькі адны гэтыя яе якасці прасіліся на паперу ў мой альбом.

*22 студзеня 1982 г.*

## Партрэт Анікеіча Рыгора. 11.01.1956 г.

Партрэт старога, майго добрага знаёмага, ад якога ў мяне некалькі старых кніг, вельмі начытанага на рэлігійную тэму. Яго паважалі ўсе жанчыны сталага ўзросту за яго адукаванасць, простасць, ветлівасць.

Пражыў да старасці, веруючы ў Бога (старавер)...

Працаваў пільшчыкам (распілоўваў калоды на дошкі, шалёўку), столярам, цесляром. Рабіў на вокны ліштвы, аканіцы, каб пракарміць усю сваю шматлікую сям'ю з васьмі чалавек. Усе ягоныя сыны і дочкі маюць вышэйшую адукацыю...

*13 студзеня 1982 г.*

## Накід. Партрэт Нячаева Парфірыя Мікітавіча. 11. 01.1956 г.

Валявы, энергічны, характэрны, з адчуваннем уласнай годнасці твар чалавека, які так многа пражыў і пабачыў столькі гора, што выпала яму ў жыцці. Любы іншы чалавек на яго месцы не вытрымаў бы і разбіўся б, як асоба. І цяпер, калі гляджу на малюнак, у выразе яго вачэй бачу яшчэ прыроджаную высакароднасць, ён нібы пытаецца: “А ці ёсць яна цяпер у вас?”

Ён быў не надта адукаваны. Але прыродны розум яго быў настолькі вышэйшы, чым у іншых, што яны гэта цудоўна разумелі. Я доўгі час ад яго быў залежны, яму падпарадкоўваўся па працы, зліўся. Назаўсёды засталося адчуванне павагі да яго, чаго няма да іншых.

*13 студзеня 1982 г.*

## Накід. Фёкла Адамчыкава. 1.01. 1955 г.

Накід старой, сяброўкі маёй маці, якая, колькі я і памятаю, заўсёды была старой, жонкі капітана рачнога флота. У яе быў вялікі ўласны дом, што стаяў па вул. Першамайскай. Яна была па тых часах багатай. Муж рана памёр.

На маё пытанне, на што ён хварэў, адказала: “Ды так... Ежа не пайшла.” (Тады не ведалі, што гэта — рак страўніка).

Дом згарэў у 1943 годзе, падчас бегства фашыстаў з Веткі. І з таго часу яна бадзялася, як і многія бяздомныя, па кватэрах, пакуль не памерла.

*11 студзеня 1982 г.*

## Аўтапартрэт. 30 сакавіка 1950 г.

Салдат 460 асобнага будаўнічага батальёна. На працягу трох гадоў быў разоў трынаццаць у адпачынку. Ніводнага разу не быў на стрэльбішчы. Вельмі мала хадзіў у строі.

Служыў пры зампаліце, быў бібліятэкарам, паштальёнам, мастаком. А калі дэмабілізавалі ў 1950 годзе, то ў графе “воінская спецыяльнасць” запісалі: “стралок-мастак”.

Праз гэта ледзь выдалі ваенны білет: такой пасады не было ў статуце. Але ж яна ў мяне была. І вось так, на працягу ўсяго жыцця, нейкая блытаніна.

*8 студзеня 1982 г.*

## Накід. 1949 г.

Варонеж.

Рэдка калі бываеш задаволены сваёй працай.



*Супрацоўнікі Веткаўскага музея народнай творчасці. Першая злева – Галіна Нячаева.*

Але, ці то ён сядзеў тры гадзіны, або папера моцная, зярністая, ці то аловак іншы, а гэтым малюнкам сцвердзіў і сам сябе, і тэхніку штрыха.

У далёкім 1949 годзе намаляваў, але і сёння ў мяне тыя ж думкі пра яго, што і тады.

*8 студзеня 1982* г.

## Партрэт салдата з кнігай. 1944 г.

Акварэль пачалася і не скончылася... Гэты салдат з кнігай, падручнікам англійскай мовы, быў маім саслужыўцам.

Усе здзіўляліся: для чаго яму трэба англійская мова? А гэта так цяжка: у войску вучыцца завочна. Відаць, і маляваць пачаў яго з-за павагі да ягонага характара, ягонай волі.

8 *студзеня 1982 г.*

## Накід "Два дрэвы". 16 ліпеня 1940 г.

Калі б вярнуць свае гады ў той час, дык я гэтак бы хадзіў і маляваў, як тады.

*8 студзеня 1982 г.*

## Партрэт Кавалёва Міхаіла. 1 кастрычніка 1945 г.

Кавалёў Міхаіл — гэта чалавек з дынастыі кавалёў. Ён адпрацаваў на веткаўскай судаверфі да пяцідзесяці пяці гадоў і выйшаў на пенсію. Гэта чалавек, у якога перабыло каля дваццаці жонак, і ўсе яго кахалі, і ўсіх ён кідаў. Цяпер яму больш чым семдзесят гадоў, а жыве ён з трыццаці-трыццаці пяцігадовымі жанчынамі. Гэта, відаць, хобі яго жыцця (жанчыны і гарэлка). Аднаго разу, у першы год заканчэння вайны, мы ехалі з ім з Гомеля ў Ветку на баржы, якую буксіраваў буксірны параход. І я намаляваў яго.

Тады, па рацэ, была адзіная сувязь паміж Гомелем і Веткай.

Параходаў пасажырскіх не хапала. Вось і пасадзяць у баржу, дзе няма ні лавак, ні зручнасцей, і гадзіны тры яе цягне буксір.

*8 студзеня 1982 г.*

## Накід. "Сябры". 9 красавіка 1946 г.

Гэтыя падлеткі заўсёды хадзілі разам, і мне вельмі хацелася намаляваць іх таксама разам.

*7 студзеня 1982 г.*

## Накід. Жэня. 1 красавіка 1946 г.

Партрэт Яўгена Сушчова.

Увесну 1945 г. Худзякоў Назар, стары, якому было гадоў шэсцьдзесят-шэсцьдзесят пяць, ехаў з гэтым хлапчуком з вёскі Галоднае. Дакладней, яны плылі на чоўне па вялікай вадзе, везлі бульбу. Вялікая хваля перакуліла човен, ён пайшоў на дно. Стары пасадзіў на плечы хлопчыка, і каля кіламетра плыў да берага.

Хлопчыка выратаваў, але сам, знясілены, памёр тут жа, на беразе.

Гэты хлопчык вырас, скончыў Гомельскі інстытут чыгуначнага транспарту, і аднойчы выказаў мне (пры гэтым прысутнічалі людзі), што дома ён працуе, а на працы адпачывае, інакш — які сэнс жыць? Да сарака гадоў не ажаніўся: усё шукаў сэнс. Вось так.

*6 студзеня 1982 г.*

## Партрэт параненага матроса. 1944 г.

Пачаты з натуры гуашшу і не скончаны.

На той час у мяне, акрамя гуашы, ніякіх фарбаў не было.

Алесь, які ніколі не скардзіўся, у якога ўся спіна пасечана асколкамі. І ён быў пераведзены на адзін год у нястроевую службу па раненні.

*6 студзеня 1982 г.*

## Накід. 1943-44 гг.

Пачаў маляваць і не скончыў. Нешта перашкодзіла.

Гэтая дзяўчына працавала на машынабудаўнічым заводзе ў г. Яраслаўлі токарам, абточвала галоўкі мін для мінамётаў.

Працавалі па дванаццаць гадзін пры адным або зрэдку двух выходных днях у месяц. Таму і ў вачах стомленасць і туга.

*6 студзеня 1982.*

## Накід "Мосцік". 31.03.1944 г.

Гэта адзін з удалых накідаў на той час, у 1944 годзе.

Намаляваны мосцік, які знаходзіцца ў самым канцы былога рова, у якім да вайны і пасля вайны жылі лебедзі. Мосцік быў пабудаваны яшчэ пры князі Паскевічы.

*6 студзеня 1982 г.*

## Лета.

Акварэль адметная сваёй сакавітасцю, празрыстасцю і колерам.

У ёй мне хацелася перадаць нашы веткаўскія ўзлескі ў час цвіцення, насычанага жыцця прыроды. Перадаць не праз асобныя прадметы, а праз масу колеру, святла і блакітнага, жывога неба.

*4 студзеня 1982 г.*

## Накід “Агарод”. 4.04.1946 г.

Старая драўляная хата, адна з нямногіх, якія засталіся цэлымі на вуліцы Інтэрнацыянальнай. З такім жа дахам, крытым шалёўкай.Да рэвалюцыі і да Вялікай Айчыннай вайны дах, крыты бляхай, быў толькі на некаторых дамах.

На пярэднім плане — адбітая снарадам частка дрэва, якая вытыркаецца з мяжы агарода. Замест веранды або калідора да трохсцена прыбудаваны прымітыўныя сенцы.

Наогул, гэты накід падкрэслівае тую былую беднасць, якой цяпер няма зусім.

Нават у прыродзе адчуваюцца першыя пасляваенныя гады.

*5 студзеня 1982 г.*

## Стары парк. Пейзаж.1945 г.

Спроба перадаць групу дрэваў, асвечаных лютаўскім сонцам. Гэтыя дрэвы выраслі не ў лесе, а ў нашым добрым старым парку, які вось ужо шэсьдзесят гадоў марудна разбураецца. Гэтай паляны і дрэваў таксама няма.

*4 студзеня 1982 г.*

## Накід. Пасля вайны. Ветка. 9.08.1945 г.

Гэты комін згарэлага дома быў у самым цэнтры плошчы горада. Цяпер на гэтым месцы стаіць помнік У.І. Леніну (што каля раённага Дома культуры).

*7 студзеня 1982 г.*

## Раніца. Пейзаж. 1969 г.

Калі чалавек увесь час робіць адно і тое ж, то праз некаторы час гэта настолькі яму надакучвае, што ён пераключаецца на іншае, якое яму здаецца невядомым... Аднаго разу надта ўжо захапіла акварэль, і ўсё працы былі зробленыя на працягу аднаго года. Як і гэтая: справа стаяць дзве бярозы, злева — паляна і лес, які ўзыходзіць да неба, да сонца. Смуга тумана, які ўзыходзячае сонца не можа высушыць. Я люблю восеньскія чыстыя туманы.

*5.01. 1982 г.*

## Накід. Баржа ў затоцы. 1941 г.

Вельмі прыгожае відовішча, калі стаіць у затоцы (старое рэчышча ракі Сож) драўляная баржа, асмаленая смалой.

Гэта вельмі хуткі накід.

Усе баржы так мне падабаліся, і столькі іх было многа, што думалася: яны — вечныя.

Так ніводную з іх і не намаляваў, а шкада.

Іх болей няма, яны аджылі сваё.

Цяпер толькі са сталі робяць.

*7 студзеня 1982 г.*

Андрэй Масквін



...кнігу кінулі на гільяціну

пад сляпыя вострыя нажы...

# “У Беларусі парадаксальным чынам сышліся інтэрнэт і Сярэднявечча...”

***Гутарка з Міхасём СКОБЛАМ***

***РЭКВІЕМ ПА СЯБРАВАЙ КНІЗЕ***

*Эдуарду Акуліну*

Не на пляцы, не ў агонь вясёлы
З лапаў інквізіцыі святой,
Не ў сярэднявечны трыццаць сёмы,
Не ў спецсхоў, спавіты павутой,

Не у саван, белую прасціну
Апрануўшы – сцішся і ляжы...
Кнігу кінулі на гільяціну
Пад сляпыя вострыя нажы.

Верш безабаронны – што ж вы, што ж?!
Пад нож.
Край, дзе ліўні ходзяць басанож –
пад нож.

Бесядзь і зеленавокі Сож –
пад нож.
Маладзік, бяссоння не трывож...
Пад нож.

У паэта свята, як хаўтуры.
Што ёсць слова, вычутае звыш?
Сорак кілаграм макулатуры,
Дзе звіе гняздо рудая мыш.

Ты ж пацешся, янычар паганы,
Што, нібы паўмесяцы з нябёс,
Над айчынным словам ятаганы
Ты рукой асманістай занёс.

Не запоўз у сэрца здрады смоўж –
пад нож.
Не звініць у кайстры юдаў грош –
пад нож.
Служыш Беларусі? Анягож!
Пад нож!
Пакрамсаны ўпоперак і ўдоўж –
у кош.

Неба апрытомнее, заплача,
І сіло дажджу не разарвеш.
Каля д'ябальскай сячкарні скача,
Нібы певень, безгаловы верш.

***– Верш з'явіўся ў кнізе «Нашэсце Поўні» (2001) і быў прысвечаны канкрэтнай падзеі: зборнік вершаў Эдуарда Акуліна «Радно» быў надрукаваны, але потым знішчаны. Ці падобныя выпадкі ўжо мелі месца ў гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя?***

– Каб ужо надрукаваны наклад кнігі пускаўся пад нож – такога не прыпомню. У свой час мой універсітэцкі выкладчык Алег Антонавіч Лойка расказваў, як у 1982 годзе ў Маскве быў арыштаваны ўвесь наклад ягонай кнігі пра Янку Купалу, што выйшла ў вядомай на той час серыі "ЖЗЛ", і што кнігу тады ад знішчэння выратаваў (хто б дадумаўся!) тагачасны старшыня саюзнага КГБ Юрый Андропаў – вялікі аматар і збіральнік той серыі. Памятаюцца рассыпаныя наборы дзвюх кніг – рамана "Леаніды не вернуцца да зямлі" Уладзіміра Караткевіча і паэтычнага зборніка "Парк" Адама Глобуса. Дарэчы, гранкі апошняга трапіліся мне ў бібліятэцы былога начальніка Ваўкавыскага КГБ Даніліка, калі я шукаў там сведчанні апякунства гэтай установы над Ларысай Геніюш. Можна прыгадаць і масавае знішчэнне (спальванне на вогнішчы) кніг у турме НКВД у 30-я гады... Дык ва ўсіх пералічаных выпадках кнігазнішчэнне задумвалася і ажыццяўлялася на загад нейкага партыйнага "ідэолуха", нейкая праўная база пад гэта ўсё ж падводзілася. А тут не Дом друку, падпарадкаваны дзяржструктурам, а прыватнае выдавецтва (калі не памыляюся, яно называлася "Полібіг") ні з пушчы ні з поля, невядома чым кіруючыся, вырашыла знішчыць увесь наклад кнігі. Мне Эдуард Акулін потым паказваў акт, падпісаны дырэктарам таго выдавецтва. Там было напісана – "измельчить в макулатуру". Сярэднявечча нейкае... Хоць у кожным



*Міхась СКОБЛА.*

стагоддзі, як трапна заўважыў Станіслаў Ежы Лец, бывае сваё сярэднявечча. У Беларусі яно здарылася на мяжы стагоддзяў і, на вялікі жаль, сыходзіць з нашай краіны не спяшаецца.

***– Ніл Гілевіч у рэцэнзіі на тваю кнігу «Паэт, завербаваны вербамі» («Народная Воля», 14.01.2003) назваў прычынай знішчэння «Радна» верш, прысвечаны яму. Як гэта магчыма, што з-за аднаго верша-прысвячэння адправілі ў макулатуру цэлую кнігу?***

– Калі ўжо сярэднявечча настае, то – з усімі адпаведнымі атрыбутамі: паляваннем на ведзьмаў, нецярплівасцю да іншадумцаў і г.д. І дашуквацца тут здаровага сэнсу і нейкай логікі не выпадае. Пачынае дзейнічаць зусім іншая логіка. Паводле яе ў XV стагоддзі ў Заходняй Еўропе на рытуальных вогнішчах спалілі тысячы жанчын, западозраных у сувязях з нячыстай сілай. Толькі западозраных! Бо даказаць падобныя "злачынствы" было немагчыма. Іскры з тых жудасных вогнішчаў даляталі ў Беларусь яшчэ ў XIX стагоддзі – пачытай Элізу Ажэшка. Відаць, у нейкім патаемным прыску яны датлелі і да дзён сённяшніх, калі пасярод Еўропы ў XXI стагоддзі сталіся зноў магчымымі цемрашальства і брутальны пераслед іншадумцаў. А сапраўдны паэт – ён іншадумец паводле сваёй натуры, ён не можа карыстацца гатовымі формуламі. Ці мог прысвечаны Нілу Гілевічу верш стаць прычынай знішчэння цэлай кнігі? У краіне, дзе парадаксальным чынам сышліся інтэрнэт і сярэднявечча, магчыма ўсё. Я магу дапусціць, што дырэктар выдавецтва "Полібіг" аднойчы ўключыў тэлевізар і пачуў, як кіраўнік краіны бэсціць вершы народнага паэта Гілевіча (такое здаралася). Паслухаў і вырашыў перастрахавацца. Зняць верш не здагадаўся, "зняў" усю кнігу – даступным яму спосабам. Няма кнігі – няма праблемы. Вось і ўсё. Такая логіка людзей, у чыіх душах тлелі вугельчыкі тых сярэднявечных вогнішчаў, на якіх паліліся кнігі Галілея, Томаса Мора, Францішка Скарыны, Генрыха Гейнэ...

***– У вершы ты гаворыш пра «янычара паганага», які «асманістай рукой» чыніць злачынства – знішчае кнігу. А ці ведае гісторыя прозвішчы людзей,***

***«янычараў», якія сёння рознымі спосабамі нішчаць беларускую кнігу? Ці, можа, гэтыя людзі – толькі пешкі, а за іх спінамі хаваюцца больш уплывовыя дзеячы, пра якіх мы ніколі не даведаемся?***

– У свеце няма анічога патаемнага, што з цягам часу не зрабілася б відавочным. Памятаю, на прэзентацыі «Радна» ў Чырвоным касцёле (некалькі асобнікаў кнігі ўсё ж удалося ўратаваць) зала проста ахнула, калі пачула пра знішчаны наклад. А потым людзі дапытваліся – хто?! Эдуард Акулін называў тады прозвішча чалавека, чый подпіс стаяў пад актам знішчэння. Больш за дзесяць гадоў з тае пары мінула, і нешта не чуў я, каб чалавек адумаўся і неяк пакаяўся. Значыць, учэпіста трымае душы нашых людзей сярэднявечны страх. А што да «паганага янычара», то алегорыя тут даволі празрыстая... І янычарства як з'ява апошнім часам у нашай краіне актыўна пашыраецца, яно стала ледзь не дзяржаўнай палітыкай. Хай сабе сёння кнігі не знішчаюць «па акце». Ёсць другія спосабы барацьбы з беларускімі пісьменнікамі. Скажам, нядопускам іх твораў да варштату Скарыны. Беларускі Дом друку мільёнамі асобнікаў друкуе кнігі маскоўскіх выдавецтваў, а народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выдае свой збор твораў накладам 100 (!) асобнікаў – за ўласную пенсію. Другому народнаму паэту – Рыгору Барадуліну – кнігі выдае касцёл... Скарына за галаву схапіўся б – для каго ён распачынаў беларускае кнігадрукаванне? А як мэтанакіравана дзяржаўныя СМІ замоўчваюць незалежныя выданні – той жа «Дзеяслоў». Як быццам такога часопіса ў прыродзе не існуе, а выходзіць толькі зграфаманенае дарэшты «Полымя»... Сёння наступ на беларускую кнігу вядзецца больш разумна і з другога боку. Беларуская кніга не прапагандуецца як каштоўнасць, з кожным годам скарачаецца колькасць беларускамоўных школаў. У выніку – знікае чытач. Вось у гэтым змаганні дзяржава дасягнула відавочных поспехаў.

***– Верш «Рэквіем па сябравай кнізе» здаецца мне дасканалым з гледзішча формы і сэнсу. У ім нельга пераставіць ці замяніць ніводнага слова. Верш робіць уражанне пружыны, якая б'е цябе па твары, калі ты яго чытаеш. Ці лёгка пісаўся гэты верш?***

– Ён адпачатку ўзнікаў на антытэзах – свята, якое ператварылася ў хаўтуры; жыццё ў ягоных разнастайных праявах – і нож як пасланец смерці. Прычым, я да гэтай пары не ўяўляю, як выглядае той нож (ці тыя нажы), якімі рэжуць на макулатуру кнігі. Гэта што – нейкае падабенства гільяціны? Ці гэта нешта накшталт сячкарні, якую я за часы свайго юнацтва пакруціў нямала? У любым выпадку апарат той бачыўся мне спараджэннем д'ябла. Як пісаўся верш – не памятаю, памятаю – як упершыню чытаўся, у тым самым Чырвоным касцёле, на прэзентацыі-хаўтурах. Па просьбе Эдуарда Акуліна я яе вёў, але пасля прачытання «Рэквіема...» змушаны быў сысці са сцэны – мяне літаральна хістала ад незразумелай слабасці. Праўда, той падазроны стан хутка мінуўся. А пра ўражанне верша як ад хлёсткай пружыны не ты першы мне гаворыш.

– "Верш безабаронны..." – гаворыцца ў тваім "Рэквіеме...". Чаму ж з "безабароннымі вершамі" так зацята змагаецца ўлада?

– Гэта аркуш паперы, на якім верш надрукаваны, безабаронны. Яго можна і пад нож пусціць, і ў агонь кінуць, і ў спецфонд запіхнуць. А сам верш можа быць і "абаронным", і "наступальным", ён валодае сілай незвычайнай, ён кагосьці можа на катурны ўзняць, а кагосьці – расстраляць. Так-так, не ўсміхайся. Вось табе прыклад: у 1934 годзе Восіп Мандальштам напісаў верш "Мы живем, под собою не чуя страны...". Што зрабіў паэт? Ён паставіў вялікага правадыра Іосіфа Сталіна да сцяны і –расстраляў. І Сталін, які разбіраўся ў літаратуры і пісьменніках, зразумеў гэта. І толькі таму сам не расстраляў Мандальштама. Расстраляны Сталін ведаў, што яму трэба ўваскрэснуць, і ўваскрасіць яго зможа толькі той, хто расстраляў. І ён загадаў сваім халуям: "Мандальштама ізаляваць,

але зберагчы”. А сам стаў чакаць ад паэта оды, якая б яго, генія ўсіх народаў, уваскрасіла. Доўга чакаў – чатыры гады. І як толькі даведзены да адчаю беспрацоўем і беспрытульна-галодным жыццём Мандальштам такую оду напісаў – адбыўся акт уваскрошання Сталіна, паўзверх расстрэльнага верша, як палімпсест, легла хваласпеўная ода, якая адмяняла сабою, знікчэмнівала папярэдні тэкст. Доўгачаканае дзейства адбылося, паэт стаўся непатрэбным і тут жа быў ператвораны ў лагерны пыл дзесьці на Далёкім Усходзе – нават магілы няма... Дарэчы, ад Янкі Купалы таварыш Сталін шэдэўра так і не дачакаўся. Крытыкі кшталту Бэндэ аж са скуры вылузваліся, даводзячы, што ўся савецкая паэзія Купалы – дрындушкі, што паэт фактычна сабатуе заданне партыі. Я нядаўна перачытаў 5 том Купалы – не ўсё там адназначна ўспрымаецца. “Маё мне сонца – правадыр”... Ці сонца паэту – правадыром, ці правадыр – сонцам? Купалу яшчэ даследаваць і даследаваць трэба, прысуды выносіць рана. У тым антыбеларускім чадзе, які выпушчаны сёння нам на галовы з усіх комінаў, улада разумее – беларускую нацыю выратуе літаратура. Таму літаратура сёння і абвешчаная ў асяродку самой улады адным з найгалоўнейшых ворагаў. Але гэта тое самае, як абвесціць па-за законам паветра, якім мы дыхаем, ці зямлю, па якой мы ходзім. Як паветра і зямля, беларуская літаратура існуе і ўплывае на наша жыццё.

***– Мяне вельмі ўразіла параўнанне верша з пеўнем, якому адсеклі галаву, а ён скача, бегае па двары. Ці не занадта смелы вобраз?***

– Абезгалоўлены акрываўлены певень – адзін з самых страшных успамінаў маленства. Чамусьці певень і без галавы не адразу памірае. А бацька, памятаю, узмахне сякераю і адпускае. І вось ён скача вакол калодкі, якая стала для яго плахай, пырскае крывёю... Я потым доўга тую сякеру ў рукі ўзяць не мог, да тае калодкі падысці. Калі бацькі не стала, маці ніколі не прасіла мяне засекчы якую свойскую птушку, ведаючы пра маю ўражлівасць... Ці ўдалае параўнанне верша з абезгалоўленым пеўнем? Калі прыходзяць радкі, пра ўдаласць ці няўдаласць не думаецца. Запісваеш – і ўсё. Потым ужо нейкі радок перапісаць хочацца, слова замяніць. Але гэта – як да застылае сталёвай канструкцыі алюмініевую частку прыварыць. Не атрымліваецца – розныя тэмпературы плаўлення. З другога боку – няма там аніякай смеласці. Верш – таксама жывая істота, і яму таксама на пласе балець мусіла. Зрэшты, чаму гэта трэба тлумачыць? Так напісалася, выдыхнулася, так – здарылася. Вось і ўсё.

***– Людміла Рублеўская прысвяціла табе верш «Мы ведаем, што да вясны далёка...» («Літаратура і мастацтва», 4.10.2002). Але ўжо праз пяць гадоў у сваёй кнізе «Шыпшына для Пані» зняла прысвячэнне і змяніла загаловак на «Аднакурснікі», якія пэўным чынам змяніў сэнс верша. Пытанне, я разумею, далікатнае, і ўсё ж: як ты расцэньваеш такі ўчынак сп. Рублеўскай?***

– Ніколі не думаў, што прафесар Варшаўскага ўніверсітэта гэтак уважліва чытае сучасную беларускую паэзію... Пытанне гэтае лепш задаць самой Людміле Рублеўскай, з якой мы, дарэчы, вучыліся на адным курсе філфака БДУ. Некаторыя яе вершы я яшчэ са студэнцкіх часоў ведаю на памяць, і мне было прыемна, калі на маёй вечарыне ў слаўным і яшчэ не зачыненым Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа яна прачытала згаданы табою верш са сцэны і падаравала мне аўтограф. А што там адбылося потым – я магу толькі здагадвацца. Магчыма, прысвячэнне выклікала насцярогу ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе выходзіла кніга. Мне і ў галаву не прыходзіць папракаць аўтарку – зняла прысвячэнне і зняла. Часам трэба ісці на кампраміс. Хоць кампраміс у дадзеным выпадку мог выглядаць іначай – можна было, скажам, проста зняць сам верш. Але калі Людміла лічыць, што ў такім выглядзе і з такім загалоўкам верш стаў лепшым – калі ласка. Яна аўтарка і можа рабіць са сваімі творамі што заўгодна.

***– 2012 год абвешчаны ў Беларусі Годам Кнігі. Відавочна, што беларуская кніга перажывае сёння не лепшыя часы. Як ты ацэньваеш цяперашні стан айчыннага кнігадрукавання?***

– Стан айчыннага кнігадрукавання найлепш ацэньваць наведаўшыся ў нашы кнігарні. Зайдзі ў сталічныя кніжныя крамы – у «Светач», «Акадэмкнігу» ці «Цэнтральную». Каб адшукаць, дзе, у якім закутку там беларускія кнігі прыхаваныя, трэба гіда наймаць! У тым жа двухпавярховым «Светачы» беларускі аддзел добра калі адзін адсотак ад усёй плошчы займае! Адсюль і вынікае, што стан нашага кнігадрукавання – катастрафічны. І аніякі абвешчаны ўладай Год Кнігі сітуацыю не выправіць. Трэба заканадаўча замацоўваць прыярытэты айчыннага кнігавыдання – уводзіць падатковыя ільготы і г.д. А самае галоўнае – змяніць стаўленне ўлады да беларускай мовы, перавесці на нацыянальныя рэйкі адукацыю. Станецца так у Беларусі? Пры гэтай уладзе – ніколі. Год Кнігі не зменіць той жахлівай дыспрапорцыі на беларускім кніжным рынку, якая сёння – як знак бяды ў нашых кнігарнях. Хоць часам і ў кнігарнях цікавыя падзеі адбываюцца. Заходжу я неяк у адну, над прылаўкам – партрэты Купалы, Коласа, Багдановіча і – аднаго дужа папулярнага персанажа найноўшай гісторыі. Нейкі пакупнік пачаў абурацца: па якім праве яго побач з класікамі павесілі? Здыміце неадкладна! А маладая прадавачка яму ў адказ: «Супакойцеся, калі ласка. Яго не адсюль здымаць трэба».

***– Цягам апошніх трох гадоў я сачу за кніжным рэйтынгам, які праводзіць радыё «Свабода». У 2010 годзе найлепшым выданнем быў прызнаны двухтомнік Ларысы Геніюш, летась – паэтычная кніга Рыгора Барадуліна «Апіта». Чаму менавіта паэзія выходзіць сёння на першыя пазіцыі?***

– Паэзія ўвогуле мае вялікія перавагі перад прозай. Верш неверагодна ўшчыльняе мову. Паэтычная мова – самая лаканічная з усіх моваў, што немалаважна ў наш імклівы час. Вось паслухай два радкі Аляксея Пысіна з ягонай «Балады пра начлег»: «Стралковая рота сопку ўзяла. Пад намі – зямля, над намі – зямля». Празаік цэлую аповесць напісаў бы... А вось верш Рыгора Барадуліна: «Тут – хапае пакут. Там – дазнаешся сам». Усяго шэсць словаў, а як шмат сказана! Мой кіеўскі сябра паэт Іван Андрусяк (ён, дарэчы, пераклаў «Рэквіем...» на ўкраінскую мову і апублікаваў нядаўна ва «Украінскай літаратурнай газеце») эсэмэскі піша вершам, бо так – найкарацей. Думаю, што гэтая здольнасць паэтычнай мовы неверагодна сціскацца, захоўваючы сэнс сказанага, дапаможа паэзіі выжыць у самых неспрыяльных умовах. Лёс нядаўна зрабіў мне неспадзяваны падарунак. Акурат у дзень свайго саракапяцігоддзя я сустрэўся з Ігарам Шклярэўскім, чыю паэзію цаню вельмі высока. Мы доўга сядзелі, гаварылі пра літаратуру, частаваліся добрым вінам. А Шклярэўскі – ён не толькі вялікі паэт, але і вялікі рыбак (з падараванай яму залатой лыжкі ён – уяўляеш? – блешню для спінінга зрабіў!). І вось прыехаў ён на рыбалку кудысьці ў Архангельскую вобласць, вылез з цягніка на Богам забытай станцыі Чупа. І першае, што ўбачыў, – вершаваны надпіс вялікімі літарамі на плоце: «Чупа – сталіца белай ночы!». Прозай на плоце, як сам разумееш, не вельмі распішашся... Што да згаданых табою імёнаў Ларысы Геніюш і Рыгора Барадуліна, то іх вершы ўжо прараслі ў беларускую вечнасць, і любыя рэйтынгі ім наўрад ці нешта могуць дадаць. Геніюш і Барадулін на першых пазіцыях – сведчанне, хіба, добрага літаратурнага густу слухачоў радыё «Свабода».

***– Калі я апошні раз быў у Нясвіжы і наведаў родную школу, то пачуў ад настаўнікаў, што змены, якія ўвяло Міністэрства адукацыі ў навучальныя праграмы па літаратуры, прывялі да таго, што вучні зусім не ведаюць не толькі твораў, але нават імёнаў пісьменнікаў. У 2007 годзе ў СМІ быў надрукаваны цыркуляр з міністэрства: «Исключить из списков литературы для изучения и внеклассного чтения произведения С. Алексиевич, С.Законникова,***

***О. Ипатовой, В. Орлова, М. Скоблы , В. Чаропки и иных опозиционно настроенных писателей средней руки». Ці падабаецца табе быць пісьменнікам «средней руки»?***

– Добры сатырык мог бы напісаць неблагую камедыю пра тое, як наша Міністэрства адукацыі шматкроць пертрасала школьныя праграмы па літаратуры. Пра тое, як празаік М. абіваў міністэрскія парогі да той пары, пакуль казкі ягоныя не трапілі ў тыя праграмы. Пра тое, як на месца выкінутых з праграмаў пісьменнікаў паэтка П. (на той час – супрацоўніца міністэрства) упісала... сябе, а заадно і... сваю сястру. Пра тое, як чыноўнікі палічылі нацыяналістычнай трагікамедыю Янкі Купалы «Тутэйшыя» і ў сёмы (!) раз за семдзесят гадоў забаранілі гэты выдатны твор, у якім, як у люстэрку, няйначай пабачылі сябе. Разумееш, калі ў краіну вярнулася сярэднявечча, то і ў школу яно рана ці позна прыйдзе. Вось і прыйшло. Да таго ж, сёння на беларускую літаратуру ў старэйшых класах адводзіцца 1 гадзіна ў тыдзень (для параўнання, на ангельскую мову – 3 гадзіны). Вось і мудруй, настаўнік, як тут паспець пасеяць у юных душах разумнае, добрае і вечнае. Што да звання «пісьменнік сярэдняй рукі»... Я тут нядаўна ў часопісе «Нёман» і не такое пра сябе прачытаў. Актывіст прыўладнага Саюза пісьменнікаў Георгій Марчук на поўным сур'ёзе сцвярджае, што я «сею сталинско-троцкисцкий фашизм 30-х годов»... Шкада, што Марчук спазніўся нарадзіцца на белы свет, у згаданыя ім гады з яго мог бы атрымацца яшчэ адзін Бэндэ. Удвух яны змалацілі б удвая большы ўраджай... Што ж, на чужыя вусты не накінеш хусты. Хай паклёпнічаюць. Судзіцца з Марчуком ды яму падобнымі мне не з рукі (ні з левай, ні з правай, ні з «сярэдняй»). Восы пляйстры лепяць, ды мёду не носяць.

***– Раней паэзія часта гучала са сцэны, прычым, не толькі ў выкананні аўтараў, але і актораў-чытальнікаў. У Расіі, напрыклад, вялікую ролю ў папулярызацыі паэзіі выканалі і выконваюць акторы Сяргей Юрскі, Валянцін Гафт, Міхаіл Казакоў, Веніямін Смехаў, Ала Дзямідава. Чаму беларускія акторы гэтага не робяць?***

– Чаму не робяць? Ты, відаць, ніколі не чуў вершаў у выкананні шаноўнай Марыі Захарэвіч («Чытае вершы Захарэвіч – нібы сыходзіць на зямлю...» – пісаў Рыгор Барадулін). Бліскуча чытае паэзію Янкі Купалы Віктар Манаеў. Сучасных паэтаў на нячастых цяпер літаратурных вечарынах па-майстэрску агучвае Алег Вінярскі. Шкада, што свой чытацкі талент ім няма дзе асабліва паказваць. На БТ літаратурныя перадачы даўным-даўно скасаваныя, у забраным Доме літаратара невядома што адбываецца, на тэатральнай сцэне паэтычныя спектаклі ў нас таксама амаль не ідуць (выключэнне тут – Галіна Дзягілева ды яе тэатр «Зніч»). Артысты чытаюць выдатна. І ўсё ж мне больш падабаецца аўтарскае чытанне – напорыстасць і экспрэсія Уладзіміра Някляева, артыстызм і ўмельства зацікавіць публіку Леаніда Дранько-Майсюка, паэтычнае шаманства Віталя Рыжкова, Валерыі Куставай ці Віктара Жыбуля...

***– На маю думку, у Беларусі штогод выдаецца нямала высокамастацкіх твораў, якія, на жаль, не трапляюць да свайго чытача. Слабым месцам беларускай кнігавыдавецкай дзейнасці з'яўляецца маркетынг. Што, на тваю думку, трэба зрабіць у гэтым напрамку?***

– Слабым месцам беларускай кнігавыдавецкай дзейнасці, на маю думку, з'яўляецца не маркетынг, а адсутнасць у гэтай галіне нацыянальна арыентаванай дзяржаўнай палітыкі. Калі яе па-ранейшаму не будзе, не дапамогуць аніякія маркетынгавыя прыдумкі – ні ўсё больш вядомы ў нашай краіне бук-кросінг, ні музычныя дадаткі да кнігаў у выглядзе альбомаў папулярных выканаўцаў, ні нават Уладзімір Арлоў за прылаўкам кнігарні «Логвінаў».

***– Што ты катэгарычна не прымаеш у літаратуры?***

– У літаратуры трэба старацца ўсё ўспрымаць, а што не прымаць – табе твая

прырода падкажа. Напрыклад, мне ніколі не хацелася быць ваяўнічым у адносінах да сваіх калегаў. Ну, пісаў у свой час пародыі – дык яны проста спевы анёльскія ў параўнанні з сённяшнімі інтэрнэт-форумамі. Мне ніколі не падабалася і не падабаецца, як сёй-той з літаратараў (незалежна ад узросту) спрабуе самасцвердзіцца на прыніжэнні другога. Вобразна кажучы, з камянёў з-за пазухі спрабуе змураваць для сябе п’едэстал. Ці разбураць п’едэстал пад кімсьці і нацягаць з тае крушні камянёў пад сябе. Вось гэтага я не прымаю катэгарычна. Свет літаратуры – бязмежны, усім месца хопіць. Стварай, самасцвярджайся праз створанае, а не праз разбуранае. Максім Багдановіч нікога не зневажаў, ні ў кога не адваёўваў сабе месца пад сонцам. І Уладзімір Дубоўка таксама не ішоў ні з кім у рожкі, хоць пяро меў вострае і баявітае. І Уладзімір Караткевіч не драпежыў ні сучаснікаў, ні папярэднікаў. Усім нам, і літаратарам, і не літаратарам, трэба памятаць дзве рэчы. Па-першае, з усіх на свеце войнаў самая страшная і бессэнсоўная – грамадзянская вайна. І па-другое, самыя надзейныя пантэоны ўзводзіць Час. Ён жа тыя пантэоны і засяляе.

Вінцэсь Мудроў



...жыццё ў ягоных вачах выглядала
і, відаць, выглядае дагэтуль,
як штосьці недарэчна-смешнае...

# Дзень рыбака

***З нагоды юбілею Алега МІНКІНА***

*“Мінкіну – 60! Гэта неверагодна, у гэта не верыцца, бо ў маім уяўленні ён і дагэтуль застаецца маладым і няўрымслівым творцам”, – такімі словамі пачаў я юбілейны артыкул пра сябра і тут жа спалохана націснуў на delete. “Мы ведаем Алега Гаўрылавіча як сур’ёзнага паэта-наватара, які мае свой адметны погляд на свет і які вось ужо трыццаць з лішкам гадоў працуе на ніве беларускай паэзіі”, – наступны сказ, што ўзнік на маніторы, зазнаў лёс першага. Падумаўшы, вырашыў пачаць з другога канца: “Сёння паэт Алег Мінкін у новых літаратурных клопатах, у новых пошуках і адкрыццях...” – і пашкадаваў, што гэта нашкрэбана не на паперы. А так бы з асалодай скамечыў аркуш і закінуў у дальні кут. Якія такія літаратурныя клопаты могуць быць у чалавека, які, ратуючыся ад безграшоўя, ужо трэці год працуе на падмаскоўных новабудоўлях? Не, стандартна-заезджанымі словамі пра юбіляра не напішаш. Лепш пачаць так: “Напачатку было прозвішча: Мінкін”. Паведаміў яго Уладзь Арлоў (“Паэт з’явіўся ў Наваполацку. Піша, праўда,*


Алег МІНКІН.

*па-расейску"), яно лагодзіла слых, і лёгка, часам без дай прычыны, зрывалася з языка. А ўсё таму, што склады, якія яго ўтваралі, былі асанансна і алітэратыўна збалансаваныя. Неўзабаве мы сустрэліся, і паэт уразіў сваёй знешнасцю. Густыя чорныя бровы прыкметна кантраставалі са светлай, колеру цмянага мосенжу, чупрынай; карыя вочы глядзелі дапытліва і разняволена, на вуснах блукала ўсмешка і стваралася ўражанне, што паэт хоча нешта сказаць, ды ніяк не можа знайсці патрэбных словаў.*

*Між тым Мінкіну, як творцу, было што сказаць людзям і ўпершыню ён звярнуўся да іх у 1982 годзе. Гурт берасцейскіх літаратараў завітаў тады ў Жабінку (Мінкін называў гэтае мястэчка Квакенбургам), каб выступіць перад работнікамі мясцовай цукраварні. Метадыст дома культуры, дзе адбывалася імпрэза, запісала на цыдулцы прозвішчы літаратараў, потым цыдулку згубіла і перад чарговым выступам стоена гукнула за кулісы: "Кто следующий?!" "Алег Мінкін!" – выдыхнулі некалькі глотак, але метадыст ізноў страсянула кудзеркамі: "Как-как? Олег?... "Алег Мінкін!" Кабета выйшла на сцэну, закінула рукі за спіну, голасна абвясціла: "Выступает поэт Олег Алехминкин!"*

*У душах людскіх гнездзіцца шмат розных крыўдаў ды згрызотаў. Многія крыўды нараджаюцца, можна сказаць, з нічога. Ну, перакруцілі ненаўмысна тваё прозвішча... пасміхніся ды забудзь. Але ж убіваецца ў душу крыўда ды пячэ гастрытнай пякоткай. А вось Мінкін на такія праявы ніколі не рэагаваў. Больш за тое, распавядаючы гэтую гісторыю, задаволена пасміхаўся: жыццё ў ягоных вачах выглядала і, відаць, выглядае дагэтуль, як штосьці недарэчна-смешнае.*

*Вось я і падумаў: а мо замест юбілейнага артыкула (пагатоў, гэта дзялянка занятая Лёнем Галубовічам) згадаць адзін з фрагментаў нашага прамінулага жыцця, у якім так добра было спрачацца, летуценіць, куляць чарку і смяяцца з саміх сябе. "І хай гэты "фрагмент" таксама будзе недарэчным і крыху смешным".*

На пачатку васьмідзясятых Мінкін запрасіў мяне ў сваю вытворча-дыягнастычную групу. Група тая абслугоўвала дзейныя нафтаправоды: з дапамогаю прыбораў знаходзіла адцінкі трубы, якія вымагалі тэрміновага рамонту. Давялося паблукаць па нафтаправодных трасах, узбіваючыся на рудых гадзюк, расахатых ласёў, імпэтных казуляў, шэрых зайцоў, мацёрых ваўкоў... карціць згадаць таксама мядзведзяў, але ўстрымаюся. Скажу толькі, што нехта, падобны да мядзведзя, кратаўся аднойчы ў кустах. Было гэта на поўначы Цвярской вобласці. Апошняе сцверджанне відавочна выкліча ўсмешку, а, магчыма, і здзеклівыя меркаванні наконт таго – хто ж насамрэч кратаўся ў хмызах. Але нам тады было не да смеху. Навокал першародны лес, вочы засціць вечаровая смуга, а ты цягнеш дрот ды наструнена глядзіш пад ногі, на адбіткі мядзведжых слядоў, пакінутых на вільготнай гліне.

Зрэшты, даводзілася працаваць і ў цывілізаваных мясцінах. Аднаго разу

цэлы месяц завіхаліся ў ваколіцах латышскага Вентспілсу. Глеба там пяшчаная ды балоцістая; ізаляцыя нафтаправоду, які лучыў мой родны Полацак ды Вентспілскі порт, шмат дзе папсавалася, і давялося “празвоньваць” ледзь не кожны метр трубы.

У групе было чатыры чалавекі. Апроч нас з Мінкіным быў яшчэ Шура – паэт, які пісаў вершы па-расейску, ды кіроўца Васіль: гойсалі мы па свеце на старым “ЗіЛе”. На машыне была ўсталяваная буда з розным электравымяральным начыннем, у ёй мы і жылі падчас бясконцых камандзіровак.

Вентспілс – места партовае, а таму ці не самым шанаваным святам у тых мясцінах быў Дзень рыбака. Гэтым днём (была другая нядзеля ліпеня) мы шчыра завіхаліся на трасе, а вечарам прыехалі ў гарадскі лесапарк – на тое месца, дзе начавалі два апошнія тыдні. Не паспелі раскласці вогнішча, як на суседнюю паляну, падаўшы сіплы сігнал, выехала набітая пасажырамі “Кубань”, і з яе нутра пачалі выкульвацца мужчыны з неабдымнымі кайстрамі ды кабеты ў паркалёвых сукенках. З бязладным лямантам яны разаслалі на траве некалькі цыратавых абрусаў, выставілі пляшкі гарэлкі, паклалі закусь і, не паспеўшы кульнуць па-першай, кабеты, з прыкметным латышскім акцэнтам, зацягнулі песню з рэпертуару Ганны Герман: “Один раз в го-од сады цвету-ут”. Пяюхі ўжо былі ладна падпітыя.

– Каманда нейкая... Дзень рыбака адзначае. Вунь і капітан іхні... у форме, – паведаміў Васіль, праціраючы ветравое шкло машыны.

– І баб з сабой прыхапілі, – падаў голас Шура, які памешваў лыжкай у сагане.

– Ты, Шура, не на баб глядзі, а шумавінне здымай, – перабіў яго кіроўца. – А то ўвесь час ядзім кашу з камарамі ды мухамі.

Васіль з Шурам увесь час лаяліся, і мірыліся звычайна ў апошні дзень камандзіроўкі, калі, перад ад’ездам дахаты, мы бралі па пляшцы на брата і да самага ранку рэзаліся ў “храпа”.

Каша тым часам зварылася, кожны наклаў сабе поўную місу, і ў гэты момант да нас падышоў марыман. Папрасіў прыпаліць ад вогнішча цыгарэту, прысеў на траву, і мы даведаліся, што гэта гуляе каманда сухагруза “Камсамолец Эстоніі”. Даведаліся таксама, што неўзабаве “Камсамолец” ідзе ў Гданьск, і што капітан сухагруза беларус з паходжання. Пасля такіх словаў Мінкін ляпнуў госця па спіне і выправіўся знаёміцца з камандай зямелі.

Мы елі свой панцак, наструніўшы вуха. Гармідар на паляне мацнеў. Аднаго разу скрозь вісклівы жаночы лямант я пачуў сяброкоў голас – Алег, праўдападобна, прамаўляў нейкі тост, – а потым усё аціхла.

– Схадзі, зірні, ці не пабілі там нашага сябра, – прамармытаў Васіль, залазячы ў буду.

...Марыманы на паляне гулялі па поўнай праграме: усе скрозь былі ўпітыя. А суціхлі на момант таму, што прыспелі шашлыкі: з набітым ротам не надта пагарлаеш.

Сябрука ля бяседнай цыраты не было. Ён, ужо няпэўным крокам, хадзіў вакол бяседнікаў, а за ім, сціснуўшы пудовыя кулакі, сунуўся голы па пояс бамбіза. Усё цела бамбізава было размаляванае татуіроўкамі. “Я т-табе, бл..., дам незалежнасць!” – сіпеў марскі воўк, і ў мяне ад такіх словаў узмакрэла кашуля. Сябар, відаць, прапанаваў выпіць за незалежнасць Беларусі, і гэта татуіраванаму ваўку не спадабалася. На шчасце, бамбіза наляцеў на купіну, паваліўся, паспрабаваў быў устаць, ды заціх, прамармытаўшы штосьці дарэшты невыразнае.

– Боцман іхні, – патлумачыў Мінкін, працягнуў ражон з трыма кавалкамі непрапечанага мяса, і я рушыў да сваіх.

Ноч была душная, даймала камарэча, і мы доўга круціліся ў сваіх спальных мяхах.

– Ведаеце, учора... у горадзе... адна дзяўчына так на мяне паглядзела! – летуценна прамовіў Шура і ўздыхнуў. – Калега быў нежанаты і надта з таго пакутваў.

– Паглядзела... – здушана адгукнуўся з мяха Васіль, – падумала: што за пустадомак ходзіць.

Кіроўца з Шурам доўга перабрэхваліся, потым суціхлі і разам, з лёгкім прысвістам, засаплі. Я ж ляжаў, закінуўшы рукі за галаў, і слухаў песні п'янай сябрыны. Спачатку спявалі адныя жанчыны, потым да іх далучыліся марыманы. Блізу ночы ўсхадзіўся вецер, галасы аддаліліся, і я заснуў пад шум вячыстых хвояў.

Абудзіў мяне стоены голас Мінкіна:

– Вась, чуеш?! Трэба людзей да горада падкінуць. Іхні аўтобус мянты тармазнулі.

– А як нас тармазнуць? – азваўся Васіль.

У гэты момант непадалёку загарлалі, у адчыненыя дзверы паляцелі сумкі ды кайстры, і ў буду, да самых трусоў задзершы сукенку, улезна смяротна п'яная кабета. Каб лепей яе разгледзець, я насунуў на вочы акуляры, але тут жа з галавой нырцануў у спальнік: следам за ёю ў лабараторыю пíхалі сонна-размяклага боцмана.

Штосьці мяккае і важкае прыціснула грудзіну. Давялося тузануцца.

– Ай, хто тут? – выдыхнула кабета і зноўку плюхнулася, цяпер ужо на маё чэрава.

Агулам на мяне ўселіся чатыры чалавекі. Я ашчадна дыхаў і толькі прыкрываў даланёй акуляры: баяўся, каб хтосьці не сеў на галаў і не расціснуў шкельцы.

– "Тот, кто рождён был у м-моря, тот полюбил навсегда-а, узкую юбку с разрезом, в чёрном капроне нога-а!" – загарлалі ўсе разам, машына завялася, пайшла на разварот і, намёртва прыціснуты чатырма азадкамі, я ледзь не выпусціў духі.

Наступным ранкам прачнуўся позна: на гадзінніку была палова дзясятай. Пашнарыў рукой у тым месцы, дзе стаяў мой саквояж, зазірнуў ва ўсе куты і ўтрапёна пачухаў патыліцу.

– Ці бачыў хто маю сумку? – голас мой здрыгануўся.

Васіль і Шура, якія яшчэ ляжалі ў спальніках, зварухнуліся, зыркнулі на падлогу, а ўгледзеўшы свае кайстры, перавялі дых.

Васіль адчайдушна пазяхнуў:

– Марыманы выгружаліся, разам са сваім майном і тваю сумку прыхапілі.

– Алег апошні вылазіў, з саквояжам у руках, – падаў голас Шура.

– Дык што ж ты яго не спыніў?! – абурыўся я, падцягнуўшы трусы: гумка была расцягнутая.

– Адкуль я ведаў, што гэта твой!

Знадворку ўздыхнулі і бразнулі чайнікам.

Я адчыніў дзверы. Паэт Алег Мінкін, відаць, толькі што вярнуўся з пагулянкі і цяпер распальваў цяпелец пад чайнікам.

– Куды ты маю сумку знёс?

Сябар у адказ нават не павярнуў галавы.

– Чуеш?!

– Чую, Вінцік, чую...

– Да дому 550 кіламетраў, а я ў адных трусах! У сумцы і штаны, і кашуля...

– Дам я табе, Вінцік, кашулю.

– І пашпарт з грашыма...

– Такой бяды, – сябар падліў са слоіка вады ў чайнік, – выпішуць табе, Вінцік, новы пашпарт.

– І ключы ад хаты...

– Зробіш дублікат.

– Які дублікат... Я ўвогуле ў хату не ўлезу: жонка з сынам у Смаргонь, да бацькоў паехала.

– Такой бяды-ы, – прамовіў сябрук, расцягваючы зыкі, – патэлефануеш у Смаргонь, скажаш, каб дахаты ехала.

Я заклапочана ўскудлаціў галаву.

– Паспрабуем пашукаць, – крэкнуў за спінай Васіль. – Сёрбнем гарбаты і пад'едзем да піўніцы – той, што ля порта. Хтосьці з учарашняй кампаніі там мусіць пахмяляцца.

Праз гадзіну "ЗіЛ" загамаваў насупраць расчыненых дзвярэй піўбара. Усе трое рушылі ў бар, а я застаўся ў кабіне: хадзіць па горадзе ў адных трусах не выпадала.

"Толькі б не адшвартаваліся", – думаў я тою хвілінай.

Калегі выйшлі з піўніцы хвілін праз дваццаць. І не адны, а з бамбізам-боцманам.

– Штосьці ты мне ўчора не спадабаўся, – казаў боцман Мінкіну, – а вось чаму не спадабаўся – ужо не памятаю.

Паэт штосьці буркнуў у адказ, але няўцямна, бо выціраў з вуснаў рэшткі піўной пены.

– Карацей, ганіце ў порт і выклікайце старпама Назарава. Там на прахадной тэлефон вісіць...

Старпам Назараў з'явіўся на прахадной даволі хутка. Гэта быў той самы чалавек, які прыпальваў ля вогнішча цыгарэту, і якога мы надоечы прынялі за шараговага марымана. Парукаўшыся з Мінкіным, Назараў нешта спытаў, сябрук кіўнуў у мой бок, і яны рушылі да машыны.

– Давай спачатку да Мары, – загадаў старпам, па-ленінску рашуча выкінуўшы руку.

– А што, хлопец гэты, камандзір ваш, паэт, ці як? – запытаўся спадарожнік, калі мы ад'ехалі ад порта. – Учора чытаў капітану нейкія вершы, ды я нічога не зразумеў.

Мы з Васілём кіўнулі галовамі, і на гэтым размова скончылася.

Мара жыла ў трохпад'ездным хрушчоўскім пяціпавярховіку. Старпам зайшоў у сярэдні пад'езд, але тут жа і выйшаў, прычым, страшэнна незадаволены. Следам за ім паспяшаў нейкі барадач у цяльняшцы. Тыцнуўшы пальцам у бок партовых кранаў, што вытыркаліся з-за дахаў, старпам праўдападобна мацюкнуўся, і барадач, збіўшы пух з барады, вінавата шморгнуў носам.

– Пагрузку зрываем, а ім ні ў вуху вада, – сеўшы поруч, Назараў прыпаліў цыгарэту і, выдыхаючы дым, прагугнеў: – Едзем да Мірдзы.

У Мірдзы сумкі таксама не было. Назараў быў зажурыўся, а потым, згадаўшы пра штосьці, ляпнуў сябе па лобе!

– Йоп... я ж учора нейкую сумку нёс! Разварочваемся і гонім да вентылятарнага заводу!

– Не-ээ... пара канчаць з гэтым бл...вам, – бубнеў старпам Назараў, калі мы праміналі карпусы вентылятарнага заводу. – Гадун ужо змучыўся іх лячыць... – Гадун, мяркуючы па ўсім, быў карабельным лекарам.

У двухпавярховіку часоў Ульманіса праваднік наш надоўга затрымаўся.

Мінкін з Шурам, якія ехалі ў будзе, нават вылезлі вонкі, і Шура, агледзеўшы вокны, зычна свіснуў.

Нарэшце старпам выкуліўся з пад'езда, трымаючы ў руках мой скасабочана-спляжаны саквояж.

– Твой?

– Мой! – вырвалася з грудзіны.

– Спраўдзі, ці ўсё на месцы.

Усё было на месцы: ключы, пашпарт, два чырвонцы з капейкамі, пакамечаныя джынсы з кашуляй.

Па дарозе да порта старпам задаволена пасміхаўся, казаў, што тут, у Вентспілсе, самыя лепшыя бабы, пару разоў выціраў вусны, паглядаючы пры гэтым на насоўку, і на развітанне дыхнуў на мяне густым гарэлачным духам.

– Ну вось, Вінцік, а ты хваляваўся, – прамовіў Алег Мінкін, калі мы, перакусіўшы ў прыпартовай ядальні, ехалі на трасу. – Дыхай глыбей і радуйся жыццю. А то ж яно кароткае.

– Хто кароткае? – не зразумеў я.

– Жыццё, Вінцік, жыццё...

*P.S. Мінкіну-60! Але што такое шэсцьдзесят гадоў? Гэта толькі нагода азірнуцца назад, ці, узбіўшыся на рыштаванні небасягу, што паўстае ў падмаскоўным Адзінцове, зірнуць у той бок, "дзе ляжаць загоны Беларусі" – у рашучым памкненні вярнуцца ў родную хату і ў родную літаратуру.*

---

"Дзеяслоўцы" далучаюцца да віншаванняў на адрас **Алега Мінкіна**
і зычаць, акрамя традыцыйных у падобных выпадках слоў,
шаноўнаму юбіляру прыслухацца да мудрае
просьбы-парады Вінцэся Мудрова!..

мастацтва

Кацярына Безмацерных



...у Беларусі ўвогуле цяжка зразумець, якія рэчы якую рэакцыю могуць выклікаць...

# «Простая і няпростая радасць быць актуальнымі мастакамі...»

***Гутарка з мастакамі Антанінай СЛАБОДЧЫКАВАЙ і Міхаілам ГУЛІНЫМ***

***Мастакі Тоня Слабодчыкава і яе муж Міша Гулін прыгожа, з выклікам і смехам "танчаць" адно з адным у гутарцы. Слухаць іх не гадзіну, не дзве, а можа, і ўсе тры было захапляльна, весела і нейк... глыбока! Інтэрв'ю стала гэткім уражвальным, што параўнаць яго хочацца з падарожжам аўтастопам у іншую краіну. Іх стылёвая, гарэзлівая маладосць натхняе!***

### "Але хто здзіўляў, дык гэта Тоня!"

*Антаніна Слабодчыкава нарадзілася ў 1979 годзе ў Мінску ў сям'і выдатнага беларускага скульптара Уладзіміра Слабодчыкава, Міхаіл Гулін – у 1977 годзе у Гомелі, бацькі працавалі на заводзе.*

*– Тоня, Міша, узгадайце, як пазнаёміліся.*

***Тоня:*** Нам гэта нават не трэба ўзгадваць! – *звонка смяецца Тоня.* – Разам у адной групе вучыліся шэсць гадоў, у Акадэміі на манументальным мастацтве. А калі людзі доўга разам вучацца, гэта пагражае наступствамі. Дзяўчат у нас мала было, усе свае, праверaныя.

***Міша:*** Яна пяць гадоў ламалася!

***Тоня.:*** Міхаіл быў у мяне закаханы адразу.

***Міша:*** Ды што ты!

***Т.:*** Ён проста палохаў мяне сваім знешным выглядам. Я ж дзяўчына з інтэлігентнай сям'і, з вучылішча, рок-н-рол там. А тут нейкі лысы хлопец з Гомеля. Нахабнік! Я думала: "Божа мой!". А аказалася – нармалёвы.

***М.:*** Не ў крыўду астатнім аднакурснікам будзе сказана, але яны, у адрозненне ад Тоні, даволі традыцыйна, хоць і таленавіта, вырашалі творчыя задачы. Я заўжды ставіў звышмэты перад сабой і заўжды не паспяваў. Прагляды ў мяне былі катастрафічныя, з бяссоннымі начамі. Бо я хадзіў і ўвесь семестр думаў, як бы здзівіць. Цяпер, канечне, разумееш, што нікога здзіўляць не трэба было, трэба было спакойна вучыцца, спакойна спаць... Але хто здзіўляў, дык гэта Тоня. А мне толькі хацелася здзівіць.

***Т.:*** Выбіраць асабліва не было з каго. Дзве дзяўчыны – і яны выйшлі замуж за сваіх аднагрупнікаў. Цяпер я разумею, як гэта здорава, калі жывеш з чалавекам, якога так добра ведаеш. Можна сказаць: "Мішка, а памятаеш у васемнаццаць..."

*– А ці патрэбная актуальным мастакам акадэмічная адукацыя? Сядзіш цэлы дзень на вучобе, у адрозненне ад студэнтаў іншых ВНУ...*

***Т.:*** У Акадэміі цяжка вучыцца. Але мы цяпер валодаем манументальнымі тэхнікамі і можам хаця б сабе грошы зарабіць. Я колькі вучылася, столькі і хацела Акадэмію кінуць. Бо жадаеш нечага асаблівага, а табе трэба рабіць нейкія рукі і ногі. Я ўспрымаю факт нашай вучобы, як такую добрую дрэсіроўку.

***М.:*** Я ішоў у Акадэмію свядома. Ведаў, што пасля вучылішча ідзе Акадэмія, пасля Акадэміі – Саюз мастакоў. Усе этапы трэба прайсці, каб у соцыуме наладзіць стасункі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, задачай маёй было не кінуць Акадэмію, а наадварот, яе скончыць. Я ведаю, што многія такіх людзей, якіх выганяюць, успрымаюць, як легенды. "За п'янку выгналі? Ды якая ж гэта была п'янка! А які ж гэта быў мастак, што яго выгналі!" Быў такі прэцэдэнт, што мяне маглі адлічыць, але я зрабіў усё магчымае, каб таго пазбегнуць. Нават калі гэта магло адыграць станоўчую ролю ў маёй рэпутацыі.

## У мастакі?!. Дык на заводзе ж надзейней!

*– Антаніна, у Вас цудоўны бацька – славуты беларускі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў. Як складваліся адносіны з мастацтвам?*

***Т.:*** Я не хацела ў дзяцінстве быць мастаком. Займалася музыкай. Дзяцінства было класічнае, як ва ўсіх. Толькі былі ў пакоі кніжкі пра мастацтва. Для таго, каб паглядзець голых, мы з братам бралі Энгра, а Босха баяліся. Вядома, тата браў мяне ў майстэрню, і мне гэта вельмі падабалася. У пачатку дзявятага класа мне надакучыла музыка. І я выпадкова даведалася, што ў Мінску ёсць мастацкая вучэльня. Прыходжу да таты і кажу: "Тата, я даведалася, што ў нас, аказваецца, ёсць мастацкая вучэльня! І туды можна паступіць." Тата ўладкаваў мяне ў студыю. Я пачала займацца. Аказалася, што ёсць такі панятак, як творчасць. Мы глядзелі з мамай па кніжках, як будуецца кампазіцыя. У выніку я паступала ў вучэльню, каб быць мастаком-мадэльерам. Увогуле, Глебаўка – гэта асобная тэма для размовы, маё ўсё, маё каханне! У мяне там была цудоўная сяброўка...

***М.:*** Ну, добра, завязвай! Хопіць ужо распавядаць... Мая чарга!



*Антаніна і Міхаіл з дачкою Марусяй.*

***Т.:*** Вось мая сяброўка скончыла мастацкую школу і ўжо займалася графікай, нешта такое малявала. Я была проста ў шоку! Вельмі спрыяў асяродак, канечне. Глебаўка – гэта цудоўна! А як літаратура там выкладалася! Калі, правучыўшыся год у вучэльні, я прыйшла да сваіх сяброўак у школу, то зразумела, што мне з імі няма пра што размаўляць. Мы ўжо шмат кніжак прачыталі, слухалі пэўную музыку. Палілі, урэшце рэшт. Адразу такая бездань паміж табой і звычайнымі людзьмі.

***М.:*** Што гэта значыць – бездань?!! Я вось, напрыклад, ад народа не адрываўся!! Чалавек з народа – гэта я!

***Т.:*** Проста для мяне школа была негатыўным уздзеяннем на асобу. У Глебаўцы я адчула сябе чалавекам, які можа нешта зрабіць. Для мяне школа – была проста пакутай. Я не вельмі добра вучылася. А ў вучэльні атрымала чырвоны дыплом.

***М.:*** Вось! Вось, вось! Які нізкі ўзровень адукацыі ў вучэльні, што там любы чалавек можа атрымаць чырвоны дыплом! – *Міхаіл смяецца.*

***Т.:*** Праблема, з якой я сутыкнулася і ў вучэльні, і ў Акадэміі, – гэта тое, што да мяне ставіліся перадузята, бо я ж *дачка*! І трэба даказваць, што ты і сам нешта можаш.

***М.:*** Не ўва ўсіх так. Некаторыя проста вучацца і нічога не даказваюць! Эй, хопіць! Давай ужо я што-небудзь раскажу!

*– Давайце! Міша, а як ваша станаўленне адбывалася?*

***М.:*** У трынаццаць гадоў мне мама набыла часопіс “Юны мастак”, там пабачыў

карціны Паўла Філонава. Я іх штудзіраваў, імкнуўся рабіць нешта сваё на іх аснове. І пачынаў разумець, што мне ніколі не будзе падабацца маляваць тое, што ёсць. Паступіў у школу мастацтваў у Гомелі. Нармалёва вучыўся, але выпускныя іспыты адразу не здаў, таму ў вучэльню мастацкую з першага разу не паступіў. Прамяняў выпускныя іспыты на чэмпіянат па футболе. Прыдумаў нейкую гісторыю са страсеннем мазгоў. У гомельскую мастацкую вучэльню паступіў толькі з другога разу. Праўда, адгаворвалі ад вучэльні бацькі. Мама, усе мае сваякі на заводзе працавалі. Там надзейна, усё добра, нармалёвая зарплата. У пятнаццаць я там таксама працаваў вучнем слесара-рамонтніка. Завод быў катаргай! Я ж такі гуманітарый. У Акадэмію, пасля вучэльні, з першага разу таксама не паступіў, паспеў у вясковай школе папрацаваць. Але невыказна шчаслівы, што менавіта так сталася. Бо я тады б з Тоняй не вучыўся. У нас у групе была такая атмасфера недаверу ў добрым сэнсе, канкурэнцыі.

## Актуальнае мастацтва як гарачыя піражкі

*– Жыццё паказвае, што, скончыўшы Акадэмію, далёка не ўсе становяцца мастакамі.*

***Т.:*** Так. Усе хоць і былі патэнцыйна мастакамі, з нашага курса па пальцах можна пералічыць, хто займаецца творчасцю. А з нашай групы тры чалавекі з шасці працуюць па спецыяльнасці.

***М.:*** Мы раней сумавалі: быў у нас аднакурснік, вельмі таленавіты хлопец. Заўжды з кім бы не сустракаліся з Акадэміі, пачыналася абмеркаванне яго лёсу. Як так, гэтакі таленавіты, а працаваў усяго ў манастыры, раствор там мясіў! Потым у Гродна з'ехаў. Зараз жа разумееш, што вялікай бяды тут няма.

*– Актуальнае мастацтва падабаецца далёка не ўсім!..*

***Т.:*** Вельмі нават не ўсім!

***М.:*** У Беларусі ўвогуле цяжка зразумець, якія рэчы якую рэакцыю могуць выклікаць. Для актуальнага мастака важны не столькі пазітыў, колькі атрымліваць нейкую рэакцыю ўвогуле. Нашае мастацтва, як гарачыя піражкі. Калі яно трапляе дакладна па прызначэнні, тады яно і працуе, а калі праходзяць гады, яно ўжо страчвае сваю актуальнасць, перш за ўсё для нас, як мастакоў.

***Т.:*** Дзякуючы галерэі "Ў", мы яшчэ можам выставіцца, а на рэспубліканскія выставы ўжо і не носім.

***М.:*** Нейк была звычайная моладзевая рэспубліканская выстава. Тоня прынесла працу, якая называлася "Гербарый смерці". Ёй адмовілі, сказаўшы, што працы на моладзевай выставе мусяць быць пазітыўнымі! Мы былі ў шоку!.. Не разумець, што мастак мае права закранаць любую тэму! Тэма смерці – гэта нумар адзін для сучаснага мастацтва. Праходзіць два гады, новая моладзевая выстава. Я кажу Тоні: "Занясі тую карціну, толькі назаві "Валасы надзеі". І працу ўзялі! У 2005 годзе мы выстаўляліся ўдвух у Музеі сучаснага мастацтва. "Сябры, мы вас хоць кожны год чакаем!" – сказалі. І з тых часоў я кожны год падаю заяву і кожны год атрымліваю адмову! Падаю заяву не на малую залу, а на вялікую. А ў вялікай зале – вялікія мастакі! Але малая зала нам ужо аніяк не падыходзіць, хочацца сябе ў вялікай прасторы паглядзець.

***Т.:*** Хаця ў цэлым мы не ў дрэнным становішчы. Жывем і займаемся тым, чым хочам. Іншая справа, што яшчэ жадаем, каб людзям падабалася тое, што мы робім. Далей галерэі "Ў" пакуль няма выхаду, таму і ёсць у гэтым песімізм.

***М.:*** Але гэта мастацтва падымае настрой. Калі б я хадзіў з эцюднікам, то гамон быў бы і мозгу, і сэрцу. Можа, прадавацца і было б лягчэй, але мы не прадаемся. Беларусы не прадаюцца!

*– А якім чынам грошы зарабляеце?*

***Т.:*** Займаемся выкладчыцкай дзейнасцю. Я выкладаю ў педуніверсітэце імя Максіма Танка малюнак і жывапіс.

***М.:*** А я ў БНТУ, на падрыхтоўчых курсах.

***Т.:*** Мы смяемся з гэтага, не хочам быць выкладчыкамі.

***М.:*** Уласна кажучы, з выкладання мы і не жывем. Гэта так, падтрымка штаноў і сабаку пакарміць. Манументальным жывапісам па замове займаемся. Прыемней за ўсё з дзіцячымі пакоямі працаваць. Пантоў меней і ты сапраўды выклікаеш радасць, адчуваеш аддачу. Як правіла, усе гэтыя роспісы не дзіцячыя і сур'ёзныя сканчваюцца тым, што табе нават дзякуй ніхто не скажа.

## "Ніколі ў жыцці не збіралася выходзіць замуж"

*– Вы яшчэ і маладыя бацькі. А якімі педагагічнымі прынцыпамі карыстаецеся ў выхаванні Марусі?*

***Т.:*** Я, калі шчыра, увогуле не хачу ніякімі прынцыпамі карыстацца. У мяне ў сям'і выхаванне было вельмі сур'ёзнае. Я была першым дзіцём, мама – выкладчыца. Я лічу, што мяне жорстка выхоўвалі. А брата ўжо не так. І брат зусім іншы чалавек, ён абсалютна нічога не баіцца. Ён вельмі спакойна да ўсяго ставіцца, у адрозненне ад мяне. Я лічу, што трэба нейкім чынам максімальна ўпэўненасць у сабе ўсяліць. Калі чалавек будзе нават "белай варонай", каб ён нармалёва ўспрымаў сам сябе і навакольны свет.

***М.:*** Ну, я магу, канечне, голас павысіць. Мне здаецца, у сітуацыі поўнай любові чалавек не можа знайсці сябе. Цяпер шмат маладых пар, якія ўсё дазваляюць сваім дзецям. Маўляў, нічога, само вырасце! Я не зусім прыхільнік гэтага.

***Т.:*** Нядаўна мы рыхтаваліся да праектаў і прапусцілі той момант, калі дзіця аддаюць у гурткі.

***М.:*** А ўсе сябры ўжо пааддавалі дзяцей!

***Т.:*** Але нядаўна я прачытала інтэрв'ю са Святланай Бень. І яна сказала, што ў дзяцінстве нічым не займалася, была такая шчаслівая і ў выніку атрымаўся творчы чалавек. Мішка ў дзяцінстве займаўся барацьбой, а я музыкай. Мне не падабалася, але я ўсё роўна займалася...

***М.:*** Не, гэта вельмі моцна выпрацоўвае характар! Само дзіця не можа прымаць рашэнні. Канечне, прасцей нічога не рабіць і ляжаць на канапе. Хаця... можна і не ціснуць. Бо чалавек па-любому вырасце!

***Т.:*** Я не ведаю, у якую школу дачку аддаваць. Я нават не тое што пра веды думаю, а пра тое, каб не было брсм-аўскай тэмы. Дома імкнемся хоць крыху размаўляць па-беларуску... А як пра вайну ў школе распавядаюць! А мы ж ёй кажам, што мы пацыфісты.

***М.:*** Я моцна не баюся. Тое, што ёй не прамыюць мазгі, я ўпэўнены. У маёй сям'і па-іншаму не будзе!

*– Якая музыка, літаратура вас фарміравалі?*

***Т.:*** Ну, музыку я люблю добрую. Усё пачыналася з рок-н-рола. З чатырнаццаці гадоў слухала Джыма Морысана. Вельмі люблю "Sex Pistols".

***М.:*** Ды ладна! "Sex Pistols" любіш?!!!

***Т.:*** Міша, калі ласка, ну, дай я скажу! "Joy Division" люблю. Панк, постпанк падабаецца, Віктар Цой.

***М.:*** Гэта я сказаў: "А паслухай, Тонечка, Цоя!"

***Т.:*** Стой, ну, дай я пра сябе распавяду!

***М.:*** Не, дык ты скажы, што дзякуючы мне пачала Цоя слухаць!

***Т.:*** Я актыўна пачынала з японскай паэзіі, японскай літаратуры. Наш сямейны сябар – гэта, канечне, Эдуард Лімонаў. Яго паэзія. Бо прозы Лімонава не ведаю.

***М.:*** А я ведаю!

***Т.:*** Апошнім часам я палюбіла Мамлеева. А калі ў нас з Мішам пачынаўся любоўны раман, паралельна яшчэ і літаратурны раман быў – вельмі любілі Павіча.

***М.:*** А хто яго прынёс? Міхаіл. А хто Даўлатава прынёс у сям'ю? Міхаіл! А хто Пелевіна прынёс? Міхаіл!

***Т.:*** Чытаю цяпер перад сном Грышкаўца "Кашулю". Я ўвогуле цяжка засынаю, мне трэба пачытаць нешта, супакоіцца...

***М.:*** Наконт музыкі па прыездзе з Гомеля ў Мінск я ўвогуле быў нулявы. Адзін з найвялікшых напрамкаў для мяне зараз – гэта панк. Метал занадта класічная штука.

***Т.:*** Ха-ха-ха! Уся музыка ад мяне прыйшла!!!

***М.:*** Караленка падабаецца, вельмі важны гурт "НОМ". Зараз шмат беларусаў цікавых з'явілася – "Серебряная свадьба", "Касиопея", "Петля пристрастия", "Гурзуф". Толькі цяпер пачаў "Гражданскую оборону" слухаць.

***Т.:*** "Гражданская оборона" – гэта ж і мая любоў!

*– Міхаіл, што значыць для Вас Тоня?*

***М.:*** Не думаю, што я без яе не стаў бы займацца мастацтвам. Іншае справа, якой якасці гэта было б мастацтва. Тоня для мяне – адзіны аўтарытэтны чалавек у творчасці. Былі моманты, калі без яе парады я не мог і кроку зрабіць. Я ў жывапісе вельмі рацыянальны чалавек, фарбую аналітычным шляхам. А Тоня ідзе за інтуіцыяй, адчувае. Бывае, не здагадваешся, што чужы чалавек можа стаць бліжэйшым за маці... У нас ёсць поўнае ўзаемаразуменне. Бывае яшчэ і такі сцэнар у мастака: жанчына, якая глядзіць яму ў рот. У мяне ў жыцці былі такія сітуацыі, але я не вытрымліваў, гэта цяжка і непрыемна. Тоня моцны мастак, і яна сама мне дае імпульс сваёй творчасцю. Га...на ўжо не зробіш!

*– А для Вас Тоня, што Міша значыць?*

***Т.:*** Я мізантроп, людзей не люблю і баюся, а Міша такі пераходнік для зносінаў са светам. Ён больш адкрыты, чым я, больш разняволены. Я больш дэпрэсіўная.

***М.:*** Ну, так, я не прыходжу ў дзве гадзіны ночы, не буджу Тоню, кажучы: "А на фіга ўсё гэтае мастацтва?.. Міша, можа, гэта нікому не трэба?" – і пачынаецца падобная бязглуздзіца. У мяне такога няма, я цвёрда ведаю, што гэта трэба, што гэта добра і ўсе мусяць так думаць рана ці позна. І далей Тоня засынае, а я да раніцы валяюся!

***Т.:*** Я чалавек, які ніколі ў жыцці не збіраўся выходзіць замуж. Бо не хацела быць на другіх ролях. А да Мішы нават не як да мужа стаўлюся, а як да свайго другога "я" ў мужчынскім абліччы. Такіх мужчынаў яшчэ не сустракала! Хочацца мець побач чалавека годнага, каб не падманваць сябе. Я, напэўна б, не змагла жыць з тым, хто быў бы ў творчасці для мяне нецікавы. Момант мастацтва ўсё ж першасны.

*Фота Ганны Леванковай.*



Наталля Якавенка



Адно кепска: версіі крытыкаў назвычай рэдка супадаюць з пісьменніцкімі версіямі

# “Што за справа мастаку да ляманту крытыкі?”

***Амаль несур’ёзны дослед***

Аднойчы Марк Твэн, які на той час працаваў рэдактарам гарадской газеты, атрымаў ліст ад нейкага чалавека, абуранага надрукаваным матэрыялам. У допісе было толькі адно слова: “Свіння”. На наступны дзень у газеце з’явіўся адказ рэдактара: “Мы нярэдка атрымліваем лісты без подпісаў, але ўчора ўпершыню атрымалі адзін толькі подпіс, без ліста...”

Чым не дачыненні беларускіх крытыкаў, насуперак усяму ўпэўненых у патрэбнасці і правільнасці сваёй працы, з аўтарамі, якія цвёрда трымаюцца меркавання: крытыкаваць можа ўсякі дурань (альбо свіння), ды многія з іх менавіта гэтым і займаюцца?

“Што за справа мастаку да ляманту крытыкі? Чаму тыя, хто самі не здатныя ствараць, бяруць на сябе адвагу меркаваць аб творчасці? Што яны могуць пра гэта ведаць?”, – пытанні, якія яшчэ ў 1890 годзе асвятляў Оскар Уайльд у п’есе-дыялогу “Крытык як мастак”. І па сённяшні дзень тое ж

час ад часу хвалюе беларускіх літаратараў – у залежнасці ад апошніх надрукаваных на іх творы рэцэнзіяў, і на тыя ж пытанні мусяць не раз адказваць крытыкі.

Таму, улічваючы нязгасную папулярнасць крытычнай тэмы, дазволю сабе яшчэ адну спробу прааналізаваць сітуацыю "з дапамогаю" вядомых беларускіх крытыкаў, чые зборнікі сталіся ў апошнія гады адметнымі з'явамі сучаснага літаратурнага працэсу:

**Сяргей Дубавец,** *Вершы. – Мінск: Медысонт, 2007. – (Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў");*

**Ганна Кісліцына,** *Чалавек постмадэрну ў сучаснай беларускай літаратуры. – Мінск: Права і эканоміка, 2010;*

**Леанід Галубовіч,** *Сыс і кулуары: літаратурна-крытычныя эсэ. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010;*

**Ірына Шаўлякова,** *Сапраўдныя хронікі Поўні: артыкулы і рэцэнзіі. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.*

## 1. Крытыкаваць можа ўсякі…

"Я стаў літаратарам таму, што аўтар рэдка сустракаецца са сваімі кліентамі і не павінен прыстойна апранацца", – неяк жартам зазначыў Джордж Бернард Шоу. Беларускія пісьменнікі таксама даволі ахвотна адкрываюць свае матывы "ўзяцца за пяро". А вось чаму нашы крытыкі абралі менавіта такі род дзейнасці ні жартоўна, ні сур'ёзна ніхто з іх не прызнаваўся, прынамсі публічна. Але як яны разумеюць існасць і прызначэнне крытычнай працы даведацца не складана.

Адной з першых у свой час выказалася Ганна Кісліцына. Уласнае крытычнае крэда яна вызначыла назовам зборніка – "Blonde attack" (2002) і наступнымі радкамі: *"Літаратурны крытык – паталагаанатам: прэпарыруй, корпайся ў вантробах, аналізуй, але не спадзявайся на ўдзячнасць кліента (...) Увогуле крытык – той, хто любіць літаратуру, але не літаратараў".*

Дзіва што ўдзячнасці не дачакаешся: "кліенты" паталагаанатама – нябожчыкі. І, напэўна, мала хто з пісьменнікаў добраахвотна хоча стаць "кліентам" спадарыні Ганны пасля такога адыёзнага прызнання, няхай сабе і несур'ёзнага.

*"Пераймаючы вызначэнне крытыкі ад Г. Кісліцынай, насмелюся параўнаць яе (крытыку, вядома) з барометрам духоўнай атмасферы ў грамадстве, калі залежна ад ціску (і ўціску) крытычнага верхняга слупка, творцы і іх прыхільнікі могуць вызначаць арыенціры дзеля будучых мастацкіх высілкаў..." ("Крытыка"),* – так далікатна, асабліва ў параўнанні з Г. Кісліцынай, і сур'ёзна выказаўся Леанід Галубовіч, чым даў амаль класічнае, ці, можна сказаць, акадэмічнае тлумачэнне.

*"Айчынная літаратурная крытыка сёння нагадвае адмысловую партызаншчыну,* – сцвярджае мая каляжанка Ірына Шаўлякова і тлумачыць: — *аблога – трайная (адсутнасць чытацкага піетэту, раздражненне пісьменнікаў плюс сумненні ва ўласнай жыццяздольнасці), "харчаванне" – больш чым сціплае (згадайма хоць бы пра планы выдання мастацкай літаратуры, ацалелыя пасля рэарганізацый ды ўзбуйненняў дзяржаўных выдавецтваў), перамога і тая мроіцца як надзвычай аддаленая перспектыва. Да ўсяго, калялітаратурная публіка ўпэўненая, што ў нас крытыкі НЯМА: маўляў, тое, што ёсць, – не крытыка, а так, сурагат, кампот з асабістай непрыязі і некранутай адукаванасцю інтуіцыі" ("Партызан – XXI: стратэгія і перспектывы прафесійнага выжывання").*

На жаль, у многім Ірына мае рацыю. Але відаць не кожнаму крытыку захочацца хадзіць у "партызанах", асабліва калі ён адносіць сябе да творцаў... Вядома, як карабель назавеш, так ён і паплыве, таму сярод нашых крытыкаў ёсць і "партызаны", і "мастакі".

"Партызаны" схільныя да нечаканасцяў і нападак, калі абгрунтаваных і дакладна

выверaных, а калі беспадстаўных – праз няўменне альбо нежаданне заглыбіцца ў існасць і вытокі нейкай літаратурнай з’явы ці аўтарскай задумы.

І. Шаўлякова – ці не самая прафесійная сярод “партызанаў”. Яна ніколі не робіць адкрытых і неабдуманых “вылазак”. Інтэлігентны, высока інтэлектуальны, не пазбаўлены вялікай долі іроніі стыль Ірыны не дазваляе ёй апускацца да брутальных выпадаў на адрас пісьменнікаў. Шаўлякова паглыбляецца не толькі ў існасць твора як мастацкай з’явы, але і вывучае літаратурна-гістарычныя перадумовы яго ўзнікнення, дзякуючы чаму крытычныя артыкулы набываюць панарамнасць. Яна любіць нечаканыя назовы, параўнанні ды аналогіі, і бездакорна цытуе, што не так часта сустракаецца ў “партызанаў”. Разам з тым, бравіруе сваёй інтэлектуальнасцю. Зборнік “Сапраўдныя хронікі поўні” пакідае ўражанне перанасычанасці “інтэлектуальнымі практыкаваннямі” – адмысловай тэрміналогіяй, ускладненай структурай сказаў, што пры лёгкасці мыслення крытыка робіць груваcткім стыль яе выказванняў.

Яшчэ адна “партызанка” – ваяўнічая Ганна Кісліцына – увесь час імкнецца як мага ярчэй вылучыцца ў літаратурным асяродку, а раз не з’яўляецца адэптам інтэлігентнасці, стрыманасці ды грунтоўнасці ў аналітыцы, уласцівых Шаўляковай, “партызаншчына” ў яе выкананні даўно набыла рысы экстрыму.

Некаторыя з ранейшых зборнікаў Кісліцынай – ужо названы “Blonde attack” (2002), “Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы” (2006) хоць і вызначаліся шырынёй ахопу літаратурных фактаў, цікавымі абагульненнямі, неардынарнымі высновамі, разам з тым адрозніваліся супярэчлівасцю, празмернай эмацыйнасцю ды павярхоўнасцю меркаванняў.

Не адзін пісьменнік патрапіў “пад раздачу” ў артыкулах эксцэнтрычнай бландзінкі, атрымаўшы на свой адрас пэўную дозу колкіх і безапеляцыйных выказванняў. Праўда, апошнім часам “партызанка” сцішылася. Яе апошняя кніга “Чалавек постмадэрну ў сучаснай беларускай літаратуры” – навуковае выданне, што ўжо само сабой не прадугледжвае “партызанскіх вылазак”. Трэба аддаць належнае, кніга мае даволі салідны тэарэтычны грунт, выяўляе абазнанасць аўтаркі ў постмадэрновай эстэтыцы, якая да таго ж слушна гаворыць аб ролі літаратуры ў фармаванні нашай культурнай прасторы: *“Зразумела, што для беларускай культурнай прасторы пытанне аб ролі пісьменніка стаіць больш востра, чым на Захадзе ці ў суседняй Расіі, – літаратура тут нясе не столькі забаўляльную ці выхаваўчую функцыі, колькі функцыю духоўнага тэзаўруса, з’яўляючыся, па сутнасці, адзіным месцам паўнапраўнага бытавання нацыянальнай мовы”.*

Аднак не была б Ганна Кісліцына сабой, калі б дзе-нідзе не “перагнула палку” ў высновах: *“Сёння інтэрнэт стаў заўсёды і паўсюль дасяжны, таму ў ім паняцце “адлегласць” страчвае сваё былое значэнне, а паняцце “час” сціскаецца да секундаў, якія патрэбны камп’ютару, каб перапрацаваць інфармацыю. У выніку публікацыя мастацкага твора дае магчымасць не толькі азнаёміць з ім вялікую колькасць чытачоў, але і абмеркаваць яго, прычым зрабіць гэта не толькі ў межах яго краіны, але і на другім краі зямнога шару. Гэта змяняе значэнне самога паняцця “сусветная літаратура”. Незалежна ад таго, у якой частцы свету напісаны твор, ён становіцца “сусветным”, больш таго, ён атрымлівае магчымасць мець мноства аўтараў і мноства варыянтаў”.*

Я падзяляю захапленне такім цудоўным дасягненнем цывілізацыі, як інтэрнэт, але наконт “сусветнасці” нашай літаратуры не магу пагадзіцца, хоць вельмі хацелася б, каб беларуская літаратура стала сапраўды сусветнаю. У дадзеным выпадку Кісліцына блытае катэгорыі даступнасці і сусветнасці, ды незразумела чаму радуецца магчымасці літаратурных твораў *“мець мноства аўтараў і мноства варыянтаў”* – плагіят.

І вось яшчэ адзін прыклад, дзе я не магу не паспрачацца: *“Нягледзячы на тое,*

*што беларускія пісьменнікі па-ранейшаму не пакідаюць спробы стварыць буйны, панарамны вобраз грамадства і чалавека ў ім, цяжка не заўважыць, што за апошнія дваццаць гадоў у айчыннай літаратуры цяжка назваць хоць бы адзін рэалістычны буйнамаштабны раман, не кажучы ўжо пра трылогіі і пенталогіі".*

Мажліва, у гэтым выпадку недакладна выказана думка, але акрамя яе супярэчлівасці (пісьменнікі дваццаць гадоў спрабуюць стварыць буйны вобраз грамадства, але не пішуць буйных твораў) мушу адзначыць незаўважанае Кісліцынай існаванне буйнамаштабнай рэалістычнай прозы 1990-2010 гадоў: раман В. Адамчыка "Голас крыві брата твайго" (1990) – апошні ў тэтралогіі (пасля раманаў "Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца"); раман В. Карамазава "Бежанцы" (1990); раманы Л. Левановіча "Дзікая ружа" (1992), "Сіняе лета" (1998), "Бесядзь цячэ ў акіян" (1999-2002) і яго ж "Палыновы вецер" (2002-2004); Ул. Дамашэвіча "Не праспі сваю долю" (1993) і рэалістычна-бытавы раман "На мяжы цярпення" (2007); Г. Марчука "Без ангелаў" (1993); раман А. Асіпенкі "Лабірынты страху" (1991); А. Марціновіча "Цень крумкачовага крыла" (1991); раманы І. Чыгрынава "Вяртанне да віны" (1992) і "Не ўсе мы згінем" (1996), якія завяршылі пенталогію (сталіся працягам твораў "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя"); раман В. Гардзея "Бедна басота" (1995); Ул. Гніламёдава "Уліс з Прускі" (2000); дэтэктыўны раман В. Праўдзіна "Танцавальны марафон" (2001); раман М. Кусянкова "Хмель каля вольхі" (2002); раман-споведзь А. Савіцкага "Пісьмо ў Рай" (2003); "Рэвізія" А. Федарэнкі (2004); трылогія В. Якавенкі "Пакутны век" (2006); раман А. Брава "Менада і яе сатыры" (2008) ды іншыя творы.

"Крытыка толькі тады атрымлівае права на высокую патрабавальнасць да літаратуры, калі яна патрабавальная да самой сябе. Імкнучыся адчувальна ўплываць на літаратурны працэс, яна павінна свядома і самакрытычна ставіцца да сваіх здабыткаў і магчымасцяў, павышаць майстэрства, павялічваць сваю грамадска-наступальную сілу. Сіла крытыкі – гэта глыбіня разгляду літаратурных з'яў. На жаль, сучасная беларуская крытыка, маючы значныя дасягненні, не заўсёды іх развівае і часта мірыцца з павярхоўным каментатарствам", – зазначыў Віктар Каваленка ў 60-я гады ("Крытыка... Якая яна?"). Паўстагоддзя мінула, але актуальна па сённяшні дзень. І разам з тым – заканамерна, бо спрадвеку ў крытыцы, як і ў мастацкай літаратуры, ёсць таленты і графаманы, сумленныя і не вельмі, працавітыя і гультаяватыя аўтары.

А яшчэ ёсць у крытыцы "мастакі", якім уласціва прапускаць літаратурны твор "праз сябе", якія не могуць заставацца халоднымі назіральнікамі і становяцца ў пэўнай ступені сутворцамі. Для іх крытыка, паводле вызначэння Анатоля Франса, – "прыгоды ўласнай душы ў свеце кніг", а паводле Оскара Уайльда, – "хроніка жыцця ўласнай душы". Уайльду таксама належаць наступныя словы пра крытыку, якія можна назваць гімнам альбо статутам крытыка-"мастака": "Крытыка з'яўляецца творчасцю ў самым высокім значэнні слова. (...) У адносінах да твора мастацтва, які ён разглядае, крытык апынаецца ў той жа сітуацыі, што і мастак у дачыненнях да відочнага свету формаў і фарбаў або невідочнага свету жарсцяў і думак. (...) Крытыка таксама мае справу з матэрыялам, якому павінна надаць форму і новую, і захапляльную. (...) Больш таго, сапраўды высокая Крытыка становіць сабою найбольш чыстую форму асабістага ўражання (...) Літаратурную фантазію можна спраўджваць рэальнасцю. Тое, што выходзіць з душы, спраўджваць няма чым".

У 2007 годзе Сяргей Дубавец у серыі "Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў"" выдаў кнігу крытычных артыкулаў пад назваю "Вершы" – прыватны дослед сучаснай беларускай паэзіі, які папярэдне "прайшоў апрабацыю" ў аўтарскай перадачы "Вострая Брама" на Радыё Свабода. Названы зборнік – яскравы прыклад творчай манеры "мастака": *"Неістотна, праз каго прамовіць стыхія-паэзія. Ці гэта будзе*

*народны паэт Беларусі, ці пачатковец, які піша свой першы верш. Вялікія паэты часта не маюць звычайнай чалавечай біяграфіі, і спробы адшукаць у фактах жыцця Івана Луцэвіча крыніцу паэтычнага генія Янкі Купалы – марныя. Часта старыя пішуць паэтычны тэкст ад імя маладых і наадварот. Рэальны чалавек і лірычны герой – не адно і тое ж. Метафарычна гэта ўсё заключана ў фразе: не я пішу вершы, а вершы пішуцца мной. Хто іх піша? – пытанне, на якое адказу няма.*

*Тым больш неістотна, мужчына паэт ці жанчына, бо стыхія-паэзія, як і душа або розум, не мае плоці. Вершы Габрыэлы Містраль у перакладах Рыгора Барадуліна мы ацэньваем не паводле полу таго, праз каго гэта напісана, а паводле паэтычнае сілы, заключанай у вершаваных радках" ("Жаночая паэзія").*

І нібы працягам гучаць радкі другога "мастака" – найбольш папулярнага беларускага крытыка Леаніда Галубовіча: *"Вялікія Паэты (пракокі) заўжды блізкія да Бога. І якімі б багахульнікамі перад людзьмі іх не выстаўляў непрадказальны лёс, усё адно, на паэтычнай споведзі, як на вышэйшым Судзе, ім выбачаюцца многія зямныя грахападзенні за ўзвышэнні духоўныя. Часовае ачышчаецца вечным...*

*Ды й наўрад ці хто яшчэ так адчувае ўласны вырак, як сапраўдны Паэт. І не толькі свой вырак. Таму кожная нацыя жыве чаканнем Паэта. Бо ў ім і праз яго яна бачыць самую сябе. Але як толькі ён з'яўляецца – нацыя жахаецца, бо тое, што яна бачыць у ім і чуе ад яго, страшыць. Яна не хоча даваць веры ўласнаму адлюстраванню...*

*І ўсё ж час ад часу Паэты нараджаюцца, спрабуючы ўсталяваць пахіснуты падмурак чалавечага духу ўвогуле і сваёй нацыі ў прыватнасці. Такім Паэтам, на мой погляд, быў (і ўсё больш будзе заставацца ім) Анатоль Сыс" ("Як шаравая маланка").*

Мне заўжды здавалася, што для стварэння падобнага роду крытычных твораў трэба як мінімум мець мастацкія здольнасці, але пажадана сапраўды быць пісьменнікам, як С. Дубавец і Л. Галубовіч. Аднак, "ідэолаг" крытыкі як мастацтва Оскар Уайльд, як ні дзіўна, адмаўляе такі варыянт, бо, на яго думку, "сапраўды буйны майстар не здольны ўявіць сабе, што можна паказваць жыццё і ствараць хараство не тымі сродкамі, якія ён абраў для самога сябе".

Усё ж не пагаджуся з класікам, бо перакананая, што ўласны пісьменніцкі досвед дае мажлівасць крытыку глыбей адчуваць творы іншых літаратараў. Увогуле, пытанне прыналежнасці крытыкаў да пісьменнікаў заслугоўвае падрабязнейшага разгляду. У розныя часы над гэтым задумваліся выбітныя крытыкі і літаратуразнаўцы.

Так пачынальнік амерыканскай "новай крытыкі" Томас Стэрнз Эліот меркаваў, што нельга раўняць творчае і крытычнае, выходзячы з аксіёмы, што "творчасць, стварэнне твора мастацтва ёсць працэсам самадастатковым; крытыка ж паводле сваёй існасці, мае сваім прадметам нешта староннёе ў дачыненні да сябе" ("Прызначэнне крытыкі").

Савецкі літаратуразнаўца Барыс Бурсаў у працы "Крытык як пісьменнік" сцвярджае, што "рэцэнзент павінен быць літаратарам, а гэта так рэдка сустракаецца". На яго думку, пісьменніцкая крытыка ў большай ступені, чым філалагічная, мае рысы літаратурнасці і "Вучыцца літаратурнасці крытыкі павінны перш за ўсё ў пісьменнікаў, якія і ў сваіх крытычных выступах застаюцца пісьменнікамі". Разам з тым, Б. Бурсаў заўважае, што часта пісьменнікам для стварэння крытычных артыкулаў не стае філалагічнай культуры і шырокага літаратурнага кругагляду, пры напісанні сваіх крытычных водгукаў яны забываюць, што "крытыка – прафесія строгая, па-свойму дысцыпліна навуковая". Такім парадкам, трэба спалучаць літаратурнасць з літаратуразнаўствам.

Паводле высноў вядомага французскага літаратуразнаўцы Ралана Барта, крытык і ёсць пісьменнік. Бо "пісьменнік – гэта чалавек, для якога мова ёсць

праблемаю і які адчувае глыбіню мовы, а зусім не яе інструментальнасць ці хараство. Вось чаму на свет з'явіліся крытычныя працы, якія патрабуюць тых самых спосабаў прачытання, што і ўласна літаратурныя творы, нягледзячы на тое, што іх аўтары ёсць крытыкамі, а зусім не пісьменнікамі. Калі новая крытыка і праўда існуе, то рэальнасць гэтага існавання – не ў адзінстве яе метадаў і тым больш не ў снабізме, на якім, як ахвотна сцвярджаюць, яна трымаецца, але ў самой адзіноце крытычнага акта, які – адкідваючы алібі, што даюць навука ці сацыяльныя інстытуты, – сцвярджае сябе менавіта як акт пісьма ва ўсёй яго паўнаце" ("Крытыка і ісціна").

Сучасны расейскі крытык і гісторык літаратуры Андрэй Немзер пільнуецца кардынальна супрацьлеглага меркавання: "Ніколі я не верыў у тэзіс: крытык – таксама пісьменнік. Цудоўна ведаю, чым адрозніваюся ад паэта ці празаіка... Яшчэ ведаю, чым адрозніваюся ад графаманаў. Хоць тых, што з піянерскіх юных гадоў узяліся за вершыкі і апавяданні, хоць тых, што спачатку стараліся (хто ўдала, а хто не вельмі) на нівах крытычнай, рэдактарскай ці навуковай. Тым адрозніваюся, што не прымаю свербу славалюбства і элементарных навыкаў працы са словамі за імператыў вышэйназванага Мусагета. Так, мая справа – другасная і службовая. Але службовае не значыць забеспячэнскае. Як не значыць – лакейскае" ("Дзённік чытача: Расейская літаратура ў 2006 годзе").

Напэўна, тут цяжка прыйсці да адзінага меркавання, ды й ці трэба гэта... "Кожны піша, як ён дыша", – любіць паўтараць Леанід Галубовіч, і мае рацыю. Чым большая рознасць існуе ў самавызначэннях крытыкаў (як і пісьменнікаў), тым цікавейшы літаратурны працэс.

Дарэчы, маючы на ўвазе рознасць эстэтычных каштоўнасцяў і адпаведных ім крытычных стыляў "партызанаў" і "мастакоў", цікава прасачыць іх дачыненні. Бясспрэчна, грунтуюцца яны на ўзаемнай павазе, што, вядома, добра, але не маюць прыкмет канкурэнцыі, а гэта ўжо не зусім добра, бо пазбывае аднаго з наймацнейшых стымулаў для актыўнай працы. Яны збоку назіраюць адзін за другім і час ад часу, не без асцярожнасці, абменьваюцца "ўражаннямі".

Верная сваёй інтэлектуальна-іранічнай манеры і пакручастаму стылю выказвання, Ірына Шаўлякова падрабязна аналізуе "эсэістычны метад" крытычнага аналізу" Л. Галубовіча на падставе кнігі "Сыс і кулуары", якая *"Не тое каб засведчыла "раптоўнае" адкрыццё новай літаратурнай інкарнацыі Л. Галубовіча (і без яе вядомага паэта, што так і не стаўся былым; непераўзыдзенага майстра гульні ў "зацемкі", etc.), але ж дае магчымасць наладзіць больш ці менш сістэмныя агледзіны творчага плёну ці не самага дзейснага сёння змагара з крытычнай самотай".*

*"Чалавек + пісьменнік = (вольны) эсэіст"* – такі назоў мае прысвечаны Леаніду Галубовічу артыкул, у якім Ірыне сапраўды ўдалося наладзіць *"больш ці менш сістэмныя агледзіны творчага плёну"* з заглыбленнем у індывідуальна-творчы стыль крытыка, *"Паколькі на самога аўтара кнігі "Сыс і кулуары" нельга абаперціся пры вызначэнні ягонай найгалоўнейшай функцыі ў літаратурным працэсе першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя".*

Затое Л. Галубовічу не цяжка знайсці апірышча для вызначэння функцыі ў сучасным літаратурным працэсе сваіх каляжанак-"партызанак", якіх, на яго думку, *"нельга з пэўнасцю залічыць да крытычных літаратурных "аўтарытэтаў у законе"* з наступных прычынаў: *"Найперш таму, што час ад часу нават ім даводзіцца ўсё ж "абслугоўваць" сваё атачэнне. Таму яны, груба кажучы, "аўтарытэты зонныя". І. Шаўлякова хоць і намагаецца быць па-над усім (ад В. Шніпа з Л. Рублеўскай і Н. Гальпяровічам да С. Дубаўца з М. Гарэцкім), але ў вольным палёце доўга над полем бою не налётаеш – даводзіцца недзе садзіцца, каб перавесці дух... Аднак цяпер проста так дух не перавядзеш, за месца і кампанію "плаціць" трэба. Мілая Ірына, гавару гэта бяззлобна і бяскрыўдна і, як ты правільна цяміш сваім залатым розумам, агульна*

*і “абшчо”, амаль як пра самога сябе. (...) У Ганны ж Кісліцынай – свае танцы, свой рок і вырак. Яна схільная да наватарства і эпатажу, хоча быць і літаратурнай дамай і адначасна дагодлівай мамай: то А. Глобусам захопіцца, то да А. Сыса ці Л. Дранько-Майсюка прыхільнасць займее, то Вальжыне Морт надумае дыкцыю паставіць, то ў Вікі Трэнас свісток адбярэ... Аднак бывае і баявая. Адрозна ад пачуццяў, мае абсалютны нюх на талент і цвярозую аб’ектыўную думку. Мне падаецца, што ёй бракуе пастаянства ў вызначэнні свайго ўласнага я” (“Крытыка”).*

***

Дачыненні крытыкаў, безумоўна, не так хвалююць пісьменнікаў, як адносіны “крытык – аўтар”. І менавіта ў гэтых варунках нараджаюцца ўпіканні ў бок крытыкаў кшталту “самі не здатныя тварыць” і “што яны могуць пра гэта ведаць?”.

Крытыкі маюць кожны сваю версію існавання ідэальнага літаратурнага свету і адпаведную сістэму каштоўнасцяў, што выяўляецца найперш у стылі і манеры крытыкаваць, а таксама ў разуменні прызначэння крытычнай працы. Адно кепска: версіі крытыкаў надзвычай рэдка супадаюць з пісьменніцкімі версіямі. Пра тое, да чаго гэта вядзе – крыху ніжэй.

## 2. “Што яны могуць пра гэта ведаць?”

“Польскія літаратары не чытаюць мяне – а я не чытаю іх. Іх прысуд адзінадушны? Мой таксама”, – “прызнаўся” аднойчы вядомы польскі пісьменнік і крытык Караль Іжыкоўскі. А другі польскі літаратар патлумачыў: “Аўтар ніколі не можа прадугледзець, што вычытаюць з яго кнігі. (...) Самы сціплы чытач не ўтрымаецца, каб не ўпісаць уласнай душы ў тэкст чужой. Дакладна так адбываецца і з крытыкамі, хоць яны не любяць у гэтым прызнавацца” (Ян Парандоўскі, “Алхімія слова”). І менавіта гэта міжвольнае далучэнне душы дае падставы ўпікаць крытыкаў у суб’ектыўнасці меркаванняў, забываючы на тое, што ўвогуле ўсякая думка суб’ектыўная.

На пачатку мінулага стагоддзя амерыканскі крытык Малькольм Каўлі пісаў, што крытыка аніяк не можа быць абсалютна аб’ектыўнай і безэмацыйнай ужо таму, што меркаванне крытыка пра літаратурны твор складваецца перш-наперш на падставе чыста асабістага ўражання. “І як можна казаць пра літаратурную крытыку як пра дакладную навуку? – здзіўляўся Каўлі. – Даўно Поль Валеры пісаў: “Навука гаворыць пра дакладнае, мастацтва – аб прыблізным”. Лепшая крытыка заўсёды суб’ектыўная і таму недакладная” (“Крытыка – дом са шматлікімі вокнамі”).

У гэтым кантэксце супярэчлівым падаецца выказванне Леаніда Галубовіча: *“Што ні кажыце, а ёсць у нашых адметных сучасных крытыкаў* (Г. Кісліцынай, І. Шаўляковай, Д. Жукоўскага – *Н. Я.*) *спробы глянуць на сваю літаратуру, а значыць і на сябе саміх, смела і аб’ектыўна” (“Крытыка”).*

Адвагі ў крытыкаў насамрэч не бракуе, а што да аб’ектыўнасці... Хіба сапраўды толькі спробы, бо ў сваіх высновах яны час ад часу падсвядома прызнаюцца як раз у адваротным: *“Быкаўскую іранічную стылізацыю пад мову навуковых альбо чыноўніцкіх дакументаў немагчыма чытаць без усмешкі, нягледзячы на агульны трагічны пафас твораў”,* – Г. Кісліцына.

*“Я не здолела нават з адноснай пэўнасцю аддаць перавагу якойсьці з інтэрпрэтацый, сярод якіх здараюцца і, бадай, залішне “аўтарскія” (...)”,* – І. Шаўлякова.

Напэўна, таму яны і адметныя, што ў пэўнай ступені суб’ектыўныя, і не баяцца гэтага. Але ж як аўтары баяцца “ляманту” суб’ектыўнай крытыкі! Чаму? Іх крыўдзіць менавіта нястача аб’ектыўнасці (!) крытычнай ацэнкі.

*“Падчас, выслухоўваючы крыўды на сваю крытыку з вуснаў тых ці іншых аўтараў, сам сабе думаю: даражылі б тым і радаваліся, хлопцы, што ў вас ёсць чытач, між іншым, не абы-які і магчыма, што адзіны...”* (“Чытачы”), – піша Л.Галубовіч.

З уласнага досведу магу сказаць, што няма такога пісьменніка, якога б хоць трохі не ўсхвалявала больш-менш адмоўная крытыка, нават калі ён сцвярджае, што абыякавы або кажа нешта кшталту "антырэклама – таксама рэклама". І гэта нармальна, бо напісаны твор, паводле даўно вядомага і вернага вызначэння, як уласнае дзіця. І зусім крыўдна, калі "дзіця" было вынашанае і народжанае ў пакутах, а крытык, пра тое нічога не ведаючы, распраўляецца з ім, як кажуць, адной левай.

Неяк паэт-пачатковец прынёс Вальтэру сваю оду пад назовам "Да нашчадкаў". Класік прачытаў яе і выказаўся: "Нішто сабе. Толькі думаю, што на гэты адрас твор не дойдзе". Так і сутыкаюцца дзве суб'ектыўнасці: мастацкі твор заўсёды глыбока суб'ектыўны, крытычны – суб'ектыўны ў вялікай ступені.

Ці мажліва цалкам прымірыць крытыка з аўтарам? Напэўна, не. Але можна дамагчыся ў большай ці меншай ступені спакойнага стаўлення адно да аднаго і знайсці хоць якое паразуменне. "Добры пісьменнік, – казаў Конрад, – гэта пісьменнік, які без асаблівай радасці і без празмернага смутку глядзіць на прыгоды сваёй душы ў свеце крытыкі". Аднак, дзеля справядлівасці, мушу зазначыць, што "замірэнне" залежыць не толькі ад пісьменнікаў, а ў вялікай ступені ад крытыкаў, дакладней, ад індывідуальнай крытычнай манеры кожнага.

Кароль Францыі Людовік XIV спрабаваў пісаць вершы. Пры гэтым у якасці крытыка ён прызнаваў толькі вядомага паэта Буало. Аднойчы пасля прачытання чарговага каралеўскага твора Буало заўважыў: "Для Вашай вялікасці няма нічога немажлівага. Вось захацелі Вы пісаць кепскія вершы, і ў Вас гэта бліскуча атрымалася!".

Гэты "метад Буало" выкарыстоўвае Ірына Шаўлякова, на якую ніколі не пакрыўдзіўся бадай што ніводзін пісьменнік. Сваё суб'ектыўнае стаўленне да твора крытык умее так добра схаваць, што часам не адразу зразумееш, ці то хваліць яна, ці то ганіць, адмоўная інтанацыя гучыць вельмі мякка, што робіць яе амаль няўлоўнай: *"Другі зборнік вершаў і песень Алеся Бадака быў выдадзены "Мастацкай літаратурай" у 1995 годзе пад назвай "За ценем самотнага сонца". Калі меркаваць пра, так бы мовіць, "тэхнічны" бок вершавання сённяшняга "беніфіцыянта", дык за шэсць год, што прайшлі з часу з'яўлення ягонай першай кнігі, вектар фарматворчасці не змяніўся: не меў шанцу чытач (і сам аўтар) здзівіцца радыкальнай змене эстэтычнай арыентацыі. Таму план формы хоць і ўнік зманлівых перспектыў, звязаных з неадменным абавязкам творцы эвалюцыянаваць ад кнігі да кнігі, ад верша да верша і г.д., затое... і не пацярпеў. Непадробная ўвага да рэчаіснага свету спрыяла эпічнай дэталізацыі панарамы ў творах другога зборніка сп. Бадака. (...) Такім чынам, і ў змястоўным плане другая кніга сталася лагічным працягам першай, з лагічным жа заглыбленнем паэта далей і далей у нетры самоты." ("Маланкавыя будні самотнага сонца: Практычная (ілюстраваная) уфалогія").*

А вось супрацьлеглая крытычная манера: малады паэт неяк паскардзіўся Оскару Уайльду, што выдавецтвы не хочуць друкаваць яго вершы: "Гэта сапраўдная змова супраць мяне – змова маўчання. Парайце, што рабіць?" – "Далучыцца да змовы", – адказаў Уайльд.

"Метад Уайльда" блізкі Леаніду Галубовічу, схільнаму да катэгарычнасці, а часам і рэзкасці выказванняў, як быццам ён "партызан", а не "мастак": *"Федарэнка – не "хітраван", як піша Л. Алейнік у лімаўскім аглядзе майскіх часопісаў, ён проста "ўбогі геній" сучаснай нацыянальнай прозы і самотны пакутнік уласнага няўдала скроенага жыцця..." ("Андрэй Федарэнка").*

Невядома, што пачуў Уайльд пасля сваёй парады далучыцца да змовы, але Л. Галубовічу не давялося доўга чакаць рэакцыі пакрыўджанага пісьменніка: *"Крытык Леанід Галубовіч піша – не ў прыватным нататніку, не на сцяне грамадскай прыбіральні, не ў камп'ютарным Livejornal, а ў тоўстай афіцыйнай кнізе, "ничтоже сумняшеся":*

*“Федарэнка – убогі геній сучаснай нацыянальнай прозы і самотны пакутнік уласнага няўдала скроенага жыцця”.*

*Аднаму Алаху вядома, што Лёня хацеў гэтым сказаць. Можа, ён сабраўся за мяне замуж і цяпер выбракоўвае за хібы? Ці наадварот, я – змучаны няўдалым асабістым жыццём, прэтэндую, як мінімум, на лішнія квадратныя метры яго жылплошчы?*

*Калі для Галубовіча я – “убогі геній у літаратуры”, дык для пісьменніцы Паліны Качатковай – “Пільны Бібліятэкар у літаратуры”. І вось гэта, як мне падаецца, найбольш адпавядае сапраўднасці. Калупаючыся ў розных каментарах, зносках, спасылках, разбіраючы ледзь не з лупаю драбнюткія шрыфты варыянтаў, я адчуваю проста фізічную насалоду, калі адшукваецца хоць маленечкая знаходка, доўга потым у адзіноце любуюся гэтай вымытай з тонаў шлаку залацінкай, не жадаючы з ёю развітвацца, не хочучы несці ў “скупны пункт”, інакш – друкаваць” (А. Федарэнка, “Сечка-14”).*

Можна доўга абмяркоўваць ды разважаць, хто мае рацыю, ці можа дапускаць крытык некарэктныя і абразлівыя выказванні, якія чапляюць асобу пісьменніка, ці трэба было Федарэнку адгукацца менавіта такім спосабам або варта было б “не заўважыць”, быць вышэй і гэтак далей. Усякія развагі не мяняюць высновы: адмоўнае спараджае сабе падобнае, і да гэтага крытыку трэба быць гатовым. Аўтар жа мусіць быць падрыхтаваным да спакойнага ўспрыняцця хоць якіх адмоўных каментароў, бо насамрэч антырэклама – таксама рэклама: лепш хай крытыкуюць, чым зусім не заўважаюць.

“Зазвычай крытыкі – (...) людзі куды больш адукаваныя за тых, каму яны павінны прысвячаць свае артыкулы. Іншага чакаць няма чаго, бо крытыка патрабуе куды больш культуры, чым творчасць. (...) Кожнаму пад сілу напісаць трохтомны раман. Проста трэба літаральна нічога не ведаць ні пра жыццё, ні пра мастацтва. А ў рэцэнзентаў, думаю, ёсць асаблівыя цяжкасці, і яны ў тым, што трэба падтрымліваць пэўны літаратурны ўзровень”, – можа крыху эпатажна, але ў цэлым слушна пісаў О. Уайльд, якому, дарэчы, зусім не шанцавала на крытыкаў. Славу паэту прынеслі чытачы – акурат у той час, як бэсціла крытыка. І гэтая слава з цягам часу стала такой вялікай, што крытыка мусіла ўвогуле змоўкнуць, а толькі праз дзесяцігоддзі пасля яго смерці – адэкватна ацаніць і пачаць усхваляць. Чаму так адбылося? Бо надта неардынарным быў Уайльд для сваёй эпохі, але не пра тое зараз гаворка. Адмоўнае стаўленне да яго не перашкодзіла разуменню адметнасці працы крытыка як такой.

Не вазьму на сябе адвагі параўноўваць узровень адукаванасці крытыкаў і пісьменнікаў, але дакладна магу сказаць, што няма ў беларускай крытыцы выпадковых людзей, як няма іх у іншых літаратурах свету. Усякі крытычны артыкул патрабуе літаратуразнаўчага ці шырокага літаратурнага досведу, што дае змогу рабіць абагульненні, высновы, дапамагае інтэрпрэтаваць літаратурны твор, ды, увогуле, проста разумець яго. Толькі сярод крытыкаў, якія не раз успаміналіся ў гэтым артыкуле, ёсць літаратуразнаўцы з навуковымі ступенямі – Г. Кісліцына, І.Шаўлякова ды літаратары, даўно прызнаныя і чытачамі, і той жа крытыкай – Л. Галубовіч, С. Дубавец.

***

Аднойчы ўзімку Вальтэр гасцяваў у знаёмага паэта, які, прымаючы славутага пісьменніка ў неабагрэтым пакоі, вельмі доўга і нудна чытаў свае творы. Па заканчэнні на пытанне “Ці спадабаліся вершы?” Вальтэр адказаў: “Мой дарагі, калі б у Вашых вершах было болей агню, а ў агні было б болей Вашых вершаў, мы, бясспрэчна, добра б сагрэліся”.

Так вось цяжка і складваюцца дачыненні аўтараў з крытыкамі. І што рабіць? Напэўна, ёсць сэнс асабліва не пераймацца і ставіцца да гэтага менш сур’ёзна...

Леанід Галубовіч



...ясней яснага:
і яўрэі, і беларусы –
браты адной бяды...

# Паміж намі – беларусамі і яўрэямі

***Барадулін Рыгор. Толькі б яўрэі былі!.. : кніга павагі і сяброўства. Склад. Н. Давыдзенка, прадм. В. Нікіфаровіча; заўв. І. Сляповіча. – Мінск: Кнігазбор, 2011.***

*Нявольнікі вы сёння з намі разам*
*На беларускай змучанай зямлі,*
*Дзе чорны здзек, пасвенчаны абразам,*
*Гняце нас разам, як звяр'ё, ў крутой пятлі.*
Янка КУПАЛА (з верша "Жыды")

Патрохі пачынае збіраць да купы свой аб'ёмна-важкі творчы плён наш паэт з дастаткова сталым векам Рыгор Барадулін. Адна за адной вылузваюцца ў свет яго кнігі. Сказаць, што гэтаму здзіўляешся, мне асабіста не выпадае. Безумоўна, цікавасць да слыннага паэта не прападае – так, але не здзіўленне. Усе здзіўленні ў паэзіі мінаюцца разам з маладым запалам і высокай энергетыкай чуцця і думкі паэта. Цяпер жа справу майстра дарабляюць яго вопыт ды цвярозасць, яснасць ды мудрасць.

Безумоўна, беларускі чытач ведае Барадуліна як літаратурнага працаголіка і таму ані колькі, яшчэ раз падкрэслю,




не здзіўляецца яго шырокай мастацкай назапашанасці. Заўважна, што апошнім часам, з увагі да яго здароўя, новыя выданні паэта з'яўляюцца з дапамогай дабраахвотных і бескарыслівых складальнікаў. Вось і гэтая кніга, якую я хачу абгаварыць, таксама сабраная Наталляй Давыдзенка, паэткай і адмысловым рэдактарам.

Выданне "Толькі б яўрэі былі!.." складзена з пашанотай і ўдзячнасцю да тых людзей, з якімі Рыгора Іванавіча, так ці іначай, звязвалі жыццёвыя і творчыя стасункі. Зборнік (усё ж лепш яго назваць зборнікам) выглядае арыгінальным і ў той жа час гарманічна цэласным, не зважаючы на адрозныя па змесце раздзелы: эсэ, пераклады і вершы-прысвячэнні... А галоўнае, што сама ідэя, безумоўна, цікавая і вартая ўвасаблення. А ўлічваючы, што пенсійнаму паэту на свае зберажэнні кніжку цяпер выдаць цяжка, мне здаецца, Рыгор Іванавіч пагадзіўся на прапанову прыхільнікаў без асаблівай упартасці. Магчыма, нават з задавальненнем. Бо насамрэч, назбіралася ў яго за доўгае творчае жыццё даволі шмат адметных тэкстаў і твораў, звязаных з беларускімі творцамі яўрэйскай нацыянальнасці. Што таксама праўда, то ўсе яны, за рэдкім выключэннем, ужо друкаваліся ў перыёдыцы ці ў папярэдніх шматлікіх выданнях і перавыданнях Р. Барадуліна.

Вычытаў нядаўна на сайце адзін каментар адносна згадкі ў "Жывым часопісе" дакументальнага фільма, знятага французамі пра народжанага ў Беларусі (у Смілавічах) мастака яўрэйскай нацыянальнасці Хаіма Суціна: "Беларусы добра растуць на чужой глебе, нават, калі яны жыды". Напэўна, мала хто адважыцца папракнуць мяне ў негатыўным стаўленні да якой-небудзь нацыі ці народнасці, у тым ліку да яўрэяў. Да іх у мяне з дзяцінства быў цёплы і прыязны піетэт, бо яшчэ ў малалецтве бацькі распавядалі пра беднаватых, хітрых, але такіх незаменных жыдоў, што жылі і ў нашай вёсцы, трымаючы невялічкую крамку, дзе можна было купіць г*а*зу і такую смакату як селядца ў лоі... Няма лепшай ежы да беларускай бульбы! Асабліва па тым, крэсавым часе. А мама дзяўчом сябравала з равесніцамі-яўрэйкамі... Пасля прыйшлі саветы, а за імі – вайна, смерць і рэзрух... Яўрэі ад нас сышлі, але баюся, што недалёка, бо і ў Клецку, і ў некалькіх вёсках раёна ёсць ушанаваныя іх захаванні пасля фашыстоўскіх расстрэлаў... Самае вялікае гумно ў маёй роднай вёсцы, якое так і называлася – Іцкава, разбурылася толькі ў сярэдзіне шасцідзясятых... з-за калгаснай недагледжанасці... Як сёння памятаю, мы, дзеці, вясной 1961 года, ускараскаўшыся на яго высокую саламяную страху, углядваліся ў неба, вышукваючы ў яго глыбокай сіняве трымтліва-прыцягальны космас Гагарына... Мы ж тады і крайком вока не бачылі (ды што там, і ўяўляць не маглі) лятаючых кароў Марка Шагала, але ўжо з вяршыні таго яўрэйскага гумна зорыліся ў замройную высь...

А вось што да свайго крэўнага, дык памятаю, як малады, таленавіты, але ўжо тады амбітны прыхільнік класічнай рускай літаратуры Андрэй Федарэнка іранізаваў адносна рэдакцыі "элітарнага" часопіса "Крыніца", маўляў, там працуюць усе на "іч" "Акудовіч, Галубовіч, Разановіч..." Дзесьці ў душы нават прыемна было, бо, як-ніяк, а гэта ўжо быў прыхаваны сімвалічны намёк на твой сапраўдны талент. А вось спадар Леанід Маракоў, калі я, прачытаўшы яго ўспаміны пра дзеда, намякнуў у адной са сваіх зацемак на яго родавае яўрэйства, вельмі абурыўся... Давялося прасіць прабачэння. Бывае. І тут нельга не ўспомніць выдатныя радкі з верша Рыгора Барадуліна, змешчанага ў гэтым зборніку:

Чый Бог
Адзін за ўсіх хварэе,

Смяецца з нашых звадаў лёс.
Бо ў старасці мы ўсе –
Яўрэі,
Як малады Ісус Хрыстос.

Вядома, што аўтар меў на ўвазе глыбокую сутнасць чалавека, але тут ёсць над чым задумацца і ў сэнсе глабальнай праблемы людскога выжывання ў цэлым. Гармоніі суіснавання і паразумення расаў, нацый, культур і менталітэтаў, паколькі "ўсе мы разам ляцім да зор"...

Аднак пачнем спачатку. Пасля (падзячнага аўтару) ўступнага слова цяперашняга амерыканца Вінкарэма Нікіфаровіча, сам Рыгор Барадулін адкрывае зборнік "тлумачальным" артыкулам пра яго задуму і галоўны пасыл. У гэтым загалоўным эсэ, якое і дало назву ўсёй кнізе, Рыгор Іванавіч даволі шырока цытуе вытрымкі з "ксёнжкі" Змітрака Бядулі "Жыды Беларусі" (1918), якія, на думку паэта і, дадам, на маю таксама, "гучаць даволі сучасна":

"У пэрыядзе амерцьвення беларускаго нацыянальнаго асьведамлення, жыды, як і самі Беларусы, хоць добра ведалі беларускую мову, але глядзелі на яе як на "мужыцкую", і, русіфікуючыя самі, нісьвядома служылі русіфікатарскай ідэі Вялікаросіі. Але гэта быў той багаты кляс, каторы атрымаў сваю навуку ў расійскіх школах, а што тычыцца простых местачковых жыхароў, то апрача роднай мовы яны ведаюць толькі беларускую. Ад самага пачатку беларускага адраджэння, амаль ні побач з першымі піянэрамі беларускага руху пайшлі, хоць і ў малым ліку, і жыды, выйшоўшыя з вёскі; хаця шырэйшыя інтэлігентныя масы жыдоўства, асабліва ў местах, ні могуць ішчэ пазбыцца сукцэсаў расійскага тут уладання і ўсё ішчэ служаць праваднікамі русіфікацыі." (...) І гэта і пра яўрэяў, і пра нас, братоў, беларусаў. Час бяжыць хутка, а гісторыя змяняецца марудна. А калі й змяняецца, дык не на нашу карысць, на карысць Беларушчыны", – абсалютна правільна высноўвае з прыведзенай вышэй бядулінскай цытацыі сучасны Рыгор Барадулін. Дадам, што гэтае эсэ напісана ім у 2000 годзе.

Агулам Рыгор Іванавіч піша пра яўрэяў з такой непадробнай шчырасцю, з такой любоўю і з такім болем, міжвольна выяўляючы з іх і прыроду самога сябе...

Заўважу, што, на маю думку, гэты артыкул найбольш значны, глыбокі і ідэйна абгрунтаваны ў гэтай кніжцы. Па арыгінальнасці ж і цікавасці ў мастацкім плане не саступае яму і эсэ пра сустрэчы з мастаком, даўно афранцужаным, Барысам Заборавым: "Як у п'янку, уцягваешся ў Парыж..." Вось дзве вытрымкі. Першая: "Барыс неяк прызнаваўся, што пабойваецца ехаць у Беларусь: тое, што жыве ў душы, што жывіць памяць, можа імгненна памерці (эфект ускрытай муміі), яго можа ўжо не быць, не існаваць, таго паветра, тых пахаў. А мастака праследуе пах цёплага пылу на летніх вясковых вуліцах. Між іншым, прыйшло мне на памяць, як баяўся Шагал сустрэчы з родным Віцебскам, бо ён жа пранёс свой Віцебск праз усё жыццё. Ягоны, шагалаўскі, Віцебск застаўся жыць на палотнах. У Барыса Заборава свая Беларусь. Ён баіцца яе страціць, убачыўшы не такой, якая жыве ў ім". І другая: "Слухаў я Барыса Заборава і міжволі думаў, колькі паразгублялі мы талентаў, аддалі іншым народам, іншым культурам. Ці гэта чэрствасць, ці няўменне ацаніць дадзеную нам Богам набыць? Шчодрасцю гэта ніяк нельга назваць. Няўжо Беларусь толькі і будзе рабіць, што раскідваць скарбы свае і карміць выхадцаў сваіх настальгіяй?" Пытанне, як прынята казаць, вечнае і безадказнае.

Арыгінальныя згадкі і ў эсэ пра блізкае сяброўства з паэтам Навумам Кіслікам і паразумелыя ўзаемаадносіны з вядомым крытыкам Рыгорам Бярозкіным. Праз іронію і добразычлівую показку-ўсмешку няўзнак даюцца вельмі трапныя творчыя і чалавечыя характарыстыкі таварышам-літаратарам, нязмушана выпісваюцца іх

неардынарнасць і агульнакультурная значнасць і запатрабаванасць, як савецкім (Заір Азгур), так і ўласна беларускім (Змітрок Бядуля) часам.

І нейк няёмка робіцца пры чытанні, калі ўсё ж натыкаецца вока на неабачліва непрыхаваныя (вульгарнаватыя) барадулінскія супастаўленні ці параўнанні.

Скажам, пішучы пра Навума Кісліка, ён раптам апускаецца ледзь не да завугольнага абгаворвання: "Неяк выдатны паэт і вялікі прыхільнік Бахуса Сцяпан Гаўрусёў прынёс Навуму на пераклад верш з рэфрэнам – слава КПСС! І Навум тут жа прачытаў першы слупок у сваёй рэдакцыі:

Вып'ю паўлітра гарэлкі,
Выйду я ў цёмны лес.
Вырачу страшна зенкі –
Слава КПСС!"

Гэтак Барадулін, не зважаючы на яго засцерагальны ў адносінах да Гаўрусёва эпітэт "выдатны", саркастычна характарызуе беларускага паэта (дарэчы, перагартаўшы зборнікі С. Гаўрусёва, я так нідзе і не натыкнуўся на згаданы камуністычны рэфрэн, хоць, крый Божа, ніяк не хачу выдаць Сцяпана Захаравіча за ідэйнага непагрэшніка). А ўслед за гэтым пасажам вось так, імпэтна і з тонкай іроніяй, падае ён падобную показку пра іншых паэтаў: "У Дубултах, што ў Латвіі, цёплай балтыйскай восенню вырашылі Кіслік і Левітанскі выпіць на прыродзе. Выпіць было што, а закусі купіць забыліся. Бачаць яблыньку, якая засталася ад старой сядзібы непадалёк ад шматпавярховага Дома творчасці. Пачалі калаціць. Апала колькі яблыкаў. Закусваюць. Глядзяць, а з далекаватай будыніны нехта праз вакно грозіцца кулаком. Юрый тлумачыць Навуму:

– Ведаеш, чаго злуецца латыш? Ён думае, што мы рускія..."

Усё было б вельмі дасціпна, калі б такія нацыянальныя, няхай і замаскірававыя налётам гумару, ацэнкі (паэта-беларуса і паэтаў-яўрэяў) не выстаўляліся перад чытачом поруч – як бы для супастаўлення. Бо я не памятаю, каб дзе Рыгор Іванавіч "занізіў" статус яўрэйскага творцы. Вось сказ да творчай характарыстыкі ўсё таго ж Н. Кісліка: "Цяпер гаспадар кватэры, раней цеснай ад гасцей, болей самотнічае з тэлевізарам, з кнігай, без якой нельга ўявіць паэта – лепшага знаўцы расійскай мовы, лепшага майстра расійскага верша, лепшага стыліста..."

Шчыра дзякуючы многім яўрэйскім дзеячам нашай культуры і літаратуры за іх мастацкі плён, укладзены імі ў скарбонку нашай гістарычнай спадчыны, не-не, ды выслізне вужом непадуладная думка, што мог бы ён быць і больш значным (у звязку з нашай мовай найперш, ды і са сваёй, іхняй, таксама). Альбо, скажам, чаму за мяжой вядомыя яўрэйскія творцы (выхадцы з Беларусі) рэдка ўпамінаюцца як "беларускія" (згаданага мной Хаіма Суціна называюць яўрэйскім, а то і польскім мастаком)... А з іншага боку, прыглядзеўшыся ўважлівей, хіба мастацтва Марка Шагала беларускае па нацыянальным духу, найчасцей больш прыземленым, у адрозненне ад узнёслай вобразнасці яўрэйскага мастака з сусветным імем? І ў той жа час нельга не заўважыць нацыянальнай глыбіні ў творчасці Змітрака Бядулі, Ізі Харыка, пра якіх піша Р. Барадулін.

Так, кожная нацыя і народ маюць права на абагаўленне, але не будзем забываць, што ў кожнай з іх былі і, на жаль, ёсць свае хрыстапрадаўцы. Дзеля гэтага можна зазірнуць не толькі ў яшчэ неадбалелыя сталінскія часы, але і ў сённяшні дзень (цікава нават, у якім палітычным лагеры ці літаратурным саюзе няма сяброў той ці іншай нацыянальнасці?)... Але не будзем дзяцінець да поўнага глупства і наіўна-безаглядна гуляцца ў "класікаў-рэвізіяністаў". Будзем паважліва і з любоўю ставіцца да кожнага боскага стварэння, да чалавека – асабліва. Бо ўсе мы з гліны, метафарычна кажучы. А які ў нас нос – справа погляду і ўспрымання асобна ўзятага закамлексаванага на насах індывіда. І

добра, што складальнік зборніка ўключыла ў яго змест вось гэты верш Рыгора Барадуліна:

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім вершы свае на ідыш?
Ці ветру ў полі,
Ці дрэву, якому журба дагінае голле?
Верш кожны на ідыш,
Як той падкідыш, –
Прылашчыць няма каму.
..........................................................
...Кнігаўкамі сумнакрылымі
Кніжкі яўрэйскія на брук ляцелі
Перад чарговай вайною.

...Гляджу на кнігавак беларускіх
І тых сумнакрылых выгнанак
Успамінаю з бездапаможнай віною.
Успамінаю й баюся.

...Вольна жывецца ў скрусе
На Беларусі...

Ясней яснага: і яўрэі, і беларусы – браты адной бяды.

Варта назваць і ўсіх тых творцаў, апроч згаданых вышэй, пра якіх хораша і таленавіта напісана ў зборніку Р. Барадуліным (Хаім Мальцінскі, Рыгор Рэлес, Давід Сімановіч) альбо ім жа перакладзеных (Бялік Хаім Нахман, Надзір Мошэ, Гардон Міхл, Кацнельсон Іцык, Рэйзін Рува, Каган Сара, Шведзік Генадзь, Талалай Леў, Барсук Захар, Платнер Ісак). Вельмі шмат досціпу і чалавечага цяпла ў рубрыцы вершаваных прысвячэнняў "Паплечнікам па духу, сябрам па жыцці", хоць там сустракаюцца і праявы асабіста-альбомнага і проста камернага стылю. Адным словам, зборнік чытэльны, хоць і прыкметна спецыфічны, як і ўсё, да чаго прыклалася рука такога літаратурнага майстра, як Рыгор Барадулін.

На гэтай шчымлівай ноце можна было б і скончыць гаворку. Але вось, дайшоўшы да вышэй працытаваных радкоў верша (*** "Апошнія паэты яўрэйскія..."), раптам як праяснілася, адкуль мяне ўвесь час неадчэпна падточвала стрэмка чытацкага раздражнення. Уся справа ў назве зборніка. Менавіта і толькі ў ёй. Бо калі назоў артыкула "Толькі б яўрэі былі!" абсалютна апраўданы яго зместам і своеасаблівымі ўводзінамі ў кнігу, то ці адпавядае гэтай жа назве ўся высокадухоўная (а значыць, і агульначалавечая) ідэя зборніка цалкам, тым больш, што сама кніга разлічана на беларускага ці, скажам, найперш на беларускамоўнага чытача?.. Не прыніжаючы свайго піетэта да народнага паэта, скажу, што такая назва падаецца мне занадта прэтэнцыёзнай. Бо што тычыцца яўрэяў, дык жылі яны ў Беларусі здаўна, жывуць сёння і, дасць Бог, будуць жыць і заўтра... І "няхай сабе – як піша аўтар, – жыд будзе называцца яўрэем. Толькі б яўрэі былі!" І ў гэтым у мяне няма ні каліва сумневу. Айчына нашая талерантная і чалавекалюбівая. Хіба ад сябе наўслед па-тутэйшы, як з-пад лаўкі, ціхенька дадам: толькі б тут беларусы былі!..

крытыка

Дзяніс Марціновіч



...нацыянальная літаратура
павінна аб'ядноўваць
беларускамоўны сегмент грамадства...

# Незалежная Рэспубліка Мроя. Перазагрузка.

***Вольскі Лявон. Міларусь: апавяданні, аповесць. – Мінск: Медиал, 2011. – 180 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў, «Кнігарня пісьменніка», выпуск 11.)***

Якім чынам чытачы даведваюцца пра з'яўленне новых беларускамоўных кніг? Як падказвае мой досвед, найбольш часта маюць месца тры сітуацыі: інфармацыйны матэрыял у інтэрнэце, рэцэнзія літаратурнага крытыка ў адным з выданняў, кніга, убачаная на паліцы кнігарні. У сітуацыі з выданнем Л. Вольскага сутыкнуўся з рэдкім выпадкам: расказваючы сваім знаёмым пра зборнік, прапанаваны для рэцэнзіі, чуў у адказ, што "Міларусь" ужо бачылі ў горадзе то ў аднаго, то ў другога чытача.

Зрэшты, у выпадку з Л. Вольскім нічога дзіўнага няма. Якраз наадварот, аўтар зборніка даўно стаў пазнавальнай асобай, нават брэндам, якому не патрабуецца дадатковы піяр. Унук драматурга, літаратуразнаўцы і краязнаўцы Віталя Вольскага, сын пісьменніка Артура Вольскага, Лявон атрымаў найбольшую вядомасць як беларускі музыка, заснаваль-




нік і лідар гуртоў “Мроя”, “Незалежная Рэспубліка Мроя” (“N.R.M.”), “Крамбамбуля”. Спыняцца на падрабязнасцях біяграфіі Л. Вольскага – азначае пісаць гісторыю айчыннай рок-музыкі.

Аднак творца праявіў сябе не толькі ў музычнай сферы. “Яшчэ з дзяцінства я ўвесь час нешта пісаў, – прызнаваўся Лявон. – Вершы, апавяданні... Бо як можна было не пісаць, калі ў цябе бацькі – пісьменнікі, і ўвесь працэс праходзіць перад тваімі вачыма? Напачатку пісаў “для сябе”, потым паціху пачаў друкавацца. Паціху – бо неяк не планаваў для сябе літаратурнай кар’еры”. Тым не менш у 1990-я гады ў Вольскага выйшлі зборнікі паэзіі “Калідор” (1993) і “Фотаальбом” (1998). Мелі месца і пошукі ў галіне прозы. Іх вынікамі сталі трынаццаць апавяданняў і аповесць “Пакуль сабачка жывы”, што склалі празаічны зборнік “Міларусь”.

У прадмове да сваёй першай празаічнай кнігі Л. Вольскі адзначыў, што ўключаныя ў яе творы пісаліся на працягу “больш як дваццаці гадоў творчай працы”. Тым не менш, пры чытанні “Міларусі” складваецца ўражанне, што кніга напісана ў больш сціслы прамежак часу, дакладней, у канцы 1980-х – 1990-я гады. Прычым уражанне ад іх увасаблення дастаткова супярэчлівае. З аднаго боку, аўтар удала перадае атмасферу таго часу: адчуванне волі і адначасова нястачу, адкрыццё Беларусі (кшталту святкавання Купалля) і паездкі “чаўнаком” у Польшчу (аповесць “Пакуль сабачка жыве”), праявы савецкага мінулага (напрыклад, вобраз журналіста Сцяпана Пятровіча ў апавяданні “Табе гамон”) і новых тэндэнцый у грамадскім жыцці: радыёстанцыя, у якой працуе Алесь (“Пакуль сабачка жыве”), трымаецца “тарашкевіцы”. Стыль прозы Лявона Вольскага нечакана лёгкі. У ім шмат гумару, дасціпных заўваг, іроніі, якія часам пераходзяць у рэчышча сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці, няўрымслівая фантазія мяжуе з гіперрэалізмам. Дастаткова згадаць апавяданне, якое дало назву зборніку.

З другога боку, інтэрпрэтацыя тагачаснай рэчаіснасці ў нечым абмежаваная. На маю думку, раскрыты далёка не ўсе вобразы герояў. Ва ўсіх творах Вольскага дзейнічаюць некалькі тыпажоў. Першы з іх моцны, самасвядомы, упэўнены ў сабе, паспяховы беларускамоўны мужчына, які, нібыта герой таннага баявіка, увесь час трапляе ў бойкі і канфліктныя сітуацыі, але заўсёды (ці амаль заўсёды) застаецца жывы (Сяргей – “Сяргей і Сяржук”, капітан Чарскі – “Экспедыцыя”, Зміцер – “Новая кватэра Казімера”, Алесь – “Пакуль сабачка жыве”). Другі – кволы, няўпэўнены ў сабе, непаспяховы беларускамоўны інтэлігент, які імкнецца пазбягаць любой бойкі, але перыядычна ў іх трапляе (Сяржук – “Сяргей і Сяржук”, безымянны герой “Экспедыцыі”, Званіцкі – “Камэта”, Казімер – “Новая кватэра Казімера”, Кастусь – “Міларусь”, Літаратар – “Уцёкі”, Ясь – “Пакуль сабачка жыве”). Трэці тыпаж – крохкая, самасвядомая, цягавітая, беларускамоўная дзяўчына/жанчына, якая жыве з кволым, самасвядомым і г.д. інтэлігентам або сімпатызуе яму, у рэшце рэшт не вытрымлівае такога жыцця і часцей за ўсё сыходзіць ад яго (ці хоча сысці, але яе муж апярэджвае яе) (Марыля – “Экспедыцыя”, Яна – “Уцёкі”, Насця – “Мандарынка”, Воля і Яніна – “Пакуль сабачка жыве”). Чацвёрты тыпаж – моцны, несвядомы, упэўнены ў сабе, безымянны рускамоўны “качок”, які з’яўляецца героем таннага баевіка, увесь час правакуе ўсіх герояў-мужчынаў на бойкі, але пакідае іх жывымі, бо тыя ж тыпажы павінны дзейнічаць у наступных творах (*гл.* большасць апавяданняў). Застаецца дадаць, што знешнасць ніводнага з герояў не апісваецца. І толькі асобныя з іх, кшталту Бэрнара (“Мандарынка”) неяк змяняюцца. Але нават у гэтага героя назіраецца

эвалюцыя з няўпэўненага свядомага беларуса ва ўпэўненага свядомага беларуса. Амаль усе астатнія – масоўка.

Па-другое, у творах зашмат месца аддаецца выкладанню палітычных поглядаў Л. Вольскага і яго стаўлення да рэчаіснасці. Некаторыя з іх увасоблены ў жартаўлівай форме, але большасць падаюцца ўсур'ёз. Што ж тут дрэннага, запытаецца чытач? На маю думку, мастацтва і палітыка з'яўляюцца супрацьлеглымі паняццямі. Калі творца вагаецца "быць альбо не быць?", палітык упэўнены адказвае "быць!" і нават падказвае як. Ці не збіраецца тады аўтар гэтых радкоў перашкаджаць Л. Вольскаму выказваць уласную грамадзянскую пазіцыю? Але, акрамя літаратуры, для гэтага існуе шэраг іншых магчымасцяў. На маю думку, ідэальнымі ўмовамі для стварэння вялікага твора з'яўляюцца дзве сітуацыі. Па-першае, аўтар ніяк ці амаль ніяк не праяўляе сваю палітычную пазіцыю ў творчасці. Напрыклад, Дантэ з'яўляўся прадстаўніком гвельфаў (прыхільнікаў Папы Рымскага), якія змагаліся з гібелінамі (прыхільнікамі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі). А Пётр Чайкоўскі – фанатычным манархістам (і гэта ў час контррэформ Аляксандра III, калі, паводле словаў Блока, "Победоносцев над Россией простёр совиные крыла"). Скажыце, наколькі прынцыпова падчас чытання "Боскай камедыі" ці прагляда ў тэатры "Лебядзінага возера" ведаць палітычную арыентацыю іх аўтараў? Па-другое, аўтар праяўляе сваю пазіцыю, але робіць гэта на такім глыбокім мастацкім узроўні, што ў чытача не застаецца сумненняў у слушнасці поглядаў галоўных герояў. Напрыклад, хто пасля рамана Хэмінгуэя "Па кім звоніць звон" можа выказваць сімпатыі да фашыстаў на чале з генералам Франка?

Да чаго прыводзіць у дадзеным выпадку падыход Л. Вольскага? Чытачу адразу навязваецца пэўная пазіцыя, якая падаецца як адзіная правільная і слушная. Пры гэтым на шматлікія супярэчнасці, складанасці чалавечага жыцця проста не звяртаецца ўвага. Напрыклад, Сяргей Пятровіч, галоўны герой апавядання "Табе гамон", падтрымлівае афіцыйную палітыку, а яго сын – не. Але аўтар толькі канстатуе гэту акалічнасць, хоць непаразуменне ў сям'і магло стаць падставай для куды больш сур'ёзных развагаў.

Акрамя таго, існуе яшчэ адна акалічнасць. Каб далей пазбегнуць абвінавачвання ў празмернай катэгарычнасці, працытую выказванне Сяргея Дубаўца, прысвечанае праблемам ужывання "тарашкевіцы": "Трэба прызнаць, што мы, ініцыятары "тарашкевіцы", за мінулыя 20 гадоў так і не здолелі стварыць уласнага адзінага руху. Наадварот, сёння мы ператварыліся ў секту, бо абралі для існавання паралельны свет. (...). Калі ў часы перабудовы мы на агульнанацыянальным узроўні патрабавалі вярнуць традыцыйную назву сталіцы — "Менск" і іншых гарадоў, дык сёння нам дастаткова таго, што мы так пішам у сваіх асяродках, тым часам ва ўсебеларускай дыскусіі гэтае пытанне ўжо даўно не стаіць". А цяпер спраецыруем гэтую думку на літаратуру. Празмерная палітызацыя твораў аўтаматычна адштурхоўвае ад іх тых чытачоў, якія не падзяляюць пазіцыю аўтара. Між тым, як падаецца, нацыянальная літаратура якраз і павінна аб'ядноўваць беларускамоўны сегмент грамадства.

Па-трэцяе, абмежаванасць інтэрпрэтацыі рэчаіснасці выяўляецца, на маю думку, у дамінаванні бытапісальніцтва мінулага. Для больш разгорнутага тлумачэння думкі будзе вельмі дарэчы прыгадаць выказванне Андрэя Федарэнкі пра Янку Брыля. У адным з інтэрв'ю маладзейшы пісьменнік выказаў наступнае меркаванне: "Я ніколі не разглядаў Брыля як рэаліста ў поўным сэнсе гэтага слова. У ягоных карацельках цалкам адсутнічаў вымысел. Гэта не ёсць сапраўдны рэалізм. Ён пісаў тое, што бачыў. Я ведаю, што мая думка будзе разыходзіцца з агульнапрынятай, але я не лічыў яго пісьменнікам у чыстым выглядзе. Брыль не ўмеў выдумляць, а пісьменнік у вялікай ступені – гэта выдумшчык. Брыль быў бытапісальнікам.

Ён вёў дзённік жыцця, друкаваў яго, не перапрацоўваючы. І дзякуючы гэтаму, ён пражыў такі доўгі век. Брыль правільна размяркоўваў жыццё, ён ніколі не перапрацоўваўся. Гляджу ў акно, пішу, што бачу, друкую гэта, нармальна пачуваюся – вось як пісаў Брыль". (Дадам ад сябе, што мініяцюры, якія Брыль пачаў пісаць з сэрэдзіны 1960-х гадоў, складалі малую частку яго творчасці і толькі з часам і ўзростам аўтара пачалі дамінаваць у яго творчым набытку. Але гаворка ў дадзенай рэцэнзіі ўсё ж такі пра іншае).

На маю думку, працытаванае выказванне надзвычай добра тлумачыць філасофію пісьменніцкай творчасці Лявона Вольскага. Уключаныя ў "Міларусь" творы надзвычай блізкія і адпаведныя адзін аднаму, таму можна казаць пра стылёвае адзінства зборніка. Але тэрмін у два дзесяцігоддзі з'яўляецца дастаткова доўгай дыстанцыяй, падчас якой некаторыя пісьменнікі неаднойчы паспявалі змяніць творчую манеру ці ўласны светапогляд. Цалкам магчыма, што Л. Вольскі стварыў частку сваіх твораў (ці большасць з іх) менавіта ў 1990-я, бо на старонках зборніка перададзены менавіта той час.

Калі б апавяданні былі надрукаваныя ў тое дзесяцігоддзе, аўтар заслужыў бы пахвалу ўласнай назіральнасці. Але цяпер, з вышыні 10-20-гадовай дыстанцыі гэтага, на маю думку, ужо недастаткова. Уявіце: вы прыйшлі ў бібліятэку і папрасілі кнігу, якая адлюстроўвае эпоху канца 1920-х гадоў. І вось замест рамана Івана Мележа "Людзі на балоце" вам прынеслі газетную падшыўку за той час. Прыкладна тое ж мне бачыцца і пры чытанні зборніка "Міларусь". Згаджуся, асобным чытачам, равеснікам Л. Вольскага, чыя маладосць супала з 1990-мі гадамі, будзе надзвычай цікава перанесціся ў той час. Але і для больш сталага, і для маладзейшага пакалення, і наогул, для будучых чытачоў неабходна менавіта асэнсаванне і перасэнсаванне таго дзесяцігоддзя. Згаджуся, яно прысутнічае ў асобных творах. Напрыклад, у апавяданні "Затапленне" галоўны герой Віталь разам з дзяўчынай і хатнімі жывёламі пакідае горад на "велізарным кодабе ад нейкага магутнага грузавога аўтамабіля", які амаль цалкам затоплены вадой. Чым не паралель з біблейскім Ноем?

Па-рознаму можна інтэрпрэтаваць вобраз "кватэры Казіміра" ў аднайменным апавяданні. Згодна сюжэту, сябры Казіміра працуюць над афармленнем і рамонтам кватэры свайго сябра. Святкаванне так зацягваецца, што яны губляюць адчуванне часу і рэальнасці. А ў выніку галоўны герой не можа трапіць у сваё жыллё, бо падчас яго адсутнасці месца ўжо заняла нейкая фірма. Здавалася б, цудоўны вобраз беларускага Адраджэння, "прафуканага" за высокімі размовамі. Згодна сюжэту, сябры Казіміра чамусьці трапляюць у нейкі "велізарны спічасты будынак". Па чарзе заходзяць за дзверы і больш адтуль не вяртаюцца. Магчыма, Л. Вольскі зашыфраваў такім чынам сімвал эміграцыі? А павароты ў лёсах герояў з'яўляюцца пунктырамі іх будучага жыцця? Напрыклад, Алесь трапляе на вайну, Францішак і Хрысціна – у краіну кахання, Зміцер – у Бруклін. Але шэраг дэталяў і вобразаў апавядання ніяк не патлумачаны і не даведзены да лагічнага завяршэння. Напрыклад, будучыня закаханай пары і новага "амерыканца" акрэслена, а вось Алеся – не. У яго рукі без нейкіх тлумачэнняў трапляе аўтамат, ён пачынае страляць па мішэнях, падбівае з аўтамата самалёт... Але потым на героя рушыць танк. Алесь вымушаны ад яго ратавацца, пасля чаго сюжэтная нітка абрываецца, і што ў выніку адбылося з героем, так і застаецца невядомым. Або іншы прыклад. У сітуацыі са Зміцерам чытачу паведамляюць, што ў яго ёсць прыгажуня-жонка і "двухпавярховы маёнтак". Калі ён паспеў узяць шлюб? Астатнія героі тым часам толькі разважаюць пра свае перспектывы. Такім чынам, пераасэнсаванне эпохі 1990-х гадоў прадстаўлена ў дастаткова сціплай форме. У "Міларусі" пераважаюць бытавыя гісторыі пра "свядомых" і "несвядомых", беларускамоўных і рускамоўных, імкненне эміграваць або застацца на радзіме і г.д.

Якім чынам патлумачыць менавіта такія высновы? Мяркую, будзе дарэчы звярнуцца да музычнай біяграфіі творцы. На маю думку, сакрэт папулярнасці любога гурта (і “N.R.M.” тут не выключэнне) звязаны з тым, што яго выканаўцы здолелі ўвасобіць у сваіх песнях час і перадаць думкі пэўнага пакалення. Слова ў спалучэнні з музыкай мае надзвычай глыбокае ўздзеянне і эфект. Але яно патрабуе імгненнай рэакцыі слухачоў і не прадугледжвае пераасэнсаванне тэкстаў на працягу дзесяцігоддзя. Вынікі творчых пошукаў Лявона і яго аднадумцаў па “N.R.M.” карысталіся надзвычайнай папулярнасцю ў 1990-я і дасягнулі найвялікшага ўздыму на мяжы стагоддзяў. Але потым, як заўсёды бывае, прыйшла іншая эпоха са сваімі героямі і ўласнай сістэмай каштоўнасцяў, і папулярнасць спевакоў пакрысе пайшла на спад. Нічога дзіўнага тут няма, бо большасць творцаў не могуць паспець за імклівым і хуткаплынным часам і часцей за ўсё застаюцца ў той эпосе, у якой прыдбалі найбольшае прызнанне.

Зборнік “Міларусь” стаў для Л. Вольскага працягам яго ранейшай творчай кар’еры, толькі ўвасобленай у іншым жанры. На маю думку, найбольшая каштоўнасць прозы гэтага аўтара заключаецца ў тым, што ён здолеў увасобіць у сваіх тэкстах атмасферу няпэўнасці, разгубленасці грамадства, якое ў 1990-я гады не вызначыла шляхі свайго далейшага развіцця. Таму, калі ў некаторай катэгорыі чытачоў і занудлівых крытыкаў яшчэ ўзнікнуць пэўныя пытанні, то адданыя фанаты “N.R.M.” і “дзеці перабудовы” атрымаюць ад кнігі сапраўднае задавальненне.

Ірына Шаўлякова



…найбольш зацята, нібы за апошні «лапік» беларушчыны, многія паэты змагаюцца за права на самотнасць…

# Сакральная вайна

## *Самотны паэтычны дэтэктыў…*

***Данільчык. А. “Сон, які немагчыма забараніць” : вершы / Аксана Данільчык. — Мінск: “Кнігазбор”, 2011. — 168 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 15.)***

Не паспее беларускі паэт дамагчыся часовай перамогі над роднай самотай, як нялітасцівы (асабліва да яшчэ маладых ды нязменна прагрэсіўных) творчы лёс выпісвае яму нарад на змаганне з экзістэнцыйным еўрапейскім смуткам. Найчасцей, аднак, барацьба вядзецца адразу на два франты. Без перадышак. Тэрміны канчатковай — так бы мовіць, “незваротнай” — перамогі прагназаваць немагчыма. Бо найбольш зацята, нібы за апошні “лапік” беларушчыны, многія паэты (асабліва з нязменна маладых ды яшчэ прагрэсіўных) змагаюцца за права на самотнасць.

Калі меркаваць па кнізе Аксаны Данільчык “Сон, які немагчыма забараніць”, да моманту з’яўлення трэцяга паэтычнага зборніка творца апынуўся блізу эпіцэнтру згаданай вышэй “сакральнай вайны”. Насамрэч у адпаведных баявых дзеяннях бярэ ўдзел пераважная большасць прадстаўнікоў

так званага сярэдзіннага паэтычнага пакалення — volens яны таго, ці яны nolens. Унікальнасць сітуацыі, "уласнаручна" створанай А. Данільчык, заключаецца ў адначасовай *улучаснасці* паэта ў калектыўную змагарную справу — і відавочнай адчужанасці, "ветлівай", але цвёрдай адстароненасці ад валтузні з роднай самотай і чужым смуткам. Гэта не ёсць пазіцыя чыстага сузірання, нуль-дзеяння. Наадварот: менавіта своеасаблівая над-староненасць лірычнай гераіні новай кнігі А. Данільчык у дачыненні да свету не толькі "вонкавага" ("Мне цесна ў межах быцційнай прабіркі, // і я выплёскваюся цераз край" ("Маніякальна-дэпрэсіўны сіндром")), але і "ўнутранага" ("...гэта я, назіральнік староннi // за сваім уласным жыццём..." ("***Небам, небам — апошняе ззянне...")) парадаксальным чынам паўстае ўмовай яе жыццядзейснасці. Умову гэту можна лічыць галоўнай, але не адзінай сутнасна важнай, бо толькі "...адсутнасць слоў і ёсць мая адсутнасць" ("***Не я, не я — настойліва-рытмічна...").

"Сон, які немагчыма забараніць" складаецца з трох раздзелаў: "Вакзал: дзень наступны" (тут, у сваю чаргу, вершы размеркаваныя па шасці нумараваных рымскімі лічбамі нізках), "Нараджэнне", "Італіі з любоўю. All'Italia con amore. Пераклады". Паводле законаў, якімі рэгулююцца снабачанні, згаданыя часткі кнігі А. Данільчык маглі б прэтэндаваць на статус вершаванай аўтаноміі (найперш, апошні раздзел, што змяшчае пераклады вершаў чатырнаццаці італьянскіх паэтаў). Аднак злучаныя воляю аўтара ў адмысловую "канфедэрацыю", арыгінальныя ды перакладныя творы ў "Сне..." не варагуюць, але суіснуюць у ветліва-адстароненым суседстве, зрэдзьчас, праўда, абменьваючыся ледзь гучнымі (рэхападобнымі) вобразна-асацыятыўнымі "вітаннямі".

Зрэшты, калі сканцэнтравацца на форматворчых пошуках А. Данільчык, трымаючы ў полі "бакавога зроку" і папярэднія зборнікі вершаў, і плён перакладчыцкіх зацікаўленняў гэтага літаратара, заўважаеш, што ў новай кнізе тэндэнцыі да верлібрызацыі і нават да празаізацыі паэтычнага маўлення ("чужынскія" паводле паходжання) пачынаюць верхаводзіць над нязводнай сімпатыяй айчыннай паэзіі да сілаба-тонікі. Выпадкі адмысловага "перамір'я", калі перавага аддаецца змешанай тэхніцы вершавання (спалучэнню ў межах аднаго твора фрагментаў верлібавага і традыцыйнага рыфмаванага верша), адзінкавыя, але якраз з гэтай прычыны наступствы падобных "кансенсусаў" вабяць у "Сне..." цвёрдым абяцаннем нетутэйшай нетрывіяльнасці:

...заблытаная і захутаная ў дзясятак дарог
не магу знайсці тую нітку
што пакажа напрамак

дзе маё неба

адно бязлітасныя кроплі за акном
і мокры снег што робіцца дажджом
і Вільня падчаркай без парасона
хаваецца каля дзвярэй замкнёных

дзе маё неба...
"***заблытаная і захутаная ў дзясятак коўдраў..."

Гэтаксама ў адзінкавых творах з ламаным рытмам і своеасаблівай "прарыўной" рыфмай можна разгледзець (пры адпаведнай сфакусаванасці эмацыянальна-пачуццёвага "зроку"), а дакладней, прадбачыць найбольш верагодную траекторыю метафізічнага руху лірычнай гераіні — і эвалюцыю індывідуальна-творчага стылю паэта, які формулу суладдзя шукае ў карунках урбанізму, у мройлівай *гармоніі дысанансаў:*




заход праступае праз чорныя дрэвы
ні крыку ні цішыні
на барыкадах дамоў
ультрамарынава жоўты захад
не вызначаюць адказаў
ні рукі ні крылы ні дні...
*"***заход праступае праз чорныя дрэвы..."*

Разам з тым, у дачыненні да цэлага шэрагу вершаў можна гаварыць пра выразную перамогу "тамтэйшай" паэтычнай стратэгіі над "тутэйшым" тактычным лавіраванем паміж *актуальнасцю* і... *аўтэнтычнасцю*.

Так, "Імпрэсія", "***у сюррэалістычным лесе...", "Паэзія ў вялікім свеце", "***Раніца..." — замалёўкі, у якіх шматузроўневасць асацыяцый спалучаецца з выяўленчай рэльефнасцю вобразаў; у іх адметнасць інтанацыйнага малюнку вызначае прытоена-напружаны тэмпарытм; але толькі з аўтарскай ласкі (ці спецыфічна беларускага піетэту да паэзіі) яны ўганароўваюцца звання "вершаў". Затое верш "***адбіткі ў зрэнках..." на візуальна-графічным узроўні старанна "замаскіраваны" аўтарам пад прозу — і насуперак гэтаму робіць ураженне плёну выразна паэтычнага светаадчування...

На фоне халаднавата-адчужанага (на мяжы ці то з метафізічнай безуважлівасцю, ці то з класіцыстычнай грэблівасцю) стаўлення лірычнай гераіні "Сну..." да падзей, што вірують сёння ў хаосмасе generation "П" і сумежных пакаленняў, таямнічыя і разам з тым гарэзлівыя пераапрананні вершаў у прозу — і наадварот не атрымліваецца ўспрымаць як пралікі. У кантэксце "Сну..." проста не выпадае разглядаць іх інакш як дэтэктыўныя "маніпуляцыі", неабходныя аўтару ("злачынцу" і "Вялікаму Следчаму" ў адной асобе) для таго, каб трымаць чытача ў пастаяннай напрузе. Бо калі "базавымі складнікамі жанравай структуры дэтэктыва", з'яўляюцца, побач з іншымі[1], "таямніца як яго арганізуючае звяно", "камунікацыя з чытачом на грунце гульнёвага прынцыпу", "інтэлектуальнасць як форма эскапізму" (А. Мікус), дык чым ёсць "Сон, які немагчыма забараніць", як не пераапранутым у кнігу вершаў *самотным беларускім дэтэктывам*?! Прычым не простым, але, перапрашаем, "сінкрэтычным". Актуальная тэндэнцыя да гібрыдызацыі жанраў урэчаўляецца ў дадзеным выпадку ў надзвычай арыгінальнай, нават унікальнай (а ў нас зямля такая!!!) версіі.

Так, наш паэтычны дэтэктыў абсалютна законна (натуральным чынам) можа заляцацца да... батлейкі:

Гэтых злодзеяў някідкіх
у натоўпе не відно,
і ад іх усмешак брыдкіх
ратаванне ёсць адно:
павучыныя прыёмы
навучыцца заўважаць
ды інсектаў незнаёмых
да сябе не падпускаць.
*"Таямніца горада М."*

Але да творчага шлюбу самотны паэтычны дэтэктыў і ў "Сне..." ставіцца сур'ёзна, хоць да "кандыдатак" на шлюб — пераборліва. Вось ён выструньваецца насустрач фальклорна-публіцыстычнай замове: "о радзіма мая // ты як спрут // адчуваю на целе // восем шчупальцаў // заставайся са мною тут // у маіх вірах

[1] Поўны спіс агучаны ў дысертацыйным даследаванні А.М. Мікус "Дэтэктыўны жанр у сучаснай беларускай прозе: эвалюцыя, герой, паэтыка" (2011).

// у маіх барах // у маіх пясках // назаўсёды і // непадзельна // о радзіма мая" ("*** о радзіма мая..."). Пасля перакідваецца да ўмеркавана-рамантычнай (хоць і схільнай да энергічных трэнасаў) медытацыі:

Як гэта сталася так, што вяртаюцца жахі начныя,
ці гэта ўзрост, ці такой неадольнаю стала сцяна...
Светлыя сны аб нястворанай намі краіне...
Мы жылі спадзяваннем, што прыйдуць другія,
а пасля зразумелі — другія не прыйдуць без нас.

****Неба і вецер, аблокі на сонечных шалях..."*

А неўзабаве — летуценнік! — ужо маршыруе побач з сувора-рытарычнай сірвентай:

Кожны дзень
як усе я спрабую стаць:
вочы — лёд, сэрца — скрыня,
пазбаўленая ўспамінаў,
толькі вось ці магу я маўчаць,
калі ганьбяць маю краіну?..

*"***Я — легіянер..."*

Ігнаруючы антыўтопію і (цьфу, цьфу на яго!) кіберпанк у якасці аб'ектаў кароткатэрміновага флірту, заўважым, што найбольш утульна, арганічна (у сэнсе сэнсавага, вобразна-выяўленчага і рытміка-інтанацыйнага суладдзя ды пачуццёва-эмацыянальнай пераканаўчасці) адчувае сябе самотнік-лавелас у абдоймах не старой, але добрай інтымнай лірыкі:

ёсць толькі адна
магчымасць
уратаваць гэты
верш
ад самоты —
застацца нарэшце
ў кантэксце тваіх рук

*"Паэзія"*

Толькі ў таемных спратах сапраўднай пяшчоты здымаюцца маскі — без страху і пафасу: "...мы застанемся на агульных фота: // заўсёды побач і ніколі разам" (***Не я, не я — настойліва-рытмічна..."). Толькі ў пазатэкставай прасторы Любові-Кахання (якое і ёсць сном, што немагчыма забараніць), знакі становяцца рэчамі, а проза незваротна перараджаецца ў паэзію:

...і разглядаючы голкі смарагдавых кактусаў
на фоне ненатуральна-сіняга неба
распавядала б што ў некаторых выпадках "ніколі"
ёсць самай трывалай глебай
ёсць самым найправільным выйсцем найдасканалым збавеннем
белым колерам без аніякіх адценняў

*"***аднойчы я падумала што мы ніколі больш..."*

Паэзія без аніякіх адценняў — без дамешку батлейкава-маршавага дэтэктыву — у памараку змагання з нялітасцівым творчым лёсам мроіцца сучаснаму беларускаму паэту дасканалым урэчаўленнем Самоты, унутрана парадаксальным сімвалам "утульна-няўтульнага хаосу" (М. Купрэеў) тутэйшай *роднасці*.

А. Данільчык пражывае вечную гэту роднасць па-свойму — у сваім "Сне, які немагчыма забараніць". Адпаведна, кожны з чытачоў яе кнігі — безадносна да аўтарскіх надзей ды крытычных каментароў — атрымлівае шыкоўную магчымасць пабачыць сон пра сон, каторы забаронам дакладна не падлягае *(па стане айчыннай нельгалогіі на пачатак 2012 года).*

Максім Жбанкоў



... Паэт кажа праз час.
Час кажа праз паэта...

# Жыццё – мантажнае кіно

Уласна кажучы, гэта прыдумана даўно і не мной. Лёгкія радкі прызабытага цяпер Юрыя Левітанскага "Жыццё маё – кінематограф, чорна-белае кіно..." можа паўтарыць любы саўдзельнік XX стагоддзя. Таго самага – шыкоўнага і жудаснага, якое прыдумала сусветныя войны, рок-н-рол, ГУЛАГ і Галівуд. Стагоддзе амаль цалкам легла ў кіно, прапанаваўшы чалавецтву жорсткі мантаж, бязлітасную праўку нашых асабістых сцэнараў, вар'яцкі кастынг з адстрэлам "выбракаванага" матэрыялу, парад "зорак" у прэзідыуме чарговага партз'езда і шалёны саўндтрэк з "Мой адрас – Савецкі Саюз" уперамешку з "Lady Madonna". Можна зрабіць з гэтага кніжку. А можна сабраць фільм.

Працу рэжысёра-дакументаліста Віктара Корзуна наўрад ці пакажуць па дзяржаўных тэлеканалах. Аўтар нязручны: занадта незалежны. І герой "не той": Рыгор Барадулін, жывая легенда айчыннай культуры. Яе безумоўны маральны аўтарытэт, які не хавае скептычных адносінаў да цяперашняй улады.

Нязручнага кіно (колькі бурных спрэчак дагэтуль выклікае бедная "Акупацыя. Містэрыі"!) па звычцы баяцца. І

гэта не робіць гонару генералам ад культуры. Паколькі фільм з маштабнай назвай "Эпоха Барадуліна" варта было б паглядзець самай рознай публіцы: ад школьнікаў, якія засынаюць на "адрэдагаваным і выпраўленым" курсе роднай літаратуры да дзяржслужбоўцаў усіх рангаў і гасцей сталіцы. Каб успомніць, як час праходзіць скрозь лёсы. Як годна прайсці скрозь свой час. Ды і проста, каб убачыць зблізку аднаго з самых годных сучаснікаў.

Віктар Корзун нічога не дапісваў да гісторыі Барадуліна. І нічога ў ёй не выпраўляў. Ён абраў самы (як здаецца) просты шлях: праілюстраваць старой хронікай і архіўнымі фота асноўныя этапы творчай і асабістай біяграфіі свайго героя. Паслухаць яго каментары да пражытага. Падглядзець з-за пляча "дзядзькі Рыгора", як бяжыць па белай старонцы новы радок. Прыняць з рук паэта яблычак-падалку. І ні слова не дадаць ад сябе. Такая аўтарская сціпласць у наш час ідэалагічных штурмаў і інфармацыйных атак дорага каштуе. Можа таму, што гутарыць з гледачамі на роўных – спакойна і даверліва, без істэрык і завучанага сарказму – у нас амаль развучыліся.

Але менавіта гэтая ціхая пазіцыя аўтара спачатку бянтэжыць. Як жа так? А дзе бойкі закадравы каментар? Дзе рызыкоўныя рэплікі героя? Дзе, нарэшце, ідэйна вытрыманая канцоўка – выразны эмацыйны акорд пад правільным сцягам? Самы час абвінаваціць рэжысёра ў адсутнасці выразнай пазіцыі – і жорстка памыліцца. Таму што ў "Эпосе Барадуліна" галоўны рухавік сюжэту зусім не прыгажун-аўтар на фоне падтанцоўкі са сваіх герояў. Тут усё наадварот. Віктар Корзун грунтоўна і скрупулёзна выбудоўвае вакол асобы Барадуліна сэнсавую рамку са знакаў эпохі, якая мінула. Сталін і Гагарын, твіст і ракеты, апантаны Зянон на трыбуне і яшчэ нікому не вядомы вусаты дэпутат, які праводзіць поглядам паэта, што праходзіць міма... У сваёй большасці добра знаёмая хроніка. Але складзеная з няспешнымі рэплікамі Барадуліна і буйнымі планамі паэта, які сузірае на белым экране моманты свайго жыцця, яна гучыць зусім па-новаму. Паэт кажа праз час. Час кажа праз паэта. А рэжысёр толькі асістуе. Садзейнічае працэсу.

Эфект саўдзелу ў гэтай гутарцы, які ў выніку ўзнікае, парушаецца толькі зрэдку. І, як ні дзіўна, менавіта ў тыя моманты, калі аўтар адмаўляецца ад ролі сведкі і спрабуе заявіць пра сябе праз сэнсавы мантаж "карцінкі" і гуку. Тут з'яўляюцца новыя персанажы – і гэта не заўсёды на карысць. Хрыплаваты голас паэта, які чытае "Трэба дома бываць часцей...", перакрывае анёльскі хор "Песняроў" з тым жа тэкстам – відавочны перабор! Накладзены на шурпаты запіс вулічнай гутаркі прафесійна чысценькі гітарны перабор знішчае магію прамога кантакту з героем. Наогул здаецца, што акуратнага вакалу занадта шмат. Цалкам хапіла б самога Барадуліна, напеваў яго маці і віяланчэльных варыяцыяў Юліі Глушыцкай.

Пяцідзесяціхвілінны фільм здаецца даўгаватым і рыхлаватым. Але гэтыя прыдзіркі не маюць асаблівага сэнсу. Хоць бы таму, што Віктар Корзун і прадзюсар фільма Кася Камоцкая заняты вельмі важнай справай. Яны ловяць у аб'ектыў натуру, якая сыходзіць – культурных герояў старэйшага пакалення. І робяць гэта сумленна і з любоўю да сваіх персанажаў. У гэтым, у актыўнай памяці, магчыма і ёсць галоўнае апраўданне нашага пакалення перад тымі, хто жыў. І тымі, хто будзе жыць у гэтай краіне. Каб новай генерацыі не дастаўся ў спадчыну – замест адэкватна сабранага нацыянальнага іканастаса – патрапаны пачак фотак гурта "Топлес".

***Слова ад "Дзеяслова":***

Шаноўныя чытачы! Фільм "Эпоха Барадуліна" вы можаце паглядзець на дыску, які прыкладаецца да гэтага нумара часопіса...



Якуб Лапатка



…хто выракаецца свайго,

той чужога не набудзе – не дадуць…

# Вяртанкі,

***або Народныя мудрасці А. Усюкоўскага***

## Роздум першы

Усё тое, што я прапаную шаноўным маім чытачам – такое вядомае і адначасова такое новае, што патрабуе некаторых тлумачэнняў. Не падумайце, што я, падобна да іншых пісакаў, лічу сваіх чытачоў поўнымі недарэкамі, якія зжуюць любую лухту. Проста любая новая справа вымагае доказаў і тлумачэнняў. Зараз усе ведаюць і законы Ньютана, і Ома, і Лавуазье, і яшчэ шмат якіх законаў, за выключэннем крымінальнага кодэксу і правілаў дарожнага руху. З уласцівай мне пільнасцю я заўважыў, што знаёмства з крымінальнымі законамі чэсныя людзі пазбягаюць, а нячэсныя і ведаць іх не хочуць. Правілы дарожнага руху не хоча ведаць ніхто. Аднак, усе законы, перш чым зрабіцца агульнавядомымі, старанна абгрунтоўваліся. Так і я хачу абгрунтаваць і патлумачыць.

Найперш некалькі словаў пра сябе. Не дзеля славы, а дзеля таго, каб вам было лягчэй зразумець і прыняць мяне. Я чалавек і таленавіты, і сціплы. А таленавітыя людзі, як вядома, таленавітыя ва ўсім. І сапраўды: спевакі, артысты,

мастакі, пакінуўшы свае асноўныя заняткі, куляюцца ў цырку, фігурна катаюцца, ставяць нейкія рэкорды ў розных гульнях, спаборніцтвах ды скандалах. (Праўда, гледачы ад таго не шмат страцілі, не паслухаўшы сіпатыя галасы пад аглушальныя дэцыбелы, якія яны называюць геніяльнай, а на самой справе, прабачце, гэта музыка генітальная.) Сціпласць мая заключаецца ў тым, што я не буду стамляць вас пералікам усіх сваіх талентаў, іх вельмі шмат. Я спынюся толькі на тым, што прапаную вашай увазе. Я чалавек граматны і пісьменны. Розніца тут такая: граматны чалавек умее толькі чытаць. А я ўмею яшчэ і пісаць. Што я напісаў – вы зможаце ацаніць самі. Спачатку і я толькі чытаў. Чытаў усё спадраду: Маякоўскага, Купалу, Шаўчэнку, Вітмэна, гэтую іспанскую Лорку, і нямецкую Гейню, і ўсё ў арыгіналах: па-беларуску і па-руску. Чытаў я і Быкава, і Хемінгуэя, і яшчэ шмат чаго, пакуль не наткнуўся на японскія хокі ды танкі. Спачатку яны здаліся мне поўнай лухтой. І зразумець захаплення эстэтаў я не змог. Але я нездарма лічуся таленавітым чалавекам: я змеціў тое, чаго не заўважыў ніхто з аматараў, крытыкаў ды знаўцаў. Хокі ды танкі – гэта геніяльныя і ўніверсальныя рэчы. Захацеў я давесці суседу, што ён безнадзейны дурань – чытаю адпаведную танку. А ў адказ на ягонае сакраментальнае пытанне: “Ты мяне паважаеш?” – чытаю тую ж танку. І ўсё хакей, і мір, і спакой, і задавальненне, і захапленне маёй эрудыцыяй. І я зразумеў, што гэта маё! І вырашыў я стаць першым беларускім танкістам. (Спадзяюся, вы самі разумееце, што я не той танкіст, які разам з усім беларускім народам пад камандваннем Вярхоўнага кінецца пад натаўскія танкі? Тут гамонка пра іншыя танкі – літаратурныя.) Але потым выявілася, што не ўсё так проста. Аказваецца, што японец кайфуе, калі чытае і бачыць прыгожа напісаныя іерогліфы, слухае гучанне гэтых вершаў і асэнсоўвае іх, спалучаючы ўсё гэта ў трыадзінае ўспрыманне. Я нават уявіць пабаяўся, як я маляваў бы іерогліфы перад слухачамі, якатаў па-японску, а потым сваімі словамі тлумачыў сэнс усяго таго шаманскага дзейства. І прыйшоў я да высновы, што ўсе захапленні-вохі розных эстэтаў – чыстая лухта, каб не сказаць мацней. “Грунтоўная філасофія”, “энергетыка слова”, “чароўная эстэтыка”, “энергія радка”, “глыбінны сэнс” – гэта дымавая заслона пустабрэхаў, бо вельмі цяжка здагадацца, які там глыбінны сэнс знаходзіць такі во эстэт, гледзячы баран-баранам на японскія іерогліфы і перакладаючы іх на беларускую мову. Ну памяркуйце самі:

| | |
|---|---|
| Окуяма-ні | У глыбіні ў гарах |
| момідзі фумівакэ | топча ліст кляновы чырвоны |
| наку-сіка-но | стогнучы алень |
| коэ кіку токі дзо | чую плач ягоны ўва мне |
| акі-ва канасікі | уся маркота восені |

Ну, як вам чароўныя гукі? Вы пакуль пашукайце тут глыбінны сэнс ды радуйцеся, што не змог я намаляваць вам яшчэ іерогліфы, а я абгрунтоўваю далей.

І кінуўся я ўроздум. Хоку, танка, міцубісі, шаолінь, інь-ян, хо шы мін... Стоп! Гэта ўжо з іншай оперы! Хаця чаму з іншай? Усё з той жа: гэта не наша, не сваё. Як бы старанна ты не падлічваў склады ў хоку (5-7-5), ці ў танках (5-7-5-7-7), як бы ты не арыентаваўся на фэншуй (амаль брыдкае слова, праўда?), ты не зробішся ні японцам, ні кітайцам. Японец ніколі не будзе ні еўрапейцам, ні амерыканцам, кітаец застанецца кітайцам, дзе б ён ні жыў – у Бяздзедавічах ці на Вогненнай Зямлі. Тое, што ты напішаш пад японца Сарумару, пад старшыню Мао, ці пад дзядзечку Хо, ні ў якім разе не будзе ні японскім хоку, ні кітайскім цюй, ні в’етнамскім нгэм. Ты можаш святкаваць год тыгра, малпы, ці яшчэ якой пачвары, лічыць сябе Рудым Пацуком або Вогненным Япруком па ўсходніх цыклах, аднак, ты не станеш ні японцам, ні кітайцам, ні в’етнамцам. І сваім ты для іх ніколі не будзеш. Будзеш ты боўтацца, як тая кветачка ў пролубцы і не болей

таго, бо свайго ў цябе не будзе. А кім жа ты будзеш? А нікім. Хто выракаецца свайго, той чужога не набудзе – не дадуць. І ўзяўся я за беларускую паэзію. Аднак родная літаратура расчаравала мяне. Пісаць так, як Колас, Някляеў, ці Сокалаў-Воюш я не навучыўся – занудная справа шукаць рыфмы да кожнага слова. Болей даспадобы мне прыйшліся версэты. Аднак, айцом-заснавальнікам версэтаў ужо быў Алесь Разанаў. Ягоную традыцыю працягнуў Ул. Арлоў, нават атрымаў нейкую прэмію за свае версэты. Я іх не чытаў, але цалкам падтрымліваю розныя камітэты, якія прысуджаюць ім прэміі. І мне захацелася таксама стаць айцом-заснавальнікам і атрымліваць прэміі і прызы.

Я ўспомніў сваё шчаслівае дзяцінства, калі я быў маладым юннатам – юным натуралістам. Мы, юныя мічурынцы, вучылі пра перакрыжаванае апыленне, чыталі пра поспехі савецкіх вучоных аграномаў, якія вырошчвалі журавіны на яліне, яблыкі на асіне ды шмат чаго іншага. І вырашыў я тады скрыжаваць версэты з танкам. І, уявіце сабе! – атрымалася выдатна: версэты+танкі=вяртанкі! Мае вяртанкі – жанр універсальны. Хто хоча, хай палічыць склады і лічыць іх танкамі, хто не хоча – хай не лічыць, а лічыць іх проста версэтамі ці верлібрам! Хай сабе чытае іх як хайкуіст або танкіст ці версэтнік-верлібрыст – каму што болей падыходзіць. Да таго ж, у адрозненне ад танкаў і версэтаў, пры чытанні маіх вяртанкаў не трэба напружана шукаць нейкі "глыбінны сэнс", яго там няма. Не трэба дарэмна траціць сілы і розум – сэнс там ляжыць на паверхні вяртанкаў, што, аднак, не азначае іхнюю павярхоўнасць. Гэта вяртанкі да нашага, адвечна беларускага, бо я вырашыў вярнуцца да старога спосабу вылічэння, як гэта рабілі нашыя дзяды і прадзеды: узяў за адзінку вылічэння тузін. Ад таго жанр набыў арганічную злітнасць беларускага тузіна з рознымі ўсходнімі – і японскімі ў тым ліку – тузінамі цыклаў летазлічэння. (Ну, самі ведаеце там пра Зялёнага Сабаку, Сівую Кабылу, Сінюю Малпу і г. д.) Я запланаваў напісаць 144 вяртанкі, каб атрымаўся адзін тузінагадовы цыкл. А потым я напішу 12 разоў па 144 і гэта будзе ўжо цэлая эра. Праўда, давядзецца доўга чакаць, але ж гэта ўсяляе вялікі аптымізм і ў мяне, і ў чытачоў, бо дае надзею на доўгае жыццё. У гэтым яшчэ адна вартасць маіх вяртанкаў. Апрача таго, чытаючы мае вяртанкі, не трэба тлуміць галаву рознымі коскамі ды працяжнікамі. Стаўце іх дзе хочаце. Іншыя вартасці раскрыюцца ў працэсе. Я і сам яшчэ не ведаю іх усіх. Патрабуецца ўважлівая даследчая праца.

Неяк адзін версэтны хлопец пасля майго выступу захацеў працягнуць дыскусію кантактным спосабам. Яму не спадабалася слова лухта ў адносінах "глыбіннага сэнсу" ягоных вершаў і мае скептычныя выказванні на адрас аб'яднання апазіцыі. А я чалавек і бесканфліктны, так бы мовіць, без амбіцыяў і кантрыбуцыяў, простага выхавання. І як вы маглі заўважыць, я сціплы чалавек, але не дапускаю, каб мой арганізм груба мацалі розныя дылетанты. Аднак ад дыскусій нават такога роду я ніколі не ўхіляўся. У выніку версаплётнік пакульгаў у больніцу ды ў суд, але суддзя быў чалавек справядлівы і прысудзіў таму гарачаму паэтычнаму хлопцу штраф за дэбош у грамадскім месцы, а не за апазіцыйнасць, як казалі некаторыя, мяне ж адпусціў з Богам, толькі крыху пажурыў за невялікае перавышэнне ступені неабходнай абароны. Магу даслаць сваю выяву для публікацыі – якая ж слава без партрэта? Можа хто мяне пазнае на вуліцы. А калі высветліцца рознасць падыходаў ды эстэтычных поглядаў – хай не крыўдуе. Самі разумееце, літаратура – справа сур'ёзная, мы тут не ў жартачкі гуляем.

***Вяртанка першая***

1. Мы ў дзяцінстве чыталі
народныя іхнія казкі
там жыла Кікімора
але ж казка з намёкам хлусня
бо Кікімора там верхаводзіла.

2. Ён быў спрытны і п’яны
гаваркі і прыязны
і я лічыў яго сябрам
але гэта быў Друх.

3. Кулялі і білі яго бо гэта быў блазен
руды і вусаты нязграбны
і рагатала шалёна ўся зала
толькі хлопчык маленькі
ўплач захліпаўся
ён не ведаў яшчэ
што трэба смяяцца.

4. Гэта быў вельмі старанны
Творца Нябесны
пяцігадовы
паслухмяна струменілі рэкі
ў яго з-пад рыдлёўкі
выраслалі запруды і горы
а потым ён захацеў палятаць
ды не адмяніў законаў Ньютона
калі са страхі ўніз кідаўся
аднак нічога не адбылося
ён трапіў на воз поўны сена
таму што туды і цаляўся
бо гэта быў Творца разумны
і рэаліст у дадатак.

5. Свяціла смяялася сонца
светла смяяліся дзеці
скакалі па лужынах цёплых
весялілася звонка вясёлка
поўніўся радасцю свет
пад светлым дождджыкам цёплым
а дождджык плакаў штомоцы
таму што быў ён сляпы!

6. Кухара выгналі з працы
зусім не таму
што вуголлем
лякуецца страўнік.

7. Бялюткае поле квітнела
незлічонасцю бліскаў зіхцяных
але ратавалі заўсёды яго
ад рознай такой прыгажосці
чорныя акуляры.

8. Смяяліся
ўсім было смешна
слёзы каціліся шротам
і неўпрыкмет
рабілася смешнае
плачным.

9. Яна цалавала Яго
і сэрца магло разарвацца
ад такой бязлітаснай радасці
ды неяк застаўся жывы
шчаслівы глядач ля экрана.

10. Калі яшчэ кропля праточыць
тоўшчу нязрушных каменняў
мы прасвідруем хутчэй
і паспяшаліся
абвесціць сябе разумней
за малую тую расінку.

11. Хто лічыць мудрым сябе
дык і сапраўды для сябе
вельмі мудры
астатнія хай дарэмна
яму не надта мудруюць.

12. Чалавек чалавеку
дзяўбун па свядомасці
а птушка завецца дзяцел
вось так нізавошта.

Мая народная мудрасць:

Як ні хайкай, ні мардуйся,
А ў японцы лепш не суйся!

## Чарговы або другі роздум

Я стары вандроўнік. Дзе я толькі не быў. Не быў я ў Нью-Ёрку, у Буэнас Айрэсе, у Бабынічах ды Бялынічах. І шмат яшчэ дзе не быў. Таму я магу распавесці шмат чаго цікавага. Той, хто там быў, практычна не бачыў нічога. Што такое быў? Прыехаў чалавек куды-небудзь, а яму дзяўбе пастух-экскурсавод (гідка мне пісаць слова “гід”): “Паглядзіце налева, паглядзіце направа! Там жыў граф Ікс, а гэтую спаруду згрувасціў архітэктар Ігрэк”, і гэтак далей да канца лацінскага алфавіта. Прычым, усе гэтыя імёны ды назвы вандроўнік тут жа забывае. А калі дома пахваляецца, што быў там і быў там, дык пакутліва ўспамінае, дзе ж ён быў, і што яму паказалі ды назвалі. А таму складваецца ўражанне нечага вялізнага, цяжкім каменем яно ціснe на ледзь працвераэелую пасля вандроўкі галаву і выціскае адтуль усё сваё, пакідаючы толькі выснову: “А во ў іх там!!!” А што ў іх там? Затое ў нас нічога! У іх там замкі ў даліне Луары (я і там не быў!), а ў

нас што? А ў нас.... І пачынае грызці чалавека хвароба на правінцыйнасць! У іх там пальмы ды экзотыка. І не дапінае ў самаедстве сваім чалавек, што для неграў ці лацінцаў, ці нават грэкаў з італьянцамі Беларусь і ёсць самая што ні ёсць разэкзотыка. Ну дзе можа негр у сваёй Афрыцы ці ў цывілізаванай Еўропе, куды перасялілася амаль уся Афрыка, пабачыць пастуха з пугай, дзядзьку за плугам на бульбяным полі, ці наогул народ, які адмаўляецца ад сваёй мовы і гісторыі? Няма на свеце такіх народаў, а ў нас во ёсць! І Браслаўскіх азёраў нідзе няма. Кажуць у фінаў таксама шмат азёраў, дык да іх і едзе ўся Еўропа па экзотыку. Затое фіны – народ нецікавы. Яны не адмаўляюцца ад сваёй мовы, яны не лічаць, што на свеце ёсць толькі дзве вялікія мовы: руская ды ангельская. У Францыі, дзе я ў чарговы раз не быў, таксама не лічаць за вялікія мовы ні рускую, ні англійскую. Мовы як мовы, але свая ад усіх лепей. Аднак давайце вернемся да хворага на правінцыйнасць беларуса. Каб пазбавіцца ад такой дэбільна-дэпрэсіўнай скрухі, беларус, плюнуўшы на ўсё сваё, пачынае шукаць нешта метафізічнае, трасцэдэнтальнае, паранармальнае, карацей, пачынае займацца глупствам. Першым чынам ён высвятляе, хто ён па Усходняму календару. Нездарма таварыш Сухаў казаў, што Усход – рэч тонкая. Уся бяда ў тым, што для неафіта Ўсход – гэта нейкая абстрактная ці то маса, ці то тэрыторыя, ці то натоўп у цюрбанах ды ў нейкіх мужчынскіх сукенках. А насамрэч там шмат людзей, шмат веравызнанняў, шмат календароў і гараскопаў. Аднак пытанне вырашаецца з вялікай прастатой і непасрэднасцю: бярэцца кніжка, напісаная для вось такой дурной сітуацыі, і там высвятляецца, што ён (дэпрэсіўны грамадзянін сусвету) нейкая жывёла. Можа Чырвоны Пацук, можа Зялёная Малпа, ці ліха там ведае хто. Затым высвятляецца, у чыім годзе ён нарадзіўся: можа Быка, можа Тыгра, можа той жа Малпы і г. д. (Хаця, дзе вы бачылі тыграў, малпаў ды леапардаў у беларускіх лясах? І якое дачыненне гэтыя звярыныя гады маюць да нас, беларусаў?) І пачынае чалавеча жыць па “Усходняму календару”. Пралазлівыя экстрасэнсы, члены ўсялякіх таемных Астральных Акадэміяў, Вышэйшых Колаў Зорных Чарадзеяў, розных там таемна пасвечаных, хто сёмых, хто дванаццатых ступеняў (якая нячыстая іх туды пасвячала і прымала ў тыя члены – застаецца таямніцай) напісалі масу кніжак пра Шамбалу, Туле, астральныя, эзатэрычныя ды іншыя няўцямна-масонскія рэчы. І пра нейкі агульнаўсходні каляндар у тым ліку. А іх на Усходзе процьма: кітайскі, японскі, карэйскі, в’етнамскі, арабскі, яўрэйскі і яшчэ мноства незлічонае. І незлічонае мноства людзей пры вострай глуздовай нястачы клюе на гэткую лухту. А экстрасэнсы стараюцца. Пачытайце аб’явы: адзін наводзіць сурок, другі яго адводзіць, трэці лечыць усё, што пад руку трапіцца, а хто і зусім пераносіцца ў астрал. І пруцца людзі, і грошы нясуць, і лічаць сябе ўжо немаведама кім. Бывае, што й буйна глуздзеюць людзі. Але такіх вылечваюць. А вось вылечыць ціхіх, упэўненых, што беларусы – цёмная правінцыйная нацыя, што ўсе навокал лепш за нас – гэта цяжэй. І што тут можна параіць? Я ж не народны лекар Светлай Чакры Сёмага Кола Эзатэрычнага Астралу. Праўда, я цвёрда ведаю, што ні кітайцы, ні в’етнамцы, ні афрыканскія дагоны, ні рускія нават, ні тым болей палякі за свайго такога хвеншуіста не возьмуць. Дзеля тэрапіі параю прачытаць маі вяртанкі, пашукаць, калі няма чаго рабіць, “глыбінны сэнс” і паглядзець маю чарговую народную мудрасць у канцы гэтай вяртанкі. Можа, калі дасць Бог, і палягчэе.

***Вяртанка другая***

13. Цягнік стаяў
і бегла да яго дзяўчына
а дождж ішоў спакойна
ды бясконца падаў
хоць не спатыкаўся.

14. Удалы шлюб
на ўсё жыццё
і першае каханне
глыбокія на сэрцы раны
нязбыўныя за ўсё жыццё.

15. Празрыстае танюткае
шкло ваконнае
засланяе нам
цэлы сусвет
і абараняе яго.

16. Чаравічкі
даўно згубіліся
а прынц
усё не прыходзіць
так можа
і спазніцца
у жаніхі.

17. Шматлікія такія
розныя кнігі
напісаны
аднымі і тымі ж
літарамі.

18. Бялізна сохне
ў спёку й сьцюжу
ды толькі ад марозу
ламаецца на кавалкі.

19. Сказаць разумна
не так ужо і цяжка
куды цяжэй
разумна зразумець.

20. На дне
пад празрыстаю
тоўшчай
свеціцца белы
каменьчык
а навошта ён мне?

21. Вялізную
разумную кнігу
часам лягчэй
напісаць
чым прачытаць.

22. Напалову
пустая бутэлька
можа быць
напалову
поўнай
дзве розныя праўды
яднае адно
НАПАЛОВУ.

23. Мы рознымі
ходзім шляхамі
у розных па зямлі
ідзем кірунках
а месца сустрэчы
змяніць немагчыма.

24. Коціцца
кола жыцця
паглынае
гады і гадзіны
каб яны
паглыналі жыццё.

Мая чарговая народная мудрасць:

Чым жаваць чужы хвен шуй,
Свой уласны раскаштуй!

## Трэці роздум-адбрэх

Думаў напісаць што-небудзь узнёслае, дык не! Падмагнуў прыяцель, без мяне мяне ажаніў: змясціў недзе ў Інтэрнэце дзве першыя вяртанкі з роздумамі. А потым з садысцкай радасцю прыслаў мне каментары да маіх вяртанкаў. Як першаадкрывальнік, як айцец-заснавальнік я разлічваў на нешта падобнае. Усе перадавыя людзі пакутвалі ад цемрашалаў. Хаця б той жа Галілей. Але ніколі не думаў, што памяркоўныя мае землякі нагэтулькі агрэсіўныя і злосныя. Гэтак мяне чысціў толькі наш падпалкоўнік, калі я – скажам так – не паладзіў з флоцкім патрулём. Дык у ягоных “афарызмах” хоць гучала затоеная гордасць за свайго арла, які паказаў клёшнікам, што такое савецкі парашутыст. А тут гордасцю і не пахне. Прывяду толькі найболей “ласкавыя” тытулы і найменні, бо астатнія слабацэнзурныя. Аказваецца, я і невук, і нахабнік, і – даю на мове арыгінала – “убожество, своим зубоскальством, посягнувшее на святое...” Аказваецца, я сваім “убогім зубаскальствам” абразіў адразу і Рэрыха, і Мулдашава, і Блавацкую, карацей, увесь Тыбет з Шамбалай. Рэрыха я даўно ведаў. Добры мастак. Прыгожа маляваў. У мяне ёсць некалькі ягоных рэпрадукцый ужо не памятаю адкуль,

здаецца з “Огонька”, а можа з “Советского искусства”. Ён жыў у Тыбеце і таксама шукаў Шамбалу. Адны кажуць, што знайшоў, другія, што не, бо быў агентам Чэка. Зараз усе славутыя людзі ад Герадота да Бін Ладэна сталі агентамі Чэка, ГПУ, НКВД, КГБ, ЦРУ, СД, Масада ды Інь-Ян. Пачытайце газеты і часопісы. Ну, быў, ці не быў, не мае значэння. Я Рэрыха ведаў. А вось невядомых мне Мулдашава з Блавацкай я, каюся, не меў на думцы абражаць. Тым болей не захацеў, калі пазнаёміўся з іхнімі жыццямі ды дзейнасцямі. Я ўдзячны сваім нявятлівым апанентам, таму што без іхняй – хай сабе не надта канструктыўнай – крытыкі мне так і не давялося б пазнаёміцца з такімі выбітнымі людзьмі.

Эрнст Мулдашаў. Доктар навук, прафесар, кажуць, быў добрым афтальмолагам. Шмат гадоў шукае Шамбалу. Шамбала – гэта адзін з векавечных “пункцікаў” чалавецтва. Нешта накшталт вечнага рухавіка, філасофскага каменя ці іншапланетных прыхадняў. Пра вечны рухавік даўно вядома. Але дагэтуль знаходзяцца асобныя спонсары-аптымісты, якія даюць грошы апантаным вынаходцам.

З Шамбалой складаней. Яе шукалі ўсе, прычым не толькі саматугам, а на дзяржаўных узроўнях. Шукалі чэкісты і нацысты, шукалі каталікі і праваслаўныя, шукалі адэпты Буды і старшыні Мао, а цяпер шукае Мулдашаў. Але ён паглядзеў на праблему Шамбалы шырэй, чым ягоныя папярэднікі. Што там увесь час лазіць па Тыбету ды Гімалаях. Занятак не надта камфортны. Таму прафесар шукае “энергетычныя антэны Шамбалы”, дзе цяплей, як на востраве Паскі, ці на Урале і г. д. І публікуе забаўныя кніжачкі на гэтую тэму. Шамбала – гэта выдатнае спалучэнне пошукаў філасофскага каменя, вечнага рухавіка і фінансавай піраміды. Усім добра вядома, што тысячу рублёў за адзін укладзены рубель ніхто табе не дасць. Але ж нясуць грошыкі, расчароўваюцца і зноў нясуць. Праўда, аўтараў піраміды могуць і пасадзіць. А вось Шамбалу можна шукаць вечна, і ніхто цябе не пасадзіць, а дадуць сёмую ступень пасвячэння, а то й дванаццатую ўва што-небудзь таямніча-астральнае! І не зацыклівацца на Тыбеце, а вандраваць па ўсім свеце. Як сказаў Швейк, заўсёды цікава паглядзець розныя чужыя краіны задарма. Я ў захапленні ад прафесара Мулдашава.

А вось Алена Блавацкая – гэта вышэйшы пілатаж! Так развесці ўсіх на стагоддзі! Куды там Марыі Дэві Хрыстос! Павел Глоба са сваімі няўдалымі прадказаннямі канцоў свету можа ціхенька стаяць у баку. Як і іншыя экстрасэнсы. Wunderbar und wunderschön! Сказаць болей няма нічога.

А Шамбалу не знайшоў ніхто, і Мулдашаў яе не знойдзе. Ён жа доктар навук, а значыць, чалавек разумны і разумее, што знойдзё ён гэтую Шамбалу – і што добрага? Алес капут! Фінансаваньне скончыцца і шукай ужо не Шамбалу, а новых спонсараў на новыя задумкі, а як іх знайсці? Не лягчэй, чым Шамбалу. А таму ён проста нікому не скажа, што знайшоў гэтую самую Шамбалу. Ён чарговы раз напіша пра “энергетычныя выхлапы ды ментальныя хвалі астралу”, на даследаванне якіх выдзярэ яшчэ грошай. І другая мая думка: а хто іх пусціць у Шамбалу? Ніхто з еўрапейцаў яе не знайшоў і не знойдзе. Чужыя па Шамбале не шлындаюць. Шамбала вам не прахадны двор. А таму ў яе нікога і не пусцяць, забяспечваючы адважных афтальмолагаў ды прайдзісветаў бясконцымі пошукамі. А спонсары-прыдуркі заўсёды знойдуцца. Шоў маст гоў он!

За экстрасэнсаў я атрымаў сваю порцыю “каштоўных указанняў”. Гэта я замахнуўся на “святое” са сваім дурным скептыцызмам. Аказваецца, болей карысных людзей на свеце не бывае. Адзін экстрасэнс вылечыў рак, другі злавіў злачынцу, трэці яшчэ нешта ўчыніў. Усіх вылечаць і ўсіх зловяць, толькі грошы нясі.

Адзін з каментатараў абвесціў мяне нават “аватарай зла і бодзісатвай чорнага сусвету”. Гэта і сапраўды абраза, на якую я пакрыўдзіўся. Я не надта лезу ў розныя ёгі ды дзэны, але па ўсім відаць, што мне шыюць супрацьнатуральныя вычварэнні... Я, як сапраўдны мужык, не магу быць аватарам і бодзі сатвам. Аватара – гэта

нешта завумнае з Індыі (а што добрага можа быць адтуль апрача цыганоў ды чаю са смярдзючымі свечкамі?), і хто яна такая я так і не разабраўся, а бодзі сатва зразумелы намёк. Бодзі (body) ведае кожны трохі-трошкі адукаваны чалавек. І мяне крыўдзіць гэты намёк на нейкія нібыта цялесныя мае перакруты. Паўтараю, я нармальны мужчына, і ў мяне ёсць дзеці, унукі і амаль дзве вышэйшыя адукацыі. Я да пенсіі чэсна вырошчваў хлеб і сала ды чытаў розныя кнігі, але на жаль не так шмат, як мне хацелася. А зараз у мяне шмат часу, і не трэба мяне лаяць. “Ты невук, а ірвешся ў паэты і хочаш прэмій і славы” – так пісаў адзін з’едлівы каментатар. Так, я хачу славы і прэміяў, і зусім я не невук. Паўтары вышэйшыя адукацыі – гэта вам што? (педвучэльня ды Горацкая акадэмія). І што ж тут такога, што ірвуся? Нібыта ніхто з літаратараў гэтага не хоча. Як на прэзідэнцкіх выбарах апанент апаненту: “Ты, шалудзівы чалавек, ірвешся да ўлады!” А ён, значыць, харошы і ідзе на прэзідэнцкія выбары, каб стаць дырэктарам дзіцячай пясочніцы на грамадскіх пачатках? А я, апрача прэміяў ды славы, хачу, каб людзі зразумелі мяне і не забівалі сабе галоўкі розным глупствам. Каб не лезлі пішчом у шамбалы, аватары, хвеншуі ці ў “рускія людзі”. Каб не адчувалі сябе беларусы нейкім апендыксам да Расіі і Еўропы. Пачытайце мае вяртанкі і роздумы, гэта тэрапеўтычна. Пачытайце кнігі У. Арлова даверсэтнага ягонага перыяду, Кастуся Тарасава “Памяць пра легенды”, “Новую зямлю” Якуба Коласа, “Зямлю пад белымі крыламі” ды “Каласы пад сярпом тваім” У. Караткевіча. Можа тады і падумаеце, што не такія ўжо мы і сіроткі на гэтым свеце, што і на беларускай глебе вырастае шмат годнага ды вартага павагі. А галоўнае, чытайце мае вяртанкі ды мае ж народныя мудрасці.

***Вяртанка трэцяя***

25. Ён сустрэў яе нечакана
у нечаканым месцы
яна нечаканая
ішла яму насустрач
спартоўскай хадою
і нечакана павярнулася
дый пайшла прэч
гэткай самай прыгожай
хадою
тым нечаканасць
і скончылася
як і трэба было
чакаць.

26. Цяжка перажыць
непадзеленае каханне
хварэе некаханы чалавек
нялёгка перажыць
і ўраніцы
пахмелле
такія цяжкія
хваробы
але вылечваюцца
лёгка.

27. Рознаколерам
палае восень
дзівосная такая
прыгажосць
маркотай поўніць
наваколле.

28. У заапарку
былі бабуіны
а вось дзедуінаў
там не было
і нявесела
было бабуінам
людзі напісалі скаргу
а весялей не стала.

29. Белыя сцены гмаху
не мылі і не шкраблі
мо дваццаць гадоў
можа й болей
і ці белыя
тыя сцены цяпер
ніхто не можа
сказаць нам толкам.

30. Кулялася сонейка
з хмаркі на хмарку
гуляла з небам
у хованкі
а потым прыйшла
навальніца
і грозна
заплакалі хмары.

31. Ласкава ветрык
шаптаўся з дрэвам
ласкава лістоту

перабіраў
пакуль быў ласкавы...

32. Чорны човен
дзічом чарнеўся
на светлым
азёрным твары
і сядзелі там
браканьеры
а мы ўсё марым
пра белыя яхты.

33. На захадзе чырвонае
мроіва ўлетку
было на вецер
зімой на мароз
было так раней
а зараз
хто яго ведае.

34. Пакутуюць людзі
ад розных разліваў
бядуюць
а навошта там будавацца
дзе кожны год
бывае паводка.

35. Ён часта
гуляў у карты
у шахматы
і ў тэніс
і прайграваў заўсёды
таму што
увесь час
блытаў правілы.

36. Ад шасцёркі
да туза вялікая
адлегласць
а калі шасцёрка
казырная
навошта тады
неказырны туз.

Мая народная мудрасць:

У беларускім агародзе
ні банан, ні рыс не родзяць!

## Роздум чацвёрты

Ну, во, зноў пра ваўкоў! Зноў я невук і лапаць. Абурэнне знаўцаў выклікае тое, што я, аказваецца, не так падзяліў унітазы на Парнасе. Аказваецца, Разанаў вынайшаў квантэмы, а Арлоў – версэты. А я пазбавіў яго права называцца айцом-заснавальнікам. Ну дык і што? Я не Міжнародная Асацыяцыя па Аўтарскіх Правах і не Нобелеўскі камітэт, якія дзеляць правы і прэміі. Я не дзялю нічога. І дысертацыяў не пішу. А хлопцы – Разанаў з Арловым – самі там паразумеюцца. І я не супраць, каб ім абодвум давалі ўсялякія – аж да Нобелеўскай – прэміі. Дый літаратуразнаўцаў ёсць цэлая зграя. Яны таксама разбяруцца, што да чаго і хто да каго. Галоўнае, каб яны ведалі, што і я айцец-заснавальнік, бо я вынайшаў вяртанкі. Нічым не горш і не меней "ізяшчна", чым квантэмы, танкі ды версэты. І на чужую дзялянку я не лезу. Паэзія – вялікая краіна, і там знойдзецца месца ўсім. Парнас – іншая справа. Там месцы дзеляцца па-іншаму. Каго ўссадзяць крытыкі ды знаўцы, а хто і сам залезе. Я шкрабуся сам. А мяне розныя зласліўцы цягнуць за штаны ўніз. Дарэмна, хлопцы, стараецеся! Талент – ён і без штаноў талент. Дарэчы, амаль усім таленавітым людзям спачатку не хапае на добрыя штаны. А гламурнікі па-большасці мяркуюць аб талентах па іхніх штанах. Па сабе ведаю. Я ў першым роздуме пісаў, як паспрабаваў малады хлопчык кантактна падыскутаваць са мной, і што з таго атрымалася. А атрымалася добра. Мы з ім пайшлі пасля суда на разборку ў піўнуху. Цвёрда трымаўся юнак на бяседзе. Можа, не меней за мяне! Ён сказаў, што дарэмна "пакіпяціўся", што я "нармальны піпл". Асабліва таму, што ў судзе не "каціў на яго і не палівау ды наогул не гнаў нічога". І яшчэ ён распавёў, што мае так званыя сябры, якія запрасілі мяне на сваю "імпрэзу" (нейкае дзікунскае слова!) паціху падсмейваліся над маім гальштукам, над касцюмам ды вясковымі звычкамі. Болей я не езджу на іхнія "прэзентацыі", "імпрэзы" ды "перформансы". І болей іх не запрашаю да сябе ў свой пяцісценкавы дом, які яны абазвалі зноў жа дзікунскім словам "катэдж". Часам толькі гэты хлочык прыедзе,

сходзім на рыбу, пакалупаемся ў агародзе, пачытаем адзін аднаму свае геніяльныя версэты ды вяртанкі і ўзнімем чаркі са слязой за збычу мрой. Я недарэмна напісаў пра геніяльнасць сваіх твораў. Нармальная з'ява. Кожны літаратар лічыць геніем сябе, а ўсіх астатніх тытулуе другім словам, таксама на літару г... Ну, і добра! Там "г" і там "г", во й разбірайся дзе якое г...! Бяда, калі разбірацца не хочуць. Бяда, калі абвяшчаюць, што на свеце ёсць толькі дзве вялікія мовы, што ўсе шэдэўры напісаныя, а мы павінны іх вывучаць і радасна захапляцца. Гэта, на мой погляд, нядобра. Гэта ставіць заслон перад развіццём. Гэта не дыялектычна. Успомніце, мы ж вывучалі дыялектычны матэрыялізм. Я лічу, што ўношу ўклад у прагрэс беларускай мовы і літаратуры. І нікога не лічу той самай субстанцыяй на літару "г". Толькі адно не магу зразумець. Я амаль усё жыццё, за выключэннем арміі ды вучобы ў педвучэльні, ну, якіх там камсамольскіх камандзіровак на БАМ ды цаліну, правёў у вёсцы. І не хачу даваць веры, што мая вясковая гаворка горшая ад лонданскай, маскоўскай ці чукоцкай. Праўда, тыя ж мінчукі нешта пяюць мне пра няправільнасць маёй гаворкі, што на чыстай мове так не кажуць, гэтак не мовяць. А што такое чыстая мова? Дзе на ёй гавораць? Дзе яны свае са сваёй чыстай мовай? А я свой па ўсёй акрузе і па ўсёй Беларусі. Ды маладым гэта ніяк не давядзеш. Не ведаюць яны, што "не судзіце, і асуджанымі не будзеце", (ад Мацея, 7:1) а судзяць так, нібыта ўжо схапілі Бога за... гм...м...м... бараду. А многія з іх прамаўляюць СНЕГ, СВЕТ, З'ЯВА замест СЬНЕХ, СЬВЕТ, ЗЬЯВА. Гаварыць трэба жывой гаворкай. Пісаць – іншая справа, тут трэба літаратурная мова. Я так і раблю.

Па сталым роздуме я прыйшоў да высновы, што на лаянку не трэба крыўдаваць. Гэта душэўная псіхатэрапія. Жыве чалавек, усё добра, і раптам пайшло ўсё наперакос: з начальствам пасварыўся, жонка неабгрунтавана за куфаль піва (хай сабе і за м...м...м.. два-тры) хрысціць алкашом, дзеці не хочуць вучыцца і ўсё такое падобнае. Гэта ў людзей сталага веку. У маладых жа наогул не жыццё – адна дэпрэсія. Сяброўка круціць хвастом перад лепшым сябрам, лепшы сябра заляцаецца да яе, не хачу вучыцца, а хачу жаніцца, жыццё заканчваецца, усё навокал счарнела. Адны ідуць па гарэлку і мардабойна тлумачаць жонкам і сяброўкам іхнія памылкі. Другія ідуць да камп'ютара, лезуць у сеціва – а там мае вяртанкі! І пачынаюць яны лаяць мае шэдэўры на чым свет стаіць. І робяць гэта з асалодай, ад душы. Асабліва людзям за нікамі падабаецца мацюкаць мяне асабіста, уяўляючы, што так распраўляюцца з пастылай жонкай ці вярціхвостай дзяўчынай, ці са здрадлівым сябрам. Жоўць зліваецца, дэпрэсія праходзіць, жыццё наладжваецца, запальваецца святло ў канцы тунэля. Во так адлаецца чалавек з-пад ніка, і сонца надзеі засвяцілася зноў. Агрэсія выплюхнута, злосць сціхае, нікога не трэба біць і абражаць. І здаецца чалавек сабе такім смелым, разумным ды ўсяведным, што самапавага ўскоквае на 1000 працэнтаў: "Во я яму даў! Гэтаму дурню неадукаванаму, лапцю калгаснаму! Даў яму зразумець, што такое сапраўды разумны чалавек!" У тым вялікая гаючая сіла маіх твораў. І агульначалавечая карысць: беларуская літаратура на сусветным узроўні, бо мяне ўжо мацюкалі з Амерыкі і Аўстраліі. Пра Польшчу ды Нямеччыну нават і не кажу. А карысць для Беларусі – гэта і так ясна. Геніяльныя творы – яны і на Беларусі геніяльныя, тым болей па-беларуску. Чытайце мае вяртанкі і лячыцеся ад дэпрэсіі і комплекса непаўнавартасці!

***Вяртанка чацвёртая***

37. Чаруе гульня
іскрыстых бліскаў
на вадзе
але не давярайся
такой няўлоўнай
гіпнатычнай
прыгажосці.

38. Агонь чаруе
вабіць як вада

і можна на яго
глядзець бясконца
так можна і жыццё
прагледзець
незаўважна.

39. Каб час
спыніць
ён патрушчыў
шкло і стрэлкі
а спыніўся
толькі гадзіннік
ды бягуць хвіліны
і гады ляцяць
без механізмаў
і календароў
на згубу чалавеку.

40. Ліхаманкавы
жар кахання
выпальвае сэрца
і розум
так рыхтуецца
глеба нянавісці
не меней
вынішчальнай.

41. Кіруюцца
у касцёлы
цэрквы людзі
у сінагогі
ды мячэці
у дацаны
і манастыры
за чым
шукаюць Бога
а Бог не можа
жыць у камяніцах
ён жыве
у чалавечым
сэрцы
толькі.

42. Лунаюць
круцяцца сняжынкі
а матылькі
так зграбна
і прыгожа
з кветкі на кветачку
пералятаюць
кароткі век
у такіх прыгажосцяў

43. Страсае
стомленая восень
апошнія лісты
з лясоў і хмызнякоў
усё цямней і халадней
і з кожным днём
усё бліжэй
наступнае лета.

44. Калі апануюць
змрочныя думкі
не думай пра
сцюжу ды маразы
пра няўдачы свае
ды могілкі
ўспомні як вецер
бяжыць па жыце
а калі не бачыў
такога ніколі
дык з'ездзі
у вёску
і паглядзі.

45. Ён апантаўся
думкаю
пра сэнс
жыцця
з грашыма
ці без грошай
і думкі мудрыя
плылі бясконца
затое потым
так балела
галава ўранні
і ласкавым
гаючым патокам
бруілася піва.

46. Нікому
не верце
свету канец
наступіць абавязкова
толькі
у кожнага ён свой
а часам і некалькі
разоў на тыдзень
прывыкайце.

47. Плакаў вучань
што не ўмее
скланяць дзеясловы
і мама плакала
яна таксама не ўмела
а плакаць было не варта
бо не скланяюцца
дзеясловы
а спрагаюцца.

48. Хто не ўмее чытаць
і пісаць
хай не бядуе
анікуды не знікне
напісанае глупства.

Мая народная мудрасць:

У жыцці бывае й так,
што не мудрэц ты, а мудрак.

## Пяты роздум

Навучыцца ціскаць "клаву", як кажуць бязвежавыя інтэрнэтчыкі, не значыць стаць разумнейшым за іншых.

Я таксама зараз маю Інтэрнэт і чытаю шмат чаго цікавага. Вось, напрыклад, нядаўна я адкрыў яшчэ адно паэтычнае земнаводнае – вершапрозу або на мове арыгінала – стихопрозу. Там ідзе такая паэзія ад сівой кабылы, што кліенты Навінак адпачываюць. Гэта на парадак вышэй – інстытут імя Сербскага! Хаця нічога тут дзіўнага. Гэта не верш і не проза, а так. Нешта накшталт мула: прыгожа і цягавіта, але ад скрыжавання аслоў з коньмі не бывае прыплоду. Гэта ўжо штосьці ад разумнага сабакі Мухтара: усё разумее, як чалавек, а сказаць не можа. І вось пачынае тады вычварацца хітраспляценнямі вершаў з прозай, аўтамабіля з пешаходам, паравоза з самалётам. І нічога апрача бяды з таго не бывае, пачытайце хроніку дарожных здарэнняў. І кідаецца чалавек у роспач: ніхто мяне не разумее! А ты спачатку зразумей ды абдумай, што ты бачыш і што ты сам хочаш. А калі ты замест зялёнага лужка малюеш бурыя плямы з чырвонымі кляксамі, дык і ты сабе! Але ж не абвяшчай гэта вышэйшай мастацкай мудрасцю сусвету, а сябе адзіным разумнікам сярод тупамозглых глуздакоў. Добра, калі такі геніяльны непаразуменец губіць толькі сябе, а калі яшчэ пачынае і іншых цягнуць за сабой, помсцячы urbi et orbi (гораду і свету)!? Калі чалавек пачынае сплятаць дзікаватыя і дзіўныя словы ў незразумелыя карункі, калі такі творца так глыбока хавае "глыбінны філасафічны сэнс", што і метрабудаўцы з шахцёрамі не знойдуць, дык ён сабе. Гэта карысна. Пачытайце, паглядзіце, і вам стане лепш ад усведамлення таго, што вы самі яшчэ пры поўным розуме. А такім геніям я адкажу сваімі вяртанкамі ды сваёй народнай мудрасцю.

***Вяртанка пятая***

49. Пашкадуйма
малую кусачую
няшчасную жамяру
навокал жа
процьма
галодных птушак
увек ненажэрных.

50. Сумна бярэзіны
залацяцца
пранізліва
клёны палаюць
сівізна ўзросту
прыроды.

51. Лунае чалавек
на крылах успамінаў
нясе яго цёплая
хваля захаплення
і гонару за сябе
а кім жа яшчэ
захапляцца
калі ўспамінаюцца
такія прыемныя
хвілі жыцця.

52. Скала стаіць
заўсёдна й векавечна
а вы паглядзіце
праз тысячу год
не будзе там ужо
ні той скалы
ні камянёў магутных
а будзе гразкае
балота
загадка вечнасці
кругаварот прыроды.

53. Мёртвыя сраму
не імут
тым болей
не "імут" яго
і жывыя.

54. Не крыўдуйце
на рыбу за тое
што лічыць яна
чалавека закончаным
дурнем таму
што ён не жыве ў вадзе
і не трымайце яе
за дурніцу
вы ж самі хапаеце
прагна чужыя
прынады
разлічаныя
на рыбнае безмазгоўе
у чалавека.

55. Чужой бядзе
паспачуваць не цяжка
куды цяжэй
парадавацца
чужому шчасцю.

56. Не могуць між сабой
паразумецца людзі
бо яны паходзяць
ад розных малпаў
а не ад адной
трагічная для нас
памылка Дарвіна.

57. Той, хто апярэдзіў
свой час
на радасць сабе
і на дзіва астатнім
выпівае на поўніцу
чашу атрутнага
едкага зелля
ды позна лячыцца.

58. Кожны
усё жыццё
шукае сваю
прывіднае Эльдарада
вечнае шчасце
а шчасце згарае
імгненна
выбуховае рэчыва.

59. Што з таго
што нарвежцы
адкрылі Амерыку
і засялілі Грынланд
усё дасталося Калумбу
ды леднікам
з эскімосамі.

60. Свярбіць
у чалавечай душы
незагойнаю ранай
светлае
чужое
чалавечае шчасце
і робіцца свет
нямілым.

Мая народная мудрасць:

Ты за славаю ганіся,
ды глядзі не задыхніся.

## Роздум шосты

Адзін інкогнітны тынэйджар у нарвежскім швэдары ды італьянскіх шузах ускочыў з фатэля і, экспрэсіўна размахваючы топнымі канцоўкамі, прадэкляраваў, што не можа акцэптаваць аксюмаронную ідэю папярэдняга аратара. У дэкламатыўным экстазе ён шпурнуў філіжанку з кавай на падлогу з каштоўным кілімам, а на галантную нататэнію мадэратара канферэнцыі загамавацца адказаў цэлай лавінай абсцэнтнай лексікі, памінаючы анатамічныя дэталі арганізма як чалавека, так і нейкай жывёлы ды выказваючы прапазіцыю ўсім прэзентным піплам прааліментавацца гэтымі анатамічнымі дэталямі ў перверзіўнай форме. Ён таптаў лісты прэзентаванай яму Энцыклапедыі і выказваў дырэктныя сэксуальныя інтэнты на адрас аўтара і кантэнту ягонага твора. Затым веласідна выскачыў на гаўбец (пазней выявілася, што гэта ўсяго натэррэная тэраса), скочыў даўн па камплікатнай траекторыі і, круцячы нейкія незразумелыя, але з выгляду неэстэтычныя, хвігуры з локця і сярэдняга пальца, дыстанцыяваўся ў неэкалагічна глабальныя прасторы палеткаў, аграпісьменна і рэнтабельна засеяных эксклюзіўна канабісам. Пасля гэтага прыкрага інцындэнту імпрэза прыняла транкільны характар, і паспяхова кантынуявалася яшчэ некалькі тэмпаральныя юнітаў да наступлення астранамічнага салярнага іўнінгу.

Ну як? Уражвае? Гэта не сівая кабыла трызніць. Гэта я. Я ўласнаручна прыдумаў такі тэкст. Трымаючыся праўды, скажу, што гэта было не так і цяжка. Я проста начытаўся тэкстаў радыё “Свабода”, ягоных некаторых блогераў ды прыхільнікаў і пабарнікаў “новай клясычнай правапісы”. А чаму, уласна блогераў, а не блёгэраў? Гэтага я не зразумеў, хаця зразумеў шмат чаго яшчэ. Зразумеў, што

жыццё пражыў няправільна. Я памылкова пайшоў у першы клас, а не ў пэршую клясу, ніколі не хадзіў, як належыць сапраўднаму бэлярусу, у клюб, а цягаўся з дзяўчатамі ў нейкі паганы клуб. Я ніколі не чытаў газэтаў, я чытаў газеты. Карацей, жыў я не там і не так. Трэ было жыць у Эўропе, а я ўпарта жыў і жыву ў Еўропе. І даведаўся я, што няма на свеце горада Лондана, а ёсць Лёндан, няма Хельсінкаў, а ёсць Гэльсынкі. Праўда, ні англічане, ні фіны пра тое не ведаюць. А вось куды падзелася жонка Вільяма Клінтана, я ледзь дагнаў. Аказваецца яна перахрышчана з Хілары ў Гілары. Я думаў, навошта ж клясычнаправапіснікі так вычвараюцца, потым вычытаў, як адзін з іх патлумачыў, што яны хочуць наблізіць гучанне запазычаных словаў ды назваў да гучання ў мовах, з якіх мы іх запазычылі. Ну як? Наблізілі Лёндан да London? Эўропу да Europe? Знаўцы, наколькі гэта блізка? Вядома, можна адмовіцца ад Генрыха Гейне і пачаць чытаць Хайнрыха Хайнэ, прыцерпіцца – палюбіцца. Але ёсць адно пытанне: а навошта? Навошта нам, беларусам, ператварацца ў бэлярусаў і вычварацца, імкнучыся прамовіць запазычанае кітайскае слова па-кітайску, нямецкае – па-нямецку? Ніякая мова такога здзеку не церпіць. Яна пераварвае запазычанне на свой лад і жыве сабе, не пнучыся стаць ні кітайскай, ні якой іншай. А мы во хочам быць Бог ведае кім, толькі не беларусамі. Гэта, хутчэй за ўсё, зноў-ткі комплекс непаўнавартаснасці, хаця нібыта і ў "нацыянальна-перадавых" строях. І нішчыцца нашая мова зараз ужо з трох бакоў: клясычнай правапісай, новалукашэвіцай ды лацінскім напісаннем. І болей за ўсіх шчыруюць тыя, хто ніколі не чуў жывой нашай вясковай мовы і прамаўляе снег замест сьнегу, свет замест сьвету, з'ява замест зьявы, карацей, тыя, як кажуць у нас у вёсцы, хто жывой чапялы не бачыў. "Акультураныя" ж кажуць прыкладна так, як у пачатковым тэксце. Ім сказаць сустрэча замест імпрэзы – ганьба, язык не павернецца сказаць падарунак, абавязкова – прэзэнт. Або ў імкненнні сваім стаць рускімі прамаўляюць дрянікі замест дранікаў (чуў па БТ) І ўсе бяруцца вучыць нас, "дзеравеншчыну", быць то бэлярускімі эўропцамі, то млатшебратскімі выпекателямі дрянікаф. Карацей – поўны аксюмарон (вялікае глупства па-грэцку). І напаследак склаў такія вершы для аматараў набліжэння да арыгіналаў:

Бузінесс робіць клэвэр ман,
Гуляюць чылдрэны ў пуззлы
У мяне ў глуздах туман,
Ад слоў такіх яны раздрузлі.

А наогул, плюньце на высілкі тых "асветнікаў", пачытайце мае вяртанкі ды маю народную мудрасць, аблайце як след мяне і мае творы, і вы адчуеце палёгку і цвёрдую беларускую глебу пад нагамі.

***Вяртанка шостая***

61. Жыве чалавек
без грахоў
і без рысаў
адмоўных
і крыецца ў тым
ягоная смяротная
адзіная загана.

62. Мядовая кветка
пахне не мёдам
а гарохавым супам
ды смажанай бульбай
хто на што
згаладаўся.

63. Толькі зласлівец
і нялюбец сланоў
хоча пажыць
у вежы марфільнай
у вежы ўтульнай
з касці слановай
злачынства
экалагічнае
і пагібель.

64. Жоўтай радасцю
палае лес

наліваецца
восеньскім сумам
засынаючы да вясны
хоць не надоўга
а развітанне.

65. Вясной жа
сціпла і баязліва
праклюнецца
жоўценькая спавіўка
і зелянота ўзбуяе
весела і нахабна
і загудуць
у дуду мільёны
камароў з жамярою
непераможным
гімнам жыццю.

66. Чалавек можа ўсё
можа капаць
можа не капаць
можа гнаць
самагонку
з ядлоўцу
і называць яе джынам
о ўсемагутны.

67. Кітайцы
прыдумалі порах
гапак баявы
старажытныя укры
амерыканцы
кампутар і бомбу
масавага вынішчэння
і жыць стала лепей
і весялей.

68. Самадзержац
любіў свой народ
і маніфестам
адмяніў у царстве
зямное прыцяжэнне
ды сталі ўсе
злачынцамі тады
бо паляцець
ніхто так і не змог
няўдзячная быдлота.

69. Генныя аграномы
могуць вывесці
ананас на бярозе
ды гарбуз на сасне
але гэта
ужо будзе
не ананас і не гарбуз
і бяроза не будзе
бярозай
не застанецца
яліна ялінай
пакаштуйце
і паглядзіце.

72. Хочаш стаць
мараплаўцам
вучыся
вадзіць караблі
а далёка ў моры
не забывай
што патрэбен ты
толькі
на роднай зямлі
і болей нідзе.

Мая народная мудрасць:

Толькі ад аксюмарону
Гусь пашчэміцца ў вароны.

# Радавод…

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Альтанка: паэтычны альманах студэнцкага літаратурнага гуртка філфака БДУ / склад. Ірына Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2011.**

Як пісаў калісьці Алесь Пашкевіч, "філфак яшчэ ў 60-х гадах... стаў некаранаваным Нацыянальным літаратурным інстытутам". Так, на старонках калектыўных зборнікаў дэбютавалі: Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В.Зуёнак, А. Разанаў, С. Законнікаў, Ю. Голуб, А. Пісьмянкоў... Дзесяць год таму, пад ачолам ужо А. Пашкевіча, філфакаўскія зборнікі акрылялі ў творчасць тых, хто вызначае цяперашні літаратурны працэс: В. Бурлак, А. Бязлепкіну, В. Жыбуля, Н. Кудасаву, Я. Лайкова, М. Мартысевіч, В.Трэнас...

То – самы час прыгледзецца да новых імёнаў маладых філфакаўцаў, што, з лёгкай рукі паэткі і, па сумяшчальніцтве, дацэнта БДУ Ірыны Багдановіч, пачынаюць свой творчы шлях: Ірына Агеева, Максім Баравік, Настасся Буйко, Ганна Кавалёва, Алег Лойка, Марыя Паўлоўская, Алесь Пруднікаў, Валерыя Пучыла, Сяргей Самахвал, Вольга Сауленка, Ганна Серэхан, Сяргей Хораў, Аксана Ючкавіч, Яўгенія Якубовіч.




**Уладзіслаў Ахроменка. Тэорыя змовы: кінараман-фарс. Мінск: Логвінаў, 2011.**

У гэтым сольным праекце У. Ахроменкі ўсё тое, што ў папярэдніх кінараманах-фарсах яскравага тандэму "буржуазных літаратараў" – "вострасюжэтныя інтрыгі, шматхадовыя авантуры і феерычныя пагоні" (узята з вокладкі) – ураўнаважвалася, мажліва, лірычнымі інтанацыямі спадара Клімковіча, тутака загучала напоўніцу. Пры гэтым, і паэтычнасці кнізе не бракуе. Нездарма ж галоўным персанажам – на змену незабыўнаму Лабановічу з "Янак..." – стаецца "лірычны герой, адраджэнскі паэт і малады спецыяліст" Скіргайла.

Прачытаўшы на "свабодаўскім" сайце водгукі А. Аркуша і В. Акудовіча на кнігу, дзе каардынатар "Вялесу" прылічае яе да "масавай літаратуры, якую б было цікава чытаць і ў электрычцы, і ў цягніку", а знаны філосаф і культуролаг цвердзіць, што "раман варта чытаць... дзеля мовы і стылю Уладзіслава Ахроменкі", той-сёй задумаецца – хто ж мае рацыю? Вырашаць, як заўсёды Вам, шаноўныя чытачы.

**Павал Касцюкевіч. Зборная РБ па негалоўных відах спорту: апавяданні. – Мінск: Логвінаў, 2011.**




Чытаючы апавяданні П. Касцюкевіча, часам дзіву даешся, якім чынам, з якой нагоды і па якім неверагодным збегу акалічнасцяў, словы ў сказах апынаюцца побач. Разумееш – гэта новая афарыстычнасць. Прызнаеш – так, гэта Літаратура. Чакаеш – калі ж пачуецца шоргат шыферу...

**Мікалай Мельнікаў. Радавод: хроніка жыцця беларускай сялянскай сям'і. – Мінск: Кнігазбор, 2011.**




Праз гісторыю пакутаў адной сялянскай сям'і, раскулачанай у 30-я гады, у гэтым дакументальным даследаванні ствараецца вобраз усяго беларускага сялянства. Дакладней – самай лепшай яго часткі, аўтэнтычна звязанай пакаленнямі з "зямлёй дзядоў", з родным хутарам... "Дакраніцеся да гэтых дакументаў, і вашы сэрцы скалануцца і абліюцца крывёю" – піша аўтар у першым раздзеле, дзе падрабязна апісвае гаспадарку, жыццёвы ўклад, акрэслівае рысы менталітэту сям'і свайго дзеда – светлых працавітых людзей, несправядліва пацярпелых ад бальшавісцкай улады. Кніга, якая будзе цікавай і гісторыкам, і літаратарам, адрасуецца перадусім маладому пакаленню – "як наказ нашчадкам, каб больш такое ніколі ў нас не паўтарылася".

**Франц Сіўко. Выспы. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2011.**




Новую кнігу вядомага віцебскага празаіка склалі творы ўсіх жанраў, у якіх ён плённа працуе – аповесці, апавяданняў, эсэ, запісаў. Акрамя таго, адзін тэкст мае нечаканы, як для прыхільніка кароткай прозы, загаловак: "Просты-просты раман". Але гэта фармалёвы погляд. Калі ж казаць па сутнасці, то не адкрыем Амерыцы, заўважыўшы, што ў Ф. Сіўко дужа адметны, арыгінальны стыль. Можна шукаць нейкія эпітэты ды дэфініцыі, але, падаецца, найлепшай яго характарыстыкай будзе слова інтэлігентнасць. На тле існай літаратурнай сітуацыі, да жалю, – "знікаючы від"...

**Сяржук Сыс. Стрэмка. – Мінск: Кнігазбор, 2011, (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 18).**




Цяжка паверыць, але гэта першая кніга паэта, імя якога вядома аматарам паэзіі даўно, прынамсі, яшчэ з пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ягоным чатырохрадкоўем адкрываўся знакаміты зборнік "Тутэйшых". Сяржук Сыс адбіраў вершы ў сваю першую кнігу аж занадта доўга: магчыма, быць такім патрабавальным да сябе прымушала яго імя цёзкі па прозвішчы і земляка Анатоля Сыса. У рэшце рэшт, у зборнік увайшлі вершы, якія маюць "запамінальныя вобразы, элементы самабытнай міфалогіі, філасофскія і настальгічныя матывы, іронію і гумар, уласцівыя творам паэта...".

# Нашыя аўтары

**Адамовіч Славамір** — паэт, эсэіст, публіцыст. Аўтар кніг «Кальварыйскія клёны», «Зямля Ханаан», «Турэмны дзёньнік», «Плавільшчыкі расы» і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Архангельскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі. Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976 г.). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красаваць, налівацца!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Жыве ў Мінску.

**Бо Юля** – паэт. Студэнтка ФФСН БДУ. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Луганску (Украіна). Жыве ў Мінску.

**Быкаў Васіль** — народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар’ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Валасюк Лявон** – празаік, паэт, мастак. Аўтар паэтычных зборнікаў «Леаніды», «Чырвоная вежа», «Познія сны», «Знакі на валуне», кніжкі прозы «Сцежкі да сядзібы». Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

**Вераціла Сяргей** – празаік, паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў мястэчку Краснае Сяло Ваўкавыскага раёна ў 1961 годзе. Жыве на радзіме.

**Гапеева Вольга** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба» і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** — публіцыст, паэт. Лаўрэат прэміі Беларускага саюзу журналістаў «Залатое пяро» (1999 г.), Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001г.) Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Голуб Юрка** – паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А.Куляшова. Аўтар кніг паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Сын небасхілу», «Поруч з дажджом», «Зажураны камень», «Брама зімы», «Багра» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Дзічэнка Андрэй** – празаік. У 2011 годзе скончыў Гістарычны факультэт БДПУ імя Максіма Танка. Аўтар кіберпанкаўскай кнігі “Мінскае неба”. Нарадзіўся ў горадзе Калінінградзе ў 1988 годзе. Жыве ў Вілейцы.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жбанкоў Максім** – культуролаг, кінааналітык, журналіст. Кандыдат філасофскіх навук. Выкладчык «Беларускага Калегіума». Аўтар шматлікіх публікацый па пытаннях сучаснай культуры ў часопісах «Мастацтва», «Фрагменты», «pARTisan», на сайце «Наше мнение». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі

імя Янкі Купалы (1982 г.). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Камоцкі Алесь** — паэт, бард. Аўтар кніг паэзіі «Спроба ісці па расе», «Наспадзяванае» і інш., магнітаальбомаў «Першы сшытак», «Я табе...», «Дым» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Кудравец Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1986 г.). Аўтар кніг прозы «Зімы і вёсны», «На зялёнай дарозе», «Раданіца», «Сачыненне на вольную тэму», «Смерць нацыяналіста», «За дальнім прычалам» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца на Клічаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лапатка Якуб** – перакладчык. Скончыў іспанскі факультэт Мінскага інстытута замежных моваў. Займаецца перакладам фінскай літаратуры на беларускую мову. Аўтар поўнага перакладу фінскага нацыянальнага эпасу «Калевала». Нар. у 1944 у вёсцы Аўсюкова (Расонскі раён). Жыве ў Хельсінкі (Фінляндыя).

**Марціновіч Дзяніс** – гісторык, літаратурны і тэатральны крытык, журналіст. Закончыў гістарычны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Аспірант гістарычнага факультэта БДУ. Аглядальнік газеты «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Масквін Андрэй** – тэатразнаўца, культуролаг, перакладчык. Дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, выкладае беларускую мову, літаратуру, мастацтва і культуру. Аўтар манаграфіі «Станіслаў Пшыбышэўскі ў расійскай культуры канца XIX пачатку XX стагоддзя» (Варшава, 2007). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Нясвіжы. Жыве ў Варшаве.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** – празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Раманава Ларыса** – паэтка. Аўтар кніг «Аддай асалоду Богу», «Птушкі і рыбы». Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Покаць на Чачэршчыне. Жыве ў Ветцы на Гомельшчыне.

**Содаль Уладзімір** – літаратуразнаўца, краязнаўца. Аўтар кніг «Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Жыццё і творчасць», «Пуцявінамі сейбіта», «Кушлянскі кут», «Сцежкі Мацея Бурачка», «Жупранская старонка», «Тут бачу свой край», «Свіранскія крэскі», «Фальварак Карпілаўка» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў мястэчку Мормаль на Жлобіншчыне. Жыве ў Мінску.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, літаратуразнаўца. Рэдактар аддзела літаратурнай крытыкі штотыднёвіка «ЛіМ». Аўтар некалькіх дзясяткаў крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў. Укладальнік бібліяграфічнага даведніка «Пераклады твораў замежнай літаратуры ў часопісе «Крыніца» (1988-2003)». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** – журналіст, публіцыст. Укладальнік кніг: «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960-2003)», «Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954-1971)» (разам з Н. Давыдзенка), кнігі паэзіі Р. Барадуліна «Перакуленае/Опрокинутое». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за двухтомнае даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску

**Якавенка Наталля** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтар шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Марыі Сёдэрберг, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.